ББК 84
УДК 823
Т 65

*Асобая падзяка Незалежнаму інстытуту сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў за дапамогу архіўнымі дадзенымі.*

*Аўтар выказвае таксама шчырую падзяку Міжнароднаму кансорцыуму «ЕўраБеларусь» за аказаную інфармацыйную дапамогу пры падрыхтоўцы гэтай кнігі.*

Выкарыстаны фотаздымкі ByMedia.Net.

**Тамковіч, А. Л.**
Т 65 Найноўшая гісторыя ў асобах /А.Л. Тамковіч. — 2013. — 692 с., іл.

У кнізе сабраны палітычныя нарысы пра вядомых у краіне і за яе межамі людзей, якія на працягу апошніх 15-20 гадоў мелі самае непасрэднае дачыненне да найноўшай беларускай гісторыі. Аўтар не толькі нагадвае некаторыя біяграфічныя звесткі, але і аналізуе ролю кожнага з іх у развіцці Беларусі.

І яшчэ адзін вельмі важны момант. Артыкулы, аб'яднаныя гэтай кнігай, пісаліся ў розны час, таму сёння можна ўнесці пэўныя карэктывы па датах, фактах і адзнаках, але аўтар НАЎМЫСНА не стаў рабіць гэтага. Людзям тое, што мы думалі ўчора, не менш цікава, чым тое, што мы думаем сёння.

Для шырокага круга чытачоў.

**ББК 84**
**УДК 823**



# АЎТАРСКІ ПРАЛОГ

Напэўна, гэта ведаюць многія з тых, хто размаўляў з аўтарам «на дыктафон», аднак паўтараю тую думку яшчэ раз. У мяне на кніжных паліцах стаяць дзве энцыклапедыі. Адна выдадзена да 1995 года, калі шмат хто яшчэ не паспеў заняць сваё месца ў найноўшай беларускай гісторыі. Другая зроблена зараз. Першая вельмі сціплая, другая надрукаваная на шыкоўнай мелаванай паперы, багата аздобленая фотаздымкамі. Аднак большасці са ста герояў гэтай кнігі там няма, альбо інфармацыя пра іх, скажам так, моцна адцэнзараваная.

Упэўнены, так быць не павінна. Таму гэтая кніга — спроба зафіксаваць рэчаіснасць сённяшняга дня і аповеды пра лёсы тых, хто стварыў мінулае і стварае будучыню Беларусі. Хочацца памыліцца, але пройдуць дзесяцігоддзі-стагоддзі і нашчадкі не будуць ведаць, што адбывалася за нашым часам на самой справе.

Такое ўжо было ў гісторыі савецкай, таму вельмі не хацелася б паўтарэння гэтага ў гісторыі беларускай...

На жаль, многія з тых, хто мае права быць на старонках кнігі, ужо сышлі ў лепшы свет. І я шчыра шкадую, што крыху не паспеў запісаць успаміны Барыса Звоскава, Віктара Івашкевіча альбо Галіны Семдзянавай. Як кажуць, зямля ім пухам і вечная Памяць! Імёны гэтых людзей яшчэ раз нагадваюць, што ўсім трэба спяшацца, каб нейкім чынам зафіксаваць наш час.

Ідэю «Найноўшай гісторыі Беларусі» ў 2005 годзе прапанаваў мне рэдактар «Новага часу» Аляксей Кароль, таму яго можна лічыць своеасаблівым сааўтарам гэтай кнігі. Тым больш, што амаль усе артыкулы друкаваліся ў «Новым часе». Акрамя тых, канешне, што былі надрукаваныя ў другой роднай для мяне газеце — «Свободные новости плюс».

І яшчэ. Ёсць сэнс назваць чалавека, які меў непасрэднае дачыненне да ўсіх надрукаваных на дадзены момант дваццаці кніг. Гэта мая жонка Ірына. Яна па праву можа быць гераіняй кожнай з іх.

# ЛІДАР БНФ ЗЯНОН ПАЗЬНЯК



**Падрыхтавана да друку 28.08.07**

*Адразу ж падкрэсліваю: вельмі паважаю зробленае Зянонам Станіслававічам і лічу яго адным з самых уплывовых палітыкаў двух апошніх дзесяцігоддзяў. Яго імя ўжо ўвайшло ў гісторыю Беларусі, як лідара першай постсавецкай хвалі дэмакратызацыі і ўсталявання Беларусі ў якасці незалежнай суверэннай дзяржавы. Ён стаяў у вытокаў і быў прызнаным лідарам дэмакратычнага руху пад назвай Беларускі народны фронт, які ўвасабляў сабой незадавальненне і пратэст літаральна ўсяго грамадства спарахнелай савецкай таталітарнай сістэмай. Галоўны праціўнік кіруючай партнаменклатуры, з якім яна вымушана была лічыцца і якому яна, нягледзячы на ўладныя пазіцыі, прайграла першы этап.*

Аднак, аднак, аднак...

Чакаю, што мой нарыс выкліча бурны пратэст, але лічу Пазьняка ў нейкім сэнсе «галоўным выбаршчыкам Лукашэнкі». На мой погляд, менавіта Пазьняк ускосна вінаваты ў тым, што адбываецца зараз. Сваім радыкалізмам адштурхнуў ад БНФ шмат патэнцыяльных прыхільнікаў. І не толькі тых, каго называюць наменклатурай. Расказвалі, што, калі Пазьняку сказалі пра магчымую перамогу Лукашэнкі на першых прэзідэнцкіх выбарах, ён доўга смяяўся. Гэта была далёка не апошняя памылка.

На жаль, хвароба на аўтарытарызм, на непагрэшнасць, уласную выключнасць у посттаталітарных грамадствах не мінае і дэмакратычную апазіцыю, яе дзеячаў.

З часам з аднаго з самых перспектыўных нацыянальных лідараў Пазьняк ператварыўся ў маргінальную ікону. Гэта зразумелі нават

самыя шчырыя паплечнікі, якія пайшлі на такі непатрэбны раскол. Другой альтэрнатывы ў іх не было. Рэйтынг БНФ у грамадстве хутка падаў. Ад яго «адышлі» многія даволі паважаныя людзі.

І яшчэ. З самага пачатку Пазьняка пачалі лічыць русафобам і антысемітам, на што пэўную падставу давалі яго выказванні ў адпаведнай інтэрпрэтацыі афіцыйнай прапаганды. Палітык мусіць быць вельмі ўзважаным і абачлівым у сваіх публічных выступах, ведаць, калі і што сказаць, не даваць зачэпак для падвойных трактовак. Гэтага Зянону не хапала заўсёды. Як і паліткарэктнасці, асабліва ў дачыненні да калег па дэмакратычным лагеры.

Калі прачытаць артыкулы Зянона Станіслававіча ў храналагічным парадку, то будзе цяжка знайсці імя таго з палітыкаў, нават з учарашніх саратнікаў, каго б ён не абвінаваціў у сур'ёзных, ажно да супрацоўніцтва з КДБ, грахах. У рэшце рэшт вельмі значную частку электарату БНФ страціў.

Зянон Станіслававіч Пазьняк нарадзіўся 24 красавіка 1944 года ў вёсцы Суботнікі Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці. Дарэчы, быў яшчэ адзін Пазьняк, дзед Зянона. Звалі яго Янка, і нарадзіўся ён таксама ў Суботніках. Было гэта ў 1887 годзе. Янка Пазьняк быў вядомы як выдатны публіцыст, грамадска-палітычны і культурны дзеяч.

Першым працоўным месцам Зянона Станіслававіча стала пасада загадчыка Хілевіцкага сельскага клуба. У 1969 годзе Пазьняк стаў аспірантам Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Пасля атрымання статуса кандыдата мастацтвазнаўства ён працаваў малодшым навуковым супрацоўнікам гэтай установы, а ў 1983 годзе стаў адным з супрацоўнікаў Інстытута гісторыі ўсё той жа Акадэміі навук.

9 кастрычніка 1988 года ў газеце «Московские новости» быў надрукаваны артыкул «Куропаты. Народная трагедия, о которой должны знать все». Дзякуючы яму ўвесь свет даведаўся пра тое, што адбылося ў лесе пад Мінскам.

А яшчэ раней, 3 чэрвеня 1988 года, у газеце «Літаратура і мастацтва», якую тады ўзначальваў знакаміты паэт Анатоль Вярцінскі, з'явіўся артыкул Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты — дарога смерці».

З гэтага пачаўся новы этап беларускай гісторыі, бо артыкул стаў тым дэтанатарам, які падарваў бомбу савецкіх міфаў.



Роўна праз 10 гадоў яго перадрукавалі «Навіны». На жаль, актуальнасці артыкул не страціў па сённяшні дзень.

Нагадаем, што 19 кастрычніка 1988 года быў створаны арганізацыйны камітэт руху БНФ за перабудову «Адраджэнне». А ў наступным годзе, дакладна 24-25 чэрвеня 1989, у Вільні адбыўся ўстаноўчы з'езд.

У 1993 годзе з'явілася партыя БНФ, якую, як і рух, узначаліў Зянон Пазьняк.

Безумоўна, узгаданы артыкул паспрыяў стварэнню БНФ, але не ён быў асноўным. «Фронт» узнік таму, што павінен быў узнікнуць. Справа ў тым, што людзі стаміліся ад кіруючай ролі КПСС і стварэнне незалежных грамадскіх структур было аб'ектыўным працэсам.

10 студзеня 1990 года на Усебеларускім Дэмакратычным Форуме, які адбыўся па ініцыятыве БНФ, быў утвораны перадвыбарчы Беларускі дэмакратычны блок. На выбарах ён атрымаў 60 дэпутацкіх месцаў. Стаў дэпутатам і Зянон Станіслававіч, які перамог тагачаснага сакратара Мінскага гаркама Пятра Краўчанку.

У Вярхоўным Савеце стварыўся так званы Дэмакратычны клуб, а з яго вылучылася фракцыя БНФ (37 дэпутатаў). Каардынатарамі сталі Баршчэўскі, Голубеў і Навумчык, але ўсе разумелі, што галоўны там — Пазьняк.

Пасля правалу жнівеньскага путчу 1991 года пад уплывам БНФ наша краіна пачала называцца Рэспублікай Беларусь, а дзяржаўнымі сімваламі сталі «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг. Многія лічаць гэта самай галоўнай палітычнай перамогай Зянона Пазьняка.

На пачатку 1992 года пад эгідай БНФ была створана ініцыятыўная група для правядзення рэферэндуму, які павінен быў вырашыць лёс тагачаснага Вярхоўнага Савета. У падтрымку ініцыятывы сабралі 446 601 подпісаў, аднак 29 кастрычніка 1992 года Вярхоўны Савет прыняў пастанову аб забароне правядзення гэтага рэферэндуму. Многія наменклатурныя дэпутаты добра разумелі што могуць страціць свой дэпутацкі мандат, таму пайшлі насуперак высновам ЦВК.

Летам 1994 года адбыліся першыя ў Беларусі прэзідэнцкія выбары. У першым туры Зянон Пазьняк заняў толькі трэцяе месца. Праз год ён зноў вырашыў вярнуцца ў рэальную публічную палітыку, але ўлады ў склад Вярхоўнага Савета яго больш не пусцілі. Тады Пазьняк перамог, але выбары «не состоялись».

26 красавіка 1996 года адбыўся чарговы «Чарнобыльскі шлях». Памятаю, у тыя дні я напісаў, што не здзіўлюся, калі з цягам часу высветліцца: за эміграцыю Зянона Пазьняка нехта атрымаў нечарговыя «зоркі» на пагонах. Чамусьці Сяргей Навумчык прыняў гэта як намёк на сябе і стаў з таго часу на мяне крыўдзіцца. Карыстаючыся магчымасцю, скажу, што меў на ўвазе зусім не яго.

Выпіхнуць Пазьняка з Беларусі было вельмі выгадна ўладам. Новы рэжым яшчэ не склаўся і не ўмацаваўся настолькі, каб нейтралізаваць такога вядомага і ўплывовага (нягледзячы на розныя да яго адносіны) лідара апазіцыі. Распаволеная энергія людзей, абуджанае пачуццё гонару, адчуванне свабоды яшчэ не былі прыдушаны рознага роду забаронамі і рэпрэсіямі. Арышт Пазьняка выклікаў бы сапраўды масавыя вулічныя пратэсты і вельмі гучны міжнародны рэзананс. Прычым не толькі з Захаду але і з Расіі. Дастаткова нагадаць хвалю салідарнасці з арыштаванымі Юрыем Хадыка і Вячаславам Сіўчыкам. Хадыку вымушаны былі вызваліць пасля званка Барыса Ельцына.

Пасля Чарнобыльскага шляху, на чале якога ішоў Зянон Станіслававіч, пасля яго выступлення перад мітынгуючымі тысячамі людзей, што прыйшлі да тэлецэнтра па вул. Камуністычнай, застанься Пазьняк у Беларусі — пераўтварыўся б у агульнанацыянальнага лідара.

Але ў гэтым, безумоўна, была вялікая рызыка. І таму ніхто не мае права на папрок Зянону Станіслававічу за яго сыход у эміграцыю. Аналізаваць і ацэньваць можна толькі яго словы і дзеянні, як палітыка. Да ад'езду і з эмігранцкага далёка.

З Польшчы Пазьняк паехаў у Злучаныя Штаты Амерыкі, дзе і атрымаў палітычны прытулак.

Гэтымі падзеямі завяршаецца яго прысутнасць у «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі».

Пазней удзел Пазьняка ў беларускай палітыцы абмежаваны толькі лістамі і праславутымі факсамі.

У 1999 годзе ў БНФ адбыўся сумна вядомы раскол. Узніклі дзве структуры КХП-БНФ і партыя БНФ. Лідарам першай па сённяшні дзень і з'яўляецца З.С. Пазьняк.

Па вялікім рахунку, асабіста я не лічу эміграцыю Пазьняка чарговай памылкай. Больш таго, на мой погляд, яна на той час была вельмі аргументаванай. Памылка ў тым, што эміграцыя працягваецца ўжо шмат гадоў. Неаднаразова ў друку былі паведамленні, што Пазьняк вернецца ў бліжэйшы час. На жаль, гэты час пакуль не настаў.



Як вядома, Пазьняк перастаў быць лідарам усяго БНФ пасля так званых альтэрнатыўных прэзідэнцкіх выбараў, аднак гэта справа толькі самога БНФ. Мяне хвалюе іншае. Праз два месяцы пасля вядомага ліста «Праект «Чыгір» апошняга арыштавалі. Былы кіраўнік беларускага ўрада правёў за кратамі восем месяцаў, а Пазьняк нават не прынёс прабачэнні.

Я наўмысна не жадаю выказваць асабістыя адносіны да двух партый, якія ўзніклі з аднаго БНФ. Гэта зусім іншая размова. Адназначна толькі тое, што ад «кланіравання» выйгралі ўлады. На мой погляд, каб захаваць адзінства, Пазьняк павінен быў адысці ўбок.

# САКРАТАР ЦВК ВІКТАР ГАНЧАР



**Падрыхтавана да друку 26.09.07**

*Той факт, што Віктар Ганчар быў прызначаны віцэ-прэм'ерам і такім чынам трапіў у блізкае першае кола толькі што абранага першага прэзідэнта краіны, зусім не сведчыць аб іх добрых адносінах. Яны з самага пачатку не ўзлюбілі адзін аднаго. Занадта добра кожны адчуваў відавочны кантраст. Было абсалютна зразумела, што гэтыя людзі не змогуць доўга існаваць побач. У далейшым так і адбылося. Але ў іх біяграфіях ёсць не толькі палярнасць. Напрыклад, абодва былі некалі вясковымі хлопчыкамі.*

Віктар Іосіфавіч Ганчар нарадзіўся 7 верасня 1957 года ў пасёлку Радзічава Мінскай вобласці. На момант напісання нарыса яму б споўнілася 50. А ў памяці, нашай і нашчадкаў, ён заўсёды застанецца маладым, прыгожым, элегантным.

З яго кароткай, але такой насычанай падзеямі і дасягненнямі біяграфіі ёсць сэнс выдзеліць два эпізоды.

Першы. Выпускнік сельскай школы Віктар Ганчар паступіў на юрыдычны факультэт БДУ. Факультэт на той час не проста прэстыжны, а суперпрэстыжны, па сутнасці карпаратыўны, закрыты, з неверагоднымі конкурсамі, куды, акрамя добрых ведаў, траплялі па вялікай пратэкцыі. Ганчар паступіў сам. На экзамене ён адказваў так, што старшыня камісіі не змог стрымаць захаплення. Не проста адказваў — дыскутаваў, прычым доказна, прыцягваючы аргументы з розных крыніц, аж да дакладнага цытавання па памяці класікаў, са спасылкай на адпаведны том і старонку.

Другі. Ганчар уключыўся ў перадвыбарчую барацьбу ў Вярхоўны Савет 12-га склікання. Не проста насуперак афіцыйнай волі, але і ў



непасрэднай канкурэнцыі з непасрэдным начальнікам — рэктарам інстытута, дзе працаваў дацэнтам. І перамог.

Гэтыя два эпізоды вызначаюць дзве, бадай што галоўныя, рысы яго натуры: талент ад Бога і самастойны, нават амбіцыйны характар, які, аднак, грунтаваўся на працаздольнасці і празе ведаў. Прарыў быў яго стыхіяй. Ён не любіў быць другім. Па лесвіцы — праз два прыступкі, на абгон — па восевай, ад Мінска да Маладзечна — за 45 хвілін. Апрануты — падкрэслена элегантна. Вясковы хлопец, што той «дэндзі лонданскі».

Спыняцца паслядоўна на пасадах Віктара Ганчара не буду. Толькі пералічу дзеля агульнага фону. Пасля ўніверсітэта працаваў старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута філасофіі і права АН БССР, дацэнтам Беларускага інстытута народнай гаспадаркі, загадчыкам аддзела эканоміка-прававой работы Дзяржэканамплана БССР, першым намеснікам старшыні (Генадзя Карпенкі) Маладзечанскага гарвыканкама, намеснікам прэм'ер-міністра РБ, генеральным сакратаром Эканамічнага суда СНД, старшынёй Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэферэндумаў.

Апошні запіс у працоўнай кніжцы быў сапраўды апошнім афіцыйным. І гэта невыпадкова. Віктар Ганчар быў для ўлады вельмі небяспечным. Менавіта таму спачатку яго выштурхнулі ў андэграўнд, а потым і «зніклі».

З апошняга радка афіцыйнай біяграфіі і хацелася пачаць, таму адразу прашу прабачэння за парушэнне храналогіі.

Вярхоўны Савет 13-га склікання прызначыў Ганчара кіраўніком Цэнтрвыбаркама 5 верасня 1996 года. Па меркаванні бадай што ўсіх, ад паплечнікаў да палітолагаў і журналістаў, а цяпер ужо і даследчыкаў, гэта быў сапраўдны зорны час Віктара Ганчара, што цалкам адпавядае ісціне. Калі Ганчара зрабілі віцэ-прэм'ерам па сацыяльных пытаннях альбо калі ён працаваў кіраўніком Эканамічнага суда СНД, наўрад ці хто сумняваўся, што гэта не адпавядае амбіцыям Віктара Іосіфавіча. Ганчар марыў пра іншае. Пра сапраўдную ўладу. Як аднойчы, неўзабаве пасля абрання А. Лукашэнкі прэзідэнтам, у коле бліжэйшых паплечнікаў вызначыў сам: «Ну што ж, у мяне цяпер свая пяцігодка».

Калі чую папрокі на гэты конт, заўжды катэгарычна адмаўляюся іх успрымаць. На мой погляд, гэта нармальная прафесійная якасць для палітыка. Значна горш, калі яна адсутнічае альбо за марамі не

праглядваюцца рэальныя магчымасці і воля да перамогі. Ці не дзякуючы менавіта гэтай апантанасці ўладай А. Лукашэнка так доўга і трымаецца на самай вяршыні? Прэзідэнтам марыць стаць амаль кожны з яго апанентаў, але не ў кожнага з іх ёсць такія магчымасці. Як кажуць, не дастаткова толькі хацець, трэба яшчэ і магчы. Ганчар хацеў і мог.

Рэч толькі аб сродках. Для Віктара Ганчара мэта і маральнасць сродкаў, мэта і дэмакратычныя каштоўнасці ўспрымаліся толькі ў адзінстве. Для яго перамога, дасягненне ўлады сумніўнымі сродкамі была несапраўднай, успрымалася як абраза гонару. Яму патрэбны быў не страх людзей перад ім, а прызнанне яго вартасцяў (розуму, ведаў, здольнасцяў, абаяльнасці) калегамі, любоў, калі хочаце, мас. Імправізацыя і разлік. Адпаведнасць пэўным фундаментальным прынцыпам і дастаткова вялікі допуск для свабоды дзеянняў з улікам рэалій, змены абставінаў. Паплечнікі памятаюць яго фразу, якая яшчэ пры ім зрабілася афарызмам: «З пэўнай доляй палітычнага цынізму мушу сказаць...» Разам з тым Ганчар выключна цаніў дакладнасць, паслядоўнасць і своечасовасць выканання арганізацыйнай схемы. Не раз падкрэсліваў: калі ён і мае нейкі талент, дык арганізатарскі. Такія не могуць быць дыктатарамі, такія могуць быць толькі лідарамі ў дэмакратычна арганізаваных грамадствах.

Стаўшы кіраўніком Цэнтрвыбаркама, Віктар Ганчар адразу ж наведаў шмат выбарчых участкаў па ўсёй краіне. І быў, літаральна, шакаваны памерамі выспяваючай, метадычна рыхтуемай хлусні. Але яшчэ болей быў шакаваны тым, што вельмі канкрэтныя і сур'ёзныя папярэджанні ніхто не ўспрымаў. Уражанне такое, расказваў ён мне пасля адной з такіх паездак, што кіраўнікі на месцах не проста нічога не чуюць, але і чуць не хочуць.

Аднак вядома, калі Ганчар нечага шчыра хацеў, ставіў сваёй мэтай, спыніць яго было вельмі цяжка. Па яго настойлівых патрабаваннях Канстытуцыйны суд прыняў рашэнне, што рэферэндум не будзе насіць абавязковы характар. Гэты пункт быў унесены ў бюлетэні для галасавання. Ганчар выступіў у Дзяржаўнай Думе Расіі, дзе распавёў пра шматлікія парушэнні і падрыхтоўку татальных фальсіфікацый. Думаю, гэта, мякка кажучы, не спадабалася кіраўніцтву краіны, якое, перш за ўсё, разлічвала на падтрымку або нейтральнасць Расіі.



Потым быў удзел у гучна вядомай перадачы НТБ «Герой дня», дзе Віктар Іосіфавіч заявіў, што такія вынікі рэферэндуму ён, як старшыня ЦВК, не падпіша. Амаль усе лічаць гэту заяву яго самай вялікай памылкай. Маўляў, трэба было крыху пачакаць, сцішыцца, уцалець на пасадзе і ўжо пасля выбараў зрабіць заяву. З гэтым цяжка не пагадзіцца, але на такі крок кандыдат юрыдычных навук меў рацыю. Як піша ў сваёй кнізе «Лукашэнка. Палітычная біяграфія» вядомы палітолаг і публіцыст А. Фядута, «...Ганчар быў юрыстам, ён бачыў, як паступова і цынічна Лукашэнка папірае законнасць, і не мог з гэтым мірыцца».

14 лістапада 1996 года А. Лукашэнка сваім загадам (хаця і незаконна) адхіліў Віктара Ганчара ад пасады. Служба аховы прэзідэнта груба вынесла яго на руках з кабінета старшыні ЦВК. Не дапамаглі ні спікер парламента Сямён Шарэцкі, ні галоўны пракурор Васіль Капітан.

Мне «пашанцавала» праз паўгадзіны быць у будынку, дзе тады знаходзіўся Цэнтрвыбаркам. Ганчар нервова хадзіў па холе і камусьці ўвесь час тэлефанаваў. Але ў памяці засталося не толькі гэта. Запомніліся коратка стрыжаныя патыліцы некалькіх дзясяткаў падначаленых палкоўніка Цесаўца, апранутыя, як камісары часоў Кастрычніцкага дзяржаўнага перавароту, у чорныя скураныя курткі, і пах не самых чыстых шкарпэтак.

Гэта, як кажуць, «звальненне» Віктара Іосіфавіча адбылося дэфакта, а вось аформлена дэ-юрэ — праз месяцы. Толькі ў студзені 1997 ў працоўнай кніжцы В.І. Ганчара з'явіўся запіс, што 10.01.97 ён вызвалены з пасады. Такім чынам атрымалася, што ўвесь гэты час Цэнтрвыбаркамам быццам бы кіраваў Ганчар, а не Лідзія Ярмошына.

Натуральна, што Віктар Іосіфавіч апынуўся сярод тых, хто не прызнаў вынікі лістападаўскага 1996 года рэферэндуму. Больш за тое, ён узначаліў спецыяльную парламенцкую камісію, якая расследавала антыканстытуцыйныя дзеянні А. Лукашэнкі. Быў нават падрыхтаваны адпаведны дакумент. Але гэта не стала каталізатарам народнага супраціўлення ды і сярод апазіцыі было сустрэчана без асобага імпэту. Апазіцыі не хапала еднасці, але аж занадта было ўзаемнага недаверу, непрыняцця адзін аднаго. Дамаўляцца і рабіць стаўку на аднаго, нават нелюбімага, але перспектыўнага, з кім можна перамагчы, яшчэ не навучыліся.

Эпізод гвалтоўнага адхілення Віктара Ганчара, па сутнасці разгрому ЦВК, быў ці не цэнтральным у наступе аўтарытарызму на дэмакратыю. Апазіцыя гэтага на той час не зразумела, ці пабаялася зразумець. Працэс яе пераўтварэння з сістэмнай у несістэмную, у тое, што яна ёсць зараз, у механізм для барацьбы, а не для перамогі, распачаўся менавіта тады.

Нават прыняцце 14 кастрычніка 1997 года Вярхоўным Саветам адпаведнай заявы не паўплывала на сітуацыю ў краіне. Усё скончылася лёгкай панікай ва ўладных структурах.

Калі супраць членаў камісіі ўзбудзілі крымінальныя справы, Ганчар зразумеў, што іншым апазіцыйным палітыкам гэта донкіхоцтва не патрэбна. Гэта быў момант сапраўднага расчаравання, і Віктар Іосіфавіч на пэўны час знік з палітычнай абоймы краіны. З'ехаў у Латвію, працаваў у нейкім Трацейскім судзе (па другіх звестках гэта была кансалтынгавая фірма). Мае спробы высветліць больш дакладна, былі безвыніковымі.

Вярнуўся ў палітыку краіны Ганчар амаль праз паўгода. Калі быць больш дакладным, то вярнуўся не па ўласнай ініцыятыве, а па просьбе рэшткаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання, каб у рангу старшыні легітымнага (абранага ВС) Цэнтрвыбаркама правесці згодна з Канстытуцыяй 1994 года чарговыя прэзідэнцкія выбары. Якія і адбыліся 16 траўня 1999 года.

У мяне няма жадання зараз спрачацца альбо падтрымліваць тых, хто лічыць тыя выбары па версіі апазіцыі авантурай. На мой погляд, галоўнае іншае: Лукашэнка адчуў для сябе рэальную пагрозу. Хутка за кратамі апынуўся Міхаіл Чыгір, ды і сам Ганчар адчуў на сабе ўсе «прелести» беларускай Феміды.

Потым было 16 верасня 1999 года. Апошні раз Ганчара, на той момант выконваючага абавязкі старшыні Вярхоўнага Савета 13-га склікання, бачылі ў раёне вуліцы Фабрычнай у 22.45. Ён выйшаў са сваім сябрам бізнесменам Анатолем Красуцкім з лазні і «знік». Разам з Красуцкім і вішнёвым джыпам «Чэрокі».

Не буду шмат разважаць пра тое, што тады адбылося. Пра гэта ўжо напісана багата. Раскажу пра іншае. Аднойчы Ганчар быў у рэдакцыі «Свободных новостей», а потым расказваў, як, выходзячы, выпадкова сустрэў свайго добрага сябра, які раней працаваў у КДБ і меў у нашым будынку свой офіс. Той вітаў яго фразай: «А я думаю, па кім працуе «наружка!»



Разумею, што многія не пагодзяцца з тым, што журналіст на гэты раз абышоўся без ацэнак і акцэнтаў, але я зрабіў гэта невыпадкова. Справа ў тым, што ў баню на Фабрычнай Ганчар неаднойчы клікаў і мяне.

Праз шмат гадоў пасля тых трагічных падзей Хрыстосас Пургурыдзіс прыйдзе да высновы, што да гэтага злачынства маюць дачыненне ўладныя асобы. Апошнія, зразумела, з такімі высновамі не пагаджаюцца.

«Справа» Віктара Ганчара чакае грунтоўнага і аб'ектыўнага расследавання. Справа жыцця Віктара Ганчара — усталяванне ў Беларусі дэмакратычнага ладу — раней ці пазней будзе з поспехам рэалізаваная.

# СТАРШЫНЯ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА ВАЛЕРЫЙ ЦІХІНЯ



**Падрыхтавана да друку 03.10.07**

*Адразу ж падкрэслю, што наўмысна не буду выказваць сваё асабістае стаўленне да гэтага чалавека. Таму вельмі прашу не ўспрымаць мой нарыс як нейкі палітычны прысуд. Па вялікім рахунку, такое права мае толькі гісторыя. Упэўнены, Валерый Гур'евіч Ціхіня гэта добра ведае, таму і імкнецца апраўдаць свае крокі чыста юрыдычнымі нюансамі.*

Але спачатку традыцыйна некалькі біяграфічных момантаў.

Валерый Гур'евіч Ціхіня нарадзіўся 1 кастрычніка 1940 года ў гарадскім пасёлку Капаткевічы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння ў 1963 годзе юрыдычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта працаваў навуковым супрацоўнікам Навукова-даследчага інстытута судовых экспертыз.

У 1966 годзе яго пазвалі працаваць у пракуратуру, дзе Ціхіня быў спачатку памочнікам пракурора раёна, а потым памочнікам пракурора Мінска, пракурорам Ленінскага раёна беларускай сталіцы.

З 1974 года Ціхіня працуе ў БДУ, дзе з'яўляецца старшым выкладчыкам, дацэнтам, прафесарам, дэканам юрыдычнага факультэта, прарэктарам па вучэбнай рабоце.

У 1989 годзе прызначаны міністрам юстыцыі Рэспублікі Беларусь. У наступным годзе абіраецца дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР і пакідае пасаду галоўнага юрыста рэспублікі.

У гэты ж перыяд яго абралі адным з сакратароў ЦК КПБ. Партыйную кар'еру Ціхіня пачаў рабіць тады, калі КПСС перажывала далёка не лепшыя часы. З новымі жыццёвымі арыенцірамі Валерыю Гур'евічу яўна не пашанцавала.



ПКБ, як вядома, жнівеньскі путч падтрымала, але ж сам путч праваліўся. І адказнасць панеслі ў першую чаргу тыя, хто тады быў на партыйнай перадавой. Калі лідара ПКБ Малафеева сцягнулі з трыбуны, то Ціхіню людзі проста не пусцілі ў будынак Вярхоўнага Савета. У Валерыя Гур'евіча здарыўся сардэчны прыступ, і дружына БНФ мусіла ратаваць яму жыццё.

Пасля гэтага выпадку Ціхіня доўга быў у шпіталі. Можа, сапраўды хварэў. Можа, вытрымліваў звычайную паўзу.

З 1991 года ён працаваў загадчыкам кафедры права Акадэміі кіравання пры Савеце Міністраў. А ў 1993 годзе стаў намеснікам Старшыні Вышэйшай атэстацыйнай камісіі.

15 сакавіка 1994 года Мечаслаў Грыб падпісаў першую Канстытуцыю, а праз кароткі тэрмін Валерый Гур'евіч Ціхіня быў абраны першым старшынёй Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь, дзе і адбыліся яго ўзлёт і яго падзенне.

Магчыма, гэта суб'ектыўна, але, на мой погляд, пасада старшыні КС аказалася менавіта той, да якой усё жыццё і імкнуўся Ціхіня. Супрацьстаянне паміж маладым прэзідэнтам Лукашэнка і Вярхоўным Саветам пачалося адразу ж, таму Валерый Гур'евіч станавіўся адным з галоўных людзей у краіне. Больш за тое, гэта разумеў не толькі ён, але і іншыя.

Напрыклад, калі прэзідэнт толькі пачынаў адбудоўваць сваю знакамітую «вертыкаль» і ў Закон аб мясцовым самакіраванні ўнёс пэўныя карэктывы, гэта вызвала адпаведную рэакцыю часткі дэпутатаў і яны звярнуліся ў Канстытуцыйны суд.

Першы востры юрыдычны канфлікт. А. Лукашэнка нават прыпыніў свой адпачынак у Сочы, вярнуўся ў беларускую сталіцу і асабіста прыйшоў у КС. Гутарка адбылася амаль сяброўская, калі меркаваць па тым факце, што напрыканцы ўдзельнікі нават разам сфатаграфаваліся. Ці не вынікам гэтай сустрэчы і сталася «ніякае» рашэнне КС? Такім чынам, першая перамога была атрымана яшчэ да пачатку вайны.

Але гэта не гарантавала законапаслухмянасць у далейшым. За два гады існавання таго складу Канстытуцыйнага суда А. Лукашэнка парушыў Канстытуцыю краіны 17 разоў. Разумелі сапраўдны кошт ціхінінскай пасады і апаненты прэзідэнта. Невыпадкова яны намякалі, што, калі адбудуцца новыя прэзідэнцкія выбары, В.Г. Ціхіня будзе іх кандыдатам.

У той час палітыкі толькі-толькі пачалі ўжываць моднае іншаземнае слова «піяр», але па поўнай праграме рабілі тое, што ён азначае. Ціхіня не быў выключэннем. Ён сам прапаноўваў журналістам зрабіць з ім інтэрв'ю. Існаваў своеасаблівы «канвеер». Успамінаю, як, выходзячы ад Ціхіні, я сустрэў у дзвярах кабінета калегу з «Белорусской деловой газеты».

Галоўная ж схватка адбылася вакол лістападаўскага рэферэндуму 1996 года. Нагадаю, што працэс імпічменту прэзідэнту, ініцыяваны часткай дэпутатаў Вярхоўнага Савета, набіраў абароты. Завяршыць яго перашкодзіў менавіта В.Г. Ціхіня.

Подпісы за пачатак працэдуры адхілення А. Лукашэнкі ад улады ў Канстытуцыйны суд прынёс былы міністр унутраных спраў Юрый Захаранка. Услед за ім амаль імгненна ў кабінеце Ціхіні з'явіўся кіраўнік канцэрна «Белнафтахім» Анатоль Мардашоў. Што ён сказаў Валерыю Гур'евічу, вядома толькі ім, але пасля размовы Ціхіня адразу ж накіраваўся ў прэзідэнцкую адміністрацыю. А калі вярнуўся, то прапанаваў пакуль не прымаць ніякага рашэння. Гэта не прайшло, таму што абурыліся іншыя суддзі: справа была тэрміновай. Ціхіня быў вымушаны даручыць Міхаілу Пастухову, як суддзі-дакладчыку, рыхтаваць пасяджэнне.

Гэты момант можна лічыць кульмінацыйным. Першапачаткова з Ціхінем была дамоўленасць, што імёны тых дэпутатаў, якія ініцыявалі імпічмент, застануцца невядомымі, што будзе названа толькі іх колькасць (як пацвярджэнне канстытуцыйнай абгрунтаванасці ініцыятывы). Таму можна зразумець здзіўленне суддзяў, калі яны ўбачылі ў падрыхтаваных матэрыялах прозвішчы падпісантаў. Больш за тое, нейкім чынам спіс трапіў у прэзідэнцкую адміністрацыю. Многія ўпэўнены, што гэта зрабіў Ціхіня, але мы нічога адназначна сцвярджаць не будзем. Гэта пытанне няхай застанецца для гісторыкаў.

Галоўнае, на мой погляд, не хто парушыў нормы маралі, а што было потым.

А «потым» пачалася «обработка». Размовы, шантаж, ціск. Некаторыя «зламаліся», але большасць засталася прынцыповай.

Тагачасны дэпутат Вярхоўнага Савета Іван Крук расказваў, як кожную ноч да яго хаты пад'язджала машына і да раніцы фарамі асвятляла вокны.

Вядомы і другі выпадак: дэпутату, хвораму на рак, прапанавалі— альбо адклікай свой подпіс, альбо не будзем лячыць.



У рэшце рэшт імпічмент, прызначаны на 22 лістапада, не адбыўся, але наконт колькасці подпісаў, якія засталіся, дазволю сабе не прыняць арыфметычную логіку Ціхіні. Ён кажа, што іх засталося толькі 27. Гэта зафіксавана ў інтэрв'ю «Народнай волі» 3 верасня 2005 года.

У самым пачатку подпісаў было 73. Столькі ў Канстытуцыйны суд прынёс генерал Юрый Захаранка.

Потым, дакладней пасля таго як стала зразумела, што начныя пагадненні ўлада выконваць не збіраецца, да спіса далучылі свае подпісы яшчэ два дэпутаты. Дарэчы, адзін з іх — Сямён Шарэцкі. Пасля таго як пачалі «давіць», лік падпісантаў скараціўся, паводле слоў тагачаснага суддзі КС Міхаіла Пастухова, на 12 чалавек. Нават калі падзяліць іх на тры, што мала верагодна, ціхінеўскі вынік не атрымаецца ўсё роўна. Такім чынам, патрэбных 70 подпісаў не было, аднак лічбы, названыя Ціхінем, таксама нельга лічыць сапраўднымі.

Дарэчы, пасяджэнне КС не адбылося не па прычыне недахопу подпісаў. 21 лістапада ў Мінск прыляцелі расійскія «посредники» Чарнамырдзін, Строеў і Селязнёў. Перамовы адбываліся ноччу на Вайсковым завулку. Прэзідэнцкі бок прадстаўлялі Лукашэнка, Мясніковіч і Васілевіч, Вярхоўны Савет — Шарэцкі, Калякін і Карпенка. Апошнія былі проста шакаваны тым, што ўбачылі ў зале для перамоў Ціхіню. Валерый Гур'евіч настойваў, літаральна прымушаў Шарэцкага падпісаць пагадненне як мага хутчэй.

Раніцай Ціхіня прапанаваў сваім калегам не пачынаць імпічменту, але тыя адмовіліся. Тады ён перанёс пачатак пасяджэння, каб з Вярхоўнага Савета паспелі адклікаць подпісы. Пасяджэнне адбылося толькі ўвечары.

Далей, як вядома, пагадненне не было выканана і пагроза імпічменту ўзнікла зноў. Але Ціхіня не спяшаўся і прызначыў пасяджэнне толькі на аўторак 26-га.

24 лістапада 1996 года адбыўся рэферэндум. На наступны дзень Ярмошына хуценька падвяла вынікі. 26 лістапада Лукашэнка падпісаў Закон аб спыненні імпічменту.

Ціхіня не атрымаў нічога.

Калі яго прызначалі старшынёй Канстытуцыйнага суда, В.Г. Ціхіня абяцаў А.Г. Лукашэнку, што пры ім імпічменту не будзе. Свой абяцанак Валерый Гур'евіч выканаў.

Не буду гадаць, што канкрэтна стаіць за такімі паводзінамі, аднак некаторыя крокі даволі цяжка назваць адэкватнымі. Нават тое, як Ціхіня сыходзіў з пасады кіраўніка Канстытуцыйнага суда, выклікае шмат пытанняў.

4 снежня 1996 года ён правёў прэс-канферэнцыю, дзе сказаў, што падаў заяву аб звальненні на імя старшыні Вярхоўнага Савета, што цалкам адпавядае Канстытуцыі краіны. А на наступны дзень, 5 снежня, напісаў яшчэ адну — на імя прэзідэнта. Той вельмі хутка гэтую просьбу задаволіў і крэсла Ціхіні заняў Рыгор Васілевіч, «асабістая думка» якога заўжды супадала з намерамі ўладаў.

Напрыканцы адзначу, што Валерый Гур'евіч абсалютна меў рацыю сцвярджаць тое, што краіна ператвараецца ў нейкі прававы Чарнобыль. І ў першую чаргу таму, што той, хто павінен быў абараняць Закон, менавіта Закону і здрадзіў.

# СУДДЗЯ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА МІХАІЛ ПАСТУХОЎ



**Падрыхтавана да друку 10.10.07**

*У жыцці чалавека здараюцца моманты, якія патрабуюць учынку. Асабліва на зломе эпох. Ці ёсць учынак, ці яго няма. І ўсё зразумела: ці былі і ёсць асоба, характар, воля, пазіцыя, ці няма. Адзін эпізод — і чалавек як на далоні.*

Старшыня КС Валерый Ціхіня — фігура змовы. І суддзя КС Міхаіл Пастухоў — фігура супраціву, фігура прынцыповай пазіцыі за вяршэнства закона. Менавіта так яны ўспрымаліся падчас імпічменту, які стаўся контрпунктам беларускага раздарожжа найноўшага часу — назад да аўтарытарызму ці наперад, да дэмакратыі.

Пасля правалу імпічменту Міхаіл Пастухоў не проста ціха падаў у адстаўку, каб неяк прыстасавацца да новых умоў, а зрабіў гэта адкрыта і прынцыпова.

Я помню сход-мітынг дэмакратычнай грамадскасці ў Доме літаратара, які стыхійна сабраўся літаральна адразу ж пасля абвяшчэння сумных звестак. І Міхаіла Пастухова на трыбуне, які ў сваім звычайным стылі, па-прафесарску спакойна, нават сухавата, выклаў сваю версію падзей вакол імпічменту, парушэнняў пры гэтым Канстытуцыі і дзеючага заканадаўства. І мімаходзь, як аб нечым само сабой зразумелым, сказаў і аб сваім рашэнні аб адстаўцы ў знак пратэсту. Без позы і эфектных слоў ён рабіў і гаварыў тое, што дыктавалі прафесійны гонар і сумленне. Рызыкуючы ўласным статусам, сваім і сям'і дабрабытам. Якраз тым, звычайным, побытавым, што служыла і служыць для многіх і многіх апраўданнем свайго прыстасаванства. І што заўсёды было і застаецца ці не галоўнай перашкодай да перамен, да прарыву на новыя ўзроўні развіцця нацыі і

краіны. Так асабістае, прыватнае зліваецца ў агульныя тэндэнцыі. Ці на ўзлёт, ці на адкат.

Помню і рэакцыю залы, да пранізлівай цішыні зразумеўшай усю грамадзянскую мужнасць гэтага ЎЧЫНКУ, які надаваў аптымізму, здавалася, у безнадзейна песімістычны момант.

І з гэтага моманту бярэ пачатак непахісны аўтарытэт Міхаіла Іванавіча і непахісная павага да гэтага чалавека. Як да ЧАЛАВЕКА і да прафесійнага юрыста.

Як жартуюць у сяброўскіх колах, адным з галоўных недахопаў Міхаіла Іванавіча Пастухова з'яўляецца тое, што ён амаль не мае недахопаў. Успамінаю фразу вадзіцеля Беларускай асацыяцыі журналістаў Д. Парфяновіча (на жаль, ужо змерлага): «Нават на сяброўскія «п'янкі», прымеркаваныя нейкім падзеям, Пастухоў ходзіць як на чарговае мерапрыемства».

Дазволю сабе цытату з нулявога (на той час яшчэ не было самога Канстытуцыйнага суда) нумару «Весніка Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь» ад 20 студзеня 1994 года: «Пастухоў Міхаіл Іванавіч нарадзіўся 7 красавіка 1958 года ў горадзе Сураж Бранскай вобласці. У 1980 годзе скончыў з адзнакай юрыдычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. У 1983 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю. Працаваў малодшым навуковым супрацоўнікам Інстытута філасофіі і права Акадэміі навук Беларусі. З 1985 года — на Вышэйшых курсах Камітэта дзяржаўнай бяспекі, выкладчык, старшы выкладчык, дацэнт кафедры прававых дысцыплінаў, намеснік начальніка навукова-даследчага аддзела. У 1993 годзе абараніў дысертацыю на атрыманне вучонай ступені доктара юрыдычных навук».

Паступаць на юрфак БДУ Міхаіла Пастухова сагітаваў старэйшы брат, які вучыўся ў РТІ. Маўляў, ніякіх праблем з беларускай мовай не будзе. Сапраўды, напрыканцы сямідзясятых іх не было, як, дарэчы, і зараз. Аднак, нягледзячы на гэта, Міхаіл Іванавіч даволі часта для сваіх выступаў выбірае беларускую мову, хоць для яго гэта і крыху складана.

Нагадаем, у 1983 годзе М.І. Пастухоў працаваў у Інстытуце філасофіі і права, хаця В.Г. Ціхіня быў у БДУ далёка не самым апошнім начальнікам, дакладней дэканам, і прапаноўваў Пастухову пасля абароны кандыдацкай застацца ва ўніверсітэце. У той час разам з Міхаілам Іванавічам працавалі Віктар Ганчар, Матусевіч, Сяргей



Леўшуноў і іншыя. Навуковая праца яго задавальняла, але сышоў, што тлумачыцца вельмі празаічна — мала плацілі. І Пастухоў, які на той час ужо быў жанаты і меў дзіця, быў далёка не адзіны, хто сыходзіў з акадэмічных інстытутаў у ВНУ. Нават здзіўляе, што на гэтай пасадзе ён пратрымаўся цэлых два гады.

Асабліва прыцягальнымі былі Вышэйшая школа міліцыі і Вышэйшыя курсы КДБ, дзе яшчэ плацілі і за «зорачкі» на пагонах. У Вышэйшую школу міліцыі без вялікага блату трапіць было немагчыма, ды і не асабліва вабіла Пастухова гэтая ўстанова. Знаёмая прапанавала Пастухову зрабіць спробу трапіць выкладчыкам на Вышэйшыя курсы КДБ, але і да гэтага Міхаіл Іванавіч аднёсся даволі скептычна. Аднак праз пэўны час яму патэлефанаваў старшыня адной з іх кафедраў, а потым і яго намеснік. Словам, Пастухова прынялі. Зарплата стала ў два разы большай.

Калі 27 ліпеня 1990 года была абвешчана незалежнасць Беларусі, у Міхаіла Іванавіча паўстала дылема: якую краіну выбраць для новай прысягі — Расію альбо Беларусь? Пастухоў спыніўся на апошняй.

У КДБ ён «даслужыўся» да падпалкоўніка.

Пасля абароны ў 1993 годзе доктарскай дысертацыі Міхаілу Іванавічу прапанавалі папрацаваць над адным з варыянтаў першай Канстытуцыі суверэннай Беларусі. Так Пастухоў трапіў у каманду свайго былога калегі Віктара Ганчара.

13 красавіка 1994 года яму прысвоілі ганаровае званне «Заслужаны юрыст Беларусі».

Дэпутат Вярхоўнага Савета Дзмітрый Булахаў адным з першых прапанаваў Пастухова кандыдатам у склад Канстытуцыйнага суда. Характарыстыку для гэтай справы падпісаў Урал Латыпаў, які быў тады намеснікам старшыні Вышэйшых курсаў КДБ. Сам старшыня не рызыкнуў.

З адзінаццаці прапанаваных да разгляду кандыдатур суддзямі сталі дзевяць чалавек. У тым ліку і М.І. Пастухоў. Так Міхаіла Іванавіча жыццё падвяло да першага прынцыповага выбару.

Лістапад 1996 года. Менавіта ў гэты час былі сабраныя неабходныя па закону подпісы дэпутатаў Вярхоўнага Савета за адхіленне А. Лукашэнкі ад улады. Многія тады ўпершыню пачулі слова «імпічмент» і зразумелі, што гэта можа выратаваць краіну. Шанс быў, прычым рэальны. Адчулі гэта ўсе. У тым ліку і сам Лукашэнка.

У адрозненні ад Ціхіні, які тады ўзначальваў КС, стаўленне да гэтай справы М.І. Пастухова было адназначным. Як і ў большасці суддзяў. Упэўнены, калі б не «дзіўныя» паводзіны Валерыя Гур'евіча, сёння б у нас быў іншы кіраўнік дзяржавы.

Міхаіл Іванавіч быў так званым суддзёй-дакладчыкам. Па-другому, рыхтаваў усе рашэнні Канстытуцыйнага суда. Ён літаральна прымусіў Ціхіню прызначыць пасяджэнне, што той пасля вяртання з Адміністрацыі Прэзідэнта вельмі не хацеў рабіць. Больш за тое, калі пасля начных перамоў раніцай 22 лістапада са спазненнем на 20 хвілін на гэта пасяджэнне прыйшоў Ціхіня і прапанаваў нічога не вырашаць, бо ноччу падпісаныя пагадненні, якія «дазволяць пазбегнуць трагедыі», Пастухоў з ім не пагадзіўся. На жаль, Ціхіня незаконна праігнараваў прапановы Пастухова і стаў, па сутнасці, «цягнуць час». Пасяджэнне адбылося толькі ў 17.00, калі па дамоўленасці з Шарэцкім у КС прыйшоў ліст, якім Вярхоўны Савет спыняў працэдуру імпічменту. Але і гэта не пераканала шасцярых суддзяў. Спынення не адбылося. Аднак час быў страчаны.

Пра тое, што адбывалася ў тыя дні, я даволі падрабязна расказваў у папярэднім нарысе, таму паўтарацца не буду. Адзначу толькі, што Пастухоў быў адным з тых, хто найбольш прынцыпова абараняў сваю пазіцыю і канстытуцыйнасць усіх дзеянняў.

2 снежня 1996 года ён напісаў на імя Старшыні Вярхоўнага Савета заяву аб адстаўцы. Як вядома, так зрабілі А. Вашкевіч і В. Ціхіня.

Устрымаюся ад разваг пра высокую маральнасць. Адзначу галоўнае: так склалася палітычная сітуацыя ў Беларусі, што ў нейкім сэнсе ад паводзінаў гэтых двух юрыстаў — Валерыя Ціхіні і Міхаіла Пастухова — залежаў лёс цэлай краіны. І, на мой погляд, Міхаілу Іванавічу Пастухову ніколі не будзе за сябе сорамна. І зробленае ім закладзена ў падмурак непазбежнага новага павароту нашай краіны да прававой дзяржавы.

Гэтай справе ён застаўся верны і пасля адстаўкі з суддзяў КС. Не разгубіўся і не згубіўся.

...Два з паловай гады таму я рабіў для адной кніжкі інтэрв'ю з Пастуховым і спытаў, чым той займаецца ў вольны ад работы час. Ён адказаў, што цікавіцца філасофіяй, гістарычнай літаратурай, любіць афарызмы і лазню. А яшчэ Міхаіл Іванавіч сказаў, што яму вельмі падабаецца слухаць радыё «Свабода». Дваццаць гадоў працую ў журналістыцы, а пра такое хобі чуў першы раз.

# ЛІДАР ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СІЛ ГЕНАДЗЬ КАРПЕНКА



**Падрыхтавана да друку 26.10.07**

*Цалкам згодны з тымі, хто лічыць: быў бы жывы Карпенка, улады мелі б значна больш праблем. Ва ўсякім выпадку спрэчак наконт «адзінства» дэмакратычных сіл, «адзінага кандыдата», адзінага лідара апазіцыі мы б, хутчэй за ўсё, не чулі. На жаль, гісторыя не прызнае ўмоўнага лад.*

На мой погляд, менавіта тое, што Карпенка меў самы рэальны шанс стаць другім прэзідэнтам Беларусі, і было прычынай яго незвычайна-раптоўнай смерці. Калі іншыя біяграфічныя нарысы я звычайна пачынаю з даты народзінаў, то гэты пачну з апошніх гадоў жыцця Генадзя Дзмітрыевіча.

24 красавіка 1994 года Цэнтрвыбаркам зарэгістраваў 19 ініцыятыўных груп, якія пачалі збор подпісаў. Сярод найбольш перспектыўных лічылася і каманда Генадзя Дзмітрыевіча Карпенкі. За ім была Партыя народнай згоды, якую ён на той час узначальваў. За ім былі спартыўныя арганізацыі. Яго падтрымлівала і частка дырэктарскага корпуса. Разам з тым ён быў і першым ў краіне кандыдатам, які прыцягнуў да працы і тых, хто на выбарчых тэхналогіях зарабляе грошы.

І сваім эксперыментам паказаў, што на апошніх у прэзідэнцкай выбарчай кампаніі стаўку рабіць нельга.

Асноўную масу подпісаў (каля 80 тысяч) сабралі, як ні дзіўна, яшчэ даволі слабыя структуры маладой партыі, 20 тысяч — спартсмены, 10 тысяч — астатнія.

Дырэктарскі корпус арганізоўваў збор подпісаў за Кебіча, за Лукашэнку, часткова і за Пазьняка. У розных аб'ёмах за магчымага

пераможцу. Па словах Генадзя Дзмітрыевіча, збіралі і за яго, але (праз прадпрыемствы) свае спісы яму не аддалі.

У выніку ініцыятыўная група Карпенкі здала ў Цэнтрвыбаркам 110 тысяч сабраных подпісаў, але сапраўднымі былі толькі 93 тысячы. Астатнія былі «забракаваныя». Ці не першы гэта вопыт уладаў «работы» над спісамі найбольш небяспечных сапернікаў.

Стаць кандыдатам у прэзідэнты ў Генадзя Дзмітрыевіча быў і іншы шанс: сабраць не менш за 70 подпісаў дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Ён гэта зрабіў, але не ўлічыў адну акалічнасць: настрой народных выбраннікаў такі ж непастаянны, як і веснавое надвор'е. Асабліва ў тых, хто залежыць ад партыйна-наменклатурных інструкцый.

Першымі «далі задні ход» прыхільнікі Шушкевіча, затым тое ж самае зрабілі некаторыя члены пракебічаўскай фракцыі «Згода». Урэшце з 78 дэпутацкіх аўтографаў засталося толькі 64.

Так у 1994 годзе Карпенка мог, але не стаў кандыдатам у прэзідэнты. І такой магчымасці ў яго не з'явіцца больш ніколі. Нават на так званых «віртуальных» прэзідэнцкіх выбарах, якія абвясціў Ганчар.

Нагадаем, што пасяджэнне апазіцыйных рэшткаў Вярхоўнага Савета праходзіла ў студзені 1997 года. Супраць прапаноў Ганчара былі толькі двое — Вольга Абрамава і Генадзь Карпенка. Пра Вольгу Міхайлаўну гаворка асобная, а што датычыцца Карпенкі, то, на мой погляд, ён і не мог зрабіць інакш.

Добра памятаю, як скардзіўся тады Генадзь Дзмітрыевіч на здраду многіх сваіх бліжэйшых сяброў. Справа ў тым, што да гэтага Карпенка лічыўся адзіным лідарам у значнай частцы апазіцыі. І, перш за ўсё, у сваёй Аб'яднанай грамадзянскай партыі (у якую ён перайшоў у 1996 годзе, не пагадзіўшыся з фарматам аб'яднання ПНЗ і БСДГ, і ў якой ён быў намеснікам старшыні. Больш за тое, ён узначальваў ценявы ўрад і меў вельмі добрыя шансы, каб стаць на гэтых выбарах па версіі апазіцыі апанентам нумар адзін. У адрозненне ад таго ж Пазьняка, яго прымала наменклатура. Асабліва тыя, каго называюць «хозяйственниками». Гэта невыпадкова. Карпенка добра ведаў, чым і як яны жывуць. Ён быў для іх «свой».

Закончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Амаль сем гадоў працаваў у навукова-вытворчай сферы, звязанай з распрацоўкамі ў галіне парашковай металургіі, у тым ліку дырэктарам завода адпаведнага профілю ў Маладзечна. З гэтай пасады і стартаваў у палітыку. Быў выбраны дэпутатам Вярхоўнага Савета 12-га склікання.



У 1991 годзе Карпенку выбралі мэрам Маладзечна, дзе ён прапрацаваў больш за тры гады. Ды і іншыя рэгаліі вызывалі павагу — доктар тэхнічных навук, член-карэспандэнт НАН Беларусі, Заслужаны дзеяч навукі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі. Аўтар 50 вынаходніцтваў, яго навуковыя распрацоўкі ўкараніліся ў 15 краінах свету і адзначаны 5 медалямі ВДНГ СССР.

Словам, Карпенка вельмі нядрэнна глядзеўся ў параўнанні з былым кіраўніком не самага лепшага саўгаса. Быў прыцягальным для самых розных слаёў насельніцтва. За ім быў вялікі аўтарытэт і ў апазіцыі. Па сутнасці менавіта Карпенка стаяў ля вытокаў працэсу аб'яднання беларускай дэмакратыі, быў ініцыятарам Кангрэсаў дэмакратычных сіл, абіраўся яго старшынёй. Але выбараў па версіі апазіцыі ў 1999 годзе цураўся.

І тут у апазіцыі з'явіўся былы прэм'ер-міністр М. Чыгір. Вельмі многія з бліжэйшага акружэння Карпенкі сталі працаваць менавіта на яго. Некаторыя лічаць, што галоўнымі тут былі грошы. Як сведка тых падзей, афіцыйна заяўляю, што гэта не зусім так. Ды і не было ў Чыгіра асабліва вялікіх грошай. Проста многія ўбачылі ў ім шанс нешта канкрэтнае зрабіць.

Карпенка быў патэнцыйным лідарам, а Чыгір рабіў даволі рэальныя рэчы. Па сутнасці, яны не былі канкурэнтамі, хаця дакладна ведаю, што некаторыя менавіта на гэтым і рабілі акцэнт.

Вядомы выпадак, калі з Карпенкам сустрэўся тагачасны віцэ-спікер Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Канаплёў, агітаваў яго не ўдзельнічаць у «авантуры» Ганчара, а пазмагацца ў рэальных прэзідэнцкіх выбарах, якія адбудуцца праз два гады. І Карпенка пагадзіўся, бо перамога была б зусім не «віртуальнай». Многія лічаць, што гэта і вырашыла яго лёс.

Абставіны яго смерці да гэтага часу выклікаюць пытанні. 5 красавіка 1999 года ён размаўляў у кафэ з адной журналісткай, якая папрасіла сустрэчу. Нечакана Карпенка выйшаў, а калі вярнуўся, у яго здарыўся інсульт. З кафэ Генадзя Дзмітрыевіча адвезлі дамоў, а адтуль у бальніцу. А сёмай гадзіне 6 красавіка яго не стала.

Калі рабілі трэпанацыю чэрапа, то ўбачылі даволі вялікую гематому. Урачы кажуць, што такое бывае ад моцнага ўдару па галаве, альбо ад нейкіх хімічных прэпаратаў... Калі падобнае магло здарыцца, невядома і сёння.

Па адной з версій, Карпенку стала дрэнна значна раней.

Гэта быў апошні дзень жыцця, а я хачу нагадаць яшчэ і першы.

Яго маці расказвала даволі цікавую гісторыю знаёмства з яго бацькам. Было гэта амаль адразу ж пасля вайны. Вера Міхайлаўна толькі-толькі вярнулася з нямецкага палону ў родныя Смалявічы. Набліжаліся чарговыя кастрычніцкія святы. Сяброўка прапанавала ёй з'ездзіць у Калодзішчы на танцы. Прыехалі, але танцаў там не было. Тады дзяўчаты трапілі ў ваенны гарадок, дзе Вера і пазнаёмілася з Дзмітрыем. Той прыехаў за сям'ёй свайго камандзіра з Японіі. Пасля дэмабілізацыі Дзмітрый Карпенка, у якога некалькі гадоў таму ў Ленінградзе загінула першая сям'я, пераехаў у Смалявічы і яны сталі разам жыць. Хутка перабраліся ў Мінск, дзе 17 верасня 1949 года нарадзіўся сын, якога назвалі Генадзем.

16 гадоў яны жылі ў «камуналцы» і толькі потым атрымалі аднапакаёвую кватэру.

Палітычную дзейнасць Карпенка пачаў напрыканцы 80-ых — дэпутатам і членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета 12-га склікання. У 1994 годзе яго выбралі ў Вярхоўны Савет 13-га склікання, віцэ-спікерам якога быў да самай смерці.

# МІХАІЛ ЧЫГІР — ПРЭМ'ЕР-АПАЗІЦЫЯНЕР



Падрыхтавана да друку 26.10.07

*Пачну з выпраўлення распаўсюджанай памылкі. «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі» піша, што Міхаіл Мікалаевіч Чыгір нарадзіўся 24 траўня 1948 года ў вёсцы Усава Капыльскага раёна. З гэтай фразы сапраўднай можна лічыць толькі дату. Але энцыклапедыя не вінаватая.*

Год таму Міхаіл Мікалаевіч расказаў мне, што на самой справе ён нарадзіўся побач: амаль у кіламетры ад Усава быў маленькі (усяго дванаццаць дамоў) пасёлак Брацкі. Там у сялянскай сям'і, а палове на чацвёртую раніцы і з'явіўся на свет будучы кіраўнік першага ўрада першага прэзідэнта Беларусі.

Маці Анастасія Пятроўна пайшла даіць карову і нарадзіла дзіця ў хляве. Прынесла дамоў у падоле. Яна доўга грукала ў шыбу, але бацька Мікалай Сямёнавіч не прачнуўся, бо вельмі моцна спаў. Яму было 49 гадоў, ёй 36.

Для Мікалая Сямёнавіча гэта быў ужо другі шлюб. Першая жонка прыехала з Амерыкі пагасціць, але назад яе не адпусцілі. Так і памерла ў БССР.

Міхаіл Мікалаевіч успамінаў, што нават на канвертах яны не пісалі «пасёлак Брацкі», бо паштальёны памыляліся і неслі лісты ў вёску Браткава.

Гледзячы на Чыгіра, вельмі цяжка паверыць, што некалі ён быў у школьнай камандзе па баскетболу, але гэта праўда. Настаўнік па фізкультуры лічыў, што ў кожнай камандзе павінен быць хтосьці больш жвавы.

Ва ўзгаданай энцыклапедыі гаворыцца: у 1970 годзе Чыгір скончыў Беларускі інстытут народнай гаспадаркі. Але сказаць, што ён марыў стаць банкірам, нельга. Проста Чыгіру вельмі падабалася матэматыка.

Ён нават хадзіў на матэматычны факультэт БДУ, там і даведаўся — у наргасе ёсць спецыяльнасць «банкаўская справа», дзе матэматыку трэба здаваць і пісьмова, і вусна, а геаграфію можна падвучыць. Было таксама і сачыненне, але Чыгір наўмысна пісаў яго кароткімі сказамі. Так менш памылак.

Дарэчы, там ён пазнаёміўся і з Тамарай Віннікавай, якая праз шмат гадоў «з'есць» Станіслава Багданкевіча. Чыгір (адзіны з тагачаснага кіраўніцтва краіны) будзе супраць яе прызначэння. І не толькі таму, што шмат разоў бачыў, як яна, калі выказвае «асабістую думку», чытае са сваіх запісаў тое, што казаў Лукашэнка некалькі месяцаў таму. Міхаіл Мікалаевіч лічыў: на такой высокай дзяржаўнай пасадзе не можа быць чалавек з «камерцыйнымі» поглядамі.

Згодна з афіцыйнымі дадзенымі, прафесійная дзейнасць Чыгіра пачынаецца ў 1973 годзе, калі ён узначаліў Клецкае аддзяленне Дзяржбанка СССР, але гэта не зусім дакладна.

Пасля наргасу Міхаіла Чыгіра накіравалі ў Салігорск, а потым перавялі ў Беразіно. Адтуль прызвалі ў армію, бо ў наргасе не было ваеннай кафедры. Служыў ён у Івана-Франкоўску ў авіяцыі.

Пасля звальнення ў запас Міхаіла Чыгіра накіравалі ў Клецк, дзе з трагічнай нагоды (самагубства) нечакана вызвалілася пасада кіраўніка мясцовага філіяла банка. Так у 25 гадоў ён стаў самым маладым кіраўніком філіяла самага буйнога ў СССР банка.

Менавіта там сустрэў сваю будучую жонку Юлію. Цікава, што перад гэтым цыганка нагадала дзяўчыне, што ў яе ёсць хлопец, але замуж яна выйдзе за свайго калегу па працы, які потым будзе вельмі вялікім кіраўніком. Так і адбылося.

А сам Чыгір мне расказваў, як выбраў менавіта Юлю. У кіраўніка аддзялення была службовая трохпакаёвая кватэра. Набліжалася навагодняе свята, і для святкавання Чыгір прапанаваў сваю хату. Раніцай першага студзеня посуд прыйшлі мыць толькі дзве жанчыны. Адна з іх — Юля Бабяк.

Ведаю, што некаторыя лічаць Чыгіра «подкаблучником». На мой погляд, такі падыход калгасна-прымітыўны. Безумоўна, ён прыслухоўваецца да сваёй жонкі, і ў гэтым няма нічога не толькі экстраардынарнага, але і дрэннага, але рашэнні прымае толькі ён.



І даволі часта зусім не тыя, якія падабаюцца Юліі Станіславаўне. Напрыклад, яна не хацела, каб муж стаў прэм'ерам або ўдзельнічаў у так званых «віртуальных» выбарах.

Першай казку пра «подкаблучника» прыдумала маці вядомага ліберал-дэмакрата Галіна Гайдукевіч — на той час вельмі ўплывовы чалавек у банкаўскай сферы. Было гэта ў 70—80-ых гадах мінулага стагоддзя. У жніўні 2001 года ў інтэрв'ю «Белорусской деловой газете» яна яшчэ раз агучыла гэтую версію, за якой нічога, на мой погляд, няма. Толькі чуткі і плёткі.

Міхаіла Чыгіра тройчы запрашалі на вельмі прэстыжны спецыяльны факультэт пры Маскоўскім фінансавым інстытуце. Амаль усе слухачы потым ехалі працаваць у замежжа, дзе было нямала савецкіх банкаў. У Маскве давалі кватэру, але Чыгір папрасіў Мінск. І сам не хацеў з'язджаць з Беларусі, і бацькоў не мог кінуць. Бацьку тады быў ужо 81 год (усяго ён пражыў 87), а маці — 69. Так яны і сказалі сыну: «Што такое мы зрабілі, што ты нас кінеш або прапануеш пераехаць у Маскву?»

Спачатку Міхаіл Мікалаевіч працаваў у Маскоўскім аддзяленні Дзяржбанка СССР, потым перайшоў у абкам партыі, а затым стаў інструктарам эканамічнага аддзела ЦК КПБ.

У 1986 годзе ён вырашыў, што партыйная кар'ера не для яго, і зноў стаў банкірам. Дакладней, кіраўніком Мінскай гарадской канторы ўсё таго ж Дзяржбанка, бо ўнутры краіны ён быў адзіны. Адтуль у 1988 годзе Міхаіл Мікалаевіч перайшоў першым намеснікам, а потым і старшынёй «Аграпрамбанка», дзе працаваў да 1994 года.

З гэтай пасады ён і быў запрошаны на пасаду прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь. Некаторыя лічаць, што гэта была нейкая кампенсацыя за фінансавую падтрымку А. Лукашэнкі на выбарах. Але я прытрымліваюся версіі Сініцына, што ніякіх грошай Чыгір не даваў, а ўрад узначаліў толькі таму, што Лукашэнка не бачыў у ім канкурэнта. Пра гэта ж сведчыць і тое, што гэтае пытанне з вуснаў Чыгіра ніколі не падымалася, нават тады, калі ён апынуўся ў турме.

Вядома, што першы канфлікт паміж ім і Лукашэнкам узнік у самым пачатку лістапада 1994 года, калі, каб ратаваць айчынную прамысловасць, урад павысіў кошты амаль на ўсе галоўныя прадукты спажывання.

11 лістапада 1994 года Лукашэнка тэрмінова вярнуўся з Сочы і перад тэлекамерамі загадаў ураду да 10 гадзін наступнага дня адмяніць сваё рашэнне, абяцаў таксама правесці з гэтай нагоды прамы эфір. Але ні першага, ні другога не было.

«Зламаць» Чыгіра не атрымалася. Што вельмі хацелася. За пяць хвілін да заканчэння азначанага тэрміну ў кабінет Чыгіра, дзе праходзіла адпаведная нарада, увайшоў вядомы «гранатамётчык» Віктар Кучынскі і заявіў, што калі патрабаванні прэзідэнта не будуць выкананы, у яго ёсць спецыяльны атрад. Што Кучынскі меў на ўвазе, членам тагачаснага ўрада дакладна невядома і да гэтага часу.

А потым быў лістапад 1996 года. У знак пратэсту Чыгір сышоў у адстаўку. Яго абяцалі падтрымаць усе члены ўрада, але выканаў абяцанне толькі міністр працы Аляксандр Сасноў.

Год пасля гэтага Чыгір не даваў ніякіх каментараў і інтэрв'ю, бо так абяцаў Лукашэнку. Ведаю гэта дакладна. Неаднойчы тэлефанаваў яму сам.

У 1998 годзе ён стаў кіраўніком прадстаўніцтва Еўрапейскага канцэрна «СЕА» ў Расіі. Атрымліваў 10 000 доляраў у месяц. А потым прыняў удзел у «віртуальных» прэзідэнцкіх выбарах і на 8 месяцаў трапіў за краты.

Не буду гадаць, што тады стала галоўным. Нагадаю толькі словы самога Чыгіра: «Ганчар і Шарэцкі расказалі мне ўсё не так, як было на самой справе, аднак зразумеў гэта я толькі тады, калі пачаў удзельнічаць у альтэрнатыўных прэзідэнцкіх выбарах». Больш за тое, яны тады прапанавалі Чыгіру ўкласці ў справу ўсе зароблены грошы. Маўляў, потым яны вернуцца. Зразумела, ніхто і нічога так і не вярнуў. Атрымалася, што за тое, каб сесці ў турму, Чыгір яшчэ і заплаціў...

Заяву пра ўдзел у гэтай кампаніі М. Чыгір зрабіў 5 снежня 1998 года, а ўжо ў лютым 1999 была створана камісія па праверцы работы банка за той час, калі там працаваў Міхаіл Мікалаевіч.

У сярэдзіне сакавіка ў яго падтрымку было сабрана 120 тысяч подпісаў, а ўвечары 28 сакавіка 1999 года БТ паведаміла, што Чыгір скраў мільён долараў і ўцёк з краіны.

31 сакавіка 1999 года яго зарэгістравалі кандыдатам у прэзідэнты, але пасведчанне атрымлівала жонка, бо 30 сакавіка Чыгіра арыштавалі. Адпусцілі толькі праз восем месяцаў, ажно 30 лістапада 1999 года.



Сваёй адстаўкай і выхадам у актыўную апазіцыйную палітыку Міхаіл Чыгір першым зрабіў знакавы маральна-палітычны крок. Пройдзе час, і гэты ж крок зробіць Міхаіл Марыніч. Пройдзе час, і гэты ж крок зробіць Аляксандр Казулін.

Зараз Чыгір палітыкай не займаецца. Не таму, што чагосьці баіцца. Проста пакуль не бачыць у гэтым сэнсу. Часам даводзіцца чуць, што ў Чыгіра няма «харызмы». Можа, гэта і так. Але ён сапраўдны гаспадарнік. На жаль, гэтай якасці якраз і не хапае многім у нашай краіне. Калі Чыгір быў прэм'ерам, 92 бензін каштаваў 14 цэнтаў. Параўнайце з сённяшнім коштам.



# КАПІТАН КАМАНДЫ ЛЕАНІД СІНІЦЫН

**Падрыхтавана да друку 14.11.07**

*Без усякіх перабольшванняў Леаніда Сініцына можна лічыць капітанам перадвыбарчай каманды Лукашэнкі. І не толькі таму, што быў кіраўніком ягонага штаба. Сініцына лічылі сапраўднымі «мазгамі» і моцным арганізатарам. Ён заўсёды прыдумваў нешта неардынарнае.*

*Памятаю, быў сведкам адной сустрэчы Лукашэнкі з выбаршчыкамі. Кандыдат у прэзідэнты трос на трыбуне «папкай з кампраматам» на тагачаснае кіраўніцтва краіны і абяцаў «усіх пасадзіць». Не ўсе ведаюць, што была тая папка пустой і прыдумаў гэты ход менавіта Сініцын.*

7 кастрычніка 1995 года (усе даты ўзгоднены з самім Сініцыным, каб пазбегнуць памылак, якіх ужо шмат існуе ў матэрыялах СМІ) Леанід Георгіевіч Сініцын перастаў быць кіраўніком прэзідэнцкай адміністрацыі, а 26 ліпеня 1996 публічна сышоў з пасады аднаго з віцэ-прэм'ераў.

У той дзень якраз праходзіла пасяджэнне Савета Бяспекі. Віктар Шэйман зрабіў вельмі крытычны «разнос» усяму ўраду і перш за ўсё прэм'еру Лінгу. Сініцын хацеў яго абараніць, але слова яму не далі, а «на арэхі» дасталося самому Леаніду Георгіевічу. Між ім і Лукашэнкам узнікла вельмі жорсткая спрэчка. Калі пасяджэнне скончылася, Сініцын адразу ж перадаў прэзідэнту заяву, якую літаральна тут і напісаў. Праз некалькі дзён прэзідэнт выклікаў Сініцына і вярнуў заяву з прапановай падумаць, але Леанід Георгіевіч адмовіўся: рашэнне ўжо прынятае і будаваць дыктатуру ён не збіраецца. Адзін з асноўных архітэктараў перамогі сышоў з палітычнага карабля першага прэзідэнта. Мадэль аказалася не той, якую ён хацеў адбудаваць. Менавіта як будаўніка Сініцына і ведаюць.

Леанід Георгіевіч Сініцын нарадзіўся 28 ліпеня 1954 года ў Полацку. У 1977 годзе скончыў Наваполацкі політэхнічны інстытут па спецыяльнасці інжынер-будаўнік.

У некаторых крыніцах напісана, што самастойна працаваць ён пачаў тады, калі пасля інстытута адслужыў у войску. Дакладней — у 1979 годзе. Гэта не зусім так. Працаваць Сініцын пачаў яшчэ да таго, як стаў студэнтам. У 1971 годзе ён уладкаваўся ўпакоўшчыкам на Полацкаю мэблевую фабрыку.

Яго бацька Георгій Аляксеевіч па нацыянальнасці быў рускім, вайскоўцам. Маці Кацярына Фёдараўна — беларуска, шмат гадоў працавала на Полацкім малаказаводзе. Звычайна я на такія моманты не звяртаю ўвагі, але ў дадзеным выпадку вырашыў зрабіць выключэнне. Можа, гэта дапаможа зразумець, чаму ў 1995 годзе менавіта Леанід Сініцын без якіх-небудзь ваганняў стаў тым чалавекам, які замест «Пагоні» намаляваў варыянт беларускага герба. Той самы, што і стане крыху пазней асновай герба сённяшняга.

Прычым, сам Сініцын ніколі не лічыў, што валодае мастацкімі якасцямі. За маляванне ж герба ўзяўся таму, па-першае, што не бачыў у гэтай справе нічога асабліва складанага. А па другое, гэту справу дыктавала палітыка. І намаляваў ён не тое, чаго патрабавалі гістарычная традыцыя і геральдысты, а што хацеў бачыць электарат. Магчыма, з маральнага пункту гледжання тут шмат пытанняў, але з палітычнага на той час іх камандзе гэта падавалася мэтазгодным.

На гэтым эпізодзе, магчыма, будзе лягчэй зразумець, чаму Сініцына заўсёды называлі адным з самых «прарасійскіх» палітыкаў і чаму ў красавіку 2007 года ён разам з Парфяновічам, знакамітым спартсменам, дэпутатам і апазіцыянерам, выдаў Маніфест, які выклікаў такую бурную рэакцыю.

На тым, як, кім і дзе Сініцын працаваў у перыяд з 1979 па 1990 падрабязна спыняцца вялікага сэнсу не бачу. Адзначу толькі, што ў будаўнічай галіне ён ведае даволі шмат.

У 1990 годзе пачынаецца цалкам палітычная кар'ера Леаніда Георгіевіча, якая, аднак, на першым этапе ўсё ж такі была звязана з яго асноўнай прафесіяй. Сініцына выбіраюць дэпутатам у Вярхоў-

ны Савет 12-га склікання, дзе ён становіцца намеснікам старшыні Камісіі па пытаннях архітэктуры, будаўніцтва, вытворчасці будаўнічых матэрыялаў і жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Але трымаюць гэты факт у памяці хіба толькі даследчыкі. У адрозненне ад іншых палітыкаў, якія любілі пакрасавацца ля мікрафонаў, Сініцын трымаўся ў цені.

На мой погляд, менавіта гэтая рыса яго характару ў многім паспрыяла яго вылучэнню на ролю кіраўніка каманды Лукашэнкі, на ролю, як кажуць футбалісты, гуляючага трэнера. Дакладней, капітана, бо доўга чамусьці вучыць такога іграка, як Лукашэнка, вельмі цяжка. Не той гэта чалавек, які ўвогуле здольны ўспрымаць нейкія правілы...

Як вядома, у 1994 годзе Сініцын узначаліў перадвыбарчы штаб Лукашэнкі і фактычна забяспечыў яму перамогу. Пачынаў ён з нуля, бо за спіной у Лукашэнкі нічога яшчэ не было: ні сваёй партыі, ні так званага адміністрацыйнага рэсурсу...

За даволі кароткі тэрмін Сініцын змог сабраць у групу падтрымкі больш за 20 тысяч чалавек. Канешне, час тады быў іншы, але нешта падобнае бачна і сёння — стомленасць ад існуючай улады. Розныя толькі фазы. Тады набліжаўся канец, зараз самы пачатак.

Дарэчы, структуры былі па ўсёй краіне, але справа не толькі ў іх колькасці. Галоўнае — знаёмствы. На маё меркаванне, на гэту базу Сініцын паспрабуе абаперціся і ў 2001 годзе, калі сам пойдзе на прэзідэнцкія выбары. Але час сапраўды быў іншы і супраць канкурэнтаў гулялі па іншых правілах.

У тагачасным атачэнні Лукашэнкі былі вельмі розныя па амбіцыях і характарах людзі. Усе канфлікты Сініцын «гасіў» і называў гэта «здольнасцю перамоўнага працэсу». Наколькі ў яго добра атрымлівалася, раскажа шмат пазней адзін з тагачасных яго падначаленых Аляксандр Фядута: «Сініцын не перабольшваў сваю «здольнасць перамоўнага працэсу». Штаб пераканаўся ў гэтым, калі ён на два тыдні з'ехаў у ЗША, пакінуўшы замест сябе Ціцянкова. Калі б ён затрымаўся ў Хьюстане на тыдзень больш, уся выбарчая кампанія рассыпалася б, нягледзячы на асабісты аўтарытэт нашага кандыдата. Іван Ціцянкоў быў цалкам не прымальны ў якасці паўнапраўнага кіраўніка штаба».

Не буду пералічваць і аналізаваць усе справы Сініцына на адной з першых у краіне пасад, бо большасць з маіх меркаванняў можа стаць дыскусійнай, а гэтым нарысе не хачу ні з кім спрачацца. Мая



задача зусім іншая — расказаць пра чалавека, пра яго найбольш яскравыя ўчынкі.

Мяне, напрыклад, вельмі ўражвае той факт, што Сініцын сышоў з пасады сам, а не быў ад яе са скандалам вызвалены. Безумоўна, яго дзейнасць на пасадах кіраўніка адміністрацыі і віцэ-прэм'ера выклікае шмат пытанняў, аднак галоўнае тут, што ён сышоў, хаця мог спакойна застацца.

Сышоў не проста добраахвотна і ціха, а ў знак пратэсту супраць палітыкі кіраўніка дзяржавы. Аб чым і напісаў у «Народнай волі» 31 ліпеня 1996 года: «На мой погляд, прынцыпы і метады, якімі Вы карыстаецеся ў апошні час, кіруючы дзяржавай, памылковыя». Сініцын выступіў супраць дыктатуры таго чалавека, якога ў 1991 годзе прапанаваў на пасаду прэзідэнта. І, як і многія з нас, памыліўся. Іншая справа — кошт памылкі. Урок, які варта засвоіць, — думаць аб фінішы яшчэ на старце.

Добра памятаю, як пасля першага тура выбараў Сініцын па даручэнні Лукашэнкі выступіў з заявай, дзе паабяцаў прэсе сапраўдную свабоду. А ў наступным годзе краіна была шакавана «белымі плямамі» ў газетах і выгнаннем з друкарні Дома друку найбольш уплывовых апазіцыйных выданняў. Для Сініцына гэта было цалкам нечакана, але яшчэ не стала знакам для пераасэнсавання курсу кіраўніка дзяржавы на выхад за межы некалі разам акрэсленых рамак.

Нагадаю, што пасля Ганчара гэта быў другі выпадак, калі нехта пакінуў каманду прэзідэнта. Сініцын сышоў таму, што зразумеў: ён не можа больш уплываць на палітыку Лукашэнкі.

У 2001 годзе Леанід Георгіевіч сам вырашыў стаць прэзідэнтам. Аб гэтым намеры ён выказаўся яшчэ ў кастрычніку 2000. Яго праграма была настолькі «прарасійскай», што ніхто не сумняваўся — ход Крамля. Не хаваў гэта і сам Сініцын. Хутчэй за ўсё, пэўныя палітычныя сілы Расіі такім чынам давалі сігнал Лукашэнку: калі не будзеш слухацца, мы знойдзем іншага. Зразумеў гэта і сам Сініцын і таму з-за «выбракоўкі» больш за 30 тысяч з сабраных ім подпісаў ляманту падымаць не стаў.

Ён пакідае палітыку і пераходзіць у бізнес у якасці віцэ-прэзідэнта грамадскага аб'ядання «Сацыяльныя тэхналогіі». Але ў палітыку час ад часу будзе вяртацца. Іншы раз дастаткова гучна. У прыватнасці, шуму нарабіў выдадзены ў красавіку 2007 года ім і Парфяновічам

Маніфест за саюз з Расіяй. У чым яго сутнасць, пераказваць не стану, каб нікога не заблытаць. Адзначу толькі, што супраць Маніфесту адразу ж выступілі не толькі прыхільнікі БНФ, але, па сутнасці, і ўся тытульная апазіцыя. І самае галоўнае — ніхто толкам не разумее, дзе там логіка.



# ГЕНЕРАЛ ЮРЫЙ ЗАХАРАНКА

**Падрыхтавана да друку 20.11.07**

*Апошні раз мы бачыліся ў Чыгіра, які жыве паміж Паўночнымі могілкамі і Мінскім морам. У Захаранкі раптам перастаў працаваць рухавік «Мерсэдэса», і я на сваёй «сігары» цягнуў яго аўтамабіль на тую самую стаянку, з якой 7 траўня 1999 года ён не вернецца дадому. Дарэчы, Чыгір жыве ў катэджы, які пачалі «трэсці» яшчэ падначаленыя Захаранкі.*

Юрый Мікалаевіч Захаранка нарадзіўся 4 студзеня 1952 года ў горадзе Васілевічы Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. У 1977 годзе ён скончыў Валгаградскую школу МУС СССР, а праз дзесяць гадоў — акадэмію.

У 1970 годзе яго «забралі» на тэрміновую ваенную службу. Так будучы міліцэйскі генерал стаў радавым матросам Балтыйскага флоту.

Я не буду пералічваць усе пасады, якія ён займаў у структурах МУС спачатку СССР, а потым і РБ. Скажу толькі, што ў адрозненне ад тых, хто стане міністрамі ўнутраных спраў пасля, Юрый Мікалаевіч ведаў усе асаблівасці міліцэйскай работы. Для таго, каб гэта было бачна больш наглядна, узгадаю толькі некалькі кар'ерных момантаў.

У 1977 годзе Захаранка стаў следчым Светлагорскага РАУС, а ў 1989 — намеснікам начальніка УУС Гомельскага аблвыканкама. У 1991 годзе яго прызначылі намеснікам начальніка Міжрэгіянальнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю МУС СССР, а ўжо праз год Захаранка ўзначаліў Следчы камітэт МУС РБ, які сам і стварыў. Сапраўдных злачынцаў ён бачыў не толькі на малюнках, калі іх нехта шукае. І лічыў, што галава патрэбна чалавеку не толькі для таго, каб разбіваць цэглу...

Менавіта пры ім беларуская міліцыя перажыла свой сапраўдны росквіт. У сістэме МУС была створана крымінальная разведка і рэарганізавана ўся структура ведамства. А галоўнае — міліцыянеры перасталі быць паслухмянымі цэрберамі сістэмы. Невыпадкова, калі ў кастрычніку 1995 года Захаранку адхілялі ад улады, узброены захоп будынка МУС узначаліў начальнік Службы бяспекі прэзідэнта Ю. Бародзіч. На самым версе добра ведалі, што тады такі загад міліцыянеры не выканалі б.

Юрый Захаранка прымаў удзел у апошнім з'ездзе КПСС. І не таму, што быў такім шчырым камуністам. Хутчэй наадварот. Для тых, хто гэтага не ведае, скажу: членамі партыі ў той час былі ўсе чыноўнікі такога рангу, а стаць дэлегатам партыйнага сходу лічылася вельмі крута.

Міністрам унутраных спраў Ю.М. Захаранку Лукашэнка прызначыў амаль адразу ж пасля сваёй перамогі. Нагадаю, ужо 1 ліпеня 1994 года быў адпаведны ўказ, а праз пэўны час Захаранка стаў генерал-маёрам. Калі я не памыляюся, то Захаранка быў самым маладым міністрам унутраных спраў сярод усіх краін былога Савецкага Саюза. Гэтаму прызначэнню ў МУС узрадаваліся — свій, а не нейкі былы камсамольскі работнік.

Аднак менавіта гэта, на мой погляд, пазней і будзе прычынай апалы. Не маючы вопыту апаратных інтрыгаў, малады міністр пачаў «капаць» там, дзе гэта рабіць не дазвалялася. Напрыклад, вельмі шмат магчымых судовых матэрыялаў было пра тагачаснага «заўгаса краіны» Івана Ціцянкова. Як вядома, апошні паводзіў сябе ў адносінах да закона так нахабна, што нават у вышэйшага кіраўніцтва краіны, якое яго заўжды «крышевала», лопнулі нервы.

Адзін з супрацоўнікаў Савета Бяспекі расказваў, што для Ціцянкова была падрыхтавана ў «амерыканцы» камера, а на камп'ютары набраны адпаведны тэкст. Чакалі да позняга вечара, і толькі тады прыйшоў «адбой». Але было гэта тады, калі Захаранка ўжо не ўзначальваў МУС.

Я наўмысна не буду ўжываць ніякіх словаў пра забойства, хаця ўсе ўсё добра разумеюць... Проста ёсць людзі, якія вераць, што Захаранка калі-небудзь вернецца...

Ціцянкова заўжды лічылі «денежным мешком» Лукашэнкі, і можна толькі здагадвацца, колькі з гэтай нагоды было ў Захаранкі «сігналаў». Упэўнены, што ён бы «пасадзіў» Ціцянкова (напрыклад, прасіў тую ж Віннікаву даць яе «фактуру»), калі б той краў толькі для сябе. Фактаў у Захаранкі было дастаткова. Больш за тое, менавіта Захаранка зрабіў уцечку ў прэсу матэрыялаў пра скандальна вядомую фірму «Торгэкспо». Добра памятаю, які тады быў лямант, як на станцыі «Калодзішчы» стаялі арыштаваныя вагоны з кантрабанднымі гарэлкай, цыгарэтамі і мэбляй.



Мабыць, Захаранка яшчэ не ведаў, што да ўлады прыходзяць для таго, каб было лягчэй красці.

Думаю, што ўсё гэта вельмі напужала Лукашэнку і 16 кастрычніка 1995 года той сваім указам зняў Юрыя Мікалаевіча з пасады, а 16 красавіка 1996 панізіў у званні, аднак я (як і іншыя) палкоўніка Захаранку ніколі не бачыў...

Згодна з тагачаснай Канстытуцыяй кіраўнік дзяржавы мог зрабіць такі крок толькі з дазволу Вярхоўнага Савета. На тое пасяджэнне журналістаў сабралася як ніколі. Захаранка жвава выйшаў на трыбуну, пачаў гаварыць, і ў гэты момант спікер Сямён Шарэцкі ўстаў са свайго крэсла, падышоў да Лукашэнкі і, павярнуўшыся да Захаранкі спіной, пачаў з прэзідэнтам аб нечым шаптацца. Усе зразумелі, што службовая кар'ера Захаранкі скончылася. Гэта была амаль самая ганебная старонка ў палітычнай біяграфіі Шарэцкага. З таго часу асабіста я, як і многія калегі, перастаў Шарэцкага паважаць.

Аднак вернемся да катэджа Чыгіра. Не трэба быць Касандрай, каб зразумець, што Захаранка толькі выконваў чыйсьці загад. І нацяжка здагадацца чый. І, хутчэй за ўсё, сутнасць загада была ў тым, каб што-небудзь «нарыць». Але Юрый Мікалаевіч гэтага не зрабіў. Дакладней, выканаў загад не так, як ад яго чакалі. Скрупулёзная праверка паказала, што «рыць» няма чаго, таму што ў будаўніцтве ўсё законна. А фальсіфікаваць, як гэта будуць потым рабіць іншыя, Захаранка не ўмеў і вучыцца гэтаму не жадаў.

У доме Чыгіра я сустракаў Захаранку даволі часта. Калі б нешта было не так, такое было б проста немагчыма. Дарэчы, і Вольга Барысаўна Захаранка час ад часу тэлефанавала Юліі Станіславаўне Чыгір, і размаўлялі яны падоўгу. А ў жанчын, як вядома, больш жорсткія крытэрыі чалавечых адносінаў.

У 1994 годзе Захаранка быў у акружэнні Лукашэнкі, у 1999 — адной з давераных асобаў Чыгіра, але вопытным палітыкам яго лічыць нельга. Як і генерала Лебедзя. Напрыклад, публічна абвінавáціў міністра замежных спраў Германіі Кінкеля ў тым, што той прыехаў у

Мінск, каб «заліць Беларусь крывёй». Іронія лёсу, але менавіта ў Германіі жонка і дзеці зніклага Захаранкі ў 2000 годзе знойдуць палітычны прытулак. Зразумела, што так у буйной палітыцы не робіцца ўвогуле, аднак «знік» Захаранка, на мой погляд, менавіта за палітыку.

Пасля звальнення з пасады міністра ён пачаў ствараць Саюз афіцэраў Беларусі, але гэтая справа ішла даволі вяла. Актывізавалася ўсё пасля таго, як 5 снежня 1998 года Чыгір заявіў аб сваім удзеле ў віртуальных прэзідэнцкіх выбарах. Па розных крыніцах на момант знікнення Захаранкі ў складзе Саюза афіцэраў налічвалася каля двух тысяч чалавек. Няшмат. Але гэта толькі на першы погляд. Як праўдзіва кажуць, тут важная не колькасць, а якасць.

Па-першае, у гэтай арганізацыі былі амаль толькі шчырыя ідэйныя праціўнікі ўлады. Не хачу нічога сцвярджаць, але, на мой погляд, аб'яднанне «Белая Русь» будзе існаваць роўна столькі, колькі Лукашэнка будзе пры ўладзе. Вельмі сумніўна, што хто-небудзь з прыхільнікаў гэтага руху выйдзе абараняць рэжым пасля яго падзення.

Па-другое, у Саюз афіцэраў уваходзілі людзі, якія ведаюць, што трэба рабіць са зброяй. Невыпадкова ва ўсім свеце ўлады да тых, хто калісьці насіў пагоны, ставяцца вельмі добра.

І трэцяе. Захаранку паважалі ў МУС. Я сам быў сведкам, як ён, калі арыштавалі Чыгіра, без усякіх перашкод прайшоў у Следчы камітэт, які тады ўзначальваў адзін з яго «пратэжэ». У адрозненне ад нас паставыя пабаяліся спыняць свайго былога шэфа. Ды і «пратэжэ» Захаранкі на той час былі ўсюды.

Такім чынам, тое, што зрабіла ўлада 7 траўня 1999 года, яна павінна была зрабіць. Інстынкт самазахавання. І гэта не толькі мой асабісты вывад. Фактычна гэта ж сцвярджае ў сваім мемарандуме, што прагучаў 28 красавіка 2004 года, дэпутат Еўрапарламенту Хрыстосас Пургурыдзіс.

Многія лічаць, што ў сярэдзіне дзевяностых гадоў былі створаны так званыя «эскадроны смерці». Такая жудасная аналогія з Аргенцінай — вынік таго, што па дадзеных былога следчага Алега Случака, групай, створанай вядомым ва ўнутраных войсках Д.Паўлючэнкам, здзейснена каля 30 забойстваў. Спачатку гэта былі толькі крымінальныя аўтарытэты. Захаранка стаў першым «палітычным».

Наколькі ўсё адпавядае рэчаіснасці? Зразумела, што сам я нічога сцвярджаць не буду. Але так напісана ва ўзгаданым мемарандуме Пургурыдзіса.

# РЫЦАР ДЭМАКРАТЫІ ВАЛЕРЫЙ ШЧУКІН



**Падрыхтавана да друку 30.11.07**

*Пра яго знакамітую бараду ўжо пачалі складаць палітычныя легенды. Уношу поўную яснасць. Як расказваў мне сам Валерый Аляксеевіч, бараду ён пачаў насіць у 1982 годзе, калі нарадзілася першая ўнучка Жэня. Так Шчукін вырашыў адзначыць тое, што ён стаў дзедам. На гэты момант Валерый Аляксеевіч мае сем унукаў. Бараду сілай згалілі толькі аднойчы — у 2001 годзе ў пастарунку, дзе апынуўся ў чарговы раз.*

*Дарэчы, доўгі час Шчукін быў па «сутках» рэкардсменам сярод апазіцыянераў і толькі ў апошнія гады саступіў іншым. Аднак з гэтай нагоды не скардзіцца. «Канкурэнты» больш маладзейшыя.*

Нарадзіўся Валерый Шчукін 22 сакавіка 1942 года ў расійскім Уладзівастоку. Па гараскопу — Авен. З гэтай нагоды ў адной размове са мной настойліва падкрэсліваў, што па жыцці ён упёрты як баран. І прыводзіў шмат прыкладаў. Калі яго дачка вучылася іграць на піяніна, ён набыў падручнік па музыцы і прачытаў яго пяць разоў. Першыя тры нічога не зразумеў. Інструментаў у іх ваенным гарадку не было. Шчукін выразаў прамавугольную фанерку, намаляваў клавішы і сачыў за тым, каб дачка не махлявала.

У 1951 годзе маці Шчукіна вярнулася ў родную вёску ў Беларусь. Так параілі ўрачы, бо прыморскі клімат ёй шкодзіў. Працаваць Валерый Аляксеевіч пачаў у 15 гадоў, што зразумела — у сям'і было чацвёра дзяцей.

Шчукін спачатку стаў вучнем слесара, а потым і слесарам. Калі вы будзеце ў мінскім цырку, звярніце ўвагу на літыя поручні лесвіцы. Іх зрабіў Валерый Аляксеевіч.

Ваенным мараком ён вырашыў стаць па вельмі празаічнай прычыне: каб пазбегнуць канфліктаў з бацькамі. У 1964 годзе паспяхова скончыў Ленінградскае вышэйшае ваенна-марское вучылішча і паехаў служыць на Ціхаакіянскі флот, які і да гэтага часу дарагі яго сэрцу.

Капітан другога рангу — вышэйшая прыступка службовай кар'еры. Далей — стоп. Справа ў тым, што дзве сястры жонкі Шчукіна жылі ў Швецыі, пра што ён добрасумленна і напісаў у анкеце. Па савецкіх стандартах гэта было несумяшчальна з высокімі званнямі і пасадамі. Колькі кар'ераў і лёсаў abламалася на такога кшталту фактах біяграфіі, пра якія многія нават і не ведалі. А хто ведаў — маўчалі. Але ж не Шчукін з яго імкненнем да праўды і справядлівасці, што стала, па сутнасці, непераадольнай рысай характару. Урэшце вярхі паставілі крыж на яго службовай кар'еры.

У запас Валерый Аляксеевіч звольніўся, як толькі яму споўнілася 45 гадоў. І пенсія прыстойная, і ўзрост найбольшых магчымасцяў: ёсць ужо багаты жыццёвы досвед і яшчэ ёсць сілы. Як многія былыя вайскоўцы, Шчукін не шукаў лёгкай працы і ўтульнага спакойнага месца. Яму хацелася фізічна актыўнай працы. Так у яго працоўнай кніжцы з'явіўся запіс: з 1987 па 1995 — машыніст крана-трубаўкладчыка.

Са спасылкай на аповед Валерыя Аляксеевіча канстатую: новую прафесію ён набыў амаль выпадкова. Суседам па купэ ў цягніку з Масквы ў Мінск, якім ён ехаў пасля звальнення ў запас, аказаўся будаўнік газаправодаў. Ён і паўплываў на былога «капдва». Прафесія не для тых, хто любіць аселае жыццё. За ніткай праводу праз палі і горы. І новая будоўля. Рамантыка. Так Шчукін апынуўся паміж Новалукомлем і Наваполацкам. Потым былі яшчэ Цюмень і Казахстан.

У 1995 годзе Шчукіна абралі дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання. «Двигать» яго ў дэпутаты вырашыла мясцовая ячэйка Камуністычнай партыі, і ён, як чалавек дысцыплінаваны (вайсковец!), даручэнне выканаў. Тым больш, што ідэі перабудовы ўжо захапілі яго не на жарт. Шчукін нават напісаў варыянт новага статута КПСС, які і адаслаў у ЦК КПБ. І як мне распавядаў адзін з былых супрацоўнікаў Інстытута гісторыі партыі, якому далі азнаёміцца з праектам Шчукіна, навукоўцы напачатку паставіліся да гэтага праекта «трактарыста» як да чарговай праявы палітычнага графаманства. Але, калі прачыталі, былі здзіўлены, што напісаны ён пісьменна, з добрым разуменнем сутнасці сітуацыі і хвароб партыі. Па сутнасці, варыянт шчукінскага статута абапіраўся на ідэі сацыял-дэмакратыі. Зразумела, што яго ніхто не разглядаў.



На выбарах Валерый Шчукін дастаткова лёгка перамог, апярэдзіў у тым ліку і такога канкурэнта, як папулярны артыст Уладзімір Гасцюхін. З гэтага моманту пачынаецца Шчукін-палітык. Ён стаў адным з самых актыўных дэпутатаў тагачаснага парламенту, сакратаром Камісіі па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю. Амаль адным з першых ён прыйшоў да былога спікера Мечыслава Грыба і папрасіў не пасаду, а... камп'ютар, каб працаваць больш эфектыўна.

Памятаю, што Шчукін даволі хутка стаў вялікім улюбёнцам прэсы, бо па сутнасці не было пытанняў, адносна якіх нельга было б атрымаць яго каментар. І не ад вельмі вялікай прагі да піяру. Проста ён імкнуўся дасканала разабрацца ў любым пытанні. Нават спрачаўся з лібералам Лябедзькам адносна трансплантацыі чалавечых органаў. Прычым рабіў гэта так эмацыйна, што многія яшчэ доўга будуць памятаць яго словы пра вельмі інтымныя рэчы. Тады нават не верылася: пройдуць гады, і яны разам будуць у адных і тых жа апазіцыйных акопах.

Сярод тых, хто супрацьстаяў жаданню Лукашэнкі атрымаць «царскія паўнамоцтвы», Шчукін быў адным з самых актыўных. Менавіта ён уваходзіў у той дэпутацкі трыумвірат, які літаральна ўварваўся ў кабінет Ціхіні і выказаў меркаванне наконт адсутнасці ў апошняга паўнамоцтваў спыняць працэдуру імпічменту. Аднак, на жаль, Ціхіня зрабіў тады па-іншаму. Прызначанае на пэўны час пасяджэнне не адбылося. Але пра гэта я ўжо пісаў, паўтарацца не буду. Адзначу толькі — Шчукін не пайшоў на кампрамісы з уладай. І прычынай была не вядомая «ўпёртасць», а прынцыповая грамадзянская пазіцыя. А яшчэ пачуццё ўласнай годнасці, чалавечай і мужчынскай, абвостранае пачуццё справядлівасці. Менавіта яны дыктавалі яму паводзіны і ўчынкі, якія выклікалі павагу як сяброў, так і апанентаў.

Дазволю сабе не пагадзіцца з тым негатыўным сэнсам, які хтоніхто ўкладае ў выслоўе «сухапутны марак» на адрас Шчукіна. Сапраўды, у 1969 годзе яго «спісалі на бераг». І абумоўлена гэта было зноў-такі нацыянальнасцю жонкі і тым, што яе сёстры жылі за мяжой. Мабыць, нехта для службовай кар'еры развёўся б, але гэта не пра Шчукіна...

Калі хтосьці ў чарговы раз расказвае пра новы эпатажны ўчынак Валерыя Аляксеевіча, я ніколі не падтрымліваю іроніі. Так, са Шчукіным можна многа ў чым не пагаджацца, але адназначна: ён пастаянна трымае ўладу ў нейкай напружанасці. І яшчэ не вядома, што для яе страшней — чарговая апазіцыйная рэзалюцыя або разбітыя шыбы, калі Шчукіна зноў забірае АМАП.

Але і АМАП ён прымусіў сябе паважаць. Аднойчы чуў, як з рацыі падчас адной з дэманстрацый услед за камандай на разгон прагучала: «Щукина не трогать!»

Асобна трэба сказаць пра не зусім звычайныя адносіны Валерыя Аляксеевіча да жанчын. Яны, натуральна, джэнтльменскія і не залежаць ад любых абставінаў. Перш за ўсё ўзгадваю Людмілу Маслюкову, якая спачатку працавала ў «Народнай волі», а потым перайшла ў ідэйны антыпод «Советскую Белоруссию» і пачала вельмі жорстка крытыкаваць сваіх учарашніх паплечнікаў.

Зараз я не буду разважаць пра мараль, а толькі звярну ўвагу на адну акалічнасць. Калі пасля такой гучнай палітычнай здрады некаторыя мае калегі нават перасталі з Маслюковай вітацца, то Шчукін, наадварот, ці не адзіны з апазіцыі, хто паспрабаваў яе зразумець. Яго неаднойчы бачылі ў кампаніі з Людмілай на розных апазіцыйных мерапрыемствах, што нават спарадзіла адпаведныя жарты з прысмакам. Пакінем іх па-за ўвагай. Як бы там ні было, у дачыненні да Маслюковай Шчукін паводзіў сябе як сапраўдны МУЖЧЫНА.

Калі ў 1998 годзе яго выключылі з апазіцыйнай Партыі камуністаў Беларускай за тое, што ён, як напісана ў кнізе А.Фядуты, быў іншадумцам і друкаваўся ў ідэйна блізкай да БНФ газеце «Народная воля», асабіста мне было сорамна за «калякінцаў». Па сутнасці, яны зрабілі тое ж самае, што нядаўна адбылося ў сядзібе БНФ з газетай «Таварыш», калі яе пачалі таптаць.

Тое, што Валерый Аляксеевіч з'яўляецца ідэйным камуністам, ведаюць усе. Больш за тое, з 1991 года ён быў членам Мінскага райкама ПКБ, а потым шэсць гадоў запар — членам ЦК. Таму я, мякка кажучы, не разумею логіку тых, хто рабіў у адносінах да яго «аргвывады».

Некалькі гадоў таму я зрабіў са Шчукіным інтэрв'ю пад назвай, якая адказвае на ўсе пытанні — «Камуніст з бел-чырвона-белым сцягам».

# СЯМЁН ШАРЭЦКІ — АПОШНІ СПІКЕР ВС



**Падрыхтавана да друку 09.12.07**

*Сваё першае інтэрв'ю з Шарэцкім я рабіў у 1997 годзе. У гэты час ён ужо быў у апазіцыі. Сямён Георгіевіч запрасіў мяне дамоў у Маліна ўку, быў вельмі ветлівы і гасцінны. Але ўразіла не толькі гэта. Звычайная шматпакаёвая кватэра ў абсалютна звычайным доме, які, мякка кажучы, далёка ад цэнтра горада.*

*А яшчэ запомніўся пах ежы, якую рыхтавала яго жонка, — вараная квашаная капуста. Звычайная сялянская ежа. Нават не верылася, што перада мной былы спікер Вярхоўнага Савета.*

Сямён Георгіевіч нарадзіўся 23 верасня 1936 года ў вёсцы Лаўрашова Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці. Мабыць, менавіта гэтыя абставіны і паўплывалі на тое, што сярод палітычнай эліты ён заўжды лічыўся «деревенским». У вёсках нарадзіліся амаль усе беларускія палітыкі, але з часам іх менталітэт змяніўся. У Шарэцкага — не.

Памятаю, адзін з калег са смехам расказваў, што быў сведкам, як падчас віртуальных выбараў Шарэцкі з Ганчаром зайшлі ў кавярню паесці. Ганчар пачаў чытаць меню і спытаў, што Шарэцкі будзе есці. Той важна з выразным сялянскім акцэнтам адказаў — суп з акулых плаўнікоў...

У 1959 годзе С.Г. Шарэцкі скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію і стаў працаваць у калгасе «Звязда». Спачатку намеснікам старшыні, а з 1963 года — старшынёй. У 1970 годзе ён скончыў Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПБ і шэсць гадоў у ёй працаваў старшым выкладчыкам, а ў 1976 годзе ўзначаліў кафедру эканомікі і арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці.

У 1972 годзе Шарэцкі абараніў кандыдацкую дысертацыю, а ў 1984 — доктарскую. Я не вельмі добра абазнаны ў навуковых рэгаліях, таму без каментароў проста пералічу яго званні, азначаныя ў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». У 1989 годзе Шарэцкі стаў прафесарам, у 1996 — акадэмікам Акадэміі аграрных навук РБ, а таксама членам-карэспандэнтам Расійскай сельскагаспадарчай акадэміі, акадэмікам Украінскай акадэміі аграрных навук і Міжнароднай акадэміі інфармацыйных працэсаў і тэхналогій.

У 1984 годзе Шарэцкі зноў вярнуўся «на зямлю». Па савецкай традыцыі, з дапамогай выбараў яго прызначылі старшынёй калгаса «Чырвонае Знамя» Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Але гэта быў не проста калгас, а ў задуме — буйны аграрны камбінат, новая форма, якая нараджалася па ініцыятыве кубанскіх аграрыяў. Сямён Георгіевіч выступаў тут наватарам і шчыра верыў, што гэтым шляхам можна вывесці сельскую гаспадарку на перадавыя рубяжы.

Адтуль праз сем гадоў Кебіч забраў Шарэцкага да сябе дарадцам. Пачыналася новая гістарычная паласа ў жыцці краіны, і новыя старонкі біяграфіі Сямёна Георгіевіча аказаліся зусім непадобнымі на, здавалася б, даўно прадвызначаныя.

У 1994 годзе ён стварае Аграрную партыю Беларусі. Праз год абіраецца дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання, а ў студзені 1996 — старшынёй парламента. Сябры Аграрнай партыі склалі самую буйную фракцыю ў парламенце. З'яўленне ў Вярхоўным Савеце фракцый можна смела аднесці да несумненнай заслугі Шарэцкага, лічыць яго буйным палітычным поспехам. Гэта быў важны крок да трансфармацыі ВС у сапраўдны парламент.

Згодна з афіцыйнымі дадзенымі, Аграрная партыя, наколькі я ведаю, існуе і сёння. Толькі самога Шарэцкага ў ёй няма. «Ушли» яго ў 1997 годзе, як толькі стала канчаткова відавочна, што «Акела прамазаў».

Калі прытрымлівацца логікі Калінкінай і Шарамета, то выпадковымі бываюць не толькі прэзідэнты, але і спікеры. Мякка кажучы, Шарэцкі быў не зусім тым чалавекам, які павінен займаць другую пасаду ў краіне. Ды яшчэ ў той складанай і драматычнай сітуацыі.

Тым не менш, здарылася так невыпадкова. Добра памятаю, як на пачатку 1996 года абіралі чарговага старшыню Вярхоўнага Савета. Сярод тых, хто рэальна мог прэтэндаваць на гэта крэсла, выдзяляліся тры дэпутацкія фракцыі: камуністычная, аграрная і прапрэзідэнцкая. Каб атрымаць перамогу, патрэбны быў альянс. Кіраўнік ПКБ Сяргей Калякін успамінаў: яны тады дамовіліся з аграрыямі, што спікерам стане той, чыя кандыдатура ў першым туры набярэ больш галасоў. За Калякіна прагаласавалі 60 чалавек, за Шарэцкага — 61. Камуністы слова стрымалі. Унікальны выпадак у нашай найноўшай гісторыі: у першы і апошні раз адзін дэпутацкі мандат вырашыў лёс усёй краіны...



Адзін з вышэйшых кіраўнікоў тых часоў мне раскаваў, што калі б Лукашэнка наблізіў да сябе Шарэцкага, то ніякіх канфліктаў проста не было б. Адносіны паміж палітыкамі не складіся адразу ж, яшчэ ў 1994 годзе, калі Лукашэнку і Шарэцкаму арганізавалі тайную сустрэчу. Перш за ўсё таму, што падобнае не было патрэбным Лукашэнку. Мяркую, ён адразу ж не ўбачыў у Шарэцкім вартага працаўніка. А, як вядома, сіла прызнае толькі сілу. Кажуць, што яго вельмі парадавала абранне кіраўніком Вярхоўнага Савета менавіта Шарэцкага, а не Калякіна.

Яшчэ раз нагадаю, што ў студзені 1996 года С.Г. Шарэцкі стаў старшынёй Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Ніякай містыкі, але пакуль 13-ы ВС — апошні. А сам Шарэцкі — апошні спікер.

Гэтая прыступка не была самай высокай у яго палітычнай кар'еры, бо 20 ліпеня 1999 года Сямён Георгіевіч стаў выконваючым абавязкі прэзідэнта. Але ўсе разумелі, што пасада віртуальная, як і тыя выбары, што абвясціў Ганчар.

Разумелі ўсе, аднак некаторыя былі вымушаны гэта прыняць. Дарэчы, у тым, што яны выдавалі жаданае за рэальнае, вінаваты, перш за ўсё, сам Шарэцкі. Тым, што «здаў» генерала Захаранку і «Народную газету». Прызначэнне і адстаўка міністра ўнутраных спраў былі прэрагатывай Вярхоўнага Савета, а «Народная газета» — яго органам.

Тое, што літаральна праз восем-дзевяць месяцаў Шарэцкі страціў усе рычагі ўплыву, найбольш яскрава высвецілася, калі ў жніўні 1996 года на пашыраную нараду не прыехалі ўсе кіраўнікі аблвыканкамаў. І справа не толькі ў тым, што на той час іх прызначаў прэзідэнт. Гэтым яны выказалі і свае адносіны да Сямёна Георгіевіча. У тым ліку быў нават гродзенскі губернатар А. Дубко, якога яшчэ два гады таму кандыдатам у прэзідэнты «двигала» менавіта Аграрная партыя Шарэцкага.

Улада была страчана дэ-факта, а дэ-юрэ гэта высветлілася восенню 1996 года, асабліва ў сітуацыі з адхіленнем ад пасады Віктара Ганчара.

А пасля скасавання паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета 13-га склікання стала відавочна, што ў Шарэцкага ўвогуле нічога няма: ні партыі, ні магчымасці на што-небудзь рэальна ўплываць. Засталася толькі пасада, якую ва ўсім свеце лічылі легітымнай. Але і яна была толькі намінальнай, асабліва пасля ад'езду ў эміграцыю ў Вільню.

Аднойчы мне пашанцавала Шарэцкага там бачыць. Магчыма, два ахоўнікі за яго спіной былі патрэбнымі, але выглядала гэта даволі тэатральна. У 2001 годзе Шарэцкі атрымаў палітычны прытулак у ЗША, з ім — яго сям'я. Яны жывуць зараз у штаце Каліфорнія.

Некаторы час таму Беларускае тэлебачанне расказала, што Шарэцкі стаў у Амерыцы амаль бамжом. Канешне, гэта звычайныя фантазіі: узровень яго дабрабыту там абсалютна нармальны па амерыканскіх стандартах, а па нашых — дык і значна пераўзыходзіць.

Бясспрэчна, на жаль, іншае. У Беларусі яго пачынаюць забываць. Што мог — не зрабіў. Вельмі сумныя для палітыка вынікі.

# Станіслаў Багданкевіч — банкір і палітык



**Падрыхтавана да друку 25.12.07**

*Пачну са знакамітай «упартасці». 26 ліпеня 1993 года Цэнтрабанк Расіі прыпыніў дзеянне савецкіх рублёў і тых грошай, якія былі зроблены ў 1992 годзе. У адказ Нацбанк Беларусі вырашыў увесці так званыя «зайчыкі». Гэта была асабістая ініцыятыва Станіслава Антонавіча Багданкевіча, і яна не супадала з намерамі ні Шушкевіча, ні Кебіча. Абодва хацелі разыграць «расійскую карту».*

19 жніўня 1993 года Шушкевіч сустрэўся з Ельцыным, а праз два тыдні Кебіч падпісаў з Чарнамырдзіным пагадненне пра аб'яднанне грашовых сістэм. Абодвум перашкодзіла «ўпартасць» Багданкевіча.

Станіслаў Антонавіч Багданкевіч нарадзіўся 1 студзеня 1937 года ў вёсцы Шапавалы Валожынскага раёна Мінскай вобласці, якая тады была «пад Польшчай». З гэтай нагоды жартуе: ён у нейкім сэнсе «іншаземец». Так у афіцыйных біяграфіях, але сам Багданкевіч расказваў мне, што ў пэўнай ступені гэта не адпавядае рэчаіснасці. Справа ў тым, што Шапавал (так больш дакладна) — гэта не вёска, а звычайны хутар, што недалёка ад чыгуначнай станцыі Радашковічы. Да сярэдняй школы ў вёсцы Дубрава было пяць кіламетраў пехам. Яе Багданкевіч і скончыў. Пасля паступіў на паскораныя курсы Пінскага падлікова- крэдытнага тэхнікума. А праз паўтара года стаў працаваць начальнікам крэдытнага аддзела Маладзечанскага філіяла Збербанка СССР. Чаму менавіта гэты горад? Таму, што бацькі пераехалі жыць у Маладзечна.

Праз некалькі гадоў прапанавалі ўзначаліць Клецкі раённы банк, а потым месцам яго пастаяннай працы на доўгі перыяд стаў Бела-

рускі рэспубліканскі банк Дзяржбанка СССР, які зараз з'яўляецца Нацыянальным банкам.

У 1964 годзе Багданкевіч з адзнакай закончыў Усесаюзны завочны фінансава-эканамічны інстытут па спецыяльнасці «Фінансы і крэдыт» — знакаміты МФЭІ. Прычым вучыўся там, як кажуць, «без балды». Ён лічыць амаль лепшай формай навучання саманавучанне, калі чалавек сам атрымлівае інфармацыю з першых крыніц. У 1978 годзе Багданкевіч абараніў кандыдацкую дысертацыю, а ў 1991 — доктарскую, якую, дарэчы, менавіта як доктарскую не пісаў. Новае вучонае званне яму далі па сукупнасці апублікаванага.

У 1981 годзе Станіслава Антонавіча прызначылі загадчыкам кафедры грашовага абароту і крэдытаў Беларускага інстытута народнай гаспадаркі. Прапрацаваў там дзесяць гадоў і ў 1991 стаў старшынёй праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь. Цікава, як адбылося само прызначэнне.

Калі Беларусь стала суверэннай, тагачасныя кіраўнікі краіны чамусьці паехалі шукаць галоўнага эканаміста Беларусі ў Маскву. Там вельмі здзівіліся, бо самі хацелі забраць да сябе Багданкевіча. Станіслава Антонавіча паклікалі да Мікалая Дземянцея, дзе той і прапанаваў яму ўзначаліць Нацбанк. Як жартуе сам Багданкевіч, гэта зрабілі не дэмакраты, а партакраты. Ён увогуле вельмі любіць жартаваць.

Са сваім трэцім сынам Паўлам, які нарадзіўся 25 жніўня 1996 года, на дачы ён рые ямы. Суседзі пытаюцца, што гэта будзе, а Станіслаў Антонавіч адказвае: «Жадаем дабрацца да цэнтра зямлі...»

Каб адразу ж перапыніць усе магчымыя гутаркі і плёткі наконт дзяцей і жонак Багданкевіча, крыху закрану і гэту тэму. Так, Багданкевіч ажаніўся другі раз. Першая яго жонка Таццяна вельмі рана памерла ад цяжкай хваробы. Ад яе ў Багданкевіча два сыны — Эдуард і Антон. Эдуард з'яўляўся адным з саўладальнікаў сумна вядомай фірмы «Піяск». Той самай, якую спачатку разарылі, а потым сказалі, што ніякага крыміналу не было.

Пасля смерці Таццяны Багданкевіч пяць гадоў не жаніўся. Сваю другую жонку — Вольгу Аляксандраўну Шыбко — ён ведаў яшчэ па наргасу. На кафедры яна працавала асістэнткай.

Калі нарадзіўся Павел, Станіславу Антонавічу было ўжо 59 гадоў. І яшчэ дэталь: аднаго з унукаў назвалі ў гонар дзеда Станіславам. Атрымалася — Станіслаў Антонавіч Багданкевіч.



Калі Шушкевіч вырашыў прыняць удзел у прэзідэнцкіх выбарах 1994 года, на тэлеэкране БТ з'явіўся яго будучы магчымы прэм'ер-міністр Станіслаў Багданкевіч. Гэта было сігналам, што рэформы, якія нівеліраваў урад Кебіча, урэшце адбудуцца.

Атрымаўшы ўладу, Лукашэнка не стаў адразу ж прызначаць новага кіраўніка Нацбанка. І не таму, што апошняга прызначаў Вярхоўны Савет. Зразумела, што Багданкевіча з самага пачатку нельга было прылічыць да кола прэзідэнцкіх людзей. Але таксама зразумела і тое, што толькі ён у той час мог стрымаць інфляцыю.

Станіслаў Антонавіч на пасадзе главы Нацбанка пратрымаўся аж да 14 верасня 1995 года, калі яго месца заняла Тамара Віннікава. Што з гэтага атрымалася, усе ўбачылі напрыканцы наступнага года. Па тэмпах росту інфляцыі мы займалі адно з першых месцаў у свеце. Тое, як Багданкевіча здымалі з пасады, падобна на дрэнны дэтэктыў. Служба бяспекі прэзідэнта змяніла ахову ў Нацбанку. Увесь Мінск «гудзеў», што Багданкевіч раптоўна знік, а ён у той час адпачываў у кабінеце Чыгіра.

Без якіх-небудзь цяжкасцей Станіслаў Антонавіч Багданкевіч стаў дэпутатам Вярхоўнага Савета. Што, на мой погляд, было нечаканым для ўлады. На былога банкіра «вешалі ўсіх сабак», знішчылі фірму яго сына — а тут такі пракол. Тлумачыцца ўсё вельмі проста. У той час не толькі гаварылі пра «элегантныя перамогі», але і лічылі галасы выбаршчыкаў.

Багданкевіч быў адным з кандыдатаў на пасаду старшыні Вярхоўнага Савета, але асаблівай прагі да ўлады ў яго не было. Гэта стала відавочна, калі ў 2000 годзе ён саступіў сваё крэсла рэальнага кіраўніка Аб'яднанай грамадзянскай партыі маладому Анатолю Лябедзьку.

У парламенце Багданкевіч узначальваў фракцыю «Грамадскае дзеянне», а ў лютым 1998 года стаў намеснікам сфармаванага апазіцыяй Нацыянальнага выканаўчага камітэта.

У 2002 годзе Багданкевіча зноў паклікалі ў Нацбанк, дзе абмяркоўвалася пытанне ўвядзення адзінай з Расіяй валюты. Багданкевіч яшчэ раз агучыў тое, чаго ён прытрымліваўся ўсё жыццё.

Невыпадкова Лукашэнка тады назваў яго «разумным чалавекам з апазіцыі». І невыпадкова, што прозвішча Багданкевіча ёсць у энцыклапедыі, што зараз выдаецца. Пакуль адзінага з апазіцыянераў.

# ВАСІЛЬ ЛЯВОНАЎ — АПАЛЬНЫ МІНІСТР



**Падрыхтавана да друку 06.01.08**

*Прызнаюся, калі пачуў, што пасля вызвалення з турмы Васіль Лявонаў паехаў у ААЭ на месяц адпачыць, думаў: ён больш не вернецца. У Аб'яднаных Арабскіх Эміратах жыве яго малодшая дачка Зоя з мужам-бізнесменам. Пасля таго, што адбылося, Васіль Севасцьянавіч меў на гэта і права, і падставы. Аднак я памыліўся. І гэта памылка была вельмі прыемнай.*

Васіль Севасцьянавіч Лявонаў нарадзіўся 16 красавіка 1938 года ў вёсцы Дубеяц Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Чарнобыльская зона. Зараз, лічы, вёскі больш няма. Няма малой радзімы. Бацька Васіля загінуў на вайне, таму гадавала будучага сакратара абкама КПБ, міністра сельскай гаспадаркі і харчавання адна маці. І вуліца. Калі я рабіў кнігу «Лёсы», Лявонаў успамінаў: «Старэйшыя прымушалі паліць, інакш — у зубы. Пасля першай-другой папяросы выцягвала душу, пасля трэцяй — ужо прызвычайваўся».

Пасля школы паехаў паступаць у Горацкую сельгасакадэмію, але ў той год увялі льготы для «армейцев и производственников». У Лявонава не было ніякіх шансаў. З прыёмнай камісіі ён забраў дакументы пасля першага ж экзамену па хіміі, дзе пры выдатным адказе нечакана атрымаў «добра» і пад настрой перакінуў іх у Шадрынскае вышэйшае ваеннае вучылішча. Але за месяц жыцця ў казарме да першага экзамену «перагарэў» і вярнуўся дадому. Стаў працаваць цесляром у калгасе «Кранштадт». Прывёў да ладу хату, усё адрамантаваў і паехаў у горад Шахты Данецкай вобласці зарабляць грошы. Шахту Чырвонагвардзейскую 12/13БІС запомніў на ўсё жыццё.



Праз год вярнуўся і паступіў у БІМСГ (Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі). Лявонаў быў студэнтам, як кажуць, «пры грошах», нават купіў маці карову. Я, напрыклад, больш такіх студэнтаў не ведаю.

Калі запрашаў сваю будучую жонку Антаніну Міхайлаўну ў тэатр, то квіткі купляў у партэр. 12 сакавіка 1963 года яны пабраліся шлюбам. За час сумеснага жыцця змянілі 24 месцы жыхарства.

Антаніна Міхайлаўна нарадзіла трох дачок — Таццяну, Святлану і Зою. Мабыць, гэтыя жанчыны і дапамаглі Лявонаву асіліць усе выпрабаванні лёсу. Мабыць, пра такіх, як яны, і сказаў французскі пісьменнік Луі Арагон: «Жанчына — будучыня мужчыны».

У 1964 годзе Лявонаў скончыў БІМСГ. Першым працоўным месцам стала пасада інспектара-арганізатара па механізацыі Краснапольскага вытворчага ўпраўлення. Праз некалькі месяцаў яго прызначылі інжынерам-механікам саўгаса «Клімавіцкі», а праз тры гады — дырэктарам саўгаса «Міласлаўскі». У 1972 годзе Лявонава зрабілі першым намеснікам начальніка Магілёўскага абласнога ўпраўлення сельскай гаспадаркі, а ў 1975 выбралі старшынёй Горацкага райвыканкама.

У 1975 годзе пачынаецца яго партыйная кар'ера. Спачатку Лявонаў становіцца першым сакратаром Горацкага райкама КПБ, у 1979 — сакратаром, а ў 1982 — першым сакратаром Магілёўскага абкама КПБ. Па савецкіх стандартах — цар, бог і воінскі начальнік адной шостай тэрыторыі Беларусі.

Але ў 1989 годзе запахла пераменамі. За дэпутацкія месцы кампартыі ўжо прыходзілася змагацца ўсур'ёз. На адной з выбарчых акруг сышліся дырэктар саўгаса Лукашэнка і прэм'ер Кебіч. Перамога апошняга была вынікам працы перш за ўсё Лявонава, які кінуў сваю выбарчую акругу, дзе таксама балатаваўся, і ўсе сілы накіраваў на дапамогу Кебічу.

А праз год Васіль Севасцьянавіч, адзіны з сакратароў абкамаў КПБ, у той самай акрузе, дзе пацярпеў паразу на выбарах у саюзны парламент, быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання. Таго самага, дзе пазней Лукашэнка назаве яго сваім настаўнікам. Тады ж Лявонаў па асабістай ініцыятыве саступіў крэсла ў абкаме КПБ Вадзіму Папову і стаў кіраўніком Магілёўскага аблвыканкама. Нагадаю, што адбылося гэта амаль за год да жнівеньскага путчу 1991 года.

Сам путч Васіль Севасцьянавіч сустрэў у Германіі, дзе амаль тры гады працаваў гандлёвым прадстаўніком Беларусі. У Германію ён ехаў чалавекам, які стаў сумнявацца ў перавагах савецкай формы гаспадарання, а вярнуўся адтуль перакананым «рыначнікам». І ўсімі сіламі імкнуўся рэалізаваць рэформы на практыцы, хаця б у адной галіне — сельскай гаспадарцы. Па дакладна распрацаваных пад яго ж кіраўніцтвам праграме і плану. Па сутнасці, ён быў першым са «старой» і «новай» наменклатуры, хто ўсур'ёз узяўся за рэформы. На жаль, ці не адзіным. І быў спынены. Але паспеў надаць ім той стартавы штуршок, які надзвычай актуалізаваўся ў сённяшняй сітуацыі, якая з відавочнасцю патрабуе сістэмных пераўтварэнняў.

Перш за ўсё, па ініцыятыве Лявонава, пры падтрымцы тагачаснага прэм'ера Міхаіла Чыгіра ў лістападзе 1994 года сталі больш рэальнымі цэны практычна на ўсе прадукты харчавання. Цікава, што з Сочы Лукашэнка вярнуўся ў Мінск 11 лістапада 1994 года, але чапаць тады Лявонава не стаў. Разумеў яго ролю ў выратаванні беларускай эканомікі. Васіля Севасцьянавіча арыштавалі толькі 11 лістапада 1997 года. Роўна праз тры гады — звычайнае супадзенне. Тэлекарцінку, як міністра арыштоўваюць у службовым кабінеце і надзяваюць наручнікі, бачылі ўсе. Шок.

Першапачаткова Лявонава абвінавацілі ў падрыхтоўцы забойства магілёўскага кантралёра Яўгена Мікалуцкага. Маўляў, той дзейнічаў сумесна са Старавойтавым. Аднак асудзілі Лявонава за іншае — за хабар у выглядзе гарнітура з лазы, за які быццам бы не было заплачана. У суд з 220 сведак не выклікалі толькі аднаго, але самага галоўнага — Васіля Канстанцінавіча Старавойтава, на прадпрыемстве якога і быў выраблены той самы гарнітур.

Калісьці сумна вядомы сталінскі пракурор Андрэй Вышынскі лічыў царыцай усіх доказаў прызнанне віны самога «вінаватага». У справе Лявонава следства і суд абмежаваліся ўсяго толькі пратаколам допыту Старавойтава. Нават на суд прывозіць яго не сталі. Мабыць, нехта баяўся, што там той скажа нешта непажаданае. Помніцца, пракурор запрасіў 8 гадоў зняволення Лявонаву, а суд «даў» толькі чатыры.

Дарэчы, сам суд цягнуўся звыш пяці месяцаў і «забойства» ператварылася ў 115 долараў нанесеных дзяржаве страт. Прысуд прагучаў 14 студзеня 2000 года, але вызвалілі Лявонава праз 9 месяцаў па амністыі і толькі тады, калі прыйшла тэлеграма пра смерць роднага брата Івана.



Пра адносіны паміж Лявонавым і Старавойтавым трэба сказаць асобна. Па сутнасці апошні, як кажуць, «здаў» свайго міністра, і было б цалкам лагічна, калі б той змяніў сваё стаўленне да двойчы Героя Сацыялістычнай працы. Аднак гэтага не адбылося. Наадварот, Васіль Севасцьянавіч неаднаразова падкрэсліваў, што, як і раней, ставіцца да Старавойтава з вялікай павагай. І гэта — шчыра, ад душы, а не для піяру. Лявонаў проста дараваў Старавойтаву тую слабасць, добра разумеючы, як таго былі павінны «ламаць». Прычым, я ўпэўнены, што многім іншым такая высакароднасць не пагражае.

Рэч не пра помслівасць. І не пра мяккацеласць. Калі патрэбна, Васіль Севасцьянавіч бывае даволі жорсткім. Я, напрыклад, быў сведкам, як Лявонаў «распекал» журналіста А. Гуляева. Быццам бы перад ім хлопчык, а не чалавек, які пражыў амаль палову стагоддзя. Гэта не ёсць добра. Свайго роду радзімая пляма стылю кіраўніцтва савецкай адміністрацыйнай школы. Справа тут яшчэ і ў жаданні дамагчыся неабходных дэмакратычных перамен у нашай краіне. А яны магчымы толькі тады, калі ёсць яснасць адносінаў, межаў абавязкаў і адказнасці.

Узгадваецца вельмі непрыгожы выпадак з прэзідэнцкіх выбараў 2001 года. Выбарчым штабам Уладзіміра Ганчарыка кіравала Валянціна Палевікова. А калі Ганчарык стаў адзіным кандыдатам у прэзідэнты ад апазіцыі, ён прапанаваў на гэту пасаду Васіля Лявонава. Палевікова пра гэта ведала. Стварылася сітуацыя падвойнага кіраўніцтва, што было не на карысць справе.

Яшчэ адзін выпадак. Добра памятаю, што падчас адной з прэс-канферэнцый менавіта Лявонаў перадаў Ганчарыку проста ўнікальныя звесткі пра зніклых палітыкаў, аднак апошні такой «бомбай» належным чынам не скарыстаўся.

Удзел Лявонава ў тых прэзідэнцкіх выбарах бадай што самая значная старонка яго дзейнасці як апазіцыйнага палітыка. Яго ўплыў у вызначэнні канфігурацыі апазіцыйнага блока, стратэгіі і тактыкі кампаніі дастаткова важны. Па ацэнках адных — з перавагай пазітыўных вынікаў, паводле другіх — наадварот, негатыўных. Але тут я хацеў бы падкрэсліць іншае: Лявонаў ніколі ні ў адной з жыццёвых сітуацый не ўспрымаў дваістасці ў выбары пазіцыі і адкрыта вызначыў сваё месца. Больш таго, ён на той час аказаўся першым, і ці не адзіным са старой наменклатуры, хто не толькі зразумеў, але і на практыцы імкнуўся зладзіць дыялог паміж наменклатурай і апа-

зіцыяй. Як неабходнай перадумовы перамен. На жаль, бакі, найперш наменклатурны, на той час да гэтага былі не гатовыя. Як, на жаль, і сёння.

У 2002 годзе Лявонаў стварыў і ўзначаліў рэгіянальны фонд «За новую Беларусь». Зарэгістравалі яго ў Расіі. Не таму, што фонд займаўся расійска-беларускімі адносінамі. Проста айчыннае Міністэрства юстыцыі рабіць гэта адмовілася. «Займаўся», таму што не займаецца зараз. На жаль, у сённяшнім кіраўніцтве Расіі вырашылі, што займацца Беларуссю больш не трэба.

Сказаць, што ў гэты момант Лявонаў робіць нейкі бізнес у Расіі, было б не вельмі дакладна. Ён па ўзросту даўно ўжо не працуе. А расійскіх бізнесменаў проста кансультуе, бо ведамі і вопытам у галіне сельскай гаспадаркі валодае сапраўды ўнікальнымі.

# УЛАДЗІМІР ГАНЧАРЫК — АДЗІНЫ КАНДЫДАТ



**Падрыхтавана да друку 12.01.08**

*Не згодны з тымі, хто лічыць, што ў паразе 2001 года вінаваты толькі Ганчарык і што лёс змагання з дыктатурай вырашала наменклатура, якая адхіснулася ад дэмакратычных перамен дзеля самазахавання. Па-першае, не толькі яна. Па-другое, у беларускіх умовах без пэўнай, тайнай ці адкрытай, падтрымкі наменклатуры ніякая перамога апанентаў рэжыму немагчыма ўвогуле. У 2006 годзе, як мы добра памятаем, апазіцыя вяла кампанію абсалютна самастойна, па сутнасці, без усялякіх кантактаў з наменклатурай. Вынікі — вядомыя. Упэўнены, што дамагчыся поспеху можна толькі разам.*

Біяграфію Уладзіміра Іванавіча Ганчарыка традыцыйна пачну з даты нараджэння. Тым больш, што гэты момант вельмі цікавы. Дакладна вядома, што нарадзіўся ён у канцы красавіка 1940 года ў вёсцы Аўгустова, што ў пяці кіламетрах ад Лагойска. А вось якога дня? Дакументы афармлялі пасля вайны, і бацькі Валодзі не памяталі, у які дзень з'явілася дзіця. Разглядаліся розныя варыянты, быў нават «1 мая», але ўрэшце спыніліся на 29 красавіка, хаця Ганчарык па гэты дзень дакладна не ведае, калі прагучаў яго першы крык.

З дзіцячых успамінаў Уладзіміра Іванавіча спынюся на адным эпізодзе, настолькі прыкметным, што запомніўся на ўсё жыццё, а мо і паўплываў на яго. Ва ўсякім выпадку, пра яго Ганчарык расказваў мне з асаблівым імпэтам.

Падчас вайны вельмі вялікім дэфіцытам былі звычайныя іголкі. Сям'я Ганчарыкаў тады жыла ў зямлянцы. Недзе маці дастала іголку, а маленькаму хлопчыку, які потым стане прафсаюзным босам, за-

хацелася ўвесці ў яе нітку. Іголка выслізнула з дзіцячых пальчыкаў. Адшукаць не ўдалося. Дасталася Уладзіку даволі моцна.

Пачатковая школа была ў роднай вёсцы, а сярэдняя — толькі ў Лагойску. Сёння цяжка ўявіць, але, каб атрымаць атэстат аб сярэдняй адукацыі, Ганчарык праходзіў пехам штодзённа ў два бакі дзесяць кіламетраў. Скончыў школу з «сярэбраным» медалём, што азначае на ўсе пяцёркі і адну чацвёрку, якую паставілі за сачыненне па тэме, нейкім чынам звязанай з камуністычнай партыяй. Чорт яго тузануў (словы самога Уладзіміра Іванавіча) напісаць «камуністычная» з вялікай літары. Мабыць, гэта адбылося ад вялікай павагі, але памылка ёсць памылка.

Пасля школы паступіў на аддзяленне эканомікі і сельскай гаспадаркі Інстытута народнай гаспадаркі. На апошнім курсе ажаніўся. З жонкай Ліляй яму давялося мяняць месца жыхарства дзевяць разоў, што было абумоўлена партыйнай кар'ерай.

У 1961 годзе скончыў інстытут з чырвоным дыпломам і пачаў працаваць эканамістам, а потым намеснікам галоўнага бухгалтара саўгаса «10 гадоў БССР» у Любанскім раёне Мінскай вобласці.

У 1965 годзе яму, маладому спецыялісту, прапанавалі перайсці на камсамольскую работу. І пайшоў па прыступках: першы сакратар Любанскага райкама ЛКСМБ, інструктар Мінскага абкама КПБ, другі сакратар Дзяржынскага райкама КПБ, першы сакратар Чэрвеньскага райкама, намеснік загадчыка аддзела ЦК КПБ, другі сакратар Магілёўскага абкама КПБ. Варыянт, як кажуць, тыповы для тых часоў.

Спынюся на двух момантах.

У 1975 годзе Уладзімір Ганчарык паступіў у аспірантуру Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС, якую скончыў праз год з абаронай кандыдацкай дысертацыі. На размеркаванні яго спыталі пра апаратыўную работу. Мільганула думка пра КДБ, але высветлілася, што гутарка ідзе пра пасаду першага сакратара Чэрвеньскага райкама КПБ, на якой ён адпрацаваў рэкордны тэрмін — больш за шэсць гадоў.

Калі Ганчарыка накіравалі другім сакратаром Магілёўскага абкама КПБ, першым там быў знакаміты Васіль Севасцьянавіч Ляўвонаў. У Магілёве яны добра пазнаёміліся. Жылі ў адным доме, часта вечарамі разам гулялі, пра ўсё раіліся.

Мабыць, трэба крыху спыніцца і на «дэпутацтве». «Крыху» — бо гэта старонка ў палітычнай біяграфіі Уладзіміра Іванавіча не была



асабліва адметнай. Ён быў дэпутатам апошняга Вярхоўнага Савета БССР, куды па ўсіх акругах абіралі на безальтэрнатыўнай аснове адзінага кандыдата ад «непарушнага блока партыі і народа». Кандыдатаў жа ў дэпутаты зацвярджалі ў ЦК КПБ. Другі сакратар абкама па вызначэнню мусіў быць у гэтым спісе. Па наменклатурнай жа схеме, хаця і больш складанай, ён прайшоў і ў дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР.

А вось за дэпутацкае месца ў Вярхоўным Савеце Беларусі 13-га склікання давялося пазмагацца. Але ніколі і нідзе ў дэпутацкім корпусе Ганчарык не прэтэндаваў на першыя ролі.

У 1986 годзе Уладзімір Ганчарык стаў старшынёй Рэспубліканскага савета прафсаюзаў, а пазней — старшынёй ФПБ. Як вядома, прафсаюзная работа ў савецкія часы заўжды асацыявалася з нейкай палітычнай ссылкай, таму прапанова Слюнькова ўзначаліць прафсаюзы была ўспрынятая Ганчарыкам без асаблівага задавальнення. Якая ссылка, калі яму толькі 44 гады! Асобныя кіраўнікі кампартыі добра разумелі, што патрэбны нейкія рэформы, імкнуліся і нават спрабавалі іх распачаць, але гэта не выратавала КПСС. Ганчарык — адзін з прыкладаў няўдалых спроб рэфармавання. Аднак справа была не толькі ў ім. Немагчыма рэфармаваць тое, што памірае. Магчыма толькі прадоўжыць агонію. Хаця ёсць і іншае меркаванне ў асяродку ініцыятараў стварэння новых незалежных прафсаюзаў: Ганчарыку трэба было дзейнічаць больш рашуча і паскорыць смерць прынятай ім савецкай мадэлі прафсаюзаў — ФПБ, і на яе праху стварыць сапраўды незалежнае ад уладаў аб'яднанне прафсаюзаў, хай сабе і цаной страты дзвюх трацін фармальных членаў былой федэрацыі. Але тая траціна, што засталася, была б сапраўды моцнай і ўплывовай сілай, сапраўдным абаронцам інтарэсаў працоўных. І тады агульны ход падзей мог быць зусім іншым.

Новая ўлада, што сфармавалася пасля прэзідэнцкіх выбараў 1994 года, не стала вітаць новыя тэндэнцыі ў прафсаюзным руху. Наадварот, імкнулася не толькі захаваць былыя стэрэатыпы, але і ўзяць усё, што адбываецца, пад свой кантроль. Дэманстрацыя і статысячны мітынг 1991 года былі яшчэ свежымі на памяці, нагадвалі, якімі могуць быць пратэсты рабочых. І таму любыя зрухі ў адпаведным накірунку рашуча перасякаліся.

Нагадаю толькі адзін выпадак — страйк работнікаў метрапалітэна ў 1995 годзе. Усе спробы знайсці якую-небудзь праўду тады былі

жорстка спынены, лідары страцілі рабочае месца. Уладзе былі патрэбны паслухмяныя аб'яднанні рабочых і сялян. Таму, калі падчас першага так званага Усебеларускага сходу ў прэзідыуме Ганчарык аказаўся адзіным, хто прагаласаваў супраць «усенароднай» падтрымкі, яму гэтага не даравалі.

У 1999 годзе Ганчарык адмовіўся прымаць удзел у «віртуальных» прэзідэнцкіх выбарах Ганчара, аднак у 2001 годзе стаў адзіным кандыдатам ад апазіцыі на самых што ні ёсць рэальных прэзідэнцкіх выбарах. Дарэчы, сугучнасць прозвішчаў «Ганчарык» і «Ганчар» звяла ў зман даволі многіх. Людзі не разумелі, як можна адначасова быць зніклым і хацець заняць першую ў краіне пасаду. Памылка прымітыўная, але чамусьці чуткі на гэты конт узнікалі пастаянна, быццам іх хтосьці спецыяльна каталізаваў...

Я не буду падрабязна спыняцца на выбарах 2001 года. Скажу толькі, што заявы, якія прагучалі 7 жніўня 2001 года, калі ўсе бакі ўрэшце пагадзіліся на адзінага кандыдата, пра Ганчарыка, як магчымага беларускага Каштуніцу, у некаторых выклікалі іранічныя ўсмешкі.

Перш за ўсё ў тых, хто сам хацеў быць адзіным кандыдатам ад апазіцыі. Нагадаю, што на гэтую ролю больш за іншых прэтэндавалі Сямён Домаш, Сяргей Калякін, Павел Казлоўскі і Міхаіл Чыгір. Перамовы, якія ішлі паміж гэтымі палітыкамі, былі абцяжараны не столькі прынцыповымі пытаннямі, колькі шматлікімі дробнымі і асабістымі. І невыпадкова, што многія не разглядалі нікога з кандыдатаў сур'ёзна. Напрыклад, у той жа Расіі, дзе пэўныя палітычныя колы пасля некаторай паўзы вырашылі зрабіць стаўку на дзеючага прэзідэнта Беларусі.

Разам з Ганчарыкам атрымлівалася «пяцёрка», аднак усе разумелі, што далей павінен ісці толькі адзін. Нават была прызначана дата вылучэння апазіцыяй адзінага кандыдата — 17 ліпеня. Аднак дамовіцца ў абвешчаны тэрмін не атрымалася. «Адзіным» Ганчарык стаў значна пазней. Але, па вялікім рахунку, намінальна, таму што рэальна тыя, хто падтрымліваў Домаша, працаваць на Ганчарыка не сталі. Усе пяць калон мусілі аб'яднацца ў адну, і не павінна было існаваць так званай «пятай калоны». Таму я з вялікай большасці падтрымліваю крок Аляксандра Казуліна да самастойнасці на наступных выбарах. Досвед 2001 года яскрава сведчыць, што немагчыма аб'яднаць тых, хто не жадае аб'яднацца.



Пра тое, як працаваў штаб Ганчарыка, можна распавядаць даволі доўга, але я спыню вашу ўвагу толькі на адным прыкладзе. Памятаю, што газета «Дзень», якую я тады ўзначальваў, рабіла спецвыпуск пра адзінага кандыдата. Зразумела, што «Беларускі Дом друку», паслугамі якога мы карысталіся, выконваць замову адмовіўся. Тады я дамовіўся з друкарняй «Мэджык». Нягледзячы на тое, што яны былі пад даволі жорсткім кантролем, агульную мову знайсці атрымалася. Але тут узнікла зусім нечаканая перашкода: няма добрага фотаздымка самога адзінага кандыдата. Атрымаць яго ўдалося толькі праз дзень. Надрукавалі. Дамовіліся, што наклад будуць забіраць самі прадстаўнікі штаба.

За тры дні да выбараў тэлефануюць з «Мэджыка» з просьбай тэрмінова забраць газету, бо з-за цеснаты ад новай прадукцыі, яе былі вымушаны вынесці на вуліцу, а там пачынаецца дождж. Яшчэ раз падкрэслю, што было гэта за тры дні да прэзідэнцкіх выбараў...

Пасля выбараў 2001 года Ганчарык сышоў з ФПБ і з'ехаў у Маскву, дзе пэўны час працаваў у Выканкаме Усеагульнай канфедэрацыі прафсаюзаў. Потым дапамагаў бізнесменам. Зараз — пенсіянер. І толькі час ад часу падключаецца да той ці іншай палітычнай імпрэзы.

# СЯМЁН ДОМАШ — СТРАЧАНЫЯ МАГЧЫМАСЦІ



**Падрыхтавана да друку 22.01.08**

*Калі ў 2006 годзе Сямён Мікалаевіч Домаш пачаў працаваць генеральным дырэктарам рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Гродзенскае вытворчае гарбарнае аб'яднанне», многія аднесліся да гэтага вельмі негатыўна. Маўляў, «зламалі». Мне ж больш падабаецца пазіцыя другога ўдзельніка падзей 2001 Уладзіміра Ганчарыка — чалавеку трэба неяк жыць.*

Сямён Мікалаевіч Домаш нарадзіўся 2 студзеня 1950 года ў вёсцы Тумашы Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. На момант «зломy» яму было толькі 56 гадоў. Узрост не пенсійны, таму на словы пра «здраду дэмакратычным прынцыпам» я заўсёды прыгадваю гэты факт і прапаную суразмоўцу ўявіць сябе на яго месцы. І пакуль яшчэ не бачыў нікога, хто б у адказ працягваў настойваць на палітычных стэрэатыпах.

У 1969 годзе Домаш скончыў Бабруйскі аўтатрактарны тэхнікум і пачаў працаваць на астравецкай аўтабазе № 4. Спачатку год механікам, затым амаль чатыры гады інжынерам і тры дырэктарам. У 1977 годзе пераязджае ў Гродна — дырэктарам аўтакамбіната № 1, потым загадчыкам прамыслова-транспартнага аддзела Гродзенскага гаркама КПБ, другім сакратаром Кастрычніцкага райкама.

Акрамя тэхнікума Домаш скончыў яшчэ Вышэйшую партыйную школу (1981 г.) і Беларускі інстытут народнай гаспадаркі (1989 г.).

Як было заведзена ў тыя гады, партыйная старонка ў кар'ерным росце мянялася на «савецкую» і наадварот. У 1987 годзе Сямёна Домаша абралі (альбо прызначылі) старшынёй Лідскага гарвыканкама. Знакамітае піва ён «піў» тры гады, а потым зноў вярнуўся ў



Гродна, дзе з чэрвеня 1990 года па кастрычнік 1993 узначальваў выканкам і гарадскі Савет народных дэпутатаў.

Гэта ўжо былі гады кардынальных сацыяльных і палітычных перамен. Змена эпох, якая патрабавала перамен і ў чалавеку. Ці глыбінных, ці знешніх, гэта значыць — прыстасавання. Большасць наменклатуры абачліва выбрала апошні варыянт. Домаш, хаця і не адразу, першы. Але не змог трымацца яго да канца. Бо час зноў павярнуў назад. У гэтым заключалася яго ўнутраная драма. Ды ці толькі яго аднаго. Да таго ж, гэтая драма на момант адказнага выбару далейшага шляху (пасля паразы на прэзідэнцкіх выбарах) — у адкрытую апазіцыю ці ў цень грамадскага жыцця — сышлася па часе з інфарктам.

21 кастрычніка 1993 года Домаш замяніў загінуўшага Зміцера Арцыменю на пасадзе старшыні Гродзенскага аблвыканкама і аўтаматычна стаў кіраваць народнымі выбранікамі вобласці, бо тады гэтыя пасады яшчэ не былі падзелены.

Пасля першых прэзідэнцкіх выбараў, дакладней 12 снежня 1994 года, згодна з загадам прэзідэнта № 257 на месца Домаша старшынёй Гродзенскага абласнога выканкама быў прызначаны будучы Герой Беларусі Аляксандр Дубко. Каларытны чалавек, які пайшоў з жыцця абсалютна нечакана.

С.М. Домаш яшчэ два гады ўзначальваў Гродзенскі абласны Савет дэпутатаў. Ён быў шчырым прыхільнікам пашырэння паўнамоцтваў мясцовых органаў улады, узмацнення іх ролі ў тэрытарыяльным развіцці і функцыянаванні галінаў народнай гаспадаркі і таму вельмі хутка стаў адным з самых вядомых рэгіянальшчыкаў.

Менавіта Домаш ініцыяваў стварэнне Асацыяцыі пароднёных еўрапейскіх гарадоў і еўрарэгіёна «Нёман». Адным з першых кіраўнікоў перайшоў на беларускую мову. Гэтага хапіла, каб і ўвесь апарат зрабіў тое самае, без усялякага прымусу.

Сямён Мікалаевіч Домаш быў дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га і 13-га скліканняў. Апошні і стаў найбольш адметнай старонкай палітычнай біяграфіі Домаша. У траўні 1996 года яго выбралі членам прэзідыума ВС, дзе ён курыраваў работу пастаяннай камісіі па дзяржаўным будаўніцтве і мясцовым самакіраванні, ажыццяўляючы сувязь паміж мясцовымі органамі самакіравання і беларускай дыяспарай.

Падчас лістападаўскага рэферэндуму 1996 года Домаш адкрыта выступаў супраць палітыкі Лукашэнкі, быў сярод 70 дэпутатаў, якія

ініцыявалі імпічмент і напісалі адпаведны ліст у Канстытуцыйны суд. Домаш стаў адзіным рэгіянальным лідарам, які публічна перайшоў у апазіцыю да прэзідэнта. Пасля паразы праціўнікаў узмацнення і пашырэння прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Сямён Мікалаевіч вярнуўся ў Гродна.

З 1997 года па 2002 ўзначальваў Гродзенскі абласны Каардынацыйны камітэт дэмакратычных сіл «Гродзенская ініцыятыва», у які ўвайшлі 34 грамадскія, палітычныя і прафсаюзныя арганізацыі Гродзеншчыны. Па яго ініцыятыве ў маі 2000 года створана Каардынацыйная рада «Рэгіянальная Беларусь».

Далей былі прэзідэнцкія выбары 2001 года. З ініцыятывай прапанаваць свайго кандыдата выступілі рэгіянальныя лідары грамадскіх абласных аб'яднанняў — каардынатары так званых рэсурсавых цэнтраў, найперш Віктар Карніенка і Аляксандр Мілінкевіч. У пэўным сэнсе насуперак памкненням Каардынацыйнай рады дэмакратычных сіл вядучую ролю ў якіх адыгрывалі партыі.

Насуперак, але і на апераджэнне, бо Рада ніяк не магла вызначыцца са сваім адзіным кандыдатам. Федэрацыя прафсаюзаў вылучыла свайго кандыдата — Уладзіміра Ганчарыка. Пайшлі і іншыя. Так і ўтварылася тая самая знакамітая пяцёрка, якая потым, пасля доўгай чарады пасяджэнняў рознага фармату, адкрытых спрэчак і закулісных гульняў, вымушана была сам-насам, за закрытымі дзвярыма, вызначацца з адзіным. Сышліся на Ганчарыку.

Выбарчы штаб Сямёна Домаша ўзначаліў Аляксандр Мілінкевіч. 18 чэрвеня 2001 года ЦВК Беларусі зарэгістраваў ініцыятыўную групу Домаша ў складзе 3 695 чалавек. Узначаліў яе малады і амбіцыйны юрыст, член АГП Яўген Лабановіч, які ўжо паспеў папрацаваць на Віктара Ганчара на так званых віртуальных выбарах.

14 жніўня 2001 года ЦВК прызнала сапраўднымі 160 077 подпісаў у падтрымку кандыдатуры Домаша. Аднак ужо 22 жніўня раніцай ён сабраў прэс-канферэнцыю, дзе на вачах у журналістаў падпісаў заяву ў Цэнтральную камісію Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэферэндумаў з просьбай вызваліць яго ад удзелу ў прэзідэнцкай гонцы ў сувязі з тым, што была дасягнута дамоўленасць аб падтрымцы адзінага кандыдата, якім стаў Уладзімір Ганчарык.

Мне пашанцавала быць на той прэс-канферэнцыі. Добра памятаю, што асаблівай радасці ў вачах сяброў штаба Сямёна Мікалаевіча не было. І, як цяпер ужо вядома, і быць не магло, бо ішоў ён на тое пасяджэнне з пасяджэння штаба з наказам канчатковага рашэння самастойна не прымаць. У крайнім выпадку папрасіць кароткі, на паўгадзіны-гадзіну, тайм-аўт, каб вярнуцца ў штаб параіцца. Прыхільнікаў рашэння не здымацца ні ў якім разе і рухацца да канца асобнай калонай у камандзе Домаша было ці не болей, чым прыхільнікаў пайсці на саступкі.



Многія, і не толькі з былой каманды Домаша, але і аналітыкі, да гэтага часу лічаць, што трэба было ісці да канца. Дынаміка рэйтынгу, энергічная каманда, аптымальнае спалучэнне іміджу рэфарматара з наменклатуры, гаспадарніка і рэгіянальнага палітыка, які ведае праблемы не толькі сталіцы, працавалі на Домаша.

З адлегласці сённяшняга дня бачыцца відавочным, што перамагчы яму б не далі. Але шанс стаць і застацца нацыянальным лідарам, а значыць бясспрэчным адзіным кандыдатам на наступныя выбары ў яго быў немалы. Ва ўсякім разе дынаміку і вастрыню той выбарчай кампаніі ўдзел Домаша, удзел двух дэмакратычных кандыдатаў, ды яшчэ б ва ўзаемадзеянні, гэта б надало — лічаць многія. І падмацоўваюць сваё меркаванне спасылкай на прыклад Аляксандра Казуліна пазнейшай пары.

Ва ўсякім разе зразумела, чаму і потым не было сапраўды супольнай працы прыхільнікаў Домаша на Ганчарыка. Але нават і пасля гэтага кардынальнага кроку згодна з сацыялагічнымі даследаваннямі лабараторыі «Новак» асабісты рэйтынг былога гарадзенскага губернатара працягваў расці. І гэта невыпадкова: у апазіцыі з'явіўся новы твар.

Памятаю таксама, як піярыліся добрыя адносіны Домаша з Васілём Быкавым, да якога Сямён Мікалаевіч нават ездзіў у Фінляндыю, як падкрэслівалася сяброўства Домаша з сем'ямі Карпенкі і Кудзінава.

Калі я працаваў над гэтым нарысам, вырашыў пазваніць Валодзю Кудзінаву, які ў дадзены момант займаецца бізнесам у Крыме. Некалькі гадоў таму ён запрашаў мяне ў адзін з даволі вядомых на ўвесь былы СССР санаторый. У 2001 годзе Уладзімір Кудзінаў быў намеснікам кіраўніка выбарчага штаба Домаша. Ён расказаў, што падтрымлівае з Домашам добрыя адносіны, але пасля тых выбараў яны больш не размаўлялі і не бачыліся...

Тут, як кажуць, ніякія каментарыі не патрэбны.

Некаторыя лічаць, што адмаўленне ад удзелу ў прэзідэнцкай гонцы стала адной з прычын інфаркту. Не станем гэта дакладна сцвярджаць, але тое, што ў 2001 годзе С.М. Домаш страціў магчымасць стаць вельмі сур'ёзным палітычным апанентам Лукашэнкі — відавочна. На жаль, гэтую магчымасць ён страціў. Як і мы ўсе.

Тое, што пасля прэзідэнцкіх выбараў 2001 года Домаш сышоў з вялікай палітыкі, на мой погляд, абумоўлена не толькі небяспечнай хваробай. І сышоў не адразу. Ён яшчэ паспрабаваў стварыць грамадскі рух на базе аб'яднання існуючых. І спыніў спробы на этапе абмеркавання з рэгіянальнымі лідарамі самой ідэі. Пасля нарады, ці не апошняй у сваёй палітычнай кар'еры, якую арганізаваў у адной з кавярняў у Гродне. Адмовіўся ён і ад прапановы стаць лідарам адной з партый. Проста зразумеў, што сапраўдная барацьба і знаходжанне ў апазіцыйнай палітычнай тусоўцы — розныя рэчы.

Можа, таму прэтэнзіі Домаша на лідарства сталічная апазіцыя і сустрэла хаця і без асаблівага імпэту, аднак і без асаблівай варожасці. Большасць зразумела, што гэта той выпадак, калі лепш сябраваць, чым ваяваць. Яго папулярнасць сярод электарату была на карысць дэмакратычным сілам. У ліку першай сотні Домаш падпісаў «Хартыю'97». Яго абралі ў створаны апазіцыяй Нацыянальны выканаўчы камітэт, які быў так званым ценявым урадам.

Ён сыходзіў з палітычнай сцэны паступова, без гучных слоў і заяў. Але запомніўся. Свой унёсак у падрыхтоўку глебы да дэмакратычных пераменаў, якія непазбежна адбудуцца, рана ці позна, так ці інакш, бо гэта і ёсць неадольны гістарычны імператыў, Сямён Домаш зрабіў. І будучыя гісторыкі не абмінуць сваёй увагай гэты этап у жыццядзейнасці краіны і месца і ролю Домаша ў ім.

Сыход Домаша з палітыкі ў асабістае жыццё вымагае напісаць і аб такіх рэчах, аб якіх я звычайна не пішу. Думаю, многім будзе цікава даведацца, што Домаш з'яўляецца кандыдатам у майстры спорту па боксе. Яго жонка Зоя Фёдараўна працавала спецыялістам па кадрах Ленінскага аддзялення «Беларусбанка» ў Гродне. Старэйшага сына завуць Зміцер. Ён былы вайсковец, майстар спорту па плаванні, працаваў на сумесным беларуска-расійскім прадпрыемстве. Малодшы сын Аляксандр таксама займаўся спортам (плаваннем) і нават выканаў нарматыў кандыдата ў майстры спорту. Скончыў факультэт правазнаўства Гродзенскага ўніверсітэта, працаваў у банкаўскай галіне.

# ЮРЫЙ ХАДЫКА — ЛЕГЕНДА АДРАДЖЭННЯ



**Падрыхтавана да друку 01.02.08**

*Хадыка жыве непадалёку ад мяне. Часам я бачу, як ён з жонкай ідзе на Камароўку, што таксама знаходзіцца недалёка. Але гаворка пра іншае. Цяжка паверыць, што гэты спакойны і ціхі чалавек — адзін з самых актыўных дзеячаў беларускага адраджэнскага руху найноўшага часу. Поруч з Зянонам Пазьняком, Міхасём Ткачовым, ён адзін са стваральнікаў Беларускага народнага фронту яшчэ ў савецкі час. Легенда Беларускага Адраджэння.*

Вось эпізод, які калі-небудзь увойдзе ў падручнікі па гісторыі. Бо ён не толькі яркі сам па сабе, але і выбітны сваім знакавым сэнсам, увасабляе канец савецкай сістэмы ў Беларусі, хаця яна фармальна яшчэ праіснавала два гады.

Студзень 1989 года, стадыён «Дынама» да краёў запоўнены людзьмі. Мітынг, які ладзіць БНФ з дазволу і пры ўдзеле гарадскіх уладаў. Упершыню за ўсе савецкія дзесяцігоддзі. Ашаламленне і ўздым — так узгадваюць агульную атмасферу, што панавала на стадыёне, удзельнікі той падзеі. Прамоўцам ад БНФ — тысячагалосы гул і свіст ухвалення, прамоўцам ад уладаў — гул і свіст ганьбы. Тым больш, што новыя адраджэнцы дэманстравалі ўжо і новую, нязвыклую для савецкіх людзей, стылістыку мітынговых выступаў — вобразную і эмацыйную. І таму запамінальную. Канкрэтны змест праз гады забыўся, але ж атмасферу і яркія эмацыйныя ўражанні відавочцы таго «матча» помняць да гэтага часу.

Найчасцей узгадваюць выступ Юрыя Хадыкі, які параўнаў штурм савецкай цытадэлі са штурмам сярэднявечнага замка, акружанага глыбокім ровам. І першыя кагорты рыцараў кідаліся ў роў, самаах-

вярна высцілаючы сваімі целамі масток для наступу новых кагорт ваяроў.

У той час гэта параўнанне ўспрымалася як рамантычная гіпербала. Пра ахвяры ўсур'ёз ніхто не думаў. Юрыю Хадыку выпала сваім жыццём і ўчынкамі пацвердзіць суровую праўду сваіх слоў і намераў. Пра гэты эпізод яго відавочцы мне распавялі пазней. А непасрэдным штуршком для напісання палітычнага нарыса пра Хадыку стаўся... тэлефонны званок. Справа ў тым, што ў новым даведніку «Хто ёсць хто ў Беларусі» ёсць спасылка на кніжку «Іншадумцы» вядомага журналіста Аляксандра Уліцёнка, які быў маім кіраўніком і настаўнікам у журналістыцы. Ад яго і даведаўся, чаму гутарка з Хадыкам стаіць у кнізе першай і напісана на рускай мове. Таму што гэты артыкул рыхтаваўся раней за іншыя і датуецца вераснем 1991 года. І таму што — зараз цяжка паверыць — тады Хадыка ведаў рускую мову лепш за беларускую. Вось вам і эпізод, які найбольш красамоўна сведчыць пра «агрэсіўна-нацыяналістычную сутнасць» БНФ. Пад сваімі сцягамі гэты рух збіраў найбольш актыўную частку беларускага грамадства, якое ўжо прагла перамен. Перабудова адкрыла шлюзы.

Юрый Віктаравіч Хадыка нарадзіўся 23 чэрвеня 1938 года ў Мінску. Зразумела, што яго першыя дзіцячыя ўспаміны звязаны менавіта з вайной і падрыхтоўкай да яе. Юрасю было менш за тры гады. Яго бацьку, які быў будаўніком, перавялі ў Ваўкавыск, дзе ўзводзілі абаронныя ўмацаванні ўздоўж мяжы. Тыя самыя, частку якіх аднавілі ўжо ў нашы дні ў якасці музейнага комплексу пад назвай «Лінія Сталіна».

Заходняя Беларусь. Ваўкавыск. Мноства маленькіх крамаў. Аднойчы ў адну з іх, дзе былі дзверы вяртушкай, зайшла маці Юрася, а маленькі хлапчук крыху адстаў і ўсё тупаў і тупаў па колу, і ад адчаю гучна заплакаў. Без смеху Хадыка распавядаў мне, што з таго часу запомніў боты вайскоўцаў на ўсё жыццё.

1 верасня 1945 года ён пайшоў у незвычайную, мужчынскую, сталічную 60-ю школу. Менавіта ў ёй Хадыку дадуць мянушку «прафесар», якая стане фактам яго біяграфіі праз шмат гадоў.

І яшчэ эпізод. Святло ў той пасляваенны час гасла даволі часта. Аднакласнікі Юрыя вынайшлі дзіўны спосаб штучных, па ўласным жаданні, электрапаўз. Выкручвалі лямпачку, слінявілі кавалак прамакаткі і ўстаўлялі ў патрон. Сліна высыхала, прамакатка пераўтваралася ў ізалятар, святло гасла. Але ўрок працягваўся. Настаўнікі прасілі каго-небудзь з вучняў пераказаць апошнюю прачытаную кнігу. Хадыкі жылі недалёка ад Пушкінскай бібліятэкі, якая тады была за сённяшнім Палацам Рэспублікі. Пазней гэтыя ўрокі вусных апавяданняў, як лічыць сам Хадыка, неаднойчы будуць яму ў дапамогу.



Школу Юрый скончыў з залатым медалём і паехаў паступаць у створаны Капіцам Маскоўскі фізіка-тэхнічны інстытут (МФТІ), аднак набраў там так званы напаўпрахадны бал, які, аднак, быў настолькі высокім, што даваў права залічэння ў любы іншы маскоўскі інстытут. Гэта яму і прапанавалі, аднак ён паслухаўся парады маці і вярнуўся ў Мінск.

У 1960 годзе скончыў фізічны факультэт БДУ і стаў працаваць у Інстытуце фізікі Акадэміі навук Беларусі: малодшы, старшы навуковы супрацоўнік, кіраўнік групы, загадчык лабараторыі. Не простай, а галоўнай у справе разлікаў траекторыі ракет ва Усесаюзнай кааперацыі па стварэнні касмічнай сістэмы ранняга папярэджання пра ракетны напад.

У 1975 годзе ўзначаліў секцыю оптыка-электронных сродкаў разведкі ў камісіі АН СССР па распрацоўцы прагнозу развіцця ўзбраенняў на 15 гадоў. У лютым 1965 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю па фізічнай аэрадынаміцы. А ў 1976 стаў доктарам фізіка-матэматычных навук, прафесарам (тэма дысертацыі: «Аптычныя характарыстыкі факелаў балістычных ракет»).

Двойчы, у 1967 і 1969 гадах, Хадыку прапаноўвалі ўступіць у кампартыю, але ён адмаўляўся. «Зламалі» толькі ў 1981. Вось як тлумачыць гэты крок сам Юрый Віктаравіч у кнізе «Іншадумцы»: «... Да, уже тогда сформировалось и распространилось отношение к партии, как... Ну, как к прививке против каких-то социальных напастей. Меня среди прочих нюансов останавливало следующее убеждение: эта «игра», мол, обходит науку; я наивно-самонадеянно считал, будто смогу добиться своих целей, обеспечить карьеру без партбилета. Рассуждал в том духе, что физика отнюдь не политика, зачем здесь партбилет, голова должна быть! Правда, жизнь потом несколько подкорректировала такие взгляды».

Беларуская нацыянальная ідэя да яго прыйшла поруч з захапленнем беларускім мастацтвам. Калі на пачатку 90-ых гадоў мінулага стагоддзя ў Хадыкі запыталіся, чым ён ганарыцца ў сваім жыцці,

яго адказ для многіх прагучаў нечакана: удзелам у стварэнні акадэмічнага музея старажытнай беларускай культуры.

Сапраўды, восенню 1969 года ён арганізаваў у Акадэміі навук БССР семінар па вывучэнні старажытнабеларускага мастацтва, прымаў удзел у зборы матэрыялаў (экспедыцыі) і напісанні «Зводу помнікаў гісторыі і культуры Беларусі». А ў 1979 годзе быў адчынены і знакаміты музей.

Перад Юрыем Хадыкам адкрыліся глыбіні і таямніцы беларускай гісторыі, беларускага адраджэнскага руху з яго драматычнымі паваротамі і трагічнымі лёсамі яго творцаў. Ад ведаў у спалучэнні з асэнсаваннем вопыту сюррэалізму савецкай таталітарнай сістэмы да ідэй дэмакратыі і беларускага адраджэння — такім быў тыповы алгарытм фармавання свядомасці пакалення першай перабудовачнай хвалі. З той, аднак, істотнай асаблівасцю, што Юрый Хадыка належаў да невялікай купкі першапраходцаў — арганізатараў і тэарэтыкаў беларускага Адраджэння канца XX стагоддзя.

30 красавіка 1988 года адбыліся сумна вядомыя «Дзяды», і Хадыка (сябра КПСС!) пачаў ствараць у сваім інстытуце групу падтрымкі толькі-толькі сфармаванага аргкамітэта БНФ. За кароткі тэрмін у яго групу ўвайшло каля 70 чалавек. З кампартыі па асабістым жаданні Юрый Віктаравіч выйшаў у лютым 1990. Але дэмакратычным актывістам ён стаў яшчэ ў 1988 годзе, а праз год быў абраны намеснікам старшыні БНФ «Адраджэнне». З гэтай пасады сышоў толькі ў снежні мінулага года.

З 1996 па 2000 год Ю.В. Хадыка ўваходзіў у назіральную раду Беларускага Хельсінкскага камітэта. А ў 1997 яго прызначылі прарэктарам Народнага ўніверсітэта — самай буйной праграмы Грамадскага навукова-аналітычнага цэнтра «Беларуская перспектыва» і рэдактарам бюлетэня Народнага ўніверсітэта. У 1998 годзе яго зрабілі сябрам рэдакцыйнага савета часопіса «Адкрытае грамадства».

Юрый Віктаравіч з'яўляецца намеснікам старшыні назіральнага савета Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, хаця працу менавіта гэтых сацыёлагаў публічна і крытыкуе.

Мабыць, самым адметным, але і самым драматычным у палітычнай біяграфіі Юрыя Віктаравіча можна назваць год 1996, адзначаны перш за ўсё знакамітым «Чарнобыльскім шляхам». Аднак



гэтая акцыя не была адзінай. Спачатку 25 сакавіка апазіцыя святкавала «Дзень волі», потым 2 красавіка пратэставала супраць падпісання з Расіяй дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы, у якую сёння верыць (статус абавязвае) хіба толькі «беспросветный» аптыміст Павел Барадзін.

А 26 красавіка традыцыйна ўспаміналі ахвяр чарнобыльскай трагедыі. Выключна гуманітарна-палітычнае мерапрыемства з часам ператварылася ў цалкам палітычнае.

Напярэдадні ў кабінеце тагачаснага намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Генадзя Карпенкі ўзгаднілі з міліцэйскім начальствам маршрут руху. На нарадзе прысутнічаў і Юрый Хадыка.

26 красавіка людзі ішлі там, дзе было ўзгоднена з уладай, якая, аднак, парушыла свае абяцанні. Перад маніфестантамі паўстаў АМАП са шчытамі і гумовымі дубінкамі. Улады, па сутнасці, самі справакавалі сутыкненні, за якія потым Хадыку і асудзілі.

Менавіта 26 красавіка 1996 года нечакана ў Мінску з'явіўся эмігрант Зянон Пазьняк і прапанаваў ушанаваць памяць забітага чачэнскага генерала Дудаева. На мой погляд, гэта стала той «мядзведжай паслугай», якая пазней адштурхне ад БНФ даволі многіх людзей. А 26 красавіка іх было вельмі многа — за 50 тысяч чалавек. Такіх лічбаў беларуская апазіцыя не даб'ецца больш ніколі.

Пасля «гарачай» вясны 1996 года Юрый Віктаравіч Хадыка і яго паплечнік па БНФ Вячаслаў Сіўчык апынуліся за кратамі. Улада чакала пакаяння, а атрымала бестэрміновую палітычную галадоўку. Учынак сапраўднай мужнасці і самаахвярнасці. У абарону прафесара, вучонага і палітыка разгарнуўся моцны рух салідарнасці, з маніфестацыямі на «Валадарскага», з патокам лістоў пратэсту, у тым ліку з-за мяжы — не толькі ад палітыкаў і грамадскіх дзеячаў, але і ад вучоных. І не толькі з краінаў Захаду, але і з Расіі. Лідар расійскага «Яблыка» Рыгор Яўлінскі папрасіў прэзідэнта Барыса Ельцына дапамагчы вызваліць Юрыя Хадыку і Вячаслава Сіўчыка. Той патэлефанаваў Лукашэнку. Вязняў выпусцілі. Не ведаю, наколькі гэта адпавядае рэчаіснасці, але, калі меркаваць, што абвяржэнняў пакуль не было, нешта падобнае адбылося на самой справе.

Згодна вышэйзгаданаму даведніку, Хадыка напісаў каля 150 навуковых прац па фізіцы, каля 200 навукова-тэхнічных справаздач і бліз 40 публікацый па гісторыі беларускага мастацтва. Не ўлічана, праўда, у даведніку яго публіцыстыка на злабадзённыя палітычныя

тэмы — больш за 350 публікацый. Такім чынам, прыкладна пароўну паміж фізікай і «лірыкай».

Але я ўпэўнены, калі спытаць, якога Хадыку людзі больш ведаюць, фізіка ці палітыка, большасць адкажа — палітыка. І менавіта ў гэтай якасці ён па-ранейшаму на авансцэне беларускага грамадскага жыцця. Яго ўплыў вызначаецца не фармальнымі пасадамі, а аўтарытэтам і асабістымі якасцямі.

# МІХАСЬ ТКАЧОЎ — ВУЧОНЫ І ПАЛІТЫК



**Падрыхтавана да друку 05.02.08**

*Восенню 2006 года ў Гродне распачалася так званая рэканструкцыя. Галоўны інструмент гэтай «рэканструкцыі» — бульдозер. Больш дакладна сказаў на гэты конт кандыдат гістарычных навук, вядомы археолаг, старшыня ГА «Таварыства беларускай мовы» Алег Трусаў: «Гістарычныя помнікі знішчаюцца перш за ўсё ў тых гарадах, дзе спіць грамадская свядомасць. У канцы 1980 Гродна было цэнтрам нацыянальнага адраджэння. Пакуль дзейнічаў гісторыка-культурны клуб «Паходня» на чале з Міхасём Ткачовым, пакуль Аляксандр Мілінкевіч на пасадзе віцэ-мэра курыраваў пытанні культуры, усё было нармальна. Ткачоў памёр, «Паходня» распалася, Мілінкевіч заняўся палітыкай...»*

Нарадзіўся Міхась Аляксандравіч Ткачоў 10 сакавіка 1942 года ў горадзе Мсціслаў Магілёўскай вобласці. У гэтым жа годзе загінуў пад Ленінградам яго бацька. Гадавалі хлопчыка маці і айчым. Мсціслаўскую дзесяцігодку № 3 Міхась скончыў з трыма чацвёркамі і падаў дакументы на гістарычны факультэт БДУ.

Але якраз у той год Міністэрства адукацыі праводзіла чарговы эксперымент: школьнікі, якія не мелі двух гадоў працоўнага стажу, першы курс мусілі вучыцца завочна. Міхась жа меў стажу толькі 14 месяцаў: «набраў» ён іх падчас школьных канікулаў, працуючы ў мясцовай цагельні штогод, пачынаючы з шостага класа. 10 месяцаў не хапала, таму пасля таго, як стаў студэнтам, вярнуўся дадому і ўладкаваўся на працу ў прыгарадны калгас імя Варашылава. Абганяў бульбу, вазіў салому, вывозіў з цялятніка гной на поле.

Ткачоў быў сакратарам калгаснай камсамольскай арганізацыі, а раённы камсамол узначальваў Аляксей Камай. У будучым, калі апошні будзе другім сакратаром ЦК КПБ, яны з Ткачовым стануць ідэйнымі праціўнікамі.

Гісторыя, як выбар прафесіі, была для Міхася не толькі поклічам таленту, але і спосабам рэалізацыі ідэй беларускага нацыянальнага адраджэння, культурнага і дзяржаўнага. Юнак шмат чытаў, і сярод россыпаў гістарычных звестак, хаця і старанна прасеяных праз савецкае інтэрнацыянальнае ідэалагічнае сіта, трапляліся і нацыянальныя зярняткі. Свой уплыў аказала і гісторыя роднай Мсціслаўшчыны, якой ён, дарэчы, прысвяціў і сваю дыпломную работу. Абараніў на выдатна.

Менавіта ў студэнцкія гады і склалася вакол Ткачова тое ядро нацыянальна свядомых інтэлектуалаў, якое з першымі праблісkамі перабудовы стане актывістамі новай адраджэнскай хвалі. Разам з імі ён будзе ствараць клуб «Паходня», Беларускі народны фронт, Беларускую сацыял-дэмакратычную грамаду.

Яны не рыхтавалі рэвалюцыю, не будавалі планаў захопу ўлады. Звычайнае нефармальнае кола сяброў, свайго роду асветніцкі гурток з вельмі абачлівым прыцягненнем новых сяброў па крытэрыях не толькі асабістых сімпатый, але і схільнасці да ўспрыняцця ідэй нацыянальнага адраджэння. Найперш праз веданне гісторыі, якую вывучалі з шырокім выхадам за межы праграм, адшукваючы дзе толькі можна кніжкі, што былі пад забаронай з канца 20-ых гадоў (таго ж Вацлава Ластоўскага, Усевалада Ігнатоўскага ды іншых). Аднак доўгатэрміновую задачу — для сябе і нашчадкаў — ужо тады сфармулявалі са здзіўляючай дакладнасцю: праз асвету, праз уваходжанне нацыянальна свядомых людзей у дзяржаўныя і партыйныя структуры рыхтаваць і ажыццяўляць перамены эвалюцыйным шляхам. Цікавая дэталь: згодай на прапанову аб уступленні ў шэрагі КПСС Міхась Ткачоў адказаў толькі пасля парады з сябрамі гуртка.

Пасля заканчэння ўніверсітэта Міхась Ткачоў быў размеркаваны ў Жодзіна, на ўскрайку якога якраз пабудавалі новую школу для саўгаса «Зарэчча». На пяць гадоў яна і стане для яго роднай: выкладаў гісторыю, загадваў вучэбнай часткай. Малады, высокі, спартыўны, камунікабельны. Любімы вучнямі, паважаны калегамі.

Гуляў за зборныя па валейболу і баскетболу, удзельнічаў у мастацкай самадзейнасці — спяваў, танцаваў, граў на гармоніку і нават складаў надзённыя прыпеўкі. Там ажаніўся, там у Ткачовых нарадзіўся сын. Быт? Звычайны, савецкі. Маладая сям'я з трох чалавек месцілася ў прышкольнай старожцы (тры чалавекі на адзінаццаці квадратных метрах).

Але матэрыяльна, па тых жа савецкіх мерках, Міхась забяспечваў сям'ю на прыстойным узроўні. Зарплата завуча, плюс лекцыі па палітэканоміі на бухгалтарскіх курсах і лекцыі па філасофіі для вячэрнікаў філіяла БПІ. Здавалася, трывала ўвайшоў у жыццёвую каляіну, з якой мала хто з настаўнікаў вырываўся. Міхась вырваўся. Вялі мэта і мара, талент і характар, які патрабаваў руху, справы, новых дарог, штурму новых вяршынь.

Таму зразумела яго і жонка, калі ён вырашыў ісці ў аспірантуру, хаця, вядома ж, сто аспіранцкіх рублёў не натхнялі. Кандыдацкі мінімум Міхась здаваў у Акадэміі навук. Чаму не ў родным БДУ? Туды яго не пусціў сумна вядомы Лаўрэнцій Сямёнавіч Абэцэдарскі, які на той момант быў загадчыкам кафедры гісторыі Беларусі. Гэту прычыну назваў сам Ткачоў у 1991 годзе, калі даваў інтэрв'ю для кнігі «Іншадумцы».

У 1968 годзе Ткачоў стаў супрацоўнікам Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі. З напісаннем і абаронай кандыдацкай дысертацыі ён уклаўся, рэдкі выпадак, дакладна ў тры гады. Абраў археалогію і ніколі з ёй не развітваўся, літаральна да апошняга дыхання. Яна прынесла яму аўтарытэт і вядомасць не толькі ў асяродку навукоўцаў. Кнігі Ткачова «Замки Белоруссии» (Мн., 1987), «Замкі і людзі» (Мн., 1991), па сутнасці навуковыя манаграфіі, зрабіліся бестселерамі. Без штучнай актуалізацыі, выключна на гістарычнай аснове ён здолеў увесці старажытныя замкі ў кантэкст сучаснага жыцця, пераўтварыць іх у інтэлектуальныя цытадэлі новай хвалі беларускага адраджэння.

З працай у Акадэміі навук у Міхася Іванавіча Ткачова было ўсё ў поўным парадку. А вось з жыллём, як і ва ўсіх (акрамя наменклатуры) савецкіх людзей, праблемы — чарга гадоў на дзясятак, а то і больш.

Таму, калі ў 1978 годзе ў Гродне адкрыўся ўніверсітэт, і Ткачову прапанавалі там месца выкладчыка, гэта і стала рашаючым фактарам. Восенню Ткачоў з сям'ёй пераехаў у Гродна: дацэнт, прафесар, а ў 1983 годзе — загадчык кафедры.

Як гісторыку, Міхасю Ткачову вельмі спадабаўся старажытны беларускі горад Гродна, які ён называў музеем пад адкрытым небам.

Засмучала толькі, што самі жыхары вельмі дрэнна ведалі гісторыю свайго горада. З'ява, на жаль, даволі распаўсюджаная і для сённяшняй Беларусі. Але калі нехта называе беларускі народ манкуртамі, хай задумаецца над прычынамі. Стагоддзі мэтанакіраванай, на ўзроўні дзяржаўнай, палітыкі вынішчэння і скажэння гістарычнай памяці дарэмна не праходзяць. А рэанімацыя памяці патрабуе часу.

Менавіта ў Гродне Ткачоў бліжэй пазнаёміўся з прыгаданым вышэй былым дэпутатам Вярхоўнага Савета РБ Алегам Трусавым. Разам яны зрабілі адкрыццё: падчас археалагічных раскопак вучоныя прыйшлі да высновы, што дзяцінец старажытнага Гродна быў абведзены мурам яшчэ ў XII стагоддзі, што з'яўляецца проста ўнікальным для тых часоў.

І зноў гістарычная асвета паўстала для Міхася Ткачова як сучасная задача. Але ўжо на іншым узроўні. Вучоны стварае сваю знакамітую «Паходню», клуб, які аб'яднаў шырокае кола аматараў беларускай даўніны. Цікава, што ў мясцовым гаркаме партыі гэтую назву пераклалі на рускую, як «странники», а Ткачова разам выклікалі «на ковер». Там і высветлілася, што слова «Паходня» таксама з гістарычнай скарбніцы і нясе ў сабе зусім не той сэнс, які так спужаў партыйную наменклатуру. Хаця, як высветлілася пазней, куды больш небяспечны — факел, агонь, які асвятляе шлях.

З-за гістарычнай спадчыны і яе захавання ўзнікла і судовая справа Ткачова. Галоўны архітэктар Гродна падаў на яго ў суд «за клевету на органы Советской власти». Далёка не ўсе памятаюць, у чым яе сутнасць. І, на мой погляд, дарэмна.

Сёння ў Гродне адбываецца амаль тое, за што ў мінулым стагоддзі хацелі судзіць Ткачова. Справа ж была ў тым, што за кошт так званай швейцарскай даліны, якая з'яўляецца гістарычнай часткай горада, чыноўнікі надумалі зрабіць велічную плошчу Леніна, дзе планавалася ўзвесці новы гаркам партыі.

Гісторыкі рашуча паўсталі супраць. І перамаглі. А што будзе зараз, стане зразумелым у бліжэйшы час. Адназначна толькі тое, што «бульдозерная рэканструкцыя» не спрыяе росту павагі да мінулага нашай краіны. Зноў спашлюся на словы Алега Трусава: «... Пакуль у Гродне не адродзяць «Паходню», пакуль не паявіцца нефармальны лідар, а мясцовая інтэлігенцыя не пачне сістэматычнаю работу з насельніцтвам, ніякіх зменаў не будзе. Сёння вучні Ткачова — прафесары ўніверсітэтаў. Яны павінны першымі біць трывогу».



Знакамітыя «Дзяды-88» каталізавалі працэс стварэння Беларускага народнага фронту «Адраджэнне». У мінскім Доме кіно, які ў тыя часы быў у чырвоным касцёле, стварылі не толькі «Мартыралог Беларусі», але і аргкамітэт БНФ. Міхась Ткачоў прыехаў для гэтага з Гродна, таму што не мог не прыехаць. Дэ-факта ён быў яшчэ ў КПСС, але дэ-юрэ з'яўляўся ідэалагічным праціўнікам кампартыі.

У год стварэння БНФ адбыліся выбары народных дэпутатаў СССР. Міхася Ткачова вылучыў працоўны калектыў вядомага аб'яднання «Азот», але з-за хваробы прыняць у іх удзел ён не змог. Сутнасць «хваробы» тлумачылася вельмі проста: Ткачова моцна пабілі ў пад'ездзе. Зразумела, як заўсёды, «невядомыя». Не будзем гадаць, хто імі кіраваў, аднак перамог тады будучы першы сакратар абкама кампартыі Сямёнаў.

Але вятры перамен ужо мацнелі. Вядомасць і аўтарытэт Міхася Іванавіча Ткачова ўжо дасягнулі дзяржаўнага маштабу. Разам з тым, яго разважлівасць, стрыманасць, разуменне палітычнай сітуацыі з перспектыўным прадбачаннем яе развіцця, майстэрства дыпламатыі не палохалі радыкалізмам слабеючую савецкую наменклатуру. У 1989 годзе Ткачову прапануюць вярнуцца ў Мінск і ўзначаліць рэдакцыю гісторыі Беларусі выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя». У красавіку 1992 года ён становіцца галоўным рэдактарам выдавецтва. І менавіта на «часы Ткачова» прыпадае час найлепшых дасягненняў энцыклапедыі, якая пазбаўляецца ідэалагічнага адбітку, цэнзуры і набліжаецца да прынятых міжнародных стандартаў — па крытэрыях усебаковасці, аб'ектыўнасці і факталагічнай дакладнасці.

У 1989 годзе ў Вільнюсе адбыўся ўстаноўчы з'езд Беларускага народнага фронту, дзе Міхася Ткачова, як аднаго са стваральнікаў руху, абралі намеснікам старшыні БНФ «Адраджэнне».

Ён яшчэ паспеў спрычыніцца і да справы стварэння шматпартыйнай дэмакратычнай сістэмы ў Беларусі. У сакавіку 1991 з яго ініцыятывы і яго з аднадумцамі высілкамі адраджаецца беларуская сацыял-дэмакратыя, ствараецца Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада. Партыя, якую ў 1918 годзе знішчылі бальшавікі. Міхась Ткачоў стаў старшынёй Цэнтральнай рады БСДГ. Яшчэ паспеў сфармуляваць, выказаць і нават ініцыяваць ідэю аб'яднання ўсіх палітычных сіл сацыял-дэмакратычнай скіраванасці (у прыватнасці з Партыяй народнай згоды, якую ўзначальваў тады Генадзь Карпенка), але не паспеў узяцца за справу.

31 кастрычніка 1992 года Міхась Ткачоў нечакана для ўсіх памёр. Нечакана, бо мала хто ведаў пра яго даўнюю хваробу нырак, бо нават блізкім сябрам ніколі ні на што не скардзіўся і працаваў як апантаны, без перадыху.

Развіталіся з ім 3 лістапада ў Доме літаратара. На развітанне прыйшлі тысячы людзей, што сведчыць аб вялікай павазе і любові да гэтага сапраўднага патрыёта Беларусі.

Яму было толькі 50, але колькі ж паспеў! Толькі падрыхтаваныя ім навуковыя і публіцыстычныя работы яшчэ выходзілі некалькі гадоў. У 1994 годзе свет пабачыла пасмяротнае выданне кнігі Міхася Ткачова пад такой роднай і сімвалічнай назвай «Паходня».

Ён паспеў запаліць сваю паходню, паспеў пабачыць рэалізацыю сваёй мары аб свабоднай, незалежнай, дэмакратычнай Беларусі. І паспеў закласці ў яе падмурак такія важкія камяні, што няма сумніву: адкат, адыход ад гэтага шляху — часовая з'ява.

# АЛЯКСАНДР ВАЙТОВІЧ — АКАДЭМІК І ПАЛІТЫК



**Падрыхтавана да друку 17.03.08**

*Гэты непрыемны выпадак з маёй дваццацігадовай журналісцкай практыкі быў па ліку другім. Я рыхтаваў матэрыял для рубрыкі «Без палітыкі» і папрасіў Аляксандра Вайтовіча расказаць пра сваё хобі. Ім аказалася навука. Каля гадзіны былы кіраўнік Нацыянальнай акадэміі навук распавядаў рэчы, пра якія я меў даволі прыблізнае ўяўленне. Але сапраўдны «аблом» здарыўся крыху пазней, калі я ўключыў дыктафон і выявіў, што нічога не запісалася.*

*Давялося тэлефанаваць Аляксандру Паўлавічу і прасіць прабачэння. Праз два дні ён прыйшоў зноў і паўтарыў свой аповед яшчэ раз. Мне было вельмі сорамна перад вучоным і дзяржаўным дзеячам, старшынёй Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь у 2000—2003 гадах.*

Затое я ў другі раз пачуў, як ён зрабіў сваё першае навуковае адкрыццё. Малады навуковец і малады бацька мыў у ванне пялюшкі. Чыста механічная справа, галава ж працавала над іншым. Датычылася гэта кіравання спектрам генерацыі лазераў. Вайтовіч прапанаваў «змяшчаць лазер у асяроддзе паглынання для атрымання патрэбнай частаты». Эфект атрымаўся ўнушальны. Дарэчы, менавіта гэта і будзе галоўнай ідэяй яго кандыдацкай дысертацыі, якую ён абароніць у 1968 годзе. У свае трыццаць. Не вельмі рана, але і не позна.

Аляксандр Паўлавіч Вайтовіч нарадзіўся 5 студзеня 1938 года ў вёсцы Рачкавічы Капыльскага раёна Мінскай вобласці. Пачатковая школа знаходзілася ў роднай вёсцы і месцілася ў вялікай хаце. Чатыры першыя класы займаліся адначасова ў адным пакоі без аніякіх перагародак. Працавалі два настаўнікі.

Саша Вайтовіч вучыўся ў другім класе, калі ў школе здарыўся пажар. З хаты, якая ўжо даволі моцна гарэла, ён выбягаў двойчы. Першы раз з усімі, другі — калі вярнуўся, каб забраць паліто сястры.

Фізікам Вайтовіч вырашыў стаць яшчэ ў школе, якую скончыў з залатым медалём. Паступаць паехаў у Беларускі дзяржаўны універсітэт. Уступных іспытаў для медалістаў тады не было. Толькі гутарка з членамі прыёмнай камісіі. Цікава, што рускай мовы ў той час Вайтовіч амаль не ведаў, размаўляў выключна па-беларуску. «Великий и могучий» ён асвоіў у БДУ, які з адзнакай скончыў у 1960 годзе.

Адразу пачаў працаваць у Інстытуце фізікі АН БССР. Вось асноўныя прыступкі яго навуковай і службовай кар'еры: малодшы навуковы супрацоўнік, старшы інжынер-канструктар, галоўны інжынер установкі, старшы навуковы супрацоўнік, загадчык лабараторыі, намеснік дырэктара па навуковай рабоце. З Інстытута фізікі, дзе ён адпрацаваў амаль 32 гады, перайшоў на пасаду дырэктара Інстытута малекулярнай і атамнай фізікі, створанага пры яго ж непасрэдным удзеле. Яшчэ тры гады — і вяршыня навуковай кар'еры. Аляксандра Вайтовіча абіраюць прэзідэнтам Акадэміі навук. На гэтай пасадзе ён змяніў акадэміка Барысевіча, які з самага пачатку, з прыходу Аляксандра Вайтовіча ў акадэмію, заўважыў маладога таленавітага вучонага і ўзяў пад сваю апеку.

Мабыць, гэта будзе цікавым для навукоўцаў, таму пералічу ўсе навуковыя рэгаліі Аляксандра Паўлавіча. У 1979 годзе ён стаў доктарам фізіка-матэматычных навук, у 1985 — прафесарам, у 1986 — членам-карэспандэнтам, а праз дзесяць гадоў — акадэмікам НАН Беларусі. Акрамя гэтага ў 1995 годзе яго абралі правадзейным членам Еўрапейскай акадэміі навук мастацтва і славеснасці, а потым і віцэ-прэзідэнтам Еўрапейскага фізічнага таварыства. Як лічаць самі навукоўцы, даследаванні Вайтовіча ў галіне магнітаоптыкі і дынамікі лазераў радыкальна змянілі ўяўленні пра ўласцівасці лазераў.

У 1996 годзе за цыкл работ «З'явы анізатрапіі ў лазерах і прынцыпы палярызацыйнай лазернай спектраскапіі» Аляксандр Вайтовіч атрымаў Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь.

Калі Вайтовіч узначаліў Акадэмію навук (выбары праходзілі на сапраўднай альтэрнатыўнай аснове), ён вельмі хутка зразумеў, што змяніць што-небудзь у навуцы без дазволу ўладаў немагчыма. Можа, менавіта па гэтай прычыне і пагадзіўся ўзначаліць Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу РБ.



Для кніжкі «Лёсы» Вайтовіч распавёў мне, як гэта адбылося. У той дзень ён знаходзіўся ў службовай камандзіроўцы ў ЗША, у Чыкага. У пяць гадзін раніцы па мясцовым часе ў яго гатэльным нумары прагучаў тэлефонны званок. Тагачасны дарадца А.Г. Лукашэнкі Макей сказаў, што акадэміку тэрмінова трэба вылятаць у Мінск: выклікае прэзідэнт. Прыйшлося ўсё кінуць. Праз 24 гадзіны Вайтовіч быў ужо ў беларускай сталіцы. З аэрапорта — у рэзідэнцыю. Макей не даў часу нават заехаць да дому, пагаліцца- памыцца. Лукашэнка прапанаваў акадэміку Вайтовічу ўзначаліць Савет Рэспублікі.

Перш чым даць сваю згоду, Аляксандр Паўлавіч сабраў тых сяброў Прэзідыума НАН, якіх пашанцавала хутка знайсці, каб параіцца. Іх вердыкт быў аднагалосным — пагадзіцца. Галоўны аргумент — на новай пасадзе будзе больш магчымасцей уплываць на дзяржаўную палітыку ў галіне навукі. На жаль, навукоўцы памыліліся.

19 снежня 2000 года Вайтовіча выбралі старшынёй Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі другога склікання. А праз два з паловай гады, 28 ліпеня 2003 года, прэзідэнцкім указам вызвалілі ад пасады. На яго месца (зноў аднагалосна) быў абраны былы прэм'ер-міністр краіны Генадзь Навіцкі.

Афіцыйна гэта тлумачылася тым, што Аляксандру Паўлавічу споўнілася 65 гадоў (узрост, памежны для знаходжання на дзяржаўнай службе), але ўсе разумелі, што гэта фармальная матывацыя. Прычына была ў навуцы, дакладней, у падыходах да кіравання навукай з боку ўлады. Справа ў тым, што раней усіх прэзідэнтаў Акадэміі навук выбіралі, а Лукашэнка вырашыў іх прызначаць. І нават не параіўся з Вайтовічам.

Больш за тое, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Урал Латыпаў давёў да яго ведама, што, калі ён жадае застацца ў Савеце Рэспублікі, трэба падтрымаць прэзідэнцкае рашэнне. Вайтовіч не падтрымаў. Усе яго спробы што-небудзь высветліць аказаліся безвыніковымі. Ахоўнікі сказалі, што прэзідэнт паехаў гуляць у хакей.

Гэта была апала, але яна не стала б фатальнай, каб Вайтовіч «лёг на дно». «Досвед» асобных мемуарыстаў з «былых» сведчыць, што галоўнае ў такой сітуацыі — своечасова пакаяцца, прадэманстраваць сваю лаяльнасць. Вайтовіч вырашыў змагацца.

Ён узначаліў грамадзянскую ініцыятыву «За свабодныя выбары», якая ў 2004 годзе праводзіла маніторынг парламенцкіх выбараў і зафіксавала вялікую колькасць сур'ёзных парушэнняў. Першапачат-

кова Вайтовіч вырашыў удзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах 2006 (нават стварыў інтэрнэт-рэсурс), але ў студзені таго ж года спыніў свой удзел і заклікаў усіх да байкоту. На той момант у падтрымку яго кандыдатуры ініцыятыўная група ўжо сабрала каля 30 тысяч подпісаў грамадзян.

Матывуючы сваё рашэнне, Вайтовіч напісаў: «Не желаю способствовать созданию иллюзий у избирателей, что участие Лукашенко в выборах на третий срок президентства законно и что выборы проводятся в соответствии с Конституцией и Избирательным кодексом страны».

Нагадаю, што летам 2005 года акадэмік Вайтовіч разам з генералам Фраловым і экс-міністрам Лявонавым заявілі пра стварэнне непартыйнай дэмакратычнай кааліцыі, якая адной з галоўных мэтаў свайго існавання лічыла зрабіць немагчымым удзел Лукашэнкі ў прэзідэнцкіх выбарах 2006 года і марыла пра падтрымку афіцыйнай Расіі. Канешне, з пазіцый сённяшняга дня ўсё, на першы погляд, выглядае даволі наіўным. Але толькі на першы погляд, бо відавочна іншае. Пакуль без Расіі беларускія пытанні не вырашыць. Што будзе далей, пакажа час.



# ПРАВААБАРОНЦА ТАЦЦЯНА ПРОЦЬКА

**Падрыхтавана да друку 19.03.08**

*Ведаючы, што некаторыя ставяцца да Таццяны Процька негатыўна, наўмысна пачну менавіта з непрыемнага для яе моманту. У 2000 годзе пасля даволі жорсткіх дыскусій (у тым ліку і фінансавых) група апанентаў Таццяны Процька выйшла з Беларускага Хельсінкскага камітэта і стварыла новае грамадскае аб'яднанне — «Хельсінкі XXI». Не буду зараз нават спрабаваць знайсці тут нейкую праўду, бо ў кожнага яна, як вядома, свая. Таму ўсе асабістыя меркаванні выношу за дужкі, канстатуючы толькі факт: раскол адбыўся амаль восем гадоў таму, а новае аб'яднанне так і засталося віртуальным, між тым як БХК на чале з Процька існуе і дзейнічае па сённяшні дзень.*

Таццяна Сяргееўна Процька нарадзілася ў Мінску 8 лютага 1951 года. Бацькі ў яе былі журналістамі, і, можа, менавіта сямейная атмасфера ці не з дзяцінства сфарміравала ў яе жаданне быць у эпіцэнтры падзей. Спачатку Таццяна вучылася ў Мінску ў 27-й школе, а потым ў добра вядомай 103-й, якую скончыла з залатым медалём.

Паступіла на вячэрняе аддзяленне фізічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Днём — праца, вечарам — вучоба. У яе гэта азначала — з раніцы да позняга вечара ў БДУ, бо працавала там жа, дзе вучылася: з 1968 года тэхнікам, а з 1972 інжынерам кафедры фізікі паўправаднікоў.

Узначальвала камсамольскую арганізацыю, спачатку супрацоўнікаў, а потым і студэнтаў факультэта, была прафаргам кафедры паўправаднікоў. Пасля заканчэння БДУ паступіла ў аспірантуру Інстытута філасофіі і права, у 1983 абараніла дысертацыю кандыда-

та філасофскіх навук па тэме «Змяненні структуры фізічных ведаў у працэсе іх развіцця». І новы круты паварот — пераход на працу ў Інстытут гісторыі АН БССР.

Менавіта ў гісторыі Таццяна Процька і знайшла сваё прызванне. Але не ў якасці кабінетнага вучонага, а ў спалучэнні з журналістыкай і грамадскай дзейнасцю. Былі прахадныя тэмы, пакуль яна не выйшла на сваю галоўную, даследванню якой аддасць амаль дзясяць гадоў жыцця. Вынік — грунтоўная манаграфія болей за 600 старонак «Станаўленне савецкай таталітарнай сістэмы ў Беларусі (1917 — 1941гг.)», якая пабачыла свет ў 2002 годзе. Першае і пакуль што апошняе ў беларускай гістарыяграфіі навуковае даследаванне. Што зразумела: такая тэма не магла быць даспадобы ні тады, ні цяпер.

Пабудавана манаграфія на добрых дзве трэці на матэрыялах рэспубліканскага і маскоўскіх архіваў КДБ. Гісторыку Таццяне Процька пашанцавала трапіць у лік невялічкай групы даследчыкаў, што паспелі дамагчыся допуску ў наглуха запачкаваныя сем дзесяцігоддзяў запар архіўныя сховішчы падчас кароткай перабудовачнай стыхіі. Хутка дзверы беларускага КДБ зноў намёртва зачыніліся.

Усё, пасля такой манаграфіі можна больш нічога не пісаць. І можна лічыць, што галоўная справа жыцця зроблена, а імя аўтара назаўсёды ўпісана ў беларускую гістарыяграфію. Але, ведаю, Таццяна Сяргееўна працягвае працу над другой часткай тэмы. Поспехаў ёй.

Пачатак дзевяностых — час надзей на перамены. Час абуджэння грамадскай актыўнасці. Ён стымуляваў многіх да пошуку новага попришча для дзеяння. У 1992 годзе Процька з акадэмічнага Інстытута гісторыі пераходзіць на работу ў Белдзяржрадыёкампанію, дзе была старэйшым рэдактарам, рэдактарам радыёчасопіса «Наша мінуўшчына», палітычным каментатарам. Але перамены неўзабаве сталі мяняць свае колеры. У тым ліку літаральна.

14 траўня 1995 года ў Беларусі адбыўся першы рэферэндум. Сярод іншага было пытанне і аб змене дзяржаўнай сімволікі. Не буду гаварыць, што асабіста мне больш падабаюцца белыя і чырвоныя колеры. Справа ў іншым. Наўрад ці былы кіраўнік прэзідэнцкімі справамі Іван Ціцянкоў хацеў застацца ў найноўшай гісторыі Беларусі чалавекам, які першым публічна зняважыў дзяржаўны сімвал, але так і адбылося.



На дзень наступны пасля рэферэндуму ён залез на дах будынка Адміністрацыі Прэзідэнта, разарваў яшчэ дзяржаўны бел-чырвона-белы сцяг і нешта на ім напісаў. Больш за тое, свой ўчынак Ціцянкоў зафіксаваў на відэастужку. Факт важны, бо надалей ён будзе сцвярджаць, што нічога падобнага не было. Доказам, што ўсё ж было, паслужыць менавіта стужка, з якой паспеюць зрабіць копіі яшчэ да таго, як арыгінал цудоўным чынам нехта «размагніціць».

Процька даведалася аб усім, што адбылося на даху прэзідэнцкай адміністрацыі, на чарговым З'ездзе беларусаў свету, які якраз у той час праходзіў у Мінску. І разам са Зміцерам Санько звярнулася ў рэспубліканскую пракуратуру з патрабаваннем узбудзіць крымінальную справу па факту знявагі дзяржаўнага сцяга. Мабыць, зараз такое немагчыма ўвогуле, а тады чыноўнікі яшчэ былі вымушаныя рабіць выгляд, што прыслухоўваюцца да грамадзян. Следства ішло амаль месяц. Вёў яго Станіслаў Новікаў. Як і трэба было чакаць, ніякага крыміналу ў дзеяннях Ціцянкова ён не ўбачыў, крымінальную справу ніхто так і ўзбудзіў.

Гэта для Таццяны Процька і стала галоўным штуршком да стварэння Беларускага Хельсінкскага камітэта, бо зрабілася ўжо відавочным, што дамагацца праўды трэба іншымі шляхамі, не адной, а разам.

12 кастрычніка 1995 года адбыўся ўстаноўчы сход БХК, а 1 лістапада Мінюст уручыў кіраўніцтву БХК пасведчанне аб рэгістрацыі.

У 1998 годзе ў Мінску пачала працаваць Кансультацыйна-назіральная група АБСЕ на чале з Хансам-Георгам Вікам, які імкнуўся паспрыяць дэмакратычным пераменам у Беларусі праз арганізацыю дыялога, перамоўнага працэсу дэмакратычнай апазіцыі з уладамі. Там і з'явіўся знакаміты тэрмін — пакрокавая стратэгія.

Прымала ўдзел у перамовах і Таццяна Сяргееўна Процька. З самага пачатку ўзнікла шмат спрэчак наконт мэтазгоднасці гэтага кроку, бо ўсе (кіраўніцтва БХК таксама) добра разумелі, што дамагчыся цывілізаванага дыялога з уладамі проста немагчыма. Аднак выключна негатыўнае стаўленне некаторых з апазіцыі да перамоў, на мой погляд, было памылковым.

Так, перамовы прэзідэнцкі бок, як і чакалася, праваліў, аднак гэта быў таксама вынік. Упэўнены, амаль усе эканамічныя і палітычныя санкцыі, якія мы маем зараз, нарадзіліся менавіта тады, калі стала абсалютна яснай сапраўдная пазіцыя ўладаў. Як і іх стаўленне

да імі ж падпісанай рэзалюцыі саміту АБСЕ ў Стамбуле, а на гэтым прыкладзе да міжнародных дамоўленасцяў.

Стварыўшы БХК, Таццяна Процька, па сутнасці, стала пачынальнікам праваабарончага руху ў Беларусі. Хутка актыўная дзейнасць БХК прынесла яму дастаткова шырокую вядомасць і аўтарытэт як у Беларусі, так і за яе межамі. Адпаведна, у камітэта пачалі ўзнікаць і праблемы. То там, то тут.

У 2004 годзе з падаткавікамі. Не, ніякіх новых еўрапейскіх грантаў БХК не атрымліваў. Усё, як і раней, рабілася празрыста і легальна. Аднак у снежні 2005 Прэзідыум Вышэйшага гаспадарчага суда РБ раптоўна ў дзейнасці БХК убачыў нешта пазазаконнае.

Сутнасць прэтэнзій датычылася грантаў Еўразвязу. Раней і беларускім бокам, і еўрапейскім лічылася, што яны не падпадаюць пад падаткаабкладанне, а напрыканцы 2005 нечакана высветлілася — гэта было памылкай. І БХК прапанавалі заплаціць грошы, якія нават па мерках багатай Еўропы лічацца немалымі.

А ў другой палове года наступнага беларускія ўлады вырашылі БХК ліквідаваць увогуле. І толькі вельмі негатыўная рэакцыя сусветнай грамадскасці прымусіла прытармазіць справу. У Вярхоўным судзе РБ першае пасяджэнне на гэты конт было прызначана на 28 лістапада 2006 года, але яго перанеслі на год наступны, а потым справа супраць БХК была наогул прыпынена. Праўда, гэта не можа быць поўнай гарантыяй, што яе калі-небудзь не захочуць рэаніміраваць.

Мабыць, такое ж рашэнне было прынятае і наконт арэнды памяшканняў, дзе месціцца цэнтральны офіс арганізацыі. Належыць яно адной са структур Упраўлення справамі Прэзідэнта. Першапачаткова ўладальнікі маёмасці хацелі развітацца з БХК.

Аўтаматычна гэта азначала б знішчэнне юрыдычнага адраса камітэта, што магло б стаць «пахаваннем» і яго самога. Але ўлада дала «задні ход».



# СВЕТЛАНА АЛЕКСИЕВИЧ



**Подготовлено к печати 23.10. 2007**

*Это интервью со Светланой Алексиевич мы делали «вдвоем». 8 июня 2007 года я записал вариант интервью. А 20 октября 2007 года Светлана Александровна передала свой. Лучший. Безусловно, я выбрал второй вариант, а авторскую лексику и пунктуацию решил сохранить полностью.*

***— Начнем с детства. Ваша жизнь настолько «раскручена», и мы, кажется, знаем о ней все.***

— (*Смеется.*) Я не очень люблю читать о себе, это все равно, что слушать свой голос — никогда не нравится. Поэтому всегда благодарна героям своих книг и восхищена ими, тем, как они часто предельно откровенны — иногда мне кажется, что я бы так не смогла. (*Задумывается.*) Да, наверное, они честнее меня. Я иногда ... и даже часто припрятываю свою жизнь... может, в силу публичности. Нельзя же все время жить на сцене, в собственном театре.

Отец мой — белорус из Полесья, а мать — украинка. Родилась я 31 мая 1948 года в Ивано-Франковске, где в то время служил отец. Там он и женился на красивой украинке. А на фронт отец ушел со второго курса журфака, или, как он тогда назывался, КИЖ (коммунистический институт журналистики). Помню, папа рассказывал, что когда они возвращались с летних каникул, то половины преподавателей уже не было — их посадили за это время. А еще он вспоминал молодого преподавателя по истории журналистики Марка Соломоновича Зерницкого. И надо же! Когда я поступила в БГУ на факультет журналистики, то на первой же лекции этот Марк Соломонович Зерницкий спросил: «Это был ваш отец? Я его хорошо помню — талант-

ливый парень!» И тогда я поняла, как здорово встречать людей, которые помнят наших родителей молодыми. Об Ивано-Франковске отец (он еще жив, к счастью) до сих пор вспоминает с ужасом, потому что советских освободителей, которыми они себя считали, бандеровцы стреляли, резали по ночам ножами, рубили топором. Тогда это были бандиты, а сейчас — народные герои. Мы выросли в одной истории, а живем в другой — это уж ладно! У нас еще есть время, но нашим родителям каково? Погибали от пуль и ножей за одну историю, а, дожив до глубокой старости, умирают в другой. История в движении. И если что-то есть в ней вечное, то это — добро.

Вот еще один отцовский рассказ. Мне не было года, и я умирала от рахита, потому что местное население ничего не продавало советским офицерам и их семьям. А меня могло спасти только козье молоко (так говорил врач). И тогда мой отец вместе со своими друзьями пошел в женский монастырь. Заперто. Стучали — не открывают. Тогда по спинам своих товарищей отец перебрался через стену монастыря. Нашел настоятельницу и стал перед ней на колени: « Пусть я — враг. Меня убейте! Но спасите ребенка… Вы же люди Бога…» Настоятельница долго молчала, а потом сказала: «Ты больше сюда не приходи, а твоей жене мы будем давать каждое утро пол-литра козьего молока». Вот эти пол-литра молока и оставляют нас людьми в любом кошмаре… даже в самом страшном — в гражданской войне. И эту историю я пишу, выслушиваю и сохраняю в человеческих голосах. Живую «очеловеченную» историю.

Несколько лет назад я была в Ивано-Франковске, когда японское телевидение «Энич-кэй» снимало обо мне фильм. Потрогала стены монастыря…

В Беларусь наша семья вернулась после пятидесятых. Отец работал журналистом, затем лектором в Полесском обкоме партии. Уже готовили его документы на должность секретаря обкома партии, и тут обнаружилось, что мамина родная сестра сидит в лагере. Вся вина ее была в том, что она осталась на оккупированной украинской территории (как будто люди сами остались, а не доблестная советская армия их бросила на произвол судьбы) и до войны преподавала в школе немецкий язык. И когда немцы заходили в их деревню, то ее просили вести с ними переговоры: «У нас партизан нет. У нас только старики и дети». Ее знание языка спасло деревню, но не спасло ее после войны. После войны особисты с ней говорили на русском: « Зачем ты учила немецкий? Знала, что начнется война?» Это теперь кажется смешно… через шестьдесят лет… А тогда отцу сказали: или разводишься с женой, или … клади партбилет… Отца спас его военный друг Лобанок, в то время секретарь ЦК. Он помог отцу сохранить партбилет и уехать в деревню директором школы. Отец мой из верующих коммунистов, хранит партбилет до сих пор, но он очень любил мою мать. И любовь победила.



Это был второй мой урок на человека… Я поняла окончательно, когда выросла и много думала об этом: человеком можно остаться всегда. Хотя как-то услышала от одного из своих героев (и это есть у меня в книге): «Человека в человеке немного. Ножку венского стула в задний проход, как мне, — и человека нет. Мне мочились и кричали в ухо: называй «своих друзей… умных вспоминай». И я вспоминал…». Этот человек 17 лет отсидел на Колыме, и я ему не оппонент. Он был там и узнал то, что человеку знать не надо. Мне, наверное, просто в жизни везло: мое сердце учили добром…

В детстве я была застенчивая, и моя украинская бабушка учила меня: «Ты людей не бойся…Ты смело иди к человеку, но будь в его душе, как в храме…»

А тема оккупации — это большая и еще закрытая у нас тема. Я когда-то немного о ней сказала и помню, как на меня обрушились именитые партизанские командиры: не тронь святое. А я сказала о том, что с детства слышала. Как боялись днем немцев, а ночью партизан. Как сразу же после войны пошли эшелоны с «оккупированными» на Север… Одна минская подпольщица рассказывала, что после войны ее вызвали в школу, где учился ее сын и попросили: «… Не обижайтесь, но мы вашего сына переведем в другой класс. Этот класс самый лучший в школе, а ваш сын все-таки жил «под немцами»».

Если ты был в оккупации, значит, ты с клеймом. А если ты постирал белье немецким солдатам, чтобы заработать денег и покормить голодающих детей, то ты — пособник врага.

Людмила Михайловна Кашечкина, минская подпольщица, героиня французского Сопротивления, без слез не могла вспоминать, как она после войны вернулась и узнала, что ее муж сидит. А она приехала вся в орденах, вместе с мужем они были в минском подполье. Она пошла к следователю НКВД, который вел дело ее мужа, и это был тот самый следователь, который вел его дело до войны, и он ей кричал: «Французская проститутка!». Если до войны ее мужу в

НКВД сломали одно ребро, то после войны, когда его снова взяли и пока она его оттуда выцарапала, ему сломали второе ребро и отбили почки. Ей вернули больного старика.

С белорусской стороны у нас почти не осталось родственников — бабушка, мать отца, погибла в партизанах от тифа, два брата отца пропали без вести где-то на фронте, две семьи дальних родственников сожгли в их домах за связь с партизанами... Я выросла в послевоенной белорусской деревне и помню, как мало там было мужчин. В памяти одни старые женщины, может быть, они были молодыми, но казались мне старыми ... от слез, от беды, от работы. С тех пор я любой деревенской старухе готова в ноги поклониться — как иконе.

Мы часто говорим «народ — герой», «народ — победитель», но никто не любит вспоминать, как народ унижали. Это еще темные страницы нашей истории. Нам открыли только одну грань — героическую. Может быть, я когда-нибудь напишу о том, как было жить в партизанском отряде красивой девушке... и что было с ней, если она понравилась командиру... Это надо было выполнять, как приказ... А если нет... Могли и убить... Поэтому только одного партизанского командира за это и судили... Да и судили только потому, что брат той девушки был Героем Советского Союза. Из Москвы. Но делу не дали огласки, у Победы должно быть красивое лицо...

Так что видите — у меня нет моей биографии, отдельной от моих книг.

***— Тема Ваших книг: мифы и человек... страдания и человек... зло и человек... Можно так сформулировать Ваш замысел?***

— Что я делаю тридцать лет? Из книги в книгу пишу, скажем так, автобиографию Утопии... коммунистической идеи. Историю красного человека. И эту историю рассказывает сам человек, палач и жертва одновременно. Я думаю, что вся наша беда в том, что палач и жертвы — это одни и те же люди. Гениальная большевистская задумка, я бы не приписывала эту идею только одному Сталину: сначала — палач и жертва, а потом этот же палач превращается в жертву и идет теми же путями ада. И судить некого. Идею что ли судить? Но она же в голове конкретных людей... Часто хороших, очень хороших людей... родных.

Я помню, как те же японцы приехали к моим родителям. Первый вопрос отцу: «Вы коммунист?»

— Был и остаюсь коммунистом. Ничего лучше красного знамени нет. Да, конечно, были ошибки...



— А вот Ваша дочь антикоммунистка. Как вы к этому относитесь?

— Я ее люблю... горжусь... Но мы с ней всегда спорим. Она не любит Лукашенко, а я голосую за него. Он сохраняет прежнюю страну...

Я тоже люблю своего отца, но мы с ним не слышим друг друга. Диалог не получается. Хотя он — учитель истории и сам признается, что на его памяти историю уже переписывали четыре раза. У нас непредсказуемо не только будущее, но и прошлое. Все равно он хочет остаться в своем времени... дожить в нем... Все-таки был он «советский человек», и у него были свои представления о ценностях жизни, о героях и мучениках. И не так легко ему выйти из-под наркоза идеи, и, давайте будем честны, социалистическая идея не так уж проста и примитивна, как нам казалось — в ней есть и правда и романтизм... и кровь и Колыма. И вообще, я все чаще думаю, какие мы были романтики двадцать лет назад: нам казалось, что рухнет кремлевская стена и мы — свободны. А выходит, что все дело не в идее, а в человеке. Опять все упирается в человека. В культуру. Если Флобер говорил о себе: "Я — человек-перо», то я скажу: «Я — человек-ухо». Разговариваю с людьми, слушаю улицу, наши ночные бдения на кухне и вижу в одном человеке два человека.

Пример из «У войны не женское лицо». Женщина плачет и тихо рассказывает... как после войны не могла ходить в мясные магазины, видеть разделанное мясо, потому что она на войне была санинструктором и видела, как от человека остается полведра теплых ошметков... И о том, какие странные животные лошади... как лошадь никогда не может наступить на мертвого человека, и как по-человечески лошади стонут, когда ранены... и плачут... Господи! Да в каждом ее слове — глубина Достоевского. А потом с ней, с этой женщиной, мы заговорили о Горбачеве, Ельцине... И это уже совсем другой человек, враз попростевший и поглупевший, смиренный и испуганный: мы песочек маленький... мы не виноваты... Когда-то я знала, что страдание возвышает человека, теперь я в этом не уверена. Страдание отдельно, а жизнь отдельно. И все опять повторяется... война... диктатура... Сидим с моей подругой (дипломатический работник) в моем деревенском доме (когда-то купила, чтобы жить среди природы и естественных людей, среди животных, наконец — потому что природа и животные там, где Бог — это совершенно). Так вот сидим мы с ней... Заходит во двор сосед — пчеловод, рыбак, цветной рассказчик — и, увидев американку, сразу о политике: мол,

Лукашенко любит народ и защищает его от американцев... и от русских... Все нас грабят, а мы вот хорошие. Гостья спрашивает: «А это ваш двор напротив?» — «Да». — «А почему там такая грязь и навоз на улицу выбрасываете из коровника... И забор хороший не поставите, хотя лес кругом? Кто виноват? Русские или американцы...» Сосед обозлился... Чтобы ответить, надо думать, а думать не приучили. Их учили только верить. Будешь верить — получишь пайку.

И я иду за этим человеком... за «соседом по времени»... Пусть останется в слове не обнаженная идея и холодные события, а эта пропущенная история (она обычно исчезает в великом) наших чувств — во что верили, чего боялись... Какими мы стали...

***— Все знают, что Вас долго не печатали в советское время и уже 13 лет не печатают при нынешнем режиме. Вас судили за честную книгу об Афганистане. От всего этого можно устать. Вы никогда не жалели, что стали писателем? Что Вам помогает?***

— Ответ будет банальный... банальный и простой... Помогает любовь. Я люблю вглядываться в просто жизнь, в просто человека. Я люблю жить. Люблю жить до азарта. Иногда подойду утром к окну и радость — еще одно утро... еще один рассвет... И я слышу крики чаек над Свислочью. И вот солнце всходит...

Я пишу... Вернее, хочу писать такие книги, чтобы каждая была как бы написана новым человеком. Мне неинтересно делать то, что я уже умею делать, поэтому свои книги пишу подолгу — 7-8 лет.

Я книги не пишу, я ими проживаю жизнь. Это и мой путь. Я даже не знаю, кем бы я была, не стань журналисткой, то есть я добываю материал журналистскими методами, но делаю из него литературу. Если бы я не писала, то, думаю, стала бы учительницей.

Мой прадед был учителем ... учился вместе с Якубом Коласом. Отец и мать учителя... То, чем я сейчас занимаюсь, тоже в какой-то степени учительство. Я еще из тех «бывших» писателей, которые не боялись брать на себя риск просветительства и не превращали литературу в игру. В знаки. Это хорошо, что я прошла хорошую журналистскую школу — в «Сельской газете», в журнале «Неман». Учила не газета, учили люди. Мне повезло на учителей: Алесь Адамович — с его европейским и толстовским взглядом на мир, Василь Быков, Вячеслав Кондратьев... гениальный русский режиссер Анатолий Эфрос... Нет! Я счастливый человек! Мне нравится жить, и мне все время встречаются люди, которые любят жить...



Счастье — это целый мир. Нам о нем не говорили... и мы о нем мало знаем. О том, сколько в этом мире уголков, окон, дверей, ключиков. Складских помещений. Это потрясающий мир, у нас очень смутное представление о нем. В книге «Цинковые мальчики» солдат, вернувшийся из Афганистана, так об этом говорит: «Когда у меня родился ребенок, я так нюхал эти пеленки... Так бежал домой, чтобы услышать этот запах. Это был запах счастья». Это так важно. Нам надо перебить запах смерти, среди которого мы выросли.

Но я не люблю, когда слышу: вы мужественная, на вашем месте... Когда у меня от рака умирала сестра в тридцать пять лет, и я ближе познакомилась с хирургами-онкологами, то навсегда освободилась от всякой своей особенности. Попробуйте ребенку сказать, что он смертельно болен... попробуйте это сказать его матери! Просто у нас профессия с повышенной долей риска... И я — не герой!

В том же Афганистане, куда я поехала и откуда вернулась абсолютно свободным человеком, был случай, когда я пошла с нашей делегацией раздавать игрушки и вещи в наш госпиталь. Идет мне навстречу молодая афганка с ребенком на руках, я отдаю ему плюшевого мишку, он берет его зубами. Спрашиваю: «Почему зубами?» Женщина сдергивает с него одеяльце и я вижу — ребенок без рук и без ног. «Это твои... русские сделали...», — кричит она. И я... Я падаю в обморок... Или когда наших ребят ложками сгребали с брони, чтобы хоть что-то родное положить вместе с землей в гробы, которые отвезут их матерям... Да, я могу это без конца продолжать... Как одна из матерей уже в Минске стучала в беспамятстве в цинковый гроб: «Ты ли там, сынок? Ты ли там, сынок? Гроб такой маленький, а ты был под два метра...» Когда ее познакомили со мной, она, захлебываясь слезами, выла, именно выла, а не плакала: «Напишите правду... Их даже стрелять не научили, а отправили на войну. Он не в тир ходил, а дачу генералу ремонтировал. И я это написала... и меня судили за эту книгу, что я «оклеветала» советских героев. Как будто не было одного миллиона афганцев. Я прихожу в суд... и кого я там вижу среди тех, кто подал иск? Я вижу там эту мать... Спрашиваю у нее: «А Вы почему тут? Я написала правду, о которой вы говорили...» Она мне отвечает ... как зомби... «Мне не нужна твоя правда, мне нужен «сын-герой»». Это самое страшное для художника. Конфликт с властью ... с царем... он был всегда, художник к нему не готов. А что сказать этой матери? Даже смерть сына не открыла ей глаза... не сделала свободной...

# НИНА СТУЖИНСКАЯ



**Подготовлено к печати 20.10 2006**

*Имя Нины Стужинской хорошо известно. Кандидат исторических наук. Одна из ведущих специалистов по очень неприятной для белорусских властей теме антисоветских выступлений в 20-х годах прошлого века в такой, как принято считать, толерантной Беларуси.*

***— Вы родились?..***

— В деревне Глинная Слобода тогда еще Калинковичского (теперь Речицкий) района. Я в семье самая старшая из детей. Сестра Людмила и брат Александр родились уже в Казахстане. Отец Иван Павлович Северин всегда был силен в технике, поэтому на целине работал шофером. Северин — это моя девичья фамилия. В нашей местности не добавляли окончание «а».

В связи с этим однажды произошла довольно смешная история. Я уже поступила в аспирантуру, была беременна, а в это время военкомат начал искать призывника «Н.И. Северин». Гонцы пришли в отдел кадров и спросили: где Северин? Там ответили, что вот-вот должен родить... К слову, таких случаев было немало, ибо считается, что все женские фамилии должны быть на русский манер.

...Помню, когда у меня возникли определенные трудности с распределением после аспирантуры, то я пошла за содействием к земляку, писателю Ивану Науменко. Он, услышав название деревни, воскликнул: «Так вы же не белорусы! Я еще аспирантом изучал ваш «адметны» язык, все вокруг «акают», а у вас «окают».

Дело в том, что в этом регионе Гомельской области есть три деревни, которые в основном возникли после прихода русских раскольников (по мнению И. Науменко) — Глинная Слобода, Большие Автюки и Малые Автюки. Малые Автюки — это те, из которых Липский тужится сделать белорусское Габрово...

Мне было четыре года, когда родители перебрались в Казахстан, на целину. Жили около Павлодара, в так называемом Седьмом ауле, который, наверняка, когда-то основали ссыльные поселенцы из политрепрессированных. К слову, недавно все мои родственники вернулись в Беларусь, практически бежали. В Казахстане осталась только могила отца.

Там пошла в школу. Школа была интернациональная. Ингуши, чеченцы, немцы, белорусы, украинцы, русские и прочие. Она имела весь пестрый национальный состав. Именно та школа дала мне представление о многообразии мира и привила уважение к этому разнообразию. Неким культурным ориентиром в нашем ауле были немецкие семьи, высланные сюда из Поволжья и Закавказья. К ним «тянулись» мы — белорусы и украинцы. Старались селиться на «немецких» улицах.

Мне повезло. Большинство школьных учителей были хорошими педагогами. Из немцев. Многие из них выехали в Германию, большинства уже нет в живых. К слову, мое знание немецкого именно оттуда.

Тогда уже было понятно, что «пролетарский интернационализм» — это карточный домик, построенный на неуважении к национальному достоинству. Национальные конфликты, которые после развала Советского Союза вспыхнули, словно ядерные грибы, тлели уже тогда. Просто в то время их осмыслить было невозможно. Не хватало жизненного и социального опыта. На мой взгляд, политика «белых» людей, прежде всего русских, по отношению к местным была отвратительной. Безусловно, не всех, ибо многие помнили, что они в Казахстан приехали не по своей воле.

Национальный вопрос был лакмусовой бумажкой культуры человека. Некоторые «гости» на бытовом уровне демонстрировали некое превосходство и презрение, не потрудившись познать культуру и особенности страны пребывания. Многочисленные национальные группы жили в основном обособленно, смешанные браки не приветствовались ни среди казахов, ни среди немцев, ни среди русскоязычных.

На эту тему я до сих пор помню такой случай. Мы, студенты, едем из Павлодара в Караганду. Мальчик-казах спрашивает: можно к те-

бе прийти в гости? Отвечаю утвердительно. Он опять спрашивает: а то, что ты белая девушка, ничего?

На первом курсе в общежитии жили в большой комнате. Четыре казашки, белоруска, наполовину молдаванка и две немки. Казахи по натуре очень гостеприимный народ, поэтому, когда одна из них сказала, что нас никто в Казахстан не звал, мы были, мягко говоря, шокированы. Она заявила, что у казахов свой образ жизни, им не нужны наши заводы и фабрики, которые испортили их землю. Это был благополучный 1972 год! Именно тогда я и поступила в Карагандинский университет на истфак.

***— Почему выбрали именно историю?***

— Честно говоря, не знаю. Я, как говорится, «мастер разговорного жанра». Так «убаюкала» приемную комиссию, что мне там же предложили перейти на филфак, где конкурс был поменьше, но не согласилась.

В 1973 году перевелась в БГУ. Приступила к изучению истории Беларуси и испытала очень сильное разочарование. После истории Казахстана история Беларуси как предмет и наука оставляла впечатление сироты. Мне показалось, что есть плохая и немного подправленная калька с истории России.

К слову, одним из моих преподавателей был небезызвестный Л.С. Абецедарский. Потрясло также почти полное отсутствие белорусского языка. На нашем курсе на нем говорил один Коля Николаев, который сейчас возглавляет в Санкт-Петербурге белорусскую суполку.

К слову, в БГУ меня учил Пётр Кузьмич Кравченко. Знаю, что у некоторых к нему отношение неоднозначное. Но я об этом человеке сохранила самые хорошие воспоминания. Он искренне любил историю и пытался эту любовь привить нам.

Кстати, именно он мне предложил тему, которую тогда называли политическим бандитизмом и которая потом трансформировалась в антисоветское движение. Он часто мне помогал, прекрасно понимая, что «волосатой лапы» у меня нет. Несколько лет подряд, будучи аспирантом, а потом преподавателем, возил нас «на картошку». Парни из нашей группы обижались, что Кравченко не дает возможности им расслабиться, и вместо выпивки в конце дня играли в футбол. В отличие от некоторых он не стоял «руки в брюки», сам всегда тоже работал.



Я часто болела. Наверное, сказывалась перемена климата. В Минске никого из родных не было, и Кравченко, уезжая с группой из очередного колхоза, никогда не забывал меня забрать из больницы.

***— После исторического факультета Вы сразу же пошли в аспирантуру?***

— Нет. По распределению я честно отработала положенные три года. Вначале в школе, что в деревне Пекари Молодечненского района. Она довольно далеко от Молодечно. Когда поехала туда первый раз, казалось, что попала на край света.

Как сейчас помню: грязи по уши, а на моих ногах модные зеленые туфли на платформе. Всю дорогу из Пекарей в Молодечно (около часа) рыдала. Встретили в деревне меня неплохо, но с красным дипломом университета работы в «восьмилетке» не оказалось.

Заведующий роно, который особо не жаловал молодых здоровых людей, прибывших по распределению, был непреклонен: я должна остаться. Потом поняла его обиду, не на меня лично, а вообще на белый свет. У него единственный сын был серьезно болен. Всем здоровым заведующий как бы мстил. Для меня нашлись уроки истории и немецкого языка.

Из деревни, где проработала год, меня «забрал комсомол». Два года была освобожденным секретарем комитета комсомола Березинского ПТУ, что недалеко от Молодечно. В училище учились одни парни. В ПТУ тогда, как сейчас в частные вузы, брали всех, чтобы выполнить план набора. Контингент был еще тот. Но «хобза» позволила закалить характер.

Там купила свою первую машину, вышла замуж.

... Это было восьмого марта. Я сказала завучу ПТУ, что нужно помочь с машиной. Он порекомендовал Николая Стужинского. Мне очень понравилась фамилия. Так мы познакомились и через год поженились. Уже вместе двадцать шесть лет.

***— А как Вы начали заниматься политикой?***

— Женщина приходит в политику, благодаря профессии либо любимому мужчине. У меня первая причина. В ту пору я начала разработку истории антибольшевистских крестьянских выступлений в Беларуси. А тут перестройка с гласностью. Очень хотелось принести свои знания на благо возрождающейся Беларуси. Выбрала крестьянскую партию (сама была «аулодеревенской») покойного Лугина. Позвонила и высказала пожелание насчет вступления.

В ту пору я очень мало разбиралась в партийном строительстве и партийной целесообразности. К сожалению, одна из самых многочисленных партий той поры не удержалась в политике, растворилась, не оставив сколько-нибудь заметного следа.

А к социал-демократам попала по «протекции» Михаила Михайловича Чернявского. Было это в 1995 году. С 1998 по 2004 г. являлась заместителем председателя. С появлением в партии козулинской фракции и произошедшим расколом, выбрала для себя ту часть белорусской социал-демократии, для которой признанным лидером остается Николай Статкевич.

Работа в партии была для меня совершенно новым жизненным опытом, который накапливается и, надеюсь, будет иметь какие-то законченные результаты. Это во мне заговорила неисправимая оптимистка, потому что по партийной линии благодарностей не помню, помню выговоры.

Вообще, в партиях люди, имеющие склонность к практическим делам, наиболее уязвимы. Их есть за что критиковать. Женщины, которые отличаются практицизмом и желанием делать что-то конкретное, но плохо обученные политической риторике, — прекрасный объект для беспощадной критики коллег-теоретиков.

Однако главное дело для сердца и души — продвижение женщин в политику. Их прагматизма и деловитости в этой сфере явно не хватает.

Правда, были и благодарности. В 2002 году стала лауреатом премии имени Ф. Богушевича Белорусского Пэн-центра. Так была оценена общественностью моя книга «Беларусь мятежная».



# ВАЛЯНЦІН АКУДОВІЧ



**Падрыхтавана да друку 06.03.2007.**

*Некаторы час таму мы дамовіліся, што вядомы філосаф Валянцін Акудовіч дашле мне свае нататкі па электроннай пошце. Так і адбылося — дзень у дзень. Прыемна, калі нехта так дакладна выконвае свае абяцанні. На жаль, падобнае атрымліваецца далёка не заўсёды...*

...Дарэчы, чаму мы кажам: «Я нарадзіўся...»? Ніхто з людзей не з'яўляецца на свет белы сам, з уласнай волі. Кожнага з нас нараджае маці (так атрымалася нават з Ісусам), і таму, бадай, больш слушна было б казаць: «Маці мяне нарадзіла». У маім выпадку гэта здарылася 18 чэрвеня 1950 года ў мястэчку Свіслач. Бацька яшчэ не дарэшты збудаваў хату, але жыць сыну ўжо было дзе. Між іншым, як і ў выпадку Ісуса, мой бацька быў цесляром (усміхнёмся з гэтай авантурнай паралелі), адно што звалі яго не Іосіф, а Васіль. Ён не толькі сам збудаваў хату, але сваімі рукамі змайстраваў усё неабходнае для жытла ў ёй: сталы, табурэткі, крэслы, шафы.

Маці Людміла была партніхай — так, на расейскі манер, празываліся ў нас швачкі. І, пэўна, партніхай яна была неблагой, бо яе кліентуру складаў амаль увесь местачковы «бамонд».

Мае бацькі паходзілі з мясцовых сялян, мелі ўсяго толькі пачатковую адукацыю, але па меры людскасці я няшмат каго згадаю з імі побач. Яны годна «справіліся» з дзвюма сусветнымі войнамі, некалькімі акупацыямі, бежанствам, рэпрэсіямі ды перманентнай нястачай у перыяды бясконцых гістарычных катаклізмаў.

Падчас Другой сусветнай вайны бацька ваяваў з немцамі — спачатку ў Войску Польскім, а затым у Савецкай Арміі, з якой і дай-

шоў да Прагі (артылерыст, быў моцна паранены, аднак праз добрае здароўе дажыў да дзевяноста чатырох гадоў). Маці, тады маладое дзяўчо, акупацыйныя ўлады забралі на працу ў Нямеччыну. Дзед запрог каня і паехаў у перасыльны лагер, дзе за немалы хабар схіліў аднаго з ахоўнікаў цішком адпусціць дзяўчыну дахаты. З-за гэтага да канца вайны на хутар дзеда раз-пораз наязджала паліцыя, і тады «дэзерцірка» хавалася ў схароне за печкай.

Калі бацькі пабраліся шлюбам, тату было ўжо трыццаць сем (на пятнаццаць гадоў старэйшы за маму). «Маладыя» перабраліся ў мястэчка Свіслач, што амаль на мяжы з Польшчай. Мой школьны сябар у шостым класе збег з урокаў у лес і, заблукаўшы, міжволі патрапіў у іншую краіну. Праз некалькі дзён палякі дэпартавалі перабежчыка на бацькаўшчыну. Мы сустракалі яго, як нацыянальнага героя, бо на тую пару за мяжу выпускалі адно савецкіх разведчыкаў.

Дарэчы, мая школа насіла імя Кастуся Каліноўскага — ля ўвахода нават стаяў ягоны бюст. Толькі не памятаю, каб пра Каліноўскага хоць калі згадвалі, акрамя як на ўроках гісторыі, прысвечаных сялянскім паўстанням. Першыя два гады, пакуль школа будавалася, я вучыўся ў нейкіх сырых сутарэннях з таўшчэзнымі сценамі, адно збольшага прыстасаваных пад класы. Казалі, што гэта гаспадарчыя прыбудовы нейкай даўняй гімназіі. Мінулі дзесяцігоддзі, перш чым я даведаўся, што пачынаў сваю адукацыю ў будынку слыннай Свіслацкай гімназіі, дзе калісь вучыліся не толькі такія нацыянальныя героі, як старэйшы брат Кастуся Каліноўскага Віктар, але і будучыя еўрапейскія славутасці — Напалеон Орда, браты Крашэўскія, Траўгут. Тагачасная ідэалогія вынішчыла ўсё, што магло нагадаць маладому чалавеку пра існаванне на гэтых землях высокай шляхецкай культуры.

Пасля школы я спрабаваў паступіць у Мінскі політэхнічны інстытут, але не паступіў, і маці ўладкавала мяне на працу ў мясцовую хлебапякарню экспедытарам. Кожным ранкам мы загружалі поўную машыну скрынямі з яшчэ гарачым хлебам і развозілі яго па вёсках. Ніколі потым у жыцці я не меў лепшай працы. Густы пах свежага хлеба, дарога, бясконцая плынь краявідаў і колькі хочаш часу для роздуму над быццём, пакуль, разгрузіўшыся ў адной вясковай краме, едзеш да іншай.

На наступны год я таксама не паступіў у політэхнічны інстытут, і маці зноў давялося ўладкоўваць мяне на працу: гэтым разам яна выправіла сына да знаёмцаў на Мінскі маторны завод. Так я стаўся токарам, хаця даволі хутка пераканаўся, што рукі ў мяне «не пад тое заточаны».



Я не любіў жалеза, і таму яно мяне не слухалася. Найболей я любіў шпацыраваць у вольную хвіліну між заводскімі карпусамі і думаць «пра вечнае» (у прозе ці вершах). Але завод мяне не нудзіў, бо вельмі хутка я прыдбаў там шмат сяброў (як высветліцца пазней — на ўсё жыццё) і пачаў з імі хадзіць у горы.

Калі мяне забіралі ў войска, я ўжо меў нават нейкі разрад па спартовым турызме. Досвед вандровак добра дапамог мне ў бясконцых маршах на далёкі палігон, але не выратаваў ад бяды.

Як вядома, бывае, што ў войску страляюць, і, здараецца, нават кідаюць гранаты. Невялічкі асколак адной з іх патрапіў мне ў вока. Пасля аперацыі я ляжаў у палаце і курчыўся ад жаху, бо зусім рэальна было страціць вока. Не ведаю, ці то насамрэч, ці каб суцешыць, але хірург сказаў, што каб які міліметр убок, дык асколак увогуле пазбавіў бы мяне жыцця. Але для маладога чалавека, будучыня якога атаясамліваецца з каханнем дзяўчыны, фізічнае калецтва выглядала горшым за смерць.

Трохі адхіліла маю ўласную вусціш ужо на самой справе жахлівая бяда суседа, які маўкліва ляжаў побач. Санітарка, наглядзеўшыся на мае пакуты, ледзь чутна прашаптала на вуха: «Не перaймайся лішне, вунь салдаціку абедзве зрэнкі снарадам пасекла». З гэтага моманту я пачаў думаць не пра сябе, а пра назаўжды абрынутага ў цемру хлопца, і нават склаў верш, з якога запомніўся толькі кавалак радка — «адно вока на дваіх».

Мяне доўга лячылі, а калі выпісалі са шпіталя, дык узнагародзілі медалём «За воінскую доблесць». Пасля войска я зноў вярнуўся на маторны завод, дзе працаваў спачатку слесарам, а потым «інжынерам па метале» (не маючы тэхнічнай адукацыі).

Аднак праца мяне мала займала, бо насамрэч я жыў трэніроўкамі, турысцкімі спаборніцтвамі і вандроўкамі па гарах (Паўднёвы Урал, Хібіны, Крым, Карпаты, Каўказ, Палярны Урал, Саяны, Прыпалярны Урал, Алтай, Памір) і яшчэ (ці найперш) — кнігамі. З дашкольнага дзяцінства я марыў аб пісьменніцтве. Мае першыя вандроўныя нарысы, якія друкавала шматтыражная газета «Трактар», значылі для мяне куды болей, чым самі вандроўкі і спартовыя дасягненні, звязаныя з імі (у 1980 годзе я атрымаў званне «Майстар спорту СССР»).

Мая мара здзейснілася ў 1975 годзе, калі я паступіў у Маскоўскі літаратурны інстытут імя Максіма Горкага пры СП СССР . Гэта быў цуд! Дасылаючы на творчы конкурс невялічкую аповесць, я зусім не спадзяваўся на поспех. Мне было дастаткова таго, што нехта з сапраўдных пісьменнікаў прачытае яе і, можа, напіша некалькі слоў у адказ.

Увогуле, у сваёй безнадзейнасці я меў рацыю, бо пра Літінстытут (ці не адзіная падобная ўстанова ва ўсім свеце!) тады трызніў кожны графаман неабсяжнай савецкай імперыі. Казалі, што ў год майго паступлення конкурс складаў больш як сто чалавек на месца. Каб з гэтых больш як ста чалавек выбар спыніўся на хай сабе і добра начытаным, але ўвогуле не надта адукаваным беларускім хлопцы, які на кожнай старонцы друкаванага тэксту рабіў тузін граматычных ды сінтаксічных памылак, безумоўна, патрэбен быў цуд. Хаця цяпер, ужо добра пажыўшы і шмат напрацаваўшыся з маладымі літаратарамі, я часам думаю, што тут магло абысціся і без містыкі.

Можа, мой будучы літаратурны кіраўнік проста адчуў, што ў гэтым маладым рабочым нешта ёсць, і рызыкнуў даць веры сваёй чуйнасці. Гэтаксама і я потым неаднойчы стану друкаваць яшчэ «сырыя» тэксты пачаткоўцаў толькі таму, што мне пачуецца: тут нешта ёсць.

Зрэшты, быў цуд ці не — гэта ўжо не мела значэння. Я апынуўся сярод мноства самых сапраўдных пісьменнікаў (лепшых у тагачаснай савецкай літаратуры), з дня ў дзень слухаў іх казанні, а пазней, здаралася, з некаторымі нават і чарку браў. Хаця справа не толькі ў пісьменніках.

На тую пару Масква была інтэлектуальным цэнтрам усёй камуністычнай імперыі, а Літінстытут — адным з самых выбітных інтэлектуальных цэнтраў Масквы. Да таго ж тут было найболей свабоды (хаця ў адносінах да таго часу слова «свабода» лепш увогуле не згадваць), бо пісьменнікам у Расіі традыцыйна дазвалялася трохі больш «вальнадумства», чым каму яшчэ...

Бліскучая прафесура (што праўда, не без выняткаў), творчыя семінары, акадэмічная вольніца — усё гэта напачатку проста ашаламіла мяне. Але была ў Літінстытута (ён месціўся у невялікім доміку Герцэна на Цвярскім бульвары) яшчэ адна каштоўнасць, якая, бадай, нават пераважвала ўсё пералічанае. Гэта яго інтэрнат, бітком набіты надзвычай таленавітымі і добра абазнанымі ў сусветнай культуры маладымі «геніямі». Там, у калідорах і пакоях, маё веданне спелілася нават з большым плёнам, чым у аўдыторыях.



Пасля чацвёртага курса я праходзіў практыку ў маскоўскім часопісе «Знамя», дзе мяне хацелі пакінуць на сталую працу. Аднак мне карцела вярнуцца ў Мінск і знайсці вартаўніцкую службу, каб хапала часу для вольнага крэмзання паперы. Так яно і сталася. Праўда, першы год пасля вяртання я працаваў у Доме піянераў (вучыў падлеткаў спартовому турызму), але наступныя чатыры гады ўжо бавіў час у розных вартаўніцкіх каморках. Справа ў тым, што на лета я звальняўся са службы, каб пайсці ў горы, а восенню ўладкоўваўся ў іншае месца (выключэнне была турбаза «Нарачанка», дзе я адпрацаваў лодачнікам поўны сезон).

За гэты час ажаніўся (у трыццаць тры гады) і займеў сына. Але калі нарадзілася яшчэ і дачка, дык нават нам, звыклым да жыцця ў нішчымніцы, трываць на адну вартаўніцкую зарплату ўжо не хапала моцы. Тады мой малодшы брат дапамог мне ўладкавацца намеснікам дырэктара ў Мінскую школу турызму. Затым ён жа прапанаваў выкладаць у Беларускім інстытуце турызму, дзе я чытаў лекцыі будучым інструктарам, а потым вывозіў іх практыкавацца па горныя маршруты. І ўсё было як быццам няблага, але з кожным годам мацнела разуменне, што сапраўдная справа чакае мяне ў іншым месцы, а менавіта — у літаратуры. Тым больш што ў тыя гады я ўжо пачаў досыць актыўна друкавацца (артыкулы, эсэ, проза). Але пошукі прытулку ў рэдакцыях літаратурных выданняў былі дарэмнымі. І нават пратэкцыя такіх слынных пісьменнікаў, як Янка Брыль ды Міхась Стральцоў, нічым мне не дапамагла.

Пазней я зразумеў, што тады проста яшчэ быў не мой час. А як мой час надышоў (пара краху камуністычнай імперыі), дык і месцы знайшліся, і спраў з'явілася — рабіць не перарабіць.

Мая прафесійная літаратурная дзейнасць пачалася са штотыднёвіка «Культура», дзе я пакрысе «дарос» да першага намесніка галоўнага рэдактара. Толькі ганаруся я зусім не кар'ерным поспехам, а літаратурна-філасофскім сшыткам «ЗНОЦ», які ў якасці дадатку да газеты пачаў выходзіць у 1993 годзе. Я быў адным з яго стваральнікаў і нязменным рэдактарам. У «ЗНОЦ» мы ўпершыню надрукавалі ў перакладзе на беларускую мову мноства тэкстаў слынных мысляроў з самых розных эпох і кантынентаў, тут знайшлося месца андэг-

раўндным, авангардным ды постмадэрновым практыкам айчынных творцаў, сярод якіх найбольш ярка заявіў пра сябе літаратурны рух «Бум-Бам-Літ» (маю гонар быць яго «хросным бацькам») і шмат чаго іншага. Але ў тую бурапенную пару, калі з усіх бакоў клікалі на стваральную працу, немагчыма было трымацца нечага аднаго. Неўзабаве адначасна з газетай «Культура» я пачаў працаваць у часопісе «Крыніца» (загадваў аддзелам філасофіі і замежнай літаратуры), затым — яшчэ і ў штотыднёвіку «ЛіМ», быў адным з намеснікаў галоўнага рэдактара філасофскага часопіса «Фрагменты», выкладаў на аддзяленні філасофіі і літаратуры ў Беларускім Калегіуме. А колькі ў той самы час было ўсялякіх разавых праектаў (у першую чаргу — выдавецкіх), публічных лекцый, канферэнцый, замежных вандровак, акцый палітычнага супраціву...

І на ўсё тады хапала і часу, і энергіі, і шалёнай прагі ствараць, змагацца. Мы як быццам прадчувалі, што гэтая эпоха (я яе, паследам за нямецкімі рамантыкамі, называў «эпохай буры і націску») не зацягнецца, і таму імкнуліся скарыстаць «тут і цяпер» усе магчымасці напоўніцу. Так яно і сталася.

Недзе пасля 1996 года дзяржаўныя выданні былі вымушаны займацца ўсё больш жорсткім самацэнзураваннем, і я пакінуў «Культуру» ды «ЛіМ», а затым і часопіс «Крыніца».

Апошні — праз бунт. Дзеля больш эфектыўнага кантролю над літаратурнымі выданнямі ўлады прынялі рашэнне аб'яднаць іх у холдынг і гвалтам змянілі нам галоўнага рэдактара. Калі саноўная дэлегацыя прыйшла нам пра гэта паведаміць, я, не выбіраючы слоў, сказаў ім усё, што думаў пра іх і аб'явіў аб сваім сыходзе з рэдакцыі.

На маё здзіўленне праз некалькі дзён мяне падтрымалі ўсе астатнія супрацоўнікі. Падзея мела досыць шырокі публічны рэзананс, бо раней, здаецца, ніколі такога не было, каб у знак пратэсту звальнялася ўся рэдакцыя.

На жаль, не толькі ў дзяржаўным, але і ў недзяржаўным сектары плённа працаваць рабілася ўсё больш складана. Закрываліся газеты, часопісы, навучальныя ўстановы, фонды, грамадскія арганізацыі... Сфера незалежнай гуманістыкі радыкальна звужалася, як дарэчы, і магчымасць зарабляць хоць які грошык на жыццё. Тады мне зноў дапамог брат, які прапанаваў месца кладаўшчыка ў сваёй турыстычнай фірме.



Склад турысцкага рыштунку знаходзіўся ў склепе. Працай мяне лішне не абцяжарвалі і, зацыраваўшы які разадраны намёт, я меў дастаткова часу, каб у цішыні сутарэння рэдагаваць тэксты для розных часопісаў ды зборнікаў, рыхтавацца да лекцый у Беларускім Калегіуме і без спешкі апрацоўваць рукапісы ўласных кніжак (праўда, іх маю няшмат: «Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека», «Разбурыць Парыж», «Дыялогі з Богам» і «Код адсутнасці»).

Зрэшты, досыць хутка вольнага часу ў мяне значна паменела, бо ў склеп панадзіліся хадзіць філосафы, літаратары, мастакі, журналісты ды ўсялякі іншы цікаўны люд. Якія толькі праекты тут не абмяркоўваліся, колькі ідэй ды ініцыятыў не ўзнікала, а часам — і згасала!..

На жаль, усё добрае па азначэнні мае тэндэнцыю да хуткага заканчэння. Ужо некалькі гадоў у мяне няма таго ўтульнага склепа, як і сталай працы ўвогуле. Аднак гэта зусім не азначае, што я хоць на які дзень застаюся без справы.

Часопісы, анталогіі, зборнікі, кнігі прозы і паэзіі, аналітычныя праекты... Чым толькі не даводзіцца займацца! І далёка не заўсёды тым, чаго б найболей хацелася. Аднак я гэтым лішне не праймаюся, бо яшчэ падлеткам даў веры словам бацькі, якія ці не найлепш перадаюць філасофію беларуса: рабі, што можаш, і хай будзе як будзе.

**P.S.** Я ўжо даўно не выпраўляўся ў горы, пасля таго як на пачатку дзевяностых «пасадзіў» сэрца на адной з вяршынь Палярнага Урала. Аднак кожны год з хаўрусам філосафаў, літаратараў і музыкаў плаваю на байдарках па Беларусі.

У родным мястэчку Свіслач, дзе нарадзіўся і асталеў, бываю ўсё радзей. Затое на Вялікдзень —абавязкова. Там мяне чакаюць маці, сястра і нябожчык бацька на могілках. А яшчэ там чакае мяне маленькі хлопчык з гармонікам. Ён пакуль не ўмее на ім граць, але тае бяды. У яго яшчэ ўсё жыццё наперадзе.

# УЛАДЗІМІР АРЛОЎ




Падрыхтавана да друку 10.02.2007

*Матэрыял, які прапануецца Вашай увазе, істотна адрозніваецца ад астатніх. Эсэ пра сваё жыццё Уладзімір па маёй просьбе напісаў сам і даслаў па электроннай пошце (як і папярэдні герой).*

Я нарадзіўся ў год Змяі, паводле ўсходняга календара, і ў год смерці Сталіна, паводле календара савецкага. Мой прыход на свет адбыўся пад задыякальным знакам Дзевы ў найстаражытнейшым беларускім горадзе Полацку. Гарадская радзільня ў той час знаходзілася на полацкім Верхнім замку, за нейкую сотню крокаў ад Сафійскага сабора. Якраз на Сафію і выходзілі вокны палаты, адкуль мая мама Марыя ўпершыню паказала мяне майму бацьку Аляксею. Сафійскія вежы, убачаныя няцямлівымі вачыма немаўляці, сталіся маім першым уражаннем ад навакольнага свету, і, магчыма, менавіта гэта прадвызначыла мой лёс.

Маё маленства смяялася і плакала на старадаўніх полацкіх вулачках, але пра пошукі старажытных скарбаў і лёхаў, што вядуць з полацкіх храмаў на той бок Дзвіны, пра выпрабаванні смеласці на вузенькім гзымсе вакол купала Багаяўленскага сабора, пра злачынна ўзняты ў паветра на нашых дзіцячых вачах сабор святога Стэфана, пра першае каханне і першую здраду лепей прачытаць у маіх кнігах.

Мая мама выкладала гісторыю, бацька працаваў пракурорам. Дзякуючы суровай бацькавай прафесіі, я атрымаў сваю першую мянушку — «пракурор». Так клікалі мяне ў мамінай роднай прыдняпроўскай вёсцы на Шклоўшчыне, дзе я штогод летаваў у бабулі Аўгінні.



Бабуля была ўдавой. Яе мужа (майго дзеда) Максіма Дзянісава расстралялі ў 1933 і рэабілітавалі ў 1963. Маміна маці, несумненна, мела стасункі з загадкавымі, але наогул прыязнымі да чалавечага роду сіламі: яна зашэптвала зубы, спыняла кроў, выводзіла мышэй і «кацiную драпу». Спадзяюся, што нейкая частка гэтых здольнасцей перайшла ў спадчыну да мяне, бо таемную бабуліну сілу я адчуваю і сёння, амаль праз паўстагоддзя пасля яе адыходу ў іншы свет.

Бабуля Аўгіння адкрыла мне тое, што цяпер я называю беларускім космасам. Яна была маёй першай настаўніцай — не толькі мовы, але, напрыклад, і батанікі. Яна прыводзіла мяне на поплаў ці на гумнішча, садзіла на грудок і пачынала свой урок. «Гэта здрыжнічкі, — казала яна, паказваючы мне краску ці травінку, — гэта ястрэц, вунь, на выжарыне, скрыпень зацвітае, а вось тут братаўка прытулілася...».

Я атрымліваў ад бабулі і іншыя надзвычай важныя ўрокі, і сёння імкнуся выконваць яе парады. Я не сплю, калі садзіцца сонца, бо бабуля вучыла, што, калі заснеш з ім разам, уранні ўжо не прачнешся. Я не гляджуся апоўначы ў люстэрка, каб не растаць у ім. Я памятаю, што «нельга любіцца з дзеўкамі ў жыце і ў красках таксама нельга, бо колькі каласоў зломіш, столькі людзей ад голаду сканае, а колькі красак звяне, столькі дзетак на свет не народзіцца».

Пасля школы зорка лёсу прывяла мяне на гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Там сустрэў сяброў, дзякуючы якім канчаткова пераканаўся ў тым, што я не савецкі чалавек, а беларус і што мая радзіма — Беларусь, а не СССР. Там сустрэўся са сваёй будучай жонкай Валянцінай, якая стане паэтэсай Валянцінай Аксак і маці маіх сыноў Рамана і Багдана.

Тады, на пачатку 1970-х, у нашай галоўнай alma mater амаль нічога беларускага, апрача назвы, ужо не было. Прынамсі, у нас на гістфаку. Мы чулі, што некалі курс гісторыі Беларусі чытаўся па-беларуску, але той час ужо здаваўся нам міфалагічным. Каб уявіць узровень выкладання айчыннай гісторыі, дастаткова сказаць, што Еўфрасінню Полацкую наш прафесар Абэцэдарскі называў на лекцыях царкоўнай цемрашалкай. «Гісторыя Беларусі» гэтак званага «дакастрычніцкага» перыяду, якую мы вывучалі, грунтавалася на міфах, створаных расейскай гістарыяграфіяй: пра адзіную старажытнарускую народнасць, заваёву беларускіх земляў спачатку літоўцамі, а потым палякамі, адсутнасць у нашых продкаў уласнай

дзяржаўнасці, пра адвечнае імкненне беларусаў уз'яднацца з рускім народам...

Дарэчы, калі напрыканцы XVIII стагоддзя мара маскоўскіх цароў нарэшце здзейснілася, і Беларусь у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай «уз'ядналася» з Расійскай імперыяй, дзясяткі беларускіх вёсак атрымаў адзін з фаварытаў імператрыцы Кацярыны II граф Рыгор Арлоў. Часам мяне апаноўвае спакуса вывесці свой радавод менавіта ад яго. Канчаткова не закрэсліваючы і гэтай версіі, мушу зазначыць, што, напэўна, усё было больш банальна, бо ў роднай бацькавай вёсцы Арловы жывуць амаль у кожнай хаце.

Але, на вялікае шчасце, у гады майго студэнцтва з'явіліся раманы, аповесці і апавяданні Уладзіміра Караткевіча. Дзякуючы ім, я пачаў адкрываць для сябе сапраўдную гісторыю Беларусі. Гэта была гісторыя, вартая еўрапейскага народа: з тысячагадовай традыцыяй дзяржаўнасці, бліскучымі перамогамі пад Грунвальдам, Оршай і Кірхгольмам, з Магдэбургскім правам у гарадах, эпохамі Рэнесанса і Рэфармацыі, якіх гэтаксама, як і Магдэбургскага права, у Расіі ніколі, на вялікі жаль, не было...

Аднойчы на студэнцкай вечарынцы сярод іншых забаў і гульняў хтосьці прапанаваў і такую: без роздуму напісаць імёны дзесяці гістарычных асоб. Пасля гэтага конкурсу стаяў гамерычны рогат, бо найчасцей у адказах сустракаліся імёны сярэднявечных японскіх уладароў — сёгунаў. Прычына была ў тым, што ўсе мы захапляліся таленавітымі лекцыямі нашага выкладчыка гісторыі Японіі і Кітая. Але ніхто з нас, будучых выпускнікоў гістарычнага факультэта, не згадаў аніводнай выдатнай асобы з мінулага Беларусі! Яно, гэтае мінулае, не было часткай нашай свядомасці, не ўспрымалася нават намі, студэнтамі-гісторыкамі БДУ, як неацэнная нацыянальная каштоўнасць. Гісторыя нашай зямлі не напаўняла жыццё шырокім няпобытавым сэнсам, не дапамагала нам глыбей спасцігнуць сучаснасць, каб быць гатовымі да будучыні.

Тады я перажыў тое, што называюць «момантам ісціны». Мне ўпершыню так балюча адкрылася бездань нашага гістарычнага бяспамяцтва. І я сказаў сабе, што, як палачанін з нараджэння, як гісторык па адукацыі і літаратар паводле схільнасцей, я проста абавязаны змагацца з гэтым бяспамяцтвам, якое ператварае народ у насельніцтва і ўрэшце пазбаўляе яго гістарычнай перспектывы.



На той час у маёй літаратурнай біяграфіі ўжо былі дэбютныя публікацыі вершаў і прозы ў студэнцкіх самвыдавецкіх альманахах «Блакітны ліхтар» і «Мілавіца». Першы выдавалі мае сябры — студэнты Наваполацкага політэхнічнага інстытута, другі выходзіў у нас на гістарычным факультэце. Абодва альманахі былі беларускамоўнымі, і ўжо гэтага хапала, каб выдаўцы і аўтары зазналі шмат непрыемнасцей, блізка пазнаёміўшыся з літаратуразнаўцамі ў цывільным. Дарэчы, усе канфіскаваныя ў нас пятнаццаць нумароў «Блакітнага ліхтара» дагэтуль захоўваюцца для нашчадкаў недзе ў архівах КДБ.

Першая мая кніга прозы выйшла ў 1986 годзе. Назву ёй дало апавяданне «Добры дзень, мая Шыпшына», адным з самых першых чытачоў якога быў Уладзімір Караткевіч. Атрымаўшы ягоны ліст з залішне ўзнёслым водгукам на мае літаратурныя практыкаванні, я колькі дзён лётаў як на крылах. Смешна прызнацца, але апрача ўсяго астатняга яшчэ і ганарыўся тым, што мой адрасант у адной са сваіх заўваг не меў рацыі. Караткевіч пісаў, што нібыта жоўтыя гарлачыкі, як і белыя, на ноч закрываюць свае кветкі. Я ж, ствараючы апавяданне, адмыслова начаваў каля сажалкі і пераканаўся, што жоўтыя гарлачыкі не «засынаюць» (ва ўсякім разе ў нас на Полаччыне).

Трымаючы ў руках аўтарскія экзэмпляры кніжкі, я скрушліва думаў, што ўжо не пашлю яе са свайго Полацка ні Уладзіміру Караткевічу, ні Ларысе Геніюш, у якой мне не раз даводзілася бываць і аднаму, і з сябрамі — маладымі літаратарамі і гісторыкамі. Яшчэ і цяпер калі-небудзь у зімовую раніцу, не зусім прачнуўшыся, магу ўсцешана падумаць: перад Калядамі паеду ў Зэльву да Бабулі — так мы называлі Ларысу Антонаўну між сабой у гаворках, лістах і тэлефонных перамовах.

Я выступіў на пахаванні нашай славутай паэткі і нязломнай грамадзянкі БНР, пасля чаго кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў атрымала загад выкрасліць мяне са спіса ўдзельнікаў усесаюзнай нарады маладых літаратараў. Хачу сказаць маім невядомым «дабрадзеям» шчыры дзякуй, бо якраз у дні той маскоўскай нарады мне ўсміхнулася муза Кліа. Я сеў за стол і напісаў першае гістарычнае апавяданне «Місія папскага нунцыя». Гэта быў пачатак другой маёй кнігі, якая з'явілася ў 1988 годзе пад назвай «Дзень, калі ўпала страла».

З таго часу ў мяне выйшла трыццаць кніг прозы, паэзіі, гістарычных нарысаў і эсэ. Некаторыя з іх былі адзначаны прэміямі і ўзна-

гарадамі, самымі дарагімі з якіх лічу медаль Францішка Скарыны, атрыманы на пачатку дзевяностых, а таксама выдавецкую прэмію імя Уладзіміра Караткевіча і прэмію імя Францішка Багушэвіча Беларускага ПЭН-цэнтра. Як велізарную ўзнагароду ўспрымаю і пераклады маіх тэкстаў на асноўныя еўрапейскія мовы, а таксама на польскую, літоўскую, эстонскую, румынскую, латышскую, украінскую, грузінскую, чэшскую, славацкую ды іншыя. Найбольш у гэтым сэнсе пашчасціла майму эсэ «Незалежнасць — гэта...», напісанаму ў 1990 годзе і прысвечанаму чарговай гадавіне БНР. Яно загучала на дваццаці мовах і, на жаль, не страціла сваёй актуальнасці для нас і сёння.

На пачатку дзевяностых гадоў, калі кінастудыя «Летапіс» працавала на беларускую нацыянальную ідэю і мела ў гэтым дзяржаўную падтрымку, паводле маіх сцэнарыяў былі зняты навукова-папулярныя фільмы «Еўфрасіння Полацкая», «Сімяон Полацкі», «Полацкія лабірынты». Пад назвай «Рандэву» было экранізавана адно з маіх улюбёных гістарычных апавяданняў «Рандэву на манеўрах».

Разам з беларускай па маіх жылах бяжыць і цыганская кроў. Магчыма, з гэтае прычыны падарожжы займаюць у іерархіі маіх жыццёвых каштоўнасцей адно з першых месцаў. Пачынаючы з 1990 года, калі нарэшце стаў «выязным», паспеў крыху пабачыць свет — наведаў дваццаць краін і чатыры кантыненты. Такі ўжо я чалавек, што ўсюды, нават у Афрыцы, найперш шукаў беларусаў і Беларусь.

Яшчэ я паспеў выпіць глыток віскі з выдатнай беларускай паэтэсай Наталляй Арсеньевай на амерыканскім беразе возера Антарыё, у яе доме, пад вокнамі якога на кветніку раслі нашы родныя валошкі. Паспеў пагасцяваць у пісьменніцы Аляксандры Саковіч у Кліўлендзе, а ў архівах беларускай царквы святой Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы, што ў штаце Нью-Джэрсі, знайшоў неапублікаваныя рукапісы вядомага літаратара і гісторыка Юркі Віцьбіча... Уражанні замежных вандровак сталіся асновай кніг эсэ «Божая кароўка зь Пятай авэню», «Адкусі галаву вароне» і «Сланы Ганібала».

Відаць, варта адзначыць, што першым маім замежным падарожжам сталася паездка на ўрачыстасці з нагоды 580-х угодкаў Грунвальдскай перамогі, што адбываліся на тых самых палях і ўзгорках, куды вялікі князь Вітаўт прывёў свае сорак харугваў, трыццаць з якіх мелі баявыя штандары з «Пагоняй».



Дадам, што вандроўкі па далёкіх і блізкіх краінах канчаткова пераканалі мяне: беларускія жанчыны — найпрыгажэйшыя ў свеце.

Дарэчы, менавіта каханне я лічу наймагутнейшым «творчым стымулятарам», ды і расстанне таксама. Наконт іншых стымулятараў скажу, што не п'ю кавы, не палю, музыку слухаю ў хвіліны адпачынку. Раней некаторыя тэксты пісаў «у сааўтарстве» з добрым чырвоным віном. Так, да прыкладу, была напісана ў сярэдзіне васьмідзясятых аповесць «Час чумы». Я тады цэлы месяц жыў у вугорскай вёсцы ў Закарпацці, дзе абыходзіцца без віна было проста маветонам. А наогул я ўжо даўно прыйшоў да высновы, што пісаць з дапамогай алкаголю не варта і, больш за тое, небяспечна, бо ён стымулюе толькі да пэўнай мяжы, а далей пачынаецца хуткі адкат, які заканчваецца творчай бездапаможнасцю і чалавечай трагедыяй.

«Habent sua fata libelli (І кнігі маюць свой лёс)», — казалі старажытныя лаціняне. Сапраўды, у кожнай з маіх кніг свая гісторыя. Першае выданне зборніка апавяданняў для школьнікаў «Адкуль наш род» было на цэлы год арыштавана, бо нейкі пільны таварыш нашкрабаў у Адміністрацыю Прэзідэнта данос, што Арлоў, маўляў, распальвае паміж братнімі беларускім і рускім народамі міжнацыянальную варожасць. Абвінавачанне грунтавалася на адзіным доказе: у кнізе ў дрэнным свеце паказаны імператар Пётр І, які ў 1705 годзе ўласнаручна забіваў у Полацкім Сафійскім саборы ўніяцкіх святароў, а ягоныя салдаты пазней узарвалі нашу старажытную святыню. На шчасце, розум, дзякуючы некальканм рэцэнзіям на кнігу, напісаным супрацоўнікамі акадэмічнага Інстытута гісторыі, перамог. Кніга не толькі вырвалася з-пад арышту і выйшла яшчэ трыма выданнямі, але нават патрапіла ў школьную праграму.

Праўда, на мае стасункі з уладамі гэта істотна не паўплывала, і ў 1997 мяне звольнілі з пасады рэдактара выдавецтва «Мастацкая літаратура» з непаўторнай фармулёўкай у загадзе: «...за выпуск исторической и другой сомнительной литературы». У выніку я атрымаў больш часу на напісанне гэтай самай «нехорошей» літаратуры, чым і займаюся.

Дзеля справядлівасці зазначу, што погляды на сумніўнасць маіх твораў ва ўладных структурах яўна неадназначныя. Інакш Лукашэнка (падазраю, што не са сваёй ініцыятывы, але ўрачыста) не ўручаў бы маю кнігу «Краіна Беларусь. Ілюстраваная гісторыя» праможа-

цам міжнародных школьных і студэнцкіх алімпіяд. Падарункавы набор складаўся з дыплома, медаля, маёй «Краіны Беларусь» і кнігі «Речи и доклады президента РБ А.Г.Лукашенко». Спадзяюся, што адзін асобнік майго цудоўнага, надрукаванага ў Славакіі фаліянта Аляксандр Рыгоравіч пакінуў у сябе на рабочым стале. Можа, ён і не чытае тэксту, але ў вольную ад больш важных дзяржаўных клопатаў хвіліну разглядае ў кнізе яе дзве тысячы ілюстрацый, і, магчыма, у ягонай свядомасці мацнее плённая думка, што ў нас, у беларусаў, сапраўды еўрапейская гісторыя, а гэта — своеасаблівы пропуск у еўрапейскую будучыню.

Па-свойму дарагая мне кожная з кніг, на якіх стаіць маё прозвішча, але найдаражэйшай лічу «Таямніцы полацкай гісторыі» — маё прызнанне ў любові да роднага горада. У англічан ёсць такая прыказка: «Трэба ведаць што-небудзь пра ўсё і ўсё — пра што-небудзь». Полацк, ягоная гісторыя — якраз тое, пра што я хачу ведаць усё. Спадзявацца на гэта, вядома, наіўна, але, магчыма, сёння няма на свеце чалавека, які б ведаў полацкую гісторыю лепей за мяне.

Працуючы над «Таямніцамі», я даведаўся пра старажытны звычай нашых продкаў-крывічоў. Дасягнуўшы паўналецця, юнакі ў іх здавалі своеасаблівыя экзамены на мужчынскую сталасць: ім трэба было пераплысці хуткую і глыбокую раку, ажыццявіць доўгі пешы пераход праз пушчу, упаляваць тура, мядзведзя або зубра, распаліць у залеву вогнішча, а яшчэ абавязкова ведаць сваіх продкаў да пятага калена. Хто не ведаў, не меў права звацца мужчынам. Такому чалавеку не давяралі, яго маглі наогул асудзіць на выгнанне, бо лічылася, што бяспамятны ў час небяспекі лёгка зробіцца здраднікам.

Я схапіў паперу з алоўкам і пачаў ліхаманкава маляваць сваё генеалагічнае дрэва. Першыя вынікі былі несуцяшальнымі. Каб хоць збольшага аднавіць імёны сваіх продкаў, іх заняткі, адметныя звычкі і ўчынкі, я мусіў некалькі месяцаў распытваць сваякоў, углядацца ў пажоўклыя фамільныя фотаздымкі, расшыфроўваць дакументы з выцвілым атрамантам XIX стагоддзя, гартаць ацалелыя кнігі царкоўных запісаў. У выніку было напісана эсэ «Мой радавод да пятага калена, або Спроба пазбегнуць выгнання».

Нашы далёкія продкі ведалі тое, што цяпер паспяхова даказвае навука. Духоўная энергія папярэдніх пакаленняў не знікае, яна жывіць род і ўвесь народ, дазваляе яму ў найцяжэйшы час выстаяць і перамагчы. Хіба выпадкова мы адчуваем гаючае ўзрушэнне каля старадаўніх сабораў і на палях славутых перамог? Але гэтая жыватворная энергія ўплывае не на кожнага, а толькі на таго, хто захаваў з продкамі «канал сувязі» — памяць пра іх і іхнія дзеі. Склаўшы свой радавод, я пераканаўся ў гэтым на ўласным досведзе, і таму маю права раіць усім сваім знаёмым і незнаёмым чытачам: адрадзіце старадаўні звычай у сваіх сем'ях, займіцеся складаннем радаводаў, якія будуць з гонарам працягваць вашы дзеці і ўнукі. Сёння радавод шмат у каго атрымаецца кароткім, але, паверце, усё адно здарыцца дзіва: продкі пачнуць дапамагаць вам.



Я пераехаў у Мінск ужо дваццаць гадоў таму, але Полацк не адпускае і ніколі не адпусціць мяне. Штомесяц мне проста неабходна хоць на дзень прыехаць туды, каб падыхаць яго паветрам, наведаць магілы бацькоў, сустрэцца з сястрой Таццянай, каб яшчэ раз пераканацца, што полацкі менталітэт, пра які я пісаў, не міф, што ён, гэты менталітэт, як сказаў у сваім вершы Рыгор Барадулін, сапраўды «ад Еўфрасінні, ад Скарыны...».

У Полацку былі прамоўлены і напісаны мае першыя беларускія словы.

У Полацку я навучыўся беларускаму светабачанню, светаразуменню і светаўяўленню.

Там альфа і амега майго зямнога падарожжа.

Калі ў Марціна Лютэра запыталі, што ён будзе рабіць, даведаўшыся, што заўтрашні дзень у ягоным жыцці — апошні, ён адказаў: «Буду садзіць яблыні». Калі пра апошні дзень спытаюцца ў мяне, я адкажу, што прыеду ў Полацк, на радзіму маёй душы, маёй веры і майго стаіцызму.

Адна з маіх кніг, напісаная разам з гісторыкам Генадзем Сагановічам, называецца «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі». Мару, што на мяжы IV тысячагоддзя ад Нараджэння Хрыстовага хтосьці выдасць кнігу (звонку яна будзе, безумоўна, ані не падобная да нашых сучасных кніг) пад назвай «Дваццаць вякоў беларускай гісторыі».

# ЗІНАІДА БАНДАРЭНКА



**Падрыхтавана да друку 22.03. 2005**

*Усе памятаюць яе, як папулярную тэлевядучую, якая ў свой час не прыняла існуючага рэжыму ўлады, хоць у матэрыяльным плане такі выбар, мякка кажучы, быў вельмі нявыгадны. Можна шмат сказаць аб тым, чаму гэта адбылося і, мусіць, усё гэта будзе праўдай.*

*Няма сумненняў, што і яе расповед пра сваё жыццё многае высветліць таксама.*

## Няскоранасць лёсу — у крыві

Мама мая, звалі яе Марыя, родам з Гомельшчыны. Нарадзілася яна ў 1902 годзе не ў самай беднай сям'і. Скажу так: гэта была сям'я «сераднякоў». Трошкі ўяўляю іхні дом па маміных расповедах. Між Рэчыцай і Лоевам ёсць такая вёсачка — Лесуны. Мама мая з тых мясцінаў. Сям'я была шматдзетная. Раней жа гэтак было: колькі рабілі, гэтулькі і радзілі. Шанавалі Бога і баяліся граху. Колькі Бог даваў дзяцей, гэтулькі і гадавалі. Маміна мама, а мая бабулька, змерла вельмі рана.

У дом прыйшла другая жанчына, яна для маёй мамы стала мачыхай. Мама была самая малодшая, перахварэла залатухай, якая вельмі паслабіла яе здароўе. На хваравітую дзяўчынку не звярталі асаблівай увагі. І вельмі здзівіліся, калі з гэтай хваравітай дзяўчынкі раптам сфарміравалася прыгажуня.

Гэта для ўсіх было нечакана. На яе пачалі заглядацца патэнцыйныя жаніхі. Сярод іх сын тутэйшага кулака Павел. Ён быў старэйшы за маму гадоў на пятнаццаць. Пасватаўся. А гэта быў неспакойны час. Рэвалюцыі. Перавароты. Змена ўлады.



Між іншым, на вёсцы пра рэвалюцыю 1917 года ўпершыню пачулі толькі праз некалькі месяцаў.

У глухое Палессе ўсе навіны даходзілі з вялікім спазненнем. Палешукі доўга не арыентаваліся, дзе і калі ў іх мясцовасці ўсталявалася савецкая ўлада і наогул, што гэта такое. Яно і зразумела: для селяніна — самае галоўнае ўпару ўсё пасеяць і сабраць ураджай. Каб падрыхтавацца да зімы, каб зіму бестурботна і сыта пражыць. А ўсё астатняе яго мала цікавіла. І калі прыйшлі Паўлавы бацькі сватацца, зразумела, у Марыі ніхто згоды не пытаўся. Адразу далі згоду на шлюб.

Такім парадкам Марыя апынулася ў чужой сям'і. Мужа свайго яна, безумоўна, не кахала, нават мала ведала. Гэтак яны пражылі год ці два. У тыя гады шмат хто з вясковага люду імкнуўся да гарадскога жыцця і збягаў з вёскі. Мама дазналася, што ў Гомелі жывуць якіясьці далёкія сваякі-родзічы.

Аднаго разу, рана-рана, на досвітку, калі ўсе беглі на працу, яна пешшу выправілася ў абласны цэнтр. Каб здзейсніць задуму, трэба было дабрацца да Лоева, а там ужо параходам да Гомеля. У Гомелі знайшла прытулак у сваёй стрыечнай цёткі. Павел не ведаў, куды збегла жонка. А яна хадзіла па дварах, зарабляла тым, што выконвала тую працу, якую даручалі гаспадары. Адукацыі ў яе практычна не было. Усяго чатыры класы царкоўна-прыходскай школы. Аднак пакрысе ўцягвалася ў гарадское жыццё. На адной гарадской вечарынцы пазнаёмілася з Сашам Бандарэнка. Ён быў з сям'і чыгуначнага службоўца, вучыўся ў рамесным вучылішчы.

На пачатку трыццатых гадоў, як і зараз, у ВНУ для рабочай і вясковай моладзі былі ўведзены квоты. Гэтыя квоты распаўсюджваліся і на новага мамінага знаёмага. Аднойчы яго запрасіла начальства (ён ужо пачаў працаваць у дэпо) і пацікавілася, ці хоча ён паехаць у Мінск вучыцца на доктара. Саша наконт гэтага доўга раіўся з бацькамі. Яны на хлеб зараблялі фізічнай працай, а тут сыну прапаноўваюць стаць доктарам. Безумоўна, Сашавы тата і мама пагадзіліся.

А што мая мама? Яна разумела, што для Сашы такой магчымасці можа больш і не быць і пастаралася яму не замінаць. Расставаліся яны з слязьмі. Тады яшчэ падумалася, што яна са сваім каханым расстаецца назаўсёды.

## Маленства без дзяцінства

Аднак праз некаторы час тата прыслаў маме ліст, у якім напісаў, што сумуе па ёй, не можа жыць без яе, і яна, шчаслівая, паехала ў Мінск. Для яе пачыналася новае сумеснае жыццё. Уладкавалася афіцыянткай у рабочай сталоўцы. Некаму ж трэба было працаваць. Інакш не пражыць.

У 1931 годзе ў іх нарадзіўся сын. Яго назвалі Ігарам, а ў 1939 на свет з'явілася я. Сям'я наша жыла ў інтэрнаце мединстытута, які тады мясціўся на Ленінградскай вуліцы паблізу чыгуначнага вакзала. Калі нарадзілася я, тата ўжо скончыў ардынатуру і працаваў у ваенным шпіталі, што тут у цэнтры на былой вуліцы Варвашэні, цяпер праспекце Машэрава. Там яго і прыспела вайна.

Мінск пачалі бамбіць адразу. У той дзень тата дзяжурыў у шпіталі. Увечары 24 чэрвеня са шпіталя прыбегла, уся ў слязах, медсястра і сказала, што наш тата загінуў, што ў шпіталі ідзе эвакуацыя і фашысты вось-вось уварвуцца ў Мінск, а нам трэба хутчэй пакінуць горад.

Ужо значна пазней мы даведаліся, што падчас артналёту тата быў у аперацыйнай. Менавіта ў вугал гэтага будынку якраз трапіла авіябомба. Няцяжка ўявіць, што там рабілася: грукат, пыл, крыкі, стогны. Высвятляць, хто ўцалеў, а хто загінуў, не было часу.

Мама тут жа пачала збірацца ў дарогу. З сабой сабрала як мага больш рознай вопраткі: разумела, што давядзецца яе мяняць на ежу. Прымацавала Ігару за плечы торбачку, узяла мяне на рукі, і мы пачалі выбірацца з палаючага горада ў накірунку Гомеля. Дабіраліся пераважна начамі. Удзень жа дарогу бамбілі фашысты, абстрэльвалі яе з самалётаў, бо па ёй адступала наша армія, ішлі бежанцы.

Дарогі былі перагружаныя. Часам хтосьці падсаджваў нас на грузавік ці драбіну, але гэта было вельмі рэдка. Гэтак мы дайшлі да Бабруйска. Там мама спрабавала сесці на цягнік і даехаць да Масквы. У горадзе жыў з сям'ёй родны татаў брат Васіль, і мама спадзявалася на яго дапамогу. Але на вакзале сказалі, што цягнікі да Масквы не даходзяць. За 150—200 кіламетраў пасажыраў высаджваюць і вяртаюць назад. Масква людзей не прымала.

І тады матулька вырашыла вярнуцца ў родныя мясціны: лес і балота выратуюць ад ворага. І мы пайшлі далей па трывожных вайсковых дарогах. Ногі ў мамы і Ігара папухлі. І калі дабраліся да Гомеля, то там было адносна ціха, нашы зеніткі адганялі фашысцкія самалёты. Працавалі нават райкамы, пошта. Часовы прытулак знайшлі ў татавай сястры. Мама напісала пісьмо ва Уборак — там жыў дзядзька Мікола, родны брат мамы. І літаральна праз тыдзень ён прыехаў на кані і забраў нас. Ад Гомеля да Уборак кіламетраў восемдзесят. У нашага дзядзькі быў досыць дабротны і прасторны дом, і, калі зрэдку туды наязджалі немцы, яны заўсёды спыняліся ў яго.



Пачатку вайны не памятаю, а вось час бліжэйшы да вызвалення помніцца добра. Мне было амаль пяць гадкоў. Асабліва запомнілася ўборкаўская царква. Яна была вельмі прыгожая, прывабная. Мне здавалася вельмі вялікай, прасторнай, велічнай. Яе пазалочаныя купалы былі відаць адусюль.

З братам Ігарам адразу, як мы прыехалі, пачаліся непрыемнасці. Калі мы даведаліся, што тата загінуў, мама часта плакала і шмат расказвала пра яго. Я ж яго амаль не памятала. А ён у нас быў смуглявы, чорнавалосы.

Бацькі яго з вёскі Бабовічы, у накірунку да Чарнігава — паўвёскі жыхароў насіла прозвішча Бандарэнка. А Ігар надта быў падобны на бацьку — таксама смуглявы і чорнавалосы. Вельмі прыгожы быў хлопчык. З гэтай нагоды ў вёсцы было шмат толкаў. Казалі, што Марыін муж быў камуністам і, мусіць, габрэем, і таму Ігара некаторыя вяскоўцы называлі «жыдком». Калі немцы ці паліцаі з'яўляліся да вёскі, брата адразу хавалі далей ад вачэй. Мне ж, блакітнавокай і светлавалосай, нібыта нічога не пагражала, але вёска жыла ў заўсёдным страху.

Бліжэй да канца акупацыі неяк прыбегла да мамы жанчына, якая працавала прыбіральшчыцай на паліцэйскім участку і ўсхваляваная сказала, што вёску могуць наведаць карнікі, і яна на свае вочы бачыла ў спісе на знішчэнне прозвішча нашай сям'і, як сям'і камуніста і габрэя.

Перад яе прыходам мы чулі страляніну. «Гэта паліцаі», — патлумачыла жанчына, а на нашым падворку ў той час гуляла Тамара Курзіна. Жанчына сказала, што ўсіх Курзіных ужо забралі, нібыта ў іх хтосьці ў партызанах. Тамара, як пачула гэта, рванула са двара. Мама схапіла яе і нікуды не пусціла. Так яна выратавала дзяўчынцы жыццё. Сям'ю ж Курзіных загналі ў хлеў і спалілі. Зараз памяць гэтай сям'і ва Уборку ўшанавана помнікам.

Дзядзька Мікалай, пачуўшы вестку, што мы ў спісе на знішчэнне, вывеў з хлява дзвюх кароў, загадаў маме збірацца і ісці ў Бурыніцкія

лясы — самую глухую мясціну Палесся. Дзяўчынку Тамару мы ўзялі з сабой, а таксама двух сыноў дзядзькі Міколы. Сам жа ён з жонкай і дачушкай Ганначкай рушыў у кірунку балота: «Можа, хто і выратуецца», — сказаў на развітанне, прывязаўшы да рукі другую карову.

Там, у лесе з векавымі соснамі, пражылі да глыбокай восені. Зрэшты, якое там жыццё! Пакутавалі. Спалі ў так званым куране — гэта будан з вялізнай адтулінай замест коміна. Навакол падобным чынам мясціліся ўцекачы з суседніх вёсак. Шмат людзей. І курані ставілі купкамі ў звыклым парадку, нібы паўтараючы мапу вёсак Пракісель, Ваўкашанка, Уборак, Ястрабка. Дарэчы, карову-карміцельку мама прывязвала на ноч да нагі, каб не адышла, бо маглі і партызаны пусціць на правіянт. Яны часта наведваліся. Як з суседняй Украіны, так і свае.

Аднойчы і да нашага кураню прыйшлі. Маці хрыстом-богам маліла, каб не забіралі карову. Калі ўбачылі малых дзяцей, злітаваліся. А у каго з уцекачоў па дзве каровы мелася, дык і размовы не было: адну абавязкова рэквізавалі. Дарэчы, маленькую Тамару ў хуткім часе забраў яе сваяк, намеснік камандзіра партызанскага атрада. І вось аднойчы сяджу я ў куране. Бяжыць мама, ад радасці задыхаецца.

— Дачушка, — крычыць, — нашы прыйшлі!

Я думаю, якія нашы? Можа, дзядзечка Мікола з цёткай Соняй?

А яна: «Чырвонаармецы ў лесе. Глядзі, чым пачаставалі». І дастае з-пад ватоўкі бохан бялюткага хлеба. На сваёй памяці я такога ў вочы не бачыла.

Мама наліла мне малака (карова ж нас тады выратавала ад галоднай смерці) ды адламала ці не чвэрць бохана. Божа, якая гэта была смаката! Упершыню адчула смак солі. Там, у лесе, усё елі несалёнае.

Тым часам маці тлумачыць: «Дачушка, наш Уборак ужо вызвалены. Зараз будзем вяртацца ў вёску». Можа, з паўдня кандыбалі мы туды з нашай кароўкай. А як падышлі — анямелі. Ніводнай хаты, толькі папялішчы. І ўшчэнт разбітая прыгожая царква, якая стаіць у мяне перад вачыма да сённяшняга дня. Распавядалі, што, як ішоў бой за вёску, на званіцы засеў фашысцкі кулямётчык. Трапна касіў. І наша авіяцыя знішчыла не толькі кулямётчыка...

Людзям трэба было перажыць зіму, і вяскоўцы сталі капаць зямлянкі. Пазней гаспадарлівы дзядзька Мікалай паставіў хатку. Праўда, ужо не такую раскошную, як была раней. Мама, цётачка Соня і дзядзечка Мікалай шмат працавалі: трэба было не толькі сваё жыццё адбудоўваць, але і калгаснае. І калі ў вольную часінку дарослыя збіраліся, адразу ўспаміналі жыццё да вайны. Аднойчы завітала мясцовая варажбітка і адразу выдыхнула: «А муж твой, Марыя, жывы! Толькі побач з ім другая жанчына». І пачала мама пісаць усім сваякам. І ў Гомель, і ў Маскву — роднаму брату таты. Раптам прыходзіць ліст ад таты. Ён паведаміў, што знаходзіцца ў Германіі.



Адбылося наступнае. Авіябомба, што трапіла ў вугал аперацыйнай, не ўзарвалася, толькі нарабіла шмат шуму і пылу, але ўсе засталіся жывыя. І калі шпіталь эвакуіравалі, тата паспеў забегчы дадому і ўбачыў замест дома вялізную яміну. Вядома ж, першая думка — усе загінулі. Служыў хірургам у медсанбаце да апошняга дня вайны, дайшоў да Берліна. Неўзабаве замест пісьмаў пачалі прыходзіць пасылкі. Вяскоўцы такой колькасці ніколі не бачылі. Праўда, ад голаду яны не ратавалі, бо ў скрынках мы знаходзілі дзіцячыя лялькі ды ўсялякую бялізну. Але цацкі выклікалі вялікую цікавасць у вяскоўцаў, бо яны нагадвалі некаторых «уборкаўцаў». «Глядзіце, гэта ж Яўменіха, а гэта Васька Петракоў...»

Праз некаторы час мама наважылася паехаць у Гомель, дзе было шмат татавых сваякоў. Пэўны час мы жылі ў яго сястры. Ігар пайшоў у школу.

Раптам нам становіцца вядома: у горад прыбывае шпіталь для хворых на сухоты. Пасля вайны было шмат людзей з такой хваробай. Праз некаторы час да нас дайшлі чуткі, што галоўным урачом гэтага шпіталю прызначаны Аляксандр Парфіравіч Бандарэнка. Гэта быў мой тата.

## Чарговыя выпрабаванні

Неўзабаве мы даведаліся, што ў нашага таты другая сям'я. З Нямеччыны ён вярнуўся з жонкай і дзіцем. Для нас гэта была трагедыя. Я свайго таты не памятала. Для Ігара ж гэта падзея стала шокам. Ён жа вельмі моцна быў прывязаны да яго. І як вынік — Ігар закінуў вучобу, бегаў штодзень у бальніцу, падглядаў, чым займаецца тата, як ён пераходзіць з аднаго корпуса ў другі. З цягам часу з дапамогай таты Ігара ўладкавалі ў рамеснае вучылішча. А мама ўладкавалася на працу дэзінфектарам на Гомельскую чыгунку. Кватаравалі ў чужых людзей у маленькім пакойчыку. Татавы сваякі раілі маме не складаць рукі, а змагацца за сваю сям'ю, за сваё шчасце.

Пакуль мы знайшлі гэты пакойчык, я з год жыла ў таты. Увесь гэты час параўноўвала маму з новай жонкай. Мне падавалася, што мама значна прыгажэйшая. Але Кацярына Іванаўна была мудрая жанчына. Падумайце самі: як толькі яны прыехалі ў Гомель, нарадзіла другое дзіця, неўзабаве — трэцяе.

А я ўвесь час жыла ў страху і трывозе: заўсёды чакала маму, але кожны яе прыход заканчваўся скандалам. Што да Ігара, то ён заўсёды быў галодны: у вучылішчы кармілі слаба. Ён забягаў да нас, каб хоць трохі падсілкавацца. Мы елі тое, што гатавалі ў сухотнай сталоўцы, для сваіх дзетак мачыха гатавала асобна. І вось, калі ў школе рабілі прышчэпкі — манту, то ў мяне выявілі адпаведную рэакцыю на захворванне сухотамі.

Потым, калі я стала жыць ужо з мамай, яна, як магла, старалася карміць мяне ўсім лепшым, хоць ёй было нялёгка. Заробак простага дэзінфектара быў маленькім.

Кожны год на лета мама выпраўляла мяне ва Уборак, напівацца малачка. Тым больш, што там заўсёды поруч са мной была мая стрыечная сястра Ганначка, якую я вельмі любіла і якая потым стала маёй сапраўднай сяброўкай. Божа! Як я любіла туды ездзіць! Вось дзе мне было прыволле!

Згадваецца такі момант. Старшыня калгаса, аднойчы сустрэўшы нас дзяцей на вуліцы, сказаў: «Калі б вы замест бессэнсоўнага гойсання папрацавалі трохі, я б за гэта правёў бы вас на канцэрт — вечарам у клубе будуць выступаць артысты». І мы вельмі стараліся, рупіліся. Дапамагалі жанчынам на зерневеялцы. Завіхаліся вакол веялак як пчолкі.

І што далей? Увечары сабраліся мы ля Уборкаўскага клуба, чакаем старшыню. І ён неўзабаве прыйшоў. Прайшоў са сваімі дзецьмі, а нас нібы і не прыкмеціў. Гэта быў першы ў маім жыцці падвох так званага «дзяржаўнага чалавека». А ўборкаўскія хлопцы кінуліся да мяне з кулакамі: гэта ж я тады сагітавала ўсю вясковую дзятву на працоўны подзвіг. Хоць, калі падумаць, ці ўмясціў бы маленькі клуб такі вялікі гурт…

## Жыццёвы выбар

У школе мяне вельмі прываблівае тэатр. Бегала ў драматычны гурток. Памятаю, мы ставілі спектакль паводле «Юбілея» А. Чэхава. Мне выпала галоўная роля. Мама з гэтай нагоды дзесь прыдбала



прыгожую доўгую сукенку. Менавіта тады я ўпершыню пачула асабістыя апладысменты.

Калі заканчвала восьмы клас і прагучаў апошні званок, мы класам з гэтай нагоды гулялі ў парку Паскевіча на беразе Сожа. Было даволі цёпла, і хтосьці прапанаваў пакупацца. З дзяўчат адважылася толькі я.

Даплыла да сярэдзіны ракі і адчула, што мяне прабраў азноб, і вярнулася назад. Мусіць, гэтае купанне і стала прычынай таго, што я захварэла плеўрытам. А неўзабаве дыягназ — сухоты. У маім арганізме пасялілася палачка. Так мне растлумачыў тата. Лячэнне было вельмі сур'ёзнае, нават адправілі мяне ў санаторый «Свяцк», што на Гарадзеншчыне.

Але вучобу не прыпыняла. І праз год-паўтара ці трохі менш у мяне былі нармальныя аналізы. Між іншым, для таты мая хвароба была шокам: у галоўурача сухотнай бальніцы дзіця хворае на сухоты. Ён вельмі перажываў, даставаў самыя эфектыўныя лекі.

Перажывала, хвалявалася і я. Праз кожныя чатыры гадзіны мне даводзілася самой сабе рабіць уколы. З татавай парады я паступіла ў Гомельскае медыцынскае вучылішча. Захапленне тэатрам не прайшло, не мінулася, і я запісалася ў драматычную студыю Палаца культуры чыгуначнікаў. Менавіта там я сустрэла чалавека, які цалкам змяніў мой далейшы жыццёвы шлях.

Мастацкі кіраўнік нашай драматычнай студыі, ён жа адначасова быў і галоўным рэжысёрам Гомельскай тэлевізійнай студыі, Заслужаны дзеяч культуры БССР Сяргей Паўлавіч Астравумаў. Менавіта ён першы адчуў задаткі тэлевядучай. Гэта дзякуючы найперш яму, я сталася той, кім стала.

Займаючыся ў драматычнай студыі, працягвала вучыцца ў медвучылішчы. Тут я дапамагала рыхтаваць радыёгазету і шмат хто з маіх сяброўак казаў, што мой голас гучыць натуральна, пяшчотна, прыгожа. Аднойчы ў так званым «чырвоным кутку» нашага вучылішча я пачула з маленькага тэлевізійнага экрана, здаецца, называлі іх тады КВН, што Гомельская студыя тэлебачання праводзіць конкурс дыктараў. Гэтай абвестцы я не надала асаблівага значэння. Увечары прыйшла на чарговую рэпетыцыю і мне Сяргей Паўлавіч параіў прыняць удзел у конкурсе. Мае пярэчанні пра медыцынскі інстытут (здароўе не дазваляла іншага) яго не пераканалі. Маўляў, адно другому не зашкодзіць, паспрабаваць трэба.

І я адважылася. Падрыхтавала расповед пра сябе на беларускай мове — гэта была ўмова конкурсу, а таксама фрагмент з паэмы Някрасава «Княгіня Трубецкая». Калідор Палаца чыгуначнікаў, дзе праходзіў конкурс, гудзеў, як пчаліны рой. Людзей — мора. Сярод канкурсантаў было нямала маладых, вельмі прыгожа апранутых жанчын — пераважна жонак ваенных. І гэта натуральна: у ваколіцах Гомеля ў той час размяшчалася шмат вайсковых часцей. Я была апранута ў цёмна-сінюю сукенку з белым каўнерыкам.

Стаю ля вакна, пра сябе паўтараю тэкст. Раптам ля мяне прыпыняюцца дзве прыгожыя жанчыны і я чую: «Мой сусед Шпанаў працуе рэжысёрам на тэлебачанні, і сказаў мне, што калі на конкурс прыйдзе Бандарэнка, то нам тут рабіць няма чаго. Праўда яна збіраецца паступаць у медыцынскі. Калі не перадумала, то ў нас ёсць шанс».

Пачутае мяне вельмі засмуціла. Душа мая паныла, я падумала, што прыйдзе яшчэ нейкая Бандарэнка. Нават і думкі не ўзнікла, што гаворка ідзе пра мяне. Я прайшла ўсе туры і перамагла.

Заканчвала медыцынскае вучылішча і бегала на вячэрнія праграмы гомельскай студыі, таму што дыктарка Валя Шышкова пайшла ў дэкрэтны водпуск. Абласное тэлебачанне той пары вяшчала ўсяго каля трох гадзін, і праз мяне праходзіла ўсё: навіны, анонсы фільмаў, перадачы для дзяцей. За першы месяц працы на студыі я атрымала 1500 рублёў. Вядома тагачаснымі грашыма. Калі я прынесла гэтыя грошы дадому, мама расплакалася: мы з ёй такіх грошай ніколі не мелі.

Тата, калі даведаўся, быў катэгарычна супраць. Як я яго не пераконвала, ён усё роўна хацеў бачыць мяне доктарам. Пазней супакоіўся і ўжо ганарыўся мною. Доктарам, і вельмі вядомым, стала мая зводная сястра Наталля, якая і дагэтуль працуе ў той самай сухотнай бальніцы, дзе тата праслужыў галоўным урачом усё сваё жыццё.

Як я трапіла ў Мінск? У тыя гады не было магутных рэтранслятараў. Гамяльчане не мелі магчымасці бачыць, што робіцца ў нашай сталіцы. І мінчане на прамую не маглі ўключыць абласныя цэнтры. А тут меліся адбыцца дні культуры Гомельскай вобласці. Дзеля гэтага мне з рэжысёрам трэба было прыехаць у Мінск і праз рэспубліканскае тэлебачанне расказаць мінскім тэлегледачам пра ўсё добрае, што робіцца на Гомельшчыне. Пасля майго з'яўлення на сталічным тэлеканале на студыю было шмат тэлефонных званкоў, асабліва тэлевізійнаму кіраўніцтву: тэлегледачы станоўча і па-добраму выказваліся менавіта пра вядучую дзён Гомельскай вобласці. Пра гэта даведалася значна пазней, а тым часам мяне запрасіў на папярэднюю размову сам старшыня Дзяржкамітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні Васіль Пятровіч Несцяровіч, які прапанаваў пераехаць у Мінск. Аднак у час той сустрэчы я ўжо была замужам і чакала дзіця. Вядома ж, прапанова пераезду для мяне была прыемнай нечаканасцю, але я сказала, што патрыётка свайго гораду і што мне трэба параіцца з мужам.



Мой муж Генадзь Кап'ёў працаваў інжынерам-канструктарам на «Гомсельмашы». Да жаніцьбы (шлюб мы ўзялі вельмі хутка, праз два тыдні пасля знаёмства) ён жыў у заводскім інтэрнаце. І нам усім давялося жыць у адным пакоі камунальнай кватэры дома барачнага тыпу. Мама параіла для зручнасці перагарадзіць пакой фанерай. Неўзабаве ў нас нарадзіўся сынок. Назвалі мы яго Сашачкам. Трэба было падумаць пра больш-менш зручнае жыллё.

Генадзю, хоць ён і лічыўся маладым спецыялістам, ніякай кватэры не абяцалі: з кватэрамі на заводзе былі вялікія цяжкасці. Зноў па мамінай парадзе я пайшла да старшыні абласной тэлерадыёстудыі і нічога суцяшальнага не пачула.

А вырашыў гэтую складаную кватэрную праблему муж. Ён часта ездзіў у Мінск у камандзіроўкі. Аднаго разу зайшоў да В.П. Несцяровіча і расказаў, чаму я маруджу з пераездам у сталіцу. Старшыня камітэта задаў толькі адно пытанне: ці ў форме я? Сказаў, што я павінна прыехаць у Мінск і паказацца мастацкаму савету. Што ў хуткім часе і зрабіла.

Яшчэ мушу нагадаць: у Гомелі я завочна вучылася на беларускім аддзяленні філфаку Гомельскага педагагічнага інстытута. Пасля пераезда перавялася на філалагічны факультэт БДУ. Перагортваючы ў думках старонкі жыцця, пераконваюся ў тым, што ўвесь час я вучылася. Не толькі я, а і мае калегі. Перыядычна нас пасылалі ў Маскву на курсы інстытута ўдасканальвання работнікаў радыё і тэлебачання на Шабалаўку. У тыя гады ў Маскве з намі, дыктарамі, займаліся па шэсць і болей месяцаў. Мы прайшлі сапраўдную школу дыктарскага майстэрства. І з Масквы ў Мінск прыязджалі майстры сваёй справы Вольга Высоцкая, Юрый Левітан, Ніна Кандратава, Валянціна Лявонцьева, якія праводзілі тут на радыё і тэлебачанні майстар-класы. Упэўнена, калі хочаш быць дыктарам прафесіяналам, ні на хвіліну нельга спыняцца на дасягнутым.

### Жыццёвыя варункі

Калі я жыла ў Гомелі, мы з мамай не адзін раз ездзілі ў Грузію, дзе служыў у войску брат Ігар. Мама працавала на чыгунцы і мела права на бясплатны білет, і я таксама, пакуль вучылася ў школе. З Ігарам адбылася вось якая гісторыя.

Калі надышоў час служыць у арміі, мама хадзіла да сваяка і прасіла, каб далёка не адсылалі сына. А тата, улічыўшы, што з Ігарам шмат клопатаў, папрасіў ваенкома, каб паслалі служыць як мага далей ад дому. І вось з «татавага клопату» Ігар праслужыў тры гады на поўдні Грузіі, і толькі напрыканцы службы яго вайсковую часць перавялі бліжэй да Тбілісі, дзе функцыяніраваў завод танкавага ўзбраення.

У Тбілісі Ігар пазнаёміўся з рускай дзяўчынай Надзеяй, ажаніўся і асеў на сталае жыццё. Але яно не склалася. Пасля службы працаваў газаэлектразваршчыкам. Паслугамі яго працы шмат хто карыстаўся, а за працу разлічваліся віном. З часам прызвычаіўся да спіртнога, нават лячылі яго, але нічога не памагала. Жонка не вытрымала і, хоць было двое дзетак, аднаго разу пасадзіла Ігара на самалёт і выправіла яго ў Гомель. Так ён зноў апынуўся ў Гомелі.

Таты нашага ўжо не было. Мама разумела, што Ігара нельга пакідаць аднаго. Так яны ўдваіх і жылі, дажывалі. Спачатку памерла мама, а затым і Ігар. Я езджу на іх магілкі. Усе мае родныя пахаваны побач — мама, тата, Ігар, мачыха Кацярына Іванаўна. У зямным жыцці было так шмат непаразуменняў, а смерць усіх прымірыла. А мы, дзеці аднаго таты і розных мамаў, вельмі сябруем, часта сустракаемся і дапамагаем адзін аднаму.

### Замест эпілога

Часта цікавяцца, якія ў мяне стасункі з тымі, хто зараз працуе на так званых «беларускіх» тэлеканалах, празваных у народзе «мясцовымі салянкамі» за падабенства і мешаніну з расейскімі праграмамі? Я іх не ганю, не дакараю, не ігнарую. Яны заложнікі рэжыму. У іх няма выбару, і застаецца, ці выканаць загад, ці адыйсці ад прафесіі. А гэта цяжка зрабіць...



# РЫГОР БАРАДУЛІН

Падрыхтавана да друку 16.02 2009

*Усе ведаюць, што ён з'яўляецца адным з лепшых паэтаў Беларусі, і дадаць да гэтага нешта новае вельмі цяжка. Але я звярнуў увагу на іншае. У Рыгора Іванавіча Барадуліна проста ўнікальнае пачуццё гумару. Мабыць, гэтым і адрозніваюцца добрыя паэты ад усіх іншых.*

### Памяць дзяцінства

Нарадзіўся я на Ушаччыне, на хутары Верасоўка, ці, як ласкава ў нас называлі, Верасовачка, 24 лютага, 35 года, дакладней 1935 (я ўжо ў двух стагоддзях жыву, а калі гаварыць «35-га», дык можна падумаць пра 2035; я, канешне, не дацягну да гэтага часу). А чаму, дакладна ведаю (многім жа пасля вайны давалі столькі гадоў, колькі яны скажуць), бо маці ў час вайны закапала маё пасведчанне ў нейкім гаршку ў зямлю, і пасля мы яго адкапалі.

Калі ж у 1939 годзе хутары пачалі зносіць, перабраліся ва Ушачы.

Бацька мой, Іван Рыгоравіч Барадулін, быў цесляром у райкамгасе, мама, Акуліна Андрэеўна Барадуліна, працавала па гаспадарцы дома. Але бацьку памятаю слаба, таму што ўвесь час ён быў на працы. Калі ж прыходзіў, я, малы, любіў расшпільваць яго куртку, бо з-за пазухі абавязкова «вылятаў» нейкі гасцінчык...

Калі пачалася вайна, бацька пайшоў у партызаны. Там і загінуў — падчас так званага прарыву, калі чалавечым мясам затрымалі немцаў пад Полацкам. Кіраўніцтва самалётамі было вывезена за лінію фронту, а астатнія паляглі ў балотах. У тым ліку і мой бацька.

Пра маму ж можна гаварыць доўга. Мама мая была выключным чалавекам, карэннай крывічанкай. Дзякуючы ёй я вырас натуральным беларусам (хай гэта не будзе пахвальбой). Яна выдатна ведала беларускія песні, казкі і нашу крывіцкую, ушацкую мову.

Дарэчы, у свой час Васіль Быкаў расказваў, што, вярнуўшыся з арміі (ён жа доўгі час жыў па-за межамі Беларусі), узнавіў мову, успамінаючы, як гаварыла яго маці. Я і дасюль памятаю матчын голас і арыентуюся не на слоўнікі, не на граматыку, а на маміна вымаўленне, на яе лексіку.

Мама дала мне і жыццё, і лёс. Як і кожны чалавек, я не ўяўляю сябе без мамы. Калі б не яна, нічога з мяне не атрымалася б.

Мае ўспаміны: на хутары заходзіць сонца, а мама расказвае нейкую страшную казку, і мне неяк жудасна і трывожна. І, зразумела, першыя ўспаміны — гэта маміны вочы, маміны словы, мамін голас.

## Выбар шляху

Я не марыў стаць паэтам, мне проста хацелася нешта пісаць. Пасля вайны ўсе многа чыталі, у тым ліку і паэзію. Кніжка была на вагу золата. А маці і кроку не рабіла без таго, каб не вымавіць якуюнебудзь прыказку, прымаўку, спець песню ці нейкую папеўку. Мама спявала душой. Я і сёння чую беларускае слова, акрыленае голасам маці. Але ўсё, што я ўзяў, — толькі тысячная доля таго, на што была багата мама.

Скончыў Ушацкую сярэднюю школу, у якую пайшоў пасля вайны крыху пераросткам. Тады людзі дужа цягнуліся да вучобы і ў школу хадзілі з вёсак за пяць—сем кіламетраў, у снег і ў дождж. Школа была беларуская, усё выкладанне вялося на беларускай мове — не тое, што цяпер.

Пасля заканчэння школы выбраў Беларускі дзяржаўны універсітэт. Дужа хацеў туды патрапіць, таму што ведаў, што ва ўніверсітэце вучыліся ўсе нашы паэты. Паступіў на беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта. Памятаю, у заяве напісаў: «Прашу прыняць мяне на беларускае аддзяленне, а калі не на беларускае, дык хоць на рускае», паколькі лічыў, што беларускае аддзяленне больш важнае і туды большы наплыў абітурыентаў. Але ва ўніверсітэце, у адрозненне ад Ушацкай школы, беларускага ўжо было мала...



## Творчасць

Добрых вершаў напісана мала, а ўсялякіх — шмат. Але я ніколі не лічыў, колькі. Як гавораць, усе — мае. Хоць ёсць і такія, хто падлічвае і думае, што даследчыкі будуць вывучаць іхнюю творчасць. Я пра гэта не думаю. Бо здараецца, што ад нейкага паэта, які пры жыцці выдаваў зборы твораў, у выніку застаецца толькі адзін верш, а можа, і ніводнага. Час — такі дзядзька, які ўсё расставіць па сваіх месцах.

Мой першы верш быў надрукаваны ў 1953 годзе ў газеце «Чырвоная змена», якая ў той час была для маладых варотамі ў літаратуру. Надрукавацца ў «Чырвонай змене» лічылася за вялікае шчасце і гонар. Усе туды імкнуліся. Мне таксама пашанцавала.

У той час пры «Чырвонцы» дзейнічала літаб'яднанне, якое было на ўзроўні калі не Літінстытута, дык, ва ўсякім разе, міні-літінстытута: тут мы вучылі адно аднаго і вучыліся самі. Гэта была вельмі цікавая школа. Не хачу пакрыўдзіць сённяшніх маладых, але тое пакаленне было хай менш адукаваным, затое больш шчырым. Сучасная ж моладзь больш камп'ютарызаваная, механічная. Хутка з'явіцца ўжо камп'ютарная паэзія і нават камп'ютарнае мысленне. Можа, я зусім ужо несучасны, але не ўяўляю, каб Біблія была напісана на камп'ютары...

Выдаваліся ж мае вершы на многіх мовах, але я не ведаю, як яны на іх успрымаліся. Тым больш што ў савецкі час пераклады нярэдка рабіліся ў рэчышчы «дружбы народаў». Магу толькі сказаць: мне дужа прыемна, што зараз мае кнігі выйшлі па-чэшску і па-польску. І асабліва грэе душу, што мая паэзія ёсць цяпер і на японскай мове. Ушацкі малец і — на японскай мове! Гэта ўжо не па пратэкцыі «дружбы народаў» і не па «культурным абмене». Гэтаму паспрыяў айцец Уладзіслаў Завальнюк.

Калі я вучыўся ў школе, у нас кватаравала дзяўчына па прозвішчы Быкава, родам якая была з Бычкоў. Яна яшчэ гаварыла, што Васіль (Быкаў — заўвага аўтара) маляваў у школе яе партрэт. Так што пра Васіля Быкава я даведаўся раней, чым пазнаёміўся з ім. А знаёмства адбылося ў той час, калі я працаваў у газеце «Советская Белоруссия». Памятаю, паехаў у камандзіроўку ў Гародню, прамачыў ногі, а Васіль запрасіў мяне ў свой дом, напаіў гарбатай і даў сухі абутак. Дарэчы, якраз у той прыезд ён падарыў мне зборнік «Ад шчырага сэрца» з вершамі, прысвечанымі Сталіну. Сказаў: «Чытай, вучыся і не паўтарай памылак старэйшых!»

Быкаў да апошніх дзён быў для мяне ўсім — і сябрам, і старэйшым братам, і бацькам. Ён быў для мяне і роднымі мясцінамі, і Ушаччынай, і наогул усім беларускім. Нават калі ён жыў у замежжы, я ўсё роўна ведаў, што ён ёсць — мы ж і перапісваліся, і сазвоньваліся.

А цяпер мне без Васіля дужа самотна і няўтульна. Але галоўным для мяне застаецца вось гэтае трыадзінства — Бог, мама і Быкаў. Яны былі і па-ранейшаму застаюцца ў маім жыцці.

Галоўнае — жыць і памерці чалавекам. Хоць, здаецца, гэта занадта вядомая фраза, але сэнс яна мае глыбокі, таму што жыць і застацца чалавекам вельмі цяжка, ва ўсіх адносінах. Мы, малыя, жартавалі, што ў жыцці, як у казцы: чым далей, тым страшней. Мы думалі, што гэта не больш чым жарт. Але цяпер я разумею, што гэта зусім не жарт. І адзінае, што трэба берагчы, — сваю душу. Будзе душа — будзеш ты, не будзе яе — і цябе не будзе.

## Сям'я і захапленні

З жонкай Валяй я сустрэўся падчас вучобы ва ўніверсітэце: пайшоў знаёміцца з першакурсніцамі і ўтрэскаўся! Яна з Гародні і таксама скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Працавала ў «Беларускай энцыклапедыі». Дарэчы, калі нарадзілася дачка Ілона (адбылося гэта ў Гародні), дык першым наведаць і павіншаваць Валю прыйшоў Васіль Быкаў...

Звычайна дома ў нас гаварылі: «Таму бацьку слава, у каго дзяцей поўная лава». Але ў мяне так не атрымалася. У наш час, калі б была поўная лава дзяцей, дык і іх бы не пракарміў, і сам бы дайшоў. Таму ў мяне адна дачка і адна ўнучка. Ілона таксама скончыла ўніверсітэт, цяпер малюе. А ўнучка Дамінічка яшчэ толькі вучыцца на беларускім аддзяленні філалагічнага факультэта. Што і як там будзе далей — гэтага я ўжо не ўбачу.

Раней, як быў малады, прыязджаючы ва Ушачы, і дровы калоў, і касіў, і араў троху, цяпер жа мне цяжка ўсё гэта рабіць. Аднак паняцця вольнага часу ў мяне няма — заўсёды ў галаве нешта круціцца. Я нават у рэанімацыі вершы пісаў. Справа ў тым, што ў мяне дужа часта баліць галава, калі ж здараецца нейкае прасвятленне, тады я стараюся ці чытаць, ці пісаць. Так што «вольны час» у мяне — гэта калі галаву «схватвае». Аднак я хацеў бы, каб яго было меней.

# ВАСІЛЬ БЫКАЎ



Падрыхтавана да друку 04.09.1996

## Маленькая прафесійная «хітрасць»

Нас пазнаёміла звычайная газетная памылка: я пераблытаў і напісаў, што фільм «На чорных лядах» зняў рэжысёр В.Тураў, а на самой справе гэта работа В.Панамарова. Апошні патэлефанаваў у рэдакцыю, і неўзабаве яны з Васілём Уладзіміравічам, які напісаў «Чорныя ляды», прыйшлі да нас.

Скажу шчыра, у мяне і раней была задумка зрабіць артыкул з Быкавым, але ніяк не атрымлівалася. Ён у той час імкнуўся менш кантактаваць з журналістамі. Я прасіў вядомага рэжысёра Пташука, які зняў «Знак бяды», зрабіць пратэкцыю. На жаль, гэта не дапамагло.

Валерый Панамароў нас і пазнаёміў, але Быкаў доўгай размовы не жадаў, тады я знайшоў яго хатні адрас і на дзень народзінаў пісьменніка, 19 чэрвеня 1996 года, купіў букет ружаў і прыйшоў павіншаваць. Пазней даведаўся, што ён вельмі добры і далікатны чалавек, таму проста не мог адмовіць.

У верасні адбылася наша амаль трохгадзінная размова. Потым яе надрукавалі «Свободные новости». Рукапіс недзе згубіўся, і я папрасіў знаёмую студэнтку журфака Маргарыту Андрэеву зрабіць у «ленінцы» копію артыкула.

Частку яго вы маеце магчымасць прачытаць.

## Вытокі поглядаў

...Жыццё кожнага з нас пачынаецца аднолькава, але залежыць ад пэўнага гістарычнага часу, да якога адносіцца пакаленне канкрэтнага чалавека, канкрэтнай асобы. Я ўжо неаднойчы гаварыў, што час

майго пакалення пачынаўся без радасці. Трыццатыя гады адыходзячага стагоддзя, на якія прыпала наша дзяцінства, былі амаль самымі драматычнымі і трагічнымі для лёсу беларускага народа. Эпоха пакут, сацыяльнай ломкі, росквіту камуністычнай тыраніі.

А што тычыцца менавіта Беларусі, краіны сялянскай, то для яе гэта быў перыяд сапраўднай нацыянальнай трагедыі. У той час шмат разважалі пра нейкі рабочы клас, пралетарыят, але на самой справе ён тады знаходзіўся ў зародкавым стане. Аснову нацыі складала сялянства, сапраўдны генератар нацыянальнай свядомасці, развіцця культуры. Дарэчы, калі сёння гавораць пра крызіс беларускай мовы, то трэба разумець, што ён стаў вынікам менавіта крызісу сялянства. Адно залежыць ад другога: знікае сялянства — адыходзіць у нябыт і мова. Пралетарыят у тым выглядзе, у якім мы назіраем яго на працягу дзесяцігоддзяў, фармацыя іншамоўная, калі больш дакладна — рускамоўная.

Драматургія ўласцівая кожнаму гістарычнаму перыяду народнага жыцця. Але, як мне здаецца, трыццатыя гады вызначаюцца драматызмам асаблівага роду. Гутаркі пра калектывізацыю, рэпрэсіі, адмаўленне ад асноўных чалавечых каштоўнасцей. Усё гэта, безумоўна, нейкім чынам паўплывала на мой характар, светапогляд, бо, як вядома, у маладосці закладваюцца асновы асобы чалавека, і потым менавіта яны адыгрываюць галоўную ролю ў грамадскім самавызначэнні кожнага з нас.

Часта пытаюць: калі з'явілася тое маё стаўленне да камунізму, якое пасля рэалізавалася ў творчасці? Заўсёды ў такім выпадку я адказваю: у адрозненне ад тых, да каго прасвятленне прыйшло пасля смерці Сталіна, выкрыцця культу асобы ці ў перыяд перабудовы, я не прымаў камуністычнай ідэалогіі амаль з дзяцінства. Некаторыя сённяшнія дэмакраты, у тым ліку і сумленныя людзі, расказваюць, як яны плакалі, калі памёр Сталін. Я не плакаў. Не плакаў, бо некалі чуў, як плакала мая маці, калі арганізоўваліся першыя калгасы. Здарылася гэта вельмі прыгожай раніцай: учора стварылі калгас, а сёння, на досвітку, забралі з хаты ўсе прыпасы, жывёлу, збожжа. Маці плакала не ад таго, што ў тую ноч дзіўным чынам змянілася яе сацыяльнае становішча, а ад таго, што праз некалькі гадзін існавання так званага калгаса не стала чым карміць дзяцей.

Мне было тады нейкіх дзевяць гадкоў, і, зразумела, я не звязваў слёзы маці з палітычнай сістэмай. Зерне дзіцячых пачуццяў прарасло пазней, на новым узроўні маёй свядомасці. Пасля калектывізацыі пачаліся «класавая барацьба» і «раскулачванне». Гады ляцелі хутка, і я не паспеў азірнуцца, як пачалі высылаць у Сібір маіх школьных сяброў.



Мая родная Ушаччына тады была памежным з Польшчай раёнам, і рэпрэсіі там праводзіліся ў самых агідных, здзічэлых формах. Людзей катавалі не толькі «спецыялісты» з НКУС, але і пагранічнікі. Урэшце, у маёй вёсцы, дзе тады было каля двух дзясяткаў двароў, арыштавалі шэсць сем'яў калгаснікаў, некалькі настаўнікаў, фельчара, аптэкара — карацей кажучы, усіх, каго можна было адправіць у сібірскае пекла. Іх называлі «ворагамі народа», польскімі шпіёнамі, але ніхто гэтаму не верыў. Бралі проста самых разумных, тых, хто мог паставіць пад сумненне вартасці афіцыйнай прапаганды. Дамоў ніхто з іх не вярнуўся, усе па нашым часе рэабілітаваны пасмяротна.

У маёй дзіцячай душы ўсё гэта адкладвалася нейкім не тое каб непаразуменнем альбо пратэстам, а вялікім каменем крыўды, які выкінуць з памяці ў наступным жыцці ўжо было немагчыма. Не раскрышыла гэты камень нават вайна.

Знешне мая крыўда ніяк не праяўлялася. Як і ўсе, я быў піянерам, камсамольцам. Як і ўсе, хадзіў строем. Іншага было не дадзена. У юнацтве яшчэ мог пагутарыць з некаторымі сябрамі на гэтыя тэмы, але з узростам зразумеў, наколькі небяспечныя такія размовы. Празмерная даверлівасць ламала лёсы людзей. Карныя органы не драмалі, паўсюдна вербавалі сваіх сексотаў. Нацыя вымірала. У людскіх сэрцах панаваў страх.

У арміі гэта праяўлялася больш яскрава. У кожным палку існавалі асобыя аддзелы, якія займаліся контрразведкай. Але я хоць і прайшоў усю вайну, ніводнага разу не чуў, каб яны выкрылі хаця б аднаго нямецкага шпіёна. Затое бачыў, як арыштоўвалі сяржантаў і афіцэраў за так званыя антысавецкія размовы. Ішло паляванне не на ворагаў, а на чыстыя людскія душы. Спрабавалі вербаваць усіх, і не толькі сярод вайскоўцаў. Урэшце ў сексотаў ператварылася амаль палова грамадства, таму няма нічога дзіўнага ў тым, што ідэі нацыянальнага адраджэння не сталі для народа яднаючымі. Савецкая ўлада гарачым жалезам выпаліла ў людзей каштоўнасці нацыянальнай свабоды. Сексотам не патрэбна дзяржаўнасць, яны, як тыя пацукі, могуць існаваць толькі ў цемры. Нацыянальнае — ад

Бога. На жаль, у сваім жыцці чалавек кіруецца не боскімі правіламі, а правіламі карысці. У большасці сваёй грамада не падтрымала адраджэнне, і вельмі значная «заслуга» ў гэтым належыць органам бяспекі. Чаму ў іншых дзяржавах былога Саюза атрымалася інакш? Таму што людзі здолелі захаваць нацыянальную свядомасць, нягледзячы на ўсе намаганні спецслужбаў.

## Ваенная кар'ера не адбылася

Пасля вайны я не хацеў служыць у войску, усімі фібрамі душы імкнуўся да дэмабілізацыі. Не пускалі. Зразумела, служыў не вельмі ўзорна, таму адносіны з начальствам былі напружанымі: аб'яўлялі вымовы, саджалі на гаўптвахту. Адным словам, мае службовыя справы, мякка кажучы, пакідалі жадаць лепшага.

Потым служба нейкім чынам наладзілася. Напэўна, таму, што з часам я зразумеў: маладым мне войска не пакінуць. Змірыўся, стаў больш паслухмяным, і мяне прынялі кандыдатам у партыю. Заставалася канчатковая інстанцыя — парткамісія дывізіі. Напярэдадні мяне выклікалі ў асобы аддзел, але гутарка толкам не адбылася. Вырашылі вярнуцца да яе пасля парткамісіі. Дапамог Гасподзь Бог.

У красавіку 1947 года з Масквы прыйшоў загад аб расфарміраванні нашай дывізіі. У рэшце рэшт мяне звольнілі ў запас. Пашанцавала. Замест партбілета я атрымаў дэмабілізацыйны ліст і накіраваўся ў Беларусь, у Гродна, дзе працаваў у газеце. Аднак доўга гуляць не атрымалася. У 1949 выклікалі на зборы. Тры месяцы правёў у лагеры каля Гродна. Як звычайна: вучоба, стрэльбы, манеўры. Пасля, бліжэй да восені, вярнуўся ў рэдакцыю, узяў адпачынак. Дагуляць не далі: раптам выклікалі ў ваенкамат, дзе прачыталі загад міністра абароны, згодна з якім праз тры дні мне належала з'явіцца ў Слонім, дзе разгортвалася нейкая дывізія.

У Савецкай Арміі ўласнае жаданне чалавека нікога не цікавіла. Пачыналася «халодная вайна», камуністы заўсёды ўмелі знайсці сабе ворага. У хуткім часе я апынуўся на Далёкім Усходзе. Курылы. Сахалін.

Праз некалькі гадоў зноў было скарачэнне. Хрушчоўскае. І зноў са мной ніхто не гаварыў, не раіўся.

Людзі савецкай сістэмы ніколі не належалі самі сабе. Я не хацеў служыць ніводнага дня, амаль што месяц пісаў рапарты. Аднак далей за камандзіра палка яны не даходзілі.



Толькі аднойчы здолеў-такі прабіцца вышэй. Памятаю, зімой былі выбары ў Вярхоўны Савет, і кандыдатам ад Далёкага Усходу вылучылі самога міністра абароны Маршала Савецкага Саюза Маліноўскага. Зразумелая справа — выбралі. А я, як выбаршчык дэпутата, напісаў яму ліст, дзе ў чарговы раз прасіў аб дэмабілізацыі. Адказ чакаў восем тыдняў. І вось аднойчы мяне выклікаюць у штаб дывізіі. Ад нашага палка да штаба трэба было ісці пяць кіламетраў уздоўж чыгуначнага палатна. Мароз пад трыццаць, завея, вецер у твар, а я ляцеў як на крылах, спадзяваўся...

Але... Начальнік аддзела кадраў стальным голасам астудзіў той запал, які не здолеў астудзіць мароз: міністр абароны даручыў нагадаць, што «служба в армии — есть священный долг каждого гражданина». Маўляў, ганарыся: табе даверана «крепить обороноспособность нашей Родины». Я адказаў: «Слушаюсь», павярнуўся і пайшоў у «забягалаўку», пасумаваў і пацягнуўся назад праз снег і цемру выконваць «священный долг». Па замене з Далёкага Усходу мяне накіравалі ў Беларусь, у артполк Лапічаў. А напрыканцы года Мікіта Хрушчоў пачаў першае скарачэнне.

## Творчы лёс

Шчыра кажучы, у пісьменнікі я не збіраўся. У гады маёй маладосці літаратура не з'яўлялася той сферай дзейнасці, дзе было б магчымым нейкае сумленнае самавыяўленне. Тады патрабавалася пісаць пэўныя творы, іграць пэўную ролю, высвятляць пэўным чынам пэўныя тэмы. Да ўсяго гэтага я не дастасаваўся ні светапоглядам, ні выхаваннем.

Але пасля ў грамадстве адбыліся значныя змены, звязаныя з XX і XXII партыйнымі з'ездамі. Так, ва ўсякім выпадку, прынята лічыць у нашай навейшай гісторыі. З'явіліся нейкія магчымасці (у тым ліку і на Беларусі) больш праўдзіва адлюстроўваць грамадскае жыццё ў мастацтве, у літаратуры.

Мае першыя апавяданні былі надрукаваны ў «Вожыку» і ўяўлялі сабой, хутчэй, не гумар, а сатыру. Безумоўна, сатыру не на фундаментальныя рэчы жыцця грамадства, а на асобныя прыватнасці, як гэта тады было дазволена. Пазней бібліятэка «Вожыка» выдала тое асобнай кніжачкай.

Тады ж была надрукавана і аповесць «Жураўліны крык». У маю свядомасць вярнулася тэма вайны. Той вайны, што была мной пра-

жыта вельмі востра, бо ў юнацкім узросце, як звычайна, усё перажываецца асабліва востра. А самае галоўнае, што паспрыяла далейшай творчасці, — мая чыста палемічная настроенасць. У пасляваенныя гады я не толькі не пісаў, але і чытаць не хацеў напісанае пра вайну. Канцэпцыя тады панавала прымітыўная: гераізм, барацьба з захопнікамі, кіруючая роля партыі. У літаратурным сэнсе гэта было мала цікава, а галоўнае — ніяк не ўпісвалася ў рамкі майго жыццёвага вопыту і праўды. Я бачыў іншую вайну.

А тут здавалася, што з'явілася магчымасць пісаць рэалістычна. Дарэчы, сацрэалізм заўжды менавіта да гэтага і заклікаў, але на самой справе баяўся рэалістычнасці. У той жа час з'явіліся творы маіх равеснікаў, расійскіх пісьменнікаў-франтавікоў (я маю на ўвазе Бакланава і Бондарава). Крыху раней — Някрасава, якога вельмі хутка прыдушылі. «У акопах Сталінграда» выдалі, а наступныя рэчы былі сустрэты літаральна вар'яцкім супраціўленнем. Калі нешта і друкавалася, то абавязкова з купюрамі і з адпаведнай негатыўнай крытыкай.

З гэтых аўтараў пачалася новая літаратура пра вайну. І на ўзнятай імі хвалі я напісаў «Жураўліны крык», «Трэцюю ракету», «Альпійскую баладу» і... «Мёртвым не баліць». Тут і пачалося. Калі першыя творы мелі вельмі станоўчую крытыку, то з «Мёртвых» усчалася вялікая літаратурная драма. Аповесць выйшла ў «Новом мире» на рускай мове ў 1966 годзе, якраз у той самы момант, калі генсек Брэжнеў пачаў вяртаць у партыйнае і грамадскае жыццё прасталінскія рэцыдывы. Два нумары «Нового мира» з маёй аповесцю выйшлі ў дні работы чарговага з'езда КПСС, і рэакцыя не прымусіла сябе доўга чакаць. Даволі моцна тады папала і мне, і «Новому миру». Спачатку ўзнялася на дыбкі расійская прэса, а потым і беларуская. Пасля былі пленумы, народныя сходы, «пратэсты» грамадзян, і аповесць прыкрылі. Аж да часоў перабудовы.

### Недарэчнасці жыцця

Так адбылося, што я ледзь не «зрабіўся» мастаком. Нават вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы. Знаёмы дзядзька з суседняй вёскі пасля грамадзянскай вайны прывёз з Сібіры шмат кніг, часопісаў, карцін. У часопісах я прачытаў пра Рэпіна, Каровіна, убачыў рэпрадукцыі іх работ. Спадабалася, паспрабаваў маляваць сам. Не магу сказаць, што мяне лічылі асабліва таленавітым, але ў вучылішча трапіў. У 1940 годзе, якраз калі святкавалі чарговы сталінскі юбілей, студэнтам тэхнікумаў адмянілі стыпендыі, і мне прыйшлося вярнуцца ў родную вёску.



А потым была вайна, якая ўнесла ў палітру майго жыцця зусім іншыя фарбы — крывавыя фарбы сапраўднага пекла. Скончыў другое вучылішча — Саратаўскае пяхотнае. З васьмідзесяці курсантаў, якія вучыліся разам са мной, толькі чацвёра засталіся жывымі.

Мяне, дарэчы, таксама пахавалі — у брацкай магіле ля вёскі Севярынаўка. Па сённяшні дзень там, на Кіраваградчыне, ёсць помнік, на якім сярод іншых выбіта і маё прозвішча. Гэта даволі вядомая гісторыя. У пачатку сорак чацвёртага, дакладней, у студзені, наш батальён вёў бой ля вёскі Севярынаўка. Нямецкія танкі на кукурузным полі «шліфавалі» нашы пазіцыі. Атака іх была нечаканай, адзін мяне ледзь не расплюшчыў. Тракі разарвалі шынель, паранілі мне нагу. Нейкім цудам дабраўся да бліжэйшай вёскі. Размясцілі з дзясяткам параненых у адной хаціне. Ноччу разбудзіў камбат, спытаўся, ці магу хадзіць. Я не мог. Раніцай немцы зноў атакавалі. Пад абстрэлам выпаўз з хаты, байцы дапамаглі ўзлезці на апошнюю фурманку, якая вывозіла раненых. Літаральна на маіх вачах нямецкі танк расстраляў хату, дзе я начаваў. Потым быў шпіталь, я трапіў у іншую часць, а камбат, які не ведаў, што мне пашанцавала выпаўзці са знішчанай хаты, накіраваў родным «пахаванку». Пазней памыліліся і тыя, хто ставіў помнік на брацкай магіле.

Дарэчы, такіх выпадкаў вядома нямала. Баі на Кіраваградчыне падрабязна адлюстраваны ў найбольш аўтабіяграфічнай маёй аповесці «Мёртвым не баліць». Той самай, з якой больш за ўсё здзекавалася партыйная крытыка...

### Ад аўтара

Мы развіталіся, і я запытаўся ў Быкава, у чым, на яго погляд, сэнс чалавечага жыцця? Ён адказаў вельмі проста: «У тым, каб жыць».

# ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН



**Падрыхтавана да друку 31.12. 2008**

*Прозвішча гэтага паэта добра вядомае. І не толькі вершамі, якія пакладзены ў аснову многіх песенных кампазіцый. Некалі Генадзь Бураўкін узначальваў у ААН прадстаўніцтва Беларусі і Дзяржаўную Белтэлерадыёкампанію. Ён мог добра жыць пры ўладзе, але абраў іншы шлях. Чаму? .*

## Дзіцячыя ўспаміны

Дарэчы, якраз у той час у ва мне і абудзілася цікавасць да роднага мастацкага слова. Доўгімі цёмнымі вечарамі, сцішыўшыся, мы слухалі расповеды маці, яе песні і вершы, што запомніліся ёй са школы. Тады вось і паланіла мяне харастро паэтычнага выказвання, такое зразумелае і чароўнае, поўнае блізкіх рэалій і незвычайна суладнага гучання. Недзе глыбока ў душы варухнулася таемная мара паспрабаваць і самому скласці нешта такое ж. Толькі хіба да гэтага было, калі на кожным кроку падсцерагала смерць і заўтрашні дзень не абяцаў нічога светлага?..

Лёс быў спагадлівы да нашай сям'і. З вайны вярнуўся хоць і пакалечаны, але жывы бацька, а з ім нам было куды лягчэй пераўжыць і галадуху, і ўсю тую неўладкаванасць і беднасць, што абрынуліся на зруйнаваны і вынішчаны былы партызанскі край. Я пайшоў у Расонскую школу, хінуўся да кніг, даведаўся, што аўтарамі вершаў, якія чытала на памяць мама, былі Янка Купала і Кандрат Крапіва, сам пачаў нешта складаць у рыфму, усё больш пераконваючыся, як гэта цяжка і якімі непаслухмянымі часам бываюць родныя словы.

У 1952 годзе мы пераехалі пад Полацк, і я заканчваў першую сярэднюю школу гэтага слаўнага і любімага мною горада. Кожны



дзень я хадзіў за дзевяць кіламетраў у школу і зусім позна вяртаўся назад, бо старшыя класы займаліся ў трэцюю змену, а былі ж яшчэ камсамольскія сходы і розныя гурткі, якія мяне цікавілі. Добра памятаю, як завейнымі зімнімі начамі суправаджалі мяне агеньчыкі ваўчыных вачэй, як у душу запаўзаў страх і хацелася бегчы, але жаданне быць (ці хоць здавацца) дарослым перамагала, і я ўпарта прадзіраўся пад калючым ветрам да няблізкай і цёплай матулінай хаты...

Няпроста паступіў на аддзяленне журналістыкі філфака Белдзяржуніверсітэта (было ажно 10 чалавек на адно студэнцкае месца) і пачаў, не скажу каб апантана, але ахвотна «грызці граніт» навукі. Адразу ж адчуў, як не хапала (пры ўсёй маёй хаатычнай начытанасці) вельмі многіх ведаў, асабліва па гісторыі роднага краю і сусветнай культуры. Дапамагалі (зноў жа!) кнігі і сябры. На нашым курсе сабралася цэлая група дужа таленавітых і дапытлівых хлопцаў: Васіль Зуёнак, Міхась Стральцоў, Юрась Свірка, Сымон Блатун, Мікола Гіль, Уладзімір Скапа, Герман Кірылаў, Алесь Дзятлаў... На беларускім аддзяленні займаўся Рыгор Барадулін. Трошкі старэйшымі за нас былі Іван Пташнікаў і Іван Чыгрынаў. Па-сяброўскі апекаваліся намі ўжо вядомыя на той час паэты Ніл Гілевіч і Уладзіслаў Мядзведскі. І былі яшчэ «інтэрнацкія ўніверсітэты», дзе па-маладому жорстка правяраліся чалавечая надзейнасць і дабрыня, шчырасць і ўзаемадапамога — усе тыя якасці, без якіх немагчыма было ні паспяхова ўладкоўваць сваё жыццё, ні пачуваць сябе годным і патрэбным у грамадстве. А яшчэ былі сустрэчы з жывымі класікамі Аркадзем Куляшовым і Максімам Танкам, Міхасём Лыньковым і Петрусём Броўкам, гістарычны дваццаты партыйны з'езд з развянчаннем культу асобы Сталіна, начныя зацятыя спрэчкі пра літаратуру і беларускую ідэю... Без усяго гэтага не было б і не магло быць нашага пакалення «шасцідзясятнікаў», прыналежнасцю да якога я ганаруся.

## Шлях да ўлады

Узаемаадносіны з уладай, стасункі з чынавенствам — тэма дастаткова складаная і вострая, вакол якой у інтэлігенцкім асяроддзі доўгімі гадамі вядуцца часам непрымірымыя спрэчкі. Не буду прыводзіць славутых выказванняў прызнаных аўтарытэтаў, спашлюся на свой уласны досвед працы на так званых адказных дзяржаўных пасадах.

Улада заўсёды персаніфікуецца і ўвасабляецца ў канкрэтных людзях, і, уласна кажучы, якія людзі ва ўладзе, такая і сама ўлада. Прыродная інтэлігентнасць Пятра Міронавіча Машэрава, шчырая зацікаўленасць роднай культурай Ціхана Якаўлевіча Кісялёва ці Аляксандра Нічыпаравіча Аксёнава, вядома ж, спрыялі падкрэсленай павазе да пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў, што было традыцыйным для духоўнай атмасферы ў Беларусі сямідзясятых — васьмідзясятых гадоў мінулага стагоддзя. Яны часта тэлефанавалі мне як старшыні Белтэлерадыё пасля трансляцый сустрэч з Васілём Быкавым, Рыгорам Барадуліным, Андрэем Макаёнкам, пасля прэм'ер тэлеспектакляў і тэлефільмаў і не толькі выказвалі сваю поўную падтрымку, а і цікавіліся ўмовамі жыцця выдатных творцаў, іх планамі і праблемамі. Як дарагую рэліквію я захоўваю лісты ад Кірылы Трафімавіча Мазурава з Масквы, дзе ён прыгадвае мае вершы (аказваецца, ён чытаў іх!). Не магу забыць, як праз свайго памочніка ён, член Палітбюро ЦК КПСС, калі я быў галоўным рэдактарам «Маладосці», прасіў прыслаць некаторыя нумары часопіса з публікацыямі Мележа, Брыля, Адамовіча. І рабілася ўсё гэта не напаказ, а, як кажуць, па загадзе сэрца.

Дзяржаўная праца, якая выпала на маю долю, безумоўна, замінала творчасці. Дванаццаць гадоў кіравання Беларускім тэлебачаннем і радыё «адабралі» ў мяне як найменей тры кніжкі вершаў, але і далі нямала цікавай інфармацыі, адчуванне далучанасці да, як нядаўна модна было казаць, лёсавызначальных спраў, пазнаёмілі з многімі выдатнымі людзьмі. Не буду ўтойваць, што мне было прыемна, калі П.М. Машэраў, Ц.Я. Кісялёў, А.Т. Кузьмін пыталіся ў мяне не толькі пра тэле- і радыёпраграммы, а і пра вершы, не прапускаючы без увагі ніводнай маёй публікацыі.

Былі, вядома, і зусім іншыя чыноўнікі. Так, на адной з прадстаўнічых нарад высокі ідэалагічны кіраўнік вельмі эмацыйна раскрытыкаваў маю кніжку «Пяшчота», якую склалі вершы пра каханне: «На ўздыме эканомікі, у той час, калі ўвесь савецкі народ напружвае сілы, каб выканаць заданні партыі, паэт, адказны дзяржаўны работнік кінуўся ў лірыку; яму закарцела пісаць не аб працоўным энтузіязме мас, а пра любошчы...».

Наогул нізкая культура, слабая адукаванасць чыноўнікаў (асабліва высокага рангу) — вялікая бяда для краіны, лёсам якой яны распараджаюцца, тым самым наносячы непапраўны ўрон яе аўтарытэту ў свеце.



Мне смешна, калі начальнікі з бюракратычных кабінетаў пачынаюць арганізоўваць нейкі правільны, на іх думку, саюз пісьменнікаў, калі замест таго, каб лавіць злачынцаў, сівы генерал пачынае падбіраць (дарэчы, без відавочнага поспеху) хакейных трэнераў, калі, так і не правёўшы разумнай школьнай рэформы, бездапаможны міністр кідаецца ствараць не акрэслены ні ідэалагічна, ні арганізацыйна, нікому не патрэбны грамадскі рух.

Усё гэта, даруйце, дзіцячыя гульні дарослых разгубленых людзей, якія займаюць не свае месцы ў дзяржаўных структурах. Але ж іх дзеянні звязаны з вялікімі бюджэтнымі сродкамі, з лёсамі многіх тысяч людзей, з рэальнай палітыкай (калі гэта можна назваць такім адказным словам). А потым мы дзівімся, чаму няма выдатных з'яў у літаратуры, чаму нашы спевакі не прывозяць прызоў з міжнародных конкурсаў, чаму ў эканоміку не ідуць патокам замежныя інвестыцыі, чаму мы сіратліва стаім на ўзбочыне сучасных дэмакратычных і рынкавых працэсаў. Паглядзіце ўважліва на нашых галоўных чыноўнікаў, прааналізуйце іх дзеянні, пацікаўцеся, з кім з выдатных суайчыннікаў яны сябруюць, каму як дапамагаюць, — і вам усё стане ясна.

Праблема «ўлада і інтэлігенцыя, улада і народ» у нашай роднай краіне вельмі балючая і цяжкая...

### Сям'я паэта

Я вельмі люблю сваю сям'ю. З жонкай Юляй мы разам паўвека. Было ўсякае, як і ў кожным зямным жыцці, але тое святое і светлае, што звязала нас яшчэ студэнтамі, як мне здаецца, засталося і дапамагло захаваць давер і павагу адно да аднаго да гэтага часу. Сын Аляксей — кандыдат тэхнічных навук, інфарматык. Дачка Святлана закончыла беларускае аддзяленне роднага філфака БДУ, свабодна валодае ангельскай мовай. Старэйшы ўнук Павел — студэнт хімфака БДУ. Сярэдні Ваня і малодшы Арсень вучацца ў беларускамоўных гімназіях. Мілай унучачцы Машы пяць гадоў.

Самае шчаслівае і дарагое для мяне — поўнае ўзаемаразуменне і аднадумства з дзецьмі ў галоўных памкненнях і прынцыпах. І сыну, і дачцэ блізкія мае зацікаўленні, мы, можна сказаць, аднолькавымі вачыма глядзім на сённяшні свет, на ўсе тыя ўзлёты і падзенні, праз якія няпроста прадзіраецца да цывілізаванай будучыні наша Беларусь. Спадзяюся, што і ўнукі з намі ў адной «камандзе».

## У час адпачынку

Ніякіх экзатычных хобі ў мяне няма. Самы любімы занятак у вольны час — ціхае лясное «паляванне». Магу цэлымі днямі шукаць грыбы, прыслухоўваючыся да ўдумлівага дыхання саснякоў і бярэзнікаў, разгадваючы перапляценні імшастых сцяжынак, чуйна ловячы вухам радасны шчэбет птушак і роўны гул далёкіх бальшакоў. Няспешная сяброўская гамонка каля вогнішча, вечаровае маўчанне над булькатлівай рачулкай — найлепшае спрыянне для душэўнага спакою і разважлівага роздуму.

Люблю пабыць сам-насам з добрай кнігай. Хаця якое гэта хобі? Гэта абавязковая частка майго жыцця. Апошнім часам з асалодай і захапленнем перачытваю класіку — Купалу, Багдановіча, Коласа, Пушкіна, Гогаля. Дзіўлюся з іх празорлівасці, іхняга ведання чалавечай псіхалогіі, валодання словам. У так званых сённяшніх модных аўтараў гэтага, на жаль, трагічна мала.

Ніколі не паліў, а вось ад чаркі не адмаўляўся, сяброўскія застоллі не абмінаў, на што змарнаваў нямала сіл і часу. Славутая «славянская» слабасць скараціла жыццё не аднаму майму таленавітаму калегу. Пазнавата, на жаль, прыходзіш да разумення некаторых відавочных ісцін. Таму цяпер так даражыш кожным падараным табе днём, кожнай зямною радасцю. Хочацца паспець яшчэ сказаць пра тое, што з табой адбылося і здаецца важным не толькі табе аднаму.

# АЛЕКСАНДР БУХВОСТОВ



Подготовлено к печати это 26.05. 2006

*Признаюсь, мне очень хотелось обойти «профсоюзную» тему, но не получилось. Позднее я понял, почему это произошло. Просто без неё нельзя рассказать о жизни руководителя ликвидированной властями Партии труда Александра Бухвостова.*

## «Ты помнишь, как всё начиналось...»

Сразу же оговорюсь, что прошу не воспринимать мой рассказ как автобиографию.

Я родился 22 ноября 1944 года в Орле, то есть по национальности «москаль». Мой отец, Иван Константинович, русский, из известного в России рода. (Кстати, фамилия первого русского солдата была Бухвостов.) Мать, Ядвига Павловна, литовка. Мой дед по материнской линии — литовец, вернее этнический белорус, родившийся в Литве. Его фамилия Ярмолович. Бабушка — чистокровная литовка, по-русски она почти не говорила. Дед служил в русской армии и «осел» в Орле, работал на железной дороге.

Традиционно литовцы создают семьи довольно поздно. У них принято, чтобы мужчина вначале добился надёжного материального положения. Когда деду было 35 лет, он поехал в Литву и привёз молодую жену (бабушке было всего около 16-ти). Время тогда было тревожное: революция, гражданская война. Дед был глубоко верующим человеком. Первые два года детей у них с бабушкой не было. Дед ходил в костёл и молился, чтобы бог послал им ребёнка...

Умер дед в1923 году от брюшного тифа, на тот момент у него было уже 11 детей (моя мама — восьмая по счёту). Бабушка не работала, растила детей. До сих пор не понимаю, как они выжили.

Я очень любил свою мать. Она была удивительным человеком и замечательным рассказчиком. От неё я узнал о голоде 1933 года, о репрессиях 1937-го, в которых погиб её единственный старший брат. Умерла мама в 2005 году, на 91-м году жизни.

В Орле, где мы жили, была целая улица Бухвостовых. Во время войны отец воевал в железнодорожных войсках. Затем было очень много переездов, я почти два года жил в Вильнюсе. Там бабушка окрестила меня в католическом костёле. Обстановка в Литве в те времена была довольно сложной. Многие братья бабушки ушли в лес, воевали с «советами». Они посоветовали, чтобы мы уехали. Почти каждый день в деревню приносили по шесть-десять убитых. Бойня продолжалась...

Потом мы жили в Новозыбкове, где отец работал главным инженером в железнодорожных мастерских. Оттуда его перевели в Минск, назначили начальником управления. Он вступил в партию. Когда решили «поднимать» сельское хозяйство, партия направила отца в Западную Беларусь. Его назначили сначала главным инженером, а затем и директором Рыщицкой машинно-тракторной станции (МТС).

В школу я пошёл в Слониме. Увлёкся баскетболом. Мы даже играли за Гродно в одной команде со знаменитым Иваном Едешко. Затем «переключился» на лёгкую атлетику.

Судьба распорядилась так, что отца перевели в Столбцы. Оттуда я поступал в БГУ на факультет радиоэлектроники и радиофизики, но не прошёл по конкурсу. Радиофизика и электроника тогда были очень модными специальностями, мне предлагали перейти на химфак, но я не согласился. Пошёл работать молотобойцем в кузницу. Кстати, именно о такой работе мечтал. Многие физически сильные люди, впоследствии ставшие знаменитыми спортсменами, с неё и начинали. (Вес молота — около шести килограмм.) В кузнице я проработал целый год, затем освоил профессию токаря и всё-таки поступил на радиотехнический факультет Белорусского политехнического института. Через год наш факультет преобразовался в РТИ. Любопытно, что когда я учился на четвёртом курсе, проректором у нас был Станислав Станиславович Шушкевич.

Спорт не забывал никогда. Метал молот, тренировался у Михаила Петровича Кривоносова. На республиканских соревнованиях студентов занял третье место, но в это время как раз вышла новая редакция закона о всеобщей воинской обязанности, и мне прямо



на распределении сказали: «Вам выпала честь представлять наш институт на Северном флоте». Так я оказался в Западной Лице, в первой флотилии атомных подводных лодок (Североморск-7).

Служил в штабе, в «автономки» не ходил. Для этого нужно было оставаться служить, что мне и предложили, но я предпочёл вновь стать гражданским. Во время службы понял, что дисциплина должна быть во всём. Командир нашей части Мельников сразу же сказал мне, вчерашнему студенту: «Если вы не научитесь подчиняться, то не сможете командовать». Мудрые слова.

### Спортивно-трудовая биография

История нашего с женой знакомства очень романтическая. Наталья тоже училась в РТИ, на два курса младше. Я видел её на соревнованиях (она хорошо метала копьё, выступала за институт, входила в сборную республики), но особого внимания не обращал. И вот мы очередной раз поехали «на картошку», где и познакомились. Потом отношения стали более близкими. Женился во время службы. В 1971 году родился сын, и жена уехала с ним в свой родной Гомель.

Приехав после службы в Гомель, я снова начал тренироваться, а работать пошёл на «Гомсельмаш», где обещали квартиру. Считал, что жить у тёщи не совсем правильно, хотя с ней у нас никогда не было сложностей в отношениях. Мама жены, Анна Васильевна, — женщина волевая, мужественная, прекрасный врач, работала в госпитале ветеранов войны. До сих пор многие отзываются о ней очень хорошо. Сейчас ей 87 лет.

Работал инженером в отделе главного энергетика, где создавалось бюро по автоматизированным системам управления. Через год назначили начальником бюро. Было интересно. Например, мы осуществили диспетчеризацию всего завода, использовав сотни километров кабеля. Затем меня перевели на другое место, где я сначала занимался периферийной техникой подготовки информации, а потом возглавил вычислительный центр. В 1977 году вступил в компартию.

И здесь произошло то, что многие называют «его величеством Случаем»: я поступил в аспирантуру Института технической кибернетики, занимался наукой. Горкому партии срочно понадобилось внедрение вычислительных систем. Такой опыт был у горкома партии Тулы. Естественно, лучший «полигон», нежели «Гомсельмаш», найти было сложно. Так я поехал в Тулу в командировку.

Вернулся, и через некоторое время заместитель секретаря парткома, который уходил на повышение, предложил мне занять его место. Правда, сразу же предупредил, что это кадровая номенклатура ЦК КПБ, и согласование моей кандидатуры от него не зависит. Согласование состоялось. Компартию республики тогда возглавлял Киселёв, но его не было на месте, и я встречался с Бровиковым.

По напряжению работа на «Гомсельмаше» напоминала военные действия. Мы постоянно находились на своеобразной передовой. Завод работал в три смены. Бывало, сварщики не выходили из цехов по 12 часов, поскольку нужно было выполнять план.

Показухи тоже хватало. Конкретный пример: все документы о сдаче цеха подписаны, а там ещё нет ни одного станка. Тяжёлое время.

### «Блицкриг» на Москву

В Гомеле работал Виктор Санчуковский, брат известного директора «Горизонта». Он и предложил в конце 1985-го возглавить профсоюзный комитет «Гомсельмаша».

Честно говоря, раньше к профсоюзам я относился крайне негативно. Во время работы в партийном комитете, решение основных задач всегда брал на себя, а профсоюзы решали второстепенные задачи типа распределения хрусталя, ковров и т.п. Самым главным в их деятельности было распределение жилья. Наш завод строил по 2000 квартир ежегодно.

Так продолжалось до апреля 1986 года, то есть до аварии на Чернобыльской АЭС. Я считаю, что в Гомельской области с этого момента начался новый отсчёт времени. Этот день я запомнил хорошо. Тогда мы с женой пошли в гости к товарищу, а когда возвращались, подул очень сильный ветер. На следующий день поползли слухи, что где-то произошла авария. А потом появилось и официальное сообщение, но это ровным счётом ничего не значило.

Один пример. Мы открыли пионерский лагерь под Гомелем. Санстанция приехала и сделала вывод, что всё нормально. В 1887 году решили провести там интернациональный лагерь, пригласили детей из Германии, Польши и Чехословакии. И только гораздо позже, через несколько лет, когда я попросил своего заместителя съездить в Киев и заключить договор с Независимым институтом радиационных исследований, мы узнали, что эта территория сильно «фонит».



Лагерь тогда закрыли. Кстати, здания сохранились до сих пор и както, наверное, используются.

В 1989 году на профсоюзной конференции мы выдвинули требование в адрес руководства СССР сказать людям правду. Решение приняли, но официальной реакции на него не последовало. Партийная и профсоюзная работа заставила меня взглянуть на происходящее по-другому. Моё сознание начало отвергать существующую систему власти и общественного устройства. Любая вера — дело совести каждого человека. Моя совесть не позволяла мне жить, как многие вокруг. Я видел, в каких условиях, за какую зарплату и как работают люди на заводах. Наёмный труд и изощрённая эксплуатация рабочего. В 1988 году отправил в ВЦСПС предложения по реформированию профсоюзов, затем написал Манифест рабочей партии. Мною начала заниматься парткомиссия. В конце 1989 года профком объединения прекратил перечисление профсоюзных взносов «наверх».

В начале1990-го отделение местного банка стало выплачивать своим сотрудникам «гробовые» — так в народе назывались деньги, ежемесячно выделяемые на покупку фруктов и т.п. Этого же потребовали и мы. Я всегда говорю: для того, чтобы «взорвать ситуацию», порой нужна только одна спичка. В каком то смысле этой самой спичкой стали «гробовые».

В принимаемых документах мы оговорили, что в случае невыполнения наших требований объявим забастовку. И процесс «пошёл». Партийные органы стали на нас давить. Мы провели профсоюзную конференцию, на которой вопрос о проведении забастовки был поставлен на тайное голосование, и получили просто грандиозную поддержку. Во всех цехах стали создаваться забастовочные комитеты. Подобное происходило и на других предприятиях Гомеля.

26 апреля 1990 года мы провели первую в Беларуси организованную забастовку. Утром люди пришли в цеха, переоделись, но к работе не приступили. Управление предприятием перешло забастовочному комитету. На заводах объединения состоялись митинги. Один из них проводил я. Выступил директор и сказал приблизительно следующее: «Вы показали, что можете протестовать, давайте приступим к работе». Я выступил против, и директора не поддержали.

Общий митинг должен был пройти на центральной площади. Начался сильный дождь, но народ это не испугало. На следующий день

из обкома партии сообщили, что к нам приедут Соколов и Камай. До сих пор вспоминаю просто необыкновенный энтузиазм людей, которые вышли защищать своих лидеров. Встретили гостей чисто по-рабочему, в спецовках, кто-то даже взял кайло. Партийные вожди шли в заводоуправление, словно сквозь строй. Мне даже было их жаль. Подошёл руководитель местного КГБ и попросил хоть что-нибудь сделать. Сейчас подобное маловероятно.

Определённый снобизм у руководителей партии республики был, но присутствие большого количества людей его значительно поубавило. Когда прощались после переговоров, Соколов посоветовал мне подумать о своём будущем.

12 мая был создан городской забастовочный комитет — исполнительные структуры, партийные органы и мы. В Гомеле фактически установилось троевластие. На одном из митингов было решено организовать марш на Москву:должен был состояться очередной съезд КПСС, а наши требования в полном объёме (кроме «гробовых») не были выполнены.

7 июля 13 автобусов двинулись в сторону Брянска. О том, пустят ли нас в Москву, мы не знали. Светлана Гольдаде договорилась об этом с тогдашним мэром Гавриилом Поповым, который всё сделал, наверное, назло Горбачёву. Стояла жара, людей на улицах почти не было. Наши автобусы сопровождала милиция. В районе Дома художников мы построились в колонну и пошли к Красной площади. Туда нас не пустили. Около собора Василия Блаженного начали проводить митинг. Естественно, это сразу же было замечено — рядом всё же проходил съезд КПСС. Единственным делегатом, вышедшим к нам, был Василий Леонов.

Подошли и кэгэбешники, поинтересовались целями акции. Мы ответили, что хотим передать письмо Горбачёву. Через час они вернулись и сказали, что Михаил Сергеевич извиняется и принять нас не может, но он поручил это сделать Рыжкову. Я обратился к людям с вопросом: кто будет участвовать в переговорах? Решили идти все.

Встреча прошла, как говорят в таком случае, плодотворно. Выступили многие. Освистали только Соколова. Рыжков дал обещание прислать через две недели Догужиева, который был его заместителем по чрезвычайным ситуациям, и заверил, что по нашим требованиям будут приняты решения. Кстати, это он подтвердил и в личной беседе.



Так и произошло. На следующей неделе прибыла правительственная комиссия, а еще через две недели Догужиев провёл в Гомеле заседание Правительственной комиссии, Правительства РБ и Гомельского забастовочного комитета. Был подписан двусторонний протокол, который дал толчок к принятию закона и програмы по ликвидации последствий аварии на ЧАЭС.

### «Скучная» тема, без которой нельзя обойтись

Когда в нашей стране начинаешь говорить о профсоюзах, народ скептически улыбается и переводит стрелку разговора в другую плоскость. И это понятно. В силу известных причин профсоюзы утратили доверие как организация, призванная защищать интересы трудящихся.

После «гомельских» событий в сентябре 1990 года я «заочно» был избран председателем республиканского профсоюза АСМ (автомобильного и сельскохозяйственного машиностроения). На съезде я не присутствовал.

Практически вся моя деятельность была борьбой за независимые профсоюзы. С В.Гончариком мы расходились во взглядах, и длительное время между нами сохранялись натянутые отношения. Возможно, на это влияло и то, что на первом съезде ФПБ, когда при выборах председателя меня выдвинули в альтернативу Гончарику, я не снял свою кандидатуру и сказал, что право на лидерство надо подтверждать конкретными делами и защищать в конкурентной борьбе.

Мы создали вместе с профсоюзом РЭП Ассоциацию независимых профсоюзов промышленности. До её ликвидации Верховным судом мы провели 35 митингов, манифестаций, пикетов. Количество участников доходило до 30 тысяч человек. Когда в 1995 году Лукашенко предложил профсоюзам стать его опорой, я резко выступил против. Понимал, что начинается реставрация тоталитарной системы, которая в первую очередь нанесёт удар по независимому профсоюзному и рабочему движению.

У меня тесные связи с международным рабочим и профсоюзным движением. С 1999 по 2005 год я избирался членом Исполкома Международной федерации металлистов (МФМ), представлял в нём страны Центральной и Восточной Европы. Вхожу в Совет TIE — неформальной организации международного движения, цель кото-

рой — противодействие ТНК (транснациональным корпорациям). Посетил более тридцати стран, видел, как там живут люди.

Я понимал, что без политической борьбы невозможно улучшить положение наёмных работников. Устранение от политики отражается на рабочих повышением цен на продукты питания, энергоносители, жильё. Поэтому в 1993 году мы создали Белорусскую партию труда, стали выпускать газету «Рабочая солидарность». Я был избран депутатом Верховного Совета 13 созыва. Мы не хотели, чтобы БРСМ дурачил молодёжь, и создали организацию «Трудовая молодёжь». В 2004 году и БПТ, и газета были запрещены.

Я могу смело заявить, что последние двадцать лет жизни отдал борьбе за права трудящихся. И это не громкие слова.

### Любимые люди и увлечения

О жене я уже рассказывал. Долгое время она работала по специальности, потом была представителем «Гомсельмаша» в Минске.

Старший сын Сергей работает на «Интеграле», младший Александр — программист. У него двое детей (близнецы).

Я не употребляю алкоголя и не курю. С детства увлекаюсь, кроме, естественно, спорта, чтением книг, нумизматикой и йогой. Читал всегда очень много. Брал все книги Драйзера, Диккенса или Голсуорси и буквально «проглатывал». Мой любимый писатель Оскар Уальд.

Помню, нумизматикой в нашей школе увлекался еще и учитель истории. В те времена ещё можно было найти древние монеты, особенно на западе республики. Кстати, у меня есть монеты XVI века. «Историк» делал очень просто: просил принести монеты и забирал их себе.

Точное количество экспонатов своей коллекции сейчас назвать не могу, так как давно не проводил «инвентаризацию». Одно время вёл подсчёт по годам, потом — по странам.

Одна монета у меня просто уникальная. Она долго была в коллекции, но внимательно я изучил её относительно недавно. Это своеобразная памятная медаль в честь президента Крюгера. Она относится к временам Оранжевой республики и республики Трансвааль — англо-бурская война начала прошлого века, хорошо описанная Черчиллем, когда он был корреспондентом. Как эта монета попала в Беларусь, не знаю.

# АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ



Падрыхтавана да друку 25.11.2009

*Пра іх дзейнасць я пачуў за некалькі гадоў да таго, як асабіста пазнаёміўся з Алесем Бяляцкім. Апазіцыянераў новыя ўлады тады яшчэ толькі-толькі пачалі «зачышчаць», і для незалежных журналістаў гэта было чымсьці сенсацыйным. Каля Савецкага РУУС нас сабралася каля дзясятка. Ноч. Зімна. Нейкая дзяўчынка цікавіцца ўсімі абставінамі затрымання. Пытаюся ў калег: «Хто такая?» І чую: нядаўна створаны праваабарончы цэнтр «Вясна-96».*

### Першыя крокі

Нарадзіўся 25 верасня 1962 года ў Карэліі, у мястэчку Вяртсіля Сартавальскага раёна. У савецкія часы ў Сартавалах выраблялі вядомыя на ўсю краіну лыжы. На іх тады каталіся даволі многія. Патлумачу, чаму так далёка, бо я ўсё ж такі з беларускай сям'і.

Пасля савецка-фінскай вайны трэба было асвойваць далучаныя тэрыторыі, і ў запрыгоненых савецкіх сялян з'явілася магчымасць вырвацца з «калгаснага раю». Некалі заможная сям'я Бяляцкіх пасля калектывізацыі ператварылася амаль у жабрацкую. На пачатак 1940 года шасцёра дзяцей майго дзеда Усціна пачалі пухнуць з голаду, бо літаральна не было чаго есці. І дзед вырашыў пакінуць родныя мясціны — Рагачоўшчыну. Паехаў «па вярбоўцы» на «акупіраваныя землі».

Так мой бацька Віктар Усцінавіч (1929 года нараджэння) у дзесяцігадовым узросце апынуўся за Ладагай. Маці, Ніна Аляксандраўна Кавальчук, родам з Нараўлянскага раёна. У Карэлію яна трапіла таксама па вярбоўцы, але ўжо па іншай. Было гэта пасля Другой сусветнай вайны. Мяне назвалі ў гонар майго дзеда. Спачатку ён быў у партызанах, а потым «прапаў без вестак» на фронце.

У Карэліі мае бацькі і пазнаёміліся, там і ажаніліся ў 1956 годзе, а ў 1964, калі мне споўнілася два гады, вярнуліся ў Беларусь. Аднак першыя мае дзіцячыя ўспаміны звязаны менавіта з Карэліяй. Добра памятаю дзіцячы сад, шум рэчкі, праз якую па мосце мяне везлі на вазку ў яслі, і скалы вакол. Памятаю пажар, які я ўчыніў на кухні, уключыўшы электрычную плітку з накладзенымі на яе газетамі, а потым загарэліся і фіранкі. Я пабег у спальню, паскардзіўся маці, якая спала пасля начной змены, і хуценька ўцёк да суседзяў на першы паверх.

У тыя часы ў Беларусі пачалі будавацца заводы, якім былі патрэбны рабочыя кадры. Мае бацькі выбіралі паміж шахтамі Салігорска і хімзаводам у Светлагорску. Паехалі ў Светлагорск, бо ён знаходзіўся бліжэй да Рагачова і Нароўлі. З ім і звязана свядомая частка майго дзяцінства.

Жыць не было дзе, і рабочым дазволілі ўзводзіць часовыя збудаванні. Будавалі з ўсяго, што трапляла ў рукі. Зімой вецер аж гудзеў у шчылінах, па падлозе бегалі мышы. Адну я злавіў і паднёс маці ў падарунак.

У нейкім сэнсе я быў фаерменам. Зараз такіх збудаванняў ужо няма, а раней каля вакзала праз чыгунку там былі сапраўдныя трушчобы. Дык вось, я падпальваў сваю «халупу» разы тры.

У савецкія часы дзіцячыя сады былі перапоўнены, мяне не было куды дзяваць, таму пакідалі аднаго ў хаце. Старэйшы брат ішоў у школу, а бацькі — на працу. Кожны раз яны баяліся, што я згару разам з хатай, і кожны раз Бог мяне бараніў, хоць час ад часу я знаходзіў запалкі і ўчыняў пажары.

Шанцавала: то суседзі заўважаць, то сам уцяку, калі нешта пачынала «тлець» і з'яўляўся першы дым. Зачынены ў хаце, адзін раз разрэзаў нажніцамі абіўку радыёпрымача — шукаў там маленькага чалавечка; другі раз вываліў на ложак зямлю з вазона, а саму кветку парэзаў на дробныя кавалкі: так было прыгожа — чорная зямля на белай прасціне і зялёная кветка на ёй!..

Вельмі любіў лазіць па дрэвах. Забіраўся высока-высока, і ніхто не мог мяне зняць. «Прыманьвалі» цукеркамі. Аднак унізе чакала вялікая крыўда, бо замест абяцаных цукерак атрымліваў «па срацы».

У мяне быў любімы сабака Тузік. Часам ён прыносіў з лесу злёгку прыдушаных зайцоў. Дарэчы, наша часовая «хатка» стаяла сярод хваёвага лесу. Я любіў самастойна вандраваць — то на недалёкі чыгуначны вакзал траплю, то ў лесе заблукаю, то яшчэ пайду куды, і бацькі баяліся, каб не здарылася чаго трагічнага. Яны палохалі тым, што калі-небудзь мяне выкрадуць цыганы. А цыганы тады жылі на вакзале і часта хадзілі паўз нас. Аднойчы на дарозе я заўважыў дзвюх цыганак і падумаў, што гэта «за мной». Сказаў Тузіку: «Фас!» — і кінуўся ў атаку. Бедныя цыганкі...



Як чалавек, які вырас не «на асфальце», я вельмі любіў збіраць грыбы. Асабліва калі быў у бабулі па маці, у Красноўскай Будзе. За Нароўляй такія лясы! Побач мяжа з Украінай, і грыбнікі хадзілі туды-сюды. Больш за 200 баравікоў ніколі не браў — не данесці. Цяпер так рабіць немагчыма — Чарнобыль.

У тыя гады я стаў кнігаманам, з'яўляюся ім і сёння. Пры гэтым чытаць мяне ніхто не вучыў. Асвоіў усё сам. У пяць гадоў чытаў буквар, пытаўся ў старэйшага брата: «А што гэта за літара? А якая гэта?» Бацькі здзівіліся, калі даведаліся, што я ўжо чытаю.

Да пятага класа не ведаў страху, любіў біцца і рабіў гэта паспяхова, бо ніхто не чакаў удару ад ляўшы. А потым так захапіўся кнігамі, што стаў больш часу праводзіць у кватэры.

З ляўшы мяне зрабілі праўшой, прымусілі пісаць правай рукой, таму на савецкую сістэму выхавання ў мяне крыўда з маленства (смяецца — заўвага аўтара).

## Выбар лёсу

У Светлагорску скончыў сярэднюю школу № 5. Вучыўся там з першага па апошні клас, а жыў праз дарогу. У першы клас у школу пайшоў сам, без бацькоў — не хацеў, каб яны ішлі са мной. Вучняў было шмат, таму патрапіў я аж у першы «І». Клас у нас быў вельмі дружны. Ездзілі «на бульбу», «на буракі», самавольна хадзілі ў паходы. Не толькі ў школе, але і па-за яе сценамі мы ўвесь час «тусаваліся» разам. Што толькі не рабілі! Напрыклад, неяк выпілі шмат партвейну...

Дарэчы, у інстытуты і ва ўніверсітэты потым паступілі амаль усе, бо вучыліся добра.

Я абраў Гомельскі ўніверсітэт, дакладней, беларуска-рускае аддзяленне гісторыка-філалагічнага факультэта. Правучыўся там пяць гадоў. Кампанія ў нас была цікавая: разам са мной вучыліся Анатоль Сыс (на два гады старэйшы), Эдуард Акулін і Сяржук Сыс (ад-

нагрупнікі), Анатоль Казлоў (маладзейшы на год), Вольга Куртаніч і Ліля Плыгаўка. Словам, дастаткова актыўная паэтычная беларуская сябрына.

Менавіта там мы пачалі задумвацца над пытаннямі беларускай мовы, развіцця гісторыі, культуры — увогуле, пра лёс Беларусі. Аналізавалі, што з гэтага будзе і ў якім мы становішчы знаходзімся. Мяне ўжо тады пачалі хваляваць пытанні нацыянальнай адметнасці, беларушчыны. Пасля дзясятага класа я хацеў напісаць ліст у «Известия» ці якую іншую цэнтральную газету пра несправядлівае становішча беларускай мовы. Зрабіў чарнавік на 5 старонак, але не перапісаў і не даслаў. Можа, і добра, а то б не бачыць бы тады мне ўніверсітэта, прыйшлося б ісці на «хімдым» да бацькі, гайкі круціць.

У 1981 годзе на грошы, зробленыя ў будаўнічым атрадзе, я адправіўся ў вандроўку па гістарычных мясцінах Беларусі — дзе на маршрутных аўтобусах, дзе «аўтастопам», дзе пехам. Уражанняў было шмат. Галоўнае: беларуская мова жыве! У адрозненне ад цяперашняга часу на ёй сапраўды размаўлялі ў вёсках і мястэчках — амаль усюды.

Падчас той вандроўкі мне пашанцавала пабываць у Мікалаеўшчыне, у «родным куце» Якуба Коласа. Якраз набліжалася 100-годдзе з дня нараджэння дзядзькі Якуба, таму там працавалі нейкія мастакі. Мабыць, атрымалі дзяржаўны заказ. Самым актыўным з іх быў Мікола Купава.

Мяне ўразіла іхняя беларуская мова. Гэта і стала прычынай знаёмства. Мікола спытаў: «Як цябе завуць?» Я адказаў: «Саша». А Купава сказаў: «Не, цябе завуць не Саша, а Алесь». Так што ў 19 гадоў я стаў Алесем, размаўляю з таго часу выключна па-беларуску. Вырашыў, што ўсё, звязанае з гэтым, будзе для мяне галоўным у жыцці. Фактычна так яно і атрымліваецца.

Дарэчы, менавіта Купава пазнаёміў мяне з мінскімі актывістамі-студэнтамі (сярод іх былі Вінцук Вячорка, Сяржук Сокалаў), якія потым склалі «касцяк» беларускіх адраджэнцаў хвалі дзевяностых. У іх я потым браў негатывы з празнымі забароненымі выданнямі трыццатых гадоў Міколы Ермаловіча і вёз у Гомель, дзе раздрукоўваў і даваў чытаць іншым.

У 1984 годзе я скончыў універсітэт і некалькі месяцаў адпрацаваў настаўнікам у Лельчыцкім раёне, а потым паступіў у аспірантуру Інстытута літаратуры Акадэміі навук БССР. Гэта быў пачатак новай хвалі нацыянальнага адраджэння і росквіт знакамітай творчай «Майстроўні», праз якую прайшлі некалькі соцень чалавек, большая частка з іх і зараз працуе на карысць беларушчыны.



На гэты ж момант выпадае і першая акцыя пратэсту. «Наверсе» вырашылі разбурыць дом, дзе ў сярэдзіне XIX стагоддзя была пастаўлена першая беларуская п'еса Вінцука Дуніна-Марцінкевіча. Актывісты «Майстроўні» арганізавалі публічны супраціў. На акцыю з плакатамі выйшлі каля дзесяці чалавек (Вінцук Вячорка, Зміцер Саўка і іншыя), аднак вельмі хутка яны апынуліся ў міліцыі. Праз пэўны час усіх адпусцілі. Камуністычная ўлада зрабіла выгляд, што нічога неардынарнага не здарылася.

Праз паўгода мяне прызвалі ў Савецкую Армію, бо ніякіх адтэрміновак для аспірантаў тады не было. Служыў пад Свярдлоўскам механікам-вадзіцелем браніраванага цягача ў артылерыйскім знішчальным супрацьтанкавым батальёне.

Аднойчы адбыўся такі выпадак. У «акумулятарных» было вельмі цёпла, і ўзімку салдаты там адсыпаліся, калі была вольная хвіліна. Адзін раз прасынаюся — няма побач майго земляка. Праз 10 і 20 хвілін — тое ж самае. А на вуліцы мінус 20. Устурбаваўся, выйшаў, каб паглядзець. Аказалася, што, пакуль мы спалі, тэхнічны парк здалі пад ахову, і малады пастаў з Арменіі ўвесь час трымаў яго «на мушцы аўтамата». Угаварыць адпусціць не ўдалося, прыйшлося вылазіць праз акно і бегчы да разводчыка (добра, што той быў знаёмым сяржантам), каб аддаў загад адпусціць.

На жаль, армейская служба складалася не толькі з такіх «прыколаў» і давалася мне цяжка. Цяжка не фізічна, а маральна. Думкамі я быў у Беларусі. З войска «выскачыў», як «корак з пляшкі». Пасля салдацкай службы былі прадугледжаны яшчэ двухмесячныя афіцэрскія курсы. Атрымліваць лейтэнанцкія «зорачкі» я не стаў, зрабіў «дэмбельскі акорд», каб толькі не заставацца на лішнія месяцы ў войску, і вярнуўся вучыцца. Як кажуць, чыстыя пагоны — чыстае сумленне.

### Супраць ветру

Калі я звольніўся ў запас, у беларускай сталіцы дулі ўжо новыя вятры. Было заснавана і актыўна працавала моладзевае аб'яднанне «Талака», ва ўніверсітэце і розных інстытутах з'явіліся шматлікія нефармальныя групоўкі. Вясной 1986 года адбыўся і першы разгон

моладзі, якая спрабавала святкаваць у Траецкім прадмесці «Гуканне вясны». Улады падбухторылі былых «афганцаў» пабіць «фашыстаў», якія насамрэч вучыліся ў мастацкай школе імя Івана Ахрэмчыка.

Грамадства ў той час было ў нейкім сэнсе наэлектрызаванае, і ў мяне адразу з'явілася шмат новых вельмі цікавых знаёмых, сапраўды каларытных асоб. Дастаткова нагадаць толькі аднаго Алега Бембеля, у бацькоўскім доме якога зараз месціцца музей, дзе неаднойчы праходзілі літаратурныя, паэтычныя, філасофскія сустрэчы.

Мы стварылі больш вузкае кола, у якое ўваходзілі Вінцук Вячорка, Сяргей Дубавец, Алесь Суша, Сяргей Воюш, я, Генадзь Сагановіч ды яшчэ некалькі чалавек. Дзейнічалі мы ў канспіратыўным стылі, збіраліся ў заводскай падсобцы на радыятарным, дзе тады працаваў грузчыкам Віктар Івашкевіч, які таксама быў нашым аднадумцам; у дзіцячым садку, дзе па начах вартаваў нехта з маіх сяброў. Распрацоўвалі планы дзейнасці і ставілі перад сабой цалкам палітычныя мэты. Нагадаю, што ішоў толькі 1986 год. Калі б пра ўсё даведаліся адпаведныя органы, для нас гэта дабром не скончылася б...

Зноў пашанцавала. Пачалася перабудова, і з'явіліся значна большыя магчымасці для працы. Тое, за што на пачатку васьмідзясятых жорстка пераследавалі, у другой палове дзесяцігоддзя стала амаль законным. Зразумела, пры пэўных канспіратыўных момантах, бо сама сістэма заставалася такой, якой была і раней.

Наша дзейнасць падзялілася на дзве часткі.

Падпольная. Не больш за тузін аднадумцаў вызначалі стратэгічныя напрамкі дзейнасці і шукалі найбольш эфектыўныя шляхі дасягнення нашай мэты. Друкаваліся яны ў часопісе «Бурачок», за распаўсюд якога міліцыянты ўпершыню арыштавалі брата Віктара Івашкевіча — Яўгена.

Легальная. Размовы пра работу так званых «нефармальных» арганізацый, якія аб'ядноўвалі моладзь па інтарэсах. Адну з іх мы прыдумалі і стварылі разам з Анатолем Сысам — таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя».

Сітуацыя сярод пішучай моладзі таксама была досыць крытычнай. Творцы ўжо хацелі пісаць так, як хацелі. Каноны сацыялістычнага рэалізму не толькі не спрацоўвалі, ад іх ужо блажыла. Хацелася чагосьці іншага, больш праўдзівага.



Калі на першае наша пасяджэнне ў інтэрнат да Анатоля Сыса (вуліца Акадэмічная) сабралася дзевяць чалавек, то літаральна праз два месяцы на гэтыя сходы прыходзіла ўжо па некалькі дзясяткаў маладзёнаў. Сёння гэта «хрыбет» сучаснай беларускай літаратуры.

Такім чынам, маё жыццё складалася нібыта з дзвюх палавінак — літаратурныя даследаванні і грамадская дзейнасць (мяне абралі прэзідэнтам «Тутэйшых»). І першае цалкам залежала ад другога. Ламалася эпоха: валіліся былыя аўтарытэты, друкаваліся неабгрунтавана забытыя пісьменнікі, людзі пачыналі размаўляць на забароненыя тэмы...

Словам, грамадства вельмі значна ўскалыхнула. І адпаведны водгук ператвараўся ў пэўны супраціў. На працягу некалькі гадоў адбывалася балансаванне паміж дазволеным і недазволеным. Урэшце людзі перасталі баяцца.

У 1987 годзе адбыліся сплаў па Дзвіне супраць будаўніцтва там гідраэлектрастанцыі, першыя «Дзяды», першы паход на Курапаты (прайшоў адразу пасля друкавання «ЛІМам» артыкула Зянона Пазьняка), а таксама мітынг у абарону Верхняга горада.

Некаторыя памылкова лічаць, што першыя «Дзяды» прайшлі ў 1988 годзе, калі ў Мінску запахла міліцэйскай «чаромхай». На самой справе гэта не так. Яны былі праведзены на год раней каля помніка Янку Купалу. Па сутнасці, там адбыўся мітынг-рэквіем. Адпаведная «заяўка» была пададзена своечасова, аднак ніякай рэакцыі на яе не было, таму тыя 300 чалавек, што прыйшлі, не ведалі, чым усё скончыцца. Дзякуй Богу, «хапун» не меў месца. Кіраўніцтва краіны банальна разгубілася, бо за 60 гадоў савецкай улады ніякіх «непадкантрольных» мітынгаў не было.

І, вядома, «Дзяды» каля Маскоўскіх могілак, якія праводзілі «Тутэйшыя» ды іншыя грамадскія аб'яднанні. Заяўку ў Мінгарвыканкам падавалі я і Анатоль Сыс. Да нас далучылася гарадское Таварыства аховы помнікаў і культуры, якое тады ўзначальваў мастак Васіль Шаранговіч, але яно потым «адпала», бо ўлады афіцыйна забаранілі правядзенне гэтага свята ў «сувязі з 60-годдзем камсамола».

Мы вырашылі правесці акцыю, хоць улады неаднаразова заклікалі не хадзіць на яе, нават спрабавалі запалохаць. Гэта вызвала супрацьлеглую рэакцыю. На наша здзіўленне, на «Дзяды-88» прыйшлі тысячы людзей.

Улады рыхтаваліся да разгону і недапушчэння акцыі. Ужо пазней да мяне ў рукі трапіў дакумент з рэгламентацыяй аб тым, што яны збіраліся рабіць: адна група нейтралізуе лідараў, другая захоплівае сродкі агучвання і г.д. Па гэтым сцэнары яны і дзейнічалі.

Мяне арыштавалі адразу. Трэба сказаць, што рэзананс ад акцыі для іх быў вельмі нечаканым. Грамадства абурылася, народ пачаў думаць над тым, што адбываецца вакол і што трэба рабіць. Месяц да таго быў створаны арганізацыйны камітэт Беларускага народнага фронту, што дало новаму руху тысячы прыхільнікаў. У Беларусі пачаліся імклівыя дэмакратычныя змены. Ніхто не мог такое прадбачыць. Юнацкая мара пра незалежнасць краіны стала рэальнасцю.

Дарэчы, у 1988 годзе я атрымаў першы ў сваім жыцці штраф — 200 савецкіх рублёў. Гэтыя грошы сабралі калегі па Інстытуце літаратуры АН. Мабыць, тады ў ва мне і пачаў нараджацца будучы праваабаронца.

## Новыя колеры

Аспірантуру я скончыў вясной 1989 года, але кандыдацкую дысертацыю не абараніў, бо ўжо пачаліся такія часы, што было не да абароны. Дысертацыя тычылася публіцыстычнай беларускай паэзіі пачатку XX стагоддзя, вершаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна, якія прарочылі змену сітуацыі і заклікалі народ да абуджэння. У нейкай ступені нашы часы былі падобныя, таму мне гэта было асабліва цікава. На базе дысертацыі ў 1991 годзе я выпусціў кніжку «Літаратура і нацыя» і вырашыў, што гэтага дастаткова.

Браць на працу мяне не вельмі хацелі. Спрабаваў уладкавацца ў Магілёўскі або Віцебскі педінстытуты. Дарэмна. У Акадэмію навук мяне браць таксама не хацелі, бо за часы вучобы двойчы фармальна выганялі з аспірантуры за дзейнасць, пра якую гаварылася вышэй. Кожны раз «абыходзілася». Дырэктар Інстытута літаратуры Віктар Каваленка быў добрым чалавекам і заўсёды мяне бараніў. Афіцыйна яны сказалі партыйным уладам «о'кей» і правялі сход у інстытуце, на якім віцэ-прэзідэнт акадэміі Іван Навуменка крычаў: «Як такое можа быць, што адзін аспірант двум акадэмікам і шасці дактарам у шапку насраў?!» Прынялі адпаведную пастанову аб выключэнні. Аднак, калі праз два дні я прыйшоў забіраць дакументы, Каваленка сказаў: «Вучыцеся, Алесь, вучыцеся». Парадоксы тых часоў...



Нікуды не хацелі браць, па размеркаванні заставаўся толькі Гомель, адкуль я і прыехаў. Але з'явілася магчымасць «зачапіцца» за Мінск, дакладней, за Музей гісторыі беларускай літаратуры, які толькі-толькі пачынаў працаваць. Там патрабаваліся новыя даследчыкі, і пры дапамозе свядомых дзяўчат, якія працавалі ў музеі (перш за ўсё «талакоўкі» Ірыны Марачкінай), мяне ўзялі.

Па Саюзе ішла «хваля» (з самага верху) выбараў кіраўнікоў розных прадпрыемстваў і ўстаноў. Неўзабаве такі конкурс абвясцілі і ў суседнім музеі Максіма Багдановіча. Я працаваў малодшым навуковым супрацоўнікам і вырашыў узяць у ім удзел.

Было чатыры кандыдаты, але ўсе галасы атрымаў я — так вырашыў калектыў. Трэба адзначыць, што ў Міністэрстве культуры гэта выклікала, мякка кажучы, непаразуменне. Там добра ведалі маю біяграфію. Месяц зацвярджэння не было, а потым тагачасны міністр Яўген Вайтовіч махнуў рукой — прызначайце.

У прафесійным плане перада мной паўсталі новыя задачы, таму што музея як звычайнай экспазіцыі яшчэ не існавала. А быў будынак, складзеныя ў фондах экспанаты, экспазіцыйны план, цудоўныя дзяўчаты, сярод якіх асабліва хацеў бы адзначыць разумнічку Веру Мікуту. Не магу не сказаць і пра выдатнага мастака, стваральніка мастацкага вобраза музея Эдуарда Агуновіча. У 1991 годзе меркавалі шырока святкаваць стогоддзе Максіма Багдановіча, і да гэтай даты планавалася адкрыць музей у Траецкім прадмесці.

Пачалася літаральна «шалёная» праца. Шмат у чым яна была звязана з мастакамі, экспазіцыйным бачаннем сітуацыі (чаго не было раней), экспанатамі, навуковай працай і «асаблівасцямі» тагачаснага Савецкага Саюза. У краіне панаваў татальны дэфіцыт. Даваліся грошы, за якія было немагчыма купіць што-небудзь. Вялікага кантролю з боку Міністэрства культуры не назіралася, але была вялізная ўнутраная адказнасць. Мы павінны былі стварыць гэты музей у тэрмін. Дзякуй Богу, усё атрымалася. Праз пару гадоў пасля адкрыцця экспазіцыя музея атрымала Дзяржаўную прэмію Беларусі.

Цікавы момант. У 1990 годзе мяне абралі дэпутатам сталічнага гарсавета, і, калі праз год там разглядалася пытанне нацыянальнай сімволікі, я загадзя прынёс бел-чырвона-белы сцяг, які перад гэтым упрыгожваў фае музея. Пасля ўхвалы гарсаветам новай нацыянальнай сімволікі гэты сцяг праз некалькі хвілін першым у кра-

іне залунаў над будынкам Мінгарвыканкама, а праз два тыдні ён стаў дзяржаўным.

Пакуль працаваў у музеі, за дырэктарства асабліва не трымаўся. Разглядаў музей як нацыянальную пляцоўку, а не як сховішча мёртвых рэчаў, таму больш за год там месцілася дубаўцоўская «Наша Ніва», нейкі час тулілася герменчукоўская «Свабода», праводзіліся сходы Управы і Сойму БНФ, святкаваліся ўніяцкія каляды, збіралася Беларуская каталіцкая грамада, былі зарэгістраваны дзясяткі няўрадавых арганізацый. Адным словам, музей быў напоўнены сучасным беларускім жыццём.

Дырэктарам адпрацаваў да 1998 года і звольніўся па асабістым жаданні. За час майго кіраўніцтва музей адкрыў яшчэ тры экспазіцыі ў розных будынках (адну нават у Яраслаўлі), праводзіў значную навуковую работу, у ім ладзіліся шматлікія літаратурныя імпрэзы. Як мне падаецца, музей у тыя часы быў адным з лепшых у краіне.

### Гуканне вясны

Калі вясной 1996 года стала канчаткова зразумела, куды павядуць краіну новыя ўлады і што новую хвалю нацыянальнага адраджэння чакаюць нялёгкія часы, мы вырашылі стварыць грамадскую праваабарончую арганізацыю, якую так і назвалі — «Вясна-96». Галоўная мэта — салідарная падтрымка першых палітычных зняволеных. А яшчэ арганізацыя стваралася дзеля таго, каб аказваць юрыдычную дапамогу ахвярам палітычных рэпрэсій, збіраць і распаўсюджваць праваабарончую інфармацыю, праводзіць адукацыйную праваабарончую работу.

Дапамога была рознай, у тым ліку і матэрыяльнай. «Першы блін» у гэтым сэнсе атрымаўся даволі незвычайным. Адзін з дабрачынцаў прывёз паўтоны ўсялякай ежы — макарону, цукар, розныя крупы і г.д. «Сартаваннем» па пакетах, якія затым раздаваліся пацярпелым, займаліся ўсе нашы валанцёры.

Два першыя гады я працаваў у «Вясне» паралельна з працай у музеі, а потым быў вымушаны сысці адтуль — мае «літаратуразнаўчая» і «музейная» біяграфіі аб'ядналіся ў адну праваабарончую.

Шчыра кажучы, калі стваралі гэтую арганізацыю, я не думаў, што яна праіснуе так доўга. Лічыў, што праз 2-3 гады (максімум 5) патрэба ў ёй увогуле знікне і мы вернемся да звычайнай работы — музейнай, літаратурнай, навуковай, палітычнай. На жаль, памыліўся.



Сярод таго, чым мы зараз займаемся, асабліва хачу вылучыць назіранне за выбарамі — вось без чаго па азначэнні немагчымы якія-небудзь змены. У нашай сітуацыі гэта вельмі важна, там тое, дзякуючы чаму людзі, якія прыйшлі ў 1994 годзе, так доўга застаюцца пры ўладзе. Калі б у нашай краіне ўсё адбылося празрыста і дэмакратычна, улада ўжо змянілася б, і не адзін раз.

Партнёрамі «Вясны» сёння з'яўляюцца больш за тузін міжнародных і замежных арганізацый, а сам праваабарончы цэнтр прыняты сябрам у дзве міжнародныя структуры, у тым ліку і ў вядомую Міжнародную федэрацыю правоў чалавека (FIDH) са штаб-кватэрай у Парыжы, якая аб'ядноўвае больш за 170 праваабарончых арганізацый з усяго свету. На кангрэсе ў Лісабоне ў 2007 годзе мяне абралі віцэ-прэзідэнтам FIDH.

Нарвежскія парламентарыі двойчы вылучалі мяне на атрыманне Нобелеўскай прэміі міру. І галоўнай у гэтым была не асоба, мэта іншая — прыцягнуць увагу міжнароднай супольнасці да сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі.

А неабходнасць у гэтым, на жаль, ёсць. Не буду пералічваць усё, што адбываецца падчас так званай «лібералізацыі па-беларуску». Адзначу толькі, што ў «Вясну» штогод па розных прычынах звяртаюцца па дапамогу некалькі тысяч беларусаў. А гэта сведчыць пра многае...

У 1998 годзе праваабарончы цэнтр «Вясна-96» быў зарэгістраваны, праз 2 гады, са з'яўленнем філіялаў, ён стаў арганізацыяй рэспубліканскага маштабу. Сёння сябрамі названай структуры з'яўляюцца некалькі соцень валанцёраў. У 2003 рэгістрацыю скасавалі і не аднавілі па гэты дзень, ні пад старой, ні пад новай («Наша вясна») назвай.

Фактычна мы вярнуліся да таго, з чаго я пачынаў у сваёй маладосці, але ўжо на іншым узроўні, з мільёнамі прыхільнікаў дэмакратыі і правоў чалавека ў краіне. Наперадзе яшчэ вялікая праца, і, як і раней, жніва шмат, а сейбітаў мала.

# РАДЗІМ ГАРЭЦКІ



**Падрыхтавана да друку 8.04.2010**

*Спачатку я ўбачыў кнігу «Браты Гарэцкія» ў музеі сумна вядомай Катыні, дзе НКУС знішчыў, акрамя польскіх афіцэраў, тысячы суайчыннікаў. А падчас нашай размовы гэтую кнігу падарыў мне сам аўтар — акадэмік Радзім Гарэцкі. Выкарыстоўваючы нагоду, яшчэ раз дзякую, а да фразы «пра адраджэнцаў мінулага стагоддзя» я бы дадаў «і гэтага», бо, расказваючы пра іх, Радзім Гаўрылавіч распавядае і пра свой лёс.*

## Успаміны пра пачатак

Я нарадзіўся 7 снежня 1928 года ў Мінску, так што мне цяпер ужо амаль 82 гады. Мой бацька вельмі любіў Беларусь і добра ведаў яе гісторыю. Свайго старэйшага сына ён назваў Усяславам у гонар Усяслава Чарадзея, а мяне — Радзімам, бо так звалі заснавальніка племені радзімічаў. (Ёсць такая легенда, што Вячка і Радзім спусціліся з Карпацкіх гор, Радзім застаўся на Сожы і ўтварыў племя з адпаведнай назвай.) Я больш нікога не ведаю з такім імем.

У мяне былі выдатныя бацькі. Як кажуць, іх і Радзіму не выбіраюць. Мне пашанцавала і з Радзімай. Бацьку звалі Гаўрыла Іванавіч, маці — Ларыса Восіпаўна. Яны пазнаёміліся ў Маскве, дзе вучыліся ў Ціміразеўскай сельскагаспадарчай акадэміі, якая тады называлася Пятроўскай: бацька — на эканамічным факультэце, маці — на агранамічным. Маці родам з Беластока, а бацька — з вёскі Малая Багацькаўка Мсціслаўскага павета Магілёўскай губерні.

Бацькі майго таты былі непісьменнымі, але баба — сапраўдная народная спявачка і казачніца. Яна ведала процьму беларускіх песень, казак, і гэтая крыштальная народная паэзія так паўплывала



на яе сыноў, што Максім і Гаўрыла палюбілі ўсё роднае — мову, песні, зямлю. Таму і сталі аднымі з самых адданых адраджэнцаў пачатку мінулага стагоддзя і пранеслі сваю любоў да Бацькаўшчыны праз усё жыццё. Стараліся, каб яна была багатай, шчаслівай, вольнай.

У 1919 годзе мой бацька закончыў Горацкае каморніцка-агранамічнае вучылішча, якое зараз стала акадэміяй, і паехаў вучыцца ў Маскву. Там адразу пачаў садзейнічаць стварэнню кола сапраўднай інтэлігенцыі, якая будзе будаваць новую Беларусь. Арганізаваў так званую Беларускую культурна-навуковую асацыяцыю студэнтаў акадэміі. Яго абралі старшынёй. У хуткім часе яна аб'ядноўвала ўжо больш двухсот чалавек. З самага пачатку там была і мая маці. Так бацькі і пазнаёміліся. Такога моцнага кахання, як у іх, я ні ў каго не бачыў.

У першы год дзейнасці названай асацыяцыі на яе сходы завіталі і А.Чарвякоў, і прадстаўнік БССР у Расіі М.Мароз. Словам, усё там ладзілася на дзяржаўным узроўні.

Майму тату і шанцавала, і не шанцавала адначасова. Арыштоўвалі яго аж пяць разоў, аднак выжыў. Як кажуць, нарадзіўся ў сарочцы.

Першы арышт быў кароткім — усяго чатыры дні за кратамі, а другі ўжо стаў вельмі сур'ёзным. Бацька настолькі вызначыўся як нацыянальны дзеяч, што трапіў пад прыцэл самога ДПУ. У дваццаць другім годзе Ленін вырашыў выкінуць вон з Расіі ўсю вальнадумную інтэлігенцыю. Менавіта тады ён прамовіў сумна вядомыя словы пра «гаўно» і хацеў ачысціць Расію ад гэтых «гадаў». Акрамя «парахода інтэлігенцыі» было шмат іншых спосабаў.

Пад кампанію падпалі нават некаторыя студэнты. «Сядзеў» бацька на сумна вядомай Лубянцы. Якраз у той год у Маскву прыехала вучыцца яго адзіная сястра Ганна. Яна была вельмі здольнай дзяўчынай, без праблем паступіла ў заатэхнічны інстытут. А тут — арышт. Ганна павезла перадачу і трапіла пад трамвай (штурхнулі пры выхадзе). Аказалася ў шпіталі са смяротнымі траўмамі.

Бацька напісаў заяву ў ДПУ, дзе папрасіў дазволу пабачыць сястру. Адпусцілі. Пабачыліся. Яна амаль адразу памерла. Для бацькі гэта стала трагедыяй усяго жыцця. У смерці Ганны ён лічыў вінаватым сябе, бо перадачу яна несла менавіта яму. Маўляў, не існавала б такой «нагоды», усё было бы добра.

Сумную дату ён узгадваў кожны год...

Адзін з кіраўнікоў ДПУ В.Мянжынскі размаўляў з маім бацькам больш за гадзіну. Выслухаў яго аповед і ў рэшце рэшт сказаў: «Добра. Мы пакідаем вас у Расіі, але ніколі не займайцеся палітыкай. Толькі навукай». Майго бацьку хацелі адправіць у Германію.

## Чарговыя выпрабаванні

У Гаўрылы Гарэцкага быццам бы было два жыцця: спачатку эканаміст, потым — геолаг. Пасля вучобы бацька стаў дацэнтам і загадчыкам кафедры эканамічнай геаграфіі ў Горках, потым яму даручылі стварыць новы Беларускі навукова-даследчы інстытут сельскай і лясной гаспадаркі імя У.І.Леніна. Ішоў 1927 год. Выканаў загад выдатна. Знакаміты біёлаг Мікалай Іванавіч Вавілаў, калі прыязджаў у Мінск, быў настолькі здзіўлены ўбачаным, што сказаў: «Па гэтым тыпе мы створым інстытуты ў іншых рэспубліках».

Неўзабаве бацька стаў кандыдатам Цэнтральнага выканаўчага камітэта БССР, а потым — і членам гэтага ЦВК. Шмат працаваў у галіне эканомікі сельскай гаспадаркі нашай краіны. Выдаў грунтоўныя манаграфіі «Народны прыбытак Беларусі», «Межы Заходняй Беларусі ў Польшчы». Два разы ездзіў у камандзіроўкі за мяжу, што потым і вылезла яму «бокам».

І Гаўрыла, і Максім былі членамі Інстытута беларускай культуры (Інбелкульта), на базе якога ў 1928 годзе заснавалі Беларускую акадэмію навук. Бацьку абралі яе правадзейным членам, і ён, такім чынам, стаў адным з заснавальнікаў і першых чальцоў акадэміі. А тут якраз я нарадзіўся, так што мы з акадэміяй з'яўляемся «аднагодкамі».

1 студзеня 1929 года адбылося ўрачыстае адкрыццё Беларускай акадэміі навук. Тата сядзеў паміж Якубам Коласам і Янкам Купалам, з якімі сябраваў. Яму было ўсяго 28 гадоў. Да гэтага часу ён застаецца самым маладым акадэмікам нашай краіны.

Надышоў 1930 год, калі пачалі выяўляць так званых нацдэмаў. Абодвух братоў Гарэцкіх забралі ў турму. Бацьку арыштавалі з шэрагам акадэмікаў — В.Ластоўскім, Я.Лёсікам, А.Дубахам і інш. Усіх пасадзілі ў сумна вядомую ўнутраную турму КДБ, якую называюць «амерыканкай». Тут ім папала, як кажуць, па поўнай. Былі ў тым ліку і «парылкі» — так называлі цёмнае вузкае памяшканне без вокнаў і дзвярэй, дзе амаль не было паветра. Там можна было толькі стаяць. Тата трапіў ў «амерыканку» з нейкім вар'ятам. Той крычаў: «Я шпіён. Я шпіён...». Словам, моцны маральна-псіхалагічны ціск.



Максіму далі пяць гадоў і адправілі ў ссылку ў Вятку (пазней Кіраў). Бацьку прыгаварылі да вышэйшай меры пакарання. Ён прахо-дзіў па справе так званай Працоўнай сялянскай партыі (ПСП), таму што быў лепшым вучнем выдатных сельскагаспадарчых эканамістаў «Ціміразеўкі» — А.Чаянава, М.Кандрацьева і інш. Яны стварылі арганізацыйна-вытворчую школу, якая распрацавала перспектыву развіцця аграрных гаспадарак, што пазней укаранілі нават у замежных краінах, у Англіі выдалі шматтомнік Чаянава. Не менш вядомы быў і Кандрацьеў: ён распрацаваў перспектыўны план развіцця народнай гаспадаркі краіны, які так і называлі — «пяцігодка Кандрацьева».

На самай справе ПСП не існавала, як і Саюза вызвалення Беларусі. Гэта ўсё кэдэбэшныя прыдумкі.

Разам з бацькам арыштавалі і тагачаснага кіраўніка секцыі Дзяржплана Р.Бонч-Асмалоўскага і інш. Быццам бы існаваў беларускі філіял ПСП, а ён і Гаўрыла Гарэцкі кіравалі ім.

Але ішоў толькі 1930 год, і яшчэ можна было чагосьці дабіцца. Не ведаю, было гэта ці не, але расказваюць, што кіраўнікі БССР А.Чарвякоў і М.Галадзед паехалі з «расстрэльным» спісам да Сталіна. Быццам бы Сталін дайшоў да прозвішча майго бацькі і спытаўся, колькі яму гадоў. І пачуў столькі добрых слоў, што дазволіў «нэмножко пожить». Замест расстрэлу майму тату далі 10 гадоў лагераў і саслалі на Салаўкі.

## Сям'я «ворага народу»

Канешне, пасля гэтага маю маці звольнілі і нідзе не бралі на работу. Стала вельмі цяжка. Многія перасталі нават вітацца з мамай. Не адвярнуліся сем'і Купалы і Коласа. Яны не сталі рабіць выгляд, што з намі больш не знаёмыя. Нават дапамагалі маёй маці.

На Салаўках бацьку зноў пашанцавала: ён не толькі махаў кайлом, а як чалавек з вышэйшай адукацыяй быў задзейнічаны ў інжынерна-геалагічных вышуканнях, звязаных з будаўніцтвам Беламорска-Балтыйскага канала. Там ён стаў геолагам-самавучкам.

А праз некаторы час да таты прыехалі і мы. Так што маё дзяцінства прайшло на Беламорканале. У Карэліі ёсць такі Медзвежагорск, які вырас з пасёлка Мядзведжая Гара, — мы там жылі. Потым пераехалі пад Мурманск у пасёлак Кола, затым — у Мурмашы, дзе зараз месціцца аэрапорт. Там я пайшоў у першы клас.

У маім жыцці гэта былі самыя «рыбалоўныя» часы. Вада ў Кольскім заліве была неверагодна чыстая. Калі пачынаўся адліў, мы бегалі туды і даставалі з пяску камбалу, якая хавалася там. А ў рэчцы было шмат сёмгі.

Добра памятаю сопку Салаварака. На ёй было столькі ягад! Марошка, журавіны, дурніцы. І процьма камароў і мошак...

У 1934-м за добрую працу бацьку датэрмінова вызвалілі, аднак катэгарычна параілі працаваць тут.

У 1937 годзе яго арыштавалі зноў, як і Максіма, які вызваліўся ў 1934-м і жыў у Смаленскай вобласці. Абодвух забралі ў кастрычніку.

З бацькам «узялі» яшчэ амаль дзве тысячы чалавек, і яго як «злоснага злачынца» (быццам бы завербаваў шпіёнамі Чарвякова і Галадзеда) накіравалі ў Маскву. Пакуль там «разбіраліся», усіх «мясцовых» (каля 10 тысяч) расстралялі. Іхнія Курапаты называюцца «ўрочышча Сандармох». Там ляжыць тысяч дзвесце людзей.

А бацьку зноў пашанцавала. Якраз адзін наркам НКУС мяняў іншага (Яжоў Ягоду), што азначала пэўныя палёгкі. У самым канцы 1937 года нечакана выпусцілі.

Калі тата «сядзеў», з намі, зразумела, не жыў. А маці, каб нас пракарміць, дзень і ноч працавала. Мы з братам боўталіся, як беспрытульнікі. Выхоўваліся сярод зняволеных, а там былі і сапраўдныя злачынцы. Яны вельмі хутка навучылі нас курыць і брыдкасловіць. Брат аднойчы нават напіўся. Словам, нашай маці прыходзілася вельмі цяжка...

### Цяжкае вяртанне

У траўні 1938 года па бацьку зноў прыехаў «чорны воран». Гэта быў самы цяжкі арышт. Доўжыўся ён больш за год. Пастаянныя здзекі, пабоі, голад, бясконцыя самагубствы. Маці пасылала нас з братам паглядзець — жывы тата ці не. Каля турмы (калі павядуць вязняў) чакалі гадзінамі.

Аднойчы не вытрымаў і ён. Папрасіў маці прынесці вострае лязо, бо больш не можа трываць, да і чакае толькі расстрэлу. Сапраўды, ад голаду ў яго апухлі ногі. Чаравікі не налазілі. Каб яны не звальваліся, бацька прывязваў іх вяроўкамі. Худы, зарослы шчаціннем. Жудасна! Добра, што ўсё ж перамагло жыццялюбства...

Зноў прыгаварылі да вышэйшай меры, але зноў змяніўся наркам НКУС (Яжоў на Берыю), і зноў выпусцілі. Работу з цяжкасцю знайшоў толькі на Урале ў пасёлку Часавы, куды мы і пераехалі.



У вайну бацька працаваў на розных абарончых работах пад Масквой, яго ўзнагародзілі некалькімі медалямі, у тым ліку «За абарону Масквы». А мы з маці часова былі эвакуіраваны ва ўдмурцкае сяло Вавож. Я скончыў сем класаў, калі сям'я аб'ядналася зноў.

Бацька быў галоўным геолагам на многіх гідратэхнічных збудаваннях: Ніжнекамская, Цымлянская, Кіеўская ГЭС, розныя водныя каналы і г.д. Пераязджалі даволі часта. За гады вучобы я змяніў больш за 10 школ.

Напрыканцы вайны мой брат трапіў на Маскоўскі аўтамабільны завод імя Сталіна (потым імя Ліхачова), дзе працаваў майстрам. Як і тата, я хацеў быць геолагам, таму прыехаў паступаць у нафтавы тэхнікум, але там не аказалася інтэрната, і нам з братам прыйшлося жыць разам у вельмі цяжкіх умовах у падвале. Нават спалі на адным ложку. А тут яшчэ высветлілася, што ў тэхнікуме няма геолагаразведачнага аддзялення, давялося пайсці на КВП (кантрольна-вымяральныя прыборы).

Я скончыў першы курс і аддаў дакументы ў сярэднюю школу пасёлка Чкалаўск на Волзе, куды пераехалі бацькі для ўдзелу ў інжынерна-вышукальных даследаваннях пад будоўлю Горкаўскай ГЭС. Закончыў 10 клас і паступіў у Маскоўскі нафтавы інстытут.

У Маскве мы з братам і сустрэлі дзень Перамогі. Лепшага салюту я ў сваім жыцці не бачыў. Гэта было сапраўднае народнае свята! Гулялі па горадзе ўсю ноч.

Мне пашчасціла не толькі з бацькамі, але і з навуковым настаўнікам. Падчас дыпломнай практыкі ў Казахстане я пазнаёміўся з выдатным спецыялістам — геолагам Аляксандрам Яншыным (тады ён быў яшчэ кандыдатам навук). Ён узяў мяне на працу ў Геалагічны інстытут Акадэміі навук. Потым стаў доктарам, віцэ-прэзідэнтам АН СССР. Гэта мой Настаўнік з вялікай літары. Я нават напісаў пра яго кнігу — «Академик Яншын — дорогой мой учитель и друг». Найвыдатнейшы быў чалавек і вучоны.

Майго тату рэабілітавалі амаль адразу пасля смерці Сталіна, але ў Беларусь яму дазволілі вярнуцца толькі ў 1969 годзе. Ён стаў загадчыкам сектара палеагеаграфіі антрапагенавага перыяду Лабараторыі геахімічных праблем АН БССР. Амаль праз два гады, у снежні 1971 года, сюды прыехаў і я, ужо ў Інстытут геахіміі і геафізікі.

Неўзабаве мяне абралі членам-карэспандэнтам Акадэміі навук БССР, потым акадэмікам, а пазней — замежным членам Расійскай

акадэміі навук. Мяне прызначылі загадчыкам лабараторыі геатэктонікі, а ў 1977 годзе — дырэктарам. На гэтай пасадзе я прабыў шаснаццаць з палавой гадоў. З 1992 па 1997 год быў віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук БССР, а зараз — галоўны навуковы супрацоўнік.

Балюча ад таго, што сёння там пануе чыноўніцкае самавольства. Інстытут, які некалі быў лепшым у Беларусі, ліквідавалі і перадалі Міністэрству прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Палічылі, што самае галоўнае — вузкапрыкладная навука, а не фундаментальная. Вялікая памылка. Без ведання геалагічнай гісторыі нашай зямлі, якой тры з паловай мільёна гадоў, знайсці нейкія новыя карысныя выкапні будзе даволі цяжка. На жаль, чыноўнікі ад навукі думаюць інакш. Зламаць заўсёды значна прасцей, чым нешта пабудаваць...

Дарэчы, калі я быў дырэктарам, бацька стаў маім падначаленым. Апошнія дваццаць год яго жыцця былі самымі шчаслівымі і радаснымі. Ён напісаў шмат манаграфій, атрымаў дзяржаўныя прэміі СССР і БССР, стаў заслужаным дзеячам навукі.

## Беларускія гены

На жаль, у 1988 годзе тата сышоў з жыцця, так і не даведаўшыся, як памёр яго брат. Афіцыйная версія — «кровазліццё ў мозг». Хлусня. У 1990-м я трапіў у архівы КДБ, прагледзеў справы і высветліў, што Максім Гарэцкі быў расстраляны ў 1938 годзе ў Вязьме...

Я займаюся не толькі навуковымі справамі, але і грамадска-палітычнымі. Правільней было б сказаць «грамадскімі», але сёння да палітыкі адносіцца амаль усё, нават мова. Калі ты гаворыш па-беларуску, значыць, апазіцыянер, бэнээфавец альбо яшчэ які-небудзь «ненармальны» беларус, а «нармальны» павінен, з пункта погляду чыноўнікаў і іх самага галоўнага начальніка, гаварыць па-руску. Вось вам і «палітыка».

У 1990 годзе было заснавана Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». У аргкамітэце быў і я, а першым прэзідэнтам тады абралі Васіля Быкава.

У 1993 годзе мы правялі першы з'езд беларусаў свету. Прыехалі амаль тысяча ўдзельнікаў, быў арганізаваны выдатны форум. Нават выдалі адпаведную кнігу. На гэтым з'ездзе мяне, па прапанове Быкава, абралі прэзідэнтам. Адпрацаваў на згаданай пасадзе два тэрміны запар, а потым, нягледзячы на тое, што хацелі пакінуць, сказаў: «Хопіць».



Зараз я таксама не цураюся розных імпрэзаў, сябрую з пісьменнікамі, мастакамі, навукоўцамі, палітыкамі, уваходжу ў рады Фонду беларускай культуры, Таварыства беларускай мовы і беларускай інтэлігенцыі. Хоць у нейкім сэнсе мяне можна лічыць троху расіянінам, я цудоўна адчуваю сябе ў беларускім асяроддзі і стараюся быць там, дзе размаўляюць па-беларуску, праўда, на жаль, у нашай сучаснасці гэта не так проста ажыццявіць.

# МЕЧИСЛАВ ГРИБ



**Подготовлено к печати 19.09. 2005**

*Стать спикером Верховного Совета 12-го созыва Мечислав Гриб поначалу отказался. Уломали.*

*Он вообще в жизни не очень стремился к регалиям. Больше заботился о деле. Такой характер.*

## Детство генерала

Родился 25 сентября 1938 года в деревне Савичи Дятловского района Гродненской области. Тогда эта территория находилась «под Польшей», так что, если бы сейчас решался вопрос моего польского гражданства, я бы имел определённые преимущества: ровно год был гражданином Польши.

Мои родители крестьяне. Наша деревня была пригородной. Сейчас она слилась с Дятлово, но жители не хотят терять статус деревенских хотя бы потому, что имеют право владеть гектаром земли, а горожане — не больше чем десятью сотками. У нас в деревне не было помещиков. Отсутствовала школа, постоянный магазин, даже не было своей бани. Все вопросы мы решали в городе Дятлово.

В семье мамы было трое детей, но она очень скоро осталась одна: её сёстры умерли. В семье отца было шестеро детей. В таких крестьянских семьях всегда остро стоял вопрос, кому и сколько отдать. Обычно главным наследником считался старший ребёнок, который оставался «на хозяйстве». Остальные дети разъезжались, либо им «сплачивалась» их доля. В итоге все оставались бедными.

Отец считался грамотным человеком. Он окончил семь классов школы и поступил в училище в Вильно, где освоил профессию столяра-краснодеревщика. По вероисповеданию отец был православ-



ным, мама — из католической семьи. Тогда нельзя было вступать в брак, если молодые принадлежали к разным конфессиям. Обычно другую веру принимал тот, кто приходил в чужой дом. Так мой отец стал католиком, поскольку он пришёл к матери в примы. По словам матери, ему понравилась новая вера. Он был истинно верующим человеком, исправно молился, посещал все воскресные службы. А ещё отец хорошо играл на скрипке и руководил городским духовым оркестром в Дятлово.

Мама умерла в 2003, на девяносто первом году жизни. Она жила с сестрой в Новогрудке. Я любил её расспрашивать обо всём и слушать её рассказы, так как то, что писалось в наших книжках, часто не соответствовало действительности.

В 1939, если верить официальной пропаганде, нас освободили. Колхозов в нашей местности массово создавать не стали. Люди работали на своих участках и платили очень большие налоги.

Мама говорила, что «при Польше» тоже было трудно и приходилось много работать, но при «первых советах» стало ещё труднее, ибо налогами облагалось буквально всё. «Вторые советы» пришли после войны.

Мой отец не любил коммунистов и не верил им. Сложно сказать, чем бы всё это закончилось, но началась война. Из нашей деревни никого не успели призвать. Воевали только те, кто на тот момент был в армии. Мужчины днём работали, а по ночам прятались от партизан. Так и жили: днём немцы — ночью партизаны. Приходилось содержать и тех, и других, так как за малейшее сопротивление убивали.

В нашей деревне не было немецкого гарнизона. Он стоял в Дятлово. В деревне был только один полицейский. Его семья жила в городе, а к нам он приезжал наводить порядок. Однажды устроил засаду и убил несколько партизан, а также тяжело ранил крестьянина из соседней деревни, на чьей телеге они и приехали. Человек пострадал абсолютно безвинно. Его ранило в живот, он кричал, но никто не помог, так как люди боялись выходить из дома. К утру он умер. Полицейский погрузил тела на телегу и повёз в комендатуру в Дятлово. Через несколько дней партизаны выследили его и расстреляли.

С этим полицейским связана одна история, имеющая отношение к нашей семье. Братья и сёстры моей бабушки были очень красивыми. Один из братьев вернулся из Одессы, куда ездил на заработки, и начал свататься к девушке. Оказалось, перешёл дорогу

какому-то местному, и тот подговорил своего знакомого (будущего полицейского), чтобы тот разобрался. Он ударил брата моей бабушки ножом в живот, и тот умер. За убийство дали несколько лет. Он отсидел и вернулся в деревню. Младший брат убитого решил отомстить, купил пистолет и выстрелил. Попал в грудь. Раненого отвезли в больницу, он выжил, а «мстителя» отправили в тюрьму.

Во время войны бывало разное. Вначале к нам приходили местные евреи, которые прятались в лесах, чтобы не попасть в гетто и концентрационные лагеря. Они хотели есть и не нахальничали, люди сами давали им еду — картошку, сало. Вскоре начали приходить партизаны. А потом появились партизаны с детьми. Они забирали всё подчистую. Был случай, когда такой «партизан» пришёл с ребёнком, вытряс всё, а мальчик и говорит ему: «Папа, мама говорила, чтобы ты нитки посмотрел». Поэтому моё отношение к подобным «борцам», мягко говоря, неположительное.

В какое-то время в деревне стало невозможно держать скотину: всё забирали. Однако крестьянам нужно было как-то кормить свои семьи, поэтому они покупали поросят и держали у своих знакомых в Дятлово. Так поступили и мы. Про нас кто-то «стукнул» партизанам, и ночью они к нам нагрянули. Всю семью поставили к стенке и начали выяснять, где кабан. Дед отпирался, но, когда они дали очередь поверх голов и пообещали сжечь деревню, бабушка созналась. Деду приказали привезти кабана в пущу.

Выполнить приказ было сложно: поймают немцы — расстреляют за помощь партизанам, поймают «другие» партизаны — расстреляют за помощь не им. Таковы были реалии. Поэтому наклеивание нам позднее ярлыка «находился в оккупации» вряд ли можно назвать справедливостью. Тех, кто трудился в тылу, приравняли к участникам войны, а мы несколько десятилетий отмывались.

Дед отвёз того поросенка. По дороге нарвался на чью-то засаду, ушёл, его ранили в ногу, пуля пробила голень. Партизаны выдали ему справку, которой никто так и не воспользовался. Рана начала гноиться. Через несколько лет дед умер.

### Послевоенная жизнь

В 1944 нас освободили от немцев, и мужчин начали призывать в Советскую Армию или Войско Польское. Был еще один вариант: «по состоянию здоровья» отправляли на работы в шахты. Люди



предпочитали идти на фронт. Из нашей деревни ушли 22 человека, возвратились трое, один из них вскоре умер от ранений.

Начались «вторые Советы», однако в лесах еще «партизанили» десять лет. Кто-то по идейным соображениям, кто-то просто грабил. Последнего партизанского командира по фамилии Гоман убили в 1954 году и привезли в милицию в Дятлово. Людей приглашали посмотреть.

В начале пятидесятых стали создаваться колхозы, как в «Поднятой целине», только в меньших масштабах. Приезжали из райкомов партии, собирали собрания, заседали по нескольку дней, так как люди не хотели идти в колхоз. Уговаривали, заставляли.

В нашей деревне организовали колхоз, пахотную землю у всех отобрали. Тех, кого не удалось «сломать», назвали единоличниками и нарезали им участки на окраинах колхозных владений. Через год снова попытались сломать. Не получилось, тогда землю у них и вовсе отобрали, то есть обрекли на голодную смерть.

Первый год был относительно нормальным. Колхоз кое-что выделял маме за труд. Потом его объединили с более крупным хозяйством (раз в десять крупнее) и стали «платить» только трудоднями (не меньше 330 в год). В конце года был окончательный расчёт, и мама принесла 15 килограммов зерна. Это за год работы!

Тех, кто не выполнял план по трудодням, жестоко наказывали. Обрезали приусадебные участки, чем обрекали на вымирание.

После войны семья расстрелянного полицейского вернулась в деревню (четверо малых детей). В колхоз их, естественно, не приняли, что означало голодную смерть. Возле их дома было колхозное гумно. Бригадир заметил, что картофель там стал убывать. Сделали засаду и поймали мать этих детей. Ей дали десять лет «по указу от 1947», а детишек разбросали по разным детдомам.

За трудодни заставляли работать десять лет, паспортов у колхозников не было. Документы выдавались только в том случае, если человек уезжал на работу или учёбу. На их получение требовалось разрешение председателя колхоза, которого тоже наказывали за разбазаривание фактически бесплатной рабочей силы. Ни о каких пенсиях для колхозников речи не шло.

Часть людей жила в землянках, так как их дома сгорели во время войны. Да и в других полы были земляными. Но потиху строились...

## Витебские дела

В школу пошёл в Дятлово. Каждый день приходилось ходить по три километра туда и обратно. Когда шёл в первую смену, было темно, возвращался после второй — тоже темно. Страшно. Дорога проходила мимо еврейского кладбища.

Где-то с седьмого класса пошёл работать. Сначала торф копал, потом работал подсобным рабочим на стройке, почтальоном. Платили очень мало, но когда ничего нет, хороши и такие варианты.

Затем поступил во Львовское пожарно-техническое училище.

После трёх лет учёбы меня направили в распоряжение управления внутренних дел Молодечненского облисполкома, оттуда — пожарным инспектором в Плисский район в посёлок Посвилье (теперь эта территория разделена между Полоцким, Миорским и Глубокским районами). Позже выделили мотоцикл КА-750. Я отработал там три года и был направлен в Витебск. Увлёкся дознанием по расследованию пожаров и поджогов. Поступил заочно на юрфак БГУ. Раскрыл много интересных дел.

Вскоре предложили идти работать в милицию заместителем начальника Железнодорожного райотдела УВД Витебска. Через несколько лет повысили — стал заместителем начальника областного управления, затем назначили начальником Октябрьского отдела милиции города Витебска (в то время, наверное, самого крупного в области отдела).

Поскольку милиция имела систему двойного подчинения, в начале семидесятых я стал депутатом райсовета, а потом и горсовета. В 1981 году меня «позвали» в Афганистан, но я не прошёл комиссию в Москве по причине мочекаменной болезни (тогда ещё с этим считались), и меня послали в Минск начальником управления охраны общественного порядка. Через четыре года тогдашний министр внутренних дел Виктор Алексеевич Пескарёв предложил мне возглавить УВД Минской области. На тот момент в Витебске произошли серьёзные кадровые перемены, «первым» стал Кобяк, который решил заменить руководителя областной милиции. В итоге мне пришлось вернуться в Витебск, хотя в Минске мне уже дали квартиру на Немиге.

В январе 1985 года я стал «самым главным» милиционером Витебской области. Сразу же начал заниматься «Витебским делом». Официально считались нераскрытыми 22 убийства. Вначале изучил материалы, а потом лично объехал все места преступлений.



Каждый день первый секретарь обкома партии, председатель облисполкома и министр внутренних дел докладывали по убийствам: в Москве это было «на контроле». Все стояли на ушах. Толком никто ничего не знал: действует маньяк-одиночка, люди боятся, паника. В Витебске многие женщины, которые работали в третью смену, боялись возвращаться домой в темноте.

Подключили буквально всех. Выяснили, что одна из женщин садилась в «Запорожец» красного цвета (через месяц её нашли убитой). Проверили все «Запорожцы» области. В числе прочих вышли и на заведующего гаражом из совхоза «Полота» Полоцкого района Геннадия Модестовича Михасевича. С ним беседовал инспектор по делам несовершеннолетних. Отчёт он направил в мой штаб. В моём кабинете стулья были мягкие, с красной обивкой. Со временем её пришлось менять, так она «почернела». С такой интенсивностью работали.

Милиционер ничего не понял, а Михасевич понял всё и здорово испугался. Он написал анонимное письмо в редакцию газеты «Витебский рабочий» о том, что некие патриоты Витебска выступают против коммунистов и «легавых» и скоро придут к власти. А если кто не станет помогать, то будет то, что произошло 30 августа (именно в тот день на участке дороги Витебск — Бешенковичи нашли трупы двух девочек). Это письмо передали в КГБ. Майор Швачко, видимо, не нашёл помощи у своего начальства и пришел ко мне. Вообще-то ничего экстраординарного в письме не было, поскольку о происшествии 30 августа население оповещалось. Смущало только указание точного места преступления. Решили проверить. Если первый раз просто опрашивали владельцев машин, то теперь я попросил представить их собственноручные объяснения. К Михасевичу тоже пришли. Он написал. В принципе, на него никто не думал: коммунист, секретарь местной партийной организации, дружинник, трезвенник, жена работает в магазине, двое несовершеннолетних детей — таких не подозревают.

Хочу сказать, что мы проделали довольно большую работу, провели графологическую экспертизу 600 тысяч образцов (у меня работали 22 графолога). Много было разных курьёзных случаев. Так, сразу подозрение пало на дежурного Первомайского отдела милиции. Дело в том, что именно 30 августа 1984 года он приехал в отделение связи, пошёл в туалет и повесился. Его откачали и по

причине психической неуравновешенности уволили из милиции. К тому же у него был красный «запорожец». Почерк тоже был похож — так посчитал один из кэгэбэшников. На меня и прокурора очень сильно давили, в том числе и из Москвы, но арестовывать мы не стали. Женщин, которые работали в милиции, уговаривали быть «живцами». Риск был колоссальным, и я радовался тому, насколько смелые у нас сотрудницы.

Графологи сказали мне, что по некоторым признакам почерк Михасевича подходит. Я попросил их молчать и привезти ещё образцы из совхозной конторы и из Городка, где Михасевич учился в техникуме. Они вернулись и сказали, что никаких сомнений быть не может. На следующий день в воскресенье мы поехали его арестовывать. На месте Михасевича не оказалось. Решили дождаться понедельника, когда он пойдёт на работу. Выяснилось, что он взял отпуск и собирался куда-то уехать. Мой давний друг узнал, что Михасевич может быть у брата жены в деревне Горяни. Там мы его и взяли. Сопротивления он не оказал. Единственный нюанс: пока мы шли несколько сотен метров к машинам, он раз пятнадцать останавливался помочиться. Вскоре он во всём сознался: вместо 22 убийств рассказал о 43. В том числе назвал 13, которые считались раскрытыми и по ним уже были осуждены люди, а один (Тереня) расстрелян.

Кое-кто намекал, что лучше будет Михасевича убрать: дескать, все концы в воду. Но мы решили отдать его правосудию. Охраняли как зеницу ока. Прежде всего от родственников и знакомых убитых.

Невинно осуждённых освободили. Слепых, больных. Кому-то из них купили телевизоры, холодильники, кому-то дали квартиры.

К наградам нас не представили, хотя и обещали. «Витебское дело» постарались быстрее забыть. В некотором роде мы даже стали виноватыми. Мне задерживали генеральское звание. Министр так и сказал, что в Совмине и ЦК колет глаза моё «Витебское дело».

Через три года из бюллетеня КГБ я узнал, что за него кого-то наградили, но выяснить, кого конкретно, не удалось.

# АЛЕКСАНДР ДОБРОВОЛЬСКИЙ



**Подготовлено к печати 29.05.2008**

*Жизнь многих из нас похожа на музыкальную мелодию, только для Александра Добровольского это обрело буквальный смысл. Наверное, из всех белорусских оппозиционеров он лучше всех поёт и играет на гитаре.*

## Первые мелодии

Родился в деревне Сула, что недалеко от Рубежевичей (5 километров). Очень красиво: речка, водяная мельница. Точное место физического рождения — одноэтажная больница Рубежевичей. Прямо напротив больницы стоит известный на всю Беларусь костёл, в нём меня и крестили.

Мама Александра Ивановна почти всю жизнь преподавала в школе белорусский язык и литературу, проводила уроки и по другим предметам. Одно время работала в детском саду.

У меня есть гипотеза, объясняющая то, почему я стал самостоятельным человеком, то есть тем, кто принимает самостоятельные решения.

Отец Ольгерт Францевич был мастером по строительству печей. Детство и юность отца пришлись на войну, а потом его сразу же призвали в армию на север, где он потерял здоровье. Он ушёл, немного не дотянув до 60 лет. Рак. Страшно, конечно, но болезнь не выбирает, сколько тебе лет... Отец работал в колхозе. Мне хорошо запомнилась его огромная кувалда. На полях было много камней (последствия ледника), и люди ходили их дробить. Осколки использовались для возведения фундаментов и оград. Именно такая ограда в Рубежевичском костёле, да и сам костёл состоит из этих осколков. Около

усяго ў крыві, у яме, дзе буртавалася бульба. Сказаў жонцы, дачцэ і тром сынам: «Бог паслаў да нас чалавека, каб мы яго выратавалі...». Немцы, калі б дазналіся, адразу б іх павесілі за гэта.

(Калі дзед памёр, з таго свету ён паслаў мне доказ існавання Бога. Праз гады я напісаў пра гэта ў прыпавесці «Чмель і вандроўнік», прысвечанай Васілю Быкаву.)

У першы клас я пайшоў у Крэве, у другі — у Смаргоні. Скончыўшы сёмы, захацеў стаць геолагам: вандроўкі, намёты, касцёр, гітара — рамантыка. У чатырнаццаць гадоў паехаў у Кіеў «паступаць на геолага», дзе драматычна закахаўся. Бялявенькая такая, яснавокая... Не помню, як яе звалі, але помню, як мяне праз яе білі пяцёра таксама закаханых у яе хлопцаў, з якімі жыў у адным інтэрнацкім пакоі. Старэйшыя за мяне, ужо пасля арміі, яны закручвалі мяне ў коўдру — і кедамі! Каб раскахаў... Справіцца з імі мне было не па сіле, паскардзіцца не дазваляў характар. Трываў, колькі мог. Аднойчы закашляўся — на насоўцы з'явілася кроў. Ну, думаю, рамантыка рамантыкай, каханне каханнем, а жыццё даражэй. Бывай, бялявая! Дый экзамены паздаваў абы як, бо не да іх было. Не паклалася перада мной сцяжына, па якой можна было б прайсці ў геолагі. Не лёс.

Праз два гады падаўся вучыцца ў Мінск на радыёмеханіка, не стаўшы перад тым ні ветэрынарам, як бацька хацеў, ні музыкам, як жадала маці. Хоць яна і ўгаварыла бацьку прадаць карову і купіць мне акардыён.

Але і радыёмеханіка з мяне не атрымалася. Законы, па якіх бяжыць ток па электраланцугах, аказаліся неспасцігальнымі. Пасля трэцяга курса вярнуўся дадому, сказаў: «Усё. Не маё». Маці ў плач: «Сынок, ты ўжо хоць дзе-небудзь давучыся, людзі ж думаюць, што адусюль цябе выганяюць. З хаты на вуліцу не выйсці...».

Каб маці магла выходзіць на вуліцу, паехаў давучвацца. А як давучыцца, калі не цяміш, якую навуку спасцігаеш?

Перад зімовай сесіяй купіў кнігу Альберта Эйнштэйна, нават не ведаючы, навошта. І раптам чытаю, як Эйнштэйн прызнаецца: вось усе кажуць, што я геній, тэорыю адноснасці прыдумаў і ўсялякае такое, а я, па праўдзе сказаць, дагэтуль не ведаю, чаму электрычная лямпачка гарыць.

Раблю ў кнізе закладку і іду з «Эйнштэйнам» здаваць экзамен па спецыялізацыі. Шэры зімовы ранак, у аўдыторыі гараць лямпачкі.



Бяру экзаменацыйны білет і, нават не чытаючы прапанаваных мне пытанняў, вяртаю білет выкладчыку. Кажу: у вучэльні вашай я выпадкова, зараз вы паставіце двойку, станеце мяне выганяць, і гэта будзе справядліва. Але, каб усё ж хоць нешта талковае я вынес адсюль, растлумачце вы мне на развітанне, чаму гарыць электрычная лямпачка. Давай мне выкладчык распавядаць, як адзін электрон штурхае другі электрон, а другі — трэці і гэтак далей. Я ўважліва слухаю, галавой ківаю. Дзякую за тлумачэнні і кладу перад ім на сваю заліковую кніжку разгорнутую кнігу Эйнштэйна — маўляў, а вось ён не ведаў.

Прозвішча выкладчыка было Дубко, але дубам ён зусім не быў. Выпускнік прэстыжнага «баўманскага» інстытута, ён ацаніў мой, як сёння б гэта назвалі, перфоманс і даў магчымасць скончыць электратэхнікум сувязі.

З дыпломам маладога спецыяліста я апынуўся спачатку на Далёкім Усходзе, пасля — у Сібіры і на Поўначы. З гэтымі маімі інстытутамі, з іх хоць і кароткімі, але насычанымі праграмамі, не параўнаць аніякія іншыя. Ва ўсякім выпадку, не параўнаць з імі ні педагагічны, ні літаратурны інстытуты, адзін з якіх я скончыў, а другі, зноў жа, не.

### Чаму гарыць электрычная лямпачка

Першая мая кніга павінна была выйсці на рускай мове, калі я вучыўся ў Літаратурным інстытуце. Свет яна не пабачыла: я забраў рукапіс з маскоўскага выдавецтва «Молодая гвардия». На мяне там глядзелі, як на вар'ята, але я ведаў, што рабіў: у выдавецтве «Мастацкая літаратура» паабяцалі выдаць мае беларускія вершы. У выбары не сумняваўся.

Прыехаў з Масквы ў Мінск падпісваць дамову, а мне паказалі адмоўную (так званую закрытую) рэцэнзію на чатырох аркушах. Зваротная старонка апошняга аркуша была ў плямінах ад сала, са слядамі нажа і пахла цыбуляй — пілі, закусвалі, пасцяліўшы на рэдакцыйным стале газету, пад якую падклалі тое, што трапіла пад руку, каб стол не парэзаць.

Паэзія тады ўяўлялася мне храмам, і гэта было, як лаянка ў храме. Не сама рэцэнзія, якую, як пасля прызнаўся яе аўтар, яго змусілі напісаць, а тое, як абышліся з ёй, са мной і з самім храмам ягоныя служкі. Я быў гатовы ўзненавідзець усю беларускую літаратуру...

Урэшце кніга выйшла, хоць і са зменевай назвай (не маёй, а выдавецкай). Выйшла найперш намаганнямі Барадуліна, які падключыў да гэтага, як цяжкую артылерыю, Куляшова з Панчанкам — народных паэтаў, якія мелі вагу і моц.

Неяк праглядаў сваю першую кнігу і стараўся зразумець: з чаго маглі ўзнікнуць праз гэтыя вершы хоць нейкія праблемы? Так і не зразумеў.

Я і зараз шмат чаго не разумею, таму займаюся, займаюся і займаюся літаратурай. Бо толькі праз яе (праз мастацтва наогул) і яшчэ праз Бога (праз веру) можна нешта ўцяміць у гэтым свеце, хоць крышку наблізіцца да ўсведамлення таго, дзеля чаго ты тузаешся ў жыцці.

Калі сказаць, што няма і не можа быць з гэтага тузання ніякага выніку, гэта будзе праўдай, але нейкай надта ўжо абсалютнай, касмічнай, па-за межамі разумення. Таму, можа, і пілуем мы, рэжам, трушчым неймаверную праўду на меншыя, маленькія і маленечкія (кожны на свае) праўдачкі. Здавалася б, з іх, няхай і маленькіх, але бясконцых у сваёй колькасці, ужо даўно павінна была б скласціся нейкая адна вялікая праўда, а яна не складваецца, не складваецца... Ці нечакана для ўсіх і кожнага, раптам склаўшыся, зноў рассыпаецца. Бо не можа быць праўдзівым малюнак, складзены з кубікаў. Тым больш што ўсе ведаюць: на кожным баку кубіка — фрагменты розных малюнкаў.

І ўсё ж менавіта мастацтва здолела больш-менш праўдзіва накідаць абрысы свету, у якім няма адной праўды для ўсіх. І найперш гэта здолела зрабіць літаратура, якую не цікавіць, чаму гарыць электрычная лямпачка. Тая літаратура, у якой я пачынаў, — савецкая імперская літаратура — скончылася. Яна патанула, як «Тытанік». Лёс тых, хто знік у акіяне разам з караблём, трагічны. Але ці не горшая, бо самотная, доля тых, хто застаўся на беразе? Мы чыталі вершы на стадыёнах, друкаваліся ў часопісах з мільённымі накладамі, і мільёны хацелі быць падобнымі на нас, паэтаў. На каго яны хочуць быць падобнымі сёння?..

Парадаксальная праўда ў тым, што і на стадыёнах, і ў часопісах мы ўсё зрабілі для таго, каб ні стадыёнаў, ні часопісаў у нас не стала. Сёння літаратура не большая, але і не меншая за сябе і займае тое месца, якое займае. З ім можна звыкнуцца, калі пісаць і пісаць, а не ўспамінаць і ўспамінаць...



## Адно — падумаць, іншае — зрабіць

«Калі ты не займаешся палітыкай, дык яна зоймецца табой...». Мной яна ўпершыню (шчыльна, каб адчуў) занялася ў сярэдзіне сямідзясятых.

Набліжаўся чарговы з'езд КПСС. Мяне выклікалі ў Маскву ў ЦК камсамола: «Ты выбраны з усіх паэтаў Савецкага Саюза, каб напісаць прывітанне з'езду ад савецкай моладзі».

Пытацца «чаму я?» не выпадала. «Дзякуй за гонар». Сапраўды ж, адзін з усіх. Напісаў і паехаў у Мінск. Праз месяц зноў выклікаюць: «Твае вершы зацверджаны ў ЦК КПСС. Ты выбраны з усіх, каб прачытаць з трыбуны з'езда».

Да канца эпохі Брэжнева, абвешанага зоркамі і анекдотамі, заставалася чатыры гады. Гарбачоў ужо быў сакратаром ЦК. У грамадстве, не для ўсіх прыкметны, блукаў прывід таго, што пасля назвалася перабудовай. І ў гэткі час мне чытаць на ўсю краіну «Плыви, страна, эпохи ледокол!».

Я ўсё разумеў. Няшмат знойдзецца паэтаў, якія захочуць са мной выпіць. Пасля тыя ж паэты, усё ж выпіваючы, дапытваліся: «Чаму не адмовіўся?» А вы станьце пасярод неабсяжнага кабінета сакратара ЦК па ідэалогіі і адмоўцеся. Толькі перад тым папрасіцеся ў псіхушку з больш-менш адвольным рэжымам, дзе вам хоць бы пісаць дазволілі б.

Пайшлі бясконцыя рэпетыцыі на радыё, тэлебачанні, у Крамлёўскім Палацы з'ездаў. З усіх бакоў — «гэбісты», загадчыкі цэкаўскіх аддзелаў і сектараў (чалавек сто за гэта адказвала). Я ў соты раз чытаў пра ледакол і ў соты раз думаў...

Кожнаму чалавеку жыццё дае шанс на выйгрыш: некаму — выйграць грошы, некаму — лёс. Калі шанс вялікі, дык ён, звычайна, адзін, але многія людзі, мяркуючы, што шанс гэты не апошні, прапускаюць яго. Мой шанс выглядаў, як лёс. І, у соты раз падумаўшы, я вырашыў не прапусціць яго і сказаць не пра тую краіну, якая плыве, а пра тую, што патанае. Прыкінуў: расстраляць мяне наўрад ці расстраляюць — часы ўсё ж не сталінскія. Канешне, пасадзяць, але шанс таго варты...

Ды адно — падумаць, і зусім іншае — зрабіць. Не змог. У апошні момант не знайшлося сілы, мужнасці. І не толькі таму, што на крамлёўскую сцэну, якую ў тры шэрагі ахоўвала ахова, мяне выпусцілі не ў прызначаны час, а гадзіны на паўтары пазней, нібы нешта запа-

дозрылі. І не таму, што папярэдзілі, каб не надта хваляваўся, чытаючы, — усё адно пойдзе фанаграма, запісаная на Шабалаўцы. Якая розніца, пачулі б мяне, ці не? Проста не здолеў, не хапіла мяне на гэта. Выйшаў: «Плыви, страна, эпохи ледокол!» І вяла запляскалі ў далоні Брэжнеў, Суслаў, Гарбачоў...

Я не быў тады (і нават не меркаваў, што буду) дысідэнтам, не збіраўся выступаць (беларускі савецкі паэт) супраць савецкай улады. Мяне не задавальнялі ў ёй канкрэтныя асобы і, адпаведна, іх канкрэтныя дзеянні. Гэткай матывацыі аказалася недастаткова, каб з разлікам, запланавана здзейсніць тое, на што здольныя толькі апантаныя людзі.

Шкадаваць позна, а прызнацца — не, хай яно і без патрэбы. Хіба толькі гэтым можна патлумачыць адну з прычын, не зусім зразумелых нават для блізкіх мне людзей, па якіх не склаліся мае адносіны з Лукашэнкам. Я не мог дапусціць, каб тое, што некалі адбывалася са мной на імперскай сцэне Савецкага Саюза, праз паўжыцця паўтарылася на мястэчковай сцэне на ўзроўні фарсу. Хоць і на крамлёўскай сцэне, зразумела, была не высокая трагедыя, але ўсё ж...

## Бог не дазволіў саграшыць перад Крэвам

Наўрад ці хто-небудзь чуў, каб я жаліўся на жыццё. Некалькі разоў яно падломвалася, дык што ж? Бацькі мае жылі куды цяжэй, не жалячыся. І ніколі, і нічога, молячыся, маці ў Бога не прасіла. Толькі дзякавала, толькі дзякавала...

У кнізе «Так», напісанай у Польшчы і Фінляндыі, дзе мне не надта хацелася быць, я вынес на вокладку радкі з паэмы «Ложак для пчалы», самай беларускай з усіх напісаных мной паэм:

...Як смерць, бялее маці,
Кажа маці: «Не прасі.
Ані каліва якога,
Ні свайго і ні чужога,
Як бы ты ні бедаваў,
Не прасі нічога ў Бога —
Ён і так табе ўсё даў...

Паэма гэтая маці і прысвечана. У гэтай жа кнізе — прысвячэнні жанчынам, якіх кахаў. Нябесныя жанчыны. Я не варты ніводнай з іх.



Апроч кахання, сям'і, сяброў, Бог даў яшчэ і занятак, які па мне, — паэзію. Хоць доўгі час, даволі жорстка ацэньваючы сябе і самому сабе не давяраючы («Нібыта ўвайшоў без білета туды, дзе спытаюць білет...»), я і Богу не давяраў — а раптам Ён памыліўся? І толькі пасля трэцяй ці чацвёртай кнігі ці нават пасля пятай, пасля «Прошчы», я падумаў, што, магчыма, і не сталася памылкі на нябёсах. А калі сталася, дык невялікая. Такая, якую можна выправіць на зямлі.

...Я рабіў некалькі спроб (даруй, Божа!) пакінуць зямлю. Бог не даў мне гэтага здзейсніць. Не дазволіў саграшыць перад Крэвам, перад продкамі, перад маці, а ў першую чаргу — перад Ім. Каб я ўрэшце ўцяміў:

У ва ўсім, што ёсць, было і будзе —
Ані ў чым цябе магло не быць.
Цуды ўсе ў адным-адзіным цудзе:
У неверагодным цудзе
Жыць.

# ВЛАДИМИР ПАРФЕНОВИЧ



**Подготовлено к печати 01.07. 2005**

*Признаюсь, разговаривать с трёхкратным олимпийским чемпионом, который стал политиком относительно недавно, одновременно и сложно, и просто. Он ещё не освоил всех тонкостей политеса и не забыл «голы, очки, секунды»...*

## Обычное детство

Я минчанин. Родился 2 декабря 1958 года. До школы воспитывался у бабушки в деревне под Радошковичами. В Минске, на Комсомольском озере, начал заниматься спортом. В 1981 году окончил институт физкультуры. В принципе, это вся биография.

Самые первые детские воспоминания, конечно, связаны с деревней. Жил у бабушки. Мама работала в Минске на стройке, потом на заводе. Средств не хватало. По весне бабушка посылала меня собирать мёрзлую картошку. Вкус этой картошки, которую пекли в печи «на лопате», помню до сих пор.

Второй момент. В деревнях всегда ездили и собирали молоко у людей (сейчас, кстати, тоже). У нас по какой-то причине не было своего молока, и однажды я пропустил человека, который его собирал. Метров триста бежал босиком по снегу, догонял, потому что он всегда наливал мне целую кружку.

Это, пожалуй, самые яркие воспоминания детства, когда были настоящие друзья, всё делалось честно и открыто, никто никого не обманывал.

Считаю, что мое дётство прежде всего было здоровым, а вот сейчас не каждый ребенок может всё время находиться на природе. Нынешние дети, если выезжают раз в год в лагерь, то только прикасаются к природе. А в остальное время их окружают бетонные дома и заасфальтированные (потому часто пустые) дворы.



Как все дети, мечтал стать лётчиком или космонавтом.

В 1972 году начал заниматься греблей на байдарке. Этот выбор во многом случаен. Весь класс записывался на футбол, лёгкую атлетику, а мне пришлось выбрать в некотором смысле «экзотику». Мы жили в бараке рядом с Комсомольским озером. Мой друг пригласил меня записаться в секцию, и я выбрал байдарку.

Раньше таких возможностей было больше. Это сейчас всё превратилось в голую коммерцию: государство хочет, чтобы за всё платили родители. Виды спорта разделили на элитные (например, футбол, хоккей, теннис, художественная гимнастика) и не элитные. В итоге многое для детей стало менее доступно. Раньше было больше спортивных клубов и записаться в них было гораздо проще.

Через два года попал в юношескую сборную СССР, а через четыре года — и во взрослую. О результатах повторяться не буду: они общеизвестны.

## Нюансы большого спорта

Если спортсмен хочет завоевать медаль, ему приходится затратить немалое количество усилий, особенно в таких видах спорта, как гребля, велоспорт, лыжные гонки, которые требуют больших нагрузок и ежедневных усилий. Здесь нельзя расслабляться, нужно постоянно быть в форме.

Школьником я тренировался два раза в день, потом — три.

Нарушения режима, конечно, были — мы же все люди. Хотелось и на танцы (сейчас это называют дискотекой) сходить, а потому и на отбой опаздывали. Нарушений дисциплины было больше, чем сейчас. Сейчас каждый спортсмен работает только на результат, он в большей степени профессионал, нежели прежде. Победы сегодня — это солидные деньги.

В наше время в большей степени ориентировались на честь страны, имидж. Чувства, которые испытываешь на пьедестале, тогда, возможно, проявлялись более ярко. В настоящий момент — пятьдесят на пятьдесят: 50% честь и слава, 50% деньги. На мой взгляд, это очень плохая тенденция. Полагаю, что коммерциализация спорта приведёт к тому, что останутся только небольшие группы энтузиастов.

Я никогда не курил, а вот хорошее вино пить приходилось. Особенно на сборах в Грузии. Восемь месяцев мы жили на базе в Абхазии (это самое тёплое место в СССР), с сентября по апрель. А винограда в Грузии всегда было много, да и цены на вино были удивительные — рубль за литр. Вино натуральное, без всяких примесей, не то что сейчас. Вино, которое у нас в магазинах продают по сумасшедшим ценам, ещё можно пить, остальное — вредительство.

Я не злоупотребляю, но после бани как не выпить стакан вина? В моём окружении любителей пива не было. Да и зачем, если кругом столько вина? Кстати, в те времена в Грузии и не было хорошего пива.

Пили только в подготовительный период, в соревновательный — ни грамма. Тренеры всё знали, но не обращали на это пристального внимания, ибо понимали, что все взрослые люди, у многих семьи, дети.

Спорт не стал моей профессией. Определённое время я был спортивным функционером. Два года работал тренером. Затем стал начальником учебно-спортивного отдела в «Динамо». Мне повезло работать со многими известными спортсменами и тренерами.

Бывшему спортсмену очень трудно найти работу. Это, пожалуй, главная проблема. В основном функционеры «прижились» на своих местах и не хотят видеть тех, кто приходит из спорта.

Несколько лет после окончания выступлений я вообще не имел работы, мы жили буквально на одних макаронах. Период, когда открывались все двери, очень быстро закончился.

## Немного о семье

С женой Татьяной меня свела судьба. Мы ехали в одном поезде в 1976 году со спартакиады. Встретились в коридоре. Познакомились. Тогда билеты брали для всей команды Беларуси, независимо от видов спорта. Она мастер спорта международного класса по художественной гимнастике, чемпионка Советского Союза, победительница Спартакиады народов СССР.

Через год мы вновь случайно встретились во врачебно-физкультурном диспансере. Пообщались.

Третья встреча произошла уже во время учёбы в институте. Полтора часа проговорили на лестнице.



В 1979 году поженились и до сих пор вместе. Трое детей, два сына и дочь. Старшему сыну сейчас 23. Он болен с рождения детским церебральным параличом, живёт в интернате.

Допинг? Не думаю. Я не употреблял его, за исключением двух уколов в 1984 году, то есть уже после рождения сына. Во время спортивной жизни никаких анаболиков я практически не употреблял. Только одни витамины и препараты для поддержания сердца, поскольку пройти 5—6 тысяч километров на байдарке, пробежать 2—3 тысячи кросса, 800 километров на лыжах плюс игры и общефизическая подготовка просто невозможно.

К слову, подобных случаев много. Наверное, потому что у спортсменов большие нагрузки, и это сказывается на организме.

Средний сын, ему сейчас 19-й год, учится в школе тренеров в теннисном центре во Франции. Дочь учится в гимназии. Тоже занимается теннисом.

Это не дань моде. Если бы был гольф, то им бы тоже занималась. Ребёнку нравится. Мне тоже.

Старшего сына зовут Владимир, среднего — Здислав, дочь — Ксения.

В СССР был такой знаменитый каноист Здислав Сорока, по национальности поляк, мой хороший друг. Как-то на сборах я сказал ему, что в честь его назову сына. Не поверил: дескать, Таня не разрешит. Он ошибся.

Дедушкой пока не стал, но здесь как Бог даст, так и будет.

Мои родители (сейчас пенсионеры) пока, слава Богу, живы.

Родителей жены уже нет в живых.

В моём понимании случай — это когда на всю жизнь. Когда люди по нескольку раз женятся и выходят замуж — это неправильно. Бог нам даёт один случай, а кто и как им воспользуется — другое дело.

## О бизнесе

Штаты спортивных структур во время перестройки начали приводить в порядок. Гарантий моей дальнейшей работы в «Динамо» никто не давал, и я ушёл в коммерцию.

Как и любая фирма, которая только-только начинает свою деятельность, мы занимались всем. Узкой специализации не было. Помню, взяли первый кредит и купили МАЗ. Думал, что не хватит квартиры, чтобы в случае чего продать и рассчитаться, но до этого

не дошло. Машину продали за очень скромную сумму, только чтобы не закрывать расчётный счёт. Это была наша первая сделка.

Позднее мы нашли себя в фармацевтике. Это очень серьёзный бизнес, я считаю его самым «продвинутым». Это не нефтью или газом заниматься. Рад, что этот вид бизнеса в Беларуси развился даже лучше, чем в России.

Вначале мы лишь покупали и продавали, затем из нашего сырья белорусские заводы стали производить медикаменты, потом мы занялись производством медицинской техники, например, операционных столов.

Мы — это я и три моих компаньона. Один из них погиб, второй ушёл в другую сферу. Сейчас нас двое. Я всегда говорю, что бизнесом в Беларуси не занимаюсь, ибо с моей фамилией делать это здесь невозможно.

Да и вообще, найти нормальную, достойную работу трудно, что очень грустно. Я не оппозиционер, а просто человек со своей позицией, и не хочу, как некоторые, «перекрашиваться».

### Об амбициях

Говорят, что политика — грязное дело. Не согласен. Просто ею занимаются «грязные» политики. Происходит это, по большому счёту, из-за того, что политики или не могут договориться, или не могут уйти. Здесь, как и в спорте, нужно знать время и меру.

Далее по поводу моих президентских амбиций. Считаю, что люди их уже наелись с лихвой. На мой взгляд, одного желания быть главой государства недостаточно. Прежде всего нужно быть готовым осуществить деконцентрацию власти. И ещё: необходимо создать по-настоящему независимый суд. Как только это произойдет, сразу всё наладится.

# АЛЕСЬ ПАШКЕВІЧ



**Падрыхтавана да друку 11.03 2010**

*Гэты артыкул быў падрыхтаваны падчас супрацьстаяння Саюза беларускіх пісьменнікаў з паралельнай афіцыйнай структурай, якую ўзначальвае адыёзна вядомы міліцэйскі генерал. Падтрыманая ўладамі квазі-структура патрабавала зрабіць беспрацоўнымі ўсіх «дэструктыўных», якіх узначальвае Алесь Пашкевіч. Чаму менавіта ён? Спадзяюся, адказ на гэта пытанне ёсць і ў гэтым артыкуле.*

### Першыя словы

Дзяцінства, яго непаўторнасць і незваротнасць бачыцца на жыццёвай адлегласці. Ад самага прыйсця... Калі я зазбіраўся з'явіцца на свет, мама выбірала бульбу. На агародзе, пад высокай чырвонай грушай...

Пахла спеласцю, сонцам, тлустай зямлёй, вяргінямі, макрацом і чаканнем. Прыперчваў усё тое церпкаваты смак падсохлага бульбоўніка.

Мне ўпершыню стала цесна і няўтульна.

У баразну да выаранай бульбы падалі саспелыя чырвоныя грушы, а ў мамы забалеў жывот. Яе адвезлі ў бальніцу, дзе яна, збіраючы сілы, нават змагла паспаць.

А вечарам 11 верасня 1972 года і з'явіўся я. І закрычаў. Мне хацелася сонца і малака...

Маёй першай зямной «прапіскай» стала вёска Набушава старадаўняй Случчыны. У XIX стагоддзі гэта — сціплы шляхецкі засценак. У ім — наколькі хапае згадак і ўспамінаў родзічаў — і жылі мае дзяды-прадзеды. Прадзед Мітрафан Пашкевіч працаваў на зямлі і

разводзіў коней. З дзябёлай кабылкай патрапіў у Пецярбург на выставу — і заняў прызавое месца. Атрымаў узнагароду царскімі залатоўкамі — і прыкупіў на іх некалькі валокаў, падзяліў іх паміж пяццю дзецьмі. Золата здаў у «таргсін» — і тое выратавала ад Сібіры, калі да яго прыйшлі «ўпаўнаважаныя». «Вось адпаведная даведка, — сказаў, — а золата цяпер —гэтая зямля»...

А затым Случчына стала «нейтральнай» зонай паміж польскім войскам і Чырвонай арміяй. Распачаўся антыбальшавіцкі Слуцкі збройны чын. Старэйшы сын Мітрафана пайшоў у паўстанцкі полк — і быў інтэрнаваны за Ланню на «польскай» тэрыторыі. След ягоны на тым згубіўся. Малодшы сын Мітрафана — Іван, бацька майго бацькі Аляксандра, — быў у 1941 годзе мабілізаваны на фронт (у хаце з жонкай Марыяй засталіся два сыны (трохгадовы і паўтарагадовы) і загінуў па адных звестках пад сценамі Кёнігсберга-Караляўца, па другіх — у Чэхаславакіі. Другі мой дзед па матчынай лініі Іван Пятровіч Акуліч партызаніў, ваяваў у дзеючай арміі і вярнуўся жывым, і праз два гады пасля перамогі з маёй бабуляй Соф'яй нарадзіў дачку Зою — маю маму.

З імі і звязаныя мае і першыя крокі, і першыя ўспаміны. Мама працавала ў вясковай краме прадаўцом, бацька сачыў за «меліярацыяй» — абкошваў на колішніх балотах канавы. «Гадаваў» мяне дзед Іван, які жыў у нашай хаце. Прачнуўшыся, я выбягаў на вуліцу і прасіў яго: «Дзед, пасі мяне». У шэсць гадоў ён навучыў мяне спраўна касіць, адмыслова асадзіўшы дзеля гэтага пад мой рост касільна і «лучок».

З шасці гадоў я сябе і памятаю. З незвычайнай на той узрост прыгоды: у мяне дзень народзінаў, у краме сабраліся вясковыя жанчыны і ўгаварылі маму адзначыць мой «юбілей» савецкім «Савіньёнам». З 50 грамаў нейкім чынам дасталося і мне. І я з песнямі, трымаючыся за плот, ледзь даклыпаў да хаты — нейкіх семдзесят-сто метраў. Сядзеў на парозе варывенькі і спяваў: «Балэ-балэ-балэ...». «А галава, як у нягеглага пеўня, на плячо падала», — успамінаў дзед.

А далей — лес, грыбы, кар'ер-копанка, рыба, сябры, кнігі. І — школа.

У Вясейскую школу мусіў дабірацца за шэсць кіламетраў, і ў дождж, і ў снег. Але тыя гады ўзгадваюцца сонечна: добрыя настаўнікі, новыя ўражанні; вучоба, якая давалася лёгка і цікава. Памятаю ўсе прачытаныя ў той час кнігі. У старэйшых класах штотыдзень ездзіў у Слуцк — на заняткі школы юных рабселькораў пры рэдакцыі раёнкі «Шлях Ільіча».



У 1989 годзе з залатым медалём скончыў школу і вырашыў паступаць у БДУ. Меркаваў — на журфак, але старэйшы (і адзіны) брат, на той час сам студэнт-журфакавец, адгаварыў, і дакументы мы з ім падалі ў прыёмную камісію філалагічнага факультэта. Здаў першы экзамен на «выдатна» — і быў залічаны студэнтам.

Чаму менавіта такі выбар? Атрымлівалася, да прыкладу, і з хіміяй (удзельнічаў у абласных алімпіядах), але цягнула толькі да слова. Да беларускага слова.

## Вучоба слову

Студэнцтва — асобная «залачоная» старонка жыццёвай кнігі. Асабліва калі яно — як у мяне — супала і з асабістым станаўленнем, і з станаўленнем маёй краіны.

Тагачасны філфак БДУ — акадэмія з найславутымі выкладчыкамі-славістамі: прафесары Супрун, Шакун, Бурак... Першы ў жыцці студэнцкі экзамен — «Гісторыю КПСС» — здаваў дэкану Воўку, а праз тры гады тая партыя апынулася пад забаронай. Хацеў (на першым курсе) пасля ўніверсітэта паступаць у ВПШ (Вышэйшую партыйную школу), а на чацвёртым курсе ўжо вучыўся ў ейных сценах дома 31 па вуліцы Карла Маркса — куды пераехаў-перабраўся філалагічны факультэт БДУ на чале са сваім новым дэканам — прафесарам і пісьменнікам Алегам Антонавічам Лойкам. Мой першы дэкан на першай лекцыі хваліўся, што прачытаў поўны збор твораў Леніна, дэкан Лойка першую лекцыю пачаў з прызнання, што прачытаў усе старабеларускія летапісы і хронікі... Ён, Алег Лойка, стаў маім «хросным» апекуном — кіраўніком дыпломнай, навуковым кіраўніком кандыдацкай, навуковым кансультантам доктарскай дысертацый. І аўтарам прадмовы да майго першага зборніка паэзіі «Нябесная сірвента», які выйшаў у «Мастацкай літаратуры», калі я быў яшчэ студэнтам.

Тагачасны філфак універсітэта вучыў мяне не толькі думаць, чытаць і пісаць, але і вязаць ды скірдаваць снапы лёну (восеньская «практыка»), падвязваць вінаграднікі ды палоць тытунь (крымскі будатрад, камандзірам якога прызначаўся), а яшчэ — хадзіць на шматтысячныя апазіцыйныя мітынгі. І... піць моцныя напоі. З год я жыў у студэнцкім інтэрнаце на Кастрычніцкай у адным пакоі з кіраўніком

карэйскага зямляцтва-студэнцтва Анам Дон Чэрам. Стыпендыю-заробак на той час ён атрымліваў нечуваную (думаю, і рэктар столькі не меў). Ан — шчыры і кампанейскі чалавек — ладзіў сустрэчы з землякамі, умеў смачна кухарыць-гатаваць, а ў ягоным халадзільніку заўсёды чакалі скрыня гарэлкі і скрыня «шампанскага». Аднак найбольш ён паважаў родную гарэлку, якую перадавалі з маскоўскага дыппасольства — жаўтаваты спірытус у трохкутнай бутэльцы са змейкай-спіраллю ўнутры... Гэта таксама была адмысловая «практыка», асабліва, калі назаўтра зранку ва ўніверсітэце цябе чакаў экзамен па нямецкай мове. Даўшы мне, першакурсніку, паспаць з паўгадзіны, адказны Ан будзіў і перад іспытам даваў тоўсты, з палец, корань цалебнага жэньшэня — і пасля яго не толькі спаць некалькі дзён не хацелася, але і пачынаў пачуваць сябе немцам з баварскім вымаўленнем, і экзамен здаваўся на «выдатна».

Аднак жэньшэнь не здолеў ўратаваць паўночных карэйцаў (і тых, хто вучыўся расійскай мове, і тых, хто штудыяваў лётную справу) ад гарбачоўскай перабудовы... Пачасцелі праверкі, падчас якіх студэнты-замежнікі дэманстратыўна чаплялі на пінжакі «камсамольскія» значкі з выявай Кім Ір Сэна, а праз месяц іх усіх спешна вывезлі на радзіму — каб не «набраліся дэмакратычнай заразы». З Анам перад развітаннем мы абмяняліся хатнімі адрасамі, але ані слова ад яго не прыйшло...

Была ў маім студэнцтве яшчэ і вайсковая кафедра, і зборы, і прысяга на пляцы пад бел-чырвона-белым сцягам, і запіс у ваенным білеце «камандзір узвода мотапяхоты»...

Шмат у чым спрыяла мне і літаратурнае аб'яднанне «Крыніцы» пры газеце «Чырвоная змена», і падтрымка ягонага нястомнага літкансультанта Алеся Герасімавіча Масарэнкі. Літаратурная моладзь «у разгар дэмакратыі» (пачатак дзевяностых) заснавала і выдавала за грошы дзяржавы свой штомесячны часопіс «Першацьвет», і я — студэнтам — працаваў намеснікам галоўнага рэдактара. А яшчэ — і кіраўніком згаданага літаб'яднання «Крыніцы». А галоўнае — я не пераставаў быць удзячным брату за тое, што сагітаваў мяне паступаць на філфак. І найперш — з наступнай прычыны.

Уявіце: на курсе 110 чалавек, і з іх толькі дзесяць хлопцаў! Проста дзявочае царства! Філфаку я абавязаны сваёй жонкай Вольгай, з якой пяць гадоў адвучыўся на адным курсе і ў адной групе. А затым «напісалі» з ёй дачку Алесю і сына Багдана...



Закончыў БДУ з чырвоным дыпломам, паступіў і на «выдатна» адвучыўся ў аспірантуры. Абараніў кандыдацкую «Феномен узвышэнства ў беларускай паэзіі XX стагоддзя», стаў выкладаць у альмаматары. Падрыхтаваў і абараніў (у трыццаць гадоў) доктарскую — ужо па прозе. Яе тэма — «Канцэпцыя нацыянальнага быцця ў прозе беларускага замежжа XX стагоддзя».

### Захапленне словам

Як стаў пісьменнікам, не ведаю. Згадваюцца нейкія нявызначаныя памкненні, адчуванне радаснай і бадзёрай узлётнасці — не раўнуючы, як пасля ўжывання карэйскага жэньшэню. Мноствам спасцiглых кніг пахваліцца не магу. Найбольш уразілі ў школьніцтве з прозы Янка Маўр, Іван Мележ, Якуб Колас, Міхаіл Лермантаў, Барыс Васільеў, у паэзіі — Максім Багдановіч, Максім Танк, Пімен Панчанка, Аркадзь Куляшоў. Пазней да іх з беларусаў дадаліся Кузьма Чорны, Андрэй Мрый, Вацлаў Ластоўскі, Уладзіміры Жылка і Дубоўка... Помню, штосьці сам рыфмаваў яшчэ з чацвёртага класа. Выдатна атрымліваліся сачыненні. Але зацікаўленасць у сваім «пісьменніцтве» выразна адчуў з пятага класа — падчас ліставання са сваім стрыечным дзядзькам Анатолем з Асіповічаў (унукам майго прадзеда Мітрафана): мой «рэспандэнт» радаваўся маім беларускамоўным лістам і прасіў пісаць часцей...

На пачатку 1995 года я — як аўтар паэтычнага зборніка — быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі (пасля таго як па зменёным заканадаўстве назву краіны было забаронена ўжываць у назвах недзяржаўных арганізацый, ён быў пераназваны ў Саюз беларускіх пісьменнікаў). Апублікаваў раман-дакумент пра Слуцкі збройны чын і трагічную гісторыю БНР «Пляц волі», дзве літаратуразнаўчыя манаграфіі. У 2002 таемным галасаваннем быў абраны старшынёй пісьменніцкага Саюза. У 2006 пераабраны на другі тэрмін. У тым жа годзе выйшла мая кніга (раман-біяграфія) пра Уладзіміра Дубоўку «Круг». Вершы і проза перакладаліся на расійскую, украінскую, польскую, літоўскую, балгарскую, славацкую, ангельскую і шведскую мовы...

Быццё — быццём, а проза — прозай. У звязку з гэтым, думаецца, я прайшоў яшчэ і «дактарантуру» па вывучэнні дзяржаўнага механізму, чалавечага двудушша, паклёпніцтва, чыноўніцкай хцівасці. «Стажыраваўся» і ў высокіх кабінетах Адміністрацыі Прэзідэнта, і ў

альма-матар, і ў «апартаментах» Вышэйшай атэстацыйнай камісіі, і яшчэ шмат дзе. За некалькі дзён да з'езда Саюза пісьменнікаў (2002 год) тагачасны памочнік прэзідэнта і начальнік галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення настойліва ўгаворваў мяне зняць кандыдатуру перад галасаваннем, уважліва распытваў пра працу — і акуратна запісаў тэму маёй доктарскай у свой блакноцік з дзяржаўнымі сімваламі на вокладцы. «Вы ж разумны чалавек, вам жыць далей...» — падрахаваў. «Пераможцаў не судзяць», — занадта ўпэўнена, адмаўляючыся ад ягонай прапановы, я сказаў яму перад адкрыццём з'езда. І памыліўся: у нас судзяць усіх. І, у прыватнасці, трыццацігадовага доктара філалагічных навук, старшыню СП.

Рашэнне Вучонага савета БДУ па прысуджэнні мне навуковай доктарскай ступені двойчы зацвярджалася на спецыялізаваным Экспертным савеце ВАКа, аднак ягоны прэзідыум нястомна (два гады!) шукаў «чорнага» рэцэнзента, які б напісаў адмоўны водзыў. Такога ў Беларусі не знайшлося, і «ідэолагі» пайшлі апошнім апрабаваным шляхам: аўтарэферат дысертацыі «случайно попал» у рукі групы генералаў, палкоўнікаў, Герояў СССР, ветэранаў вайны. Яны і даслалі прэзідэнту і ў іншыя інстанцыі свае абураныя «водзывы», у якіх «почти каждая фраза автореферата» называлася «опошлением белорусской национальной идеи, внутренней и внешней политики Республики Беларусь», а сама праца — «хорошо продуманной и организованной политической и идеологической акцией, маскируемой под науку», «попыткой националистов и их зарубежных покровителей украсть у белорусского и других народов бывшего Советского Союза Победу» і «антигосударственной, антипатриотической, национал-предательской диверсией». Генералы-ветэраны ў згаданым лісце прасілі кіраўніка дзяржавы «защитить идеологию современного белорусского государства, защитить белорусскую науку от перевёртышей, карьеристов и политических проходимцев». Як Вы разумееце, пасля такой «рэцэнзіі» мне і не выдалі «корачку»-пасведчанне... А наўздагон тым жа высокім адрасатам пайшлі даносы на майго навуковага кіраўніка і мяне — за некаторымі подпісамі калег-кафедралаў. Словам, анічога новага пад небам...

## Вера ў слова

Жыццёвае крэда з літаратурным супадаюць: «Быць». Быць з вялікай літары. Ну, а незвычайнае жаданне... Над беларускай літаратурай другой паловы XX стагоддзя рэфрэнам гучаў сімвал «сена на асфальце» (апавяданне Міхася Стральцова).



Вяскоўцы, якія ішлі ў літаратуру, асядалі ў горадзе, жылі ў настальгіі, ім мроілася і сена вясковае, і маніў урбаністычны асфальт. Яны імкнуліся ў творчасці спалучыць вёску і горад.

У Стакгольме на адной з цэнтральных вуліц, якая вядзе да каралеўскага палаца, пасярод асфальту замест дарожнай разметкі вылітыя словы класіка шведскай літаратуры Стрындберга. І вось аднойчы мне захацелася бачыць на адной з цэнтральных вуліц Менску (нават і месца выбраў — цяперашняя вуліца Карла Маркса) вылітыя выказванні нашых літаратурных класікаў. Можа, тады і будзе што ўспомніць не толькі старэйшынам нашай літаратуры і спакайней уздыхнуць, але й сённяшнім маладзейшым — не толькі літаратарам, мастакам, музыкам, спевакам, але і тым людзям, якія патрапяць у нашую сталіцу ды пройдуцца яе вулкамі, у якіх не толькі будуць умураваныя беларускамоўныя тэксты, але і на якіх будзе гучаць годна і ўзнёсла беларуская мова?..

Хобі — анічым не займацца. Проста па-японску сузіраць. А яшчэ захапляюць машыны, дарога, горы, мора (апошняга не ставала на маёй «роўнай» Случчыне).

Пра веру ж некалькімі сказамі не распавесці... Веру ў зямлю і неба над ёй. Не ў Зямлю як частку космасу, а ў той лапік, на якім упершыню стаў на ногі, у той куток Случчыны, абжыты, тысячы разоў пераараны ды ўтаптаны маімі дзядамі-прадзедамі.

Веру высокім, моцным дрэвам, якія звязваюць маю зямлю з небам. Веру найперш вязу і грабу.

Веру восеньскаму верасню, у які прыйшоў на свет, у ягоную шчодрасць ды сімвалічную выніковасць.

Веру сабакам і катам. З мільярдаў людзей веру адзінкам (ды і тое, баюся, часова). З людскога царства найбольш веру нябожчыкам: яны не баяцца, не хлусяць і не зайздросцяць.

Веру ў каханне — як у адзінае, што трымае і лякуе.

Веру ў слова, у ягоную найвялікую моцу — і сонечную, і чорную. У ягоную першаснасць і першапрычыннасць.

Нарэшце, веру ў мудрага Стваральніка ўсяго вышэй званага, у ягоную дабрыню і цярплівасць.

Мог бы паверыць у матэматычна-фізічныя формулы ды тэарэмы, але як верыць нежывому? (Нябожчыкі — выключэнне...) Я на-

ват не веру ў тое, што 2 + 2 = 4, бо трымаюся першаснасці і абсалюту тварэння. Тварыць — гэта значыць называць, супастаўляць, ксьціць словам. Назаві хтосьці першым чацвёрку пяцёркай, і 2 + 2 было б 5...

І яшчэ паэтычна хачу верыць у тое,

што не зрокся і ўнук зямлі:
узараўшы нябёсы болем,
на чырвоным арле-кані
праімчуся бялюткім полем;

што не вечны ў мурах кашчэй,
што ў нябыт павядуць не першым,
што чарніла святых начэй
яшчэ хопіць
на дзесяць
вершаў...

Перакананы, што пытанне «У што я веру?» мусіць першым паўставаць у кожнага творцы. Так сталася, што традыцыйна нашыя літаратары зазвычай адказваюць на пытанне «Што рабіць?». А першым пытаннем сапраўднага літаратара, як мне думаецца, павінна быць — «У што я веру?». А потым ужо, ад гэтага адштурхоўваючыся, належыць думаць, што рабіць, каб гэтую веру не страціць і каб гэтую веру пашырыць.

# АЛЕКСАНДР СОСНОВ



**Подготовлено к печати 09.10 2006**

*Не хочу проводить никаких параллелей и сравнивать Александра Соснова с кем-то из ныне действующих министров. Суть не в этом. Человек добровольно отказался от власти, что сделать довольно непросто. Молодые в подобных случаях говорят так: «Респект и уважуха».*

## Родные места

Родился в первой половине прошлого века, точнее, 14 августа 1947 года в деревне Титенки Красненского сельсовета (тогда это была окраина Гомеля).

Отец Виктор Павлович служил в МВД. В Гомеле он пробыл недолго: сначала отправили служить в Добруш, затем — в Оршу. Единственное, что помню из того времени (мне было три года), как меня несли по мосту через какую-то реку. Позднее выяснял у матери Ольги Петровны, где это было. Она сказала, что река была только в Орше. Оттуда отца перевели в Сибирь, в Братский район Иркутской области. Видимо, его послали дослуживать в тихое спокойное место, поскольку к службе в строевых войсках он был непригоден из-за ранения, полученного на войне. К отцу в Сибирь семья переехала тогда, когда что-то прояснилось с жильём (дали комнату в коммуналке). Так в начале пятидесятых я оказался в Сибири. Там пошёл в школу и окончил шесть классов.

В 1951 году у меня появилась сестра Наталья. Сейчас на том месте, где она родилась, находится Братское море, то есть водохранилище Братской ГЭС. Сестра говорит, что родилась на дне моря...

Прекрасно помню сибирскую тайгу и Ангару. Таких рек мне больше не довелось видеть. Помню, как ловил рыбу, как часа за два «врукопашную» переплывал на лодке реку, как собирал в лесу грибы, как всё лето заедал гнус...

В штабе отец прослужил до 1960 года, когда по указанию Хрущёва в запас списали свыше миллиона человек. Отцу дали третью группу инвалидности и в звании капитана отправили на все четыре стороны. Потом была вторая группа, затем — первая. В 1944 где-то в Прибалтике отца ранило в голову. Возможно, именно от этого у него после шестидесяти лет развилась глаукома, и последние пять лет жизни он ничего не видел.

Мы вернулись в Гомель, где я пошёл в седьмой класс 25-й средней школы. Учился в основном на «четыре» и «пять», всё давалось легко. Попутно хочу отметить, что уровень моих «сибирских» знаний оказался намного выше аналогичных показателей в Гомеле. В седьмом классе мне было настолько вольготно, что многое, признаюсь, просто игнорировал. На уроках скучал, постоянно конфликтовал с учителями, был не в меру любознательным.

Потом поступил в Гомельский дорожно-строительный техникум на механическое отделение. Там учиться было значительно интересней. Две группы. Одни парни, почти пятьдесят человек. К нам относились, как ко взрослым. Платили стипендию. На первом курсе я получал 140 рублей (это уже после денежной реформы, так как поступил я в 1962 году).

Учёба в техникуме ничем особым не отмечена, кроме повышенного уровня молодёжного непослушания. Но за время учёбы удалось овладеть целым букетом различных специальностей и даже получить соответствующие удостоверения: автогрейдерист, водитель-профессионал, машинист асфальтобетонного смесителя, электрик. Умел обращаться практически с любой дорожно-строительной техникой: с экскаватором, бульдозером, катком. Неплохо освоил кузнечные и сварочные работы, общестроительные и бетонные, мог работать на основных металлообрабатывающих станках и т.п. Словом, стал мастером на все руки; потом это очень пригодилось.

Следует отметить, что, когда мы вернулись из Сибири, ещё был жив дед Пётр Федосеевич. На нашей улице его знали все, поскольку у него одного было личное авто — трофейный немецкий «Опель». Дед многое сделал своими руками, например, пилораму и трактор. Учил и меня. Трактор имел немецкий двигатель, коробку и дифференциал от «Победы», очень быстро передвигался. Поэтому, когда мы с дедом «бегом» пахали наш огород, смеялись все соседи.



В 1966 году окончил техникум и пошёл в армию (24 декабря защитил диплом, а 28 декабря уже началась служба). Служил в Беларуси, под Минском: вначале в роте связи, потом, уже сержантом, в учебном батальоне механиков.

Каждое лето к нам приезжали так называемые «партизаны», то есть призванные из запаса. Они доедали гнилую капусту, из которой целый месяц готовилось отвратительное по вкусу овощное рагу. Эту капусту мы заготавливали осенью. Хорошо помню, как в костюме химзащиты бегал по дну огромного бетонного чана и утаптывал её, а потом, когда чан становился полным, плавал в солёном капустном соке.

Служил до мая 1969, два с половиной года. Наш призыв оказался «переходным»: после нас в армии служили два года, до нас — три.

Демобилизовавшись, почти год работал в строительном управлении механиком по запчастям, проще говоря, снабженцем. В это время меня стали активно агитировать продолжить службу в армии, поскольку перед увольнением в запас после курсов присвоили звание младшего лейтенанта. Я отказывался, говоря, что я сугубо цивильная личность и не способен выполнять некоторые приказы начальства. Тогда в военкомате стали угрожать: дескать, по закону можно призывать на два года и без моего желания. Я понял, что шутки кончились, и в 1970 поступил на дневное отделение экономического факультета Гомельского университета. Техникум в своё время закончил с красным дипломом, поэтому при поступлении мне нужно было на «отлично» сдать всего лишь один экзамен — письменную математику, что я и сделал.

На первом курсе института меня избрали секретарём комсомольской организации факультета. Экономический факультет в то время был ещё небольшим, так как его создали за год до моего поступления, а уже к моему пятому курсу он превратился в один из самых крупных в университете.

Комсомольскую должность я «сдал» на пятом курсе. Учился хорошо, несколько лет получал Ленинскую стипендию. На последнем

курсе занимался по индивидуальному плану — сдавал экзамены и зачёты, когда хотел.

Четыре раза руководил студенческим стройотрядом: дважды — в Беларуси, по разу — в Уральске и Печоре.

Во время учёбы в университете женился. Жену зовут Ольга. Мы с ней учились в одной группе (она пришла к нам на втором курсе). Любовь с первого взгляда.

Университет окончил тоже с красным дипломом, остался ассистентом на кафедре, где учился. Поступил в аспирантуру, начал работать над кандидатской диссертацией, которую защитил в 1982 году в Петербурге в Финансово-экономическом институте им. Н.Вознесенского.

В 1983 году по результатам конкурса был выбран старшим преподавателем кафедры управления, экономики и организации производства Гомельского политехнического института (сейчас политехнический университет имени П.Сухого).

В 1984 году заведующий нашей кафедрой ушёл в отставку, и меня назначили исполнять его обязанности, а через год я возглавил кафедру уже без приставки «и.о.». Кафедра была самой большой в институте, обеспечивала выпуск двух экономических специальностей, вела экономические дисциплины для всех специальностей института очной и вечерней форм обучения. В конце 1985 меня уговорили вступить в КПСС, поскольку, как оказалось, я был единственным завкафедрой, который не являлся членом этой партии.

### «Бэнээфовец», который не был в БНФ

В 1989 началась моя политическая деятельность. Сначала выборы в Верховный Совет СССР. В Гомеле было два округа — национальный и территориальный. В одном соперничали ныне хорошо известные В.Корнеенко и Ю.Воронежцев, в другом, как тогда ещё было заведено, — двое, наверное, очень неплохих рабочих. Тогда впервые им всем дали возможность выступить на телевидении. Это и погубило рабочих, которые, честно говоря, не могли и двух слов связать. На фоне Корнеенко и Воронежцева этим парням ничего не светило, поскольку время наступало бурное, и только с багажом рабочего профессионализма в парламенте страны делать было нечего. В итоге они оба «пролетели» из-за плохой явки избирателей. То же случилось с Корнеенко и Воронежцевым, но по причине уж



слишком активной борьбы между ними: «чихвостили» друг друга по всем статьям. Были назначены повторные выборы, в которых коллеги и друзья убедили участвовать и меня.

Так я стал соперником В.Корнеенко (его выдвинули вновь). А Воронежцев выдвигался кандидатом в том округе, по которому проходили те двое рабочих. Вполне естественно, что они и выиграли выборы, так как их популярность в городе была очень высокой.

Приобретённый опыт не прошёл для меня даром. Весной 1990, когда объявили выборы в Верховный Совет БССР, коллеги и друзья вновь убедили меня баллотироваться. Меня выдвинул один из цехов завода станочных узлов. На общезаводском собрании рассматривались три кандидатуры: моя, молодого «афганца» и третьего секретаря Гомельского обкома партии Ивана Николаевича Смоляра (ныне, к сожалению, покойного), которого уже до этого выдвинули в Мозыре, где он когда-то работал. Хитрый И.Смоляр предложил снять наши кандидатуры в пользу молодого участника войны в Афганистане, который в политическом плане был «чистым листом». Это было самым напряжённым моментом на том собрании. Все ждали моего ответа. А я сказал, что не самовыдвиженец, что меня выдвинул цех, и если люди решат снять мою кандидатуру, то я так и поступлю. Ответом было громогласное «Нет!» почти всего собрания. Так я стал кандидатом.

Избирательная кампания была бурной. Вопрос о независимости страны тогда не поднимался, по крайней мере, в Гомеле; акцент делался на экономику. Я с понятным возмущением говорил о том, что в данной сфере КПСС всё «завалила», нефтедоллары «проели», делаем подлодки и ракеты, а прилавки совсем пустые, война в Афганистане никому не нужна, «кормим» прогнившие режимы, необходима кардинальная перестройка экономики. Выступал во всех общежитиях, малосемейках, даже в спецкомендатурах, где отбывают срок так называемые «химики». Первый тур, в виду того что желающих стать депутатами было много, победителя не выявил. Во второй со мной вышел врач В.Ключенович, ныне заместитель министра здравоохранения. Мне удалось выиграть с небольшим перевесом.

15 мая 1990 года открылась первая сессия вновь избранного парламента. Началась борьба между нами и так называемыми партократами, которых было почти 90%: директоры предприятий,

председатели колхозов, секретари райкомов, чиновники разного уровня, главврачи, директоры школ и др. Плюс ещё верный партактив в виде депутатов-делегатов — по 50 человек от ветеранов и инвалидов, которые назначались на собраниях соответствующих организаций. К слову, среди инвалидов оказалось и несколько вполне порядочных людей. Но некоторые, особенно руководители таких организаций, были более консервативны, чем партийные вожди. Многие публично демонстрировали свой демократизм и понимание проблем, но на деле оказались настолько зависимы от исполнительной власти, что в большинстве случаев голосовали так, как хотела эта власть. В любой момент их могли освободить от должности, то есть лишить доходов, поэтому они осторожничали. Лишь небольшая группа депутатов БНФ во главе с Зеноном Позняком не боялась острой полемики с партийно-правительственным большинством.

Я, хотя во многом и разделял их взгляды, в группу не входил, поскольку не был членом БНФ. Более того, в ту пору я ещё состоял в КПСС и не скрывал этого. Наоборот, неоднократно говорил, что партию необходимо перестраивать. Был уверен, что нужна многопартийность, конкурентная политическая борьба. Партия, которая всего одна и бессменно управляет страной, превращается в государственный орган, подавляющий любое инакомыслие ради того, чтобы одни и те же партийные вожди оставались у власти вечно.

В борьбе партийно-правительственной номенклатуры и оппозиции решался вопрос распределения должностей председателей парламентских комиссий. Одну из таких должностей оппозиция предложила мне. Удивительно, но и депутатское большинство с этим согласилось. Так я стал председателем Комиссии по вопросам труда, цен, занятости и социальной защищённости населения и членом Президиума Верховного Совета.

Помимо политических баталий в ВС, нужно было создавать новое, не советское законодательство, чем мы активно и занялись. Практически все новые законы по трудовым отношениям прошли через нашу комиссию. Их разрабатывали в различных госорганах, министерствах, ведомствах, институтах, однако на обсуждение Верховного Совета выносилось не более 10—15% всего того, что предлагалось перечисленными организациями. Всё «перелопачивалось» в комиссии, работали даже по ночам.



Хорошо мы делали или плохо, судить не берусь. Отмечу только, что трудовое законодательство в стране работало неплохо, пока после 1994 года новая власть не стала всё переделывать под себя.

О ГКЧП я узнал по радио, поскольку был в отпуске. Сразу же приехал в Минск. Выступал на митингах. От имени Президиума Верховного Совета Н.Дементей поддержал ГКЧП. Впоследствии он всячески от этого открещивался, хотя имеются документальные подтверждения. Часть членов Президиума придерживалась абсолютно противоположного мнения, что и было изложено в нашем заявлении, где происходящее было названо государственным переворотом. Несколько дней спустя с трибуны Верховного Совета я публично заявил о том, что в такой преступной организации, как КПСС, состоять омерзительно.

После падения ГКЧП вместо Н.Дементея избрали С.Шушкевича.

Одно время работал я и в Конституционной комиссии, но потом вышел из неё, поскольку те варианты, которые готовило большинство, меня не устраивали. Все они не имели правильного баланса властей, у президента было слишком много полномочий. Не случайно потом А.Лукашенко говорил, что Конституция писалась под В.Кебича — она давала просто «царские» полномочия. В этом А.Г. был прав.

Помню, как Г.Козлов, который тогда руководил прокебичевской группой «Беларусь», предложил провести «тайное поимённое голосование» по вопросу Конституции. Полный абсурд, но голосование состоялось.

Председателем комиссии я проработал до осени 1994 года, а весной началась президентская кампания. Я был в команде З.Позняка.

С Позняком мы проехали почти всю республику. Обычно первым выступал я на русском языке, громил экономический курс правительства, показывал всю нелепость советской экономической и социальной систем. Потом З.Позняк на белорусском языке озвучивал свою программу. Получалось неплохо. Но победил А.Лукашенко. Народ хотел популизма, и он его получил.

Вскоре меня пригласил С.Линг, который временно выполнял функции вице-премьера, и предложил стать министром труда. Позже я узнал, что мою кандидатуру назвал тогдашний глава администрации Л.Синицын.

Мая доктарская называлася «Інфарматыўныя параметры электрамагнітных сігналаў». Гэта тое, што цяпер называецца атрыманнем інфармацыі ва ўмовах выпадковых і датэрмінаваных (вызначаных) перашкод. Маскоўскі савет складаўся з найвядомейшых навукоўцаў.

— Куды ты лезеш? — пыталіся ў мяне добра дасведчаныя людзі. — Калі там правалішся, то доктарам ужо ніколі не станеш.

— А калі не праваліося, то ВАК (Вышэйшая атэстацыйная камісія СССР) абавязкова зацвердзіць. І ніякая ананімка не перашкодзіць, — адказваў я.

Так і сталася 13 траўня 1970 года (хаця ананімка і была, яе мне паказаў пасля ўручэння дыплома доктара навук старшыня савета). Асабіста мне было даволі проста здагадацца, чыіх рук гэта справа.

Заўсёды любіў выкладчыцкую работу, пачаў выкладаць яшчэ ў студэнцкія гады: у сваёй роднай школе замяняў настаўніцу фізікі, якая завочна заканчвала педагагічны інстытут і была на сесіі. Мне было прыемна зацікавіць клас рашэннем нестандартных фізічных задач, і не толькі са школьных падручнікаў. Вучні ж, са свайго боку, «правяралі» мяне, як тады модна было казаць, «на вашывасць», прапаноўваючы задачы ў тым ліку і са зборнікаў конкурсных задач для алімпіяд па фізіцы. Калі вярнулася настаўніца, то ледзь не страціла прытомнасць, бо яна была не надта вялікім хватам, але вельмі сумленным і працавітым чалавекам і прапаноўвала вучням толькі тыя задачы, якія папярэдне сама рашыла дома.

Аспіранцкая стыпендыя ў 62 рублі асуджала на вельмі сумнае існаванне. І я зарабляў тым, што праводзіў заняткі са студэнтамі па фізіцы ў Інстытуце народнай гаспадаркі і ў школах.

Пасля заканчэння аспірантуры мяне размеркавалі ў Акадэмію навук малодшым навуковым супрацоўнікам Інстытута фізікі. Адразу прыйшлося сутыкнуцца з фінансавымі цяжкасцямі. Кандыдацкую дысертацыю я на той момант яшчэ не абараніў, і мой аклад складаў усяго 83 рублі. Натуральна, гэта не задавальняла.

І тут да мяне прыйшоў чалавек з радыёзавода, дзе праз некаторы час я сутыкнуўся са знакамітым Лі Харві Освальдам і падчас практыкі зрабіў вельмі шмат цікавых рэчаў. Прапанаваў пайсці да іх, у спецыяльнае канструктарскае тэхнічнае бюро (СКТБ), якое толькі-толькі пачало працаваць. Яно распрацоўвала тую апаратуру, якую распрацоўваў і я. Мне параілі аб'яднаць гэтыя рэчы і назвалі суму акладу — 160 рублёў плюс 40% «прагрэсіўкі», калі будзе станоўчы вынік. Зразумела, гутарка ідзе пра грошы, якія былі пасля рэформы 1961 года.



Я вырашыў, што напісанню дысертацыі такая работа перашкаджаць не будзе. А радыёзавод, мабыць, стаў адной з лепшых маіх жыццёвых школ. Там былі вельмі добрыя практыкі, якім часам не хапала тэарэтычнага разумення таго, што яны робяць. Калі ты пабудуеш тэарэтычную мадэль, то потым ужо можна палепшыць і зробленае. Мне пашанцавала працаваць з такімі практыкамі, якія і вышэйшай адукацыі не мелі, але сапраўды стваралі нешта арыгінальнае. Са многімі шчыра пасябравалі, напрыклад, з Ізем Капланам. Ён вельмі здзівіўся, калі я прапанаваў, як палепшыць характарыстыкі распрацаванай ім прылады. Ён не без падстаў крытычна ставіўся да маладых супрацоўнікаў з вышэйшай адукацыяй, бо зробленыя ім прыборы звычайна былі лепшымі за іх распрацоўкі. Спачатку і мяне Ізя ўспрыняў як дылетанта з дыпломам, але, калі зрабіў тое, што я раіў, сказаў: «Ты першы чалавек, які сапраўды ведае арыфметыку і рэальна мне дапамог. Ад падлікаў тых, хто прэтэндуе на веданне вышэйшай матэматыкі, я яшчэ ніколі не адчуваў карысці».

З той пары я часта ўжываю словы «арыфметычны разлік», а не «тэарэтычнае абгрунтаванне».

Дарэчы, прыборы пад тагачаснымі назвамі «селектыўны ўзмацняльнік» і «сінхронны дэтэктар», распрацаваныя менавіта мной і таленавітымі самавучкамі з радыёзавода, выпускаліся радыёзаводам у Мураме дваццаць гадоў. У пэўным сэнсе гэта рэкорд.

### Пад знакам навукі

На жаль, кіраўніцтва СКТБ і радыёзавода адмовілася браць заказы на новыя распрацоўкі прыбораў для навуковых даследаванняў. Адразу я не разумеў чаму? Потым датумкаў: рухацца наперад прыемна, але рызыкоўна, прасцей удасканальваць старэчу. Такой працай, без перанапружання, у савецкі час можна было займацца многія гады, і дасведчаныя кіраўнікі ўсяляк адбіваліся ад новых распрацовак і выпуску новай прадукцыі. Іх можна было зразумець: не трэба дабівацца фондаў, гэта значыць уключэння ў дзяржаўны план забеспячэння абсталяваннем і матэрыяламі. Безнаяўныя грошы на рахунку прадпрыемства нічога не вырашалі. Без дзяржпланаўскіх фондаў на іх нельга было набыць неабходнае. Старая пра-

дукцыя дазваляла каціцца па наезджанай каляіне. Прасцей за ўсё было атрымаць фонды, як і ў мінулы год, плюс невялічкі дадатак на павелічэнне аб'ёмаў вытворчасці. Іншы падыход мог мець месца тады, калі быў бы пэўны зачын, але пераканаць кіраўніцтва, што ён у мяне ёсць, было цяжка. А ў балота ўдасканалення старэчы мяне было складана заманіць. Тым не менш сітуацыя, з якой я сутыкнуўся, стала для мяне выдатнай навукай на будучыню.

Пазней я заўсёды шукаў такія захады, каб, працуючы над планавай тэмай, забяспечанай пэўнымі фондамі і фінансаваннем, ажыццяўляць дзякуючы гэтым фондам і фінансаванню пошук новага. Наяўнасць створанага такім чынам «зачыну» дазваляла брацца за новыя распрацоўкі і зноў у межах новага фінансавання і фондаў, у тым ліку фонду заработнай платы, рабіць новы зачын. Пра гэта гаварылася як пра спалучэнне навукі з вытворчасцю, якое неабходна падтрымліваць і развіваць. А на самой справе трэба было старанна ўтойваць, што грошы па тэме, якую аплачвае заказчык, ты выкарыстоўваеш для таго, каб зрабіць зачын і без рызыкі папрацаваць і паспяхова завяршыць наступную тэму. На радыёзаводзе я не дайшоў да рэалізацыі такога падыходу і баяўся, што мая далейшая праца там будзе даволі сумнай.

Але пашанцавала. Менавіта ў гэты момант мяне знайшоў Аляксандр Мікалаевіч Пісарэўскі і прапанаваў перайсці ва ўніверсітэт. Яго запрасілі ў Мінск з Ленінграда, каб стварыць кафедру ядзернай фізікі. Я сказаў яму, што да ядзернай фізікі маю нязначнае дачыненне, на што ён адказаў: «Менавіта для ядзернай фізікі патрэбна самая сучасная электроніка, а да яе, па маім разуменні, Вы дачыненне маеце».

Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт — мая альма-матар. Мне там заўсёды падабалася, а тут яшчэ і аплата амаль такая ж, як на заводзе. Перайшоў, хаця, як аказалася, з СКТБ, а больш за ўсё з яго мудрым кіраўніком, сапраўдным прафесіяналам і цудоўным чалавекам Веньямінам Натанавічам Пумпянскім, расставацца было цяжка.

— Праз месяц-два я змагу значна павысіць вам аклад, ды і з супрацоўнікамі вы ўмееце ладзіць. Заставайцеся тут, — сказаў Пумпянскі, калі я прыйшоў да яго з заявай аб звальненні.

Прыйшлося шчыра прызнацца, што хачу перайсці ва ўніверсітэт, каб займацца навукай, і вельмі ўдзячны СКТБ за досвед, які там атрымаў.



Ва ўніверсітэце спачатку працаваў галоўным інжынерам навуковай лабараторыі пры кафедры, пасля абараніў кандыдацкую па тэме «Фізічныя прынцыпы выяўлення разведвальных прыёмнікаў». Гэтая тэма фінансавалася ваеннай часцю, якая з'яўлялася навукова-даследчым інстытутам у сістэме КДБ. Трэба было ідэнтыфікаваць тых, хто цікавіўся сігналамі і кодамі савецкіх радыёлакацыйных станцый і меў для гэтага спецыяльнае абсталяванне, якое па вонкавым выглядзе не адрознівалася ад прылад бытавой электронікі ці ад радыёпрыёмніка ў аўтамабілі. Мне ўдалося прыдумаць метад для таго, каб ідэнтыфікаваць такія прылады нават у выключаным стане.

Наша распрацоўка выкарыстоўвалася даволі доўга, выкарыстоўваецца яна і сёння, але ўжо для іншых мэтаў. У 1997 годзе мяне як аўтара падручніка па асновах радыёэлектронікі для ўніверсітэтаў запрасілі ў Томск на даволі спецыфічнае свята — 50-годдзе вышэйшай радыётэхнічнай адукацыі ў Сібіры. (Падручнік быў там перавыдадзены.) На адным з томскіх радыётэхнічных заводаў яшчэ працягвалі выпускаць прыбор, асновай якога быў узор, створаны мной у 1961—1962 гадах падчас працы над кандыдацкай дысертацыяй. Гэта крыху здзівіла, бо пасля я ўсё значна ўдасканаліў, і новы, прапанаваны мной метад дазваляў ствараць прыборы, больш адчувальныя ў 20—30 разоў.

У Томску я выступіў перад тымі, хто распрацаваў надзейны варыянт прыбора на аснове майго лабараторнага макета для кандыдацкай дысертацыі, распрацаванага ў 1962 годзе. Ні яны пра мяне, ні я пра іх нічога не ведаў. Я па-ранейшаму быў «універсітэтчыкам», яны — «абароншчыкамі», супрацоўнікамі заўсёды сакрэтнай абароннай прамысловасці.

Каб не тагачасны рэктар томскага Інстытута сістэм кіравання і радыёэлектронікі прафесар Іван Мікалаевіч Пустынскі, з якім мы цесна супрацоўнічалі, я б так і не даведаўся аб укараненні вынікаў маёй кандыдацкай дысертацыі. У сваю чаргу і ён, будучы кансультантам на заводзе, які выпускаў «мой» прыбор, таксама не ведаў, што я маю дачыненне да яго распрацоўкі. Такімі былі правілы гульні: парушэнне падпіскі аб «невыдаванні» пагражала доўгімі гадамі турмы.

Мой даклад на заводзе тамічы ўспрынялі на ўра, і мы разам пашкадавалі, што сакрэтнасць не дазволіла своечасова дасягнуць значна лепшых вынікаў у сапраўды дзяржаўнай справе.

Але вернемся да таго прызначэння. У канцы 1965 года мяне (беспартыйнага) паклікалі ў гаркам партыі і прапанавалі стаць прарэктарам па навуковай рабоце радыётэхнічнага інстытута (МРТІ). Здраджваць універсітэту было няёмка, але гарантаванне таго, што праз 2-3 месяцы атрымаю кватэру, было важкім козырам. Вельмі хацелася пазбавіцца прыбіральні з акенцам «бубновы туз» у нашым двары на Спартыўным завулку. На тым месцы зараз стаіць універсітэт культуры.

Сакратаром гаркама партыі тады быў Васіль Іванавіч Шарапаў — вельмі дзелавы, энергічны і, я б сказаў, мудры кіраўнік. Нікога не абражаючы, ён даў мне зразумець, што ў кіраўніцтве МРТІ павінны з'явіцца дасведчаныя «тутэйшыя», бо, на яго думку, там мнагавата не самых лепшых прывазных, у чым я хутка пераканаўся. На вялікі жаль, такіх кіраўнікоў, як В.І.Шарапаў, было ў нас вельмі мала.

Словам, я пагадзіўся. Праз тры гады ўдалося належным чынам наладзіць у МРТІ навуковыя справы, і я вярнуўся ва ўніверсітэт (праўда, не без прыгод, але гэта тэма для іншай размовы).

Я заўсёды захапляўся пабудовай апаратуры, заснаванай на новых прынцыпах. Сёння гэта называецца прыборабудаваннем на аснове інавацыі ў канструктарскіх распрацоўках. Павінен сказаць, што калі майго загадчыка кафедры пачалі выжываць з універсітэта, то я добра ўсведамляў прычыну: ён меў усе шансы прэтэндаваць на больш высокае становішча, быў небяспечным канкурэнтам для тых, хто прэтэндаваў на гэтыя пасады. І, як было прынята ў камуністаў-»інтэрнацыяналістаў», яго спынілі, скарыстаўшы тое, што ён быў габрэем. А каб усё выглядала прыстойна, мне прапанавалі падаць заяву на конкурс, каб заняць яго месца. Я добра ведаў конкурсныя парадкі і адказаў, што ёсць усе падставы аб'явіць конкурс на пераабранне, бо загадчык кафедры (Пісарэўскі) адпавядае самым высокім патрабаванням для такой пасады. Рэктар адказаў, што будзе конкурс на абранне, што так вырашыў Савет універсітэта, што Пісарэўскі таксама мае права падаць на конкурс, але, як рэктар, ён перакананы — Пісарэўскага не выберуць.

Я адмовіўся прымаць удзел у «закулісных гульнях» і пачуў ад рэктара: «Тады табе будзе дрэнна!» Сагітавалі іншага, але ён не «цягнуў» на кіраванне ўжо вялікай на той час кафедрай з мноствам таленавітых супрацоўнікаў і праз чатыры месяцы напісаў заяву аб адстаўцы.



Прафесар Пісарэўскі не пайшоў ні на якія здзелкі і вярнуўся ў Ленінград. Беларусь страціла двух цудоўных навукоўцаў: Пісарэўскага і яго жонку — сусветна вядомага хіміка, цудоўнага чалавека, доктара навук Галіну Ахатаўну Шагісултанаву.

Пасля іх ад'езду быў аб'яўлены новы конкурс. Я перамог і стаў загадчыкам кафедры з поўнай назвай «Кафедра ядзернай фізікі і мірнага выкарыстання атамнай энергіі».

У 1985 годзе ўніверсітэт наведаў першы сакратар ЦК КПБ Мікалай Слюнькоў. Яму вельмі спадабалася «мая» кафедра. Адразу пасля візіту ён параіў новаму рэктару акадэміку Леаніду Іванавічу Кісялеўскаму прызначыць мяне прарэктарам БДУ па навуковай рабоце з захаваннем на пасадзе загадчыка кафедры. У той час такая парада была фактычным загадам. Да гэтага месца прарэктара было занята адным з «партыйцаў пры навуцы», які прабраўся на высокую пасаду дзякуючы партбілету і здольнасці дагаджаць начальству. Рашэнне Слюнькова і для мяне, і для ўсіх іншых было поўнай нечаканасцю.

У наступным годзе здарылася чарнобыльская катастрофа.

Аб тым, што вецер нясе радыеактыўныя рэчывы, мы даведаліся раней за іншых, і вось як. Выкладчыцы, якая праводзіла лабараторныя заняткі ў лабараторыі кафедры, адна са студэнтак паказала вынікі зробленых ёю замераў радыеактыўнасці. Выкладчыца пасаромела студэнтку за абсалютна «дзікія» лічбы, параіла быць акуратнай і правесці новыя замеры. Новыя замеры радыеактыўнасці далі амаль такі ж вынік. Выкладчыца вырашыла, што сапсавалася апаратура, папрасіла лабарантку замяніць дэтэктар і ўзмацняльнік. Вынік зноў аказаўся такім жа.

Нешта падобнае адбылося і ў іншых лабараторыях кафедры, і стала ясна, што радыеактыўны фон вырас у дзясяткі разоў. Пазванілі ў Сосны, мяркуючы, што там нешта здарылася на рэактары. Там усё было ў норме. Зразумелі: радыеактыўнасць прынёс паўднёвы вецер.

Мы абсталявалі ў адной з лабараторый кафедры кантрольны пункт, у які мог звярнуцца кожны, хто хацеў зрабіць замер забруджання радыенуклідамі адзення, рэчаў і ежы. Мяне выклікаў да сябе тагачасны першы сакратар гаркама партыі Бажко і абвінаваціў у распаўсюджванні панікі. На што я адказаў: «Калі гаварыць пра партыйныя справы і дзейнасць, Вы для мяне аўтарытэт і начальнік,

а што да спраў фізічных і ядзерных выпраменьванняў, то тут не Вы, а я Вас таму-сяму магу навучыць». І пайшоў. Можна толькі ўявіць, які ён у той момант стаў раз'юшаны, бо ў кабінеце знаходзіўся не адзін...

У 1991 годзе, калі мяне абралі Першым намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета, з фізікай і якой бы там ні было сур'ёзнай дзейнасцю ва ўніверсітэце давялося развітацца, калі не лічыць таго, што да 1995 года я ўзначальваў Савет па абароне дысертацый. Да гэтага часу пад маім навуковым кіраўніцтвам былі выкананы і паспяхова абаронены 33 кандыдацкія дысертацыі.

## Пад знакам перамен

Ва ўніверсітэце не адзін раз паўставала пытанне выбараў, але я заўсёды адразу браў самаадвод. А тут мы сабраліся з маімі сябрамі на нейкі «сабантуй», і яны кажуць: «Заўтра сход, мы будзем вылучаць цябе кандыдатам у народныя дэпутаты. Дай сёння слова, што не адмовішся». Я доўга не пагаджаўся, але ў рэшце рэшт слова даў. Вылучылі, і я даволі лёгка прайшоў усе неабходныя этапы.

Цікавы выпадак. На сталічнай вуліцы Гурскага, у будынку аднаго з прадпрыемстваў, мы праводзілі перадвыбарны сход. Перад пачаткам была распаўсюджана папера, у якой гаварылася, што я тайны сексот КДБ, здрадзіў свайму бацьку і г.д. Многія пачалі пытацца пра аўтара, а на сходзе прысутнічаў трэці сакратар Фрунзенскага райкама партыі, які адказаў на пытанне так: «Гэта не мы і, хто пісаў, не ведаем». Аднак тут паднялася нейкая жанчына і сказала: «Ды што вы кажаце?! Па вашым загадзе вось гэтымі рукамі я друкавала гэтыя ўлёткі». Пад крыкі «Ганьба!» яму прыйшлося збегчы.

Па выбарчай акрузе нас вылучалася шэсць чалавек. Трое былі прыстойнымі людзьмі, траіх іншых у прыстойнасці не западозрыш. Большасць выбаршчыкаў прагаласавалі за мяне. Так у траўні 1989 года я стаў народным дэпутатам СССР.

Неўзабаве мяне праз тагачаснага сакратара парткама БДУ Віктара Гайсёнка, які зараз з'яўляецца беларускім паслом у Польшчы, запрасілі на пасяджэнне парткамісіі, дзе планавалася разглядаць пытанне аб тым, як сябе павінен паводзіць дэпутат-камуніст. Прыйшоў. Камісія прызначыла мне на 15.00, але ў гэты час мяне ніхто з прыёмнай не запрасіў. Мабыць, сябры камісіі хацелі прадэманстраваць мне сваю важнасць. Хадзілі з кабінета ў кабінет, займаліся нейкім справамі. Я сказаў Гайсёнку перадаць сябрам камісіі, што ў іх шмат свабоднага часу і за іх плячыма — нікога, а ў мяне часу мала, і за мной 220 тысяч выбаршчыкаў, таму няхай навучацца працаваць як належыць, а калі да мяне ёсць пытанні, то няхай прыходзяць на прыём да мяне ў прызначаны для гэтага час.



Я вельмі паважаю ветэранаў (а менавіта з іх складалася грозная парткамісія), але не заўсёды дзейнічаю ў адпаведнасці з іх парадамі і рэкамендацыямі, бо не яны, а я нясу поўную адказнасць за сваю дзейнасць.

А што да сакратара парткама ўніверсітэта, які мяне тады суправаджаў... Шкада, што той самы Віктар Гайсёнак — добры прафесар-фізік і неблагі выкладчык, які гатоў быў чытаць студэнтам курс фізікі на беларускай мове, сёння піша ліст еўрапарламентарыям, у якім расказвае, якая дэмакратычная і справядлівая ўлада ў Беларусі і якая несумленная Еўропа, бо чамусьці гэтага не ўсведамляе і хоча прыняць крытычную рэзалюцыю па Беларусі.

Прашу прабачэння за сентэнцыю, але чалавек сапраўды пазнаецца ў складаных умовах. Усе мае сябры як былі сябрамі, так імі і засталіся. Нікога з іх, «схадзіўшы» ва ўладу, я не страціў, таму што нікому не здрадзіў. А ў пэўных асобах разабраўся няддрэнна...

Калі ўсе прыбалты выдзеліліся з Савецкага Саюза, мне стала цалкам зразумела, што палітычны акцэнт трэба рабіць менавіта на гэтым, і неабходна абрацца народным дэпутатам Беларусі, якая ў той час называлася БССР.

Тады я ўзначальваў Мінскую гарадскую арганізацыю таварыства «Веды», і ўсе добра ведалі, што вылучацца планую менавіта ад гэтага калектыву. Аднак там было некалькі былых генералаў, якія ўпадалі ў шок ад таго, што я стаўлю знак роўнасці паміж Гітлерам і Сталіным. Ад іх і трэба было чакаць «сюрпрызу», таму, калі мяне вылучыла яшчэ і нейкае канструктарскае бюро, вырашыў нікому пра гэта не гаварыць.

І недарма. Таварыства «Веды» мяне вылучыла, але «генералы» ўпрасілі некалькіх чалавек адысці са сходу, а потым напісалі ліст «наверх», што ён быў неправамоцным.

У 1990 годзе мяне абралі без праблем, а ў 1996 камуністы на чале з Калякіным выставілі моцную альтэрнатыву — доктара фізіка-матэматычных навук. Прыйшлося пазмагацца і перамагчы...

## Пад знакам хлусні

На жаль, пад ім апошнія 16 гадоў даводзіцца жыць кожнаму з нас. Асабліва гэта тычыцца так званага «развалу» Савецкага Саюза.

Распавяду аб усім па парадку.

Перш за ўсё тут трэба пачаць з таго, што я ўжо казаў. У адрозненне ад многіх абранцаў па лініі Беларускага народнага фронту я добра ставіўся да некаторых прадстаўнікоў партыйна-гаспадарчай эліты краіны. Напрыклад, мне падабаўся Кебіч, таму што гэта вельмі разумны кіраўнік, але ў яго атачэнні было шмат падлюг, якія наўмысна спойвалі Вячаслава Францавіча. Раніцай — нармальны чалавек, а ў 12 гадзін ужо ўцёк.

Аднойчы ён прыйшоў да мяне і сказаў: «Вельмі дрэнныя ў нас справы. Рабі што хочаш, але нам трэба «зацягнуць» сюды Ельцына, бо газ і нафта фактычна залежаць ад яго. Наступную зіму мы не вытрымаем. Запрасі яго на паляванне, ён з табой сябруе». Просьба была такой шчырай, што я адразу пагадзіўся.

20 кастрычніка 1991 года ў Нова-Агарове праходзіла нарада вышэйшага кіруючага органа Савецкага Саюза Дзяржсавету, членам якога я быў. Звычайна гэта адбывалася так. Прыходзіў Гарбачоў і прыносіў на разгляд праект нейкага дакумента, які потым прымаўся ці не. У той раз ён прынёс праект новай саюзнай дамовы. На той час я быў даволі дасведчаны ў сферы дзяржаўнага будаўніцтва, таму адразу сказаў: «Уважаемый Михаил Сергеевич, с позиции дефиниций это весьма сумбурный документ, и мне было бы стыдно отстаивать его в нашем Верховном Совете. Там сразу же поймут, что Вы хотите сделать близкое к унитарному государство, где права директивного органа будет иметь президент. Это большая концентрация власти, чем была в СССР. Почему всё называется конфедерацией?».

Натуральна, былыя «цэкоўцы» Карымаў, Назарбаеў, Краўчук звыкла прамаўчалі, а падтрымаў мяне Барыс Ельцын, які выказаў крытыку па шэрагу іншых пазіцый. Гарбачоў усё гэта выслухаў і моўчкі выйшаў. Тады Карымаў кажа мне і Ельцыну: «Вы нас поссорили с Михаилом Сергеевичем, вы и мирите».

Мы пайшлі шукаць Гарбачова. Па дарозе я кажу: «Як тут у вас прыгожа! У нас таксама прыгожа, і я хачу запрасіць Вас на паляванне ў Белавежскую пушчу». Шчыра кажучы, раней я сам быў там толькі як турыст. Ельцын з задавальненнем пагадзіўся. Прэс-службы ўзгаднілі дату. Кебіч параіў запрасіць яшчэ і Краўчука. Кожны разумеў, што нам трэба сустрэцца без Гарбачова.



Так мы сабраліся ў Белавежскай пушчы, і калі пачалі гаварыць аб тым, што неабходна зрабіць, то зразумелі: без адпаведнай заявы (якую потым і зрабілі) мы можам толькі прасіць Гарбачова, каб памілаваў.

Самым актыўным распрацоўшчыкам гэтага дакумента быў Ягор Гайдар, якога я шчыра паважаў і пры жыцці, і цяпер. На мой погляд, толькі вечнае расійскае халуйства не дазволіла ім зразумець гэтага чалавека. Калі Бальцаровіча Польшча фактычна насіла на руках, то Гайдара Расія не зразумела. Можа, таму, што дзяржава непараўнальна большая, і таму, што ў пэўных напрамках Гайдар быў рамантыкам. Гэта быў Эканаміст і Палітык з вялікай літары.

Добра памятаю, як філосаф Генадзь Бурбуліс тады спытаў: «А что, если вам предложить для подписания фразу «СССР как геополитическая реальность и субъект международного права прекращает своё существование»?» Я разумеў, што пасля жнівеньскага путчу Гарбачоў кіруе краінай толькі намінальна, таму выказаў гатоўнасць падпісацца. Краўчук кажа: «И я подпишу». Ельцын: «А я тем более».

Працавалі над дакументам цэлы дзень, з 18 першапачатковых пунктаў засталося толькі 14, але пастаўленай мэты дасягнулі. Пазней Венецыянская камісія і іншыя вядомыя структуры ацанілі яго як узор вышэйшай юрыдычнай дасканаласці.

З нашага боку падпісаліся я і Кебіч, з украінскага — Краўчук і прэм'ер Вітольд Фокін, з расійскага — Ельцын і дзяржсакратар Бурбуліс.

Чарговы ілжывы міф, што гэта была «п'яная лавачка». Поўны нонсенс. Смешна слухаць. Гэта мне нагадвае цыгана, які прадае каня і так яго хваліць, што нават самому становіцца шкада прадаваць...

# АЛЕКСАНДР ЯРОШУК



**Подготовлено к печати 14.05 2007**

*Наверное, жизнь каждого из нас тоже чем-то похожа на киноплёнку. Но у А.Ярошука она начиналась с кинематографа в буквальном смысле.*

## Первые кадры

Я родился в одном из красивейших мест нашей страны — в деревне Внучки Каменецкого района Брестской области, рядом с Беловежской пущей, 16 ноября 1951 года. Скорпион, самый загадочный знак зодиака. Обычное детство, типичное для послевоенного поколения. Рос в крестьянской семье. Отец Илья Алексеевич умер 15 ноября 2004 года, накануне моего очередного дня рождения. Ему шёл 90-й год. Матери Прасковьи Акимовны не стало на двадцать лет раньше. Семья была многодетной: восемь детей — четыре брата и четыре сестры, я самый младший. В живых осталось шестеро.

Детские годы — уголок памяти, к которому человек всегда возвращается для того, чтобы найти опору в жизни, поскольку в этот период, по моему мнению, закладываются основы личности.

Конечно, работы в многодетной крестьянской семье всегда хватало. Но были и неподдельные детские радости, которые для нынешних детей могут показаться удивительными и смешными. Например, почти вселенским событием для нас была возможность посмотреть фильм. На это дело просто не было денег. До денежной реформы билет стоил 50 копеек, а после 1961 года — 5, но их ещё где-то нужно было найти. Вспоминаю, как мы совершали «набеги» на колхозный курятник. Куриное яйцо стоило ровно 5 копеек, то



есть один поход в кино. И было огромной трагедией, если тебя ловила птичница...

Жизнь после войны постепенно улучшалась, поэтому покупка очередных обновок становилась настоящим событием, особенно для сельских детей. Обновки приобретались дважды в год. Ничего более радостного в жизни я больше не испытывал. Мне очень хорошо запомнились мои первые ботинки, до этого я ходил босиком.

Самыми счастливыми праздниками для нас были Пасха и Яблочный спас. 19 августа 1782 года в нашей деревне началось строительство церкви. С тех пор каждый год этот день празднуют во всех окрестностях деревни. Слава Богу, храм стоит и сегодня. Это просто уникально.

А ещё запомнилось поголовное увлечение спортом. Как только выпадало время, мы обязательно во что-то играли. В деревне было футбольное поле, волейбольная и даже баскетбольная площадки. Всё делалось своими руками.

И никто из нас тогда не думал о какой-то идеологии. Кстати, именно наш родительский дом был тем местом, своего рода штабом, где часто собирались мои ровесники.

Отдельно хочется отметить любовь к чтению. С друзьями мы даже соревновались, кто больше прочитает книг за неделю. Библиотека была только в соседней деревне Ходосы. Я стал её третьим читателем после открытия и очень этим гордился. (Телевидения в наших местах ещё не было. Электричество появилось только в 1959 году.)

Помню, как долгими зимними вечерами младшие дети в семье садились ближе к лампе и читали вслух (в основном сказки), а остальные слушали. Мой «читательский дебют» состоялся в шестилетнем возрасте.

Читал я всё, что попадалось под руку. Больше всего увлекался военной прозой и очень популярным тогда Джеком Лондоном. Эта стихийная страсть к чтению и стала потом определяющей.

Название первого фильма, который я посмотрел, не помню. Тогда мне было лет шесть. Помню только, что фильм этот показывали в одном из домов, так как клуба в деревне не было. В памяти сохранились лишь фрагменты — множество солдатских фуражек.

Затем открыли клуб в Ходосах — деревянный барак с длинными лавками. Кино там показывали уже регулярно. Дух захватывало от

шпионских приключений. Домой после сеанса мы возвращались тёмной ночью. В каждом встречном мерещились шпионы. Жуть. Времена «холодной» войны...

Часто вспоминается фильм «На дальних берегах». Смотрел его раз 12.

Делом чести было получить расположение киномеханика. Он давал расклеить афишу очередного фильма и в знак благодарности бесплатно пускал на киносеанс. Счастливчик чувствовал себя на седьмом небе от радости.

### Отроческие кадры

Карибский кризис помню очень хорошо. С тревожным нетерпением мы ждали выступления Хрущёва, которое анонсировали много раз. Ощущение возможной войны было почти физическим. Запомнилось ликование отца, когда стало ясно, что войны не будет.

Меня назвали в честь брата мамы, который погиб за три дня до конца войны. Он похоронен в чешской Остраве. С отцом они случайно встретились буквально накануне. Так было угодно судьбе: воевали в разных частях, а увиделись на марше. Отец служил в полку гаубичной артиллерии, дядя был связистом. Он отца и окликнул. Говорили всего несколько минут. У дяди была вся грудь в орденах, хоть он и воевал всего лишь больше года, командовал отделением. Его слова: «Илья, прошу только об одном: что бы ни происходило, не замарай ни рук, ни совести. Умоляю и заклинаю: не надо здесь ничего брать. Вернёмся, всё сделаем сами». А происходило обычное мародёрство. И понять людей, которые всё потеряли, можно.

Погиб дядя так. Шёл тяжёлый бой. Перебило связь. Он построил своё отделение, чтобы кого-то послать на верную смерть. Все отводили глаза: война заканчивалась и умирать никому не хотелось. Дядя всё понял и решил идти сам. Исправил перебитый провод, восстановил связь. До окопов оставалось метров пятьдесят, когда рядом взорвалась мина. Похоронили его в братской могиле.

К сожалению, мне не довелось там бывать. В некотором смысле я живу и за него...

В начальную школу в соседней деревне пошёл в 1959 году. Здание школы располагалось под горой, а наверху стояла ветряная мельница. Зимой мы катались с горки. Учителя — бывшие партизаны Иван Васильевич и Полина Михайловна Стежко, муж с женой, — не могли нас заставить уйти домой. Потом на базе этой школы сделали восьмилетку.



Повторюсь: много читал, причём не только художественную литературу. Особенно любил историю и географию. Даже есть не садился без книжки. В старших классах учителя доверяли мне проверять сочинения и ставить за них оценки. Позднее, уже работая в ЦК КПБ и Миноблисполкоме, наводил страх на подчинённых лишь тем, что всегда легко находил в подготовленных документах грамматические ошибки.

В 1967 году окончил восемь классов. С успеваемостью проблем у меня не было никогда, а вот с поведением... К тому времени терпение учителей абсолютно иссякло, и мне в аттестат сделали запись «при хорошем поведении» (случай, уникальный для всего района). У всех остальных поведение было отличным. Мне же прямо сказали, что путь в девятый класс для меня теперь закрыт, да и в техникумах такие хулиганы не нужны. Меня это ещё больше раззадорило.

Отправил документы в Пинский гидромелиоративный техникум. Почему именно туда? В наших краях в то время набирал динамику пресловутый процесс мелиорации. Я даже работал в экспедиции. Помню, заработал целых 33 рубля. Для вчерашнего восьмиклассника это огромные деньги, сельские жители вообще их только-только стали получать.

В техникум я поступил, но учиться не поехал — принципиально пошёл в девятый класс Дмитровичской средней школы. Документы из техникума долго не высылали, неоднократно приглашали на учёбу. Я говорил об этом учителям, но они думали, что проблема в оценке по поведению, точнее, в том, что я не хочу её показывать.

Я всегда отдавал предпочтение гуманитарным наукам, а стал... агрономом, потому как агрономом был мой самый старший брат — Василий. Сестра Нина вышла замуж и переехала в Курск, на родину мужа. Туда же, поступать в сельхозинститут, поехал в 1960 году и Василий. Через девять лет по его стопам пошёл и я. Сегодня я нисколько не жалею о своём выборе и очень благодарен за него судьбе.

В институте каждый год тоже ставился вопрос о моём пребывании среди студентов. После второго курса даже заговорили об исключении за безобидную игру в карты. Нас «поймал» секретарь комсомоль-

ской организации, который буквально ворвался в комнату. (Игра в карты тогда была строжайше запрещена. Полный маразм!)

А на третьем курсе декан нашего факультета уже на полном серьёзе рассматривал вариант моего перевода в Гродно. В качестве аргумента он приводил следующее: мол, я из Западной Белоруссии, где Советскую власть установили только в 1939 году; отсюда моё вольнодумство, неприятие официальной идеологии.

### Карьерные кадры

Многие и сегодня убеждены, что нет ничего лучше коммунистического строя и советского образа жизни, а винить нужно лишь отдельные недостатки. Это не так. Порочна сама система. Увы, сейчас всё повторяется.

К сожалению, мои вузовские проблемы не ограничились несостоявшимся переводом в Гродно. Институт закончил успешно и имел право выбора. Но и здесь мне сделали «бяку»: на предварительном распределении я выбрал Касторенский район Курской области, где проходил практику. (Те полгода стали моим первым опытом взрослой жизни. Рыбалка, знаменитые курские соловьи... Я сразу «впрягся» в работу. Помню колхозного агронома Женю Иванова, с которым мы крепко сдружились и поровну поделили обязанности. Как мне нравилось работать! Это же настоящее чудо! Взять тот же фотосинтез. В почве лежат миллиарды зёрен, но они не прорастают. Процесс начинается только тогда, когда на семена при обработке почвы попадает луч света... Система в некотором смысле делала нас технократами, особенно когда речь заходила о партийной карьере. Например, большие шансы стать первым секретарём райкома партии всегда имел тот, кто был специалистом в сельском хозяйстве. Когда я столкнулся непосредственно с агрономией, то вскоре понял, что здесь технократический подход просто невозможен. Сельское хозяйство нужно воспринимать как некую философскую категорию, что возможно только в одном случае, если человек является собственником земли, хозяином. В других условиях он будет просто ремесленником. Исключения в данном плане лишь подтверждают общее правило.)

Окончательно меня распределили (вопреки выбору) на Смоленщину, в одну из «добитых до ручки» областей. И это ещё мягко сказано — тогда там в некоторых колхозах работали зэки.



Ректор сказал, что таково принятое решение. Я ответил, что в таком случае поеду туда, куда сам считаю нужным. Он заверил, что меня найдёт прокурор. Так я вернулся в родную деревню. Через несколько дней устроился агрономом в совхоз имени Димитрова, а спустя три месяца ушёл в армию. Служил в Татищево Саратовской области, в РВСН. Сейчас это место часто показывают в новостях: там размещены первые «тополя», а тогда были первые «СС-20».

После увольнения в запас (был последним «дембелем», так как не ходил в отличниках боевой и политической подготовки) вернулся в родной совхоз. Через восемь месяцев перевели главным агрономом в совхоз «Жабинковский».

В 1980 году решением райкома партии я вновь был переведён секретарём партийной организации колхоза «Луч» в том же районе и одновременно стал заместителем председателя. Через два года после майского пленума, который принял Продовольственную программу, в райкомах партии ввели должности заведующих сельхозотделом. Мне предложили, и я, не без мучительных колебаний, согласился. Начался процесс стремительного карьерного роста. Внутренне у меня до сих пор нет уверенности: то ли это стечение обстоятельств, то ли я что-то из себя представлял? Возможно, одновременно и то, и другое.

Спустя два года стал инструктором обкома партии, ещё через год — инструктором ЦК КПБ. Прошло меньше года, и меня избрали (как тогда избирали, всем известно) первым секретарём Клецкого райкома партии. Случай беспрецедентный, поскольку таких должностей все ждали 6—8 лет. Мне было только 35 лет.

Партийные привилегии тяготили, коллеги не понимали. Даже когда в официальной торговле невозможно было купить нормальное мясо, спецмагазинами не пользовался — мне это было противно.

Проработал там до февраля 1991 года. Назначили заведующим отделом аграрной политики ЦК КПБ. Это были бурные годы перестройки.

Многие мои коллеги могут подтвердить, что я был среди них «белой вороной», то есть поступал не так, как было принято, шёл «против течения». Даже Горбачёва поддерживал, когда его проклинали последними словами. Понимал, что дело не в одном человеке, который развалил страну и партию, — попробуйте развалите США, Францию, Великобританию или Германию. Это просто немыслимо.

В 1996 году меня как бы «воскресили» из небытия и позвали в новую систему власти. Произошло всё так: из архивов достали папку с личным делом и резюмировали — наш человек. Стал первым заместителем председателя Минского облисполкома.

Они ошиблись.

## Семейные кадры

Моя жена Надежда брестчанка. Окончила Брестский инженерно-строительный институт. Её дедушка с бабушкой жили в Ходосах. Директору школы, Владимиру Алексеевичу Дорошуку, коровы повалили забор, а у него оказалась сломана рука. Несмотря на своеобразие наших с ним отношений (кстати, я сохранил к этому человеку огромное уважение и, бывая в родных местах, всегда посещаю его могилу), мы с другом решили отремонтировать забор, но у нас не было пилы. Зашли в соседний дом, смотрим — там какая-то пигалица. Попросил дать пилу — она отказалась. Словом, мы сильно повздорили. Так и познакомились. Случилось это летом 1967 года.

Потом она приехала на Яблочный спас. Это, повторюсь, был крупный праздник для всей округи. Мы снова встретились, вечером я её проводил. Я тогда был уже студентом, а она училась в школе. Мы переписывались.

В сентябре я приехал на каникулы. Как раз в это время со службы вернулся мой старший брат Иван, приехала и Надежда. Встретились и опять поругались.

Помирились только через пять лет, опять на Яблочный спас...

Свадьба состоялась 14 февраля 1976 года, но тогда в СССР про День святого Валентина почти никто не знал.

У нас трое сыновей. Старший, Сергей, родился в 1976, 3 декабря в 00.10. 17 мая 1980 появился Валерий. Юрий родился 2 декабря 1983 года в 20.30. Между старшим и младшим сыновьями разница в семь лет три часа и сорок минут.

По моим стопам, то есть в сельское хозяйство, не пошёл никто.

Как отцу, считаю, мне сильно повезло. Сыновья — мои полные единомышленники, что касается не политики, а жизненных принципов. Между нами существует духовное взаимопонимание.



# СЯРГЕЙ АНТУСЕВІЧ



Падрыхтавана да друку 16.05.12

*Некалькі гадоў таму я першы раз размаўляў з Сяргеем Антусевічам і быў уражаны тым што менавіта ў яго паявіўся адзін з першых у Беларусі навігатараў GPS, а цяпер разумею, што ўсе тут цалкам лагічна, бо з самага дзяцінства ён, як кажуць, «сябруе з тэхнікай», а па жыцці яго вядзе другі навігатар — Свабоды.*

## Першыя арыенціры

Яны паявіліся разам з нараджэннем Сяргея на свет — 16 жніўня 1973 года. Адбылося гэта ў Брэсце. Альбо, як лічаць многія — у Бярэсці.

Калі маці, Галіна Якаўлеўна, успамінае той дзень, заўсёды прыгадвае неверагодную смагу і прэм'еру суперпапулярнага савецкага кінасерыяла «Семнаццаць імгненняў вясны». Знакамітыя кабзонаўскія песні даносіліся з усіх вокнаў.

З пачатку бацька Сяргея Яўген Сяргеевіч , працаваў на электра-механічным заводзе ў Брэсце. Потым яго прызвалі служыць у Латвію, у войскі сувязі, дзе той застаўся на «звышурочную». Неўзабаве перавялі ў Гародню, а потым у якасці саветніка накіравалі ў Афганістан..

Саветнікам дазвалялася браць туды сем'і — моцная ахова плюс адносна спакойная для «шураві» атмасфера першых гадоў «выканання інтэрнацыянальнага абавязку». У Гародні Сяргей скончыў шэсць класаў, а ў 1987 годзе ўжо вучыўся ў Кабуле.

Дарэчы, у суседнім з імі доме з жыў Наджыб, які пазней стане прэзідэнтам Наджыбулой, але запомнілася Сяргею зусім не гэта — кнігі.

Хто памятае, пацвердзіць, што ў савецкія часы гэта быў адзін з самых найбольш распаўсюджаных дэфіцытаў. Каб іх набыць, простым людзям трэба было здаць пэўную колькасць макулатуры і атрымаць адпаведны талончык.

У Кабуле кнігі прадаваліся свабодна. Савецкія выдаўцы вельмі эфектыўна працавалі на аўдыторыю «абмежаванага кантынгенту савецкіх войскаў». Больш за палову багажу сям'і Антусевічаў заўсёды складалі менавіта яны.

## Арыенцір — тэхніка

Пасля вяртання з Афганістана бацькоў, Сяргей Антусевіч працягнуў вучобу ў роднай пятай гарадзенскай школе.

Пасля яе сканчэння паспрабаваў паступіць у Брэсцкі тэхнічны універсітэт (назва сучасная — заўвага аўтара), аднак непаспяхова.

Як звычайна, прыярытэты ў нас змяняюцца з цягам сталення. Спачатку Сяргей Антусевіч хацеў звязаць сваё жыццё з біялогіяй і сельскай гаспадаркай — з захапленнем саджаў нейкія семечкі і ўважліва сачыў за тым, як яны растуць.

Пазней захапіла гісторыя. А яшчэ пазней тое, што звычайна называюць новымі тэхналогіямі.

Гарадзенскі «Азот» быў шэфам іх школы. Калі Сяргей Антусевіч вучыўся ў дзевятым класе, яны падарылі школе персанальны камп'ютар вытворчасці нямецкай фірмы «Шнайдар».

З гэтага моманту цікавасць да тэхнікі ў прыярытэтах перамагла ўсё іншае і свой лёс Сяргей вырашыў звязаць менавіта з ёй.

Пасля няўдалай спробы паступлення Антусевіч вярнуўся ў родную школу, дзе яго з задавальненнем узялі працаваць лабарантам кабінета фізікі. Дарэчы, пазней разам з дырэктарам сваёй школы ён будзе «дэпутатстваваць».

За год работы Сяргей Антусевіч падрыхтаваўся так добра, што наступным летам паступіў адразу ў дзве вышэйшыя навучальныя ўстановы. Добра ўяўляю, як гэта фраза выклікае ў чытачоў (мякка кажучы) «шмат пытанняў», таму адразу ўсё тлумачу.

«Завочна» Сяргей Антусевіч паступіў на матэматычны факультэт Гарадзенскага універсітэта, а «вочна» у Беларускі тэхналагічны інстытут (зараз таксама універсітэт — заўвага аўтара) на інжынера-механіка машын і апаратаў хімічных вытворчасцяў.



## Арыенцір — палітыка

Як і для большасці студэнтаў, для Сяргея Антусевіча вучоба пачалася з « на бульбы», якая ў дадзеным выпадку ператварыліся ў два тыдні ўборкі лёну.

1991 год. Пачатак незалежнасці. Хвалі мітынгаў. Бел-чырвона-белы сцяг. Усё гэта не магло не паўплываць на светапогляд будучага прафсаюзнага дзеяча. Да таго ж яшчэ ў школе бацька аднаго з яго аднакласнікаў быў у БНФ, так што «глеба» для іншадумства была ўжо падрыхтаванай.

Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што, калі ў 1996 годзе, яго размеркавалі на «Азот», сваё вяртанне ў Гародню Сяргей Антусевіч пачаў з заявы аб сяброўстве ў народным фронце. Дакладней, у яго маладзёвай суполцы, якую ж сам жа і стварыў. Стаў там намеснікам старшыні.

Менавіта ў гарадзенскай суполцы «Маладога фронту» ён пазнаёміўся з будучай жонкай Жаннай. Распісаліся ў лістападзе 1998-га, а трапіла яна туды ў пачатку года.

Дарэчы, Сяргей Антусевіч шмат гадоў з'яўляўся сябрам Сойма БНФ і менавіта з гэтым «брэндам» удзельнічаў ва ўсіх выбарчых кампаніях. Гэта я да таго, што прыналежнасць да афіцыйных «адмарозкаў» не перашкаджае перамагаць. Няважна пад якімі сцягамі змагаецца чалавек, галоўнае тут іншае — падтрымка простых людзей.

І яшчэ. Шчыра кажучы, мяне (як і многіх іншых) сур'ёзна стамілі «пачкаванні» у беларускай апазіцыі. Такое ўражанне, што яны больш змагаюцца паміж сабой, чым з «апошнім дыктатарам Еўропы». Не ў гэтым лі прычыны стабільна малой падтрымкі ў беларускім грамадстве?..

## Арыенцір — незалежны прафсаюз

У дзевяностыя гады мінулага стагоддзя незалежныя прафсаюзы было зарэгістраваць значна лягчэй, чым сёння. На «Азоце» афіцыйны статус ён набыў у 1992 годзе, а Сяргей Антусевіч прыйшоў туды ў 1999.

Дарэчы, пасля сканчэння ў 1996 годзе свайго ўніверсітэта Сяргей Антусевіч быў размеркаваны на «Азот». Што цалкам зразумела, калі ўлічыць адпаведнае накіраванне на вучобу.

Першы год ён працаваў слесарам, бо вольных месцаў на прадпрыемстве для інжынераў на той час не было. Чаму ўдзячны па наш дзень. Паявілася магчымасць сваімі вачамі убачыць, «як што працуе» і зразумець логіку людзей, якія зарабляюць на хлеб асабістай працай. У універсітэтах гэтаму не вучаць. Пагадзіцеся, досвед вельмі-вельмі каштоўны.

Амаль адразу пасля напісання заявы аб сяброўстве ў незалежным прафсаюзе, Сяргею Антусевічу прапанавалі займацца адукацыйнымі праграмамі. Накірунак важны перш за ўсё таму, што ў галіне працоўнага заканадаўства пастаянна нешта змяняецца.

А праз паўгады яму прапанавалі ўзначаліць арганізацыю.

Акрамя гэтага ў 2007 годзе на сёмым з'ездзе Беларускага незалежнага прафсаюза яго абралі сакратаром-скарбнікам. Звяртаю ўвагу, што гэтая структура з'яляецца толькі адным са складнікаў (самы вялікі) Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў, які ўзначальвае добра вядомы Аляксандр Ярашук.

Працягвалася гэта да красавіка мінулага года, калі на чарговым з'здзе яго абралі віца-старшынём Беларускага Незалежнага прафсаюза. Прабыў на такой пасадзе ён менш за год. 31 студзеня 2012 года на першым пасяджэнні пасля 8-га з'езда БКДП Сяргей Антусевіч быў абраны намеснікам узгаданага раней Аляксандра Ярашука.

Не раз даводзіцца чуць пра неверагодны ціск на сяброў незалежных прафсаюзаў і на гэтым сэнсе ім можна толькі выказаць шчырыя спачуванні. «Азот» у гэтым сэнсе — не выключэнне. Кожны год яго працаўнікі падпісваюць працоўныя кантракты. праходзяць пераатэстацыю і г.д. Адміністрацыя выкарыстоўвае такія магчымасці «адпаведным» чынам.

Калі Сяргей Антусевіч пачаў там працаваць, у незалежны прафсаюзе налічвалася каля 900 чальцоў, сёння іх засталося крыху больш за сотню. Магчыма, такія лічбы камусьці пададуцца даволі сумнымі. Мяне ж шчыра радуюць, бо гэта азначае, што ўлада, нягледзячы на татальныя «зачысткі», калі людзям прапануюць абіраць паміж кавалкам хлеба і асабістымі перакананнямі, на сённяшні дзень не дасягнула «эфекту спаленага поля».

## Арыенціры на будучыню

У 2002 годзе была абвешчана кампанія чарговых мясцовых выбараў, якія адбыліся ў годзе наступным, і Сяргей Антусевіч першы раз вырашыў балатавацца. І ніхто з яго бліжэйшага атачэння не стаў з гэтым рашэннем спрачацца.



Выбарчая акруга ў яго была невялікай — усяго сем тысяч выбаршчыкаў, якія ў асноўным жылі ў працоўных інтэрнатах. Хаця там спачатку было тры кандыдаты, асноўным сваім сапернікам ён не без пастаў лічыў тагачаснага першага сакратара гаркаму БРСМ, які лічыўся фаварытам.

Сяргея Антусевіча гэта не засмуціла. Ён перамог ў першым туры, перамог і ў другім. Інакш і быць не магло, бо для выбаршчыкаў ён быў «сваім хлопцам», тым больш што ўся выбарчая кампанія была пабудавана на прынцыпе «ад дзвярэй да дзвярэй».

Гэтыя словы мне прыходзілася чуць так шмат разоў, што, калі б яны цалкам адпавядалі рэчаіснасці, у краіне даўно быў бы іншы кіраўнік... А так... То лі «дзверы» былі не тымі... То лі не тымі былі тыя, хто да іх падыходзіў... То лі «паходы» паміж імі былі толькі ў папяровых справаздачах...

Шмат даводзілася чуць і пра фальсіфікацыі, у якіх ніхто (са свядомых людзей) ніколі не сумняваўся. Ведала пра іх і каманда Сяргея Антусевіча, але веды яшчэ не азначаюць гарантыю поспеху. Трэба ўмець разумна ім супрацьстаяць. Што і было зроблена.

Да бліжэйшых парламенцкіх выбараў улада ўжо «падрыхтавалася». Напэўна, нехта з мясцовых ідэолагаў добра разумеў, што перамагчы Антусевіча ў чэсным спаборніцтву практычна немагчыма і яго банальна не зарэгістравалі.

Канешне, гэта быў моцны ўдар па ўсёй камандзе Сяргея, аднак на гэтым яны не здаліся. Назіралі за выбарамі так пільна, што ніякіх фальсіфікацый зноў не было. Больш за тое, 52-я гарадзенская выбарчая акруга стала тады адзінай (!!!) у цэлай Беларусі, дзе выбары не адбыліся.

На маю думку, гэта яскравы прыклад таго, як трэба змагацца за сваю перамогу. Зразумела, у праціўнікаў беларускай улады ёсць рацыя скардзіцца на неспрыяльныя ўмовы, але трэба разумець і тое, што яны ніколі не будуць «цяплічнымі». На жаль, сітуацыя ў краіне для апанентаў улады значна пагоршылася ў параўнанню з тым, што было раней, аднак гэта не можа быць «вечным» апраўданнем усіх параз. Сумна, але рэальная работа ў нас даволі часта падмяняецца скаргамі на «крывавы рэжым»...



# АНТОН АСТАПОВІЧ

**Падрыхтавана да друку 06.03. 10**

*Прозвішча гэтага чалавека апошнім часам траплялася ў СМІ часцей, чым прозвішчы некаторых вядомых апазіцыянераў. Тлумачыцца гэта тым, што старшыня Таварыства аховы помнікаў Антон Астаповіч знаходзіцца ў апазіцыі не да канкрэтнай асобы, а да таго, як некаторыя ставяцца да нашага мінулага. І не істотна, з якога боку барыкад яны знаходзяцца.*

## Камяні юнацтва

Калі 23 кастрычніка 1964 года ў Асіповічах нарадзіўся хлопчык, то тады ніхто (акрамя Бога, канешне) не мог сказаць, што калісьці гэта немаўля будзе абараняць гістарычную спадчыну нашай нацыі. Магчыма, некаторым такі тэзіс падасца вельмі пафасным, але я, напрыклад, магу няшмат яшчэ прыгадаць асобаў, што не толькі змагаюцца за штосьці канкрэтнае, але час ад часу і перамагаюць.

Пасля школы Антон Астаповіч паступіў у Мінскую медыцынскую вучэльню. Скончыў яе ў 1984 годзе з чырвоным дыпломам і стаў фельчарам. Крыху паспеў папрацаваць на «Хуткай дапамозе» і паступіў у вядомы мінскі мединстытут, які пры сучаснай уладзе стаў універсітэтам.

Якраз у той момант студэнтаў пачалі прызываць у войска і дзяржава дала Антону Астаповічу магчымасць два гады падумаць пра свой лёс. А галоўнае — вызначыцца: працягваць далей вучобу або заняцца справай, якая да сэрца была бліжэй.

Восенню 1987 года Антон вярнуўся са службы, забраў дакументы з мединстытута і ўладкаваўся на працу ў чыгуначную бальніцу родных Асіповічаў. А ў 1989 годзе завочна паступіў (у 25 гадоў на



стацыянары амаль не вучацца) на гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Лагічна ўзнікае пытанне: навошта было «гарадзіць агарод» з медыцынай, бо гісторыя заўсёды падабалася больш? Адказ просты — пэўны ціск бацькоў. Людзі сталыя і практычныя, яны не лічылі гісторыю той сферай, дзе заўсёды будзе стабільны (у нашай краіне да гэтага імкнуцца ўсе) кавалак хлеба з маслам. Іншая справа — урач. Дарэчы, браты Грыцкевічы (абодва займаюцца гісторыяй) па адукацыі таксама медыкі...

У новай сферы Астаповічу адразу пашанцавала. Нягледзячы на тое, што ён вучыўся толькі на першым курсе, яго ўжо добра ведалі ў краязнаўчых і гістарычных колах, таму адразу ўзялі ў Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту на пасаду малодшага навуковага супрацоўніка ў аддзел фондаў, а праз год прызначылі загадчыкам сектара Цэнтральнай Беларусі ў экспазіцыйным аддзеле. Гэтаму музею ён аддаў больш за 16 гадоў свайго жыцця.

Пашчасціла (як лічыць сам Астаповіч) таксама ў тым, што ён (калі ўжо быў намеснікам дырэктара музея) некалькі гадоў выкладаў на той кафедры Універсітэта культуры, дзе кіраўніком з'яўляўся Анатоль Пятровіч Грыцкевіч. А дзякуючы кнізе «Факел Гіпакрата» (1987 год) Валянціна Грыцкевіча, адкрыў для сябе сапраўдную гісторыю беларускай медыцыны.

## Музейныя падмуркі

Большасць памылкова звязвае Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту са Строчыцамі, але дакладней будзе назваць вёску Азярцо, бо музей фактычная яе ўскраіна. На 150 гектараў музейнай зямлі з усёй Беларусі звозілі і рэстаўравалі помнікі традыцыйнай народнай архітэктуры.

Калі ў 2006 годзе Антон Астаповіч з музею звальняўся, шмат хто ўбачыў у гэтым нейкае палітычнае адценне, бо менавіта тады праходзілі прэзідэнцкія выбары. І гэта цалкам зразумела. Антон Астаповіч — даўні сябра Партыі БНФ. Нават у 1989 годзе прысутнічаў (ад Асіповічаў) на ўстаноўчым з'ездзе ў Вільні. І ў ніякія палітычныя структуры больш не ўваходзіў.

За 16 гадоў працы ў музеі Антон Астаповіч сфарміраваўся як адзін з самых вядомых у краіне спецыялістаў гэтай галіны, але я засяроджу ўвагу толькі на некаторых эпізодах.

Першы з іх датычыць адной з экспедыцый, у якіх супрацоўнікі музея займаліся выяўленнем і фіксацыяй помнікаў драўлянай архітэктуры, зборам этнаграфічнага (вуснага) матэрыялу, прадметаў музейнага значэння. З 1990 па 1996 год, калі было нармальнае фінансаванне, такіх экспедыцый ладзілася даволі шмат.

У верасні 1991 года была прынятая новая нацыянальная сімволіка і бел-чырвона-белы сцяг стаў дзяржаўным. Праз месяц адбылася экспедыцыя ў Клецк. Астаповіч з калегамі засяліўся ў гатэль, а насупраць — райвыканкам, над якім вісела нешта чырвона-зялёнае. І калі навукоўцам адзначалі нешта ў камандзіровачных лістах, Антон запытаўся: «А чаму вы парушаеце законы незалежнай Беларусі? Чаму ў вас вісіць тое, што адмянілі больш за месяц таму?»

Якая ж узнялася мітусня! Астаповіча завялі да намесніка райвыканкама, і той пачаў апраўдвацца: бачыце, там дым ідзе, латаем усё бітумам, баімся, каб новы сцяг не пакрыўся сажай, праз 3—4 дні скончым усе работы...

Спалохаўся кіраўнік так, што тэрміны былі значна скарочаныя, і ўжо праз некалькі гадзін над будынкам лунаў дзяржаўны сцяг. З гэтай нагоды Антон Астаповіч заўсёды жартуе, што над Клецкам у 1991 годзе бел-чырвона-белы сцяг узняў менавіта ён.

Самае цудоўнае ў экспедыцыях — сустрэчы з людзьмі, якія жывуць у беларускай глыбінцы. Напрыклад, у Шчучынскім раёне вучоным сустрэўся 80-гадовы дзед, які некалі быў польскім уланам і ўмеў крыху маляваць. У хаце вісеў намаляваны алеем аўтапартрэт, дзе ён на кані, а побач — маршал Пілсудскі.

У экспедыцыях Беларусь у нейкім сэнсе адкрываецца па-новаму. Як лічыць сам Астаповіч, не было б іх, не было б і яго знакамітых вандровак, бо падмурак быў закладзены тады, калі ён аб'ездзіў 85 працэнтаў Беларусі і ўбачыў усе найбольш значныя гістарычныя каштоўнасці.

Такіх людзей у Беларусі адзінкі...

## Ідэалагічны фундамент

Гэта цяжка ўявіць, але пэўны час Антон Астаповіч афіцыйна быў «галоўным ідэолагам» свайго музею. У 2002 годзе яго прызначылі намеснікам дырэктара па навуцы, а ў 2004 годзе з Міністэрства культуры прыйшоў загад, які патрабаваў ускласці на аднаго з намеснікаў дадатковы абавязак — адказнага за ідэалогію. Акрамя Астаповіча ў дырэктара было яшчэ два намесніка — па будаўніцтву і рэстаўрацыі, гаспадарцы. Да таго ж узрост у іх быў ужо пенсійны. Якая тут ідэалогія? Таму цалкам зразумела, што іншага выбару папросту не было.



Міністэрства гэта зацвердзіла, і нават калі ў 2006 годзе месца былога дырэктара заняла новая начальніца (яна потым і «з'ела» Астаповіча), «ідэалогію» ў яго не адабралі. Дарэчы, да тых абавязкаў ён і сёння ставіцца вельмі станоўча, бо, па вялікаму рахунку, там ёсць толькі тое, што закладзена ў Праграму Партыі БНФ — правы чалавека, нацыянальны характар дзяржавы, спадчына і г.д. Хто не верыць, хай адкрые любы афіцыйны падручнік. Пра лізаблюдства перад існуючым кіраўніцтвам там нічога няма. Гэта сучасныя чыноўнікі бачаць «паміж радкамі»...

Свой светапогляд Антон Астаповіч не хаваў ніколі, таму спакойна ставіўся да спробы ўбачыць у яго дзеяннях нейкую палітыку або пазбавіць ідэалагічнага чынніка. А былі яны неаднойчы, аднак заўсёды разбіваліся аб логіку мясцовага (вельмі прафесійнага) юрыста. Напрыклад, той «на пальцах» растлумачыў, што «забраць ідэалогію» магчыма толькі ў адным выпадку — у сувязі з павелічэннем нагрузкі па навуковай лініі з захаваннем службовай надбаўкі, бо дзейнічае Астаповіч у строгай адпаведнасці з існуючым падручнікам па ідэалогіі.

Імкненні ж былі супрацьлеглымі. Калі не атрымлівалася звольніць, трэба было зрабіць так, каб Астаповіч сышоў сам. І грошы тут — не апошні аргумент.

1 верасня 2006 года так і адбылося. Нягледзячы на тое, што праз некалькі дзён (9 верасня) музей святкаваў 30 гадоў з дня свайго стварэння, Антон Астаповіч напісаў адпаведную заяву і забраў працоўную кніжку. І з таго часу быў там усяго два разы. Адзін раз — выпадкова ў 2007 годзе, калі ў тых мясцінах здымалі фільм з яго ўдзелам. А другі — у жніўні 2009-га, калі праводзіў міжнародны валанцёрскі летнік і прыехаў туды ў рамках чарговай вандроўкі.

## Дзеля будучыні — у мінулае

Яшчэ ў 2004 годзе Антон Астаповіч пачаў супрацоўнічаць з адной незалежнай тэлестудыяй. Пісаў сцэнары, выступаў у якасці ўдзельніка, эксперта. Плюс удзел у розных творчых праектах (пуб-

лічныя лекцыі, арганізацыя валанцёрскіх работ), плюс знакамітыя вандроўкі па Беларусі. Да таго ж па характару Антон лёгкі на пад'ем, таму звальненне са стабільнай працы не з'яўлялася для яго нейкай жыццёвай трагедыяй.

Галоўным яго клопатам стала Таварыства аховы помнікаў (ТАП). Арганізавалі яго яшчэ ў савецкія часы, у 1966 годзе. Фармальна ў гэтым таварыстве Астаповіч з гадоў дзесяці, бо тады запісвалі ўсіх школьнікаў, а актыўна супрацоўнічае з гэтай арганізацыяй з 1990 года, калі пачаў працаваць у музеі і стаў валанцёрам. З паплечнікамі ён нават заснаваў моладзевую секцыю.

7 чэрвеня 2007 года на чарговым справаздачным з'ездзе Антона Астаповіча абралі старшынёй ТАП, і з таго часу ён займаецца (словы самога Астаповіча) «праваабарончай дзейнасцю» — адстойвае права нашай спадчыны на існаванне.

А абараняць, на жаль, ёсць што. Пры досыць неблагім заканадаўстве ў гэтай галіне амаль цалкам адсутнічаюць механізмы правапрымянення законаў. У дзяржавы нават няма паўнавартаснай інспекцыі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны. У той жа Літве толькі ў цэнтральным апараце Дэпартамента аховы помнікаў працуе амаль 120 чалавек. Плюс чалавек 50 рэгіянальных інспектараў. Тое ж самае ў Польшчы і нават у Азербайджане.

У штаце Упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ёсць 15 адзінак. Фактычна там працуе 11 чалавек. А ўсе рэгіянальныя інспектары (у нагрузку да галоўнай дзейнасці) падпарадкоўваюцца і цалкам залежаць ад мясцовай выканаўчай улады, якая часцей за ўсё і з'яўляецца першым парушальнікамі заканадаўства аб ахове спадчыны. Пры такой сістэме ніякі рэальны кантроль немагчымы.

Адзінае выключэнне — тое, што робіць Таварыства аховы помнікаў, якое з'яўляецца цалкам грамадскай структурай. ТАП перашкаджае самавольству чыноўнікаў, і ў выканаўчай улады яно як бяльмо на воку.

Калі параўнаць музейныя экспедыцыі Антона Астаповіча і яго знакамітыя вандроўкі, то атрымаецца, што страцілі мы за апошнія гады даволі многа. Перш за ўсё — сядзібна-паркавыя комплексы. Раней іх было даволі шмат, а зараз амаль не засталося. Згодна з зацверджаным Саўмінам у мінулым годзе планам развіцця экатурызму, інвестары могуць набыць толькі 45 аб'ектаў, а іх у Беларусі некалькі соцень. І хто можа даць гарантыю, што там не будзе нешта лубочнае, накшталт Траецкага прадмесця?..



Пра вандроўкі, якія ладзіць Антон Астаповіч, можна распавядаць доўга, таму я абмяжуюся толькі некаторымі лічбамі і фактамі.

Напрыканцы 2002 года ён з аднадумцамі стварыў незарэгістраваную ініцыятыву «Беларускі шлях» і пачаў ладзіць «Вандроўкі ў мінулае», бо традыцыйныя турыстычныя маршруты «ахапляюць» толькі 10 працэнтаў таго, што ёсць у нашай краіне. У 2007 годзе Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» далучылася да арганізацыі вандровак. Па самых сціплых падліках, іх ужо адбылося больш за дзвесце.

Па ўсёй Беларусі сёння сябрамі ТАП з'яўляюцца 1800 чалавек. Значная сіла, прычым не патэнцыйная, а наяўная. ТАП шмат робіць ужо сёння...



# ЯКАЎ БАСІН

Падрыхтавана да друку 25.03.03

*Шмат хто лічыць габрэйскую тэму даволі небяспечнай. Магчыма, з гэтай прычыны гучней за астатніх пра беларускіх габрэяў разважаюць альбо рэлігійныя артадоксы, альбо антысеміты. Якава Басіна нельга назваць прыхільнікам моцных заяў, але яго голас добра чуюць і першыя, і другія. І «паліваюць» з абодвух бакоў. Самы дакладны паказчык таго, што чалавек кажа праўду.*

## Суровы пачатак

Але першае слова Якава Басіна было не пра гэта. Прагучала яно 28 жніўня 1939 года ў Мінску. Магчыма, калісьці таму, хто разгадае сэнс першага чалавечага крыку, дадуць нешта накшталт Нобелеўская прэміі, а пакуль можна толькі адзначыць тое, што з часам добрае валоданне словам стане амаль галоўным у яго жыцці.

Сям'я Басіна складвалася як бы з дзвюх галін. Дзед па лініі маці, таксама Якаў, быў родам з Волагды. Яго жонка памерла ад «іспанкі» адразу пасля Грамадзянскай вайны, пакінуўшы яму трох дачок. З імі дзед пераехаў спачатку ў Марыупаль, а потым у Гомель.

Уладкаваўся працаваць на так званае «гарэлае балота», дзе тады месціўся дрэваапрацоўчы камбінат (цяпер раён вакзала), механікам. Слыў мясцовым «кулібіным», бо мог самастойна разбіраць і збіраць такія складаныя прыборы, як арыфмометр. Для самавука, які не меў сур'ёзнай адукацыі, гэта, кажучы сённяшнім слэнгам, было «крута». Адукацыю дзед даў сваім дочкам. У прыватнасці, маці Якава Басіна Рэвека Якаўлеўна скончыла Мінскі будаўнічы тэхнікум.

Па лініі бацькі карані Якава Басіна ідуць у Пагост, што пад Салігорскам. Сям'я там была вялікай — дванаццаць дзяцей. Бабуля Якава была самай малодшай, таму калі ў яе нарадзіўся сын, то амаль адначасова на свет з'явіўся і яго дзядзька. Першы (Зіновій Самуілавіч) стаў бацькам Якава Басіна, другі — стрыечным дзедам.



Як і Рэвека Якаўлеўна, Зіновій Самуілавіч вучыўся ў Мінскім будаўнічым тэхнікуме. Там яны і пазнаёміліся, пабраліся шлюбам і менавіта адтуль разам паехалі ў Гомель.

Добра вядома, што гэты горад немцы захапілі толькі ў другой палове 1941 года. Бацька Якава Басіна атрымаў «браню» і займаўся эвакуацыяй дзіцячых дамоў, якіх на той час было вельмі багата. Амаль апошнім эшалонам Зіновій Самуілавіч выратаваў ад смяротнай акупацыі і сваю сям'ю. Так Басіны апынуліся ў Ленінабадзе. У родны горад вярнуліся толькі пасля вайны.

## Самастойны пачатак

У 1958 годзе Якаў Басін паступіў у Мінскі медыцынскі інстытут. З трэцяга разу і толькі дзякуючы таму, што да гэтага вучыўся ў медвучэльні, якую скончыў на «выдатна». Пэўныя абмежаванні наконт праславутай «пятай графы» былі, як вядома, не толькі ў царскай Расіі, але і ў СССР, хаця там і любілі паразважаць наконт нейкага «пралетарскага інтэрнацыяналізму».

Калі больш глыбока «капнуць» тэму габрэйскіх прафесій, то стане цалкам зразумела, што прыярытэты тут узніклі пад уплывам пэўных абставінаў. Тое, што большасць месцаў у медычнай сферы займаюць прадстаўнікі менавіта гэтай нацыі (лепшыя спецыялісты), абгрунтавана адразу некалькімі фактарамі.

Адзін з іх — рэлігійны. У адрозненне ад прадстаўнікоў іншых канфесій (тых жа хрысціян), іудзеі не так моцна баяцца чалавечай крыві і не ставяцца да яе, як да нечага супермагічнага.

Другі — цалкам практычны. Паколькі ў царскіх інстытутах для габрэяў былі працэнтныя абмежаванні, яны, як людзі пераважна заможныя, накіроўвалі сваіх дзяцей атрымліваць адукацыю за мяжу. Вышэйшая адукацыя давала яшчэ адзін «бонус» — дазваляла жыць за межамі «рысы аседласці». Каб было больш зразумелым, наколькі медыцына была габрэйскім прыярытэтам, спашлюся на адзін гістарычны прыклад.

У 1492 годзе габрэяў, як вядома, выгналі з Іспаніі. Мала таго, што за сто гадоў гэтая краіна з першых роляў у Еўропе перамясцілася ў «другі эшалон», дык яшчэ і на побытавым узроўні пачалі

ўзнікаць казусы. Напрыклад, калі захварэла каралева Ізабэла, яе лячыў... ветэрынар.

У 1963 годзе Якаў Басін ажаніўся з мінчанкай, у 1964-м скончыў медыцынскі інстытут і быў размеркаваны ў адну з участковых бальніц Мінскай вобласці. Другім урачом. Хто знаёмы з тагачаснай спецыфікай, пацвердзіць — другі ўрач — гэта сапраўдны спецыяліст «шырокага профілю», якому даводзілася быць і хірургам, і тэрапеўтам, і неўрапатолагам.

У хуткім часе яго «забралі» ў Смалявіцкую раённую бальніцу. Рэнтгенолагам, аб чым і марыў. Але паколькі спецыялістаў і ў раённай бальніцы не хапала, Якаву Басіну даводзілася выконваць функцыі і іншых калег, нават памочніка адзінага ў бальніцы гінеколага.

Апошняе яму вельмі не спадабалася. Басін папрасіў свайго галоўурача Мар'ю Цімафееўну Зубакіну даць яму любую іншую работу. І атрымаў ад яе прапанову стаць намеснікам галоўнага ўрача па арганізацыйна-метадычнай рабоце. Так лёс нечакана вызначыў новы паварот у біяграфіі Басіна.

Са Смалявічамі для Якава Басіна звязаны і яшчэ адзін даволі значны «момант». Галоўурач прапанавала аднаму навукова-даследчаму інстытуту сваю бальніцу ў якасці базы для вывучэння праблем туберкулёзу. Поспехі былі такімі значнымі, што сёння, калі гэтае ліха паўстае зноў, становіцца нават крыўдна, што напрацоўкі папярэднікаў належным чынам не выкарыстоўваюцца зараз.

Праз некаторы час Якаў Басін са Смалявіч сышоў і ўладкаваўся рэнтгенолагам у абласны туберкулёзны дыспансэр. Потым быў санаторый «Крыніца», а апошнія 11 гадоў сваёй медыцынскай практыкі ён адпрацаваў у клінічнай бальніцы хуткай дапамогі.

Якім быў спецыялістам, даволі красамоўна сведчыць той факт, што ў 1972 годзе Басіна ўзнагародзілі знакам «Выдатнік аховы здароўя», а праз два гады ён стаў лаўрэатам Усесаюзнай прэміі па барацьбе з туберкулёзам.

На пенсію (для рэнтгенолагаў — 50 гадоў) ён сышоў у 1998 годзе ў якасці ўрача першай катэгорыі.

### Нечаканы працяг

На жыццё кожнага з нас аказваюць уплыў самыя розныя фактары. Для Якава Басіна такім першым фактарам, напэўна, стала рашэнне міністра аховы здароўя СССР аблегчыць работу ўрачоў і ўскласці ўсе «папяровыя» функцыі на сярэдні медыцынскі персанал. Адпаведна, у навучальны працэс сярэдніх медыцынскіх устаноў увялі «Машынапіс», які Якаву адразу спадабаўся.

Другім «фактарам» трэба лічыць гендэрны дысбаланс на курсе Басіна ў медвучэльні, дзе на 180 дзяўчынак прыходзілася толькі шэсць юнакоў. Па савецкай традыцыі, у такіх умовах перавага аддавалася «моцнаму полу», асабліва ў грамадскай дзейнасці. На Якава «павесілі» радыёгазету.

Кожны тыдзень ён рабіў паўгадзінную перадачу, адзін ва ўсіх іпастасях. І таму прыйшлося хутка вучыцца рыхтаваць сцэнары і пісаць тэксты, артыкулы для сваіх праграм.

Друкавацца Якаў Басін пачаў з 1957 года. З таго часу з-пад яго пяра выйшлі 5 кніг, у тым ліку манаграфіі, больш за 200 розных артыкулаў. У 1998 годзе Басін стаў сябрам Беларускай асацыяцыі журналістаў, а праз год і Міжнароднай федэрацыі.

Захапленне словам адгукнулася новым захапленнем, калі ён студэнтам па тэлебачанні ўбачыў Клуб вясёлых і знаходлівых (КВЗ). Для чалавека, які на многіх канцэртах вёў канферанс і нават выпісваў польскія «Шпількі» (мову вывучыў самастойна), гэта сталася сапраўдным адкрыццём, цудам. Вырашыў стварыць свой КВЗ, спачатку ў спартовым лагеры, а потым у сваім інстытуце.

Далей Басіну, можна сказаць, пашанцавала. Вядомы спартовы аглядальнік Мікола Петрапаўлаўскі, які вучыўся разам з ім, аднойчы прывёў на выступ супрацоўнікаў беларускага тэлебачання. Яны і прапанавалі зрабіць нешта агульнанацыянальнае. Так КВЗ у сакавіку 1964 года з'явіўся ў маштабах цэлай краіны, а Якаў Басін стаў адным з заснавальнікаў яго ў Беларусі.

Акрамя гэтага Якаў Басін заняўся актыўнай грамадскай дзейнасцю. Стаў рабіць гэта ў рамках габрэйскай абшчыны Беларусі, СССР і на міжнародным узроўні. Нагадаю, што было ўсё ў 1988 годзе, калі яшчэ добра памяталі, хто такія «бязродныя касмапаліты».

З сакавіка 1989 года Якаў Басін стаў сябрам Мінскага аб'яднання габрэйскай культуры. У гэты ж час узяў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы першага з'езда Канфедэрацыі габрэйскіх грамадскіх арганізацый і абшчын СССР Ваада (у перакладзе — 'савет'). Быў абраны сябрам прэзідыума. Удзельнічаў ва ўсіх з'ездах гэтай структуры.

У красавіку 1991 года Якаў Басін становіцца сустаршынёй, а з 1993 года намеснікам старшыні Саюза габрэйскіх грамадскіх аб'-

яднанняў Беларусі. І бярэ ўдзел у шматлікіх мерапрыемствах Сусветнага, Еўрапейскага і Еўраазіяцкага габрэйскіх кангрэсаў, а таксама ў рабоце Сусветнай сіяністкай арганізацыі.

З 1995 года з'яўляецца прэзідэнтам Беларуска-прыбалтыйскай асацыяцыі абшчын прагрэсіўнага іудаізму. Момант вельмі важны для разумення пэўных жыццёвых арыенціраў Якава Басіна. Галоўным паняццем тут з'яўляецца слова «прагрэс».

### Працяг, які будзе абавязкова

Магчыма, некаторыя не пагодзяцца з такім меркаваннем, але, на мой погляд, беларускія апазіцыянеры значна страцілі ад таго, што не змаглі зрабіць сваімі сябрамі ўсе габрэйскія структуры. То бок тую частку «трэцяга сектару», якую яны памылкова палічылі непатрэбнай для дасягнення мэты.

Адзін з тагачасных дэмакратычных лідараў у адказ на выступ Басіна тады нават сказаў, што трэба спачатку падняць беларускую нацыянальную самасвядомасць і развіць перш за ўсё беларускую нацыянальную культуру. Маўляў, толькі калі «мы станем на ногі самі», дапаможам усім нацыянальным меншасцям. Зразумела, чакаць нешта эфемернае ніхто не хацеў.

Наколькі я ведаю, многім з першай хвалі тагачасных адраджэнцаў сёння вельмі сорамна за свае даўнія памылковыя погляды, але факт застаецца фактам: улады даволі разумна «разыгралі» так званую «габрэйскую карту».

Магчыма, тады і былі ўпершыню выкарыстаныя самыя эфектыўныя метады барацьбы з любым іншадумствам — раскол і кантроль над «сваімі» структурамі. Але тут узнікае другое пытанне: наколькі іх можна лічыць «сваімі»? Яшчэ з дзяцінства мы ведаем, што «першае слова даражэй за другое», і, калі кіраўнік дзяржавы агучвае амаль пячэрныя погляды, то сакрэтны бліц-крыг у Ізраіль аднаго з яго ідэалагічных паплечнікаў наўрад ці здольны на нешта істотна паўплываць.

Зрабіць выгляд, што ўсе крыўды ў мінулым, яшчэ не азначае адсутнасць падстаў узнікнення іх у будучым. Тым больш, калі гутарка ідзе пра нацыю, якую «ганялі» па свеце амаль дзве тысячы гадоў... І якая ніколі не забудзе, кім быў Адольф Гітлер...

Дзякуй Богу, з часам такія адносіны да «габрэйскага пытання» з боку беларускіх апазіцыянераў змяніліся кардынальна. І не толькі



таму, што яны не дасягнулі дэмакратычных мэтаў, агучаных у мінулым стагоддзі. Проста стала абсалютна зразумелым, што дасягнуць іх можна толькі разам з іншымі.

23 жніўня 2009 года, у дзень 70-годдзя з моманту падпісання сумна вядомага пакту Молатава-Рыбентропа, мне пашанцавала пабываць у расійскай Катыні і пачуць выступ там Якава Басіна. Тады ён сказаў, што габрэі, у адрозненне ад славян, якія пра памерлых альбо агучваюць нешта станоўчае, альбо далікатна маўчаць, гавораць толькі праўду.

Асабіста мне такая логіка падабаецца больш.



# ІРЫНА ВІДАНАВА

**Падрыхтавана да друку 01.06.12**

*З самага пачатку работы над гэтым нарысам я ведаў, што ён стане адзіным, які не будзе надрукаваны ў газеце «Новы час». Па прычынах выключна этычных, бо яго гераіня — дачка галоўнага рэдактара выдання, а прозвішча Кароль «страціла», калі выйшла замуж. Аднак мой журналісцкі выбар адбыўся зусім не па гэтай прычыне. І нават не таму, што мы калегі. Проста зрабіць інакш было б цалкам нелагічна, бо Ірына Віданава — вельмі заўважная прадстаўніца грамадзянскай супольнасці Беларусі.*

## Дзяцінства

З меркавання самой Ірыны, яно было цудоўным. І не таму, што яна нарадзілася пад знакам «Казярога» (10 студзеня 1978 года, Мінск), а таму, што пашчасціла на бацькоў, старэйшага брата, дзядуляў і бабуляў на абодва радаводы.

Дзяцінства праходзіла ў звычайнай двухпакаёўцы сталічнай «Курасоўшчыны». У сямейнай атмасферы прысутнічала не патрыярхальная вертыкаль «бацькі—дзеці», а ўзаемная любоў. Там не крычалі, не чыталі натацый, не павучалі і выхоўвалі, а размаўлялі, спрачаліся, іранізавалі. І чулі адзін аднаго, не зважаючы на ўзрост. Кнігі на паліцах былі не дэталямі інтэр'ера, а элементам паўсядзённага жыцця.

Як патлумачыў мне Аляксей Кароль, узаемаадносіны з дзецьмі яны з жонкай імкнуліся ладзіць на тых жа прынцыпах павагі, што і з дарослымі, толькі з меншым досведам і ведамі.

Што азначала, быць да іх больш уважлівым і пяшчотным, не раздражняцца, але і не сюсюкаць, проста любіць. Самадысцыпліна і самаарганізацыя — не па прымусу, а па ўласным разуменні на сваю ж карысць. Пры такім стаўленні бацькоў, напоўненымі любоўю, павагай ды сапраўдным сяброўствам заўжды былі і застаюцца адносіны паміж Ірынай і яе старэйшым братам Сяргеем.



Аляксея Сцяпанавіча Караля, якому і належыць ідэя гэтай серыі нарысаў, добра ведаюць не толькі журналісты. Кандыдат гістарычных навук, палітолаг, адзін са стваральнікаў партый сацыял-дэмакратычнага накірунку. Менавіта ён рэдагаваў забароненую ўладамі «Згоду» і менавіта ён змог «запусціць» апазіцыйную газету «Новы час». У апошняе дзесяцігоддзе такое амаль немагчыма...

Вольга Мікалаеўна Кароль па адукацыі настаўнік біялогіі і хіміі. Але пры гэтым добра ведае літаратуру, мастацтва. Працавала ў харэаграфічным каледжы. Выключна добразычлівая да людзей. Пра такіх кажуць: «Выратоўвае ўвесь свет», бо ўвесь час некаму дапамагае. Удзельніца апазіцыйных дэманстрацый і мітынгаў, хаця наўпрост і не з'яўляецца сябрам нейкай структуры.

Да дзявятага класа вучылася Ірына ў СШ №119 з музычным ухілам. З чатырох гадоў танчыла ў дзіцячым ансамблі «Равеснік». Часткова пад уплывам бабулі Лізаветы Андрэеўны Полазавай. Паходзіла бабуля са шляхецкай французска-расійскай сям'і і лічыла, што дзяўчына павінна быць высокаадукаванай, у тым ліку, пры любой прафесіі, умець іграць на нейкім музычным інструменце, танчыць (быць грацыёзнай) і валодаць хаця б адной замежнай мовай.

Музыкай і танцамі ў дадатак да стандартнай школьнай праграмы Ірына займалася з асалодай, але так склаўся яе лёс, што ўсе каштоўнасці бабулі дапамаглі ў прафесійным развіцці дзяўчыны і сталі часткай яе АСОБЫ.

## Першае выпрабаванне

Пасля заканчэння дзевяці класаў Ірына паступіла ў Ліцэй БДУ на «гісторыю і філалогію», дзе традыцыйна быў «шалёны» конкурс. Я не пра «конкурс пап и мам». На той час гэта была ўстанова новага фармату, а яе стваральнікамі былі людзі высокіх памкненняў з марай замест школы савецкай казёншчыны стварыць школу не толькі глыбокіх ведаў, але і ліцэйскага духу — свабоднай думкі, самакіравання, вольналюбства.

Адзін толькі штрых з ліцэйскага жыцця таго першага перыяду: на вечарынах, што ладзілі выключна ліцэісты, абавязкова былі і па-

родыі на выкладчыкаў, у тым ліку на тагачаснага дырэктара ліцэя Генадзя Уладзіміравіча Пальчыка. «Блат» тут не вырашаў анічога... Паступіць у ліцэй — не самае галоўнае... Там яшчэ трэба было паспяхова вучыцца...

Ірына паступіла ў ліцэй у 1992 годзе, а скончыла ў 1994. Менавіта на той час прыходзяцца першыя крокі незалежнасці нашай краіны і ўсталявання дэмакратычных свабод. Хто памятае, пацвердзіць, што гэта была сапраўдная (і моцная) хваля нацыянальнага адраджэння. Шматлікія мітынгі. «Талака». Першыя кнігі Уладзіміра Арлова.

Спадзяюся, астатнія літаратары не пакрыўдзяцца на мяне за такі «ланцужок». А прозвішча паважанага мной пісьменніка я ўзгадаў перш за ўсё па той прычыне, што менавіта па яго творах Ірына рыхтавалася да ўступных іспытаў у ліцэй.

Праз два гады вучобы паўстала праблема выбару паміж гісторый і філалогіяй. Перамог першы накірунак, і ў 1994 годзе Ірына Кароль паступіла на гістфак БДУ. Падчас студэнцтва яна выйшла замуж і стала Віданавай. Менавіта гэта прозвішча больш вядома і ў нашай краіне, і за мяжой, таму ў далейшым я буду выкарыстоўваць толькі яго.

І яшчэ. Пачатак дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя адзначаны павышанай увагай да ўсяго нацыянальнага і ў нейкім сэнсе нават новай хваляй беларусізацыі. У ліцэі Ірына вучылася выключна на беларускай мове. І нават ва ўніверсітэце на гістарычным факультэце існавалі дзве плыні — з беларускай мовай навучання (якую і абрала Ірына) і з рускай. Але ўжо з другога курса, нягледзячы на пратэсты студэнтаў, многія лекцыі пад рознымі падставамі, у якасці выключэння (напрыклад, з-за адсутнасці адпаведных беларускамоўных спецыялістаў), сталі чытацца на рускай мове.

Пасля 1994 года выключэнне стала правілам.

### Новы час

Гэта не назва газеты. Гэта — перыяд жыцця.

Навуковым кіраўніком Ірыны на гістарычным факультэце БДУ быў Павел Алегавіч Лойка. Цудоўны чалавек і ў вышэйшай ступені прафесіянал, якіх зараз становіцца ўсё менш і менш... На жаль, некалькі гадоў таму ён пакінуў гэты свет.

Пад яго кіраўніцтвам Ірына Віданава напісала ўсе свае навуковыя працы падчас вучобы ва ўніверсітэце і паступіла ў аспірантуру.



Яшчэ на чацвёртым курсе яе запрасілі выкладаць. Спачатку гэта быў філіял Ліцэя БДУ, потым сам Ліцэй, а потым выкладала і ў самім універсітэце. Спецыялізацыя — беларускае сярэднявечча.

Адсюль і з'ехала працягваць вучобу ў Злучаныя Штаты Амерыкі. Прычым, не па «апазіцыйнай лініі», а самым, што ні ёсць афіцыйным чынам. Выйграла конкурс на стыпендыю, заснаваную сенатарам Эдмундам Маскі. Адбылося гэта ў 2004 годзе, то бок тады, калі стаўленне ўлады да ўсяго замежнага было ўжо, мякка кажучы, не вельмі станоўчым.

У Інстытуце палітычных даследаванняў Універсітэт Джонса Хопкінса Ірына Віданава скончыла магістратуру. Асноўная частка інстытута (кампус) месціцца ў Балтыморы (штат Мэрыленд), які знаходзіцца ўсяго ў 40 хвілінах ад Вашынгтона, дзе дзяўчына вучылася яшчэ і ў Вышэйшай школе міжнародных адносінаў (SAIS). Вынік — дыплом магістра публічнай палітыкі і міжнародных адносінаў. І менавіта Ірыне аднакурснікі дaручылі (па традыцыі — па выніках таемнага апытання) выступіць з развітальнай прамовай на выпускной цырымоніі.

Паралельна з навучаннем, каб у дадатак да акадэмічных ведаў атрымаць практычны досвед, Ірына працавала ў шэрагу міжнародных даследчыцкіх праектаў і вядучых аналітычных цэнтрах, а таксама ў важны для Беларусі выбарчы 2006 год стала вашынгтонскім карэспандэнтам беларускай службы Радыё Свабода.

Па заканчэнні вучобы яна атрымала некалькі прапаноў застацца на працу ў ЗША, але падзякавала і вярнулася ў Беларусь. Ёй зноў прапанавалі выкладаць у БДУ, аднак Ірына ўжо па-іншаму бачыла свой далейшы шлях.

### Уваходны квіток

Яшчэ студэнткай БДУ Ірына неяк завітала ў Задзіночанне беларускіх студэнтаў (ЗБС). Той візіт і стаўся своеасаблівым «уваходным квітком» у «трэці сектар». Падчас размовы з Алесем Міхалевічам, які тады быў старшынёй ЗБС, яна мімаходзь прыгадала, што некалі хацела паступаць на журфак. Той і прапанаваў ёй рэдагаваць бюлетэнь «Студэнцкая думка», зрабіць з яго паўнавартасны часопіс.

Моладзь у такіх выпадках кажа «у-п-с», бо акрамя назвы, кароткай архіўнай гісторыі бюлетэня і ўмеючага вярстаць тэксты аднаго

з заснавальнікаў ЗБС Зміцера Вайцеховіча ў актыве Ірыны Віданавай больш нічога не было. У тым ліку і ўласнага адпаведнага досведу.

Так з 1998 года, па словах самой Ірыны, яна «прыляпілася» да журналістыкі. У 1999 годзе часопіс «Студэнцкая думка» атрымаў афіцыйнае пасведчанне аб рэгістрацыі, якое было анулявана Міністэрствам інфармацыі ў 2003 годзе.

Часопіс працягваў выходзіць у андэграўндзе, але ў лістападзе 2005 года яго «зачысцілі» канчаткова. Гучна канфіскавалі ўвесь наклад па той прычыне, што фарба, якой ён быў надрукаваны, быццам бы ўтрымлівала атрутныя рэчавы.

Іншым разам забароны і рэпрэсіі стымулююць крэатыўную думку. У 2006 годзе рэдакцыя прыдумала новы фармат часопіса. Прынцыпова новы не толькі ў Беларусі, але і ў свеце — лічбавы, на кампакт-дысках. Сярод моладзі ён хутка набыў папулярнасць. Змянілася таксама назва — «Мультымедыйны часопіс 34». Скарочана — «34 Мэг», а для тых, хто аддае перавагу замежным мовам, — «34 Multimedia magazine». Тым жа, хто лічыць сябе заядлым юзерам, больш вядомы яго адрас у інтэрнэце — www.34mag.net.

Прыходзілася чуць розныя тлумачэнні наконт новай назвы, таму з задавальненнем раз і назаўсёды (спадзяюся) пастаўлю словамі самой Ірыны Віданавай тут канчатковую кропку: «Лагатыпам «Студэнцкай Думкі» былі стылізаваныя літары CD. Каб захаваць гістарычную сувязь паміж друкаваным выданнем і яго рэінкарнацыяй як мультымедыйнага часопіса на CD, падчас адной з дыскусій у рэдакцыі прыдумалася назва 34, паколькі літары C і D маюць парадкавыя нумары 3 і 4 у лацінскім алфавіце».

## Наканаваны накірунак

Я не згодны з распаўсюджаным меркаваннем, што нашы тыя ці іншыя жыццёвыя метамарфозы вызначаюцца толькі «выпадковым збегам абставін». Ёсць яшчэ і ўласны выбар, уласная воля. Калі б Ірына Віданава ў 1998 годзе не сустрэла Алеся Міхалевіча, яна ўсё роўна рана ці позна прыйшла б у «трэці сектар», дакладней у яго апазіцыйную галіну, бо такія людзі па вызначэнню, па характару, па інтэлекту не могуць прыняць існуючую «сістэму каштоўнасцей».

У 2000 годзе Ірыне Віданавай прапанавалі стаць міжнародным каардынатарам Асамблеі няўрадавых арганізацый, якім яна і з'яўлялася да 2002 года, а кансультантам гэтай структуры застаецца і па сённяшні дзень. У выбарчым 2001 годзе Ірына была каардынаторкай грамадскай кампаніі «Выбірай!», да якой далучыліся сотні арганізацый-сябраў Асамблеі. Невыпадкова, што, калі пачалося «Усходняе партнёрства», дзяўчына ўдзельнічала практычна ва ўсіх мерапрыемствах праграмы ад самага іх пачатку.



У 2003 годзе моладзевы часопіс «Студэнцкая думка» ініцыяваў і правёў моладзевую грамадскую кампанію «Рабі. Сабе. Сам.» Галоўным інфармацыйным партнёрам акцыі стала «Комсомольская правда в Белоруссии» на чале з Юліяй Слуцкай, якая паверыла ў ідэю і энтузіязм сваіх калег з невялікага незалежнага выдання і «аддала» пад кампанію першую паласу адной з самых папулярных газет.

Арганізатары прапанавалі камандам маладых людзей падзяліцца сваёй «Беларускай марай». За тыдзень каля 600 чалавек даслалі 149 эсэ са сваімі марамі аб будучым Беларусі. Тысячы людзей сачылі за ходам кампаніі ў інтэрнэце і на старонках «Комсомольской правды». Журы абрала сем найбольш крэатыўных каманд, якіх запрасілі на серыю майстар-класаў у Мінск.

Пяць дзён каманды-фіналісты працавалі над сцэнаром для відэа- і аўдыяролікаў, якія б сталі своеасаблівым партрэтам і адлюстравалі памкненні маладога пакалення беларусаў. Аўдыяролік пераможцаў агучыў вядомы тэнісіст Максім Мірны. У катэгорыі відэа перамог ролік, які заканчваўся словамі: «Не чакай свайго моманту! Стварай яго сам!».

Менавіта пасля гэтага конкурсу, літаральна на наступны дзень пасля падвядзення вынікаў, Міністэрства інфармацыі і пазбавіла «Студэнцкую думку» пасведчання аб рэгістрацыі. Мабыць, на ўспрыняцце чыноўнікаў мары моладзі аказаліся зусім не тымі, не адпавядаючымі генеральнай лініі БРСМ.

Не раз прыходзілася назіраць (на жаль), як людзі трымаюцца за сваю пасаду. Ірына Віданава наадварот не толькі сама сышла з галоўных рэдактараў мультымедыйнага часопіса «34» (засталася толькі заснавальнікам), але і зрабіла ўсё магчымае, каб «да руля» прыйшла маладая каманда. Пагадзіцеся, для нашых часоў даволі рэдкі выпадак.

Захапленне новымі ідэямі і іх увасабленне ў жыццё, нягледзячы на складанасці і выклікі, яшчэ адна рыса характару Ірыны. Праект бясплатнай гарадской газеты выношваўся некалькі гадоў. Пасля

працяглага супрацьстаяння Міністэрства інфармацыі на пачатку 2011 года ўсё ж адмовіла ў рэгістрацыі новаму незалежнаму выданню.

Аднак гэта не спыніла творчы працэс. Некалькі месяцаў таму ў сеціве з'явіўся мінскі онлайн-часопіс CityDog.by, які хутка набірае папулярнасць сярод чытачоў.

Увесь час здзіўляюся колькасці накірункаў дзейнасці Ірыны Віданавай. Рэдактар, менеджар, аналітык і эксперт па пытаннях новых медыяў і моладзевай палітыкі, у цэлым фарміравання і развіцця грамадзянскай супольнасці. Аўтар дапаможніка па публічнай палітыцы (першага ў Беларусі) для вышэйшых навучальных установаў, найперш ЕГУ (у якім Ірына выкладае адпаведны курс), кансультант Універсітэта Лазарскага (Варшава), сябра праўлення БАЖ...

І акцэнты паўсюль выключна станоўчыя, бо ў любой якасці Ірына рабіла ўсё (даруйце таўталогію) вельмі якасна. Але прыярытэтнай сярод іх была, як мне падаецца, журналістыка.

У апошні час чуваць шмат размоў пра тое, што інтэрнэт «пахавае» друкаваныя выданні. Калісьці нешта падобнае казалі пра тэлебачанне і радыё, кіно і тэатр. І вынік, на мой погляд, будзе такім жа. Яскравы прыклад таму — Ірына Віданава, якая з'яўляецца піянерам беларускіх мультымедыйных СМІ, аднак кожны тыдзень з нецярпеннем чакае папяровую газету свайго бацькі.

# АЛЕГ ВОЛЧАК



**Падрыхтавана да друку 23.01.10**

*Нядаўна з вялікім поспехам прайшла прэм'ера фільма «Выклік» (Defiance) оскараноснага рэжысёра Эдварда Цвіка пра дзейнасць у Беларусі габрэйскага партызанскага атрада братоў Бельскіх. Пра гэты атрад, як і пра іншыя белыя плямы гісторыі, за некалькі гадоў да выхаду фільма мне расказаў праваабаронца Алег Волчак — не прафесійны гісторык, а вядомы юрыст. Повязь часоў, лічыць ён, непарыўная. І каб мінулае не страляла ў цябе з пісталета, яго трэба хаця б ведаць.*

## Апошні з матчынага роду

Гісторыя ўласнага жыцця Алега Волчака пачалася 2 жніўня 1967 года. Яго маці Ядвіга Антонаўна Волчак родам з вёскі Шчаснавічы, што пад Ляхавічамі. А бацька (айчым) Аляксандр Аляксандравіч Засулевіч — з вёскі Вялікая Ліпа Клецкага раёна Мінскай вобласці. Калі маці выйшла замуж і перайшла на прозвішча мужа, то вырашыла пакінуць за Алегам сваё дзявочае прозвішча, бо ён быў апошнім з роду Волчакаў. Брат Алега Дзмітрый, маладзейшы за яго на шэсць гадоў, ужо — Засулевіч.

Тыповая сям'я будаўнікоў. Нялёгкая праца, просты быт і, здавалася, прадвызначаны шлях для дзяцей. Вучыўся Алег у мінскай 128-й школе, у якой вучыўся і зніклы журналіст Зміцер Завадскі. Ды і жылі яны на адной вуліцы, «праз дом». Але даведаўся пра гэта Алег толькі праз шмат гадоў, ужо калі стаў праваабаронцам.

128-я была звычайнай, пралетарскай, без ніякіх «ухілаў» школай, таму і не захавалася ў дзіцячай памяці чымсьці выбітным. У адрозненне ад знакамітай сталічнай дзіцячай чыгункі, на якой Алег

кожнае лета, з пятага па восьмы клас, працаваў з вялікай ахвотай. Потым былі чыгуначнае ПТВ № 34 і прафесія слесар-механік.

У роднае ПТВ Алег фактычна і вярнуўся пасля тэрміновай вайсковай службы. Працаваў у мінскім метрапалітэне, а ў вучылішчы па просьбе кіраўніцтва арганізаваў клуб памяці воінаў-інтэрнацыяналістаў «Юны патрыёт». Па сутнасці, гэта і была першая ў жыцці Алега няўрадавая структура.

Вайсковую службу Алег праходзіў у Таджыкістане, у гарах Паміра (2200 метраў над узроўнем мора), на заставе Хараўскага памежнага атрада Савецкай арміі. Лічыўся ён баявым, таму што побач была мяжа з Афганістанам і стралялі там даволі часта. Выдатнікаў баявой і палітычнай падрыхтоўкі па адпаведнаму графіку накіроўвалі дапамагаць «брацкаму афганскаму народу».

Праз два месяцы службы падобны «гонар» (у савецкія часы такія словы не бралі ў двукоссе) выпаў і Алегу Волчаку. Прабыў ён у Афганістане менш за месяц. Падчас першай жа буйной ваеннай аперацыі сярод «шураві» пачалася эпідэмія хваробы Боткіна («жаўтухі»).

Дэманстраваць начальству сваю хваробу сярод салдат лічылася «западло». Камандзіры выявілі хваробу ў Волчака толькі тады, калі той страціў прытомнасць. Рэйсам з параненымі і памерлымі яго эвакуіравалі ў ваенны шпіталь Душанбе.

### Замест КДБ — гарсавет

Памежныя войскі тады былі падпарадкаваны КДБ, таму шмат дэмабілізаваных з памежных войскаў імкнуліся трапіць менавіта ў кэдэбісцкія структуры. Хацелася далейшай рамантыкі. Але ў вядомай усяму Мінску «школе КДБ» Волчака чакала расчараванне: бяруць толькі з вышэйшая адукацыяй. «Можна сказаць, пашанцавала», —лічыць Алег зараз.

«Кэдэбэшнікі» параілі пайсці на юрфак БДУ. Маўляў, калі потым будзе жаданне — возьмем. Але такое жаданне ў Алега больш ніколі не ўзнікала.

Яшчэ на чацвёртым курсе БДУ ён цвёрда вырашыў стаць следчым. Дзеля набыцця вопыту пачаў працаваць грамадскім памочнікам у пракуратуры Фрунзенскага раёна Мінска. Праз паўтары гады, нягледзячы на адсутнасць дыплома, яму прапанавалі заняць пасаду старшага следчага. І адразу ж далі пяць крымінальных спраў, адна з якіх — замоўленае забойства (а гэта пачаткоўцам давяраюць даволі рэдка).

За пяць гадоў працы следчы Алег Волчак паспяхова давёў да суда каля ста крымінальных спраў, у тым ліку пяць (адно з забойствам), здзейсненых супраць міліцыянтаў. Усе ведалі, што з «афганцам» пра штосьці дамовіцца немагчыма. За гэта і паважалі. Былы генеральны пракурор Алег Бажэлка нават назваў Алега Волчака лепшым следчым Беларусі.

Палітыка і грамадскае жыццё заўсёды цікавілі Волчака, таму цалкам зразумела, чаму ў 1995 годзе ён вырашыў балатавацца ў Вярхоўны Савет 13-га склікання. Аднак выбары практычна па ўсіх сталічных акругах, як вядома, не адбыліся. Восенню наступнага года Волчак абраўся ў Мінскі гарадскі савет. Цікава, што ішоў ён па адной акрузе з Генадзем Карпенкам, які тады трапіў у парламент.

На першым жа пасяджэнні новага складу гарсавета Алег Волчак прапанаваў сваю кандыдатуру на пасаду старшыні, але наменклатура вырашыла інакш. І не памылілася ў сваёй асцярожнасці. Праз паўтары гады дэпутат Волчак ініцыяваў слуханні супраць міліцыянтаў, якія збівалі ўдзельнікаў мітынгаў апазіцыі. А ў 1999 годзе па прапанове Віктара Ганчара ўвайшоў у склад альтэрнатыўнага Цэнтрвыбаркаму.

10 верасня 1998 года беларускае Міністэрства юстыцыі зарэгістравала грамадскую арганізацыю «Прававая дапамога насельніцтву», створаную па ініцыятыве Алега Волчака. Пасля знікнення Юрыя Захаранкі па даручэнні Каардынацыйнай рады дэмакратычных сіл Алег Волчак узначаліў грамадскую камісію па даследаванні абставін і прычын гэтага здарэння. Яе выснова па гарачых слядах была несуцяшальнай: наўрад ці генерал Захаранка жывы.

### Першыя крокі

16 верасня 1999 года невядомыя гвалтоўна скралі Ганчара з Красоўскім. Стала цалкам зразумела, што ў улады з'явілася сваё тлумачэнне маралі.

Ля сумна вядомай лазні на Фабрычнай, дзе адбылося злачынства, Алег Волчак быў раніцай наступнага дня, 17 верасня. Першым зняў на асабістую відэакамеру разбітае шкло, кроў на асфальце і чырвоную фарбу на дрэве ад той машыны, якая блакавала джып Красоўскага.

У грамадскай свядомасці фарміруецца версія пра беларускі варыянт аргенцінскіх «эскадронаў смерці». Толькі дзякуючы галоснасці па справах зніклых, у чым вялікая заслуга і арганізацыі Алега Волчака «Прававая дапамога насельніцтву», далейшыя «знікненні» ўдалося спыніць.

Але праваабаронцы займаліся не толькі палітычнымі справамі. Літаральна на другі дзень пасля трагедыі на Нямізе бацькі загінуўшых знайшлі Алега Волчака і прапанавалі абараняць іх правы ў судзе. Было гэта 31 мая 1999 года.

Падзеі вакол жудаснай трагедыі яскрава паказалі, якім чынам у беларускай рэчаіснасці фарміруюцца адносіны паміж асобай і дзяржавай. І гэтак жа наглядна прадэманстравалі, што «трэці сектар» не можа быць падкантрольным уладзе, інакш гэта ўжо будуць не грамадскія незалежныя арганізацыі, не NGO, а нешта іншае.

Нагадаем, што, каментуючы падзеі на Нямізе, улады абвінавацілі ва ўсім дождж і п'яную моладзь, што «сама там пападала». Гэтыя словы абурылі бацькоў загінулых і вымусілі шукаць дапамогу. Юрысты «Прававой дапамогі насельніцтву» даследавалі ўсе абставіны, апыталі дзясяткі людзей і прыйшлі да высновы, што галоўная прычына трагедыі — непрафесіяналізм міліцыянтаў: зрабілі няправільную расстаноўку сіл, парушылі меры бяспекі.

Ход следства, якое працягвалася два гады, удалося пераламаць: міліцыянтаў і чыноўнікаў Мінгарвыканкаму афіцыйна прызналі вінаватымі. Калі б працаваў прынцып «рука руку мые», вынікі маглі б быць дыяметральна супрацьлеглымі.

## За статыстыкай — лёсы

Больш за 80 працэнтаў дзейнасці «Прававой дапамогі насельніцтву» датычылася сацыяльнай сферы. Праваабаронцы займаліся сямейнымі, бытавымі праблемамі, пытаннямі наследавання спадчыны, дапамагалі ў розных канфліктах. Праіснавала арганізацыя пяць гадоў без аднаго дня. 9 верасня 2003 года вуснамі суддзі Жупікавай на афіцыйнай рэгістрацыі канчаткова быў пастаўлены крыж.

За гэты час праз арганізацыю прайшлі 8 тысяч грамадзян Беларусі. Больш за 60 юрыстаў набылі тут сваю кваліфікацыю і працуюць сёння ў розных (у тым ліку і дзяржаўных) структурах. Прадстаўнікі «Прававой дапамогі насельніцтву» прынялі ўдзел амаль у 2 тысячах судовых працэсаў і шмат якія дапамаглі выйграць. Адваёўвалі кватэры, аднаўлялі на рабоце, вярталі льготы, кампенсацыі, распачыналі супраць чыноўнікаў адміністрацыйныя справы і г.д.



Парадокс, але падпольна працаваць праваабаронцам стала значна лягчэй. Канешне, пакуль існуе знакаміты артыкул 193-1, пагроза патэнцыйнага судовага пераследу будзе існаваць пастаянна, але з прафесійнымі юрыстамі ніхто жартаваць пакуль не жадае. Перш за ўсё таму, што апошнія вельмі добра ведаюць: ніякіх законаў яны не парушаюць, а працуюць не ад імя неіснуючай арганізацыі, а згодна са сваімі юрыдычнымі дыпломамі. І абсалютна бясплатна, то бок без якой-небудзь матэрыяльнай карысці. Па закону, у такіх выпадках ніякай ліцэнзіі не трэба.

А палёгка заключаецца ў адсутнасці пастаянных папярэджанняў Міністэрства юстыцыі і прэтэнзій ад шматлікіх праверак, накшталт пажарнікаў альбо падаткавікоў. Адсутнасць афіцыйнага статуса не можа перашкаджаць бескарысна дапамагаць людзям.

Дарэчы, новы запіс у працоўнай кніжцы Алега Волчака нядаўна з'явіўся-такі. 9 верасня 2009 (роўна праз шэсць гадоў) «Прававую дапамогу насельніцтву» зноў зарэгістравала Міністэрства юстыцыі, толькі не беларускае, а ўкраінскае. Апошнім часам рэгістрацыя непадкантрольных нашай уладзе структур за межамі краіны набыла рысы тэндэнцыі. Аднак гэта адбываецца не дзеля моды, а таму, што падобнае зрабіць пакуль немагчыма (альбо вельмі складана) у сучаснай Беларусі.

## Спадзяюся, толькі пакуль...

У 2005 годзе былымі афіцэрамі МУС быў заснаваны рух імя Юрыя Захаранкі «Абаронцы айчыны», да якога потым далучыліся «афганцы» (Алег Волчак з'яўляецца давераной асобай сям'і Захаранкі). Мінулым годам частка з іх (у тым ліку Мікалай Аўтуховіч) адмовілася ад узнагарод у гонар 20-годдзя з дня вываду савецкіх войскаў з Афганістана. На іх думку, гэта і стала галоўнай прычынай, па якой Мікалай Аўтуховіч апынуўся за кратамі.

Напярэдадні Міжнароднага дня абароны правоў чалавека я запытаўся ў Алега Волчака пра магчымы лёс Аўтуховіча і пачуў трывожны адказ: «Самае непрыемнае адбудзецца тады, калі тэрмін пакарання ў яго будзе вялікім, а праз год-два многія пра гэта прозвішча забудуцца».

Алег Волчак і праваабаронцы робяць сваю рызыкоўную працу ў тым ліку і дзеля таго, каб нічога падобнага на справу Захаранкі ці Аўтуховіча ні з кім ніколі не здарылася, каб людская салідарнасць не знікала і не слабела, бо менавіта яна яднае людзей добрай волі супраць зла.



# УЛАД ВЯЛІЧКА

**Падрыхтавана да друку 15.04.11**

*Калі ў лістападзе 2010 года Улада Вялічку ў Берліне абралі спікерам Форума грамадзянскай супольнасці «Усходняга партнёрства», ад нечаканасці ён крыху разгубіўся. І не таму, што не меў неабходнага досведу. Наадварот. Здзівіла другое: папярэдні год гэту структуру ўзначальваў таксама беларус, а з дзяцінства ўсіх нас вучылі, што двойчы снарад у адну і тую ж варонку не трапляе. Тым больш, што ў форум уваходзяць 17 чалавек з 6 краін Еўропы. Выбар быў вялікі.*

## Першыя ўрокі

Традыцыйна пачну не з гэтага эпізоду, а з самага першага ў жыцці Улада Вялічкі. Ён нарадзіўся 12 верасня 1973 года ў Мінску і амаль ніколі не развітваўся з родным горадам. Вучыўся ў 138-й школе, што знаходзіцца на вуліцы Адаеўскага Фрунзенскага раёна сталіцы.

Школа была звычайнай, то бок без усялякіх «ухілаў», але Уладу пашанцавала вучыцца ў вядомага па тых часах педагога-наватара Сямёна Барысавіча Каплана. Рэч вельмі сур'ёзная, бо адных толькі ўрокаў гісторыі ў іх было па восем кожны тыдзень.

Менавіта дзякуючы свайму настаўніку, Вялічка атрымаў першыя аратарскія здольнасці і ўмельства думаць. А таксама трапіў на гістарычны факультэт Педагагічнага інстытута. Уступных іспытаў ён не здаваў увогуле. Па-першае таму, што скончыў школу з медалём. Па-другое, дзяржава такім чынам падтрымлівала «педагогаў-наватараў», чыя адзнака прыраўноўвалася да ўніверсітэцкай. Зараз нешта падобнае адбываецца і з пераможцамі розных алімпіяд.

Можна сказаць, што Уладу Вялічку пашанцавала вучыцца ў лепшыя часы — 1991—1995 гады. Самы росквіт нацыянальнага адраджэння. Практычна на яго вачах аднавілася беларуская гістарычная навука, а гарадскі педагагічны інстытут імя Максіма Горкага «ператварыўся» ў Дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка. Выпуск 1995 года стаў, здаецца, адзіным, які атрымаў дыпломы з «Пагоняй».

Дарэчы, адразу адтуль Вялічка і патрапіў у «трэці сектар», бо вучылі яго выкладчыкі, якія спрабавалі ў сваёй навуцы рабіць нешта новае, у прыватнасці ў дзіцячых летніках. Да гэтай працы з задавальненнем далучылася і студэнцкая група. Вынікам чаго стала стажыроўка ў Германіі. Там адкрыліся вочы на тое, як можна па-іншаму будаваць адукацыйны працэс або працу з моладдзю па-за школай. У нейкім сэнсе гэта быў абсалютны інсайт, іншы свет педагогікі. Гэтай працы потым і будзе прысвечана 15 гадоў жыцця.

## Спецыфічныя ўрокі

Бацька Улада Вялічкі Уладзімір Іванавіч, на жаль, ужо сышоў. Гэта быў, без перабольшванняў, слесар ад Бога. Ён працаваў на вядомым не толькі ў Беларусі 32-м ваенным заводзе, які месціцца на вуліцы Валгаградскай.

Калі «развал Савецкага Саюза» даўся бацьку даволі цяжка, то для маці — наадварот. Тамара Іванаўна па адукацыі эканаміст. Пачынала сваю кар'еру ў выканкаме Фрунзенскага раёна, Міністэрстве гандлю Беларусі, а калі пачалося стварэнне незалежнай банкаўскай сістэмы краіны, яе запрасілі на работу ў «Беларусбанк». На пенсію яна пайшла з пасады першага намесніка старшыні «Белгазпрамбанку».

З будучай жонкай Улад пазнаёміўся па сутнасці выпадкова. Іх агульныя сябры бралі шлюб і запрасілі Улада і Алену сведкамі. Як потым высветлілася, такім жа самым чынам пазнаёміліся і бацькі будучага лідара «трэцяга сектара» Беларусі. У 1997 годзе Вялічкі распісаліся ў Гарадскім доме шлюбу.

Алена скончыла Мінскі інстытут замежных моў, а зараз таксама займаецца грамадскай дзейнасцю. Дакладней, нефармальнай адукацыйнай працай, а яшчэ дакладней — «шведскімі» гурткамі, а таксама культурніцкімі і адукацыйнымі праграмамі для жанчын.

Ёсць у яе і вельмі «спецыфічнае» захапленне. Яна спецыяліст па кітайскіх «чайных цырымоніях». Менавіта — «чайных». Не ведаю, як гэта ўспрымуць філолагі, але асабіста мне Улад Вялічка растлумачыў, што паміж паняццямі «чай» і «гарбата» існуе вялікая розніца. Першае слова паходзіць з Кітаю, а карані другога звязаны з травамі, раслінамі. Як вядома, далёка не кожную расліну можна называць чаем, а гарбата можа быць і рамонкавай, і язмінавай. Таму Улад і перастаў называць чай гарбатай.

Дарэчы, гэтае, можна сказаць, хобі ў нейкім сэнсе стала і часткай грамадскага жыцця Алены, бо ў мінулым годзе разам з сяброўкай яна ладзіла праект «Невыпадковыя (НеслуЧАЙные) сустрэчы». Кожны тыдзень па серадах да іх прыходзілі «на чай» вядомыя людзі — музыкі і паэты, скульптары і філосафы, мастакі і рэжысёры, пісьменнікі і прадзюсары.

Сёння такіх праектаў у Мінску ўжо некалькі, што Уладу Вялічку вельмі падабаецца. Яны не фінансуюцца нейкімі замежнымі грантамі. Гэта простая, зразумелая і сапраўдная самаарганізацыя людзей.

## Камунікацыйныя ўрокі

Для Улада Вялічкі яны пачаліся адразу пасля ўзгаданай вышэй стажыроўкі ў Нямеччыне, бо тады стала абсалютна зразумелым, што для таго, каб ажыццяўляць нефармальную адукацыю ў Беларусі, трэба зрабіць нешта новае. У 1995 годзе ён прыняў актыўны ўдзел у стварэнні Моладзевага адукацыйнага саюза «Фіальта» (існуе па гэты дзень), які адразу ж рэалізаваў некалькі праграм. Аказалася, тыя працуюць не толькі ў нямецкіх умовах, але і ў беларускіх. Больш за тое, вельмі тут патрэбныя.

У 1997 годзе Улад Вялічка разам з калегамі стварыў новую арганізацыю — Адукацыйны цэнтр «ПОСТ», дырэктарам якой быў да мінулага года. Гэта адна з самых вядомых і прызнаных у адукацыйных колах структур. У асноўным працуе з моладдзю, студэнтамі і настаўнікамі і займаецца развіццём нефармальнай адукацыі.

Першапачаткова была яшчэ і работа са школьнікамі, але даволі хутка ўлады зразумелі, што туды трэба пускаць арганізацыі накшталт БРСМ, то бок ідэалагічна «свае». Пэўныя цяжкасці з'яўляліся рэгулярна, асабліва ў гады выбарчых кампаній. Але прага працаваць з людзьмі заўсёды вымушала шукаць новыя і новыя формы.

Да таго ж, нефармальная адукацыя дае разуменне таго, што ў жыцці трэба перш за ўсё змагацца не за дыплом, а за сваё развіц-

цё. На жаль, сёння часцей адбываецца інакш, а слова «дэмакратыя» па сутнасці знаходзіцца пад забаронай.

Можа, менавіта гэта і стала адной са шматлікіх вялікіх і маленькіх прычын стварэння «ЕўраБеларусі».

## Урокі на будучыню

Яшчэ ў 2007 годзе стала зразумелым, што Еўропа збіраецца па-іншаму працаваць з Беларуссю, калі з'явілася новая стратэгія адносінаў. Некаторыя лідары «трэцяга сектара», якія да таго часу мелі вялікі досвед міжнароднага супрацоўніцтва і актыўна кансультаваліся паміж сабой, прыйшлі да высновы, што ёсць задачы, якія паасобку ніхто з іх не вырашае. Напрыклад, узмацненне важкасці голасу і ўплыву НДА на ўзроўні беларускага грамадства і еўрапейскіх структур.

У Міжнародны кансорцыум «ЕўраБеларусь» увайшлі шэраг айчынных арганізацыяў і некаторыя партнёры з Еўропы, якія падзяляюць ідэі «культурнай палітыкі», сфармуляваныя вядомым беларускім метадолагам Уладзімірам Мацкевічам. І, калі наступіў час «Усходняга партнёрства», «лыжка» прыйшлася да «абедні».

Нагадаем, што першыя размовы пра «Усходняе партнёрства» з'явіліся восенню 2008 года. Тады ж паўстала так званая польска-шведская ініцыятыва. Вельмі хутка яе падтрымалі і іншыя краіны ЕС. Афіцыйны ж старт праграмы быў дадзены на Пражскім саміце ЕС у маі 2009 года.

Чаму беларускія ўлады пагадзіліся на ўдзел ва «Усходнім партнёрстве»? Відавочна, не дзеля нейкіх дэмакратычных каштоўнасцей. На падобны крок іх прымусілі вельмі сур'ёзныя праблемы. Гэта і расійска-грузінская вайна, якая паставіла цэлы шэраг пытанняў. Накшталт таго, як Беларусі трэба будаваць адносіны з Расіяй. І эканамічны крызіс. І рэгулярныя «газавыя» «цёркі».

Што б там хто ні казаў, але відавочна, за два гады да крывавых падзеяў 19 снежня 2010 года беларускім уладам прыйшлося крыху змяніцца. Настолькі, каб спужацца любых зменаў.

Разлік быў на грошы. Там яны ёсць, канешне, але гэта зусім не тое, што можа выратаваць беларускую эканоміку. Не адбылася і чаканая палітычная легалізацыя, якая зараз немагчымая па вызначэнню. Можа, менавіта па гэтых прычынах і з'явіліся заклікі канчаткова паставіць на «Усходнім партнёрстве» крыж?



Не буду яшчэ раз расказваць пра падрабязнасці ўзнікнення Форуму грамадзянскай супольнасці. Адзначу толькі тое, што стварылі яго па ініцыятыве Еўрапейскай камісіі. Прадстаўнікі «трэцяга сектару» шасці краін (Украіна, Малдова, Грузія, Арменія, Азербайджан, Беларусь) рэгулярна даюць «зваротную сувязь» па праграме нацыянальным і еўрапейскім структурам.

Першы Форум грамадзянскай супольнасці адбыўся ў лістападзе 2009 года ў Брусэлі, другі — праз год у Берліне, дзе Улада Вялічку і абралі спікерам. Трэці запланаваны на наступны лістапад. Адбудзецца ён у Познані, бо прыйдзецца на польскае старшынства ў ЕС.

Па ініцыятыве незалежных НДА Беларусі, падтрыманай іншымі краінамі, форум стаў не часовай (адзін раз на год), а пастаяннай структурай, што надта не спадабалася беларускім уладам. Яны ігнаравалі створаную беларускую Нацыянальную платформу форума, спрабавалі «падмяць» яе пад сябе, актыўна супрацьдзейнічалі, але нічога не атрымалася. Спроба падмяніць грамадскую супольнасць Грамадска-кансультацыйнай радай пры прэзідэнце РБ «не прайшла».

У гэтым, на мой погляд, і заключаны сэнс галоўнага ўрока на будучыню: іншадумства не павінна дазваляць кіраваць сабой тым, хто думае «як трэба».

# ЛЮДМІЛА ГРАЗНОВА



**Падрыхтавана да друку 26.06.10**

*Людміла Мікалаеўна даволі часта бывае ў мяне ў гасцях, але тое тэлефанаванне ўсё ж такі было ў нейкім сэнсе нечаканым. Яна папрасілася... пагрэцца. Справа ў тым, што ў маім доме размешчаны «Опорный пункт Советского РУВД г. Минска», які ў народзе называюць «парняком».*

*Сюды пасля чарговай спробы правесці ўстаноўчы сход прывезлі некалькі дзясяткаў актывістаў «Маладога фронту». Праваабаронца Людміла Гразнова прыехала да міліцэйскага будынка, каб іх маральна падтрымаць.*

## Першы выбар

Людміла Гразнова (да шлюбу — Пракапенка) нарадзілася 8 чэрвеня 1953 года ў Дзяржынску. Яе бацькі тады жылі ў 20 кіламетрах ад гэтага райцэнтра, у вёсцы Путчына. Потым сям'я пераязджала ў Фаніпаль, Плешчаніцы, але першыя ўстойлівыя ўспаміны ў Людмілы звязаны са Старобінам.

Бацька Гразновай Мікалай Фёдаравіч Пракапенка быў першым сакратаром Старобінскага райкама партыі. У гэтым гарадку Людміла і пайшла «першы раз у першы клас». У звычайную школу. І толькі праз шэсць гадоў (1965) пачала вучыцца ў «крутой», якой тады лічылася сталічная школа №42. Менавіта ў гэтым годзе ў Мінск у Міністэрства сельскай гаспадаркі перавялі працаваць яе бацьку. Партыйную наменклатуру, як і вайскоўцаў, на «новы фронт» «кідалі» даволі часта — ратацыя кадраў.

Дарэчы, Мінск стаў апошнім месцам працы Мікалая Фёдаравіча. Тут ён узначаліў абкам партыі, а пасля — даследчы інстытут, які займаўся пытаннямі сельскай гаспадаркі. З гэтай пасады выйшаў на пенсію і стаў працаваць загадчыкам сектара. 24 снежня 2004 года трагічна загінуў.

Людміла Гразнова добра малявала і чарціла, але паступаць на прэстыжны архітэктурны факультэт БДУ не адважылася. Абрала палітэканомію, бо заўсёды любіла матэматыку, якая па гэтай спецыяльнасці вызначалася як «прафілюючая».

Потым пайшла ў аспірантуру вывучаць «палітэканомію сацыялізму». І вельмі хутка зразумела, што такой навукі не існуе, але тады былі пэўныя правілы гульні. Давялося іх прыняць. У 1980 годзе стала кандыдатам эканамічных навук. Жыццё быццам усталявалася, увайшло ва ўстойлівую каляіну.

Аднак на зломе перабудовы Людміла рэзка змяняе свой лёс — дзеля агульных дэмакратычных пераўтварэнняў у краіне з навукі пераходзіць у палітыку. У 1990 годзе была створана Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі, і праз два гады Людміла Гразнова стала намесніцай старшыні (на той час Аляксандра Дабравольскага). У 1995 яна рызыкуе балатавацца кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання. І перамагае. У складзе ВС яе абіраюць намесніцай старшыні Камісіі па бюджэту, падатках, банках і фінансах.

Цалкам лагічна, што Людміла Гразнова была сярод тых, хто выступаў за імпічмент А. Лукашэнку, бо добра разумела, чым абернецца для краіны эканамічны разварот у мінулае. На жаль, яны прайгралі.

## Апазіцыя апазіцыі

Двойчы (у 2004 і 2008 гадах) Гразнова імкнулася атрымаць дэпутацкі мандат, але гэта былі ўжо іншыя выбары. У Палату прадстаўнікоў «прапускалі» толькі тых, каго прызначыла ўлада.

Апазіцыйная палітыка канцэнтруецца ў партыях, якія падвяргаюцца ціску, рэпрэсіям і выводзяцца па-за сістэму. Вынік — паступовая маргіналізацыя палітычнай апазіцыі, драбленне партыйных структур, барацьба амбіцый.

Можа, гэта памылка, але асабіста я не ведаю прыкладаў рэальнага аб'яднання дэмакратаў — надта шмат амбіцый. Часцей за ўсё бывае наадварот. Таму тое, што ў 1995 годзе адбылося ў лесе пад вёскай Журавінка (Дзяржынскі раён), заслугоўвае асаблівай пашаны.

Нагадаю — 1 кастрычніка 1995 года Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі злучылася з Грамадзянскай партыяй, якой кіраваў Васіль Шлындзікаў. Так узнікла Аб'яднаная грамадзянская партыя. Гразнова стала сябрам Палітсавета, а ў 2004 годзе — намесніцай старшыні. На гэтай пасадзе адпрацавала да красавіка 2008 года.

Не хачу прымаць чыйсьці бок, бо, як вядома, у адной і той жа падзеі звычайна адразу некалькі «самых праўдзівых» версій. Скажу толькі, што асноўнай прычынай адыходу (альбо адхілення?) Гразновай ад першых роляў у АГП сталі розныя погляды на сучасную палітыку. Яе і кіраўніцтва. Падкрэсліваю: погляды, а не персанальныя сімпатыі-антыпатыі. Бо менавіта Гразнова восенню 2005 года на першым Кангрэсе дэмакратычных сіл прапанавала абраць адзіным кандыдатам на прэзідэнцкія выбары кіраўніка АГП Анатоля Лябедзьку... А праз пэўны час стала адной з тых, хто адкрыта падтрымлівае яго палітычнага саперніка Аляксандра Мілінкевіча.

## Самастойнае плаванне

Чаму адбыліся такія метамарфозы? Сама Людміла Гразнова тлумачыць іх тым, што Мілінкевіч больш паслядоўна адстойвае інтарэсы Беларусі і ўважлівей ставіцца да «трэцяга сектара».

А Гразнову без усялякіх перабольшванняў можна назваць адной з «піянерак» сярод тых, хто, выбіраючы паміж палітычнымі баталіямі і праблемамі недзяржаўных структур, аддаў перавагу апошнім. Тэзіс вельмі ўмоўны, таму што стварэнне ў 2003 годзе «непалітычнага» «Праваабарончага альянсу» дазволіла Гразновай захавацца ў «вялікай» палітыцы.

Памятаю, што першапачаткова арганізацыю меркавалася назваць домам, але ў гэты момант у Вільнюсе адкрыўся Дом правоў чалавека, і іх «дом» давялося перайменаваць у «альянс». Факт, які даволі красамоўна сведчыць пра гатоўнасць да кампрамісаў. Калі гэта не прынцыповыя моманты, Людміла Гразнова не будзе «ўпірацца, як баран».

Шчыра кажучы, спачатку я паставіўся да стварэння яшчэ адной праваабарончай арганізацыі даволі скептычна. Пры жаданні можна назваць дзясяткі прыкладаў, калі ўся праваабарончая дзейнасць абмяжоўвалася стварэннем нейкай новай структуры. І толькі. Тым больш, што канкурэнцыя ў гэтай сферы заўсёды была даволі моцная. «Вясна», Беларускі Хельсінкскі камітэт... Шмат хто лічыў: адным «кукарэку» ўсё і скончыцца. Памыліліся.



Дзейнасць любых праваабаронцаў асацыюецца перш за ўсё з работай у судах, але для Гразновай яна пачалася не з гэтага. У выпадку, з якога дэ-факта пачалася яе праваабарончая дзейнасць, ніякага суда не было ўвогуле. І сам выпадак надарыўся задоўга да стварэння «Праваабарончага альянсу». Вячаслава Сіўчыка і Юрыя Хадыку арыштавалі вясной 1996 года, а «зачынілі» іх справу вясной 1997. Яны сталі другімі, хто трапіў за краты пры сучаснай уладзе (раней толькі паэт Славамір Адамовіч за верш «Убей президента»), і амаль першымі, хто трымаў там палітычную галадоўку.

Маці Вячаслава Сіўчыка звярнулася да дэпутата Вярхоўнага Савета 13-га склікання Людмілы Гразновай з просьбай сабраць сярод калег подпісы за вызваленне яе сына і Юрыя Хадыкі з-за кратаў. У той час выканаўчая ўлада яшчэ прыслухоўвалася да заканадаўчай, таму гэта акцыя несумненна прынесла сваю карысць. Прайшла яна вельмі плённа і хутка, подпісы збіраліся нават падчас пасяджэнняў. Агулам больш за 50 подпісаў — тых, хто не быў у паслухмянай «большасці» і не баяўся. Неверагодны факт і на той час. Сёння ж гэта немагчыма па вызначэнню.

## Не дзеля «птушачкі»

З 1997 года Гразнова бывае на судах пастаянна. Прайшло іх ужо больш за 200 (гэта, калі падсумаваць, складае больш як год жыцця). Навошта? Сама Людміла тлумачыць так: «Калі ты ходзіш на суды, падтрымліваеш чалавека, дзелішся інфармацыяй, размаўляеш з роднымі, гэта вельмі важна. Калі бацькі падсуднага бачаць, што падтрымаць іх сына або дачку прыходзяць з палітычнага асяроддзя, то пачынаюць разумець, што іх дзіця не пачало займацца чымсьці незаконным альбо недазволеным. Пачынаюць разумець сваіх дзяцей. Так у нейкім сэнсе легалізуецца тое, чым усе мы займаемся».

Для сучасных беларускіх судоў характэрнай можна лічыць адну акалічнасць: усе ўсё там добра разумеюць. Тое, што гэта ў нейкім сэнсе спектакль, ведаюць гледачы, сведкі, суддзі. І тыя, хто за кратамі, таксама. Але «цікавая» атмасфера — не адзіная іх выбітная прыкмета. Нярэдка бракуе папросту атмасферы, паветра. Залі судоў, дзе адбываюцца працэсы, звычайна невялікіх памераў. І калі яны

цалкам запаўняюцца, дыхаць няма чым. Па вялікаму рахунку, беларускім праваабаронцам трэба даваць малако за шкоднасць.

Дарэчы, прайсці на некаторыя суды Гразнова не змагла, бо яны былі «закрытымі». Самы знакаміты — суд над сябрамі грамадскай арганізацыі «Партнёрства».

Зразумела, што акрамя гэтай дзейнасці ёсць і іншая. «Праваабарончы альянс», напрыклад, займаецца конкурсамі «Беларусь у еўрапейскім кантэксце», інфармацыйнымі, адукацыйнымі і іншымі праектамі. Іх шмат. Але сутнасць не толькі ў колькасці.

Галоўная сутнасць і мэта — абарона правоў чалавека, не абстрактнага, а канкрэтнага, які несправядліва трапіў пад судовы пераслед. Сутнасць і мэта — у прававой адукацыі, у фарміраванні праз праваабарончую дзейнасць перадумоваў для ўсталявання ў Беларусі сапраўднага вяршэнства Закона.

Гледзячы на Людмілу Гразнову, зусім не падобную на волата, даволі цяжка ўявіць, што гэтая сціплая жанчына спакойна, без позы, робіць такую цяжкую і патрэбную справу.

# ГЕНАДЗЬ ГРУШАВЫ



Падрыхтавана да друку 16.10.09

*На дадзены момант фонд «Дзецям Чарнобыля» існуе ўжо 20 гадоў. Ён ці не першая грамадская арганізацыя, якая ўзнікла на хвалі гарбачоўскай перабудовы. І здолела ўтрымацца да гэтага часу. За два дзесяцігоддзі намаганнямі фонду на аздараўленне за мяжу выехала больш за трыста тысяч беларускіх дзяцей. А першая група паехала ў Індыю. Было гэта ў снежні 1989 года, 25 дзяцей з вёскі Стрэлічава. І гэта дзякуючы намаганням неабыякавага чалавека — Генадзя Грушавога.*

## Прыступкі да галоўнай справы

Генадзь Грушавы нарадзіўся ў Мінску 24 ліпеня 1950 года. Яму было 40, калі пачалася гарбачоўская перабудова. Грушавы з тых саракагадовых, якіх адносяць да апошняга пакалення шасцідзясятнікаў, чыё юнацтва сваім развітальным крылом закранула «хрушчоўская адліга», прыадчыніўшы іх зроку жудасную бездань таталітарызму. Адліга скончылася, але на перабудовачнай хвалі надзея на перамены ажыла з новай сілай.

Бацька Генадзя да вайны скончыў фізіка-матэматычны факультэт у Фрунзе (зараз Бішкек). Прайшоў вайну на перадавой ад званка да званка, ад радавога да маёра — камандзіра палка, з якім штурмаваў Кёнігсберг. Потым служыў камендантам аднаго з гарадоў Усходняй Прусіі, дзе і сустрэў сваю будучую жонку — дзяўчыну з Ноўгарада, вывезеную ў Германію падчас акупацыі. З Прусіі маёра Грушавога накіравалі ў Мінск.

Закончыў Генадзь знакамітую школу № 50, якая спецыялізавалася на фізіцы і матэматыцы, у ліку першых. Але матэматыкам не

стаў. Паступіў на філасофскі факультэт БДУ, адолеўшы велізарны конкурс. Вучыўся апантана. Актыўна займаўся спортам — баскетболам, барацьбой, лёгкай атлетыкай.

Навуковую працу пачаў пісаць яшчэ на другім курсе, а скончыў яе на пятым. Тычылася яна буйнога французскага філосафа, ідэаліста, тэолага Нікаля Мальбранша. Давялося вучыць французскую мову і шукаць дарэвалюцыйныя кнігі. Менавіта гэта студэнцкая работа і стала для Генадзя Грушавога своеасаблівым пропускам у аспірантуру, куды і паступіў у 1972 годзе. А ў 1975 абараніў кандыдацкую.

## Фонд і шлях

Як толькі ў Мінску з'явіўся рух «За дэмакратычныя змены», Генадзь Грушавы знайшоў яго сам. І сам прыйшоў на пасяджэнне аргкамітэта па стварэнні Беларускага народнага фронту.

На пачатку вясны 1989 года Грушавы ўпершыню даведаўся пра вельмі важныя акалічнасці Чарнобыльскай трагедыі, а ў маі таго ж года афіцыйна стаў старшынёй Камітэта БНФ «Дзеці Чарнобыля», які потым ператварыўся ў фонд «Дзецям Чарнобыля».

Зараз многія расказваюць, што ідэя правядзення першага «Чарнобыльскага шляху» належыць менавіта ім. На самой справе, за ёй стаяў Генадзь Грушавы, а прыкладам і ўзорам для яго была Пражская вясна 1968 года.

Менавіта тады Грушавы асэнсаваў, што ў грамадскіх структур значна большы патэнцыял, чым у палітычных партый, асабліва на пераходных этапах ад таталітарызму да дэмакратыі. І асабліва ва ўмовах Беларусі, з правакацыйнай трапнасцю ахарактарызаванай Алесем Адамовічам як Вандэя.

Патэнцыял гэты мае лічбавае вымярэнне. Калі ў першым «Чарнобыльскім шляху» (дарэчы, адбыўся ён не 26 красавіка, а 30 верасня) прымала ўдзел 40 тысяч чалавек, то ў сёлетнім — каля тысячы. Сярод тых, хто дваццаць гадоў таму выходзіў на вуліцы пратэставаць, ідэйных прыхільнікаў БНФ было менш працэнта. У астатніх матывацыя была іншай.

За два тыдні да акцыі ўся дзяржаўная прапагандысцкая машына пачала ўнушаць людзям, што «Чарнобыльскі шлях» — выхадка экстрэмістаў. Каб сарваць акцыю, на тую суботу ўлады спецыяльна прызначылі рэспубліканскі суботнік. За межы Мінска людзей вывозілі цэлымі інстытутамі і прадпрыемствамі. Арганізавалі вызны гандаль. Пужалі рэпрэсіямі і эксцэсамі. Не дапамагло. Шлях адбыўся.



## Справа жыцця

У сакавіку 1990 года Грушавога абралі ў Вярхоўны Савет БССР. Пачалася яго палітычная дзейнасць. У тым жа годзе ён стаў старшынёй Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай партыі. Праіснавала яна не доўга.

Неаднойчы я быў сведкам таго, як розныя палітычныя лідары імкнуліся перацягнуць Грушавога на свой бок. Не атрымалася. Ён застаўся са сваёй справай. Для людзей. Для дзяцей. Дзеля іх ўратавання. Па вялікаму рахунку — уратавання будучыні Беларусі.

Афіцыйна фонд «Дзецям Чарнобыля» нарадзіўся 20 лістапада 1990 года. Так напісана ў пасведчанні Мінюста аб рэгістрацыі, але працаваць ён пачаў значна раней. Фонд — адзін з першых камянёў у фундаменце беларускай грамадзянскай супольнасці.

Існуе больш за 20 тлумачэнняў тэрміна «грамадзянская супольнасць». Адны лічаць, што тут трэба мець на ўвазе ўсіх людзей, якія жывуць у той ці іншай краіне. Другія — толькі тых, хто займаецца пэўнай грамадскай дзейнасцю. Ёсць сваё азначэнне і ў Генадзя Грушавога. Сутнасць грамадзянскай супольнасці, на яго думку, у трох складальніках.

Першы — грамадзянская супольнасць узнікае толькі там, дзе людзі пачынаюць арганізоўвацца самі, а не па ўказцы якой-небудзь партыі ці лідара. Другі — грамадзянская супольнасць павінна вырашаць пытанні, якія цікавяць калі не ўсё грамадства, то хаця б яго значную большасць. Нельга называць грамадзянскай супольнасцю клубы філатэлістаў ці аматараў піва. Трэці — грамадзянская супольнасць узнікае толькі там, дзе яна выступае як раўнапраўны партнёр і, у пэўным сэнсе, як канкурэнт дзяржавы, бо яны займаюцца аднымі і тымі ж праблемамі — экалогіяй, сацыяльнай сферай, ахоўвай здароўя і г.д. Часам дзяржава імкнецца «падмяць» грамадскую супольнасць, зрабіць яе сваёй падначаленай, але ў такім выпадку цалкам знікае матывацыя для ўзаемнага стымулявання. І грамадская супольнасць рана ці позна ператвараецца ў паслухмяны механізм улады, які патрэбны ёй для дасягнення пэўных мэтаў. Партнёр становіцца звычайным служкам.

Чарнобыльская трагедыя для Беларусі стала сапраўдным дэтанатарам грамадскай актыўнасці. Тры гады дзяржава хавала праўду, анічога належным чынам не рабіла, і людзі пачалі аб'ядноўвацца самі. Невыпадкова ў кароткія тэрміны па ўсёй краіне ўзнікла каля 200 структур, якія сталі рэгіянальнай базай фонду «Дзецям Чарнобыля».

Жадаючых уступіць у новую структуру было вельмі многа, аднак ніякіх спісаў тады не было. Толькі ў 1993 годзе, калі Міністэрства юстыцыі запатрабавала «картачкі ўліку», за некалькі месяцаў «з'явілася» 14 тысяч сяброў.

У 1996 годзе пасля рэферэндуму, які паставіў крыж на дзейнасці не падкантрольных уладзе дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання, у ліку якіх быў і Грушавы, той папрасіў дапамогі ў сваіх паплечнікаў. За некалі тыдняў намаганнямі арганізацый пятнаццаці раёнаў з тых сямідзесяці, якія ў той час дапамагалі фонду, было сабрана 116 тысяч подпісаў супраць скасавання паўнамоцтваў дэпутата Грушавога.

Зразумела, што ўсё гэта вельмі не падабалася ўладзе. Фонд «Дзецям Чарнобыля» пачалі знішчаць. Толькі атрымлівалася гэта вельмі дрэнна. Адзін выпадак асабліва красамоўны.

## Выстаяць і не скарыцца

У часы камуністычнай улады важную ролю выконваў Камітэт народнага кантролю. Яму і загадалі пахаваць першы парастак грамадскай супольнасці. Пачатак 1991 года — і самая першая праверка. Праз некалькі дзён правяраючы ад КНК спытаў Грушавога: што за людзі з розных месцаў Беларусі (да сотні чалавек кожны дзень) прыязджаюць да яго, чым займацца і якія атрымліваюць за гэта грошы? Вельмі здзівіўся, што ўсё адбываецца на дабрачыннай аснове.

Праз дзень зноў запрасіў Грушавога да сябе. «Па сутнасці, — сказаў ён, — я сваю работу закончыў і выканаў загад сабраць парушэнні. Ніхто з вас не мае адпаведнага досведу, таму парушэнняў вельмі шмат. Зараз маё начальства чакае гэтых дадзеных, каб вас знішчыць, але я зраблю інакш. Напішу, што ніякіх «блох» няма, бо добра зразумеў, чым вы тут займаецеся, усё бачыў сваімі вачыма. Лепш пайду на пенсію, чым выканаю іх загад».

Кіраўніцтва КНК было раз'юшана. Пэўны час фонд не чапалі. А потым здарыўся няўдалы жнівеньскі путч, пасля якога не стала КПСС. І народных кантралёраў таксама.



Праз год той кантралёр, ужо пенсіянер, пазваніў Генадзю зноў. Дамовіліся сустрэцца. Аказалася, унучка былога кантралёра вельмі цяжка захварэла, а лячыць яе могуць толькі за межамі Беларусі. Фундатары знайшліся вельмі хутка, і ўжо праз месяц у Германіі дзяўчыне зрабілі ўсе неабходныя працэдуры.

Як кажуць, каментары тут непатрэбныя. Пазней прыйдзе яшчэ шмат правяраючых (з розным узроўнем сумлення), і ўсім ім Грушавы будзе казаць адну фразу: «Дай Бог, каб у вас усё было добра, але можа здарыцца, што менавіта вам спатрэбіцца дапамога такіх людзей, як мы, і вы будзеце ўспамінаць, каму не давалі працаваць».

Мабыць, прыйдзе такі час і для тых, хто ў 2005 годзе выкінуў штаб-кватэру «Дзецям Чарнобыля» з Траецкага прадмесця, дзе яны месціліся з самага заснавання.

Не прэтэндую на нешта большае, чым на версію, але лічу афіцыйную абструкцыю фонду Грушавога следствам таго, што ўлада добра ведае эфектыўнасць работы фонду. У пачатку 1990-х гадоў людзі з каманды будучага прэзідэнта краіны звярталіся да Грушавога за дапамогай, каб арганізаваць у Шклове адпаведную структуру фонду «Дзецям Чарнобыля». А 9 чэрвеня 1997 года быў створаны дэпартамент па гуманітарнай дапамозе, вынікам дзейнасці якога стала рэзкае скарачэнне гэтай самай дапамогі.

Пагроза навісла асабіста над Грушавым. З-за праследу з боку Савета бяспекі Беларусі і пагрозы арышту ў сакавіку 1997 года ён быў вымушаны з'ехаць у ФРГ, дзе прабыў да сакавіка 1998-га.

Пасля вяртання з-за мяжы Генадзь Грушавы працягнуў сваю дзейнасць. Аўтарытэт ва ўсім свеце і падтрымка ўнутры краіны былі такімі моцнымі, што ўладзе давялося адступіць.

Фонд «Дзецям Чарнобыля» жывы і сёння. Толькі акцэнты яго дзейнасці крыху змясціліся. У дзевяностыя гады, дзякуючы гуманітарнай рабоце, быў закладзены фундамент для розных сацыяльных праграмаў, арыентаваных на моладзь, жанчын, прафесійныя групы. Таму на пачатку 2000 года з'явіліся новыя напрамкі дзейнасці. Напрыклад, рух «Жаночы форум», які па ўсёй краіне аб'яднаў актыўных жанчын для экуменічнай работы (збліжэнне рэлігій), стварыў сетку дапамогі жанчынам, што падвяргаліся гвалту, перашкаджае гандлю жанчынамі.

У рэгіёнах створана каля 30 моладзевых цэнтраў, у аснове якіх адукацыйная, экалагічная і культурна-асветніцкая дзейнасць. Пра-

цягваецца і аздараўленне дзяцей за мяжой. На гэтым фундаменце аб'ядналіся людзі, якія самі сталі носьбітамі пэўных сацыяльных ініцыятываў. А фонд дапамог іх самаарганізацыі.

**P.S.** Ад моманту заснавання да забароны ў 1996 годзе фондам «Дзецям Чарнобыля» на лячэнне за мяжу было адпраўлена больш за 900 дзяцей з цяжкімі анкалагічнымі захворваннямі. Па лініі фонду ў замежных камандзіроўках (ЗША, Вялікабрытанія, Канада, Японія, Бельгія, Германія) пабывала больш за 200 медыцынскіх супрацоўнікаў — ад загадчыкаў паліклінік да медсёстраў. Пакуль дэпартамент па гуманітарнай дапамозе (2000 г.) не ўвёў ліцэнзавання, па лініі фонду ў Беларусь паступіла гуманітарнай дапамогі, пераважна лекаў, на суму каля 500 мільёнаў долараў.



# АЛЕГ ГУЛАК

Падрыхтавана да друку 02.04.12

*Пасля шматгадовага кіравання Беларускім Хельсінкскім камітэтам вядомай Таццянай Процькай Алегу Гулаку было вельмі цяжка «стаць у руля». Як гэта звычайна бывае, усё новае пачалі параўноўваць з тым, што было раней. І даволі хутка пераканаліся: узровень працы БХК не зменіцца.*

## «Вандроўка» ў мінулае

Алег Гулак зямляк знакамітага Васіля Старавойтава, якога паспрабавалі ператварыць з легенды айчыннай сельскай гаспадаркі ў «звычайнага былога зэка». Гулак нарадзіўся 1 верасня 1967 года ў Кіраўскім раёне, у пасёлку Жылічы, што недалёка ад славутых Мышкавіч.

Як бачна, дзень народзінаў у яго выключна «настаўніцкі», таму цалкам лагічна, што бацькі Алега Гулака выкладалі ў школе. Маці Яніна Гаўрылаўна (на жаль, ужо няма) — біялогію, а бацька Мікалай Сцяпанавіч быў настаўнікам «рускай мовы і літаратуры».

Дарэчы менавіта ў Жылічах знаходзіцца маёнтак знакамітых Булакаў, адзін з якіх некалі быў у Радзе БНР. Увесь савецкі час гэты будынак актыўна выкарыстоўваўся, што і выратавала яго ад брутальнага разбурэння. Сёння ў ім вядуцца рэстаўрацыйныя работы.

Па свайму адміністрацыйнаму статусу пасёлак Жылічы знаходзіцца паміж горадам і вёскай. Значная частка насельніцтва там не працуе на зямлі пастаянна, але амаль кожны мае ўласную гаспадарку. Менавіта іх часцей усяго і абіраюць для стварэння «паказушных» аграгарадкоў.

Дарэчы, аўтар з'ўляецца прынцыповым аматарам «Вандровак у мінулае», якія ладзіць старшыня таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч. Дзякуючы яму, мы пабывалі ў розных канцах Беларусі, бачылі дзясяткі розных аграгарадкоў. І вось што цікава: надзвычай рэдка каля дома можна знайсці нейкае садовае дрэва, што цалкам не ўласціва для Беларусі. Тлумачыцца ўсё вельмі празаічна: людзі не збіраюцца там жыць доўга...

## Юрыдычны напрамак

У Жылічах адна сярэдняя школа. Яе ў 1984 годзе з залатым медалём скончыў Алег Гулак і абраў юрыдычны факультэт БДУ. Цікава, што ніхто ў родзе Гулакаў не быў юрыстам, таму на маё пытанне наконт прычын выбару ён адказаў вельмі проста — спадабалася.

Хто вучыўся на юрфаку побач з Алегам, спецыяльна распавядаць не буду. Як і называць канкрэтныя прозвішчы, бо многія з іх сёння працуюць на даволі высокіх пасадах. Абмяжуюся толькі тым, што ў 1989 годзе Гулак паспяхова атрымаў вышэйшую адукацыю.

На жаль, гэта адна з прыкмет нашага часу. Як казалі вядомыя дзеячы, хто не з намі, той супраць нас...

1989 год. Па размеркаванню Алега Гулака накіравалі ў родную Магілёўскую вобласць «падымаць» мясцовы аграпрам. Прама як сёння — бліжэй да Чарнобыльскай зоны.

Але прабыў Гулак там толькі два тыдні. Менавіта яны сталі ў нейкім сэнсе праваабарончым дэбютам.

Справа ў тым, што ўжо пасля выпуску ён ажаніўся на будучым філолагу Анастасіі, якую да гэтага ведаў амаль тры гады. Дарэчы, шлюбныя вузы заўсёды былі вельмі распаўсюджанымі паміж юрыстамі і філолагамі. І не толькі таму, што першых з большасці складаюць юнакі, а другіх — дзяўчаты. Проста студэнты юрфака і філфака БДУ жылі ў адным інтэрнаце і стрэлам Амура было значна лягчэй знаходзіць «ахвяраў».

Не буду пераказваць усе падрабязнасці змагання Алега Гулака з аграпрамаўскімі чыноўнікамі, якія вельмі своеасабліва (калі не сказаць большага) трактавалі тагачасныя законы. Адзначу толькі, што ў рэшце рэшт ён дамогся свайго і паехаў працаваць у Пінск, куды размеркавалі настаўніцай жонку.

Дакладней, стаў юрысконсультам завода «Камертон», які з'яўляецца часткай вядомага «Інтэграла». І апынуўся, як кажуць, паміж «молатам і кавадлам». Хутка пачаліся так званыя «скарачэнні», а Алег прынцыпова заклікаў «усё рабіць законна». Вынік быў прадказальны. Адміністрацыя вінавацила ў ангажаванасці рабочымі. Рабочыя казалі пра «дудку адміністрацыі»...



## Супрацьстаянне

На «Камертоне» Алег Гулак прапрацаваў тры гады. Напэўна, гэта цягнулася б і надалей, каб ён не пазнаёміўся з лідарам мясцовых сацыял-дэмакратаў Віктарам Ярашуком. Той быў фізруком у школе жонкі. Асоба даволі вядомая. І не толькі ў журналісцкім асяроддзі.

Дарэчы, менавіта пінская школа №12 у пачатку 90-х гадоў (у тым ліку і намаганнямі Ярашука) правяла страйк, дзе галоўнымі былі палітычныя патрабаванні. Да і сам Алег Гулак актыўна пачаў цікавіцца палітыкай. Дакладней, тым, што лаканічна называецца «трэцім сектарам».

Таму цалкам лагічным было тое, што ён актыўна ўключыўся ў стварэнне Пінскай суполкі Беларускага Хельсінкскага камітэта. Нелагічна тое, што ўлада дазволіла ім нарадзіцца ўвогуле, бо ўявіць такое сёння нават немагчыма.

Цяжка паверыць і ў іншае. Сам БХК быў створаны ў 1995 годзе, а яго пінская філія ў 1996. Каб правесці сустрэчу з мінскімі гасцямі, Алег Гулак звярнуўся за кансультацыяй да тагачаснага намесніка старшыні гарвыканкама, і той прапанаваў сваю «малую залю»...

Больш за тое, офіс пінскай структуры Беларускага Хельсінкскага камітэта некаторы час арэндаваў памяшканне ў адным будынку з мясцовым КДБ. Яны нават месціліся на адным паверсе. Рознымі былі толькі ўваходы... Як кажуць, «Гары Потар адпачывае...»

У 1997 годзе Анастасія паступіла ў аспірантуру БДУ, іх невялікая (адна дачка Дамініка) сям'я пераехала ў Мінск, і Алег Гулак пачаў працаваць у цэнтральным офісе БХК. Спачатку звычайным юрыстам, потым выканаўчым дырэктарам, намеснікам старшыні, а ў 2006 годзе старшынёй стаў сам.

Менавіта на гэты час прыходзіцца пачатак аднаго з самых складаных перыядаў дзейнасці праваабаронцаў, бо за некалькі месяцаў да абрання Алега Гулака старшынёй нечакана былі адменены рашэнні ўсіх гаспадарчых судоў, якія разглядалі іх «справу».

Гутарка пра добра вядомую гісторыю вакол грантаў Еўракамасіі па праграме Тасіс. Нягледзячы на тое, што тыя афіцыйна не аб-

кладаліся падаткамі, айчынныя фінансавыя пінкертоны налічылі праваабаронцам аж 155 мільёнаў (беларускіх рублёў, канешне) штрафаў, якія з улікам пені зараз ператварыліся ў больш за 200 мільёнаў.

Не засмуціла нават тое, што гранты былі ў межах міждзяржаўных пагадненняў, што аналагічныя грошы атрымлівалі яшчэ 29 структур, што нават беларускія суды палічылі «прэтэнзіі» поўным нонсэнсам... Калі ўспамінаць «ты вінаваты толькі тым, што хочацца мне есці», то трэба канстатаваць: «есці» захацелася напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2006 года...

Пройдзе пяць гадоў, і той «падатковы наезд» стане прычынай папярэджання, якое наша Міністэрства юстыцыі дасць БХК 6 чэрвеня 2011 года.

Пра іх астатнія «прыгоды» гаварыць няма сэнсу, бо яны і так добра вядомыя. Зраблю акцэнт толькі на тым, што сёння БХК — АДЗІНАЯ (!!!) незалежная праваабарончая арганізацыя ў краіне, якая захавала свой легальны статус. Іншых «зачысцілі».

Напэўна, некаторыя не ўбачаць тут нічога экстраардынарнага. Маўляў, «падумаеш — не падставіліся»... З гэтым можна пагадзіцца, калі цалкам не ўлічваць абставіны, у якіх мы ўсе сёння жывем. А абставіны такія, што над Алегам Гулакам амаль шэсць гадоў вісіць «дамоклаў меч», які ўшчэнт знішчыць яго структуру, калі для гэтага будзе адносна «прыстойная» падстава.

Пагадзіцеся, зберагчы ў такіх умовах няскоранасць сваёй арганізацыі (як і яе самую) вельмі-вельмі цяжка. Асабліва, калі тая раздражняе ўладу, не менш чым чырвоная ануча быка. Перш за ўсё тым, што не дае ажыццяўляць поўнае прававое бязмежжа, а ў мінулым годзе нават заклікала Вярхоўны суд адмяніць вынікі прэзідэнцкіх выбараў 2010 года.

Дарэчы, брутальныя падзеі 19 снежня 2010 года кранулісяі непасрэдна самога Алега Гулака. Вечарам таго дня ён пайшоў паглядзець, што будзе адбывацца на сталічных вуліцах, і падчас «хапуна» трапіў у пастарунак. Праўда, на наступны дзень суд прызнаў Гулака невінаватым і выпусціў. Незвычайная літасць для айчыннага правасуддзя. Часцей бывае наадварот...

І яшчэ. БХК юрыдычна (даволі прафесійна) дапамагае тым, хто сёння быў бы цалкам неабаронены. Яны, як тая косць у горле, перашкаджаюць без перашкод праглынуць чарговую ахвяру.



## Прымусовая дыялектыка

Не так даўно я ў чарговы раз пераканаўся, што ў гэтым свеце «ўсё паўтараецца на новым узроўні». Зараз Алег Гулак вымушаны заняцца тым, з чаго і пачыналася яго юрыдычная кар'ера — абаронай асабістых правоў. Маецца на ўвазе «пошук канцоў», якія зрабілі яго «невыязным».

Цалкам не падзяляю скепсіс з гэтай нагоды. Маўляў, у нашых судах праўды дабіцца немагчыма па вызначэнню.

Па-першае, можна прывесці добры дзясятак аргументаў і фактаў, якія абвяргаюць гэты лозунг.

Па-другое, «краіна павінна ведаць сваіх герояў». А то ў нас часцей за ўсё робіцца так: нейкі «ананім» прыдумляе розныя «дробныя гадасці», і ніхто толкам не ведае, каму трэба за іх «дзякаваць».

Што тычыцца адыёзнай прапановы адыёзнага (былога) прапагандыста наконт грамадзянства, то тут я пагаджуся толькі тады, калі абмежаванні пачнуцца з такіх, як аўтар, «ноу-хау». А то «змываюцца» ў Расею і пачынаюць адтуль «палівацъ» нашу «стабільнасць», за якую не так даўно самі ж прапаноўвалі даць Нобелеўскую прэмію ў галіне эканомікі... Агідна...

Калі я працаваў над гэтым нарысам, то некалькі разоў даводзілася чуць прэтэнзіі наконт скрупулёзнасці і зусім не нямецкай абавязковасці Алега Гулака. Больш за тое, асабіста пераканаўся ў тым, што для падобных меркаванняў ёсць пэўныя падставы.

На мой погляд, такая рыса не самая галоўная ў характары героя гэтага нарыса. Як вядома, бездакорных людзей няма ўвогуле. Да таго ж, нешта забывае часцей за ўсё толькі той, хто імкнецца запамятаваць як мага больш інфармацыі...



# СЯРГЕЙ ДРАЗДОЎСКІ

**Падрыхтавана да друку 15. 07.11**

*Аднойчы прачытаў, што вочы інваліда-вазочніка глядзяць на свет па-іншаму. З іншага ракурсу. Пасля сустрэчы са старшынёй рэспубліканскай Асацыяцыі інвалідаў-вазочнікаў Сяргеем Драздоўскім да гэтага выключна фізічнага тэрміна я б дадаў і грамадска-палітычны сэнс.*

## Пачатак

Нарадзіўся Сяргей Драздоўскі 24 лістапада 1973 года. Сталічная вуліца імя партызана Фёдара Сурганава стала першай, якую ён убачыў у сваім жыцці.

Яго бацька Яўген Вячаслававіч Драздоўскі (на жаль, ужо сышоў) усё сваё жыццё працаваў фрэзероўшчыкам. Меў салідны шосты разрад і славу спецыяліста найвышэйшай кваліфікацыі. Самыя складаныя, нестандартныя заданні па эксперыментальных праектах даручаліся яму. Працаваў на заводах Вавілава, парашковай металургіі, на «Тэрмапласце».

Маці Галіна Аляксандраўна зараз на пенсіі, а раней увесь час працавала на паліграфкамбінаце.

Бацькі Сяргея заўсёды захапляліся водным турызмам і гадоў з пяці бралі сына на розныя турысцкія злёты. На той час — мерапрыемствы вельмі прэстыжныя і папулярныя. Я не вельмі добра разбіраюся ў рэгаліях гэтага віду спорту, але ведаю, што Курылы, Сярэдняя Азія, Камчатка — крута. Думаю, пералічваць усе беларускія рэкі, па якіх прайшлі бацькі Сяргея, сэнсу няма: спіс будзе доўгім.

Напэўна, яны спадзяваліся, што сын вырасце знакамітым спартсменам. Але гэтага не адбылося. Выбітнай спартсменкай стала яго малодшая сястра Таццяна. Упершыню ў сучаснай беларускай гісторыі яна стала чэмпіёнкай свету па ветразевому спорту.

## Першая частка жыцця

Вучыўся Сяргей у сярэдняй школе №130, вядомай на той час сваім помнікам-самалётам (які 130-ая дзяліла з суседняй 65-й школай). Ніякіх «ухілаў» там не было, толькі набор у мясцовы хор. Сяргея праслухалі, і абодва бакі ўпэўніліся, што гэта не яго. На першым месцы для яго быў спорт.

Спачатку Драздоўскі захапіўся класічнай барацьбой. У іх чацвёрты клас завітаў трэнер адпаведнай секцыі. З паловы класа, што запісаліся ў секцыю, праз чатыры гады застаўся ён адзін. І раптам перайшоў на «байдаркі і каноэ». Праз год астыў і да гэтага.

Сапраўдным захапленнем сталі ўсходнія адзінаборствы. Імі Сяргей пачаў займацца з восьмага класа і працягваў да самага заканчэння БДТУ. Да моманту, калі няшчасны выпадак змяніў усё. Але не абарваў захаплення. Сёння Сяргей плануе «прыстасаваць» гэты від спорту для інвалідаў-вазочнікаў.

Пасля школы Сяргей Драздоўскі абраў Беларускі дзяржаўны тэхналагічны інстытут імя С.М. Кірава (зараз БДТУ). Спецыяльнасць — лясныя машыны і механізмы.

Пра студэнцкія гады распавядаць падрабязна няма сэнсу па той прычыне, што, хаця праз іх і прайшлі многія з нас, ёсць нешта агульнае для ўсіх — было весела. Да 7 мая 1996 года...

Да абароны дыплома заставаўся ўсяго месяц, калі Сяргей з сябрамі паехаў на пікнік. Тую рэчку нельга назваць самай глыбокай у Беларусі. Да таго ж за зіму на яе дно, напэўна, нанесла нейкіх невядомых рэчаў. Сяргей Драздоўскі нырнуў і... зламаў пазваночнік.

## Другая частка

Другая частка жыцця пачалася менавіта ў той момант, калі Сяргей нырнуў. У такіх выпадках жыццё ўмоўна дзеліцца на дзве часткі — «да хваробы» і «з ёй». Наступны год амаль цалкам прайшоў «па бальніцах». Спачатку — востры перыяд, потым — рэабілітацыя, якая звычайна заканчваецца санаторыем.

Мне шэсць гадоў таму пашанцавала пабываць у знакамітых Саках — маленькім райцэнтры ў 40 кіламетрах ад Сімферопаля. Амаль

напалову гарадок складаецца з санаторыяў. Напэўна, такой колькасці інвалідаў-вазочнікаў у былым Савецкім Саюзе больш няма нідзе. Ім там вельмі камфортна. Некаторыя нават туды пераязджаюць жыць.

Вядома, заўсёды разам з хваробай прыходзіць і выпрабаванне на сяброўства. У гэтым сэнсе ў Сяргея Драздоўскага не было шмат расчараванняў. Падтрымка сяброў (разам са сваякамі) дапамагла вярнуцца ў звычайнае жыццё і ў 1998 годзе абараніць дыплом.

Больш за тое, за год да гэтага Уладзімір Пятровіч Патапенка (сёння старшыня Рэспубліканскага таварыства інвалідаў) «выцягнуў» яго на спаборніцтвы па лёгкай атлетыцы. Нічога падобнага Сяргей Драздоўскі нават не мог уявіць. Свае першыя сто метраў ён ехаў больш дзвюх хвілін. Вазок увесь час цягнула ў бок і «прыбівала» да борту. Прыходзілася ад'язджаць назад. Сёння ён успамінае гэта амаль са смехам. Галоўны ж вынік спаборніцтва — разуменне, што можна жыць па-іншаму.

Па часе супала, што амаль адразу пасля тых спаборніцтваў адбыліся і першыя ў гісторыі Беларусі «зборы актыўнай рэабілітацыі», якія ў іншых краінах існавалі даўно. Новую методыку прывезлі шведы, і разам з літоўцамі, палякамі, украінцамі (у іх адпаведны досвед ужо быў) навучалі ёй беларусаў.

Там Сяргей Драздоўскі ўпершыню і асвоіў так званы «актыўны вазок». У тым і быў асноўны сэнс — паказаць, што людзі з абмежаванымі магчымасцямі могуць весці актыўны лад жыцця. Гэта было сапраўднае адкрыццё. Пагадзіцеся, для маладога чалавека ў адзін момант страціць усе жыццёвыя арыенціры, а потым вярнуць іх назад — вельмі складана.

Цалкам натуральна, што, калі людзі робяць падобныя адкрыцці, ім адразу ж хочацца падзяліцца сваімі ведамі з іншымі. Перш за ўсё для таго, каб тыя не паўтарылі іх памылак, пазбеглі іх адчаю, хутчэй вярнуліся да паўнавартаснага жыцця.

Так у 1997 годзе і была створана Асацыяцыя інвалідаў-вазочнікаў.

### Новы змест

Пэўны час Сяргей Драздоўскі займаўся танцамі (зараз каго-небудзь гэтым здзівіць цяжка), але даволі хутка зноў зразумеў, што гэ-



та таксама не яго. Грамадская дзейнасць была больш даспадобы, і ён поўнасцю «пераключыўся» менавіта на яе. Таму цалкам невыпадкова, што ў 2001 годзе яго абралі старшынёй Асацыяцыі інвалідаў-вазочнікаў.

Канешне, яму хацелася больш увагі аддаваць непасрэдна спорту, але ў нашай краіне той настолькі не развіты, што інвалідам трэба быць аднachасова спартсменамі, менеджэрамі і трэнерамі.

Словам, прага да грамадскай дзейнасці перамагла. Цікава, што заняўся Сяргей ёй толькі ў сталым узросце, а ў школе свой камсамол «прагуляў». У прамым сэнсе гэтага слова. Не, вучыўся ён добра, але ў той момант, калі трэба было ісці ў райкам, яго проста не знайшлі, а мабільных тэлефонаў тады не было.

Прыемна, калі чалавек займаецца тым, што яму падабаецца, але яшчэ больш прыемна, калі не спыняецца на дасягнутым. Новае захапленне вельмі спадабалася Сяргею Драздоўскаму, але з часам ён адчуў, што будзе лепш працаваць, калі атрымае яшчэ і юрыдычныя веды. Так ён стаў зноў вучыцца. На гэты раз у Акадэміі кіравання, якую скончыў у 2006 годзе.

Уладкаваўся на пасаду юрысконсульта ў Рэспубліканскае таварыства інвалідаў. Там ён сустрэў Мікалая Ігнатавіча Калбаску, пад кіраўніцтвам якога працаваў у 1998 годзе спецыялістам па тэхнічных сродках рэабілітацыі. Асоба добра вядомая для найноўшай беларускай гісторыі. Няма сумневу, што многія памятаюць адзінага «вазочніка» ў складзе Вярхоўнага Савета 12 склікання. Пазней ён нават спрабаваў стаць прэзідэнтам краіны, але сышоў з дыстанцыі на этапе збору подпісаў.

Асобна трэба сказаць і пра тое, што Сяргей Драздоўскі не спыніўся на дыпломах БДТУ і Акадэміі кіравання. Асабліва важнай у яго жыцці стала вучоба на Вышэйшых курсах па правах чалавека ў Варшаве. Менавіта гэта значна паўплывала на жыццёвыя прыярытэты і сфармавала прафесійную накіраванасць.

Каб не было ніякай блытаніны, патлумачу, што грамадскую дзейнасць часта ажыццяўляюць на грамадскіх пачатках, а за штатную работу атрымліваюць пэўны заробак. Гэта я да таго, што новая пасада не перашкаджала Сяргею, як і раней, узначальваць Асацыяцыю інвалідаў-вазочнікаў.

У 2009 годзе ён хацеў пакінуць сваю пасаду на карысць стварэння Офіса па правах людзей з інваліднасцю. Тады не атрыма-

ласяя, але «сыход па ўласным жаданні» заставаўся не болей чым справай часу.

І яшчэ. У Сяргея Драздоўскага сярод іншага ёсць досвед выкладання для студэнтаў, на семінарах і трэнінгах, а таксама (апошнія пяць гадоў) работа ў праекце ПРААН тэматычным кансультантам.

## Працяг

Не буду пералічваць усё, што было зроблена з пачатку стварэння Асацыяцыі інвалідаў-вазочнікаў, адзначу толькі, што час ад часу адносіны з беларускай дзяржавай у яе складваюцца даволі не проста. У тым сэнсе, што яна больш-менш эфектыўна працуе па тых напрамках, якія сама і вызначае. З «трэцім сектарам» такое атрымліваецца далёка не заўсёды. Адсюль і пастаянныя «накладкі».

Найбольш паказальны прыклад — праца лагераў актыўнай рэабілітацыі. Спачатку іх ладзілі разам, а потым дзяржава палічыла, што незалежны партнёр ёй больш не патрэбны, і стварыла цалкам падкантрольную структуру. Урэшце, колькасць тых, хто прымае ўдзел у актыўнай рэабілітацыі, зменшылася ў некалькі разоў, аднак дзяржава перастала чуць непрыемныя пытанні...

І ўвогуле, у вачах дзяржаўных чыноўнікаў Сяргей Драздоўскі — апанент, якому неаднаразова адмаўлялі ва ўдзеле ў розных перадачах дзяржаўнага тэлебачання, а яго дзейнасць па ўмацаванню незалежнасці і свабоды людзей у вазку — «наўпрост супярэчыць іх інтарэсам».

Калі параўнаць умовы існавання інвалідаў у Беларусі з умовамі краін, што абралі дэмакратычны шлях развіцця (напрыклад, Польшчай), розніца атрымліваецца каласальная. А стартавыя ўмовы былі амаль аднолькавымі.

Нават дакладную лічбу інвалідаў-вазочнікаў у Беларусі назваць сёння не можа ніхто, бо іх, нягледзячы на шматгадовыя размовы пра гэта, пакуль папросту не палічылі. Прыблізна 10—12 тысяч чалавек. Гэта толькі тыя, хто «прывязаны» да вазка пастаянна альбо чыя хвароба носіць доўгатэрміновы характар. Колькасць жа тых, хто туды трапляе часова і мае перспектывы на поўнае выздараўленне, яшчэ большая.

Самае цікавае, што падобны ўзровень уласцівы амаль усім краінам свету. Незалежна ад узроўню развіцця. Розніца толькі ў стаўленні да такіх хворых. Любыя формы дыскрымінацыі ў нармальных



(чытай — дэмакратычных) краінах знаходзяцца пад жорсткай забаронай.

Упэўнены, што зараз прагучала багата пытанняў кшталту «А прычым тут дэмакратыя?» Пры тым, што яна дае магчымасць людзям дапамагаць самім сабе, а не чакаць «міласць» ад розных чыноўнікаў. Да і «міласць» гэта часцей за ўсё зводзіцца да банальных ільгот і адсутнасці відавочных перашкод.

**P.S.** У 2011 годзе пачаў дзейнасць Офіс па правах людзей з інваліднасцю. Галоўным вынікам іх працы, на мой погляд, стала тое, што ў гэтым напрамку актывізавала дзейнасць і дзяржава. Праўду кажуць, канкурэнцыя штурхае наперад.

# ІРЫНА ЖЫХАР



**Падрыхтавана да друку 15.01.11**

*Шчыра паважаю гэтую жанчыну за незвычайную мужнасць, бо далёка не кожны здольны дапамагаць іншым і адначасова пераадольваць сваю хваробу. Цалкам не згодны з тымі, хто называе жанчын «слабым полам». Часта яны мацней за самых моцных. Перш за ўсё, духам. Можа, менавіта таму Ірына Жыхар не толькі ўзначальвае раду Беларускай арганізацыі працоўных жанчын, але на працягу апошніх 10 гадоў жыцця ўдзельнічала ў стварэнні грамадскай ініцыятывы «За выратаванне мемарыяла Курапаты», потым — «За свабоднае веравызнанне». Зараз — грамадскага руху «Разам супраць рака».*

## Першыя выпрабаванні

Дазволю сабе пачаць з жарту самой Ірыны: «Як з'явілася на свет, я не памятаю». Таму даверымся пашпартным дадзеным: адбылося гэта 11 жніўня 1966 года ў Мінску.

Бацьку звалі Вячаслаў Аляксандравіч. Працаваў ён дырэктарам гандлёвай крамы. Маці Любоў Міхайлаўна вышэйшай адукацыі не мела і таму працавала там жа, толькі простым касірам. На працы яны і пазнаёміліся. Потым было вяселле, аднак разам яны пражылі менш за дзесяць гадоў, а скасавалі шлюб не таму, што ён даволі часта распускаў рукі. Не вытрымала Любоў Міхайлаўна іншага — здрады. Адбылося гэта падчас будаўніцтва сям'ёй Жыхар жыллёвага кааператыву. Суд абавязаў былога мужа выплаціць значную частку «ўзносаў» і аддаць палову разам нажытай маёмасці.

Мякка кажучы, маці з дачкой прыйшлося складана. У кватэру плошчай 45 квадратных метраў давялося пусціць яшчэ чатырох



кватарантаў. Любоў Міхайлаўна пачала працаваць на дзвюх працах адначасова. Нескладана ўявіць, што вольнага часу ў яе амаль не было, але Ірына часта бачыла маці з кніжкамі. Без іх яна не магла жыць. Гэта было як чыстае паветра.

На жаль, 5 красавіка 2010 года маці не стала, але дачцэ гэта мужная жанчына паспела перадаць як мінімум дзве рэчы — любоў да кніжак і моц, якая дазваляе перамагаць любыя жыццёвыя выпрабаванні.

## Ракавая хімія

«Хіміцай» Ірына Жыхар стала, можна сказаць, выпадкова. Спачатку яна пайшла ў 47-ю школу, але той хутка надалі «спартыўны ўхіл», са спецыялізацыяй «плаванне». Зразумела, што дзяцей туды сталі «адбіраць». Самае цікавае, што Іра гэтыя іспыты вытрымала, аднак «спартыўнай надзеяй краіны» станавіцца не пажадала, а перайшла ў іншую школу. Дакладней, у 40-ю. Там быў «хімічны ўхіл». Справа ў тым, што Ірына ў той час займалася спартовай гімнастыкай (яна больш падабалася маці, а не самой дзяўчынцы), але ў спорце расчаравалася і перайшла ў «народныя танцы».

У 40-й школе яна і ўбачыла, што бываюць настаўнікі ад Бога, і менавіта гэта потым значна паўплывала на яе лёс. І яшчэ адзін вельмі важны момант. Ірына была не толькі паспяховай вучаніцай, але і даволі прыкметнай грамадскай актывісткай. Так атрымалася, што камітэт камсамолу школы, сябрам якога яна была, па сутнасці стаў артыстычнай трупай школьнага тэатра. Іра дэбютавала ў ролі Дуэнні ў «Сірано дэ Бержэрак».

Зацікаўленасць тэатрам пазней праявілася і на педагагічным аддзяленні хімічнага факультэта БДУ, куды яна паступіла ў 1983 годзе. Адным з тых, хто пісаў сцэнары для іх спектакляў, быў вядомы сёння палітолаг Сяргей Нікалюк.

Праз некалькі дзён пасля аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі чуткі пра яе маштабы дайшлі да людзей. Ірына Жыхар тады вучылася на трэцім курсе і бачыла, які шок быў у выпускнікоў. Тэрмінова адбылося пераразмеркаванне, і ўсіх «хімікаў» накіравалі ў «зону», з якой астатнія пачалі бегчы.

Не хочацца праводзіць нейкія паралелі, але без іх тут проста не абысціся. У савецкія часы, як і зараз, было прымусовае размеркаванне студэнтаў. Як і зараз, тыя, хто не хацеў выконваць загад

«зверху», павінны былі (пра гэта тады казалі многія) вярнуць грошы, якія на іх навучанне патраціла дзяржава. Дазволіць сабе гэта Ірына Жыхар не магла, таму ў 1988 годзе паехала працаваць настаўніцай хіміі ў вёску Звяняцкае, якая знаходзіцца на мяжы Хойніцкага і Брагінскага раёнаў. Побач знаходзіўся магільнік радыеактыўных адходаў...

Калі яна зноў вярнулася ў Мінск і пачала працаваць у новай элітнай школе, што месціцца ў Серабранцы, намеснікам дырэктара па выхаваўчай працы, Ірыне Жыхар было толькі 24 гады. Пагадзіцеся, для «начальства» ўзрост вельмі сціплы.

У 1993 годзе яна паступіла ў аспірантуру Рэспубліканскага інстытута ўдасканалення настаўнікаў, які потым ператварыўся ў Акадэмію паслядыпломнай адукацыі і... захварэла. Гэта была першая «анкалогія».

## Крокі ў «трэці сектар»

Дыягназ, які медыкі называюць метастазуючы рак калявушнай сліннай залозы, Ірына Жыхар даволі хутка перамагла. Нават не стала пралангаваць інваліднасць, якую ёй далі адразу пасля аперацыі. Зразумела, спатрэбіліся духоўная моц, незвычайная мужнасць і Божая дапамога, якая даецца толькі тым, хто не здаецца.

Невыпадкова, што менавіта на гэты перыяд жыцця прыходзіцца і пачатак грамадскай дзейнасці Ірыны Жыхар, бо даволі часта жыццёвыя выпрабаванні робяць нас больш уважлівымі да праблемаў іншых людзей.

Для Ірыны Жыхар яна пачалася з экалагічных праблемаў Ленінскага раёна беларускай сталіцы. Дакладней, з сустрэчы з тагачасным дырэктарам Лошыцкага парку Яўгенам Церахавым, які быў літаральна апантаны парадкам, чысцінёй і прыгажосцю свайго раёна.

Перабудова быццам бы разварушыла летаргічны сон беларускага грамадства. Паўсюль пачалі ўзнікаць нейкія незалежныя ініцыятывы, рухі, свабодныя прафсаюзы, страйкамы. Нават у школах. У тым ліку і там, дзе працавала Жыхар.

Улады, як і зараз, любое іншадумства адразу імкнуліся ўзяць пад асабісты кантроль і «прасоўвалі» туды «патрэбных» людзей. Так было і з дырэктарам школы, але педагагічны калектыў адмовіў ёй у даверу. У страйкам абралі Ірыну Жыхар.



Абсалютна зразумела, што ў школе яе пачалі паціху «есці», асабліва пасля спробы ўнікнуць у прынцыпы размеркавання прэміяльнага фонду. Больш за тое, у 1995 годзе яна была таемна звольненая.

Потым была газета «Рабочы». Побач з рэдакцыяй месціўся офіс грамадскага аб'яднання «Беларуская арганізацыя працоўных жанчын», таму цалкам лагічна, што неўзабаве яна стала і іх актывісткай. І неблагой мабыць, бо хутка Ірыну абралі намеснікам старшыні, а ў 2005 годзе яна стала лідарам гэтай структуры.

## Прага свабоды

Менавіта там Ірына Жыхар і зразумела, што ў сучаснай Беларусі толькі «трэці сектар», толькі грамадская дзейнасць даюць чалавеку магчымасць адчуваць сябе сапраўды свабодным, адказным за сваю справу.

Гісторыя стварэння Беларускай арганізацыі працоўных жанчын тыповая для нашага часу. Пасля страйку на мінскім метро (жнівень 1995 года) выйшаў указ аб часовым спыненні дзейнасці свабодных прафсаюзаў. Ну а паколькі іх праца была абсалютна празрыстай для наймальнікаў, ціск быў арганізаваны пад абвінавачванне ў «тэрарыстычнай дзейнасці».

Першымі ад яго пацярпелі жанчыны. З аднаго боку, яны былі вымушаныя сысці са свабоднага прафсаюзу, з другога — хацелі захаваць сваю арганізацыю, бо ўжо адчулі ўсе перавагі грамадскага самакіравання. Так узнікла грамадскае аб'яднанне «Беларуская арганізацыя працоўных жанчын».

Сёння ў арганізацыі 270 сяброў. Яе дзейнасць цалкам перафарматавана. Калі раней усе ініцыятывы ішлі «зверху» (звычка савецкіх часоў), то зараз — «знізу». Людзі перастаюць быць статыстамі і пачынаюць усведамляць, якую сацыяльную карысць з дапамогай грамадскай арганізацыі яны могуць прынесці.

Канкрэтным прыкладам тут можа быць сама Ірына Жыхар. У 2008 годзе ў яе зноў быў дыягнаставаны рак, на гэты раз — малочнай залозы. Усе зразумелі б, калі б яна, як кажуць, сышла ў цень. Наадварот. Ірына не толькі не хавае сваёй хваробы, але імкнецца дапамагчы іншым.

Адным з накірункаў дзейнасці яе арганізацыі стала прафілактыка гэтай хваробы на ўсіх узроўнях. Кампанія «Экалагічны прыгавор»

прысвечана правільнаму выбару прадуктаў харчавання, кампаніі «Здаровы лад жыцця», «Супраць рака малочнай залозы» — шляхам, спосабам уласнага супрацьстаяння раку, мабілізацыі ўсіх рэсурсаў арганізма на яго пераадоленне. Нават «кіно» пра галоўнага мамолага Мінздрава краіны папулярызавалі.

Больш за тое, Ірыны Жыхар асабіста напісала распаўсюджаны потым па ўсёй Беларусі «Жывы ліст», дзе не толькі расказала сваю гісторыю, але і давала другім людзям надзею на будучыню. Праца па сацыяльнай рэабілітацыі анкалагічна хворых людзей і іх блізкіх зараз становіцца галоўнай справай жыцця Ірыны.

### Падкантрольная «лібералізацыя»

Маладыя б сказалі, што «трэці сектар» апошнім часам «колбасит», і цалкам мелі б рацыю. Справа ў тым, што беларускія ўлады добра разумеюць, што, нягледзячы на «піраву» перамогу, якой ім удалося дабіцца зараз, рана альбо позна давядзецца мець справы з «трэцім сектарам».

Некаторыя лічаць, што для гэтага і быў створаны Грамадскі кансультацыйны савет пры Адміністрацыі Прэзідэнта, які ўзначальвае Уладзімір Макей. Тлумачыцца тут усё вельмі проста і банальна: патрэбныя еўрапейскія грошы.

Пачалося ўсё з таго, што пасля першага форума «Усходняга партнёрства» было прынятае рашэнне: на перамовах паміж нацыянальнымі ўрадамі і Еўропай (каб ведаць, што адбываецца) павінны прысутнічаць прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці. Калі беларускія ўлады ўбачылі там незалежны «трэці сектар», адразу паставілі ўмову, каб іх больш не было. Самае сумнае, што Еўропа на такое пайшла.

На другім форуме на гэтую палітычную анамалію звярнулі ўвагу ўсе, і стала ясна, што да новай сустрэчы відавочны нонсэнс не дажыве. Адсюль і імкненне зрабіць «правільную» грамадскасць. Тую, з якой працуе нават дзяржава.

Лагічна, што ўсе, хто супраць падмены рэальнага грамадскага сектара, аўтаматычна становяцца «няправільнымі». Сярод іх і Ірына Жыхар, бо яна ўсё сваё жыццё імкнецца да сапраўднай свабоды і ўласнай адказнасці перад Богам.

# ЛЕАНІД ЗАІКА



Падрыхтавана да друку 14.10.11

*Пачатак гэтага артыкула я ўбачыў на Камароўскім рынку. На майцы аднаго з пакупнікоў было напісана: «Жыццё сумнае, затое зарплата смешная». Вельмі крэатыўная падказка зрабіць героем чарговага нарыса кагосьці з эканамістаў. На мой погляд, адзін з самых лепшых у іх кампаніі — кіраўнік аналітычнага цэнтра «Стратэгія» Леанід Заіка.*

### Касмапалітычны дэбют

Касмапалітам сябе называе сам Леанід Фёдаравіч. І мае рацыю: яго бацька Фёдар Іванавіч родам з Украіны, маці Галіна Раманаўна — з расійскага Курску, а сам ён нарадзіўся 23 жніўня 1948 года ў беларускім Гродне. Дарэчы, згодна з сацыялагічнымі апытаннямі, такімі «касмапалітамі» сябе лічаць каля сямі працэнтаў грамадзян Беларусі.

Бацька будучага эканаміста быў вайскоўцам (камандзір палка), і таму дзяцінства нашага героя прайшло пераважна ў вайсковых гарнізонах. Некалькі з іх прыйшліся на Германію, куды Фёдара Іванавіча перавялі ў 1959 годзе. Мабыць, там яго сын Лёня і зразумеў, што ўзровень жыцця Савецкага Саюза значна саступае замежным стандартам.

Не ведаю, чым было абумоўлена тое глупства, але ў СССР дзеці вайскоўцаў, што служылі за межамі краіны, мелі права знаходзіцца разам з бацькамі толькі да 16-гадовага ўзросту. Потым іх неабходна было адпраўляць у СССР. Так Леанід Заіка на кароткі тэрмін зноў апынуўся ў родным Гродне. Хутка ў Беларусь, у Слуцк, вярнулі яго бацьку, які неўзабаве пераехаў у Мінск.

Тут восенню 1965 года Леанід Заіка і пайшоў у апошні (11-ы) клас адной са школ. Скончыў школу з залатым медалём і паступіў на гандлёвы факультэт Інстытута народнай гаспадаркі.

### Эканамічны дэбют

Паралельна з Наргасам у Леаніда Заікі ўзнікла жаданне паступіць у інстытут замежных моў, таму што пасля жыцця ў Германіі (і не толькі) ён добра ўсвядоміў, што без ведання замежнай мовы дабіцца нечага істотнага немагчыма. На жаль, ажыццявіць свой намер у той час яму не ўдалося, бо на паралельнае навучанне ў дзвюх ВНУ патрабаваўся дазвол аж на ўзроўні намесніка Міністра адукацыі.

Але, хаця і праз шмат гадоў, Леанід Заіка скончыць курсы англійскай і французскай моў, дадаўшы іх да нямецкай, якой авалодаў за гады жыцця ў Германіі.

Вучыцца на адну стыпендыю за савецкім часам было практычна немагчыма, хаця параўнальна з сённяшняй яна была значна вышэй. Леаніду Заіку было не проста цяжка, а вельмі цяжка, бо акрамя яго ў сям'і былі яшчэ два браты і сястра.

Паралельна з вучобай Леанід пачаў працаваць. Днём — вучоба, вечарам — работа. Працаўладкаваўся ў сталічны Дзяржаўны універмаг (ГУМ) дэманстратарам музычнай секцыі. Кансультаваў пакупнікоў, даваў ім парады.

Час ад часу туды заходзіў Юры Антонаў (будучая зорка савецкай эстрады) і пачынаў граць на піяніна. Збіраўся цэлы натоўп.

Чаму менавіта такі выбар? Справа ў тым, што Заіка быў заядлым «бітламанам» не толькі тэарэтычна, але і практычна. Разам з аднадумцамі ён стварыў «сваю каманду» і граў на танцах. Дарэчы, такім жа шляхам ішоў тады і вядомы зараз Аляксандр Ціхановіч.

На трэцім курсе Заіку «зарубілі» Ленінскую стыпендыю. Парткам не прапусціў хлопца з доўгімі валасамі, у модных акулярах і з гітарай у руцэ.

Нягледзячы на «несавецкі» выгляд, вучыўся Леанід Заіка выдатна, і на чацвёртым курсе яму прапанавалі пайсці ў аспірантуру. Так і зрабіў.

У 1974 годзе Заіка абараніў кандыдацкую дысертацыю, а ў наступным стаў выкладаць у родным Наргасе.



### «Палітычны» дэбют

Двукоссе тут невыпадковае, бо чыстай палітыкай Леанід Заіка ніколі не займаўся. Яна сама пачала «займацца» ім, бо, як вядома, з'яўляецца «канцэнтраваным выражэннем эканомікі».

У 1983 годзе ён пачаў выкладаць у Інстытуце павышэння кваліфікацыі выкладчыкаў, а пасля стварэння Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта (ЕГУ) стаў там першым дэканам факультэта эканомікі, адпрацаваў на гэтай пасадзе тры гады. Цікава, што прэзентацыя ЕГУ, якую вёў Леанід Заіка, адбылася ў тым самым будынку, дзе зараз афіцыйна лічаць «адукацыйных эмігрантаў» сваімі ідэалагічнымі візаві.

У 1988 годзе Леанід Заіка паехаў на гадавую стажыроўку ў Кітай, дзе вывучаў досвед, які ў апошняе дзесяцігоддзе стаў па сутнасці дзяржаўным арыенцірам. Але, у адрозненне ад дзяржаўных чыноўнікаў, сярод якіх няма сапраўдных эканамістаў-тэарэтыкаў, у яго былі яшчэ падобныя камандзіроўкі ў Злучаныя Штаты Амерыкі, Вялікабрытанію і іншыя краіны, куды «дзяржаўнікаў» амаль не запрашаюць.

У гэты ж час лёс звёў Леаніда Заіку з Анатолем Майсенем. Пазнаёміўся ў «спецхране» былой «ленінкі». Працавалі там толькі тыя, хто ведаў замежныя мовы. Звычайна, такіх было не больш за 10—15 чалавек. Вельмі хутка яны сталі «адной камандай», і таму з'яўленне пасля путчу 1991 года Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятываў (НЦСІ) «Усход—Захад» было цалкам лагічным.

З пачаткам перабудовы на Беларускім тэлебачанні з'явілася новая перадача — размовы на міжнародныя тэмы. Вёў яе Леанід Заіка. Адной з самых цікавых стала размова з унукам «жалезнага канцлера» Бісмарка, які ў той момант узначальваў знакаміты Інстытут Гётэ і прыехаў у Мінск па запрашэнню нямецкай амбасады.

Потым Леанід Заіка «перадаў» сваю праграму Анатолю Майсеню, які вырашыў зрабіць крэн у бок журналістыкі. Так бывае толькі паміж людзьмі, якія вельмі блізкія па духу, таму можна толькі ўявіць, якой стратай для Заікі стала трагічная смерць Майсені 12 лістапада 1996 года.

Але НЦСІ «Усход—Захад» перастаў існаваць зусім не па гэтай прычыне.

Пасля рэферэндуму 1996 года Вярхоўны Савет 13-га склікання, мякка кажучы, апынуўся ў апале. Яго спікер Сямён Шарэцкі папра-

сіў Леаніда Заіку правесці на іх пляцоўцы пасяджэнне па аграрных пытаннях, бо ў іншыя месцы іх не пускалі. Той пагадзіўся, што і стала прычынай яго «палітычнага» дэбюту.

### Дэбют «санта-барбары»

Так НЦСІ «Усход—Захад» стаў «гняздом апазіцыі». Літаральна на наступны дзень пасля таго, як адбылося гэта пасяджэнне, да іх па даручэнню тагачаснага сакратара Савета бяспекі Шэймана прыйшла праверка. І пачала шукаць па сейфах «мільёны апазіцыі».

Аб узроўні тых, хто праводзіў «рэвізію», шмат гаварыць не трэба. Дастаткова аднаго факту. Праз тры дні работы «рэвізоры» спыталіся: «А хто такі грант і чаму гэты чалавек дае вам грошы?..»

У савеце НЦСІ «Усход—Захад» на той час былі Тамара Віннікава, Міхаіл Мясніковіч, Павел Якубовіч, Зміцер Булахаў, аднак гэта не выратавала ад сумнага выніку. У 1997 годзе ў «кампаніі» з фондам Сораса і фондам «Дзеці Чарнобылю» юрыдычна ён спыніў сваё існаванне.

У гэты ж час з'явілася ідэя стварэння беларуска-нямецкага Мінскага форуму, які тады і дэбютаваў. Леанід Заіка быў сярод першых заснавальнікаў і вельмі спадзяваўся, што «пляцоўка» для дыялогу паміж апазіцыяй і ўладай ніколі не будзе пустой. На жаль, менавіта гэта ў 2011 годзе і здарылася.

У нейкім сэнсе аналітычны цэнтр «Стратэгія» працягнуў справу НЦСІ «Усход—Захад». Перад рэгістрацыяй яго заснавальнікі прозвішчам Заікі вырашылі не дражніць гусей, таму першым дырэктарам быў вядомы юрыст Сяргей Леўшуноў. Праз год яго замянілі Леанідам Заікам, які ўзначальвае структуру і зараз.

### Туманная будучыня

Нічога не хачу сказаць пра ўзровень некаторых высокіх кіраўнікоў, аднак упэўнены, што іх адукацыі і эрудыцыі недастаткова, каб узначальваць галоўную банкаўскую ўстанову краіны... І базы завочнага Наргаса тут яўна недастаткова...

Напэўна, адсюль і «вынікі». Самае цікавае, што іх можна было б пазбегнуць. На погляд Леаніда Заікі, калі б урадам яшчэ вясной гэтага года былі прынятыя адпаведныя меры (значнае скарачэнне колькасці чыноўнікаў, іх заробкаў, «каштоўных» праграм і г.д.), сённяшніх астранамічных курсаў валют можна было б пазбегнуць.



Як вядома, гэтага не адбылося, таму і будучыня нас чакае даволі трывожная. Радуе, што беларускі рубель крыху ўзмацніўся, але аналітыкі ў адзін голас сцвярджаюць, што робіцца гэта не рынкавымі, а адміністрацыйнымі метадамі, таму пра рэальную карціну пакуль сказаць вельмі цяжка.

Рэальныя толькі кошты ў крамах. Напрыклад, тая ж каўбаса сягае ўжо за 100 тысяч беларускіх рублёў за кілаграм. Леанід Заіка хоча адрэзаць ад яе кавалак на адну тысячу і пасלаць яе Міхаілу Мясніковічу. Каб лепш было бачна, колькі зараз каштуе беларускі рубель...

# МІРАСЛАЎ КОБАСА



Падрыхтавана да друку 17.07.10

*Калі я папрасіў Міраслава Кобасу распавесці пра сваё жыццё, ён пачаў не з даты свайго нараджэння, а з дня стварэння Асветніцкага грамадскага аб'яднання (АГА) «Фонд імя Льва Сапегі». За апошнія гады я задаваў гэтае пытанне розным людзям больш за сотню раз, але такую храналогію адказу чуў упершыню...*

## Зорная мара

Сам жа Міраслаў Кобаса нарадзіўся 2 чэрвеня 1954 года ў райцэнтры Даліна Івана-Франкоўскай вобласці. Як і многія юнакі ў 17 гадоў, ён захапляўся фантастыкай і хацеў быць бліжэй да зорак, але астранамічныя ВНУ знаходзіліся ў Кіеве, Маскве, Санкт-Пецярбургу і некаторых іншых далёкіх гарадах. Міраслаў добра разумеў, што з правінцыйным школьным атэстатам (амаль усе выдатныя адзнакі) прабіцца туды практычна немагчыма, таму абраў «астраномію і геадэзію» Львоўскага політэхнічнага інстытута (ЛПІ).

Дарэчы, бацька Міраслава Уладзімір Дзям'янавіч 35 гадоў быў нафтавіком, у непасрэдным сэнсе гэтага слова. Нямногія ведаюць, што сваёй нафтай і газам Украіна забяспечвае ўсё насельніцтва сваёй краіны, а купляе іх у Расіі толькі для прамысловасці. Ад роднага дома Кобасы да бліжэйшай буравой вышкі было ўсяго трыста метраў.

Маці Марыя Сцяпанаўна 12 першых гадоў жыцця Міраслава выхоўвала яго і сястру, пільнавала дамашнюю гаспадарку, а потым працавала качагарам і на базе буравых трубаў.

У Мінск Міраслаў трапіў, можна сказаць, з дапамогай «Аэрафлоту»: размеркаванне было «ўсесаюзнае». Спецыяльнасць патрабава-



ла пасля кожнага курса даволі працяглую практыку на вытворчасці. Пасля чацвёртага курса Кобаса паўгода працаваў у беларускай геадэзіі. Там і прапанавалі пайсці пасля сканчэнне ЛПІ да іх. Было гэты напрыканцы кастрычніка 1975 года.

Так Міраслаў Кобаса і зрабіў. У маі 1976 года ён са Львова на некалькі гадзін прыляцеў у Мінск, забраў падрыхтаванае запрашэнне, вярнуўся і асабіста аднёс яго ў свой дэканат. Квіток у адзін бок пацягнуў 17 савецкіх рублёў, што было нямала, але мара каштуе значна даражэй.

Ён ніколі не пашкадаваў пра свой жыццёвы выбар, хаця той і меў да зорак даволі ўскоснае дачыненне. Новай прафесіі Кобаса ахвяраваў 14 гадоў жыцця, большая палова з якіх выпала на камандзіроўкі. Там яны жылі па прынцыпу «кожны сам сабе начальнік» і добра ўсведамлялі, што такое сапраўдная свабода.

Зразумела, такі рытм вытрымае не кожная жонка. І тут Міраславу яшчэ раз вельмі пашанцавала. Таццяна на два гады пазней за яго скончыла той жа самы факультэт, толькі па спецыяльнасці «інжынерная геадэзія», і добра ўсведамляла, што яе чакае.

Першыя шэсць гадоў Міраслаў Кобаса працаваў як кіраўнік брыгады, а астатнія восем быў кіраўніком геадэзічнай партыі. Можа, пазней гэта свабода дзеянняў і будзе падмуркам другой свабоды — думак.

## Праз церні да зорак

Пачалося ўсё з таго, што ў 1990 годзе Міраслава Кобасу сярод іншых абралі дэпутатам Мінскага гарадскога савету. Зараз такога не можа быць па вызначэнню, але тады там існавала тры фракцыі — камуністычная, прадэмакратычная, якую ў большасці складалі прадстаўнікі БНФ, і «нейтральная» — тыя, хто ўжо расчараваўся ў КПСС, але пакуль не вызначыўся з палітычнымі прыярытэтамі.

Кобасу абралі старшынёй камісіі па льготах і прывілеях. Там ён зразумеў, што адукацыі не хапае, і пайшоў вучыцца ў БДУ на юрыдычны факультэт. Больш за тое, стала абсалютна відавочна, што для таго, каб нешта змяніць у грамадстве, нельга думаць: «шапкамі закідаем», а ставіцца да ўсяго трэба больш грунтоўна. Менавіта для дасягнення апошняй мэты і было патрэбна нейкае апірышча.

26 чэрвеня 1992 года ініцыятыўная група, у якую ўваходзілі 18 аўтарытэтных для Беларусі (і не толькі) людзей (напрыклад, мастак

Алесь Марачкін і пісьменнік Артур Вольскі), правяла ўстаноўчы з'езд адной з самых вядомых сёння арганізацый «трэцяга сектару». Пэўны час пайшоў на падрыхтоўку неабходных папер, і 11 ліпеня 1992 года яе зарэгістравалі ў беларускім Міністэрстве юстыцыі.

Тады гэта быў Беларускі рэспубліканскі фонд падтрымкі дэмакратычных рэформаў. А знаёмае нам «імя Льва Сапегі» з'вілася значна пазней, падчас чарговай перарэгістрацыі, якіх, дарэчы, за 18 гадоў існавання арганізацыі было аж шэсць. Амаль усе пры існуючай уладзе.

Як заўсёды, першапачаткова ў новай структуры былі пэўныя арганізацыйныя складанасці, але ўжо ў 1994 годзе з'явілася магчымасць здымаць офіс, утрымліваць невялікі штат і мець асабістага бухгалтара. Тыя, хто разбіраюцца, скажуць, што гэта нямала.

Першым старшынёй праўлення быў вядомы юрыст Георгій Куневіч (былы дэпутат Мінгарсавету), які сёння выкладае ў БДУ. Кіраваў ён арганізацыяй да 1997 года, калі на гэту пасаду абралі Міраслава Кобасу. А прыйшоў ён туды працаваць 5 мая 1994 года.

Не буду пералічваць усе накірункі дзейнасці арганізацыі, а звярну вашу ўвагу толькі на самыя галоўныя, бо гэта дапаможа зразумець, чаму ўлады лічаць АГА «Фонд імя Льва Сапегі» апазіцыйнай, хаця з самага пачатку падкрэсліваецца, што гэта цалкам апалітычная арганізацыя. Маюцца на ўвазе «развіццё мясцовага самакіравання» і «рэалізацыя правоў грамадзян у лакальнай супольнасці».

## Ад зорак да церняў

Больш-менш нармальна яны працавалі да 1995 года. У той час было 55 дамоваў аб супрацоўніцтве з рознымі мясцовымі ўладамі. Існавалі нармальныя стасункі з камісіяй Вярхоўнага савета па мясцоваму кіраванню (была і такая) і рознымі дзяржаўнымі ўстановамі. А потым пачалі ствараць «вертыкаль».

У рэальнасці гэта адбывалася так. Спачатку ў саветаў розных узроўняў забралі падпарадкаванне выканкамаў і яны засталіся без выканаўчых органаў. Потым пачалося пераманьванне лепшых кадраў у выканаўчыя структуры. Паціху адбіралі асноўныя паўнамоцтвы або прымушалі «дэлегаваць» іх выканкамам. Словам, адбывалася тое, што і было абяцана ў сумна вядомай фразе не весці беларускі народ за цывілізаваным светам. Нічога падобнага нідзе няма. Наадварот.



Наўрад ці знойдуцца тыя, хто можа назваць гэтыя ўмовы спрыяльнымі для дзейнасці структуры, якая займаецца мясцовым самакіраваннем і, тым не менш, яны працавалі. Адбываліся стажыроўкі за мяжой, ажыццяўлялася шмат розных праграмаў. Выбары — канчатковая мэта, галоўнае іншае: зрабіць так, каб іх неабходнасць была рэальнай.

За час дзейнасці АГА «Фонд імя Льва Сапегі» ў іх мерапрыемствах прынялі ўдзел каля 8 тысяч чалавек, апублікавана звыш 30 кніг і брашур, каля 40 аглядаў і бюлетэняў, падрыхтавана больш 400 спецыялістаў па самакіраванню. Пагадзіцеся, такой працаздольнасцю можа пахваліцца далёка не кожная структура «трэцяга сектару».

Іх праекты былі патрыманыя такімі вядомымі структурамі, як фонд Сораса, TACIS, фонд Еўразія, MATRA, фонд Эберта, NED, фонд Адэнаўра, SIDA, USAID, Еўракамісія, але гэтымі гучнымі назвамі сёння цяжка каго-небудзь здзівіць. Па-сапраўднаму здзіўляе іншае. АГА «Фонд імя Льва Сапегі» з 2001 года з'яўляецца наглядальнікам на Кангрэсе мясцовай і рэгіянальнай улады Рады Еўропы. Іншымі словамі, працуе там, дзе па гэты дзень няма афіцыйнай Беларусі.

Але прынцыповы момант тут — апалітычнасць арганізацыі, якая не з'яўляецца часткай якой-небудзь партыі. Так, у яе шэрагах ёсць прыхільнікі розных палітычных партый, але гэта асабістая справа кожнага.

Такі расклад, на мой погляд, у першую чаргу і не падабаўся ўладам. З самага пачатку яны «не ляжалі» пад якой-небудзь «дзяржаўнай ідэалогіяй», але і дзейнічаць па прынцыпу «хто не з намі, той супраць нас» улады таксама не маглі, бо «супраць» не датычылася канкрэтных персаналіяў, а накірунку руху.

Не вельмі добра разбіраюся ў карыдзе, але ведаю, што для быка без розніцы, які колер мае тое, чым яго дражняць. Так і тут. Не важна, што нейкія сімвалы афіцыйна зарэгістраваныя ў Беларусі. Галоўнае, што яны выйшлі з тых крыніц, якія нельга назваць падкантрольнымі. На практыцы гэта азначае «что хочу, то и ворочу» любога дзяржаўнага чыноўніка або амапаўца.

## Калі заззяюць зоркі

Паэт Уладзімір Маякоўскі, напэўна, адказаў бы на гэта пытанне: «Калі гэта каму-небудзь будзе трэба». На жаль, сённяшняй уладзе

пакуль гэта не патрэбна. Больш за тое, яна цалкам забараніла ўдзел у мерапрыемствах АГА «Фонд імя Льва Сапегі» не толькі непасрэдным чыноўнікам ад самакіравання, але і тым, хто мае хоць якое-небудзь дачыненне да дзяржавы.

Напрыклад, у 2006 годзе за ўдзел у іх семінарах звольнілі двух выкладчыкаў Эканамічнага ўніверсітэта. Самае цікавае, што агучвалі яны тое, што чыталі сваім студэнтам на афіцыйных лекцыях, і ні да якіх рэвалюцыйных зменаў не заклікалі...

Яшчэ раз тлумачыць, чаму абрана менавіта імя Льва Сапегі няма сэнсу, бо амаль усе ведаюць пра дзейнасць канцлера Вялікага княства Літоўскага. А вось пра тое, як гэта імя з'явілася ў назве арганізацыі, ёсць сэнс распавесці больш падрабязна.

1997 год. Думаю, шмат хто ведае, што для таго, каб у любой назве з'явілася прозвішча выдатнага чалавека, пры пэўных умовах трэба дазвол яго нашчадкаў. Міраслаў Кобаса ведаў, што ў той час жылі мінімум двое з іх — у Польшчы і Кеніі. З апошнім і пашанцавала сустрэцца падчас Першага з'езда беларусаў свету. Кобаса патлумачыў сутнасць пытання і атрымаў згоду. Гэта і стала пераважным аргументам.

Нагадаем, розных перарэгістрацый было шмат. Калі прынялі новы Грамадзянскі кодэкс, які падрабязна рэгламентаваў дзейнасць недзяржаўных арганізацый, была ўстаноўлена розніца паміж статусам грамадскіх аб'яднанняў і статусам фондаў. Атрымлівалася, што брэнд давядзецца страціць. Ніхто гэтага не хацеў. Так і з'явілася назва Асветніцкае грамадскае аб'яднанне «Фонд імя Льва Сапегі». І захавалася славутае імя, і сутнасць не змянілася.

Упэўнены, кожны сутыкаўся з тым, што чыноўнікі да нас (дакладней, да тых, хто іх корміць) ставяцца, мякка кажучы, праз зубы. Пра тое, што так быць не павінна, тлумачыць нікому не патрэбна. А вось што трэба зрабіць? Адказ просты — мясцовае самакіраванне, якім і займаецца арганізацыя Міраслава Кобасы.

# УЛАДЗІМІР КОЛАС



**Падрыхтавана да друку 18.06.10**

*Нарыс пра Уладзіміра Коласа пісаўся ў той момант, калі вакол Рады беларускай інтэлігенцыі ўзнікла моцная інфармацыйная хваля з-за спробы дапамагчы апазіцыйным палітыкам абраць адзінага кандыдата ў прэзідэнты. Не хачу займаць чыйсьці канкрэтны бок, бо гэта «хлеб палітолагаў». Скажу толькі, што калі палітыкай пачынаюць займацца неінтэлігентна, то інтэлігенцыя час ад часу сама пачынае займацца палітыкамі.*

## З чаго пачыналася кіно

Уладзімір Колас нарадзіўся 22 верасня 1951 года ў Мінску.

Яго бацькі — Георгій Данілавіч і Алена Паўлаўна — на той час былі студэнтамі тэатральна-мастацкага інстытута.

Маці стала тэлевізійным рэжысёрам, а бацька — тэатральным крытыкам.

Цікавы момант. Валодзіна бабуля, Марыя Емяльянаўна, працавала галоўным бухгалтарам у Доме ўрада і, паколькі пакінуць унука не было з кім, часта брала яго на працу. Там незнаёмая жанчына адводзіла хлопчыка ў нейкі пакой, дзе былі чырвоныя скрыначкі з узнагародамі — зоркі Героя Савецкага Саюза, розныя ордэны і медалі. З гэтымі «цацкамі» ён і гуляў.

Яшчэ ў школьныя гады Уладзімір Колас займаўся ў аматарскай кінастудыі «Юнацтва» пры Палацы прафсаюзаў. Потым яе кіраўнік Аляксандр Сабаташ, які працаваў аператарам на тэлебачанні, перайшоў у Інстытут замежных моў, дзе была «Лабараторыя кіно». Яна мела прафесійную кінакамеру, што і вырашыла далейшы выбар шляху Коласа.

Аднак па той прычыне, што ў знакаміты ВГИК адразу пасля школы не бралі, Уладзімір вырашыў паступаць у інстытут замежных моў. Планаваў правучыцца гады тры, аднак дайшоў да дыплома.

Першай мовай у яго была французская, другой — англійская. Па размеркаванню Колас паўтары гады настаўнічаў у Браслаўскім і Чашніцкім (в. Углё) раёнах. Потым тры гады адслужыў у Белпалку. І толькі пасля паступіў на Вышэйшыя рэжысёрскія курсы ў Маскве.

Там яго і пачала хваляваць праблема тоеснасці беларусаў у былым Савецкім Саюзе. Кожную савецкую рэспубліку, альбо кінастудыю, «прадстаўлялі» па 2—3 чалавека, і менавіта ў Маскве ён убачыў: СССР — азіяцкая краіна. Амаль усе «славянскія» кінастудыі прадстаўлялі ўраджэнцы Азіі.

На тым жа «Беларусьфільме» працавалі прадстаўнікі ўсяго Савецкага Саюза. Як у той песні, «мой адрас не дом і не вуліца...». Некаторым было цалкам «пляваць», дзе яны знаходзяцца. Ні мовы, ні гісторыі яны ведаць не хацелі. Адтуль ідзе перакананне Уладзіміра Коласа, што кіно і тэлебачанне — гэта ёсць тое, што павінна стварыць моду на беларушчыну.

Дарэчы, яго дыпломнай работай быў «Малады дубок» па Якубу Коласу. А дэбютам — «Багровая трава» па сцэнару Аляксея Дударава. Фільм быў прызнаны лепшым у былым СССР, і Уладзімір Колас атрымаў свой першы прыз. Далей ішлі «Дрэва на асфальце» з Галінай Макаравай у галоўнай ролі і «Хочаце любіце, хочаце не». Потым Колас зняў «Адну ноч» па Васілю Быкаву і шмат дакументальных фільмаў.

У 2008 годзе на прэстыжным Берлінскім кінафестывалі, у якім бяруць удзел амаль усе галоўныя тэлеканалы Еўропы, з карцінай «Галерэя Ады», дзе расказваецца пра маленькую беларускую вёску, Уладзімір Колас атрымаў «Прыз Еўропы» за лепшы дакументальны фільм.

### З чаго пачынаўся ліцэй

Неабходнасць паспрыяць падрыхтоўцы сваіх кадраў стала для Уладзіміра Коласа своеасаблівым штуршком для рашучых перамен ва ўласным лёсе. Паспрыялі таму і супраца з такімі кансультантамі ў яго карцінах, энтузіястамі нацыянальнага адраджэння, як археолаг Алег Трусаў, пісьменнік Эрнэст Ялугін. А таксама наведванне беларускіх школ і ліцэя на Беласточчыне, дзе Колас здымаў фільм пра праблемы беларускай мовы.



Непасрэдная ж прапанова стварыць беларускі ліцэй у Мінску паступіла ад Алега Трусава, якому Колас дапамагаў у яго выбарчай кампаніі ў Вярхоўны савет 12-га склікання. Ужо дэпутат Трусаў (і ён жа старшыня адной з раённых суполак Таварыства беларускай мовы) абяцаў Коласу поўную падтрымку.

Так узнік ЛІЦЭЙ. Нягледзячы на тое, што навучэнне было платным, ахвочых вучыцца ў ім аказалася шмат. І не толькі дзяцей. Было некалькі груп дарослых. Лекцыі выкладчыкаў прыходзілі слухаць нават тыя, хто і сам быў аўтарытэтным спецыялістам у сваёй галіне (напрыклад, тая ж доктар навук Высоцкая з мастацкага музея).

Потым былі пошукі памяшкання, пакуты па розных «чужых кутах». Коласу нават прапаноўвалі зрабіць звычайную беларускамоўную школу, стаць яе дырэктарам. На ўздыме дэмакратычнай хвалі пачатку дзевяностых гадоў гэта было цалкам рэальна і нашмат прасцей. «Павесіш, — раілі яму, — на школе шыльду «ліцэй», і ўсё будзе добра». Ён цвёрда трымаўся іншай канцэпцыі: вучні і выкладчыкі набіраюцца па конкурсу.

Зразумела, што на гэта калектывы ні адной са школ не ішлі. Нарэшце, пасля дастаткова працяглай эпапеі, Колас з паплечнікамі дамагліся свайго: улады вызначылі пад ліцэй шыкоўны будынак былой камсамольскай школы на Кірава, 21.

Было гэта ў 1992 годзе. А з 1994 года пачаўся ціск. Уладзіміру Коласу паказалі ўказ (адзін з першых новай улады), які загадваў знішчыць усе падручнікі, што былі выдадзены пасля 1991 года. У 1997 годзе, калі на пасадзе віцэ-прэм'ера знаходзіўся сумна вядомы палкоўнік Замяталін, ліцэй быў перайменаваны ў Нацыянальны дзяржаўны ліцэй імя Якуба Коласа.

За ірoніяй Колас — дырэктар ліцэя Коласа (хаця Уладзімір Колас заўсёды казаў, што, у адрозненне ад знакамітага паэта, у яго не псеўданім, а сапраўднае прозвішча) хавалася мэта ўзяць ліцэй пад поўны кантроль, выдаліць разам са словам «беларускі» з назвы яго вольналюбівы адраджэнскі змест.

Ліквідавалі ліцэй указам Міністэрства адукацыі РБ ад 25 чэрвеня 2003 года, з фармулёўкай «ліквідаваць з мэтай аптымізацыі навучальнага працэсу». Прагучала абяцанне ў тым жа будынку адкрыць «новы гарадскі ліцэй». Прычапіліся да таго, што ліцэй быццам бы не можа быць нацыянальным і ... звольнілі ўсіх. Нават вахцёра.

Парадокс, але атрымліваецца, што ўлады закрылі іх за сваю ж памылку, і з гэтага часу ліцэй працуе падпольна. У будынку на Кірава месціцца суд Савецкага раёна Мінска, дзе сярод іншых судзяць былых вучняў ліцэя. «Аптымізавалі»...

### З чаго пачыналася рада

Далейшыя падзеі прымусілі падумаць пра неабходнасць нешта рабіць, заняць актыўную пазіцыю, а не стаяць у баку. Стала відавочна: калі ніхто не будзе «рухацца», то беларусы заслугоўваюць таго, што з імі будзе далей, бо асабіста Колас ніколі не мог зразумець, чаму нашы продкі дазволілі падчас рэпрэсіяў так сябе катаваць. Гэта і стала «каталізатарам» стварэння Рады беларускай інтэлігенцыі (РБІ).

У маі 2003 года ў Палацы мастацтваў адбыўся гарадскі сход, а потым у Доме культуры ААТ «Сукно» — нацыянальны. Галоўны пасыл — кансалідацыя. Удзельнікі звярнуліся да ўлады, апазіцыі і народа з заклікам шукаць тое, што нас яднае, а не раз'ядноўвае, будаваць разам дэмакратычнае грамадства. І добразычлівым лістом накіравалі гэтыя прапановы прэзідэнту краіны.

Неўзабаве пасля гэтага Лукашэнка выступіў на нарадзе вышэйшых кіруючых кадраў у канцэртнай зале «Мінск» з прамовай. Працытаваў Уладзіміра Коласа, але са сваёй высновай. Маўляў, інтэлігенцыя імкнецца раскалоць грамадства на розныя тыпы беларусаў, хаця гутарка ішла пра супрацьлеглае. І ўпершыню абвясціў пра неабходнасць стварэння дзяржаўнай ідэалогіі.

Ніколі не ведаеш, да якіх наступстваў прывядзе тое, што ты робіш...

# ІНА КУЛЕЙ



Падрыхтавана да друку 12.11.11

*Шчыра кажучы, гэты нарыс я хацеў пачаць інакш — статыстыкай навучання беларускай моладзі за мяжой, але сама Іна Кулей падказала другую ўверцюру. На суд над Алесем Бяляцкім яна прыйшла ў майцы з яго партрэтам і заклікам даць вядомаму праваабаронцу свабоду. За што адразу ж была выдалена з судовай залы з забаронай «не пускаць да канца працэсу». Чаму Іна Феліксаўна зрабіла менавіта так? На мой погляд, адзін з адказаў на гэтае пытанне ў назве іх арганізацыі — Камітэт абароны рэпрэсаваных «Салідарнасць».*

### Цень «жалезнага Фелікса»

Пачну з віншавання — 11.11.11 Іне Кулей споўніўся 51 год. Яна не хавае дату свайго нараджэння — 11 лістапада 1960 года. Месца нараджэння — вёска Крукі Брагінскага раёна Гомельскай вобласці. Знайсці гэту назву на мапе больш немагчыма — зараз там Чарнобыльская зона.

Не палічыце банальнасцю, але людскія лёсы даволі часта вызначаюцца цікавымі і цалкам аб'ектыўнымі складнікамі. Калі так, то ў адносінах да Іны Кулей гэты жыццёвы прынцып спраўдзіўся толькі напалову.

Яе маці Яўгенія Васільеўна атрымала педагагічную адукацыю. Тут Іна пайшла па яе следу. І логікай свайго лёсу не ўспрыняла выбар бацькі Фелікса Іванавіча, які быў следчым пракуратуры. Наадварот, пачала займацца тым, што ў аўтарытарных грамадствах даволі часта з'яўляецца дыяметральна супрацьлеглым. Асабліва ў сучасных умовах, бо праваабаронцы і праваахоўнікі лічацца амаль антаганістамі.

Дарэчы, дзед Іван Несцеравіч таксама быў пракурорам і сына свайго, па адной з версій, назваў у гонар «жалезнага Фелікса». Канешне, ён нават уявіць не мог, што ўнучка ў будучым пачне змагацца супраць ідэйных нашчадкаў заснавальніка галоўнай савецкай спецслужбы.

Цікава, што маці Іны Кулей родам з вёскі Старыя Галоўчыцы і даводзіцца далёкай сваячкай Міхаіла Марыніча. Таму дазволю сабе яшчэ адну банальнасць — у гэтым свеце вельмі цесна.

### Шлях у жыццё

Калі Іне Кулей было толькі два з паловай гады, яе бацьку размеркавалі ў Ляхавічы. Неўзабаве сям'я пераехала ў Ганцавічы, дзе пражыла 23 гады. Менавіта адтуль дзяўчына паехала паступаць у сталічны педінстытут, які потым у сваёй назве азначэнне «імя Максіма Горкага» зменіць на «імя Максіма Танка». Але паступіла толькі з трэцяй спробы.

Справа ў тым, што па парадзе маці дзяўчына абрала факультэт дэфекталогіі, дзе традыцыйна былі вельмі малыя наборы. У былым СССР падобных ВНУ існавала толькі пяць, таму конкурс дасягаў 25 чалавек на месца. Для таго каб стаць студэнткай, Іне Кулей двойчы не хапіла літаральна сотых бала, а для «працоўнага стажу» давялося папрацаваць у бібліятэцы.

На чацвёртым курсе Іна выйшла замуж, але прозвішча сваё не змяніла. Не буду пераказваць усе акалічнасці першага шлюбу, адзначу толькі, што ён быў непрацяглым. І яшчэ адно. Некалькі гадоў таму мне давялося пазнаёміцца з першай свякроўкай Іны Кулей. Моцна ўразіла тое, што паміж ёй і былой нявесткай захаваліся вельмі добразычлівыя адносіны. Выпадак, пагадзіцеся, даволі ўнікальны для сучаснага жыцця.

Пасля заканчэння педагагічнага інстытута Іна Кулей вярнулася ў Ганцавічы. Неўзабаве яе бацьку перавялі ў Брэст, а праз чатыры гады туды пераехала і маладая сям'я.

### Шлях у «трэці сектар»

Як вядома, наша жыццё шлюбам не абмяжоўваецца, таму цалкам зразумела, што тады Іне (так параіў дэпартаваны з Беларусі святар Збігнеў Караляк) моцна хацелася паспрабаваць сябе ў іншай галіне, якой і стала грамадская дзейнасць.



Спачатку Іна Кулей стварыла і ўзначаліла арганізацыю «Сям'я сем'яў», а потым пачала ўдзельнічаць у трэнінгах фонду «Каунтэрпарт». Падчас адной з такіх паездак (у Гродна) яна і пазнаёмілася з Аляксандрам Мілінкевічам. Было гэта ў 1997 годзе.

Тое, што адбылося потым, пакінем за дужкамі нарыса. Адзначу толькі: там, дзе ёсць «божая іскра» кахання, любыя шаблоны і догмы немагчымыя па вызначэнню. Паважаю. Адважыцца змяніць асабісты лад жыцця ў сталым ўзросце вельмі складана. Іна Кулей і Аляксандр Мілінкевіч зрабілі гэты крок праз пяць гадоў пасля знаёмства.

Мінскі палітычны бамонд, канешне ж, іх ведаў і не вельмі хваляваўся наконт канкурэнцыі — правінцыя. Аднак з пераездам Кулей і Мілінкевіча ў Мінск ўсё істотна змянілася. Асабліва, калі апошні пачаў змагацца (і перамог) за статус адзінага апазіцыйнага кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах 2006 года.

Літаральна некалькі слоў пра «Вежу», бо гэтая арганізацыя была такой вядомай, што пісаць нейкія падрабязнасці тут няма ніякага сэнсу.

Фонд рэгіянальнага развіцця «Вежа» быў створаны ў пачатку 1990-х гадоў. Ён аб'ядноўваў грамадскія арганізацыі Брэсцкай вобласці. Зразумела, гэта не вельмі падабалася афіцыйным уладам, і ў першыя гады новага стагоддзя яны незалежную структуру «выціснулі» з прававога поля Беларусі. Як і многіх іншых...

### «Жаночы ўплыў»

Уплыў Іны Кулей на Аляксандра Мілінкевіча — гэта тэма сёння амаль не гучыць, а пяць гадоў таму, і асабліва падчас прэзідэнцкіх выбараў—2006, была адной з самых папулярных. Менавіта тады я і задаў гэта пытанне Аляксандру і Іне. І пачуў даволі аргументаваны адказ пра «міф патрыярхальнага грамадства».

Маўляў, калі Аляксандр Мілінкевіч і не спяшаецца з нейкімі дзеяннямі, то гэта сведчыць перш за ўсё пра тое, што ён не «рубіць з пляча», а падыходзіць да ўсяго вельмі сур'ёзна. Тым больш, што раіцца ён не толькі з уласнай жонкай, але і з іншымі людзьмі. Аднак, калі пасля абмеркавання і дыскусій з вуснаў Аляксандра гучыць: «Я так думаю», то гэта аўтаматычна азначае канец любым спрэчкам і «ўплывам».

Дарэчы, ідэя стварэння «Вежы» належала менавіта яму, што было лагічна і працавала на ўзмацненне «трэцяга сектара». У Гродна ўжо дзейнічала «Ратуша», а ў Брэсце не было нічога падобнага.

Што ж датычыцца Камітэта абароны рэпрэсаваных «Салідарнасць», то, як слушна заўважыла сама Іна Кулей, гэта частка руху «За свабоду», а не частка Аляксандра Мілінкевіча.

## Асобнае «плаванне»

Камітэт абароны рэпрэсаваных «Салідарнасць» з'явіўся 5 красавіка 2006 года, адразу ж пасля добра вядомых падзей Плошчы. Афіцыйнай жа рэгістрацыі арганізацыя дамаглася толькі 15 ліпеня 2011 года, падчас чарговай перадвыбарчай хвалі «лібералізацыі». Так супала — у дзень нараджэння Элаізы Пашкевіч і Грунвальдскай бітвы.

Ёсць сэнс назваць тут і другую дату — 30 сакавіка 2006 года. Менавіта тады ў Варшаўскім універсітэце старшынёй Рады Міністраў Польшчы К. Марцінкевічам, прадстаўніком аб'яднаных дэмакратычных сіл А. Мілінкевічам і прадстаўнікамі Канферэнцыі рэктараў польскіх універсітэтаў (KRUP) быў падпісаны «Ліст намераў». Так нарадзілася Праграма К. Каліноўскага.

Памятаю, як толькі яна ўзнікла, было шмат крытычных разважанняў наконт таго, што яна «вымые» з Беларусі палітычна актыўную моладзь, і тая больш ніколі не вернецца на радзіму. Рэальнасць паказала, што гэта не так.

Больш за тое, некаторыя ўдзельнікі гэтай самай праграмы амаль адразу ж аддалі перавагу не «цёпламу месцу» навучання ў бяспечнай еўрапейскай краіне, а суровым беларускім будням.

Найбольш яскравы прыклад — мой калега Барыс Гарэцкі. Некалі юнак быў прэсавым сакратаром «Маладога фронту», адсядзеў «традыцыйныя» для Беларусі 15 сутак, працуе на радыё «Рацыя». Не многія ведаюць, што ён меў магчымасць атрымаць дыплом Беластоцкага ўніверсітэта, аднак замест гэтага вярнуўся ў Беларусь, як кажуць, па добрай волі.

Падобных прыкладаў можна прывесці яшчэ багата, як і тых, якія наглядна адлюстроўваюць адсутнасць тэндэнцыі «зваліць на Захад», але сутнасць, на мой погляд, не ў гэтым. Галоўнае — у 2006 годзе ў моладзі з'явілася рэальная магчымасць атрымаць добрую адукацыю, альтэрнатыва «самому лучшему в мире образованию». Як і ў тых, над кім навісла рэальная пагроза трапіць пад рэпрэсіі, уратавацца за мяжой.

Трэба таксама звярнуць увагу і на тое, што Праграма К. Каліноўскага — не адзіная. Ёсць яшчэ аналагічныя праграмы чэшскага і



эстонскага ўрадаў. Акрамя гэтага нашы хлопцы і дзяўчаткі вучыліся і вучацца ў Галандыі, Румыніі, Славакіі, Літве, на Украіне.

Да таго ж дзейнасць Камітэта абароны рэпрэсаваных «Салідарнасць» не абмяжоўваецца толькі адукацыяй. Сярод іншых кірункаў — дапамога людзям, якія па палітычных матывах звольненыя з працы, медычная дапамога тым, хто пацярпеў падчас вулічных пратэстаў, акцый салідарнасці і г.д.

## «Не бойцеся!»

Гэтыя словы Яна Паўла II невыпадкова з'яўляюцца галоўным лозунгам паплечнікаў Іны Кулей, бо яны не толькі пераадолелі асабісты страх, але і дапамагаюць гэта рабіць іншым, а майка з надпісам «Свабоду Алесю Бяляцкаму» вельмі яскрава сімвалізуе рух да свабоды агульнай.

Не вельмі люблю газетны пафас, але адносна Іны Кулей, па майму перакананню, гэта той выпадак, калі людзям не толькі прапануюць прыгожыя тэорыі, але і дапамагаюць канкрэтна.

# ЖАННА ЛІТВІНА



**Падрыхтавана да друку 30.06.12**

*Многія чулі, як Жанна Літвіна называла сябе «маці ўсіх зачыненых радыёстанцый». Горкая іронія датычыць перш за ўсё радыёстанцый «Беларуская маладзёжная» і «Радыё 101,2». Так, улады зрабілі шмат, каб змусіць іх замаўчаць, але гэта не канец, а толькі часовы перапынак. І Жанна Літвіна застанецца ў найноўшай гісторыі Беларусі як таленавіты радыёжурналіст і арганізатар новай свабоднай журналістыкі. Не толькі на радыё.*

*У 1995 годзе яна стварыла і ўзначаліла адну з самых буйных і дзеяздольных незалежных грамадскіх арганізацый краіны — ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў», якой кіруе да сённяшняга дня. І не таму, што прагне ўлады. Колькі разоў ужо рабіла спробы саскочыць, вярнуцца да творчай журналістыкі — усё ніяк не адважыцца. Бо ўсе добра разумеюць, што гэта якраз той выпадак, калі «больш няма каму».*

*Канешне, ахвотных знайсці можна. Але хто тады знойдзе праз пару гадоў саму БАЖ?..*

## Першы выбар

Жанна Мікалаеўна Літвіна (дзявочае прозвішча — Залозная) нарадзілася ў Мінску 30 жніўня 1954 года. Называю дату, бо яна і так пазначана ў даведніку «Хто ёсць хто ў Беларусі». Па выпадковым супадзенні Жанна Літвіна нарадзілася ў адзін і той жа дзень і год з тым чалавекам, які стане першым прэзідэнтам Беларусі. Хаця лёсы іх будуць перасякацца, жыццёвыя шляхі яны абяруць дыяметральна супрацьлеглыя.



Бацькі Жанны ў той час жылі ў вёсцы Вадапой, што бліз беларускай сталіцы. Таму вучыцца ў 1961 годзе Жанна пачала ў мясцовай школе, дзе маці працавала завучам. І толькі праз паўгода, калі сям'я пераехала ў Мінск, дзяўчына пайшла ў мінскую школу №42.

Бацька Жанны Мікалай Залозны быў даволі вядомым мастаком, прычым не толькі ў Беларусі. Ён выкладаў жывапіс у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце. Таму было б цалкам лагічным, калі б дзве дачкі пайшлі па яго слядах. Але маляваць пачала толькі Наталля, якая зараз жыве і працуе за межамі краіны.

Жанна выбрала журналістыку. Чаму? Рана адчула, што ёй было прасцей і лягчэй расказваць аб нечым словамі, чым фарбамі. У 1976 годзе скончыла факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і пачала працаваць у сістэме Дзяржтэлерадыё. Як пішуць у анкетах, «прайшла шлях ад малодшага да галоўнага рэдактара Галоўнай рэдакцыі вяшчання для моладзі».

У 1984 годзе ўзначаліла радыёстанцыю «Беларуская маладзёжная», а праз дзесяць гадоў, ужо ў іншай Беларусі, стала генеральным дырэктарам закрытага акцыянернага таварыства «БМ-Інфарм».

## Маральны выбар

Прыступкі журналісцкай кар'еры часам выглядаюць вельмі прывабна, але па сутнасці гэта азначае быць начальнікам над тымі, хто часам ведае не менш за цябе. Да таго ж, на начальніку ляжыць увесь клопат аб фінансаванні праекта.

Дарэчы, ЗАТ «БМ-Інфарм» было створана толькі пасля таго, як радыёстанцыя «Беларуская маладзёжная» існаваць перастала і з радыё ператварылася ў газету. А праз некалькі гадоў спыніла выхад і яна. У 2000 годзе ЗАТ «БМ-Інфарм» было ліквідавана.

На прыпынку «Беларуская маладзёжная» якраз упершыню і перакрыжуюцца шляхі Жанны Літвіной і кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі. «БМ» была ці не адзінай станцыяй на дзяржаўным радыё, якая адважылася даць яму магчымасць выступіць у прамым эфіры.

Гэта не спадабалася тагачаснаму кіраўніку ўрада Вячаславу Кебічу. У 1994 годзе, напярэдадні выбараў, радыёстанцыя была зачынена. Чым кіравалася Жанна Літвіна? Прынцыпам свабоды слова. Вернасць яму, па вялікім рахунку, заўсёды на карысць грамадству, нават калі наступствы ў тым ці іншым выпадку прадугледзець скла-

дана. Потым сам Кебіч неаднаразова выказваў шкадаванне адносна свайго стаўлення да «Беларуская маладзёжнай» і наогул да незалежных СМІ.

Новае кіраўніцтва, нягледзячы на той факт, што падчас выбарчай кампаніі Жанна Літвіна была ў ліку давераных асоб Станіслава Шушкевіча, паспрабуе прыцягнуць яе на свой бок, але тая адмовіцца. Мабыць, раней за іншых зразумее, што мадэль савецкай сістэмы арганізацыі СМІ хутка будзе зноў запатрабавана.

Не буду распавядаць пра сумныя лёсы зачыненых газет, інфармацыйныя «зачысткі», пастаянны эканамічны ціск на незалежныя СМІ і г.д. Скажу толькі пра адно: Беларусь на сёння ці не адзіная краіна ў Еўропе, дзе навіны ідуць у запісе, а не ў прамым эфіры. Атрымліваецца, па Булгакаву, «осетрина второй свежести».

У 1973 годзе студэнтка журфака Жанна Залозная пазнаёмілася са сваім будучым мужам Аляксеем Літвіным. Адбылося гэта ў бібліятэцы. Свайго нарачонага Жанна спачатку пачула, а потым убачыла. Справа ў тым, што Аляксей Літвін быў у той час ваенным і, зразумела, насіў форму. Уявіце: чытальная зала, цішыня і цоканне афіцэрскіх ботаў... 5 кастрычніка 1974 года яны распісаліся.

Зараз доктар гістарычных навук, прафесар Аляксей Літвін працуе загадчкам аддзела ваеннай гісторыі і міждзяржаўных адносін Інстытута гісторыі Акадэміі навук. Але ён не толькі гісторык. Артыкулы за яго подпісам перыядычна з'яўляюцца не толькі ў спецыяльным друку, але і ў папулярных выданнях. Гэта адказ на пытанні тых, хто цікавіцца яго сяброўствам у Беларускай асацыяцыі журналістаў.

Дарэчы, на адным з першых з'ездаў БАЖ толькі адзін чалавек прагаласаваў супраць чарговага абрання Жанны Мікалаеўны прэзідэнтам (тады яшчэ менавіта так) арганізацыі. Ім быў Аляксей Літвін.

Пасля звальнення з дзяржаўнага радыё разам з аднадумцамі ў 1994 годзе Літвіна заснавала мінскую гарадскую радыёстанцыю «Радыё 101.2 FM», якая праіснавала крыху больш за год. У жніўні 1996 года яе зачынілі, матывуючы тым, што «частоты перашкаджаюць працаваць урадавай сувязі».

Паралельна Жанна кіравала мінскім бюро беларускай службы Радыё «Свабода», адкуль праз пяць гадоў па асабістым жаданні сышла, каб стаць адным з кіраўнікоў радыё «Рацыя».



## Галоўны выбар

Восенню 1995 года было створана грамадскае аб'яднанне «Беларуская асацыяцыя журналістаў» (БАЖ). Гэтую ідэю Літвіной падказаў тагачасны кіраўнік ПЭН-ЦЭНТРА Карлас Шэрман (на жаль, ужо нябожчык), чалавек з вельмі цікавым і складаным лёсам.

Праз год узнікла традыцыя дарыць Літвіной на розныя святы выявы жабак. Такі экзатычны выбар тлумачыцца проста: абрэвіятуру БАЖ прачыталі наадварот. Першую ЖАБу Літвіной падарыла Вольга Панкратава, на той час выканаўчы дырэктар асацыяцыі. Зараз у калекцыі Літвіной іх ужо некалькі соцень.

Так атрымалася, што з першага дня свайго існавання БАЖ сутыкнулася з тым, што многія ўспрынялі яе як нейкую палітычную сілу. На меркаванне ўладных чыноўнікаў, там сабраліся ўсе «нячэсныя» журналісты (што абсалютна не адпавядае рэчаіснасці, бо даволі істотная частка сябраў журналісцкай асацыяцыі працуе ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі).

Некаторыя прадстаўнікі апазіцыі жадаюць бачыць журналістаў побач (а лепш наперадзе) з сабой на барыкадах палітычнай барацьбы, што таксама было б непажаданым, бо БАЖ створана з іншымі мэтамі. Словам, калі пра кагосьці кажуць, што ён знаходзіцца паміж молатам і кавадлам, дык гэта пра ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў».

Пра ўзнагароды структуры, дзе сам калісьці знаходзіўся ў складзе кіраўніцтва, пісаць няёмка, але і не сказаць немагчыма. У 2003 годзе ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» атрымала прэмію «Залатое пяро Свабоды» ад Сусветнай асацыяцыі газет. У 2004 годзе Еўрапейскі парламент узнагародзіў БАЖ прэміяй імя А. Сахарава «За свабоду думкі». У чэрвені 2011 года Атлантычная Рада Злучаных Штатаў Амерыкі ўзнагародзіла БАЖ «Прэміяй Свабоды Атлантычнай Рады».

У траўні 2012 года адбыўся VIII з'езд грамадскага аб'яднання «Беларуская асацыяцыя журналістаў», дзе Жанну Літвіну адзінагалосна (як і на папярэдніх) абралі старшынёй арганізацыі. І зноў запытаюся: «Чаму?» Адкажу, каб не быць абвінавачаным у перадузятасці, цытатай з «Электроннай энцыклапедыі»: «Неисправимый альтруист, готова пойти на самопожертвование ради благородной цели».

# Алег Манаеў



Падрыхтавана да друку 25.10.11

*Неаднойчы быў сведкам, як вынікі працы зарэгістраванага ў Вільні Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў выклікалі адмоўную рэакцыю і ў апазіцыі, і ва ўлады. Для сацыёлагаў гэта найлепшы паказчык якасці іх працы.*

## Выбар без выбару

Як кажа сам Алег Манаеў, нарадзіўся ён яшчэ пры Сталіне — 3 лютага 1952 года. Адбылося гэта ва Уладзівастоку, таму першыя чатыры гады жыцця ён правёў на беразе Ціхага акіяну. Потым бацькі пераехалі ў Хабараўск.

Менавіта на гэты перыяд прыходзіцца іх развод і новы шлюб маці з ваенным журналістам Аляксандрам Дракахрустам. У 1964 годзе той змяніў «Суворовский натиск» на «Во славу Родины», якая не так даўно стала «Военной газетой», а Хабараўск на Мінск. Як вядома, вайскоўцы не абіраюць места жыцця. У тым ліку і ваенныя журналісты.

Праз чатыры гады пасля нараджэння самога Алега ў яго з'явіўся малодшы брат — Юра. Сёння гэта адзін з лепшых палітычных аглядальнікаў радыё «Свабода» Юрый Дракахруст.

На жаль, іх бацькі, вядомага паэта і журналіста Аляксандра Абрамавіча Дракахруста, не стала 14 лістапада 2008 года.

У Мінску Алег Манаеў пайшоў у элітную чацвёртую школу, якая была бліжэйшай за ўсіх да гасцініцы Дому афіцэраў, дзе тады жыла іх сям'я. Побач знаходзіўся той самы «чырвоны дом» — будынак ЦК КПБ. (Пасля путчу ў гэты дом перабраўся Вярхоўны Савет, а пасля



1994 года будынак быў заняты пад прэзідэнцкую рэзідэнцыю). Таму цалкам лагічна, што там вучыліся амаль усе нашчадкі тагачасных партыйных бонзаў.

Аднак «ідэалагічна правільнае» асяроддзе ў 1968 годзе не перашкодзіла Алегу Манаеву далучыцца да моладзевага гуртка, які меў дыяметральна супрацьлеглы афіцыйнаму погляд на «пражскую вясну».

Да яго бацькі, які тады працаваў адказным сакратаром газеты «Во славу Родины», нават прыходзілі з папярэджаннем з мясцовага КДБ. Так 16-гадовы юнак упершыню патрапіў у фокус увагі галоўнай спецслужбы СССР. Не абыдзе яго пільнай увагай і беларускае КДБ. І не толькі таму, што, захаваўшы былую сутнасць, нават назвы не змяніць. А таму, што Алег Манаеў заўсёды шукае праўду жыцця. А яна ніколі не падабаецца існуючай уладзе.

## Выбар прафесіі

Маці (на жаль, Дзіна Мікалаеўна таксама пайшла з жыцця тры гады таму) будучага сацыёлага таксама была журналісткай, таму нікога не здзівіла, што такім жа шляхам вырашыў пайсці і Алег Манаеў. У старэйшых школьных класах ён вучыўся на падрыхтоўчых курсах пры факультэце журналістыкі прэстыжнага Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, куды кожны месяц дасылаў свае пісьмовыя работы. Цікава, што ад выбару гэтай прафесіі больш другіх яго адгаворвалі бацькі, бо добра ведалі сутнасць савецкай «чацвёртай улады».

Моладзі ўласціва не слухаць парадаў старэйшых. Алег Манаеў — не выключэнне. У МДУ ў тыя часы адкрылі факультэт міжнароднай журналістыкі. Туды і вырашыў паступаць амбіцыйны (у добрым сэнсе) юнак. Здаў два іспыта, калі высветлілася, што ў яго не хапае «камсамольскага стажу». Чаму на гэта ніхто не звярнуў увагу адразу, патлумачыць можна толькі савецкім бардаком. Альбо невядомай «пільнасцю»...

Экзамены ў МДУ адбываліся раней за астатнія, але ў мінскія ВНУ з іх адзнакамі не ўзялі. Звычайная правінцыйная зайздрасць. Маўляў, мы не горшыя... Выключэннем стаўся толькі педагагічны факультэт Гродзенскага ўніверсітэта. Магчыма таму, што на той час універсітэт быў таксама вельмі малады і таксама вельмі амбіцыйны.

Праз два гады Алег Манаеў перавёўся на журфак БДУ, які і скончыў у 1974 годзе. Зараз, напэўна, працаваў бы ў якім-небудзь СМІ, калі б на пятым курсе не пачаў зноў «шукаць праўду».

Сутнасць «студэнцкага бунту» была ў прапановах унесці карэктывы ў вучэбныя праграмы, якія былі літаральна насычаныя марксіцка-ленінскай ідэалогіяй. Звярнуліся нават да Машэрава і рэдактара «Праўды» Зімяніна.

У выніку нейкія змены ў навучальны працэс былі ўнесены, але па сутнасці нічога не змянілася. Аднак усім, хто меў дачыненне да «бунту», даволі хутка адпомсцілі. Манаеву гэта каштавала месца ў газеце «Знамя юности». Замест работы па спецыяльнасці ён два гады камандаваў танкавым узводам у лесе пад Любанню.

## Новы выбар

У 1976 годзе яму нарэшце пашанцавала. Яшчэ падчас вучобы на журфаку Алег забягаў слухаць лекцыі па філасофіі, а дыпломную работу напісаў па сацыяльнай псіхалінгвістыцы. Пасля таго, як працаўладкавацца ў газеты не атрымалася, ён звярнуўся да галоўнага сацыёлага Беларусі прафесара Давідзюка. І неўзабаве стаў малодшым навуковым супрацоўнікам Праблемнай лабараторыі сацыялагічных даследаванняў БДУ.

Праз некалькі месяцаў у гэты ж кабінет прыйшлі супрацоўнікі КДБ, аднак у іх нічога не атрымалася. Мабыць, раней кіраўнікі былі больш сумленныя і смелыя, чым сёння...

У 1992 годзе Алег Манаеў абараніў кандыдацкую дысертацыю, а ў хуткім часе і доктарскую. Абедзве звязаныя з праблемамі сродкаў масавай інфармацыі.

Нягледзячы на тое, што ў 1990 годзе Алег Манаеў меў дачыненне да стварэння Аб'яднанай дэмакратычнай партыі, якая праз пяць гадоў аб'ядналася з Грамадзянскай, стаць партыйцам ён не захацеў.

Больш за тое, у 1992 годзе быў створаны Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД), які даволі хутка стаў не даспадобы былым паплечнікам, таму што пачаў агучваць лічбы, якія, мякка кажучы, ім не падабаліся.

Тое ж самае можна сказаць і пра ўладу. Пачала яна са спробаў перацягнуць таленавітага сацыёлага на свой бок. У 1988 годзе гэта паспрабавалі зрабіць камуністы, у 1992 — прыхільнікі Кебіча, а ў 1997-м — атачэнне Лукашэнкі. Безвынікова.



І тады пачаў працаваць прынцып: хто не з намі, той супраць нас. Хаця аб'ектыўныя сацыёлагі не выступаюць супраць канкрэтных персон. Яны толькі агучваюць лічбы, ад якіх гэтыя самыя персоны пачынаюць вар'яцець.

## Эфект «неваляшкі»

Гісторыя супрацьстаяння НІСЭПД з дзеючымі беларускімі ўладамі, на мой погляд, пачалася тады, калі тыя зразумелі, што ўзяць пад поўны кантроль прафесара Манаева не атрымаецца. Раздражняла і тое, што, у адрозненне ад некаторых «штатных» апазіцыянераў, ён не падганяе лічбы пад канкрэтныя мэты, а значыць, карыстаецца большым даверам.

І Алега Манаева пачалі «прэсаваць».

У 1997 годзе па ініцыятыве НІСЭПД была створана Беларуская асацыяцыя фабрык думкі, у якую ўвайшлі 18 вядучых недзяржаўных цэнтраў Мінска і большасці рэгіёнаў краіны. У 2006 годзе яе ліквідаваў Вярхоўны суд Беларусі.

У жніўні 2002 года была прынятая Пастанова Савета Міністраў РБ з доўгай назвай — «Аб дзейнасці, звязанай з правядзеннем даследаванняў і публікацыяй вынікаў апытанняў грамадскай думкі, што тычацца грамадска-палітычнай сітуацыі ў краіне, рэспубліканскіх рэферэндумаў і выбараў».

Сутнасць яе зводзілася да вельмі простага: каб мець магчымасць праводзіць у Беларусі любыя сацыялагічныя даследаванні, трэба было атрымаць адпаведную акрэдытацыю. Права на выдачу акрэдытацыі было ўскладзена на створаную ўладай спецыяльную камісію, кіраўніком якой быў прызначаны «свой чалавек» Ігар Катляроў. Многія расцанілі гэта як увядзенне прымітыўнай цэнзуры.

З верасня па лістапад 2004 года НІСЭПД атрымаў аж восем (!!!) лістоў з Мінюсту з прэтэнзіямі, якія больш нагадвалі звычайныя прыдзіркі. 13 снежня 2004 года супрацоўнікі КДБ абшукалі кватэру намесніка Алега Манаева, кандыдата эканамічных навук і былога першага міністра працы Аляксандра Саснова.

Пасля яшчэ неаднойчы былі пераследы з боку ўлады, якія скончыўся тым, што 15 красавіка 2005 года НІСЭПД з дапамогай Вярхоўнага суда Беларусі ліквідавалі. За што? Можна пералічыць афіцыйныя фармулёўкі, але, я думаю, — «ты виноват лишь тем, что хочется мне кушать».

Я неаднойчы пісаў, што, некаторыя арганізацыі тых часоў нагадвалі дзіцячыя лялькі-неваляшкі. Дзяржава «нахіляе», а яны зноў паўстаюць у поўны рост. Так адбылося і з НІСЭПД.

Адразу пасля беларускай ліквідацыі з'явілася літоўская рэгістрацыя. Інстытут з гэтага моманту ўзначаліў доктар філасофіі Альгірдас Дэгуціс, а старшынёй Наглядальнага савету стаў доктар юрыдычных навук, прафесар Рэмігіюс Шымашус.

Беларускія ж сацыёлагі працягнулі працу як незалежныя эксперты. Так бы мовіць, прыватным чынам. У РБ з'явілася добра вядомая «група прафесара Манаева», куды акрамя Алега Цімафеевіча ўваходзіць узгаданы вышэй Аляксандр Сасноў і паважаны Сяргей Нікалюк.

## Небяспечныя вынікі

Заўсёды ведаў, што лічбы сапраўдных сацыёлагаў могуць не падабацца, але ніколі не думаў пра верагоднасць такога перапалоху.

Каля трох месяцаў таму Алега Манаева паспрабавалі зволіць (за паўгады да пенсіі) з БДУ, дзе ён зараз чытае курс лекцый. Не атрымалася, бо за беларускага сацыёлага ўступіліся многія сусветна вядомыя і ўплывовыя навукоўцы. 121 чалавек з 28 краін свету.

Урэшце пасля такой нечакана бурнай рэакцыі нехта вырашыў пайсці ў «лабавую атаку», якая па арыгінальнасці нагадвала вынікі непаспяховай лабатаміі.

Пасля таго, як у пачатку кастрычніка 2011 года былі надрукаваныя дадзеныя аб рэкордным падзенні рэйтынга прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, 6 кастрычніка ў 15.00 Алег Манаеў на тры гадзіны быў затрыманы міліцыянтамі. Ён накіроўваўся ў польскую амбасаду, дзе павінен быў адбыцца штоквартальны брыфінг для дыпламатычнага корпусу краін Еўрасаюза.

Для тых, хто не памятае, узгадаю, што праводзяцца брыфінгі з моманту заснавання інстытута (1992), а пасля ліквідацыі НІСЭПД (2005 год), у сувязі з адсутнасці магчымасці правесці іх на якой-небудзь айчынай пляцоўцы (не даюць), незалежных сацыёлагаў слухаюць у замежных амбасадах, дзе беларуская юрысдыкцыя не дзейнічае.

Як адзначыў першы сакратар польскай амбасады Павел Марчук, сярод замежных дыпламатаў на брыфінгі «групы прафесара Манаева» з-за іх папулярнасці існуе чарга, і таму цалкам натуральна, што сарванае беларускімі «цэрберамі» мерапрыемства адбылося ў польскай амбасадзе літаральна праз два дні.

Здагадкі пра тое, што, хто і каму хацеў даказаць, пакінем за дужкамі. Асабіста я не бачу тут разумнай логікі, а скончыць нарыс хачу адной прымаўкай — паглядзіся на ваду, якога ты роду...

# АЛЕНА МАКОЎСКАЯ



**Падрыхтавана да друку 05.12.09**

*Калі газета «Ніша Ніва» назвала Алену Макоўскую сярод дзесяці самых сексуальных беларускамоўных жанчын, то цалкам мела рацыю. Я б толькі дадаў — не толькі беларускамоўных. Але наша гутарка зусім не «пра гэта». Алену Макоўскую больш ведаюць як аднаго з найбольш яскравых дзеячаў трэцяга сектара. І не толькі таму, што яна ўзначаліла Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына».*

## Усе мы родам з дзяцінства

Калі бачыш гэтую прыгожую жанчыну, то менш за ўсё думаеш пра ўзрост, але законы жанру прымушаюць пачаць менавіта з гэтага. Алена Макоўская нарадзілася 1 ліпеня 1970 года ў Кобрыне. Там і пайшла ў сярэднюю школу № 6 з англамоўным ухілам. Таму зразумела, што пасля заканчэння школы ў 1987 годзе Алена пайшла паступаць у Інстытут замежных моў (тады ён яшчэ не быў Лінгвістычным універсітэтам). І, натуральна, паступіла.

Дарэчы, у школьныя і інстытуцкія гады ў Макоўскай не было ніякага імкнення да грамадскай працы. Наадварот. Пры выдатнай вучобе яна заўжды заставалася ў ценю. Але гэта быў іншы час. Тады панавала зусім іншая ідэалогія. Савецкая. З усімі наступствамі...

Бацькі (на жаль, іх ужо няма) ставіліся да таго, што дачка пачала займацца грамадскай дзейнасцю, у розныя часы па-рознаму. Да 1997 года цалкам падтрымлівалі, а калі стала зразумела, што пры новай уладзе гэта робіцца небяспечным, нават раілі змяніць працу.

Бацька Павал Яфімавіч доўгі час быў намеснікам дырэктара кансервавага заводу. А маці Ларыса Германаўна працавала ў дзіцячай бібліятэцы. Яна не была беларускамоўнай. Больш за тое, нарадзілася ва Украіне. Таму, калі ехалі да ўкраінскай бабулі і перасякалі мяжу, то Ларыса Германаўна адразу пачынала размаўляць па-ўкраінску.



Можа, менавіта гэта і будзе потым асновай таго, што Алена Макоўская стане адным з галоўных у краіне аматараў усяго роднага.

## З чаго пачалася «Бацькаўшчына»

У Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» Макоўская трапіла амаль выпадкова. Пасля заканчэння ў 1992 годзе Інстытута замежных моў па абвестцы ў газеце Алена прыйшла сюды працаваць на пасаду сакратара-рэферэнта.

«Бацькаўшчыну» заснавалі ў 1990 годзе, а зарэгістравалі ў 1991-м. Прэзідэнтам (тады яшчэ так называць было можна) арганізацыі быў Васіль Быкаў, а Радай кіраваў Яўген Лецка. У 1993 годзе адбыўся першы з'езд беларусаў свету. Адпаведна, змянілася і кіраўніцтва. Прэзідэнтам абралі акадэміка Радзіма Гарэцкага, а старшынёй Рады стала Ганна Сурмач.

Алена Макоўская працавала сакратаром-рэферэнтам да 1994 года, калі пры «Бацькаўшчыне» (па рашэнню першага з'езда) было створана прадпрыемства, якое працавала сумесна з прадпрымальнікамі з беларускай дыяспары і накіроўвала пэўны прыбытак ад сваёй дзейнасці на патрэбы гэтай грамадскай структуры. Усё было непарыўна звязана, але камерцыйная структура дазваляла рабіць тое, што не магла грамадская — зарабляць грошы. Займалася гандлем, прадуктамі харчавання, лесам, высокімі тэхналогіямі і г.д.

Праіснавала прадпрыемства толькі тры гады. Яго закрылі, каб выратаваць саму «Бацькаўшчыну». І гэта можа быць даволі красамоўным адказам тым, хто распавядае пра нейкія прывабныя якасці бізнесу па-беларуску. Калі памяць не падводзіць, тады таксама здарыўся крызіс, расійскі дэфолт.

Быў і яшчэ адзін момант, які не мог паспрыяць нармальнай камерцыйнай дзейнасці. Ужо тады стала зразумела, што зарабляць грошы могуць толькі «свае», а астатнім рабіліся шматлікія перашкоды.

Пасля пры непасрэдным удзеле «Бацькаўшчыны» была створана грамадская арганізацыя «Міжнародны дабрачынны фонд імя крыжа Ефрасінні Полацкай», дзе Макоўская (на той момант яна скон-

чыла Акадэмію менеджмента пры Саўміне РБ і атрымала яшчэ і юрыдычную адукацыю) стала загадчыкам юрыдычнага аддзела.

Потым абставіны склаліся так, што Ганна Сурмач вымушана была прасіць палітычны прытулак у Чэхіі, і Алена вярнулася ў «Бацькаўшчыну» на пасаду выканаўчага дырэктара.

На трэцім і чацвёртым з'ездзе гэтага грамадскага аб'яднання Алену Макоўскую абіралі Старшынёй Рады, а на пятым яна стала галоўным кіраўніком Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», змяніўшы Аляксея Марачкіна.

### «Прывадныя рамяні» палітычных партый

Гэтыя слова належаць Алене Макоўскай, але сама яна таксама ўзгадала лозунг часоў КПСС. Справа ў тым, што напярэдадні пятага з'езда беларусаў свету вядомы апазіцыйны палітык Аляксандр Казулін (да якога аўтар ставіцца з вялікай павагай) прапанаваў далучыцца да створанай ім новай структуры «Беларускі дом». Кіраўніцтва «Бацькаўшчыны» адмовілася, і гэта было, на мой погляд, правільным крокам.

Не вельмі люблю цытаты, але мы маем якраз той выпадак, калі пазіцыю чалавека лепш за ўсё паказаць праз яго словы. У той час у інтэрв'ю адной з газет Макоўская сказала: «Бацькаўшчына» не з'яўляецца палітычнай арганізацыяй. Сябры Згуртавання — людзі абсалютна розных палітычных поглядаў. Мы з павагай ставімся да іх меркаванняў. І не нам вырашаць, каго з палітыкаў ім падтрымліваць. З часоў заснавання «Бацькаўшчыны» кіраўніцтву арганізацыі забаранялася быць сябрам якой-небудзь партыі. Мы можам супрацоўнічаць і супрацоўнічаем з палітычнымі структурамі ў Беларусі па тых напрамках, што адпавядаюць нашаму статуту».

Зараз многія лічаць, што «трэці сектар», выкарыстоўваючы моладзевы слэнг, больш «круты» за палітычныя партыі. Ацэньваючы дадзены аспект, Макоўская зыходзіць з таго, што палітычныя партыі ставяць перад сабой адну мэту — прыход да ўлады. На жаль, палітыка — сёння гэта тое, што нас падзяляе. А грамадскія арганізацыі (такія, як «Бацькаўшчыны») працуюць з абсалютна рознымі палітычнымі плынямі і імкнуцца, наадварот, аб'яднаць людзей. Трэба знайсці нейкі грунт, дзе не будзе канфрантацыі. Галоўнымі становяцца праблемы нацыянальнай самаідэнтыфікацыі і беларускай культуры.



Пяты з'езд Згуртавання беларусаў свету не ўсімі быў успрыняты адназначна. Той жа вядомы мастак Алесь Марачкін, які ўзначальваў «Бацькаўшчыну» да мінулага лета, параўноўваў яго з партыйным сходам часоў «застою». Мабыць, на гэта паўплывала тое, што на ім былі дзяржаўныя чыноўнікі, якія займаюць высокія пасады, і нават адзіны сёння беларускамоўны міністр.

Дарэчы, менавіта Марачкін публічна выказаў задавальненне работай Макоўскай. Абіралі яе на безальтэрнатыўнай аснове. І не таму, што не знайшлося іншых вартых кандыдатур. Якраз наадварот. Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» з'яўляецца адной з самых моцных (больш за дзве тысячы сяброў) структур беларускага «трэцяга сектару». Папросту многія з іх разумна палічылі Алену менавіта тым чалавекам, які можа забяспечыць не толькі прэстыж, але і працаздольнасць. Супраць кандыдатуры Макоўскай не прагаласаваў ні адзін з дэлегатаў пятага з'езда беларусаў свету, а ўстрымаліся толькі двое.

### Місія «Бацькаўшчыны»

Ці павінна арганізацыя супрацоўнічаць з уладай? Гэта пытанне выклікае шмат спрэчак. Адны катэгарычна супраць, другія з такой жа шчырасцю імкнуцца знайсці нейкія агульныя кропкі. Не стану ў гэтым пытанні займаць чыйсьці бок. Адзначу толькі, што не так даўно тая ж «Бацькаўшчына» ўжо амаль была сярод падпольных маргіналаў.

Васіль Быкаў, Радзім Гарэцкі, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Марачкін, Алена Макоўская. Я наўмысна зноў пералічыў усіх кіраўнікоў Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», каб яшчэ раз падкрэсліць, у якой славутай кампаніі аказалася гераіня гэтага нарыса. А гэта значыць — трэба працаваць на мяжы асабістых магчымасцей. Не хачу праводзіць нейкі лікбез і пералічваць усё, што зроблена і робіцца, бо для гэтага не хопіць цэлай газеты. Спыню вашу ўвагу толькі на двух момантах.

Калі казаць пра нейкую галоўную мэту, то гэта, безумоўна, нацыянальная ідэнтыфікацыя беларусаў за межамі нашай краіны. Сёння «Бацькаўшчына» актыўна працуе з 25 беларускімі суполкамі ў розных дзяржавах свету. А ўсяго за межамі нашай краіны жывуць каля трох з паловай мільёнаў беларусаў. Фактычна місія «Бацькаўшчыны» амаль цалкам складаецца з таго, каб быць своеасаблівым

прадстаўніцтвам замежнай дыяспары ў Беларусі і дапамагаць беларусам адчуваць сябе беларусамі ў замежжы.

Праблема даволі сур'ёзная, і аднымі падручнікамі па беларускай мове або арганізацыяй нядзельных школ яе не вырашыць. Асабліва калі ўлічыць тое, што асіміляцыя адбываецца даволі хуткімі тэмпамі. Пра гэта даволі красамоўна сведчаць лічбы перапісаў насельніцтва ў розных краінах свету.

Што б там хто ні казаў, але без пэўнай дзяржаўнай падтрымкі ў гэтай сферы разлічваць на нешта значнае — немагчыма. Таму перад Аленай Макоўскай заўсёды стаіць даволі складаная задача. З аднаго боку, не страціць тое, што зараз ёсць, з другога — не атрымаць абвінавачанні ў калабарацыянізме.

Як вядома, днямі споўніўся год самай паспяховай акцыі «Бацькаўшчыны» — агульнанацыянальнай культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі!». Хаця юрыдычна яна і з'яўляецца адной з 11 структур, якія першапачаткова вырашылі аб'яднаць свае намаганні, усе добра разумеюць, хто тут лакаматыў. Дык вось, за 365 дзён было праведзена 947 розных мерапрыемстваў. Па два-тры кожны дзень!

Такую б працаздольнасць многім нашым мужчынам!

# АЛЯКСЕЙ МАРАЧКІН



**Падрыхтавана да друку 20.02.10**

*Наша гутарка адбылася ў майстэрні вядомага мастака Аляксея Марачкіна (Алесь Мара), што месціцца ў знакамітым «Доме над Свіслаччу». Аляксей Антонавіч патлумачыў, што атрымаў яе яшчэ ў 1992 годзе пры кіраўніцтве Станіслава Шушкевіча. Дарэчы, гэта была апошняя майстэрня, пабудаваная на сродкі Саюза мастакоў пры падтрымцы дзяржавы. Сёння такое немагчыма, бо Марачкін не з тых, каму існуючая ўлада нешта дае ўвогуле.*

*Акрамя гумовых палак, канешне...*

## Першыя колеры

Аляксей Марачкін нарадзіўся ў вёсцы Папоўшчына (Чэрыкаўскі раён Магілёўскай вобласці) 30 сакавіка 1940 года, на рэлігійнае свята мучаніка Аляксея, але памылкова ў пашпарце напісана — 10 сакавіка. Справа ў тым, што падчас ваенных закалотаў пасведчанне аб нараджэнні не захавалася. І ў школе дзень сваіх народзінаў ён назваў амаль наўгад, бо дакладна ведаў толькі год. Пазней спытаў у маці, калі адзначаецца «святы Аляксей», і пачуў: напрыканцы сакавіка, а калі паглядзеў царкоўны каляндар, то ўбачыў — 30-га.

Назва вёскі Папоўшчына для савецкай улады і яе ваяўнічага атэізму гучала непрывабна, таму вёску перайначылі ў Новую Слабаду, але ніхто яе так і не пачаў называць па-новаму.

Бацькі будучага мастака — Антон Мікалаевіч і Хадора Хролаўна. Імя маці даволі рэдкае. Так атрымалася, што літару «ф» у той мясцовасці не вымаўлялі. Яе як бы не было ўвогуле: Хведзя, хвасоля...

Часы вайны помняцца як праз сон, але дзіцячыя ўспаміны ўсё ж захаваліся. Прыгадаўся адзін з выпадкаў. Аднойчы Марачкін

схаваўся ў жыта, каб лепш было глядзець на бойку паміж нямецкімі самалётамі і савецкімі «стракозамі» (іх называлі менавіта так), і ўбачыў, як за адным самалётам з'явіўся чорны дым. Выбуху не было.

Прайшло больш за сорак гадоў, і калі пачалі асушаць балоты, знайшлі той самалёт. Расказвалі, што як паднялі яго з вады, то ўбачылі: у торфе захавалася амаль усё. Загінуўшы савецкі лётчык быў як жывы. Пазней дазналіся яго імя і паставілі помнік.

А яшчэ запомнілася вяртанне з вайны бацькі. Было гэта раніцай. Ён прыйшоў з палявой вайсковай торбай за плячыма. Ніякіх трафеяў там, мабыць, не было. Адзінае, што з'явілася ў доме новае, — вялізны стос каляровых паштовак. Гэта былі рэпрадукцыі розных карцінаў.

## Захапленне фарбамі

Седзячы на печцы, патэнцыйны мастак любіў разглядаць гэтыя паштоўкі. Было вельмі цікава — Леанарда да Вінчы, Тыцыян, Рэмбрант... Пазней арыгіналы Марачкін убачыць у розных музеях свету і заўжды будзе ўспамінаць тыя, з дзяцінства, паштоўкі. І той момант, калі захацелася нешта намаляваць самому.

Яшчэ ў школе ён марыў паступіць у мінскую вучэльню, якая рыхтавала мастакоў. Пасля ўступных экзаменаў тагачасны дырэктар Краснеўскі сабраў чалавек пяць-шэсць (сярод якіх быў і Аляксей Марачкін) і сказаў: «Усіх вас прыняць не магу, тым больш, што па конкурсу вы не праходзіце, раю ўзяць нашы экзаменацыйныя лісты і паехаць у Віцебск у мастацкі тэхнікум».

Дарэчы, там калісьці спрабаваў вучыцца Васіль Быкаў. На той час там пачалася рэарганізацыя. Былы тэхнікум ператваралі ў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута. Так хлопцы і зрабілі.

На апошнім, чацвёртым, курсе Марачкін пабраўся шлюбам. Вучыцца хацелася далей, але Аляксей добра ўяўляў, што наперадзе чакае армія, і таму як настаўнік па малюнку і чарчэнню ў 1962 годзе паехаў па размеркаванні ў глыбокае Палессе, у вёску Рубель Столінскага раёна.

Служыў пад Барысавам, у знакамітых Пячах. Калі прызываўся, на плячах трымаў эцюднік з фарбамі. Адзін з сяржантаў на размеркавальным пункце спытаў: «Ты што, на рыбалку сабраўся ці ў армію?» Мабыць, эцюднік нагадаў яму «скрыню» для зімовай рыбалкі. Давялося патлумачыць.



У «вучэбцы» навучылі кіраваць танкамі, аднак Аляксей больш часу маляваў плакаты ў Доме афіцэраў. І маляваў добра, таму далей нікуды не адправілі. На адным з плакатаў замест «воин — будь бдителен» напісаў «воин — будь спокоен». Ніхто гэтага не заўважыў.

Арганізаваў для афіцэрскіх дзяцей студыю выяўленчага мастацтва. Дарэчы, сярод іх быў руды хлопчык Мікола Ісаёнак. Сёння гэта вядомае прозвішча ў беларускім мастацтве.

Пасля войска Марачкін вырашыў перабрацца бліжэй да Мінска. Працаваў два гады настаўнікам у СШ № 4 Жодзіна. І паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут.

Так атрымалася, што ў гэты час народны мастак Беларусі Іван Восіпавіч Ахрэмчык неафіцыйна (пра гэта студэнты даведаліся пасля), тайна ад Масквы (ведала толькі беларускае кіраўніцтва) адкрыў у БДТМІ, дзе быў загадчыкам кафедры, факультэт жывапісу. Афіцыйна ўсе паступалі на «дызайн і інтэр'ер», а неафіцыйна вучыліся зусім іншаму.

## Жыццёвыя сюжэты

Ахрэмчык ведаў, што Марачкін «ціхі дысідэнт», але імкнуўся не звяртаць на гэта асаблівай увагі. Наадварот, папярэджваў. Маўляў, трэба быць асцярожным, бо інакш вучобы не закончыць. На жаль, у гэтым Аляксей не быў паслухмяным. Дух супраціву натхняў і ўзбуджаў.

Цікавы выпадак. Усім студэнтам загадалі напісаць што-небудзь да 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна. Марачкін зрабіў «Смаленне чорнага кабана». Можна толькі ўявіць, які вэрхал падняўся. У рэктарат патэлефанавалі з Міністэрства асветы, і Марачкіна выклікалі ў адпаведныя інстанцыі. Але ён застаўся на сваіх пазіцыях, бо не бачыў ніякай крамолы ў сваім творы. Хапіла нават нахабства сказаць чыноўнікам, што «вождь» пралетарыяту любіў таксама паесці сала.

Перад дыпломам Марачкін паказаў свайму кіраўніку эскізы да карціны «Гуканне вясны», хацеў напісаць менавіта гэты твор. Традыцыйная беларуская тэма. Не тое, што рабіць яе забаранілі, проста параілі намаляваць іншае. Дакладней, Жодзінскі аўтазавод з яго магутнымі БелАЗамі.

А «Гуканне вясны» мастак потым усё ж такі намалюе. Доўгі час гэта карціна будзе сярод пастаянных экспанатаў Нацыянальнага мастацкага музея, але прыйдуць «новыя кіраўнікі дзяржавы», і яе схаваюць. Гэтак жа адбылося і з карцінай «Вераніка і Максім», якую перад візітам Лукашэнкі ў «новы корпус музея» паслугачы рэжыму хуценька прыбралі з экспазіцыі.

Па вялікаму ж рахунку, Аляксей Марачкін лічыць сябе прадстаўніком незапатрабаванага пакалення, бо ў яго маладосці трэба было маляваць толькі так, як загадала КПСС. А ён ніколі не працаваў «на заказ». Не маляваў ні Леніна, ні Маркса з Энгельсам. На карцінах Марачкіна іншыя героі: Францыск Скарына, Кірыла Тураўскі, Рагнеда, Ефрасіння Полацкая, Вітаўт Вялікі, Іван Луцкевіч, Цётка...

Сёння за нешта падобнае, магчыма, атрымаў бы (калі б сябраваў з уладай) дзяржаўную прэмію, але Марачкін імкнецца абысціся без такой ласкі. У 90-я гады, калі Саюз мастакоў вылучаў яго на званне Заслужанага дзеяча мастацтва, прынцыпова адмовіўся.

## Палітра жыцця

Магчыма, гэта задужа пафасна, але з гадамі Марачкін пачаў разумець, што МЫ — НАРОД, НАЦЫЯ і, каб не згубіцца ў свеце, павінны не забываць, адкуль і хто мы. Творчы арыенцір ён узяў на этнаграфічнасць і гістарычныя партрэты. Нават у нейкім сэнсе абмежаваў у сабе пошукі «чыстага мастацтва».

У 1990 годзе пры Саюзе мастакоў Беларусі была створана суполка «Пагоня». Менавіта «пры», бо ад самастойнай рэгістрацыі амаль адразу яны адмовіліся, таму што ў нашай дзяржаве гэта стварае вельмі шмат праблем.

Марачкін быў маральна падрыхтаваны да перабудовы, і таму цалкам лагічна тое, што менавіта яго прызначылі загадчыкам кафедры жывапісу Беларускай акадэміі мастацтваў. Дагэтуль ён займаўся вольнай творчасцю і некалькі гадоў быў галоўным мастаком у мастацкім фондзе БССР — адказваў за мастацка-ідэйны ўзровень таго, што рабілася ў нашых вытворчых майстэрнях.

На гэтай пасадзе Аляксей Марачкін пратрымаўся крыху больш за 10 гадоў. Новыя ўлады выціснулі яго з пасады загадчыка кафедры і, на думку Аляксея, паступілі неразумна, бо тым самым як бы падштурхнулі запоўніць нішу нонканфармізму, мастацтва супрацьву. Марачкін пачаў маляваць карціны тыпу «Плошча Каліноўскага», «Звычайны нацюрморт» і г. д. Знакаміты Звон волі — гэта таксама Марачкін і яго аднадумца скульптар Шатэрнік.



У 2005 годзе Аляксея Марачкіна абралі Старшынёй Рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» (угаварылі паэт Генадзь Бураўкін і акадэмік Радзім Гарэцкі). На гэтай пасадзе прабыў да лета мінулага года. Пасада вельмі значная для грамадскай біяграфіі Марачкіна, аднак менавіта ён быў адным з тых, хто сустрэў рэформы апошняга часу вельмі насцярожана, і, як лічыць сёння, мякка кажучы, расчараваны яе дзейнасцю.

Перш за ўсё таму, што адчуў хвалю так званай «управляемой оппозиции». На яго думку, залішне многае сёння вырашаецца таемна, у нейкім закуліссі.

Найбольш яскрава гэта праявілася падчас правядзення апошняга з'езда. 21 арганізацыя (цягам года) адмовілася даць памяшканне для яго правядзення. Марачкін агучыў, што іх гатовыя прыняць у Вільні, і раптам пытанне было вырашана. Многія ўспрынялі гэта як «кароткі павадок».

У тым, што для правядзення з'езда лепш за ўсё было абраць Вільню, куды б маглі прыехаць беларусы, якія да неспадобы існуючай уладзе (Івонка Сурвіла, напрыклад), Аляксей Марачкін упэўнены і сёння. Як і ў тым, што «Бацькаўшчыне» нельга працаваць пад нечым кантролем. Пакінем гэта без каментароў. Адзначым толькі, што ёсць і супрацьлеглая думка.

Як і многія, Аляксей Марачкін пытаецца ў сябе: «Навошта мастаку палітыка?» І разумее, што не можа інакш, бо вельмі востра рэагуе на падман, знявагу, цемрашальства. Можа, у іншых гэтае адбываецца інакш. Ён не вінаваціць тых мастакоў, пра якіх некалі склаў такія радкі: «Штодня малюю хмызнякі і застаюся на вякі...»

Толькі адны хмызнякі Марачкін маляваць не зможа ніколі. Мастаку не да душы фальш, якая адчуваецца паўсюдна, асабліва ў культурнай палітыцы. На жаль, сёння з усяго беларускага (мова, культура) робіцца звычайны сувенір, каб было што паказаць за мяжой — зубры, буслы, ручнікі і таму падобнае.

Аляксей Марачкін. Алесь Мара. Мастак. Паэт. Грамадскі дзеяч. Асоба — ва ўсіх сваіх іпастасях. І ва ўсіх — выбітная. Адзін з найбольш заўважных архітэктараў беларускага адраджэння хвалі 1990-х, беларускага «трэцяга сектару», ён сам па сабе — «трэці сектар». Як у

Хэмінгуэя: кожны чалавек — мацярык. Тым больш такі, такога маштабу і таленту, як Аляксей Марачкін.

Ён не можа схавацца пад стол, пад падушку альбо зрабіць выгляд, быццам нічога не адбываецца. Не змагаецца за нейкую пасаду, але і не парывае з Народным Фронтам, у якім з самага пачатку існавання. Мастак не можа здрадзіць сваім думкам і стаць на калені перад цемрай. І галоўнае — Аляксей Марачкін не адзін такі.



# СЯРГЕЙ МАЦКЕВІЧ

**Падрыхтавана да друку 03.09.10**

*Па шчырасці, напачатку і я, сярод іншых, памылкова адносіў старшыню Асамблеі няўрадавых арганізацый Сяргея Мацкевіча да сваякоў вядомага палітолага Уладзіміра Мацкевіча. Даводзілася чуць і пра яго роднасныя сувязі з былым кіраўніком КДБ, таксама Мацкевічам. Такое вось знакамітае прозвішча. Як чалавек з добрым пачуццём гумару, Сяргей ніколі не абвяргае такога кшталту памылкі.*

## Сям'я «ворагаў народа»

Сяргей Мацкевіч нарадзіўся 1 жніўня 1964 года ў Пружанах. Менавіта з гэтай датай звязаны эпізод, які даволі красамоўна сведчыць пра ўзровень валодання дзяржаўнымі чыноўнікамі беларускай мовы. Калі Мацкевічу выдавалі пашпарт, на «рускай» старонцы напісалі «1 августа», а на беларускай — «1 ліпеня».

У 1941 годзе дзеда Сяргея Сільвестра Дзмітрыевіча расстралялі ў Курапатах. Але яму пашанцавала — «недастрэлілі». Пакуль паранены дабіраўся да роднай хаты ў вёсцы Скібічы Драгічынскага раёна, пачалася вайна, а перад гэтым яго жонку Марыю Андрэеўну з будучым бацькам Сяргея «саветы» паспелі выслаць у Барнаул. Вярнуліся толькі ў 1948 годзе.

Калі стала зразумела, што «вайна павярнулася ў другі бок», Сільвестр, хаця і не быў калабарантам, не стаў чакаць, пакуль «саветы» яго заб'юць канчаткова, і «пайшоў на Захад». Недзе ў Польшчы яго схапілі, адправілі ў нямецкі працоўны лагер, дзе дзед і сустрэў канец вайны. Потым быў лагер «фільтрацыйны». Каб не вяртацца ў СССР (шмат хто з такой нагоды абіраў самагубства), назваўся палякам і перабраўся ў Амерыку. У 1986 годзе там і памёр.

Дарэчы, пра тое, што ён жывы і знаходзіцца ў ЗША, родныя даведаліся дзякуючы «Голасу Амерыкі», якому дзед распавёў пра свой лёс. Да бацькі Сяргея, на той час студэнта Інстытута народнай гаспадаркі, адразу прыйшлі з КДБ. А іх — яго, дзеда і бацькі — родную хату «рэквізавалі» і перавезлі ў Драгічын яшчэ раней. Нават пасля поўнай рэабілітацыі дзеда ў 1992 годзе іх сям'я ні прабачэння, ні кампенсацыі не атрымала. Як і мноства іншых. Попел ахвяр сталінскіх рэпрэсій да гэтага часу грукае ў сэрцы нашчадкаў.

Ад падобнай інфармацыі Сяргея аберагалі шчыльна. Каб нічога не ведаў. Каб не пашкодзіць яго жыццю і кар'еры.

## Шлях у жыццё

Ва ўмовах СССР рэдка хто з дзяцінства мэтанакіравана ішоў да сваёй мары. Большасць абірала толькі накірунак руху, а далей усё за іх вырашала дзяржава. Сяргей Мацкевіч спыніў свой выбар на факультэце фізікі БДУ не таму, што жадаў стаць знакамітым вучоным. Папросту дакладныя навукі ў школе яму даваліся лягчэй за гуманітарныя. Многія так робяць і зараз, але ў іх дзеяннях дамінуюць не эмоцыі, а практычнасць і выгода.

У БДУ ён паступіў у 1981 годзе, а ў 1986 пачаў працаваць на знакамітым «Інтэграле», якому аддаў восем гадоў жыцця. Тыя, хто ведае найноўшую гісторыю, адразу заўважаць, што менавіта на гэты перыяд прыходзяцца найбольш значныя і кардынальныя змены, якія адбыліся ў нашым грамадстве.

Кітайцы не дарэмна лічаць, што жыць падчас нейкіх значных зменаў у грамадстве горш за ўсё, аднак ёсць тут не толькі «мінусы». З аднаго боку, малады спецыяліст не паспеў пазнаць савецкай «стабільнасці», дзе ўсё (да самай пенсіі) было разлічана існуючай уладай. З другога — атрымаў шанец дыхнуць вольным паветрам. Менавіта гэта і дало разуменне таго, што трэба шукаць новае, а не «тупа плыць па цячэнню».

Яшчэ падчас работы на «Інтэграле» Сяргей Мацкевіч скончыў курсы, якія рыхтавалі галоўных бухгалтараў і фінансавых менеджэраў малых прадпрыемстваў. У 1993 годзе звольніўся і рушыў у «свабоднае плаванне».

Акрамя іншага апошнія гады існавання Савецкага Саюзу і самы пачатак фарміравання дзяржаўнай незалежнасці Беларусі адзначаны новай хваляй нацыянальнага адраджэння. Калі да стварэння і дзейнасці «Талакі», «Майстроўні» пакаленне Сяргея Мацкевіча яшчэ «не дарасло», то з Перабудовай надышоў «іх час».



Першы крок Сяргея на гэтым шляху — пераход на беларускую мову. І не ў адзіноце, а разам з жонкай Тамарай, з якой яны пабраліся шлюбам адразу пасля заканчэння БДУ, дзе вучыліся ў адной групе.

Другі, у пэўным сэнсе, быў абумоўлены выпадковасцю. Калі ў 1996 годзе з нашай краіны «выганялі» фонд Сораса, частка яго «бэвушных» камп'ютараў перадавалася розным грамадскім арганізацыям, у тым ліку і «Супольнасці», якая запрасіла Сяргея Мацкевіча дапамагчы з афармленнем фінансавых дакументаў.

Тамара прыйшла ў «Супольнасць» пазней за мужа і займалася там настаўніцкімі справамі. У хуткім часе гэты накірунак набыў пэўную маштабнасць і на яго аснове афармілася новая самастойная арганізацыя — Таварыства беларускай школы. І зараз Тамару Мацкевіч больш ведаюць не як сябра «Супольнасці», а як намесніка старшыні ТБШ. Займаецца яна ў першую чаргу інфармацыйна-метадычным сайтам для настаўнікаў www.nastaunik.info.

## Шлях у «трэці сектар»

Грамадскае аб'яднанне «Цэнтр «Супольнасць» было створана ў 1995 годзе. За час існавання новай улады гэта быў пік росту колькасці недзяржаўных структур, якая потым ад адной чарговай перарэгістрацыі да другой нязменна зніжалася.

Ад стварэння «Супольнасці» і да 2002 года яе ўзначальваў вядомы палітык Вінцук Вячорка, але пасля прэзідэнцкіх выбараў—2001 і абрання старшынёй партыі БНФ ён прапанаваў на пасаду старшыні Рады Сяргея Мацкевіча. Прыклады, калі нехта з кіраўнікоў пакідае сваю пасаду па добрай волі, можна пералічыць на пальцах адной рукі. І апазіцыя тут не вельмі адрозніваецца ад улады.

Заўсёды, калі гаворка ідзе пра нейкую арганізацыю, лагічна ўзгадваць пра колькасць сяброў, але на гэты раз зробім выключэнне. Перш за ўсё таму, што звыклыя лічбы тут адпавядаюць рэчаіснасці даволі ўмоўна. Асноўная дзейнасць «Супольнасці» накіравана на кантакты з рознымі рэгіёнамі, пошук і падтрымку лакальных ініцыятываў. Таму мінскі офіс — далёка не ўся структура.

Акрамя таго, шмат хто з сяброў «Цэнтра «Супольнасць», саспяваючы для самастойнай працы, адгаліноўваўся і ствараў асобныя ар-

ганізацыі па накірунку сваёй дзейнасці, застаючыся ў партнёрскіх адносінах са сваёй alma mater.

Пра ўзаемаадносіны «трэцяга сектару» і палітычных партый сказана і напісана нямала. Асабліва пра тое, што апошнія імкнуцца «кіраваць» усімі формамі грамадскага супрацiву. Трэба адзначыць, што час ад часу так і бывае. Асабліва калі ў склад недзяржаўных структур уваходзяць з большасці «чыстыя палітыкі».

Гэта не рэдкасць і раней, і цяпер, калі людзі з партбілетамі ў кішэнях знаходзяцца ў складзе адразу некалькіх грамадскіх структур. З той, аднак, істотнай розніцай, што калі 15—20 гадоў таму НДА ўзнікалі на базе нейкіх палітычна ангажаваных колаў, то апошнім часам яны ўсё больш і больш староняцца падобных стэрэатыпаў. Больш за тое, прынцыпова падкрэсліваюць, што не з'яўляюцца «філіямі» якіх-небудзь палітычных плыняў.

### Шлях у будучыню

Магчыма, прагучыць пафасна, але я прынцыпова лічу, што пэўныя змены ў Беларусі будуць звязаны з узмацненнем грамадзянскай супольнасці. Маю на ўвазе кардынальныя змены, а не касметычныя. На мой погляд, новым уладам удалося павярнуць гісторыю нашай краіны назад перш за ўсё таму, што яны здолелі «падмяць» пад сябе значную частку беларускага грамадства, якое не паспела атрымаць імунітэт ад featured рознага кшталту папулісцкіх метадаў маніпулявання.

У 2004 годзе Сяргей Мацкевіч быў абраны старшынёй Рабочай групы Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацый (Асамблея НДА). Пасада вельмі падобная да прэзідэнцкай у краінах, якія абралі парламенцкую форму кіравання. У тым сэнсе, што тут сканцэнтраваныя па большай частцы прадстаўнічыя паўнамоцтвы і магчымасці даваць неабавязковыя для выканання парады, а рэальная ўлада знаходзіцца ў іншых. І гэта натуральна, бо ў дадзеным выпадку гаворка не ідзе пра «парасонкавую» структуру. Асамблея — хутчэй «сетка».

Тым, хто вырас у часы «дэмакратычнага цэнтралізму», даволі цяжка зразумець і ўспрыняць такую форму ўзаемадзеяння. У склад Асамблеі НДА на сёння ўваходзіць каля трохсот (пачыналі з дзвюх сотняў) зарэгістраваных і незарэгістраваных грамадскіх арганізацый розных накірункаў дзейнасці. Знайсці тут нейкі агульны назоўнік немагчыма па вызначэнню. Ды і не патрэбна, інакш атрымаецца не «трэці сектар», а нешта вельмі падобнае на тое, што адбываецца на дзяржаўным узроўні.



На жаль, нічога іншага ўладныя «вярхі» не разумеюць. Напрыклад, у красавіку гэтага года яшчэ раз афіцыйна пацвердзілі, што не бачаць ніякага сэнсу ў тым, каб грамадскія дзеячы ўдзельнічалі ў праграмах «Усходняга партнёрства». Маўляў, няма карысці, а супрацоўніцтва магчыма толькі з уладамі і толькі па тых праектах, на якія ёсць іх згода.

Беларусь з'яўляецца адзінай краінай у свеце, дзе «за дзейнасць у складзе незарэгістраванай арганізацыі» (не рэгіструюць наўмысна) асуджаны аж 17 чалавек.

Каментары, як кажуць, залішнія. Здзіўляе нахрапістасць, з якой дзяржаўныя чыноўнікі адстойваюць свой пункт гледжання.

Такое ўражанне, што грошы ў выглядзе крэдытаў больш патрэбныя не кіраўніцтву беларускай краіны, а самім замежным палітыкам... Ва ўсякім выпадку, той, хто шукае падтрымку, так сябе не паводзіць. Калі хто-небудзь мне прывядзе хоць адзін станоўчы і рэальны (не прапагандысцкі) прыклад так званай «палітычнай лібералізацыі», то я яму буду вельмі ўдзячны.

Дарэчы, Сяргея Мацкевіча ў лістападзе мінулага года ў Бруселі абралі каардынатарам першай платформы (усяго чатыры) Форума грамадзянскай супольнасці «Усходняга партнёрства» і спікерам гэтай структуры. Створана яна была для таго, каб узмацніць ролю грамадскага сектара ў працэсах «Усходняга партнёрства». Зрабіць яе больш значнай і істотнай.

Іншымі словамі, каб здзейсніць тое, супраць чаго і змагаюцца сучасныя беларускія ўлады. Яны ўвогуле з вялікай насцярожанасцю ставяцца да ўсяго таго, што не створана імі самімі. Нават калі гаворка ідзе пра абсалютную палітычную лаяльнасць. Сітуацыя нагадвае звычайны «чорна-белы» падзел, за якім, як вядома, можа прыйсці і абсалютная цемра. Каб гэтага не было, Сяргей Мацкевіч ужо 14 гадоў і займаецца «трэцім сектарам».



# Уладзімір Мацкевіч

**Падрыхтавана да друку 07.05.11**

*Ва ўмовах, калі дзясяткі іншадумцаў знаходзяцца за кратамі, прапаноўваць нейкія перамовы з удзелам уладаў можа толькі альбо палітычны самазабойца, альбо «засланы казачок». Ні першым, ні другім Уладзімір Мацкевіч не з'яўляецца па вызначэнню, але ж прапануе. І яго прапановы, калі паспрабаваць іх зразумець, ужо не здаюцца абсалютным «нонсэнсам».*

## Супраць плыні

Ведаю, што стаўленне да гэтага чалавека неадназначнае, і гэтаму ёсць пэўныя тлумачэнні. Пасля сумных падзей 19 снежня 2010 года ў розныя пастарункі трапілі сотні людзей, а выбух 11 красавіка 2011 не толькі «взорвал стабильность», але і надзею на нейкія нармальныя кантакты з уладай. Тым больш, што гэтыя кантакты ёй патрэбны не больш, чым (паводле У. Высоцкага) лыжы ў рускай лазні.

Мацкевіч гэта добра разумее, адсюль галоўная думка ягонай канцэпцыі — прымусіць уладу пайсці на дыялог. Але тут ужо многія не разумеюць яго, бо немагчыма ўявіць, як гэта рэалізаваць у нашых умовах. І таму большасць аддае перавагу байкоту.

Не хочацца займаць у гэтых дыскусіях чыйсьці канкрэтны бок, але яшчэ з дзяцінства памятаю прыказку: «Хто як пазываецца, так і называецца». Байкот не азначае канапнага гультайства і не з'яўляецца сінонімам паняцця «няўдзел». Калі рабіць усё па-сапраўднаму, то байкот здзейсніць цяжэй, чым абазначыць свой удзел у выбарах.

Па вялікаму рахунку, прапановы Уладзіміра Мацкевіча суадносяцца з «канцэпцыяй байкоту». У тым сэнсе, што эфектыўны рух на-



перад (альбо яго адсутнасць) магчымы толькі тады, калі за ім стаіць нешта моцнае, бо размаўляюць і лічацца з тымі, за кім ёсць моц.

Канешне, як і многім, ідэя байкоту падаецца больш лагічнай, але я разумею, што для канчатковага поспеху патрэбныя не толькі эмоцыі. Неабходна пэўная доля прагматычнасці. На жаль, сёння ў ідэйных апанентаў улады яна ў відавочным дэфіцыце, а імкненне выдаць жаданае за існае ў іх не меншае, чым у тых, хто спявае пра айчынны эканамічны цуд.

Магчыма, гэта спрэчна, але, на мой погляд, рэжым сёння наўмысна робіць так, каб справакаваць да сябе адмоўнае стаўленне. І такім чынам цалкам пагасіць у шэрагах апазіцыі любыя памкненні да кантактаў з уладай. З астатнімі ж, з «шырокімі масамі», спадзяюцца, усё будзе «як заўсёды». Менавіта гэты статус-кво ўжо 17 гадоў адным дазваляе «кіраваць», а другім — змагацца са «злачынным рэжымам».

Пры гэтым прашу заўважыць: ніхто з іх на дух не пераносіць якой-небудзь канкурэнцыі. Палітычныя канкурэнты альбо «знікаюць», альбо абвяшчаюцца «рукой Крамля».

Не палічыце езуіцтвам, але асабіста мне было б прыемна назіраць, каб уладны бок пайшоў на перамовы з тымі, каго яшчэ ўчора называў «пятай калонай» і «адмарозкамі». Немагчыма? Як сказаць. У гэтым жыцці магчыма ўсё, бо пакуль «стабільныя» толькі чэргі каля абменнікаў і штодзённы рост коштаў у крамах.

І яшчэ. Як і многім, мне вельмі надакучыла назіраць, як апазіцыянеры «бадаюцца» паміж сабой. Простаму выбаршчыку з Мінска, Магілёва, Ашмян, Смаргоні, Быхава, з вёскі Навасёлкі ды іншых глыбока «да лямпачкі» нейкія палітычныя спрэчкі. Ён стаміўся і прагне пераменаў. Менавіта — пераменаў, канкрэтных дзеянняў, а не размоў пра іх.

## Першыя хвалі

Ну а цяпер, як вы ўжо здагадаліся, пералічу звычайныя для такіх нарысаў біяграфічныя звесткі Уладзіміра Мацкевіча. Нарадзіўся ён у горадзе Чарамхова Іркуцкай вобласці 14 мая 1956 года. Туды саслалі яго бацькоў і дзядоў. Бацька Уладзімір Кас'янавіч і маці Лідзія Карпаўна пабраліся шлюбам за тры гады да дня народзінаў будучага метадолага. Дарэчы, яны пазнаёміліся ўжо там, у мясцовай беларускай суполцы.

Паселішча Чарамхова існуе з канца XVI стагоддзя, але з часам невялікі шахцёрскі пасёлакператварыўся ў перспектыўны геаграфічны пункт. Для дабывання «адкрытым спосабам» была патрэбная танная працоўная сіла. У сталінскія часы праблема вырашалася проста і хутка — ссыльныя. Былі сярод іх і два эшалона беларусаў.

У 1966 годзе сям'я Мацкевічаў вярнулася ў Беларусь, у Гродна. Амаль сем гадоў «мыкаліся» па розных інтэрнатах і здымных кватэрах. Уласную атрымалі толькі тады, калі Валодзя перайшоў у дзясяты клас.

У 1973 годзе хлопец паспрабаваў паступіць на факультэт псіхалогіі Ленінградскага дзяржаўнага ўніверсітэта (ЛДУ), але без станоўчага выніку. Чаму такі сур'ёзны выбар? Абумоўлены ён быў падлеткавай грамадска-палітычнай актыўнасцю.

У старэйшых класах Уладзімір Мацкевіч быў хіпі і нават прымаў удзел у знакамітай гродзенскай дэманстрацыі 1972 года. Але ў катэгорыю «нядобранадзейных» трапіў не за гэта. Прычынай стала школьная экскурсія ў Брэсцкую крэпасць. Справа ў тым, што першы раз ён быў там раней і «лубочную» рэстаўрацыю не прыняў, пра што шчыра і напісаў у сваім сачыненні.

Пры Сталіне за такое б маглі расстраляць, а тут усё абмежавалася звычайным «вон са школы». Бальшавіцкую пільнасць праявіла класны кіраўнік, якая абвінаваціла школяра ў «антысаветчыне». На бок Мацкевіча паўстаў увесь клас, але адстаяла яго маці, якая са слязамі на вачах «пайшла па інстанцыях».

У гэты ж час пачалася так званая «дапрызыўная камісія». Калі там прачыталі характарыстыку Уладзіміра Мацкевіча, адразу пацягнулі хлопца да псіхіятра. Так ён упершыню пазнаёміўся з людзьмі прафесіі, якую потым абярэ і сам. І да якой свядома рыхтаваўся, прачытаўшы ў мясцовай бібліятэцы амаль усе кніжкі па псіхалогіі, што там былі. Гэтыя кніжкі і сталіся для яго ці не першай крыніцай іншадумства.

## Крыніцы іншадумства

Пасля няўдалай спробы паступлення Уладзімір Мацкевіч быў прызваны ў армію. Рыхтавалі маладога салдата на спецыяліста па рамонту і захаванню радыёлакацыйных станцый наземнай артылерыі. Пазней, праўда, высветлілася, што вучылі рамантаваць станцыі, якія ўжо знятыя з узбраення. Тут ён яшчэ раз пераканаўся, што без ведаў у галіне псіхалогіі ў нашым жыцці разабрацца вельмі цяжка.

Потым было падрыхтоўчае аддзяленне і статус студэнта ЛДУ. Падчас вучобы і ажаніўся. У гэты ж час нарадзіўся старэйшы сын Тамаш. Такое імя Уладзімір Мацкевіч падабраў наўмысна: каб не было «рускіх» аналагаў. Беларускую транскрыпцыю ў пашпарце, хаця і з цяжкасцю, усё ж такі «адваявалі».

Атрымаўшы дыплом спецыяліста па інжынернай псіхалогіі («чыстай» навукай заняцца не далі), Уладзімір Мацкевіч трапіў у бюро тэхнічнай эстэтыкі Віленскага радыётэхнічнага завода. Праз восем месяцаў высветлілася, што «допуск» для працы на «ваенным» заводзе яму не дадуць.

Дысідэнцкія «выбрыкі» юнацтва КДБ не даравала, і Мацкевіч вярнуўся назад у Ленінград. Сем месяцаў быў беспрацоўным, а потым яго ўзялі на гуманітарную кафедру Ленінградскага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту. Вучыў будучых дыспетчараў метрапалітэну і даволі хутка ўзначаліў адну з даследчых лабараторыяў.

Там жа скончыў працу над дысертацыяй, але абараніць яе не змог, бо для гэтага трэба было ўступіць у партыю. Адмовіўся. Потым цалкам захапіўся адукацыйнымі праблемамі і нават падрыхтаваў новую дысертацыю. Яе абараніць таксама не ўдалося.

У 1985 годзе пачалася перабудова. Яе віры захапілі і Уладзіміра Мацкевіча. Распавядаць усе падрабязнасці не буду, скажу толькі, што менавіта тады ён і пачаў займацца метадалогіяй.

У 1993 годзе лёс зноў вярнуў яго ў Беларусь.

## На хвалі логікі

Мацкевіч крыху папрацаваў у камандзе Шушкевіча. У маі 1994 года разам з аднадумцамі стварыў Агенцтва гуманітарных тэхналогій, якое ён узначальвае і сёння. Амаль адразу з'явіліся іх першыя аналітычныя публікацыі.

Былі ў яго біяграфіі і «тэлевізійныя» старонкі. Падрабязнасці пакінем «за дужкамі», скажу толькі, што яму першаму прапанавалі стаць вядучым перадачы «Рэзананс», якая толькі стваралася. Нават касцюм пашылі. Кандыдатуру «зарубілі» Замяталін з Латыпавым, якія ведалі кнігі Мацкевіча, ведалі і пра яго ўдзел у стварэнні Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП).

Справядліва заўважана, што, чым больш мінае часу з моманту падзеі, тым больш аб'яўляецца ў яе «хросных бацькаў». Ідэя стварэння новай, ліберальнага кірунку палітычнай партыі нарадзілася адразу ў некалькіх людзей. Уладзімір Мацкевіч — адзін з іх.

Менавіта ён (пад выглядам інтэрв'ю) размаўляў са Станіславам Багданкевічам, які на той момант узначальваў Нацыянальны банк Беларусі, а калі 1 кастрычніка 1995 года з'явілася Аб'яднаная грамадзянская партыя, увайшоў у склад першага Нацыянальнага камітэта і нават некаторы час узначальваў іх прэс-цэнтр.

Меў ён і непасрэднае дачыненне да «Хартыі—97», якая ўзнікала як новы элемент грамадзянскай супольнасці, бо задумвалася шырокім грамадзянскім рухам. Спачатку Мацкевіч пазнаёміўся і нават пасябраваў з Андрэем Саннікавым. А потым да іх далучыліся Пётр Марцаў, Зміцер Бандарэнка і Віктар Івашкевіч.

Уладзімір Мацкевіч сфармуляваў яе асноўныя ідэі, напісаў тэкст заявы, пад якой і паставіла свае подпісы першая сотня дэмакратычных актывістаў. Так вясной 1997 года пачалася праца па стварэнню добра вядомай сёння структуры, якая ў шырокі рух, па розных аб'ектыўных і суб'ектыўных прычынах, так і не перарасла.

Апошнія гады Уладзімір Мацкевіч займаецца пераважна праблемамі грамадзянскай супольнасці — «трэцяга сектара». Нагадаю: «першы сектар» — гэта дзяржаўныя структуры, «другі» — тыя, хто займаецца бізнесам.

Днямі ўбачыў у інтэрнэце адзін вельмі цікавы тэзіс: «трэці сектар» сёння фармуецца ля пунктаў абмену і продажу валюты. Магчыма, камусьці ён падасца спрэчным, але менавіта ў гэтай «стыхійнасці», ініцыятывах ад жыцця, актыўнасці знізу і ёсць галоўны сэнс самога тэрміна. Сапраўдны «трэці сектар» узнікае толькі тады, калі першыя два (дзяржава і бізнес) не імкнуцца яго «падмяць».



# ТАЦЦЯНА РЭВЯКА

Падрыхтавана да друку 26.08.11

*Хаця абставіны нашай сустрэчы былі вельмі сумнымі, пачалася яна са смеху. Аказалася, Вікіпедыя напісала, што Таццяна Рэвяка з'яўляецца жонкай Алеся Бяляцкага. Давялося выпраўляць памылку, а то б магла пакрыўдзіцца сапраўдная жонка Алеся — Наталля Пінчук.*

## Пачатак жыцця

Таццяна Рэвяка на самой справе прыгожая жанчына. Гэта не кампліментак. Гэта канстатацыя факту. І ён далёка не адзінкавы.

Не так даўно знаёмы Таццяны паскардзіўся на ноч без сну, таму што ў яго дачкі рэзаліся зубкі, і пачуў: «Калі вашай дачцэ будзе столькі ж, колькі маёй, будзеце спаць яшчэ меней». Зразумела, ён пацікавіўся ўзростам Рэвяка-малодшай і быў уражаны — 21 год.

Таццяна Рэвяка (дзявочае прозвішча Ліннік) нарадзілася 17 студзеня 1968 года ў Салігорску. Напісаў і пачырванеў: работа проста прымушае пытацца ў жанчын пра ўзрост. Таму, выкарыстоўваючы гэтую нагоду, я прашу ў іх усіх прабачэння.

Калі за плячамі Таццяны засталася дзявятая агульнаадукацыйная школа, далейшым арыенцірам быў абраны філалагічны факультэт БДУ. Напэўна, на гэтым не варта было б спыняць увагу, каб не абставіны, у якіх быў зроблены выбар.

Справа ў тым, што Таццяна займалася спортам. Дакладней, спартыўным арыентаваннем, «паляваннем на ліс». Калі ўсе здавалі іспыты, каб атрымаць школьны атэстат, яна абараняла гонар БССР на чарговых усесаюзных спаборніцтвах. Па іх завяршэнні ў дзяўчыны засталося ўсяго толькі два тыдні для падрыхтоўкі. Часу вагацца

не было, таму абрала яна тое, што было бліжэй да сэрца, — філалогію. Пагадзіцеся, рызыка вельмі вялікая, бо пісьмовыя памылкі — менавіта тое, чаго патэнцыйныя студэнты баяцца больш за ўсё. Школьныя адзнакі (усе «выдатна», акрамя «чацвёркі» па хіміі) далі шанец. І Таццяна яго не ўпусціла.

### Метамарфозы жыцця

Спецыялізацыяй была беларуская і руская філалогія, першым заняткам (1 верасня 1985 года) стала лекцыя па этнаграфіі, якую прачытаў Ніл Сымонавіч Гілевіч. А калі сакурснік Сева Рагойша звярнуўся да Таццяны па-беларуску, гэта яшчэ раз пераканала: выбар зроблены правільны. Асабліва з улікам новага палітычнага фону — абвешчанага Міхаілам Гарбачовым курсу на знакамітую перабудову.

У адной групе з Таццянай вучылася вядомая зараз Паліна Сцепаненка (тады Качаткова), маці якой выкладала ў Алеся Бяляцкага. Прозвішча гэта вельмі часта гучала ў студэнцкім асяроддзі, таму што Бяляцкі быў адным з двух заяўнікаў знакамітых «Дзядоў—88».

Таццяна Рэвяка сябравала з Палінай яшчэ з часоў «абітуры», калі дзяўчаты жылі ў адным пакоі і абмяркоўвалі тры падзелы Рэчы Паспалітай. І хаця Таццяна актыўна цікавілася тэмай іншадумства, нават дапусціць не магла, што некалі лёс на дзесяцігоддзі звядзе яе менавіта з Алесем Бяляцкім.

Падзеі апошніх гадоў існавання СССР вельмі хутка змянялі свядомасць людзей, выводзілі найперш моладзь за межы закаснелых партыйна-камсамольскіх догмаў. У нейкім сэнсе студэнцкі перыяд жыцця кожнага чалавека закладае падмурак яго светапогляду. У той час для Таццяны адкрываліся вочы на велізарныя пласты, звязаныя з развіццём культуры, літаратуры, філасофіі.

Размеркавалі дзяўчыну ў адну з мінскіх школаў, але ніводнага дня Таццяна там не працавала, бо пасля дэкрэтнага водпуску (на пятым курсе нарадзіла дачку Насту) пераводам адразу пайшла працаваць у літаратурны музей імя Максіма Багдановіча, дзе дырэктарстваваў Алесь Бяляцкі. Было гэта 20 гадоў таму.

### Самае цяжкае выпрабаванне

У жніўні 1998 года Алесь Бяляцкі добраахвотна сышоў з пасады дырэктара музея, а ў кастрычніку ўслед за ім сышла Таццяна Рэвяка. Праваабарончы цэнтр «Вясна—96» стане іх новым прызваннем і грамадзянскім абавязкам.



Нагадаю, арганізацыя, заснаваная ў 1996 годзе, была афіцыйна зарэгістравана ў 1998-м.

У наступным годзе адбылося тое, што стане самым цяжкім за ўсе 13 гадоў працы на новым месцы, — трагедыя на Нямізе. Калі зараз даводзіцца кантактаваць з роднымі і блізкімі тых, хто апынуўся за кратамі пасля падзей 19 снежня 2010 года, адчуваеш, што ў гэтых людзей ёсць надзея на будучыню. У 1999-м яе не было. У тых, хто страціў сваіх дзяцей, родных і блізкіх, засталася толькі памяць пра іх.

Умоўна супрацоўнікі праваабарончага цэнтру «Вясна» падзяліліся на дзве катэгорыі — юрысты і «філолагі». Першыя дапамагалі пацярпелым на Нямізе пісаць грамадзянскія іскі, другія, каб захаваць памяць пра загінуўшых, узяліся за складанне адпаведнай кнігі.

Менавіта гэтай работай і заняліся Таццяна Рэвяка і Паліна Сцепаненка. Можна толькі ўявіць, колькі Таццяна тады ўбачыла чалавечых слёз і перажыла людскіх эмоцый, але ўрэшце кніга ўспамінаў сваякоў загінулых роўна праз год была надрукаваная.

### Лад жыцця

Не хачу нікога пакрыўдзіць з апазіцыйных структур, але многія з іх альбо перасталі існаваць, альбо сталі маргіналамі нават ад паловы тых выпрабаванняў, што выпалі на долю «Вясны». Па сутнасці сёння гэта адна з нешматлікіх структур, якая не толькі здолела захавацца на апазіцыйным полі, але і падняць у вачах людзей свой рэйтынг. Упэўнены, менавіта па гэтай прычыне іх і «прэсуюць».

Праваабарончы цэнтр «Вясна» — не проста места працы пэўных людзей. Гэта, як адзначыла сама Таццяна Рэвяка, лад жыцця. Вялікая ступень даверу, павагі і ўзаемаразумення. Знаёмыя ўсім з ранняга дзяцінства іерархічныя прынцыпы дэмакратычнага цэнтралізму дзейнічаюць там даволі ўмоўна. Калі не сказаць — адсутнічаюць увогуле. Як і прынцып: я — начальнік, ты — ... усё астатняе.

Для дзяржавы, дзе пануе «вертыкаль», падобны падыход з'яўляецца, мякка кажучы, нетыповым.

Не буду ўзгадваць усе перыпетыі падзей, што наўпрост або ўскосна звязаныя з 19 снежня 2010 года, бо яны і так добра вядомыя.

Адных толькі вобыскаў у «Вясне» было аж пяць. Адзін з іх варты таго, каб пра яго расказаць асобна, хаця б па той прычыне, што ён нагадвае нейкі трагікамічны дэтэктыў і здарыўся менавіта ў дзень народзінаў Таццяны Рэвяка.

17 студзеня 2011 года Таццяна, як і мае быць, прыйшла ў офіс «на абцасах» і ўся па-святочнаму «такая прыгожая». Менавіта ў гэты момант да іх таксама «прыйшлі». Мабыць, для таго, каб «даканфіскаваць» тое, што не забралі ў паслявыбарную ноч.

Нагадаю, што офіс «Вясны» месціцца на першым паверсе, і, як звычайна, у мэтах бяспекі вокны там цалкам закратаваныя. І толькі на адным (кухонным) ёсць адпаведны замочак. Яно і не папала пад нагляд спецыяльных службаў. Менавіта праз яго Алесь Бяляцкі і загадаў ратавацца сваім паплечнікам. А сам у гэты момант разам з Валянцінам Стэфановічам праз дзверы «вёў перамовы» з нечаканымі «гасцямі».

Так і зрабілі. Мабыць, калі б нехта «выклаў» на YouTube адпаведны відэаролік, той мог бы стаць сапраўдным хітом, бо ўбачыць, як праз акно лезе на абцасах, з камп'ютарам у руках вельмі інтэлігентная імянінніца — яшчэ тое відовішча.

Можна толькі здагадвацца, што адчувалі «людзі ў цывільным», калі замест дзесяці супрацоўнікаў «Вясны», якія пад іх пільным назіраннем увайшлі ў памяшканне, знайшлі там толькі двух...

### Самае нечаканае выпрабаванне

Зразумела, пазбавіцца «бяльма на вачах» было для ўлады нейкай «ідэяй фікс». Праваабарончы цэнтр «Вясна» пад ударамі рэпрэсій увесь час нечым нагадваў ляльку-неваляшку. Улады неаднаразова прыціскалі яго да зямлі, а ён упарта паўставаў ізноў.

Не здзіўлюся, калі некалі высветліцца, што менавіта гэта і сталася прыхаванай асновай абвінавачвання аб «утойванні даходаў у асабліва буйных памерах», бо ўсім зразумела, што арышт 4 жніўня 2011 года Алеся Бяляцкага толькі вяршыня айсберга. Пад вадой хаваюцца сапраўдныя прычыны...

На карысць гэтага вельмі красамоўна сведчыць тое, што многіх арыштаваных пасля апошніх прэзідэнцкіх выбараў дапытвалі па «справе «Вясны» і вельмі моцна цікавіліся фінансамі. Мабыць, хацелі знайсці тут матэрыяльную глебу для якіх-небудзь новых «тэлешэдэўраў» накшталт «Жалезам па шклу». Не атрымалася, і яны пачалі «шыць» нейкія падатковыя прэтэнзіі. Як вядома, калі праблемы няма, яе неабходна стварыць.



Трэба аддаць належнае тым, хто распрацаваў пастку для сваіх літоўскіх альбо польскіх візаві. Не буду гадаць, былі ці не там нейкія грашовыя складнікі. Хай гэта высвятляюць тыя, хто будзе даследаваць усе абставіны агідных казусаў. Пакуль бясспрэчна толькі тое, што «сыр» для сваёй пасткі яны абралі самы знаёмы ў свеце — падаткі. У Ізраілі, напрыклад, будынак падатковай інспекцыі называюць «сцяной плача» нумар два.

Дзеянні літоўска-польскіх чыноўнікаў ад юрыспрудэнцыі пакінем за дужкамі, бо наконт іх матывацыі можа быць шмат версій. Адназначна толькі тое, што, на мой погляд, тыя, хто стварыў «складанасці», павінен ад іх і пазбавіць, а не абмяжоўвацца толькі публічнымі прабачэннямі. Тут я цалкам згодны з Таццянай Рэвяка: карысці ад іх нямнога.

А напісаць гэты нарыс менавіта пра Таццяну Рэвяка я вырашыў не толькі таму, што яна ўзначальвае Беларускі Дом правоў чалавека ў Вільні, а ў 2006 годзе атрымала прэстыжную міжнародную праваабарончую прэмію імя Анны Лінд, а найперш таму, што яе пазіцыя і ўчынкі, як і ўсіх яе калег па «Вясне», сведчаць аб непазбежным: узгаданая «неваляшка» — праваабарончы цэнтр «Вясна» — падымецца зноў. І брутальныя арышты гэтаму не перашкодзяць.

# ВІТАЛЬ СІЛІЦКІ



**Падрыхтавана да друку 17.06.11**

*Першыя дзве спробы напісаць гэты нарыс былі зроблены яшчэ паўгады таму. Па тэлефоне мы нават дамаўляліся з Віталем пра сустрэчы, але па зразумелых прычынах яны не адбыліся. На жаль, і не адбудуцца. Застаецца толькі прачытаць у фэйсбуку, што напісаў пра сябе сам Віталь Сіліцкі — «звычайная біяграфія ў незвычайны час».*

## Пачатак асобы

Віталь Сіліцкі нарадзіўся 25 снежня 1972 года ад Нараджэння Хрыстова. А пайшоў з жыцця 11 чэрвеня 2011 года — напярэдадні свята Святой Тройцы. Пагадзіцеся, не заўважыць гэтага супадзення немагчыма.

Раней Віталь Сіліцкі лічыў сябе агностыкам. Нагадаем, у адрозненне ад атэістаў, яны цалкам не адмаўляюць Боскае паходжанне свету, а проста лічаць, што мы гэтага дакладна ведаць не можам. Але за некалькі тыдняў да смерці ён запрасіў да сябе беларускамоўнага праваслаўнага святара. Іх размова сам-насам не была кароткай. Яшчэ раз ён паклікаў святара літаральна за некалькі гадзін да адыходу ў іншы свет.

Шлях у актыўнае жыццё для кожнага пачынаецца з пытання выбару прафесіі. Віталь адказаў на яго, наколькі ведаю, без ваганняў — сацыялогія. Не буду лішні раз узгадваць адмоўныя «крылатыя фразы» пра сацыялогію, адзначу толькі, што даволі часта людзі на патрэбу пэўнай ідэалогіі трактуюць яе «як трэба», у чым самі лічбы абсалютна невінаватыя. Магчыма, Віталь Сіліцкі і вырашыў стаць сацыёлагам, каб супрацьстаяць гэтай тэндэнцыі.



На аддзяленне сацыялогіі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Віталь Сіліцкі паступіў у 1989 годзе, а паспяхова скончыў у 1994-м. Гэты быў час, калі адбыліся падзеі, што і абумовілі потым «перагварэнне» сацыёлага ў палітолага.

## Пачатак паліталогіі

Па вялікім жа рахунку, сам працэс «пераўтварэння» быў даволі ўмоўным, бо менавіта сацыялогію можна назваць «інструментам» паліталогіі.

Пасля атрымання дыплома БДУ Віталь Сіліцкі вырашыў не спыняцца і працягваць вучобу. Спачатку быў Цэнтральна-Еўрапейскі ўніверсітэт (Будапешт, Вугоршчына), потым Ратгерскі Універсітэт (Нью-Джэрсі, ЗША), у якім ён і атрымаў ступень доктара паліталогіі. Было гэта ў 1999 годзе.

Амаль адразу Сіліцкага прызначылі дацэнтам Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта, які на той час яшчэ месціўся ў Мінску, а ўжо ў 2003 годзе яго звольнілі. Як кажуць у такіх выпадках, «па палітычных прычынах». Дакладней, быў адпаведны ціск на кіраўніцтва ўніверсітэта з боку ўладаў. Прычына — публічная крытыка Сіліцкім палітыкі прэзідэнта краіны.

Тры гады Віталь Сіліцкі працаваў як незалежны эксперт. У 2006 годзе яго запрасілі на стажыроўку ў Міжнародны форум даследаванняў дэмакратыі (Нацыянальны фонд у падтрымку дэмакратыі, ЗША) і Стэнфардскі ўніверсітэт. Праз год стажыроўка скончылася і ён вярнуўся на радзіму, каб прыняць удзел у стварэнні Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў (BISS).

## Пачатак платформы

Каб было зразумела, пра якую платформу ідзе гаворка, працытую іх інтэрнэтаўскую старонку: «Беларускі інстытут стратэгічных даследаванняў (BISS) — гэта платформа для дыялогу ўнутры беларускай аналітычнай супольнасці і мост паміж экспертамі, беларускім грамадствам і міжнароднай супольнасцю. Шляхам даследаванняў, публікацыяў і развіцця беларускай экспертнай супольнасці BISS ставіць на мэце сфармаваць новае бачанне Беларусі. Інстытут распрацоўвае і прапануе пазітыўныя альтэрнатыўныя сцэнары палітычнай, эканамічнай і сацыяльнай трансфармацыі краіны, а таксама шукае шляхі падвышэння канкурэнтаздольнасці Беларусі і дабрабыту яе грамадзян».

Хаця і стварылі яго ў 2007 годзе ў Мінску, зарэгістравалі ў Вільнюсе. Чаму? Апошнія гады ў Беларусі атрымліваюць афіцыйнае «дабро» ў пераважнай большасці толькі «чэсныя» структуры; у разуменні ўладаў, гэта арганізацыі, якія адстойваць менавіта іх пазіцыю, нават калі яна відавочна нелагічная.

Сярод заснавальнікаў інстытута — сем выдатных прадстаўнікоў розных галінаў нашай жыццёвай дзейнасці. Пералічваць іх не буду. Скажу толькі, што кожны — Асоба.

Адзін з сяброў напісаў мне, што абрэвіятура BISS супадае з назвай галоўнай чэшскай спецслужбы. Жарт, канешне, але, калі задумацца, то ёсць тут і нешта агульнае — глыбока капаюць.

Не буду пералічваць усе паліталагічныя артыкулы або выступы Віталя Сіліцкага, бо гэта з-за вельмі вялікай колькасці немагчыма фізічна. Адзначу толькі, што гэта быў Палітолаг з вялікай літары, слову якога давяралі, высновам якога — верылі.

Сярод галоўных напрамкаў дзейнасці BISS можна выдзеліць правядзенне эканамічных, палітычных і сацыялагічных даследаванняў; публікацыю перыядычных маніторынгаў эканамічнай лібералізацыі, прыватызацыі і інвестыцый, дыялогу Беларусі і ЕС; правядзенне экспертных круглых сталоў і канферэнцыяў; адміністраванне Беларускага фонду публічнай палітыкі (БФПП); публікацыя Беларускага Штогадовіка; публікацыя «BISS Trends»; адміністраванне стыпендый BISS.

Як вы разумееце, гэты пералік я ўзяў з сайта Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў. Да мінулага года яго ўзначальваў Віталь Сіліцкі, а потым саступіў пасаду выканаўчага дырэктара Таццяне Кузінай, пакінуўшы за сабой навуковае кіраўніцтва.

### Пачатак выпрабаванняў

У ліпені 2010 года для Віталя Сіліцкага ўпершыню прагучаў страшны дыягназ — рак правай ныркі. Дактары паспяхова яе выдалілі, што пацвердзілі ўсе аналізы, якія былі зроблены праз тры месяца. Але...

У студзені хвароба вярнулася метастазамі. Шмат людзей шчыра імкнуліся дапамагчы Віталю Сіліцкаму. Найперш паплечнікі па рабоце і шматлікія сябры самых розных асяродкаў дэмакратычнай беларускай супольнасці. Гэтак арганізацыя «Pact» і офіс «За дэмакратычную Беларусь», якія для яго лячэння адкрылі банкаўскія рахункі ў Бельгія і ў Украіне. Менавіта ахвяраванні ад шматлікіх сяброў і калег і сталіся фінансавым падмуркам для лячэння Віталя.



Пра офіс «За дэмакратычную Беларусь» хачу сказаць асобна. Час ад часу даводзілася чуць, як некаторыя «тытульныя» палітыкі даволі настойліва крытыкуюць яго за адыход ад дэмакратычных каштоўнасцяў. Маўляў, у сваёй дзейнасці замежны офіс робіць акцэнт не на тое, што сёння перш за ўсё хвалюе Беларусь. Асабіста мне такая пазіцыя абсалютна не зразумелая. Перакананы, ад канкрэтнай дапамогі плёну больш, чым ад некаторых пікетаў і семінараў.

Выпадак з Віталем Сіліцкім — красамоўнае таму пацверджанне. Гэта была канкрэтная дапамога, што запамінаецца лепш, чым бясконцыя абстрактныя размовы пра нейкія каштоўнасці. Знакавае супадзенне па часе і форме праяўлення салідарнасці (праз збор сродкаў): канкрэтная дапамога аднаму з лідараў дэмакратычнай супольнасці — ахвяры смяротнай хваробы і такая ж дапамога — арыштаваным і асуджаным удзельнікам падзей 19 снежня, ахвярам рэжыму.

Сабраныя сродкі дазволілі Віталю Сіліцкаму правесці ў Брусэлі, у адной з найлепшых клінік па анкалогіі ў Еўропе, неабходную дыягностыку, зрабіць там аналізы, якіх няма ў арсенале беларускіх медыкаў.

На жаль, не дапамагло...

### Пачатак пачатку

Разам з Віталем Сіліцкім у замежнай паездцы мы былі толькі адзін раз, калі ў славацкай амбасадзе ў Брусэлі сярод іншага прэзентавалі мае кнігі. Уразіла, што падчас чакання самалёту (у Варшаве была перасадка) ён адразу ж шукаў не «Дзьюці фры», а разетку, каб падключыць свой ноўтбук. І над чымсьці з захапленнем працаваў. Мабыць, пачынаў пісаць новы артыкул, бо Віталь Сіліцкі быў чалавек, які заўсёды нешта пачынаў.

Некаторы час таму праект TUT.BY/ Budzma.org у цыкле «Быць беларусам: што гэта значыць?» праводзіў масавае анкетаванне. Была сярод іх і анкета палітолага Віталя Сіліцкага, які на гэта пытанне адказаў так: жыць у Беларусі, размаўляць па-беларуску, дбаць пра Беларусь, любіць Беларусь.

Завяршыць жа нарыс хацелася б словамі, якія былі сказаны Віталем тры з паловай гады таму. Гэта з тых выпадкаў, калі кажуць, як у ваду глядзеў:

«Дэмакратычная апазіцыя і незалежнае грамадства пакуль застаюцца закладнікамі руцінізаванай безнадзейнасці. Варыянту таго, што дэмакратычны супраціў у бліжэйшы час будзе магчымы выключна ў дысідэнцкіх формах, узнікнуць нельга. Фактарам падтрымання надзеі ў такіх варунках можа стаць толькі нашая перакананасць у тым, што індывідуальны супраціў — гэта самае галоўнае ў такіх абставінах, што ён непазбежна прынясе плён, што канструкцыя карпаратыўнай дзяржавы нявечная. Дысідэнт усё ж такі мае адну перавагу, якую не здольныя адняць ніякія рэпрэсіі, — ён бачыў і ведае, як руйнуюцца дыктатуры».

Упэўнены, Віталь Сіліцкі гэта таксама абавязкова ўбачыць, бо я перакананы, што чалавечае жыццё не заканчваецца на гэтым свеце...

# ІРЫНА СУХІЙ



**Падрыхтавана да друку 05.07.12**

*Некалі адзін са стваральнікаў бессмяротных «Дванаццаці крэслаў» вельмі слушна заўважыў: не трэба змагацца за чысціню, трэба падмятаць. Гераіню чарговага нарыса можна аднесці менавіта да катэгорыі тых, хто «падмятае», бо старшыня грамадскага аб'яднання «Экадом» Ірына Сухій займаецца сваёй справай не толькі тэарэтычна, але і практычна.*

## Нетыповы пачатак

Сапраўды, зразумець, чаму чалавек пасля двух гадоў вучобы на архітэктурным факультэце сталічнага «палітэха» кідае ўсё і едзе ў Піцер, каб уладкавацца там звычайным дворнікам, ВЕЛЬМІ-ВЕЛЬМІ цяжка. Ты не менш шлях Ірыны Сухій у «самастойнае жыццё» пачаўся менавіта так.

Дакладней, ён пачаўся ў звычайным сталічным раддоме 16 ліпеня 1963 года. Нарадзілася Ірына ў «намеклатурнай» (яе слова — заўвага аўтара) сям'і. Бацька Георгій Андрэевіч быў дырэктарам ЦУМА, а маці Маргарыта Філіпаўна — загадчыцай кафедры эканомікі гандлю «наргасу». Бацька (на жаль, з 1991 года яго з намі больш няма) нарадзіўся ў Княгініне Мядзельскага раёна Мінскай вобласці, а маці родам з Масквы.

Пазнаёміліся яны ў «плеханаўцы», то бок ў знакамітым маскоўскім «наргазе» (які носіць імя вядомага марксіста Георгія Валянцінавіча Пляханава). Ён вучыўся, Яна (нягледзячы на тое, што на 7 гадоў маладзей) выкладала.

Старэйшы брат Ірына Іван скончыў прэстыжны Маскоўскі Дзяржаўны інстытут міжнародных адносінаў (МДМА). І справа не толькі

ў «валасатай лапе». Хутчэй за ўсё яна адыграла тут не самую галоўную ролю. На мой погляд, паспяховаму паступленню паспрыялі яшчэ добрыя веды і школьны залаты медаль.

Атрымала яго і Ірына. Спачатку яна вучылася ў 103-й школе «з англійскім ухілам», а потым аддала перавагу 19-й школе і матэматычнаму накірунку. Матывацыя жыццёвых пераменаў простая — схільнасць да матэматыкі. Яна і дазваляла Ірыне Сухій займаць на матэматычных алімпіядах даволі высокія месцы.

Пасля заканчэння менавіта гэтай школы Ірына Сухій і паступіла на архітэктурны факультэт Політэхнічнага інстытута. Для «матэматычнага складу розуму» — цалкам лагічна. Цяжка логікай успрымаецца тое, што адбылося далей.

Можна толькі спачуваць бацькам Ірыны, калі яны даведаліся пра «ўцёкі ў Піцер»: нармальнае разумнае дзіця ўсё кідае і едзе ў далёкі горад, за 800 км ад роднага дома. І гэта ўсё дзеля далёка не самага прэстыжнага выбару.

Уладкавацца дворнікам не атрымалася па той прычыне, што ў яе яшчэ не было «працоўнай кніжкі». Пратусаваўшыўся (слова самой гераіні —заўвага аўтара) там некалькі месяцаў, Ірына Сухій вярнулася ў Мінск і стала працаваць памочнікам фатографа. То бок вучыцца абсалютна новай для сябе справе.

Пасля таго, як ёй прысвоілі адпаведны разрад, накіравалі працаваць у адно са сталічным фотаатэлье. Менавіта ў гэты момант на асабістым досведзе Ірына і зразумела сэнс фразы пра тое, што вучоба — святло, а яе адсутнасць — цемра. Прынамсі, зразумела літаральна, бо сутнасць работы Сухій заключалася ў вырабе (8 гадзін) фатаграфій з чужых плёнак. То бок восем гадзін «чырвонага святла»...

Гэта была, мабыць, галоўная прычына рашэння працягваць адукацыю. Ірына Сухій вырашыла не аднаўляцца на старым месцы, а абраць абсалютна новы «маяк». Ім стаў філалагічны факультэт БДУ. Дакладней, «руская мова і літаратура».

На «дзённым» дзяўчына правучылася толькі некалькі гадоў, а потым зноў усё пачала «кідаць». З нейкімі хіпі паехала «аўтастопам» у Рыгу. Потым у Маскву, дзе яе і знайшлі бацькі. Сказаць, што яны перажылі чарговы стрэс — нічога не сказаць. Адзінае, чаго дабіліся ад дачкі, — абяцанне на гэты раз не кідаць вучобу і перавесціся на «завочнае».



Што Ірына Сухій і зрабіла і пайшла працаваць лабарантам у фотаклуб «Мінск» (па гэты дзень месціцца побач з вядомым магазінам «Акіян»). Узначальваў яго, на жаль, ужо памерлы Уладзімір Лабко. Там была і студыя фатаграфіі, з якой выйшла шмат выдатных прадстаўнікоў сучаснага беларускага фота.

Уяўляю колькасць каментарыяў, якія суправаджаюць чытанне гэтага нарыса. Не буду ні з кім спрачацца. Адзначу толькі, што ў нашым жыцці часта агульна прымальныя каштоўнасці не з'яўляюцца самымі лепшымі... А для некаторых і галоўнымі...

І яшчэ адно назіранне. Звычайна нечага значнага ў жыцці дасягаюць тыя, хто аддае перавагу не ўтульнаму канфармізму, а крокам, якія многім падаюцца незразумелымі.

## Нетыповы працяг

Падвал, у якім месціцца фотаклуб «Мінск», добра вядомы не толькі прыхільнікам фота. У савецкія часы там збіраліся тыя, каго называлі «нефармаламі». Дарэчы, у суседнім падвале працаваў мастаком-афарміцелем будучы складальнік «Народнага альбома», вядомы аўтар песень Міхал Амнепадыстаў.

Што тычыцца самой Ірыны Сухій, то нельга сказаць пра выпадковасць новага захаплення, бо ў яе характары заўсёды матэматычная дакладнасць суседнічала з арыгінальным творчым падыходам. Пагадзіцеся, такі сімбіёз даволі часта дае цікавыя вынікі.

Вынікам жа існавання «нефармальнай тусоўкі» з назвай «Беларускі клімат» стала выстава ў Чырвоным касцёле, дзе тады месціўся Дом кіно. Яна складалася з фатаграфій, жывапісных работ і розных інсталяцый. Потым аналагічныя выставы адбыліся не толькі ў Мінску, але і за мяжой.

Брат Ірыны Іван скончыў у МДМА «дацкае аддзяленне» і першы раз у жыцці трапіў у гэтую краіну з нейкай «камсамольскай дэлегацыяй». Па тых часах — пашанавала. Яны сустракаліся з дацкімі камуністамі і «левымі», якія задумалі акцыі «Next Stop — Soviet».

Для зашоранага светапогляду савецкіх людзей гэта было нечым суперрэвалюцыным. На што могуць адважыцца толькі замежнікі. У тыя часы нават існаваў адпаведны тэрмін — еўракамунізм.

Перад гэтым дацкія «левыя» змагаліся з ядзернай зброяй, ужо зрабілі акцыю «Next Stop — Nevada» і вельмі спадзяваліся разбурыць «жалезную заслону». Нават хацелі зрабіць рок-канцэрт на Чыр-

вонай плошчы Масквы. Сёння ўжо ёсць шмат падобных прыкладаў, а тады намер датчан быў успрыняты, як нешта ірацыянальнае, залюстэркавае — 1988 год.

Самае цікавае, што аднымі размовамі ўсё тады не абмежавалася. Праз некалькі тыдняў датчане купілі тур у Маскву і па прыездзе сапатэлефанавалі Івану, за што ў тыя часы (нягледзячы на перабудову) можна было нават страціць работу. Сярод іншага яны выказалі жаданне сустрэцца з маскоўскім «нефармальным бамондам».

Зразумела, што ў Івана такіх кантактаў не было і ён звярнуўся за дапамогай да сястры. Так Ірына зноў завітала ў Маскву.

У наступным годзе акцыя адбылася. У Савецкі Саюз прыехала каля пяці тысяч замежнікаў, якія раз'ехаліся па ўсяму СССР. У адрозненне ад афіцыйных «фестываляў моладзі і студэнтаў», якія гасцілі толькі ў сталіцах.

Арганізатары дайшлі нават да Гарбачова, і рок-канцэрт адбыўсятакі. Праўда, не на Чырвонай плошчы, а на Ленінскіх гарах. Аднак і гэта было сапраўдным прарывам. Без двукосся.

Напэўна, пакаленню next аўтарскі піетэт будзе незразумелым, бо сёння адносіны паміж людзьмі (у тым ліку і замежнікамі) — звычайная справа, аднак раней усё гэта было нечым экстраардынарным. Усё роўна, што з цемры падвала вывесці чалавека на яркі сонечны свет: спачатку ён будзе жмурыцца, а потым аглядацца і здзіўляцца асяроддзю.

Перабудова зрабіла з савецкімі людзьмі нешта падобнае. Да гэтага рок-музыка ўспрымалася афіцыйнай прапагандай «ідэалагічна чужой».

### Нетыповы шлях

Лагічна было б дапусціць, што Ірына Сухій абярэ далейшую фатаграфічную кар'еру, што ў матэрыяльным плане было б больш прыцягальным, але яна ў чарговы раз паламала агульнапрынятыя стэрэатыпы. Замест прывабнай у матэрыяльным сэнсе фотасправы абрала абсалютна «няхлебны» (асабліва па тых часах) «трэці сектар».

Новае захапленне прынесла шмат новых кантактаў, паездак. Падчас адной з іх Ірына Сухій і сустрэла на вакзале Святлану Каралёву, якая хутка стала каардынатарам акцыі «Next Stop — Soviet», што ў савецкіх умовах ператварылася ў своеасаблівы тэатральны карнавал.



Яна і стала падмуркам стварэння першай незалежнай беларускай арганізацыі «трэцяга сектара» — «Next Stop — New Live». Рэспубліканскае моладзевае грамадскае аб'яднанне з такой назвай было зарэгістравана беларускім Мінюстам 25 студзеня 1991 года.

Для ўважлівых чытачоў адзначу, што «Next Stop — New Live» сапраўды пачало дзейнічаць яшчэ ў 1989 годзе як бы «пры камсамоле» (хаця і была для яго альтэрнатывай) і афіцыйнай рэгістрацыі было непатрэбна. Праз два гады ўсё кардынальна змянілася.

Ачоліла «Next Stop — New Live» энергічная Святлана Каралёва, бо Ірына Сухій была тады ў дэкрэтным адпачынку. Калі яна зноў актыўна пачала працаваць, то спачатку курыравала «чарнобыльскія праекты», а потым і чыста экалагічныя.

Калі пералічваць усе мерапрыемствы, якія праходзілі пад эгідай «Next Stop — New Live», спатрэбіцца вельмі шмат часу. Адзначым толькі адзін вельмі цікавы момант.

Арганізацыя ладзіла свае мерапрыемствы так гучна, што гэта было заўважана нават на самым «версе». І новы прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка быў вымушаны праслаць ліст з падзякай «за фестываль «Новыя твары» і актыўную грамадскую дзейнасць».

### Нетыповы выбар

З часам у рамках «Next Stop — New Live» стала крыху «цесна», у тым сэнсе, што «немагчыма аб'яць неаб'ятнае». У 1996 годзе паявіўся «Экадом». У дакументах аб рэгістрацыі асобнай структуры стаяла вельмі знакавая для эколагаў (і самой прыроды) дата — 21 чэрвеня. Дзень летняга сонцастаяння.

Шчыра кажучы, шмат хто ў нашым грамадстве ставіцца да беларускіх эколагаў даволі скептычна. Маўляў, да рэйкаў перад цягнікамі сябе не прыкоўваюць і паляванню на кітоў не перашкаджаюць. З аднаго боку не пагадзіцца з гэтым цяжка. З другога — мэтазгодна такое ў нашых умовах ці не? На мой погляд, пакуль не. На жаль...

Калі я толькі пачынаў свой журналісцкі шлях, адзін з мэтраў спытаў: «Юнак, ведаеш, ад чаго гінуць дрэвы?» І сам адказаў: «Ад таго, што некаторыя называюць іх «зелеными насаждениями».

Сёння ў беларускай сталіцы яны гінуць і па прычыне таго, што тыя, хто называе іх «зелеными насаждениями», яшчэ і загадваюць гэтыя дрэвы рубіць. Прыкладаў такога кшталту можна прывесці даволі многа. Дастаткова ўзгадаць толькі парк імя 40-годдзя

Кастрычніка і сталічны мікрараён «Уручча». Каб не юрыдычная дапамога (у тым ліку і «Экадома»), бензапілы там працавалі б значна больш.

Перафразіруем словы знакамітага кітайскага філосафа і адзначым, што цяжка шукаць логіку там, дзе яе няма. Ніколі не думаў, што ў краіне, якая пацярпела ад Чарнобыля, пачнуць будаваць сваю атамную станцыю. Як і не думаў, што бараніцца ад гэтага пачнуць толькі лічаныя адзінкі... Цалкам нетыповы і нелагічны выбар...

Ірына Сухій — сярод змагароў. Штраф за ліст да расейскага прэм'ера наконт будаўніцтва Астравецкай АЭС — красамоўнае таму пацверджанне. Але сумна не толькі ад гэтага. Сумна ад таго, што адным трэба супрацьстаяць уладзе, а другім не... Падобна на тое, што сёння праблемы ў людзей не толькі з экалогіяй, але і з асабістым светапоглядам....

Палітычная арытмія...



# ВЯЧАСЛАЎ СІЎЧЫК

**Падрыхтавана да друку 24.09.10**

*Першая палітычная галадоўка ў найноўшай гісторыі Беларусі звязана з імёнамі Вячаслава Сіўчыка і Юрыя Хадыкі. Яны трымалі яе вясной 1996 года ў знак пратэсту супраць свайго незаконнага арышту. Увогуле ж, па падліках маці Вячаслава Галіны Васільеўны, затрымліваўся ён больш за 20 разоў і правёў за кратамі на Акрэсціна, калі скласці ўсе яго «суткі», больш за год свайго жыцця.*

## Шлях на «фронт»

Вячаслаў Сіўчык нарадзіўся 18 снежня 1962 года ў Мінску, аднак першыя дзіцячыя гады пражыў у Абхазіі, у Піцундзе, у дзеда з бабуляй, куды тыя завербаваліся на будаўніцтва курорта «сусветнага ўзроўню». Там і ў школу пайшоў. Але ўжо праз год вярнуўся да маці ў Мінск, дзе скончыў 50-ю матэматычную школу і атрымаў атэстат аб сярэдняй адукацыі. У класе быў адным з лепшых вучняў, але гуманітарныя навукі даваліся лягчэй за дакладныя, таму і выбар у 1979 годзе быў адназначны — геафак БДУ.

Пасля сканчэння БДУ Сіўчык зноў трапіў у Абхазію, дзе чатыры гады працаваў малодшым навуковым супрацоўнікам, але потым вярнуўся ў Беларусь канчаткова. Замучыла настальгія.

## «Франтаўскі» дэбют

Сваю групу падтрымкі Беларускага народнага фронту Вячаслаў Сіўчык стварыў у Савецкім раёне ў 1988 годзе. На другім з'ездзе БНФ быў першы раз абраны сябрам Сойму.

У пачатку 1996 года многія паспяшаліся пахаваць БНФ. Адзін з публіцыстаў нават напісаў, што «наступае новы час і бел-чыр-

вона-белых сцягоў на вуліцах мы больш не ўбачым». Рэальнасць аказалася зусім іншай. Святкаванне Дня Волі ў сакавіку 1996 года стала поўнай нечаканасцю і для ўлад, і для некаторых апазіцыянераў. Перш за ўсё таму, што тысячы людзей адважыліся выйсці на вуліцы.

Далей усё пайшло па знаёмаму зараз сцэнару. Была распачата крымінальная справа, якую следчыя дапоўнілі падзеямі чарговага «Чарнобыльскага шляху». Кіраўніцтва фронту трапіла пад рэпрэсіі. Пазьняк з Навумчыкам эміґравалі, Сіўчык з Хадыкам аказаліся за кратамі. Выпусцілі іх толькі пасля асабістай тэлефоннай просьбы тагачаснага расійскага прэзідэнта Барыса Ельцына.

Потым будзе шмат розных акцый супраціву, у тым ліку і неаднаразовае «перакрыццё» цэнтральнага сталічнага праспекта. Вячаслаў Сіўчык стане «хросным бацькам» стварэння «Маладога фронту», але яго імідж як аднаго з самых радыкальных і апантаных змагароў з існуючай уладай, на мой погляд, нарадзіўся менавіта ў 1996 годзе.

## Пачатак «другога фронту»

Акрамя «чыстай палітыкі», Вячаслаў Сіўчык займаўся і экалагічнымі праблемамі. Тым, што зараз адносяць да дзейнасці «трэцяга сектара». Адбывалася гэта па лініі фонду «Дзецям Чарнобыля».

У часы перабудовы ўсе структуры, якія мелі якое-небудзь дачыненне да гэтай сферы, вырашалі, чым яны будуць займацца. У тым ліку і Міністэрства геалогіі, дзе Вячаслаў Сіўчык тады працаваў у вытворчым аб'яднанні «Беларусгеалогія». З яго ўдзелам пачаўся праект «Эколага-геалагічнае картаграфаванне тэрыторыі БССР у маштабе 1:500 000».

Аналагаў падобных праектаў у былым Савецкім Саюзе не было, бо планавалася апісанне ўсіх вытворчасцяў і заводаў краіны. Кожнаму павінны былі даць свой экалагічны пашпарт, аднак СССР не стала, і праект «завіс».

Ёсць унёсак Вячаслава Сіўчыка і ў адкрыццё праўды пра чарнобыльскую трагедыю. Ён удзельнічаў у правядзенні маніторынгу па Чарнобылю. Шмат ездзіў па краіне і заўжды імкнуўся выкарыстоўваць атрыманую інфармацыю па прызначэнню.

У мінулым стагоддзі ўдалося дамагчыся прыняцця закону (аднаго з лепшых у СССР) аб мінімізацыі аварыі на ЧАЭС, у гэтым — на



ім паставілі крыж. Таму я лічу, што пісьменніца Святлана Алексіевіч мае рацыю: варта пісаць працяг «Чарнобыльскай малітвы». «Праваслаўныя атэісты» маліцца не ўмеюць.

## A la guerre comme a la guerre...

У гэтай знакамітай французскай фразе — на вайне як на вайне — магчыма, і ёсць пэўнае перабольшванне, але тое, як змагаліся з Вячаславам Сіўчыкам, сапраўды, даволі часта нагадвала баявыя дзеянні. Толькі «стралялі» не прадстаўнікі ўлады, а бліжэйшыя паплечнікі.

Як вядома, у 1999 годзе Віктар Ганчар, які быў на той момант намеснікам старшыні апальнага Вярхоўнага Савета 13 склікання, правадзіў так званыя альтэрнатыўныя прэзідэнцкія выбары. Калі з адносінамі да іх уладаў усё было зразумела, то ў апазіцыі на гэты конт не існуе адзінай думкі. Адны лічаць іх апраўданымі, другія — не.

Не буду займаць канкрэтны бок, а спыню вашу ўвагу толькі на відавочным. Менавіта тыя выбары і прывялі да расколу БНФ. «Каталізатарам» стала ў тым ліку і тое, што Зянон Пазьняк, які спачатку сам жа пераканаў актывістаў БНФ увайсці ў выбарчыя камісіі Ганчара, потым паставіў пытанне наконт іх сяброўства ў арганізацыі.

Вячаслаў Сіўчык (на той момант намеснік старшыні партыі БНФ) быў катэгарычна супраць стварэння дзвюх палітычных партый і імкнуўся знайсці нейкі кампрамісны варыянт. Прапаноўваў зрабіць так, каб у Пазьняка заставалася партыя, а ў яго апанентаў — рух. Не адбылося. Мінюст незвычайна хутка зарэгістраваў дзве палітычныя партыі з аднолькавай назвай. Нават спачатку пад адным нумарам.

Сам Сіўчык апынуўся сярод тых, хто падтрымаў Вінцука Вячорку, аднак потым прынцыпова разышоўся з ім у поглядах. А ў снежні 2001 года, калі праходзіў чарговы справаздачна-выбарчы з'езд, стаў канкурэнтам Вячоркі на пасаду старшыні партыі. Прайграў, але не стаў рабіць з гэтага трагедыю. Яе зрабілі іншыя, калі неўзабаве выключылі яго з партыі… «за раскол БНФ». Зноў-такі не хочацца агучваць нейкія высновы, але, на мой погляд, пастаянныя «выключэнні» іншадумцаў прыводзяць да таго, што адна з самых моцных калісьці апазіцыйных структур паступова ўсё больш маргіналізуецца. Такое ўражанне, што яны больш змагаюцца не з уладай, а паміж сабой…

### Жыццё пасля «фронту»

БНФ Вячаслаў Сіўчык аддаў 13 гадоў свайго жыцця, але яго грамадска-палітычная дзейнасць на гэтым не скончылася. Пасля выключэння Сіўчык прымаў актыўны ўдзел у палітычным жыцці не толькі роднай Беларусі, але і суседняй Украіны. Напрыклад, быў кардынатарам беларускай групы падчас Памаранчавай рэвалюцыі.

Пасля сумна вядомага разгрому намётавага гарадку на Кастрычніцкай плошчы пачаў сваю дзейнасць рух беларускай салідарнасці «Разам». Легалізаваць яго ўдалося толькі ў 2009 годзе. На ўстаноўчым сходзе Вячаслава Сіўчыка абралі старшынёй.

У 2007 годзе пачалася фактычная дзейнасць айчыннага «Мемарыяла». На 70-я ўгодкі трагічнай хвалі камуністычных рэпрэсій 1937-га быў створаны грамадскі аргкамітэт, які ўзначалілі акадэмік Р. Гарэцкі, пісьменнік В. Якавенка і гісторык І. Кузняцоў. У наступным жа годзе стварылі адпаведную секцыю. Натуральна, што «Разам» з самага пачатку апынулася ў эпіцэнтры гэтай дзейнасці, бо тая цалкам адпавядае і адной з галоўных мэт руху — барацьбе з этнацыдам беларускага народа.

Зробленае можна пералічваць даволі доўга. Звярну вашу ўвагу толькі на тое, што, на мой погляд, з'яўляецца найбольш значным у іх дзейнасці. Канешне, гэта знакамітыя паездкі ў Катынь, але не толькі яны. Пачынаючы са студзеня 2007 года (ужо чатыры гады запар) штомесяц 29 чысла ў Курапатах, а 29 кастрычніка па ўсёй краіне, адбываюцца акцыі ўшанавання памяці ахвяр камуністычных рэпрэсій. Чаму такая дата? Таму што ў ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года толькі ў Мінску было знішчана больш за сто прадстаўнікоў беларускай эліты.

Пра Курапаты ёсць сэнс сказаць асобна. Адзінае, што ажыццявіла тут дзяржава, — устанавіла шыльду з надпісам, які гаворыць пра тое, што «рашэннем Саўміну БССР» там будзе пабудаваны мемарыял.

Было гэта больш як 20 гадоў таму... Саму шыльду грамадскасць ужо неаднаразова аднаўляла, а ўлады любымі спосабамі імкнуліся перашкодзіць тым, хто звяртаў увагу на сумныя старонкі нашай гісторыі і разбураў савецкія міфы.

Адзін з іх датычыцца партызанаў. Па афіцыйнай версіі, усе яны былі «белымі і пухнатымі». На самой жа справе гэта далёка не так. Дастаткова нагадаць вёску Дражна, якая месціцца каля Старых Дарог. У 1943 годзе на Вялікдзень савецкія партызаны спалілі там 37 хат і забілі 25 яе жыхароў толькі за тое, што з-за асабістага глупства не змаглі нічога зрабіць з размешчаным у вёсцы паліцэйскім батальёнам.



19 красавіка 2008 года актывісты «Мемарыялу» ўсталявалі там крыж Ефрасінні Полацкай. Літаральна на наступны дзень мясцовыя ўлады яго дэмантавалі, а праз пэўны час беларуская Феміда даволі жорстка пакарала некаторых з тых, хто меў непасрэднае дачыненне да акцыі. Так у «актыве» Вячаслава Сіўчыка з'явіліся «15 сутак за крыж».

Пакаранне, дарэчы, даволі сімвалічнае, бо крыж, які ён нясе па жыцці, многія зразумець не могуць.

# АЛЕНА ТАНКАЧОВА



**Падрыхтавана да друку 05.02.11**

*Шчыра кажучы, назіраючы за актыўнасцю Алены Танкачовай пасля падзей 19 снежня 2010 года, я меркаваў, што яна адносіцца да якой-небудзь канкрэтнай палітычнай плыні. І ў гэтым яшчэ больш упэўніўся пасля праведзенага міліцыяй і КДБператрусу ў яе кватэры. Аказалася — памыліўся. Праваабаронцаў сёння «прэсуюць» для таго, каб было лягчэй «прэсаваць» іншых...*

## Новы колер

Пачаць хочацца менавіта з фарбаў нябёсаў, якія з самага нараджэння (10 лютага 1970 года) для Алены Танкачовай сталі чымсьці большым, чым «шосты акіян». Той акіян быў роднай стыхіяй яе бацькі, які служыў у марской авіяцыі.

Барыс Васільевіч Танкачоў калісьці лічыўся адным з лепшых экспертаў па вайскова-авіяцыйных катастрофах і выйшаў на пенсію з пасады галоўнага інжынера авіяцыі Балтыйскага флоту.

Зразумела, што хоць і нарадзілася Алена Танкачова ў Калузе, геаграфію былога Савецкага Саюза яна пачала вывучаць з дапамогай не падручнікаў, а звычайных для ваенных пераездаў. Напрыклад, за час руху да атэстата аб сярэдняй адукацыі ёй давялося змяніць ажно сем школ. Апошняй з іх стала сярэдняя школа №3 беларускага горада Быхава. Многія ведалі, што падчас Першай сусветнай вайны там была стаўка вярхоўнага галоўнакамандуючага, але далёка не ўсе ведалі, што менавіта там у савецкія часы месцілася дывізія марской авіяцыі Балтыйскага флоту. Праз паўгадзіны самалёты ўжо маглі выконваць «баявыя задачы» над морам. Іншая справа — наколькі ўсё гэта было мэтазгодна.



Можа, з тых крыніц і паходзяць спробы сучасных уладаў зрабіць нашу краіну «марской». Падставы ў іх, сапраўды, ёсць. Не хапае толькі здаровага сэнсу. Інакш бы «на версе» зразумелі, што нельга калькаваць усе хібы савецкіх часоў на нашу суверэнную рэчаіснасць. Вялікае Княства Літоўскае таксама некалі мела выхад да Чорнага мора, але ні ў каго сёння не ўзнікае нейкіх «чарнаморскіх» амбіцый.

Менавіта ў Быхаў і прыехаў пасля вучобы ў ад'юнктуры акадэміі імя Жукоўскага, якую скончыў з залатым медалём, бацька Алены Танкачовай. Яму прапаноўвалі застацца на кафедры і выкладаць, але Барыс Васільевіч заўсёды быў прыхільнікам не тэорыі, а практыкі. Пагадзіцеся, далёка не кожны чалавек, выбіраючы паміж сталіцай СССР і беларускай правінцыяй, можа аддаць перавагу апошняй.

Маці Алены Галіна Уладзіміраўна Танкачова была класічнай жонкай савецкага афіцэра, то бок «працавала» хатняй гаспадыняй. Дарэчы, у тыя часы яны яшчэ не глядзелі бясконцых тэлевізійных серыялаў. І зусім не таму, што тых яшчэ не існавала ўвогуле. Прычына іншая — не хапала вольнага часу.

## Новыя нечаканасці

У Быхаве прайшлі два апошнія школьныя гады Алены Танкачовай. Канешне, розніца паміж маскоўскім узроўнем і «быхаўскім» адчувалася, але ў яе сям'і на гэта ніколі не звярталі ўвагі, таму комплексу «столичной штучки» ў дзяўчынкі не было. Як вядома, адна справа, як да гэтага ставішся ты, і зусім другая — іншыя.

У 1985 годзе ў Беларусі яшчэ насілі традыцыйную карычневую школьную форму, а ў Маскве ўжо можна было апранацца на свой густ. У Алены быў прыгожы сіні касцюм, аднак ужо праз два тыдні ёй «падказалі», што трэба апранацца «як усе».

Вяртацца ў мінулае не хацелася, і тут на дапамогу прыйшла маці, якая сама з карычневай тканіны пашыла для дачкі прыгожую сукенку. З аднаго боку, яна адпавядала тагачаснаму дрэс-коду, з другога — была «не з крамы». Словам, выйсце знайшлі, што красамоўна тлумачыць, чаму жонак вайскоўцаў тады называлі надзейным «тылам».

У наступным годзе выбухнула Чарнобыльская атамная станцыя. Калі ўлічваць, што ў дывізіі было цэлае падраздзяленне «хімікаў», а

на самалётах стаялі ракеты з ядзернымі боегалоўкамі, то вайскоўцы добра разумелі, што адбылося, аднак... ніхто з іх не з'ехаў.

Больш за тое, у святочных майскіх мерапрыемствах тады прыняў удзел увесь гарнізон (з сем'ямі і дзецьмі). Чаму? Адказ на гэтае пытанне ад свайго бацькі Алена Танкачова пачула значна пазней. Не хаваючы горычы, ён патлумачыў — жорсткі загад. Начальства баялася, каб сярод мясцовых жыхароў не пачалася паніка.

Апошнім месцам службы Барыса Васільевіча Танкачова быў Калінінград, дзе месціўся штаб Балтыйскага флоту СССР. Пасада была генеральскай, але, каб атрымаць «лампасы», трэба было зноў ехаць у Маскву. Рабіць гэтага бацька Алены не хацеў, бо лічыў службовую кар'еру не самым галоўным у жыцці.

У сям'і Танкачовых былі даволі розныя ўяўленні наконт таго, якую прафесію трэба абраць Алене. «Кампрамісам» стала журналістыка, бо ў дзяўчынкі ўжо былі публікацыі ў мясцовай раёнцы. Рэкамендацыю для паступлення ёй далі без праблем. На факультэт журналістыкі БДУ Алену Танкачову бацькі і прывезлі. Але, як толькі яны з'ехалі, Алена самастойна забрала дакументы з журфаку і аддала іх на другі факультэт — гістарычны. Ён падабаўся болей. Далей усё адбылося, як у жудасным сне. На першым жа ўступным экзамене (абсалютна нечакана для сябе) Алена Танкачова атрымала «два»...

### Новы накірунак

Тое, што яна тады перажывала, нават цяжка ўявіць. Пакаяцца перад бацькамі было амаль немагчымым, бо рашэнне прымалася самастойна і цалкам насуперак іх прыярытэтам. Напрыклад, Барыс Васільевіч выступаў катэгарычна супраць «гістарычнага» выбару, бо добра ведаў, што выраблялa з гісторыяй савецкая ідэалогія.

Алена Танкачова пачала шукаць варыянты працягу вучобы і спынілася на юрыдычным аддзяленні тэхнікума савецкага гандлю. Так лёс накіраваў яе да тых арыенціраў, якія потым стануць самымі галоўнымі ў жыцці.

Вучоба ў тэхнікуме азначала, што праз два гады можна было стаць, скажам так, «юрыстам сярэдняга звяна». Напрыклад, працаваць у канцылярыі нейкага суда альбо юрысконсультам на прадпрыемстве. Зразумела, што паступіць туды (маючы школьны «срэбны» медаль) было нескладана. І толькі пасля гэтага Алена Танкачова пра ўсё расказала сваім бацькам.



Тэхнікум яна скончыла з «чырвоным» дыпломам і адразу пайшла на юрыдычны факультэт БДУ. Цікава, што разам з ёй адзін час вучылася будучы намеснік прэзідэнцкай адміністрацыі Наталля Пяткевіч. А адзін з іспытаў на першым курсе прымаў Рыгор Васілевіч. Той самы, што сёння ўзначальвае Генеральную пракуратуру і вельмі своеасабліва абараняе прыярытэты законнасці.

Дарэчы, сярод Аленіных універсітэцкіх выкладчыкаў былі прафесар Іосіф Аляксандравіч Юхо, які адзіны на юрфаку выкладаў на беларускай мове, а таксама Ала Анатольеўна Сакалова, якая зараз вучыць студэнтаў Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. Менавіта ім у першую чаргу Алена Танкачова і ўдзячная за разуменне філасофіі юрыспрудэнцыі.

У нейкім сэнсе ёй пашанцавала. Алена Танкачова вучылася тады, калі на юрфаку запанаваў дух свабоды, а сама навука пазбавілася савецкіх ідэалагічных аковаў. Адным з яе любімых прадметаў было канстытуцыйнае права. Пасля сканчэння БДУ яна нават зрабіла спробу пайсці ў аспірантуру на адпаведную кафедру, але... Адбыўся рэферэндум лістапада 1996 года, і галоўны закон краіны быў зменены больш чым радыкальна. Стала зразумела, што ў юрыспрудэнцыю зноў вяртаецца ідэалогія.

### Новы шлях

Даволі сімвалічна, але менавіта дзякуючы гэтай спробе, Алена Танкачова і стала цікавіцца той справай, якой займаецца зараз. Маецца на ўвазе «трэці сектар», бо тэмай яе ненапісанай дысертацыі якраз і былі грамадскія арганізацыі.

Яе асабістым дэбютам стала стварэнне ў 1996 годзе Незалежнага таварыства прававых даследаванняў, якое ў 2004 годзе было прымусова ліквідавана беларускім Міністэрствам юстыцыі.

Можа, супадзенне, аднак сам працэс ліквідацыя адбыўся пасля таго, як гэтая структура паўдзельнічала ў больш чым 50-ці судовых спрэчках, адносна закрытых Мінюстам грамадскіх арганізацый. Думаю, многія памятаюць масаваю зачыстку «трэцяга сектара», што адбылася пасля прэзідэнцкіх выбараў 2001 года.

Паплечнікам Танкачовай далі зразумець, што ў патэнцыйных спробах зарэгістраваць новую грамадскую арганізацыю ніякіх шансаў няма, таму было прынята рашэнне перайсці да фармату работы фонду. Так з'явіўся Інавацыйны фонд прававых тэхналогіяў.

Да былых вузкапрафесійных мэтаў (работа ў судах) дадаліся новыя накірункі дзейнасці — прававой дапамогі, судова-прававой рэформы, доступу да інфармацыі, праваабарончай дзейнасці. Такім чынам, эфект атрымаўся супрацьлеглым таму, чаго нехта чакаў ад ліквідацыі іх структуры.

У дзейнасці Алены Танкачовай з калегамі з'явіліся і дадатковыя кампаненты. Маецца на ўвазе актыўная выдавецкая праграма, скіраваная на распаўсюджванне стандартаў у галіне правоў чалавека. Нягледзячы на ўсе складанасці, выдадзеная імі літаратура сёння знаходзіцца ў кожнай бібліятэцы кожнага юрфаку Беларусі. Дадаць да гэтага можна і двухтыднёвы трэнінг для студэнтаў юрыдычных факультэтаў па правах чалавека, які шмат гадоў праходзіў у Германіі.

Зразумела, што гэта не магло падабацца нашай дзяржаве, і ў 2006 годзе іх таксама закрылі. Не ведаю, хто канкрэтна «наверсе» памылкова лічыць, што, каб спыніць работу людзей, дастаткова ліквідаваць структуру, якая афіцыйна іх аб'ядноўвае. Каб было так проста, то любое іншадумства ў нашай краіне было б ужо выкарчавана яшчэ гадоў пяць таму. І не было б каму рэгістравацца ў Чэхіі альбо на Украіне.

Дарэчы, менавіта ўкраінскія сябры прапанавалі Алене Танкачовай зарэгістравацца ў іх краіне. Так узнік Фонд развіцця правых тэхналогіяў, якому ўрэшце ўдалося атрымаць рэгістрацыйнае пасведчанне і ў Беларусі. Сёння іх назва — Учреждение «Центр правовых трансформаций».

Тое, што адбылося пасля мінулых прэзідэнцкіх выбараў, яшчэ доўга будзе знаходзіцца ў фокусе ўвагі не толькі юрыстаў, але і псіхіятраў, таму зараз не будзем прыцягваць да гэтага вашу ўвагу. Адзначым толькі, што хваля рэпрэсій па вызначэнню не магла абысці і Алену Танкачову.

29 снежня 2010 года яе запрасілі на допыт у КДБ, а потым быў ужо традыцыйны ператрус. Забралі нават тое, што ніякім чынам не мела адносін да падзей 19 снежня. Мабыць, звычка «хапаць» усё без разбору для некаторых стала жыццёвым інстынктам.

Прыналежнасць да «трэцяга сектару» пры неабходнасці дае магчымасць пераканаўча абысці жорсткую партыйную дысцыпліну. Напрыклад, падчас апошніх прэзідэнцкіх выбараў Алена Танкачова тройчы атрымлівала прапановы аб рабоце ад выбарчых штабаў трох розных кандыдатаў. Тройчы адмовілася, матывуючы гэта тым, што незалежнай яна ўсім будзе больш карыснай.



А вось тыя, хто мае партыйныя білеты, так зрабіць не змаглі. Не адзін раз мне даводзілася чуць амаль рэфрэн: «Партыя сказала — трэба».

Зразумела, Алене Танкачовай такога не скажаш. Больш за тое, яна нават гатовая выступіць супраць цяперашніх апазіцыянераў, калі яны, дамогшыся ўлады, будуць таксама парушаць правы чалавека. Асабіста мне падобны падыход вельмі падабаецца, бо так яно і павінна быць па вызначэнню.

# АЛЕГ ТРУСАЎ




Падрыхтавана да друку 30.10.09

Цяжка ўявіць, але стаць камуністам Алега Трусава прымусіў... Зянон Пазьняк. Да гэтага Трусаў двойчы адмаўляўся. Першы раз яму прапанавалі стаць сябрам КПСС яшчэ ва ўніверсітэце. Падчас працы ў Спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрнях Мінкульта БССР (СНРВМ МК БССР) стаць камуністам Трусаву прапанаваў Зянон Пазьняк і аргументаваў гэта так: «Ты павінен уступіць у КПСС і ўзначаліць там абарону Верхняга горада». Было гэта ў 1979 годзе.

## Мсціслаўскія карані

Алег Анатольевіч Трусаў нарадзіўся 7 жніўня 1954 года ў Мсціславе. Калісьці гэта была сталіца адпаведнага княства, якое з часам ператварылася ў ваяводства.

Неаднойчы даводзілася чуць пра рускае паходжанне Трусава. Маўляў, Таварыства беларускай мовы ўзначальвае этнічны рускі. Сапраўды, бацька Алега Анатольевіча — з памораў, нарадзіўся на мяжы Валагодскай і Архангельскай абласцей. А маці са шляхецкага роду Драздоўскіх і Мяжэвічаў. Аднак, паколькі яна нарадзілася на Урале, дзе тады працаваў дзед Трусава, ёй у пашпарце напісалі — руская.

Так што Алег Трусаў не толькі этнічны беларус, але і нашчадак беларускай шляхты. Тым больш, што сам ён, хоць і паездзіў па свеце, але доўга за межамі Беларусі ніколі не жыў.

Так атрымалася, што бацькі Трусава разышліся рана. Хлопцу было толькі чатыры з паловай гады, калі ён застаўся ў Мсціславе на выхаванні ў бабулі і прабабулі. Бацька вярнуўся на Валагодчыну. Больш сын яго ніколі не бачыў і толькі нядаўна даведаўся, што той



ужо памёр. Маці з'ехала ў Кобрын. Сустракаўся з ёй Алег усяго раз на год.

Прабабуля (1882 года нараджэння) выхоўвала хлопчыка, скажам так, у «дабальшавіцкім духу». Пражыла роўна сто гадоў. Дзякуючы такому выхаванню, Алег Трусаў яшчэ ў маленстве вывучыў мсціслаўскі дыялект беларускай мовы і, калі зараз адкрывае слоўнік Насовіча, чытае ў ім словы свайго дзяцінства.

У 1961 годзе Алег Трусаў пайшоў у пабудаваную яго дзедам яшчэ ў 1908 годзе школу (былую гімназію), потым беларускі педтэхнікум, дзе вучыліся Аркадзь Куляшоў і родная бабуля Ганна. На жаль, зараз, нягледзячы на пратэсты, школа гэта ўжо цалкам пераведзена на рускую мову.

Па заканчэнні школы з залатым медалём Алег у 1971 годзе паступіў на гістарычны факультэт БДУ, маючы перад сабой цвёрда вызначаную мэту — стаць археолагам. Пра гэта ён марыў яшчэ з першага класа, калі ўпершыню давялося трапіць на раскопкі. Як быццам бы спецыяльна пад яго мару ў 1973 годзе ў БДУ адкрылі кафедру археалогіі. Трусаў быў яе першым выпускніком у 1976 годзе. Размеркаванне атрымаў у СНРПМ МК БССР, дзе ў 1980 годзе стаў загадчыкам археалагічнага аддзела і прапрацаваў там да 1994 г.

Паралельна Алег вучыўся ў завочнай аспірантуры Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР. У 1981 годзе ў Ленінградзе абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму «Археалагічнае вывучэнне помнікаў манументальнага дойлідства XI—XVII стст. на тэрыторыі Беларусі (метадычныя даследаванні)».

## У публічную палітыку

Палітыкай Алег Трусаў пачаў займацца з 1988 года, дзякуючы Міхасю Ткачову. Атрымалася гэта так. Напярэдадні камандзіроўкі 19 кастрычніка шпацыраваў міма Чырвонага касцёла (тады «Дом кіно») на вакзал, каб купіць білет. Выпадкова сустрэў Ткачова, які прапанаваў зайсці ў гэты будынак. Маўляў, там будзе шмат цікавага, а білет яны купяць пазней.

Так Трусаў трапіў у аргкамітэт па стварэнню БНФ, а праз два гады вылучыўся ў дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га склікання. Перамог. Стаў намеснікам старшыні камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. І быў сярод тых дэпутатаў, што абвясцілі галадоўку пратэсту ў зале пасяджэнняў ВС.

У сакавіку 1991 года была створана Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, старшынёй якой абралі Міхася Ткачова, а намеснікам — Алега Трусава. Праз год, пасля заўчаснай смерці Ткачова, Алег Анатольевіч стане на чале партыі і будзе кіраваць ёй да лета 1995 года.

Паралельна з партыямі на хвалі перабудовы пачалі фарміравацца і грамадскія арганізацыі. Ці не першай з іх, 28 верасня 1989 года, было афіцыйна зарэгістравана Таварыства беларускай мовы (ТБМ), створанае па ініцыятыве выбітнага паэта і грамадскага дзеяча Ніла Гілевіча, які і быў абраны яе першым старшынёй. Алег Трусаў сфарміраваў тады суполку ТБМ у Савецкім раёне, якой і кіраваў да красавіка 1997 года, да моманту абрання намеснікам старшыні ТБМ — на той момант Генадзя Бураўкіна.

У той час, аб чым мала хто ведае, над ТБМ навісла першая пагроза высялення з офіса, што аўтаматычна цягнула за сабой страту рэгістрацыі, а значыць, і магчымасць легальнага існавання, і непазбежнае скарачэння колькасці сяброў, што для такой арганізацыі, як ТБМ, па вызначэнню прызванай на масавы фармат дзейнасці, азначала непазбежнае знікненне з грамадскай арэны. Дарэчы, тую сітуацыю вырашыў тагачасны мэр Мінска Уладзімір Ярмошын пасля сустрэчы з тагачасным старшынёй ТБМ Генадзем Бураўкіным.

17 красавіка 1999 года на VI з'ездзе ТБМ Алега Трусава па прапанове Генадзя Бураўкіна абралі старшынёй. З гэтага моманту ўсе больш ведаюць Трусава — грамадскага дзеяча, чым Трусава — палітыка.

## ТБМ

Па інерцыі (беларуская мова, бел-чырвона-белы сцяг, «Пагоня») ТБМ успрымаецца як нешта вельмі блізкае да БНФ. На самай жа справе Таварыства беларускай мовы значна шырэй адной плыні. Палітычная прыналежнасць тут не мае ніякага значэння. У склад арганізацыі ўваходзілі ды ўваходзяць і камуністы, і дзеючыя міністры. У новых валанцёраў не пытаюцца ні пра партыйнасць, ні пра нацыянальнасць, ні пра веравызнанне. Крытэрый адзін — любоў да беларускай мовы. Як вядома, нават БНФ не пазбегла расколу. У ТБМ жа за дваццаць гадоў існавання не было ніякіх унутраных сварак, ніякіх расколаў, бо няма чаго дзяліць і ёсць за што змагацца — канкрэтнае і духоўнае — за мову.



Дарэчы, палітычныя партыі вельмі паважаюць ТБМ, якое на сённяшні дзень налічвае пяць з паловай тысяч сяброў. Лічба для Міністэрства юстыцыі — толькі самыя актыўныя. На самой справе, сяброў значна больш.

На думку Алега Трусава, ва ўмовах таталітарнай дзяржавы «трэці сектар» мае больш перспектыў, чым іншыя. І з Трусавым цяжка не пагадзіцца. Што такое польская «Салідарнасць» або літоўскі «Саюдзіс»? Гэта не палітычныя партыі, а тыповыя недзяржаўныя структуры. І БНФ такім быў. Пакуль не стаў партыяй. Самай вялікай памылкай Пазьняка і яго каманды Трусаў лічыць стварэнне партыі БНФ. З гэтага і пачаўся развал. Трэба было спачатку прыйсці да ўлады.

## За мову, за Беларусь!

Калі гутарка ідзе пра ТБМ, без разважанняў пра цяперашні стан беларускай мовы абысціся немагчыма. Мабыць, камусьці гэта падасца спрэчным, але Трусаў апошнім часам сцвярджае, што сёння мова «патроху адраджаецца».

Сам ён пачаў размаўляць па-беларуску недзе на пачатку 1980-х гадоў. А першай беларускай кнігай для яго была «Новая зямля» Якуба Коласа, якую яму прэзентавалі на Дзень Савецкай Арміі ў восьмым класе. На беларускую мову Трусаў перайшоў свядома — у знак пратэсту супраць выключэння з БДУ некаторых студэнтаў, за «праяўленне нацыяналізму» (а па-сутнасці, за любоў да роднай мовы, да Беларусі).

Каб лепш зразумець аргументы Алега Трусава, дазволім сабе адну цытату з яго шматлікіх інтэрв'ю: «Зараз пытанне чыста палітычнае. Трэба дачакацца змены палітычнай улады. Калі прэзідэнт і прэм'ер-міністр загавораць па-беларуску, нават не трэба змяняць заканадаўства. Хай будуць дзве мовы. Я б не мяняў ніякія законы, толькі б памяняў уладу. І ўсё. За два гады большасць людзей пяройдзе на беларускую мову».

У самога Трусава перыяд пераходу на беларускую мову ўклаўся менавіта ў два гады. З 1982 года — паўсюль і з усімі — ён размаўляе выключна па-беларуску. І добра памятае, як да яго ставіліся ў рускамоўным Мінску: лаяліся ў тралейбусах, крамах, патрабавалі «гаварыць нармальна». Сёння сітуацыя змянілася кардынальна. Пачуўшы мову, прапускаюць без чаргі, нават міліцыянты выказваюць павагу, некаторыя таксісты за праезд грошай не бяруць.

Прапановы Трусава перавесці на беларускую мову ўсе дзяржаўныя ўстановы ўжо не выклікаюць з'едлівых усмешак. Сацыялагічнае апытанне, праведзенае нядаўна Беларускім інстытутам стратэгічных даследаванняў сумесна з лабараторыяй «Новак», нечакана пацвердзіла аптымістычнае ўспрыняцце моўнай сітуацыі Алегам Трусавым. 83,7 працэнта жыхароў краіны лічаць беларускую мову нацыянальным сімвалам і нацыянальным здабыткам. І каля 50 працэнтаў назвалі людзей, што размаўляюць на мове, элітай нацыі.

Вынік — насуперак шматвекавой традыцыі на знішчэнне мовы. Насуперак афіцыйнай палітыцы апошніх паўтара дзясятка гадоў. Вынік, у якім, без сумневу, ёсць немалы ўнёсак ТБМ. І, зразумела, Алега Трусава.

## Аптыміст

У адрозненне ад многіх шчырых беларусаў, Алег Трусаў не плача і не енчыць пра гаротны стан беларускай мовы. Ён за яе, можна сказаць, змагаецца, але дакладней сказаць — метадычна працуе. І як стратэг, і як шараговец, у залежнасці ад абставін і забываючыся на свае пагоны. Аналізуе і ацэньвае сітуацыю, расклад сіл і магчымасцей. Манеўруе і атакуе. Утрымлівае плацдарм і пашырае яго хоць на сантыметр-другі.

Дамагліся, каб абвесткі ў грамадскім транспарце загучалі на беларускай мове — сцяжок на моўнай мапе Беларусі. Замянілі шыльды з назвамі вуліц на беларускамоўныя — яшчэ сцяжок. Арганізавалі пры ТБМ курсы па вывучэнню беларускай мовы — на карысць. Зладзілі супольна з іншымі грамадскімі аб'яднаннямі шырокую кампанію «Будзьма беларусамі» — поспех.

Трэба дзеля гэтага размаўляць з чыноўнікамі — вокам не міргне. Сесці за стол грамадскай камісіі пры прэзідэнцкай адміністрацыі — без хістанняў. Аднак і першае пытанне ў лоб — пра мову. І пра дэмакратычныя пераўтварэнні.

Але ж калі трэба — у лабавую атаку, без ваганняў. Напрыклад, калі зноўку над ТБМ узнікла пагроза быць пазбаўленым офіса. Пад уздзеяннем хвалі пратэстаў раённая адміністрацыя адступіла. І ТБМ жа першае ўдарыла ў звон пра небяспеку маніпуляцый з пытаннем наконт роднай мовы напярэдадні перапісу.

Быць гнуткім і не здрадзіць прынцыпам, самому сабе. Здаецца, гэта Алегу Трусаву ўдаецца.

# АНДРЭЙ ХАДАНОВІЧ



Падрыхтавана да друку 12.07.12

*Прэмія «Дэбют», на мой погляд, адна з самых крэатыўных у дзейнасці беларускага ПЭН-ЦЭНТРА, бо дазваляе невядомым паэтам і празаікам выдаць сваю першую кнігу. Пра дэбюты галоўнага кіраўніка гэтай структуры і распавядзе мой нарыс.*

*Магчыма, расказ пра жыццё самога Андрэя Хадановіча дапаможа зразумець, чаму ён так «рухае наперад» іншых.*

## Жыццёвы дэбют

Ён адбыўся 13 лютага 1973 года ў Мінску ў знакамітым раддоме насупраць Пішчалаўскага замка. Некалі там пакутаваў Якуб Колас. Напэўна, некаторыя экстрасэнсы (у апошні час іх стала надта багата, асабліва «потомственных») убачылі б тут нейкі таямнічы сэнс. Мы ж проста канстатуем факт. Пачуць у першым дзіцячым крыку нейкія рыфмы, мякка кажучы, вельмі-вельмі цяжка...

Андрэй Хадановіч жартуе, што ўсё яго дзяцінства прайшло пад «знакам Бураціна», бо пасля пераезду яго сям'я пачала жыць на сталічнай вуліцы Альшэўскага, у доме, дзе размяшчаўся цацачны магазін «Бураціна». Яго вітрына і стала для хлопчыка асабістым дыснэй-лэндам.

У сямейнай памяці жыве гісторыя пра тое, што аднойчы ва «ўзросце двух-трох гадоў» Андрэй убачыў за шклом плюшавага мішку і зладзіў сапраўдны скандал, патрабуючы цацку купіць. Высветлілася, што ў продажы мішкаў няма, а за шклом «вітрынны экспанат». Дзіцячыя слёзы «паставілі на вушы» ўсю краму і працягваліся, пакуль цацку не пагадзіліся прадаць.

Спачатку Андрэй Хадановіч вучыўся ў сярэдняй школе №113, якая апроч «французскай мовы» мела яшчэ і «спартовы ўхіл». З апошнім былі пэўныя праблемы, бо па жыцці Хадановіч аддаваў перавагу кнігам і канапе, а не футбольным мячам і спартовым снарадам.

Бацьку Валерыя Фёдаравіча гэта даволі моцна раздражняла — той меў цэлы стос спартовых разрадаў. Зразумела, хацеў бачыць у сваім сыне як мінімум прыхільніка алімпійскага лозунга «Citius, Altius, Fortius», але быць «хутчэй, вышэй, мацней» у Андрэя ніколі не атрымлівалася. Пакуль «у працэс» не ўмяшалася першае каханне.

«Кнігі» і спевы ў дзіцячым хоры Беларускага радыё і тэлебачання (ёсць у біяграфіі Андрэя Хадановіча і такі момант) саступілі месца жаданню падабацца дзяўчынкам. Юнак стаў абіраць самыя «конскія» віды спорту. Менавіта імі часта называюць тыя, дзе патрэбна перш за ўсё неверагодная вынослівасць.

## Рамантычны дэбют

Спартовая хадзьба дапамагла «скінуць» лішнія кілаграмы, акадэмічнае веславанне — дадаць «мускульнай масы».

Дарэчы, разам з Андрэем веславала старэйшая на год дзяўчынка з вельмі «знаёмым» (што не раз вызывала адпаведныя жарты) прозвішчам — Кацярына Хадатовіч. Пазней яна стане шматразовай алімпійскай чэмпіёнкай, выйдзе замуж і дасць да яго частку «Карстан».

У ўладальніка падобнага на яе прозвішча са спортам, як кажуць, «не склалася», бо прыблізна ў 17 гадоў у Андрэя Хадановіча пачаўся канфлікт з трэнерамі. Па дзвюх прычынах.

Па-першае, ён зашмат думаў самастойна і зашмат задаваў розных пытанняў. Зразумела, тым, хто патрабаваў безумоўнага (і безгалосага) падпарадкавання, гэта не магло падабацца.

Па-другое, падчас чарговых спартыўных збораў у яго жыцці адбыўся рамантычны дэбют. Як звычайна, першае каханне падаецца падлеткам чымсьці бязмежным, вечным. І Андрэй Хадановіч не быў тут выключэннем. Вельмі хутка ён стаў «злосным парушальнікам спартыўнага рэжыму»...

У выніку гэта скончылася тым, што на ўсесаюзныя спаборніцтва (нягледзячы на рэспубліканскую перамогу) яго банальна не запрасілі. У каманду ўзялі іншага чалавека, што вельмі моцна пакрыўдзіла юнака.



Са спартовай секцыі Андрэй Хадановіч сышоў, што адразу станоўча паўплывала на паспяховасць у школе. Апошнія дзве чвэрці выпускнога класа ён скончыў на ўсе «пяцёркі», імгненна ператварыўшыся з «сярэднячка» ў «выдатніка». Як ні дзіўна, яму нават далі медаль (нягледзячы на тое, што раней былі «чацвёркі»). Але не залаты — срэбны.

## Літаратурны дэбют

У той час медаль яшчэ азначаў пэўныя ільготы. Паспяхова здаўшы адзін экзамен, у 1990 годзе Андрэй Хадановіч паступіў на філалагічны факультэт БДУ. Чаму? Напэўна, гэтаму выбару паспрыяла атмасфера, у якой хлопец рос.

Літаратурным дэбютам можна назваць дзіцячы верш, што наўрад ці можна лічыць нечым неардынарным. А вось пра абставіны, пры якіх гэта адбылося, варта сказаць асобна.

Андрэю было тады чатыры гады. На Новы год у іх сям'і, як заўсёды, упрыгожвалі ялінку. Напэўна, кожны з нас ведае, з чаго складаюцца шкляныя ёлачныя цацкі. Цікаўны хлопчык выцягнуў з адной металічны крапеж і ўсунуў «вусы» ў разетку, да якой той (па яго разуменню) ідэальна пасаваў...

Дзеўбанула токам добра... Выратавала тое, што хлопец трымаў «вусы» толькі двума пальцамі, а не ўсёй рукой, інакш бы першы верш ніхто не пачуў...

Змест таго верлібрыка («свабодны верш» — заўвага аўтара) прыводзіць не буду, перш за усё па той прычыне, што сам Андрэй Хадановіч сёння крытыкуе яго сінтаксічную канструкцыю і выказвае намер сур'ёзна адрэдагаваць тэкст. Як і тое, што было потым у выглядзе вершаванай публіцыстыкі для школьнай насценгазеты і вершаў-прысвячэнняў, якія ён пісаў сябрам і сяброўкам на філфаку БДУ.

Бацька будучага паэта быў журналістам, працаваў у розных газетах (у «Знамя юности», напрыклад) і сам складаў вершы. Праўда, не выдаў ніводнага зборніка, бо не пісаў пра «Леніна, партыю, камсамол». Напэўна, нейкі «ген творчасці» ад яго і перадаўся сыну, бо той засынаў і прачынаўся пад стук пішучай машынкі.

## «Пратэстны» дэбют

Маці Андрэя Ірына Алегаўна нарадзілася ў Вялікіх Луках. Дзяцінства і юнацтва яе прайшло ў рускамоўнай частцы Казахстана, а ста-

ленне — у Маскве. У беларускую сталіцу яна пераехала амаль перад самым каханнем і шлюбам.

Гэта я да таго, што Ірына Алегаўна з'яўляецца той (адной з нямногіх), з кім Андрэй Хадановіч сёння цалкам абгрунтавана размаўляе на рускай (некаторыя кажуць — расейскай) мове. І было б, мякка кажучы, вельмі дзіўна, калі б нешта тут адбывалася па-іншаму...

Магчыма, гэта некаму падасца спрэчным, але я не разумею людзей, якія пачынаюць успамінаць «сваю трасянку», каб паказаць прыналежнасць да беларускамоўнай эліты, альбо робяць з гэтага нейкі модны брэнд-феціш. І ў той жа час не прымаю, калі вядучыя дзяржаўных тэлеканалаў пачынаюць размаўляць з беларускамоўнымі гасцямі на «великом и могучем» і тыя кан'юнктурна пераходзяць на яго ж.

Менавіта па гэтай прычыне мне і падабаецца шчырасць, з якой Андрэй расказвае пра тое, што пэўны час пісаў вершы на рускай мове. А «русскую филологию» ў БДУ абраў таму (юнацкі снабізм), што там быў конкурс ў некалькі разоў большы, чым на беларускім аддзяленні.

...»Вучэбны» перыяд жыцця (па словах самога Хадановіча) з'яўляецца «формай уцёкаў ад беларускага войска». Сапраўды, падчас паступлення Андрэя на філфак БДУ там скасавалі вайсковую кафедру, што азначала мінімум год «кірзавых ботаў» пасля атрымання дыплома аб вышэйшай адукацыі.

Напэўна, гэта тлумачылася тым, што на філфаку заўсёды вучыцца вельмі няшмат «будучых абаронцаў айчыны», і нават «стабільнаму» бюджэту СССР трэба было «жыць па сродках».

Разам са сваімі аднакурсніцамі Андрэй Хадановіч старанна праходзіў нейкія медычныя курсы. Тыя сталі медсёстрамі, а ён — медбратам. Умеў накладаць складаныя павязкі «на раны» і нават (толькі тэарэтычна) прымаць роды.

Калі пасля абароны дыплома пачалі прыходзіць ваенкаматаўскія позвы, Андрэй «уцёк» у другое месца — аспірантуру пры БДУ. Акрамя вучобы стаў выкладаць французскую літаратуру ў БДУ, чым займаецца ўжо больш за дзесяць гадоў.

А беларускамоўны дэбют у яго творчасці адбыўся ў 1996 годзе. Паспрыяла гэтаму шмат фактараў, найперш — эстэтычны, але не ў апошнюю чаргу — і рамантычна-палітычны чыннік.



Нагадаю, у траўні 1995 года адбыўся сумна вядомы рэферэндум, які « абакраў Беларусь на нацыянальныя сімвалы і стварыў юрыдычна законную сітуацыю для лінгвістычнай дыскрымінацыі беларусаў у Беларусі».

Гэта не толькі цытата з маёй размовы з грамадзянінам Андрэем Хадановічам. Гэта яго прынцыповая пазіцыя!

## Палітычны дэбют

А першая кніга паэта Андрэя Хадановіча называлася «Старыя вершы». Выйшла яна ў 2003 годзе і была цалкам беларускамоўнай. Сёння іх ужо 9 штук. Шэсць выдадзены на беларускай мове, тры перакладзены на ўкраінскую, польскую і шведскую. Колькасць асобных публікацый яго вершаў і перакладаў вымяраецца ўжо трохзначнымі лічбамі.

Для тых, хто любіць статыстыку, удакладню, што Андрэй Хадановіч уладальнік многіх прэстыжных (у тым ліку і замежных) прэмій, першай з якіх была прэмія часопіса «Крыніца». З 2002 года Хадановіч сябра беларускага ПЭН-ЦЭНТРА, а з 2008 года яго ўзначальвае.

І яшчэ. 5 снежня 1998 года Хадановіч пабраўся шлюбам з былой аднагрупніцай і каляжанкай па аспірантуры Марынай, якая 10 траўня 2006 года нарадзіла цудоўную дачку Алену. Андрэй Хадановіч не вельмі любіць форму імені па бацьку, але сваю шасцігадовую дачку часта іранічна называе Аленай Андрэеўнай. Мабыць, таму што яна да яго вельмі падобная...

А яшчэ ён вельмі любіць паўтараць словы Іосіфа Бродскага: пісьменнік не мае права лезці ў палітыку, пакуль палітыка не лезе ў ягоныя справы. На жаль, сённяшняя палітыка ў справы Андрэя Хадановіча «лезе». Хаця, па вялікім рахунку, ён чалавек цалкам апалітычны.

Пры даволі скептычных адносінах да айчынных палітыкаў (дзяржаўных і апазіцыйных) Хадановіч цвёрда перакананы ў тым, што, калі ў грамадскім жыцці наступае «Час Х», ніхто не можа заставацца ў баку. У тым ліку і паэты.

Такімі момантамі сталі прэзідэнцкія выбары 2006 і 2010 гадоў. У 2006 годзе Хадановіч выступаў на Кастрычніцкай плошчы і кожны дзень потым (да разгону) хадзіў туды ў намётавы гарадок. У 2006-ым чытаў і спяваў вершы, а ў 2010-ым на Плошчы Незалежнасці праспяваў нават свой пераклад.

Песня, якая тады прагучала, бярэ свой пачатак у канцы 60-х гадоў мінулага стагоддзя ў Каталоніі (яна тады змагалася за свае правы з франкісцкай Іспаніяй). Напісаў «Слуп» (першая назва) паэт Луіс Льяк. Падчас польскай «Салідарнасці» паэт і бард Яцэк Качмарскі перарабіў яе ў «Муры».

Гэты варыянт і выбраў асновай для сваёй песні-верша Андрэй Хадановіч. Вобраз «муроў» ужо часткова згубіў сваю актуальнасць, бо Берлінскі мур даўно разбурылі, і таму да слова «муры» беларускі паэт дадаў словы «турма» і «свабода».

Імі і хочацца скончыць гэты тэкст: «Разбуры турмы муры! Прагнеш свабоды — то бяры!»

**P.S.** Не так даўно ў інтэрнэце з'явіўся ролік, дзе арыштаваны малады расейскі паэт Кірыл Мядзведзеў у аўтазаку спявае свой рускі пераклад гэтай славутай песні. Накіраваны ён супраць таго, што зараз робіцца ў Расіі...





# ХРЫСЦІЯНСКІ ШЛЯХ

**Падрыхтавана да друку 25.10.2012**

*Даведка: Віталь Рымашэўскі нарадзіўся ў Бабруйску 3 сакавіка 1975 года. Жанаты, выхоўвае дачку. Інжынер-будаўнік, у 1997 годзе скончыў Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт.*

*Адзін з кіраўнікоў кампаніі «У абарону свабоды сумлення і веравызнання ў Беларусі». Кіраўнік Мінскай арганізацыі БХД, сустаршыня аргкамітэта па стварэнню гэтай партыі.*

*Адзін з кандыдатаў у прэзідэнты падчас выбараў 2010 года. Падчас акцыі 19 снежня на плошчы Незалежнасці збіты спецназам. Затрыманы падчас разгону акцыі, змешчаны ў СІЗА КДБ. З 31 снежня 2010 года знаходзіўся пад падпіскай аб нявыездзе. Згодна з рашэннем суда атрымаў пакаранне 2 гады пазбаўлення волі ўмоўна з выпрабавальным тэрмінам на 2 гады.*

Мабыць, кадры акрываўленай, забінтаванай галавы былога кандыдата ў прэзідэнты Віталя Рымашэўскага, які бароніць уваход у будынак ЦВК, сталі аднымі з «візітовак» брутальных падзей 19 снежня 2010 года. Адразу было зразумела пра іх паходжанне — міліцэйская гумовая палка, якую ў народзе празвалі «дэмакратызатарам».

Нямногія тады задумваліся над тым, што ёй ударылі па галаве не толькі Віталя Рымашэўскага, але і ўвесь беларускі народ...

### Нацыянальны выбар

Дзяцінства Віталя Рымашэўскага прайшло паміж Бабруйскам, дзе ён нарадзіўся і вучыўся, і вёскай Пацава Слабада Кіраўскага раёна, дзе праводзіў усе вакацыі. Адтуль яго маці Тамара Аляксееўна, чыё дзявочае прозвішча было Комар. Род жа Рымашэўскіх ідзе

з Глушчыны, дакладней з вёскі Бярозаўка, дзе нарадзіўся яго бацька Анатоль Іосіфавіч Рымашэўскі. Бацькі бацькі (адпаведна дзед і баба ) пайшлі рана, таму зразумела, чаму ўсе вакацыі хлопчыка Віталя праходзілі ў дзядулі і бабулі па матчынай лініі.

Вучыўся ён у звычайнай сярэдняй школе № 13 г. Бабруйска і заўсёды вельмі цікавіўся палітыкай. У адрозненне ад некаторых аднакласнікаў падабаў нават палітінфармацыі. Быў камандзірам акцябрацкага і піянерскага атрадаў, а вось стаць «камсамольскім важаком» не выпала, таму што тады ўпершыню прыналежнасць да УЛКСМ стала неабавязковай. Пачыналася перабудова, і, зняўшы піянерскі гальштук, Віталь Рымашэўскі сказаў сваёй настаўніцы, што камсамольцам не будзе.

Цікавілі не толькі дакладныя навукі, якія тлумачылі стварэнне свету (матэматыка, фізіка, хімія), але і тыя, якія мы адносім да гуманітарных. Накшталт гісторыі. Менавіта з яе і пачаўся шлях да нацыяналізму, які прынята называць «здаровым».

Патрыётам сваёй краіны Віталь быў заўсёды. Толькі ў той час стала зразумела, што гэта не Савецкі Саюз, а Беларусь. Менавіта беларускім нацыяналістам Рымашэўскі і стаў. А «вінаватыя» ў гэтым Мікола Ярмаловіч (яго кнігі) і настаўніца беларускай мовы і літаратуры Любоў Кірылаўна Новік, якая выкладала ў апошніх класах.

Дарэчы, захапленне беларускай мовай прыйшло да Віталя не адразу. У сёмым класе ўсё было наадварот. Ён нават падняў (у іх тады была благая настаўніца — заўвага аўтара ) супраць яе вывучэння «бунт». Маўляў, навошта, калі ў Савецкім Саюзе мовай «межнационального общения» з'яўляецца руская, а беларуская мова не выкарыстоўваецца шырока нават у самой Беларусі, вучыць яе ўвогуле не трэба. Ідэю падтрымаў увесь клас. І, на мой погляд, зрабіў гэта зусім не па нейкіх ідэйных меркаваннях. Спакон вякоў любы вучань лічыў, чым менш заняткаў, тым лепш.

«Моўны бунт» тады гасіла ўсё кіраўніцтва школы, а праз тры гады «моўны стэрэатып» змагла зламаць Любоў Кірылаўна Новік.

Цікава, што сама яна па паходжанню была рускай і выкарыстоўвала гэты момант вельмі эфектыўна. «Па пашпарце я руская, аднак беларускую мову люблю і паважаю, а вы, беларусы, нічога пра яе не ведаеце».

Не пагадзіцца з такім аргументам ВЕЛЬМІ цяжка.



Пазней, калі адна дзяўчына сказала, што «ў параўнанні з расейскай мовай беларуская значна горшая», на яе абурыўся ўвесь клас.

Даволі паказальны нюанс. Красамоўна сведчыць аб тым, якое ўздзеянне на людзей ва ўсе вякі рабілі настаўнікі. На жаль, сёння давер да іх не такі, як быў раней, бо менавіта настаўнікі складаюць «касцяк» усіх выбарчых камісій краіны...

І можна толькі шкадаваць, што ў дзеючага кіраўніка краіны, напэўна, такіх настаўнікаў не было...

Віталю Рымашэўскаму заўсёды падабаўся Мінск, які давялося наведаць некалькі разоў у дзяцінстве і дзе дагэтуль жыве яго родная цётка. Таму, калі надышоў час пакідаць родны горад, адказ на пытанне, куды ехаць вучыцца, ужо быў (у яго родным горадзе не было раней і няма зараз (на дадзены момант існуюць толькі філіялы ВНУ) НІВОДНАЙ вышэйшай установы). Пасля заканчэння школы выбар паў на сталічную Політэхнічную акадэмію. Дакладней, на яе (вельмі складаны) будаўнічы факультэт.

Для тых, хто не памятае, нагадаю, што ў 1920 годзе на базе Мінскага політэхнічнага вучылішча быў створаны Беларускі політэхнічны інстытут. У 1991 годзе яго ператварылі ў акадэмію, а ў 2002 годзе ўсім вядомы «політэх» стаў Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэтам (БНТУ).

Як ідэйны нацыяналіст, Віталь Рымашэўскі час ад часу наведваў і тагачасныя мітынгі. Вонкава тады ўсё было быццам бы добра. Над адміністрацыйнымі будынкамі (у тым ліку і над Домам урада) лунаў бел-чырвона-белы сцяг. Беларусь існавала ў якасці незалежнай краіны, і з пункту гледжання нацыянальнага патрыятызму вострай неабходнасці ўдзельнічаць у палітычным жыцці, мабыць, не было. Але набліжалася тое, што амаль усе дасягненні тых гадоў перакрэсліць.

### Палітычны выбар

На выбарах 1994 года, нягледзячы на тое, што праводзіў актыўную агітацыю сваіх знаёмых у ВНУ і сваякоў у падтрымку Зянона Пазьняка, галасаваць супраць Лукашэнкі Віталь не мог па той прычыне, што яму яшчэ не было 18 гадоў. Аднак перамогу шклоўскаму папулісту тады забяспечыла зусім не гэта. Былы дырэктар саўгаса гаварыў тое, што электарат хацеў пачуць, і абяцаў хутка навесці «па-

радак». Праз некалькі гадоў апошні стане стабільнасцю, якая (на думку шмат каго) абнесена калючым дротам самаізаляцыі.

У Політыхнічнай акадэміі зацікаўленасць і нават апантанасць беларускай гісторыяй і мовай выглядала трохі дзіўна. Калі не сказаць, што Віталь Рымашўскі быў белай варонай. Там вучацца людзі іншага складу розуму і вельмі далёкія ад палітыкі. Дарэчы, выкладчыкі «політэху», у адрозненне ад студэнтаў, былі палітызаваныя нашмат больш. Калі Рымашэўскага першы раз арыштавалі, яны паставіліся да гэтага даволі спакойна, а некаторыя, наадварот, падтрымлівалі.

Адбылося ўсё на Дзень волі, 25 сакавіка 1996 года. Сам мітынг павінен быў адбыцца на Плошчы Незалежнасці, але збірацца там забаранілі. Усе прыходзілі да Опернага тэатра, і ўжо адтуль пачаўся рух. Міліцыянты праз мегафоны казалі пра забарону, нехта крыкнуў: «Брэшаце!», а Віталь Рымашэўскі — пра тое, што брэшуць толькі сабакі. Атрымалася так, што за ім ішоў намеснік кіраўніка Маскоўскага РУУС.

Са словамі «Я табе зараз пакажу, хто такі сабака» ён загадаў схапіць юнака і разам з іншымі міліцыянтамі пацягнуў да «козліка».

Амаль дзве гадзіны Рымашэўскі правёў у пастарунку, аднак у тыя часы міліцыянты ставіліся да іншадумцаў значна лагодней, чым зараз. Віталя нават адпусцілі, даўшы пісьмовае папярэджанне, але потым нешта пачулі па рацыі, вярнулі (з прыступкаў) назад, парвалі папярэджанне і замест яго выпісалі позву ў суд.

Аказалася, у гэты час Вінцук Вячорка даведаўся пра затрыманне і ў мегафон крыкнуў: «Калі зараз не вызваляць Віталя Рымашэўскага, то мы пойдзем да РУУС вызваляць яго самі».

...Потым былі выклікі ў пракуратуру. Віталь падумаў, што гэтым усё і абмяжуецца. Памыліўся.

Менавіта з гэтага затрымання і пачаўся яго шлях у палітыку.

На той момант вучыцца заставалася толькі паўгады (паскораны выпуск), і Рымашэўскі вырашыў больш не хадзіць на мітынгі. Напэўна, так бы і адбылося, калі б камендант інтэрната не прынесла яму (перад «Чарнобыльскім шляхам») павестку ў пракуратуру. Гэта было відавочнае прэвентыўнае дзеянне. Эфект ад яго атрымаўся супрацьлеглым таму, на які нехта спадзяваўся. Калі раней Віталь Рымашэўскі не збіраўся ісці на мітынг, то ў гэты момант зразумеў, што не пайсці на яго не можа.



Падчас «Чарнобыльскага шляху» 1996 года Віталь Рымашэўскі запоўніў анкету на ўступленне ў Беларускі народны фронт. Не ў партыю, а ў рух, то бок у грамадскае аб'яднанне.

У тыя часы ў «політэху» да палітычнага іншадумства студэнтаў яшчэ ставіліся спакойна. Час ад часу гэта нават дапамагала, бо большасць (добрыя прафесіяналы) з выкладчыкаў не падтрымлівалі дзеючую ўладу. Словам, да дыплома Рымашэўскі дайшоў без асобых праблем. Размеркавання тады не было, а вось за мінскую прапіску прыйшлося пазмагацца. Атрымаў яе толькі праз некалькі гадоў.

У гэты ж час пачаў працаваць «Малады фронт». Віталь Рымашэўскі (нягледзячы на пэўныя непаразуменні з Паўлам Севярынцам) стаў адным з яго лідараў.

## Асабісты выбар

Самае цікавае, што ў дзяцінстве Віталь Рымашэўскі быў перакананым атэістам. Настолькі, што час ад часу спрачаўся на гэты конт са сваёй бабуляй. Паралельна з прыходам у палітыку адбыўся і яго прыход да веры. Як вядома, гэтаму нельга неяк навучыць. Бог адкрываецца чалавеку сам, і з той хвіліны мы адчуваем Яго існаванне.

Пакінем за дужкамі нарыса, як усё адбылося ў Віталя Рымашэўскага. Адзначым толькі, што вера дапамагла пераасэнсаваць і палітычны светапогляд — ад ідэйнага нацыяналіста да хрысціянскага дэмакрата, для якога патрыятызм з'яўляецца істотнай, але не галоўнай каштоўнасцю.

Яшчэ ў 1996 годзе Віталь не толькі марыў пра з'яўленне беларускай хрысціянска-дэмакратычнай партыі, але і разам з Генадзем Грушавым прыняў актыўны ўдзел у першай (на жаль, няўдалай) спробе яе стварэння. Нават пакінуў дзейнасць у «Маладым фронце». Рымашэўскага абралі намеснікам кіраўніка Маладзёвага хрысціянска-сацыяльнага саюза (МХСС).

Тады склалася амаль унікальная сітуацыя. Спроба стварыць «Дарослую» не дасягнула поспеху, а яе «маладзёвае крыло» дзейнічала шмат гадоў. Больш за тое, праз сваю актыўнасць Віталь Рымашэўскі стаў сябрам Прэзідыума Нацыянальнай Рады маладзёвых і дзіцячых аб'яднанняў Беларусі. Пакуль яе не ліквідавалі, гэта была досыць дзейсная моладзевая «парасонавая» структура.

У тыя ж часы Віталь Рымашэўскі працаваў у кіруючым органе Асацыяцыі маладых палітыкаў.

Як вядома, маладзёвым структурам складана існаваць без «партыйнага даху». Раз хрысціянска-дэмакратычную партыю тады не стварылі, рашэннем большасці чальцоў арганізацыі МХСС стала «крылом» Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

Натуральна, што, калі пачала стварацца хрысціянская дэмакратыя, Віталя Рымашэўскага запрасілі ў аргкамітэт. На той момант ён ужо пачаў працаваць і ўмоўна складаўся з двух частак. У адной былі вядомыя палітыкі хрысціянскага накірунку (Павел Севярынец, Аляксей Шэін і інш.), у другой — вернікі розных канфесій. Запрашэнні паступілі адразу з двух.

Было гэта ў 2005 годзе, а праз некалькі гадоў адбыў установчы з'езд, дзе Віталя Рымашэўскага абралі сустаршынёй Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. З таго моманту БХД праводзіць свае з'езды штогод, але беларускае Міністэрства юстыцыі іх ігнаруе, кожны раз адмаўляючы партыі ў афіцыйнай рэгістрацыі.

Думаю, на гэты момант трэба звярнуць увагу асобна. Гутарка пра стасункі паміж Паўлам Севярынцам і Віталём Рымашэўскім. Разышліся яны ў «Маладым фронце» не вельмі станоўча. Спрадвечная праблема беларускай апазіцыі ў тым, што ў ёй заўсёды пануюць сваркі і спрэчкі. Два чалавекі не могуць зрабіць нават тры крокі разам і не разысціся пры гэтым у розныя бакі. У лепшым выпадку — «мірна разысціся», а звычайна — пасварыцца.

Севярынец і Рымашэўскі не засталіся пасля «Маладога фронту» сябрамі, таму, калі Павел запрасіў Віталя ў аргкамітэт БХД, апошні аднёсся да гэтага з пэўнай насцярогай. Пагадзіўся, але вырашыў працаваць не на нейкага канкрэтна, а на тыя рэчы, якія будуць мець для Беларусі безумоўную каштоўнасць.

Напрыклад, Віталь Рымашэўскі ўзначаліў праект «Пакаянне». Неўзабаве ўзнік адпаведны сайт і віртуальны музей былых палітрэпрэсаваных (паспелі запісаць шмат апошніх сведак сталінскіх рэпрэсій).

Можна нагадаць кампаніі «Люблю Беларусь» і збор подпісаў (сабралі беспрэцэдэнтныя больш як 50 тысяч) за змены ў законе «Аб свабодзе веравызнання», у распрацоўцы і правядзенні якіх Віталь браў непасрэдны удзел.

Сумесная праца вельмі станоўча паўплывала на асабістыя стасункі паміж палітыкамі. Больш за тое, калі БХД абрала Віталя Рымашэўскага сваім кандыдатам на прэзідэнцкіх выбарах 2010 года, менавіта Павел Севярынец стаў начальнікам яго перадвыбарчага штаба.



Хочацца звярнуць увагу і на момант сустаршынства. Для Беларусі — з'ява ўнікальная. Усе кажуць, што ў нас не павінна быць «партый лідара», а трэба стварыць «партыю ідэй», аднак у рэальнасці ўсё адбываецца наадварот. Кампрамісу ў гэтым сэнсе змаглі дабіцца толькі ў БХД.

Наконт прычын адсутнасці афіцыйнай рэгістрацыі можна спрачацца даволі доўга. Віталь Рымашэўскі лічыць, што галоўная прычына ў тым, што партыя не з'яўляецца лаяльнай прэзідэнту Лукашэнку, і з гэтым вельмі цяжка не пагадзіцца.

## Рэлігійны выбар

З самага дзяцінства, як і многія равеснікі, Віталь пачаў шукаць сэнс нашага жыцця. Звычайна ў 16-17 гадоў гэта «праходзіць», аднак Рымашэўскі стаў тут выключэннем. Канешне, як і іншых маладых людзей, яго цікавілі розныя рэчы, але філасофскія (рэлігійныя) пытанні былі самымі галоўнымі. Калі чалавек шукае Бога, то Гасподзь рана ці позна да яго прыходзіць.

З Рымашэўскім усё адбылося ў 1996 годзе. Распавесці такое ў кароткім нарысе немагчыма, таму канстатую толькі факт, што з гэтага моманту Віталь радыкальна змяніў свае погляды ад атэізму да хрысціянскага веріка.

Праз месяц Віталь па-сур'ёзнаму прыйшоў у праваслаўную царкву, бо хрышчоны быў у дзяцінстве менавіта ў ёй. Не хочацца кранацца нейкіх міжканфесійных адносін, але сёння ўлада сама падзяліла вернікаў на «сваіх» і «чужых». Яна ў нейкім сэнсе манапалізавала праваслаўе, а да ўсіх іншых хрысціянскіх канфесій ставіцца даволі насцярожана. Маўляў, менавіта з іх паходзяць усе, каго сёння адносяць да «пятай калоны».

Спрачацца з гэтай відавочнай хлуснёй няма сэнсу па той прычыне, што праваслаўе было ў нашай краіне задоўга да таго, як нехта прыдумаў «інтэграцыйныя гульні», і нават раней «ператварэння» Беларусі ў «Северо-западный край»... Другое пытанне, што ў апошнія 18 гадоў вера людзей у Бога стала яшчэ і палітычным інструментам...

Тым, хто ў нечым сумняваецца, нагадаю, што ў 1514 годзе ПРАВАСЛАЎНЫ Канстанцін Астрожскі пад Оршай перамог ПРАВАСЛАЎНАЕ маскоўскае войска.

Дарэчы, менавіта з гэтай рэлігійнай канфесіяй у Рымашэўскага звязана другая адукацыя і сустрэча з «другой палавінкай».

У 2002 годзе Віталь Рымашэўскі стаў студэнтам Маскоўскага Свята-філарэтаўскага праваслаўнага хрысціянскага інстытута і нават амаль яго скончыў. Слова «амаль» тут азначае, што праз чатыры гады вучобы Віталю не далі абараніць дыпломную працу. І не маглі даць: тая называлася «Церковь и движение национального возрождения в Беларуси». Сёння гэта зрабіць у Расіі немагчыма па вызначэнні, бо нават лібералы ўспрымалі (і ўспрымаюць) нашу краіну часткай Расіі.

З высновай «за националистические идеи» да абароны Віталя Рымашэўскага банальна не дапусцілі. Аб такой «ўзнагародзе» апазіцыйныя беларускія палітыкі могуць толькі марыць...

Што тычыцца жонкі Насты, то яны пазнаёміліся ў Петрапаўласкім саборы, але «сышліся бліжэй» падчас сумеснай завочнай вучобы ў хрысціянскім інстытуце. У 2009 годзе нарадзілася дачка Ева.

### Выбар дзеля будучага

На думку Віталя Рымашэўскага, самы сумны вынік снежаньскіх падзей 2010 года ў тым, што высновы зроблены не былі, а многія рэчы засталіся недагаворанымі. Ні для ўдзельнікаў Плошчы, ні для тых, хто там не ўдзельнічаў, але потым рабіў розныя заявы. Гэта можа прывесці да кепскіх наступстваў (даруйце таўталогію — заўвага аўтара) на наступных прэзідэнцкіх выбарах. Дакладней сказаць, «прэзідэнцкай кампаніі», бо ніякіх выбараў у нас няма ўжо даўным-даўно.

Віна ў тым, што адбылося (перакананне самога Рымашэўскага — заўвага аўтара), ляжыць не толькі на палітыках, але і на журналістах і ўсіх тых, хто звязаны з дэмакратычным рухам. Калі не рабіць высновы з асабістых памылак, не даваць добрыя і дрэнныя адзнакі, то ў будучым сітуацыя можа стаць яшчэ горшай.

Калі раней рэжым спрабаваў знішчыць усіх, то цяпер робіць гэта не нягегла і брутальна, а паступова. Знішчэнне стала насіць выбарачны характар. Па аднаму распраўляюцца з палітыкамі і іх структурамі. У прынцыпе, такі «працэс» дае права выбару, магчымасць некаторым больш «лаяльным» адстаяцца» ў старонцы. Тады менш чапаюць.

Сёння галоўнае пытанне Беларусі — пытанне салідарнасці. І справа тут не толькі ў лістах і перадачах. Гэта таксама патрэбна і важна. Палітыкі павінны бараніць адзін аднаго, бо знішчыць можна не толькі фізічна, але і палітычна.



На жаль, так адбываецца далёка не заўсёды.

Яскравы такі прыклад — Аляксандр Казулін. У свой час для яго вызвалення было зроблена не вельмі многа і зусім мала, каб не дазволіць сітуацыю, калі чалавек «сядзіць,» змясціць яго з кіраўніка партыі, здрадзіць.

Сумна, але гэта працягвае адбывацца на прыкладзе іншых арганізацый або палітыкаў.

Калі закрываць вочы і спрыяць уладзе, то ў Беларусі хутка зусім не застанецца незалежнага дэмакратычнага руху.

Апошнім часам даволі часта прыходзіцца чуць пра падзел беларускай апазіцыі на «радыкалаў» і «канструктыўных», яе «прарасійскія» альбо «празападныя» плыні. Цалкам згодны з тымі, хто лічыць такую класіфікацыю далёкай ад рэчаіснасці і штучнай. І не здзіўлюся, калі некалі высветліцца, што яе прыдумалі існуючыя сёння спецслужбы.

# БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛАЕ КАХАННЕ



**Падрыхтавана да друку 27.11.2012**

*Даведка: Наста Палажанка нарадзілася 2 жніўня 1990 года ў Мінску. Вучылася ў 73 мінскай школе (з паглыбленым вывучэннем нямецкай мовы) і ў 37 школе (з эстэтычным ухілам). З 2008 года — студэнтка факультэта філасофіі і палітычных навук Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта.*

*У 2008 годзе Наста была абрана намесніцай старшыні «Маладога Фронту», у які прыйшла ў чатырнаццацігадовым узросце. У 2007 годзе была асуджаная па артыкуле 193.1 Крымінальнага кодэкса («дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі»). У якасці пакарання суд вынес папярэджанне. Неаднаразова затрымлівалася і адбывала адміністрацыйныя арышты.*

*Пасля акцыі пратэсту 19 снежня 2010 года Насту Палажанку арыштавалі дома ў 3 гадзіны 20 хвілін ночы. Захоп дваццацігадовай дзяўчыны ажыццяўляўся сіламі пятнаццаці супрацоўнікаў КДБ. Утрымлівалася ў СІЗА КДБ. Першапачаткова абвінавачвалася ў арганізацыі і ўдзеле ў масавых беспарадках (чч. 1 і 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса). 17 лютага 2011 года ўвечары адпушчана пад падпіску аб нявыездзе. 30 сакавіка абвінавачванне перафармулявана на ч.1 арт.342 КК РБ (арганізацыя дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо ўдзел у іх).*

*20 траўня 2011 года суддзя Фрунзенскага раёна Мінска Жана Жукоўская агучыла прысуд — адзін год умоўна з выпрабаваўчым тэрмінам 1 год.*

*Даведка: Зміцер Дашкевіч нарадзіўся 20 ліпеня 1981 года ў Беларусі. Да пяці гадоў жыў у Расіі на Далёкім Усходзе ў пасёлку Ягаднае Магаданскай вобласці. Потым — вяртанне ў Беларусь, у горад Старыя Дарогі. Там скончыў школу № 2. Вучыўся ў Гродзенскім сельскагаспадарчым інстытуце. Пазней паступіў у Віленскі педагагічны ўніверсітэт на факультэт славістыкі.*

*У 2001 прыйшоў у «Малады Фронт», у 2004 годзе абраны яго старшынёй. Неаднаразова прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці. У 2006 годзе арыштаваны па абвінавачванні ў «дзейнасці ад імя незарэгістраванай арганізацыі» паводле арт. 193.1 Крымінальнага кодэкса. Асуджаны на паўтары гады зняволення.*

*Быў затрыманы прэвентыўна 18 снежня 2010 года на вуліцы разам з Эдуардам Лобавым, абвінавачаны па крымінальным артыкуле «злоснае хуліганства» (ч. 3 арт. 339 КК).*

*24 сакавіка 2011 года судом Маскоўскага раёна Мінска асуджаны на 2 гады калоніі агульнага рэжыму.*

*28 жніўня 2012 года ў папраўчай калоніі № 13 у Глыбокім выязны суд асудзіў З. Дашкевіча яшчэ да 1 года калоніі па абвінавачванні ў непадпарадкаванні адміністрацыі папраўчай установы (ч. 1, арт. 411 КК РБ).*

Перад мужнасцю гэтых маладых людзей сёння схіляюць галовы ўсе. У тым ліку і аўтар гэтага нарыса. А зараз мне б вельмі хацелася сказаць і яшчэ адну крыху пафасную фразу: пакуль у нас ЁСЦЬ такая моладзь, як Наста Палажанка і Зміцер Дашкевіч, у Беларусі ЁСЦЬ будучыня.



## Шляхам Насты

Усе 22 гады (з самага нараджэння) свайго жыцця Наста Палажанка правяла ў Мінску. Яе бацькі (Галіна Уладзіміраўна і Уладзімір Міхайлавіч) пераехалі сюды з Кіраўска, каб мець лепшую перспектыву для свайго жыцця і даць яе дзецям.

На жаль, 16 гадоў таму Галіны Уладзіміраўны не стала, таму ўвесь цяжар па выхаванню дзяцей лёг на плечы яе мужа.

Брат Насты Сяргей старэйшы за яе на дзевяць гадоў. Універсітэт ён скончыў з чырвоным дыпломам і зараз працуе індывідуальным прадпрымальнікам у галіне IT- тэхналогій.

Вучоба ж самой Насты пачалася ў 1997 годзе, калі яна першы раз пайшла ў першы клас сталічнай школы №73. Напэўна, яе і скончыла б, каб не дзве абставіны.

Першая звязана з сяброўствам у «Маладым Фронце»: праблемамі ў выглядзе міліцэйскіх візітаў і ўзбуджэння крымінальнай справы ў 2007 годзе.

Другая — абранне дырэктрысы Насты дэпутатам мясцовага Савету.

Так атрымалася, што гэта адбылося амаль адначасова.

І яшчэ адзін вельмі прынцыповы, на мой погляд, момант. У Насты і яе школьнай дырэктрысы былі кардынальна супрацьлеглыя погляды на тое, што адбываецца ў краіне. Апошняя была перакананай прыхільніцай улады, таму, калі яе «абралі», пачалося тое, што называецца здзекамі над адным пікантным месцам... Тым самым, якое некалі паэт Саша Чорны называў «седалищем»...

Даходзіла нават да таго, што адміністрацыя школы дэманстратыўна не віталася з Палажанкай. Цярпела Наста да сярэдзіны адзінаццатага класа, а потым не вытрымала, вырашыла змяніць месца навучання.

Той, хто думае, што ў нашай «сацыяльна-стабільнай» краіне такія рэчы робяцца вельмі проста, фатальна памыляецца. Разам з бацькам Наста Палажанка аб'ехала шмат сталічных школ. Вучылася яна добра (тут перашкодаў не было), але, калі ў новым месцы з дапамогай «камп'ютарнай базы» даведваліся пра «палітычна-міліцэйскія» праблемы, адразу адмаўлялі. Пагадзіліся толькі ў сярэдняй школе № 37 з эстэтычным ухілам.

Дарэчы, кампанію Насці склалі яшчэ трое яе сяброў. Такая праява салідарнасці сёння сустракаецца вельмі рэдка. Асабліва калі ўлічыць, што гэта была другая палова выпускнога адзінаццатага класа...

У «Малады Фронт» дзяўчына прыйшла ў 2004 годзе. Ёй было тады чатырнаццаць гадоў і вучылася яна ў восьмым класе. «Глеба» ж для гэтага была падрыхтаваная значна раней. З самага дзяцінства хацелася ведаць сапраўдную гісторыю сваёй краіны, размаўляць на роднай мове.

Сумна, але гэтае жаданне прыйшлося менавіта на той час, калі на ўсім гэтым афіцыйна быў «пастаўлены крыж». Асабліва пасля рэферэндуму 1995 года, калі ў кране прынялі «двухмоўе». Не трэба быць нацыяналістам, каб убачыць, як імкліва з нашага жыцця пачало знікаць усё беларускае, а патрабаванне «говорить нормально» стала не толькі вельмі распаўсюджаным, але і амаль абавязковым.



Некалькі месяцаў таму выпала пабываць у добра вядомым яшчэ з савецкіх часоў «Доме дружбы». Такога раней не было, але мне сапраўды прыйшлося тлумачыць, што «аднолькавы» на рускай мове азначае «одинаковый». На жаль, сярод сучаснай моладзі час ад часу сустракаецца і падобнае.

Таму можна толькі ўявіць, колькі разоў у сваім пакуль кароткім жыцці Наста Палажанка адчувала сябе «белай варонай»...

Нехта з сяброў прапанаваў схадзіць і паглядзець на тое, як у скверы Янкі Купалы будуць святкаваць Дзень бітвы пад Оршай. Хто будзе арганізоўваць імпрэзу, яна не ведала. Так лёс звёў яе з хлопцамі з «Маладога Фронту». Там і даведалася пра прынцыпы, каштоўнасці гэтай арганізацыі, а неўзабаве ўжо і прыйшла на першую для яе маладафронтаўскую Управу.

Першыя два гады бацька і старэйшы брат ставіліся да яе захаплення палітыкай насцярожана. На гэтай глебе былі нават сваркі. І вельмі сур'ёзныя. У іх доме панавала сапраўдная вайна. Асабліва пасля першага затрымання.

«Пералом» у стаўленні бацькі да яе «заняткаў палітыкай» адбыўся пасля таго, як на Насту завялі крымінальную справу за дзейнасць у складзе незарэгістраванай арганізацыі. Уладзіміра Міхайлавіча выклікалі ў гарадскую пракуратуру і сказалі пра тое, што яго дачка стала падазраванай.

Па адукацыі бацька Насты ваенны палітолаг (вучыўся ў памежным вучылішчы пры КДБ СССР) і таму вельмі добра разумеў, што можа тут атрымацца.

Ён прысутнічаў на многіх допытах Насты. Разумеў яе правату і тое, што дачка будзе ісці далей.

Уразіліператрус, які адбыўся ў іх кватэры ў адсутнасці Насты (такога бязмежжа бацька не мог нават уявіць), і суд над ёй. Вакол будынка тады сабралася каля трохсот чалавек, а ў самой зале прысутнічалі амбасадары, журналісты, палітыкі. Мабыць, тады Уладзімір Міхайлавіч і зразумеў, што Наста не адна і што ёсць людзі, дзеля якіх яна ўсё гэта робіць.

Было гэта ў 2007 годзе. За дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі суд вынес дзяўчыне (як непаўнагадовай) папярэджанне.

Пасля школы Наста Палажанка хацела паступіць на філасофскі факультэт БДУ, але добра разумела складанасці, якія могуць узнік-

нуць з далейшай вучобай у Беларусі. Канчатковы выбар быў аддадзены Еўрапейскаму гуманітарнаму ўніверсітэту, які сёння вымушаны працаваць у Вільні.

### Шляхам Зміцера

У яго пашпарце напісана, што Зміцер Дашкевіч нарадзіўся 20 ліпеня 1981 года ў вёсцы Кушняры Івацэвічскага раёна Брэсцкай вобласці, але гэта не адпавядае рэчаіснасці. У рэальнасці месцам нараджэння будучага лідара «Маладога Фронту» была вёска Багуцічы Ельскага раёна той самай вобласці.

Справа ў тым, што бацькі Зміцера былі журналістамі і іх «насіла» па свеце. У Беларусь яны прыехалі ў госці да сваякоў. Маці была цяжарнай, таму рэальным геаграфічным месцам нараджэння стала вёска Багуцічы, а ў пасведчанні аб нараджэнні запісалі радзіму таты Вячаслава Уладзіміравіча вёску Кушняры, што дазваляла тагачаснае заканадаўства.

Пра гэта аўтару распавёў сам Зміцер Дашкевіч чатыры гады таму, калі ішла праца над кнігай «Будзіцелі». Як і пра тое, што пасля заканчэння сярэдняй школы ў Старых Дарогах (лёс у 1986 годзе «закінуў» туды бацькоў) ён цэлы год правучыўся ў Гродзенскім дзяржаўным сельскагаспадарчым інстытуце. А пасля зразумеў, што гэта «не яго» і паехаў паступаць у Мінск на журфак БДУ.

Так атрымалася, што туды Зміцер не трапіў, затое трапіў у «Малады Фронт» і восенню гэтага ж года (2001) прыняў актыўны ўдзел у абароне (250 дзён) месца масавых расстрэлаў у Курапатах.

У 2004 годзе пратэставаў супраць рэферэндуму, у выніку якога Лукашэнка атрымаў права вылучацца прэзідэнтам і на трэці, і на чацвёрты тэрмін.

У гэтым жа годзе стаў кіраўніком «Маладога Фронту».

На прэзідэнцкіх выбарах 2006 Зміцер Дашкевіч працаваў у камандзе Аляксандра Мілінкевіча. Быў адным з арганізатараў акцый пратэсту, а таксама лідарам намётавага мястэчка на Кастрычніцкай плошчы. У верасні 2006 года яго арыштавалі па абвінавачванні ў «дзейнасці ад імя незарэгістраванай арганізацыі» і 1 лістапада асудзілі на паўтары гады зняволення.

23 студзеня 2008 года Зміцера Дашкевіча нечакана вызвалілі са Шклоўскай калоніі. Менавіта тады мы асабіста і пазнаёміліся. І я ўпершыню ў сваёй практыцы сутыкнуўся з тым, што патэнцыйны герой пачынае «інтэрв'ю» са смажання пельменяў на маёй кухні. Прыгатаваў іх тады Зміцер вельмі хутка і смачна, але справа не толькі ў гэтым. Аказалася, у маладога хлопца на тое, каб нармальна паесці, проста не хапае часу. І гэта не «фактура» для самапіяру, гэта аб'ектыўны факт.

Памятаю, тады яшчэ падумалася, што, калі такія людзі прыйдуць да ўлады, яны ў працоўны час не будуць гуляць у хакей... А падчас размовы стала зразумела, што іх немагчыма «зламаць», таму што яны шчыра (амаль фанатычнга) вераць у Бога і ў тое, што робяць...

Пра падзеі, якія адбыліся 18 снежня 2010 года, вельмі падрабязна расказана ў кнізе «Супраць плыні» (у нарысе пра Эдуарда Лобава), таму паўтарацца няма сэнсу. Дадам толькі, што 24 сакавіка 2011 года суд Маскоўскага раёна беларускай сталіцы «адзначыў» Зміцера Дашкевіча пакараннем у выглядзе 2 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму, але потым камусьці гэтага падалося мала.

28 жніўня 2012 года за «злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі калоніі» Дашкевічу «дадалі» яшчэ адзін год турмы.

### Шляхам выпрабаванняў

З Настай Палажанкай Зміцер Дашкевіч пазнаёміўся ў 2004 годзе, падчас чарговага вызвалення з Акрэсціна. З часам звычайнае знаёмства перарасло ў каханне, а сёння, калі (па зразумелым прычынам) у журналістаў няма магчымасці пагаварыць з самім Зміцерам, Наста Палажанка стала своеасаблівым інфармацыйным мостам паміж ім і астатнім светам. Прычым самым надзейным. Таму менавіта яе я і папрасіў расказаць пра тое, што адбывалася ў іх жыцці пасля таго, як быў агучаны прысуд.

— Адразу пасля затрымання Зміцер знаходзіўся ў мінскім ІЧУ. Пасля этапам адбыў у Жодзіна. Прабыўшы там некалькі месяцаў, быў накіраваны на «Валадарку», затым зноў перавялі ў Жодзіна, а адтуль адбыўся этап у Горкаўскую калонію. На пяты дзень свайго знаходжання там Зміцер трапіў у штрафны ізалятар. Потым больш за месяц да яго не пускалі адваката, і мы зусім не ведалі, што там адбываецца.

«Малафронтаўцам» тэрмінова прыйшлося праводзіць актыўную інфармацыйную кампанію ў яго падтрымку, акцыі і мітынг каля

самой калоніі з патрабаваннем прапусціць адваката. Скончыўся ён адміністрацыйнымі арыштамі ўдзельнікаў, і свой Дзень нараджэння (2 жніўня — заўвага аўтара) я «святкавала» ў дрыблінскай турме.

Пасля гэтай інфармацыйна-супраціўнай акцыі да Зміцера прапусцілі адваката, і мы сталі атрымліваць інфармацыю пра здзекі, пагрозы, абразы, якія ён там перажывае. Сталі гэтаму даваць адпор, падаваць адпаведныя заявы ў Дэпартамент па выкананню пакаранняў, пракуратуру, розныя суды. У адказ улада пачала «страхаваць» кіраўніцтва горкаўскай калоніі, і 19 верасня 2011 года Зміцера зноў этапавалі.

Напэўна, каб я не магла прыняць нейкі ўдзел у кантролі за тым, як адбываецца этап Зміцера, ды нічога не ведала, мяне ў гэты ж дзень разам з Уладам Яроменкам затрымалі ў Мінску за акцыю «Горад наш». У мяне забіраюць тэлефон і з яго дасылаюць усім маім сябрам паведамленне, што нас некуды вязуць і я не ведаю, дзе будуць судзіць. Зроблена гэта было для таго, каб у судовай зале падчас пасяджэння нікога не было. Шчыра кажучы, я крыху здзівілася пустой зале, бо ў «Маладым Фронце» так не прынята, нават у самыя небяспечныя часы як мінімум адзін чалавек ад нас падчас суда быць павінен. Хаця б для таго, каб пачуць прысуд...

Як мудрыя жанчыны, маці Мікіты Ліхавіда — Алена, і Эдзіка Лобава — Марына, разумелі, што ў рэшце рэшт нам «дадуць» суткі і прывязуць на Акрэсціна. Мне прысудзілі 12 сутак, Уладзю Яроменку — 13.

Міліцыянты, якія былі ўпэўненыя, што ўтаілі месца нашага знаходжання, нешта не «пралічылі», і нас на гэты раз не завезлі аўтобусам за плот, а, як звычайных алкаголікаў ці бамжоў, каторыя грамадскасці нецікавыя, «выкінулі» каля ўваходу, а ўсе дакументы перадалі дзяжурнаму.

У гэты момант да нас і падышлі Алена Ліхавід і Марына Лобава. Ад іх я і даведалася пра этап Дашкевіча, з іх дапамогай патэлефанавала свайму бацьку і расказала пра «суткі», а таксама папрасіла, каб ён звязаўся з адвакатам і максімальна прасачыў за Дзіміным рухам...

Увесь час маёй «адсідкі» Зміцера «кідалі» з СІЗА ў СІЗА — Магілёў, Віцебск і г.д. Ягоны этап адбываўся больш за тыдзень, пакуль не скончыўся ў Глыбоцкай калоніі.



***— Наколькі я ведаю, Глыбоцкая турма з'ўяляецца адной з самых жорсткіх у краіне?..***

— Так. Перад тым як «пераехаць» у гродзенскую «крытку», мы прайшлі самыя «крутыя» калоніі ў Горках, Глыбокім і Мазыры.

Такім чынам, напрыканцы верасня Зміцер прыбыў у Глыбоцкую папраўчую калонію № 13 і прабыў там амаль год. Потым яму «дадалі» год нібыта за сталае парушэнне рэжыму ўтрымання. Этапавалі на месяц у Віцебскае СІЗА, а адтуль у Мазыр, дзе Зміцер прабыў некалькі месяцаў.

Затым адбылося пасяджэнне (пра яго Зміцер не ведаў) аб пераводзе ў крытую турму. Так ён апынуўся ў Гродна.

***— У ноч на 26 красавіка 2011 года не стала Вольгі Дашкевіч, якой было толькі 53 гады... Як Вы пра гэта даведаліся?***

— З гэтай нагоды мне патэлефанаваў бацька Зміцера Вячаслаў Уладзіміравіч. Сказаў, што прыйшла бяда. Адразу зразумела, з чым гэта звязана, бо маці Зміцера вельмі балюча пераносіла ўсе яго пакуты.

Зранку я ўжо была ў пахавальным бюро і пачала збіраць неабходныя дакументы дзеля таго, каб суд Маскоўскага раёна Мінска (Зміцера судзілі менавіта там) даў магчымасць развітацца з маці.

У той момант Зміцер знаходзіўся яшчэ на «Валадарцы», таму што 5 траўня разглядалі яго касацыйную скаргу.

Хавалі Вольгу праз два дні, таму ў нас шмат часу не было і суд мусіў прыняць тэрміновае рашэнне. Не ведаю, з кім яны раіліся, але такі дазвол быў атрыманы. Як толькі я аб ім даведалася, паімчала на «Валадарку», але там ужо нікога з начальства не было.

Наступнай раніцай (27 красавіка — заўвага аўтара) кіраўніцтва сумна вядомага следчага ізалятара спачатку адмаўляла магчымасць развітання. Маўляў, няма канвою. І толькі судовае рашэнне прымусіла іх адвесці Зміцера ў Слуцк, да маці.

У гэты ж дзень са следчага ізалятара выехала машына і накіравалася ў Слуцк. Мы ехалі з ёй побач і ведалі, што там знаходзіцца Зміцер. У мяне па гэты дзень захаваўся нумар тэлефона канваіра, якому тлумачыла, куды і як трэба дабірацца.

Ведаю, што нейкія здымкі на гэты конт ёсць у інтэрнэце, але я не лічу, што ў такія моманты этычна нешта здымаць...

Гэта быў адзіны (за апошнія 19 месяцаў) момант, калі мы мелі зносіны не праз лісты.

***— Давайце вернемся да моманту Вашага арышту?***

— На тым, што адбылося вечарам 19 снежня на плошчы Незалежнасці, падрабязна спыняцца не буду па той прычыне, што там мне пашанцавала (калі ўвогуле ў такіх умовах можна выкарыстоўваць гэты дзеяслоў) не трапіць пад амапаўскія «дэмакратызатары» і ў аўтазак. Больш за тое, атрымалася трапіць на кватэру, якую перад выбарамі здымаў Зміцер, і сабраць для яго перадачу з цёплых рэчаў, якія я ранкам планавала прынесці яму ў ІЧУ.

Дамоў я трапіла толькі недзе каля трох гадзін ночы. Стала пісаць Зміцеру ліст. На трэцяй старонцы ў дзверы нашай кватэры пазванілі, і я зразумела, што гэта «за мной». Так яно і было.

Спачатку думала не адчыняць, але яны працягвалі званіць, пабудзілі майго тату. А потым я вырашыла адчыніць: узломяць дзверы. Падумалася, што мяне забяруць, а тата застанецца ноччу са зламанымі дзвярыма...

Папрасіла 10 хвілін на тое, каб пераапрануцца. Яны пагадзіліся. Гэта кажа пра тое, што гарадзенскія чэкісты пакуль не такія нахабныя, як мінскія. Пачала збіраць свае рэчы. Тата вельмі хваляваўся. Я яго супакоіла і папрасіла сабраць ежу, бо думала, што паеду «на суткі», а там харчавыя перадачы забароненыя. Ён пайшоў на кухню, паклаў у мой пакет катлеты. Хацеў пакласці яшчэ хлеб, але я спыніла: у турме яго хапае.

Дарэчы, потым іх у КДБ скралі, таму, калі пасля следчы казаў пра нейкі «чэкісцкі гонар», я распявала пра скрадзеныя катлеты... Каму раскажы — не паверыць: крадуць у самай «крутой» турме краіны...

Маршрут, па якім мяне вазілі, красамоўна сведчыў пра тое, што ў іх быў загад «забраць» і іншых сяброў «Маладога Фронту».

Шчыра кажучы, я думала, што мяне павязуць на Акрэсціна, а аказалася «амерыканка». Гэтую навіну ўспрыняла спакойна, бо там калісьці «сядзелі» Зміцер Федарук і Алег Корбан, а значыцца, «мы» праз гэта ўжо праходзілі.

Доўга вялі па нейкіх калідорах, пакуль мы не прыйшлі да кабінетаў следчых. Адны дзверы былі адчыненымі, і я ўбачыла там паўсоннага Анатоля Лябедзьку. Я вельмі «ўзрадавалася» знаёмаму твару і адначасова спалохалася ад думкі: ці шмат нас там?.. У той час яшчэ не ведала наколькі шмат...

Потым быў допыт, дзе даведалася пра тое, што мне «свеціць» ад «пяці да пятнаццаці». Следчы, які «кімарыў» на ўласным кулаку. Каля



чатырох гадзін чакання канваіра, бо яны не спраўляліся з ТАКОЙ колькасцю арыштаваных. Адсутнасць лістоў і ўсякай іншай інфармацыі. Прысуд.

***— Навошта Вам усё гэта? Замест «амерыканкі» прымалі б удзел у якіх-небудзь конкурсах прыгажосці...***

— Напэўна, гэта з малаком матулі. Я вельмі рана зразумела, што ў нашай краіне робіцца нешта не тое. На мой погляд, кожны чалавек павінен вырашаць праблему, якая яго кранае. Мяне кранае занядбаная палітычная воля беларусаў і абыякавасць да ўсяго вакол.

### Шлях да храму

Падчас працы над гэтым нарысам стала вядома, што ў гарадзенскай турме паляць лісты Зміцера Дашкевіча. Не ведаю, чым кіруюцца тыя, хто прымае такія рашэнні. Магчыма, сапраўды нейкай «энергаэканоміяй». Калі так, то адно яны сэканомілі дакладна — сумленне.

Магчыма, некаторыя памятаюць фільм Тэнгіза Абуладзэ «Пакаянне» і фразу пра тое, што не ўсе дарогі вядуць да храму. На мой погляд, Наста Палажанка і Зміцер Дашкевіч абралі менавіта той шлях, які да храму ў рэшце рэшт і прывядзе. Праз якія б пакуты не прыйшлося прайсці.

### Пасляслоўе

Апошнім часам у жыцці герояў гэтага нарыса адбыліся дзве ВЕЛЬМІ знакавыя падзеі. 26 снежня 2012 года яны пабраліся шлюбам, і Наста Палажанка стала Настай Дашкевіч. А 28 жніўня 2013 года на волю выйшаў Зміцер. Шчыра віншую! Дзякуй Богу! Бел-чырвона-белае каханне перамагло!



# НЕДАРЭМНЫЯ ПАКУТЫ

**Падрыхтавана да друку 07.01.13**

*Даведка: Ірына Халіп нарадзілася 12 лістапада 1967 года ў Мінску. Уласны карэспандэнт расійскай «Новой газеты» па Беларусі. Працавала намеснікам галоўнага рэдактара «Белорусской деловой газеты» і галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Имя». Неаднаразова падвяргалася пераследу за сваю прафесійную дзейнасць. Жонка кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава. 19 снежня 2010 года па дарозе з плошчы Незалежнасці гвалтоўна затрымана разам з мужам і змешчана ў СІЗА КДБ. У канцы снежня ёй прад'яўлена абвінавачванне па частках 1 і 2 арт. 293 КК (арганізацыя і ўдзел у масавых беспарадках). Падчас знаходжання Ірыны Халіп і Андрэя Саннікава ў СІЗА КДБ улады спрабавалі іх трохгадовага сына Даніка забраць у дзіцячы прытулак. 20 студзеня 2011 года адміністрацыя Партызанскага раёна Мінска выдала маці Ірыны Халіп — Люцыне Бяльзацкай — дакумент аб прызнанні яе апякункай унука. 29 студзеня 2011 года мера стрымання Ірыны Халіп зменена на хатні арышт. 4 красавіка абвінавачванне перакваліфікавана на ч. 1 арт. 342 (арганізацыя групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак). 16 траўня 2011 года асуджана на 2 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду на 2 гады.*

Напэўна, па колькасці розных прэмій Ірына Халіп — рэкардсмен не толькі ў журналісцкім асяроддзі. І кожны раз асабіста я шчыра радуюся, бо гэта той нячасты выпадак, калі «змагар за дэмакратычныя каштоўнасці» цалкам супадае з талентам і прафесіяналізмам.



### Выпрабаванні Люцыны Бяльзацкай

Калі над унукам было ўстаноўлена апякунства, Люцыну прымусілі адкрыць неабходны банкаўскі рахунак, куды пераводзілі мізэрныя дзяржаўныя грошы. Калі апякунства знялі, усе грошы Люцына Бяльзацкая перавяла на дапамогу хворым дзецям.

«Нарадзілася я ў Варшаве 23 ліпеня 1936 года. У 1939 годзе, калі Гітлер напаў на Польшчу, а Савецкі Саюз «вызваліў» Заходнюю Беларусь і Украіну, мае бацькі здолелі праз мяжу дабрацца да Беластока.

Бацьку звалі Юры Давыдавіч Бяльзацкі. Быў ён вядомым джазавым музыкантам. Яго імя ёсць у многіх польскіх энцыклапедыях. Скончыў вышэйшую школу музыкі імя Шапэна, потым кансерваторыю. Пісаў песні, меў свае выдавецтва.

Калі выйшла замуж, дзявочае прозвішча не змяніла.

Наш варшаўскі дом стаяў на вуліцы Таварнай, якую немцы бамбілі адной з першых. Памятаю, мама (Гута Якаўлеўна) нясе мяне на руках і кажа: «Заплюшчы вочкі!» Гэта рабілася для таго, каб дзіця не бачыла, што адбываецца навокал.

Тыя, хто з нашых знаёмых і сваякоў вырашыў застацца, усе загінулі.

Тагачасны першы сакратар кампартыі Беларусі Панцеляймон Панамарэнка быў вельмі вялікім аматарам джазавай музыкі. Ён загадаў сфармаваць Дзяржаўны эстрадны ансамбль пад кіраўніцтвам Эдзі Рознара, які потым стаў надзвычай папулярным. Рознар быў сапраўднай зоркай.

Граць у гэты ансамбль запрасілі і майго бацьку. Яны ездзілі з канцэртамі па ўсяму Савецкаму Саюзу. Потым некаторыя музыкі з'ехалі ваяваць у армію Андарса, і аркестр «даўкамплектавалі» савецкімі музыкантамі.

У 1946 годзе Эдзі Рознара арыштавалі і хутка назвалі «ворагам народа» за тое, што ён хацеў з'ехаць у Польшчу. Бацьку ж прапанавалі вярнуцца ў Беларусь, хаця была магчымасць застацца і ў Маскве. Спачатку ён працаваў у Бабруйскім тэатры аперэты, а потым у Оперным тэатры ў Мінску. Шмат пісаў музыкі да фільмаў. Яна гучыць практычна ва ўсіх беларускіх пасляваенных кіно. Усюды бацька быў у якасці дырыжора. Потым яго запрасілі кіраўніком эстраднага аркестра беларускага радыё і тэлебачання.

На жаль, у 1963 годзе ва ўзросце 53-х гадоў мой бацька пайшоў з гэтага жыцця.

У Мінску я з залатым медалём скончыла другую сярэднюю школу, якая тады была чыста жаночай. Зараз у гэтым будынку месціцца лечкамісія.

Паступіла на філалагічны факультэт аддзялення рускай мовы і літаратуры. Атрымала там таксама дыплом з адзнакай. Усё жыццё працавала ў выдавецтве Акадэміі навук. Спачатку назва цалкам адпавядала назве заснавальніка, а потым выдавецтва стала называцца «Навука і тэхніка».

З Валодзем мы былі знаёмыя яшчэ ва ўніверсітэце. Але толькі крыху, бо ён паступіў на журфак значна пазней майго курса. Для будучых журналістаў абавязковай была наяўнасць працоўнага стажу.

У той час у нас быў адзін факультэт, толькі розныя спецыяльнасці. Падчас агульных лекцый і сустракаліся. Дарэчы, разам з намі вучыліся Рыгор Барадулін, Гена Бураўкін, Толя Сачанка, Кастусь Цвірка і шмат хто яшчэ. А маладым аспірантам быў Ніл Гілевіч.

Фантастычны факультэт!

Натуральна, на філалагічным факультэце было вельмі шмат дзяўчат. Вельмі многія з іх выйшлі замуж за тых, хто сёння складае ЭЛІТУ беларускай літаратуры. Хлопцы з журфаку даволі часта прыходзілі на нашу абарону дыпломаў.

Адна з маіх сябровак — жонка кампазітара Сяргея Картэса. На прэм'еры яго чарговага музычнага твора мы з Халіпам і сышліся.

Па працоўнай лініі я прайшла шлях ад звычайнага карэктара да загадчыцы аддзела. З тых часоў ведаю практычна ўсю навуковую эліту Беларусі.

Першым часам было вельмі цяжка. Я ж згодна з дыпломам спецыяліст па рускай мове, а там даволі часта выпадала мець справу з мовай беларускай. Нічога — прызвычаілася.

Першай «карэктарскай» кнігай стала крытыка Алеся Адамовіча «Беларускі раман». Шмат разоў сустракалася з аўтарам. У выдавецтве гэта называецца «здымаць пытанні»... У мяне нават ёсць гэтая кніга з дароўным надпісам Алеся Міхайлавіча: «Чалавеку, ад якога на 80% залежыць пісьменнасць аўтара».

... 19 снежня 2010 года я засталася з унукам. Усе (Валодзя і Андрэй з Ірынай) пайшлі на Кастрычніцкую плошчу. Данька шчыра чакаў вяртання бацькоў і не мог зразумець, чаму іх так доўга няма. Мы «плялі» яму пра нейкую тэрміновую камандзіроўку... Хлопчыку было тады толькі тры з паловай гады... На жаль, гэта не перашкодзіла затрымаць яго ў дзіцячым садку, калі ўнук прыйшоў на ранішнік... Зрабіць такое могуць толькі людзі, у якіх цалкам адсутнічае сумленне...



Тры першых дні Ірына была ў якасці затрыманай. Толькі потым следчы патэлефанаваў і сказаў пра перавод у ранг арыштаванай, што дазволіла перадаць ёй самае неабходнае. Накшталт зубной шчоткі.

Было сказана таксама пра адпаведнае паведамленне ў службу апекі. Маўляў, дзіця засталося без дарослых. Я спрабавала сказаць, што ў яго ёсць яшчэ бабуля і дзядуля, але следчы больш не захацеў са мной размаўляць.

Праз два дні і быў той самы ранішнік, з якога Даньку не адпускалі з яго няняй. Патрабавалі, каб прыехаў хто-небудзь са сваякоў. Па дарозе ў дзіцячы садок я ледзь не страціла прытомнасць.

Унук знаходзіўся адзін у нейкім пакоі для гульняў, сядзеў за маленькім столікам і катаў па ім дзіцячую машынку. Мяне адразу правялі ў кабінет загадчыцы дзіцячым садком. Разам з ёй былі галоўны раённы спецыяліст па апецы і, што мяне ўразіла больш за ўсё, дырэктар прытулку. То бок, у іх ужо ўсё было падрыхтавана...

Аказваецца, у чацвер вечарам мне патэлефанаваў следчы, а ўжо ў пятніцу раніцай прывезлі дакументы з КДБ. У сувязі з гэтым мне заявілі: паколькі дзіця засталося без апякунства бацькоў, альбо я пішу заяву на апякунства, альбо (калі такой магчымасці няма») пра ўнука будзе клапаціцца дзяржава... На збор неабходных дакументаў мне далі толькі адзін месяц.

Сабрала ўсе неабходныя даведкі (псіха-неўралагічную, скурнавенералагічную, наркалагічную) і нават здала кроў на аналіз па СНІДУ. Як і Данька... І ніхто не звярнуў увагу на яго ўзрост...

Паспела ў патрэбныя тэрміны, але рашэнне было прынятае толькі праз два тыдні. Мабыць, у некага не было да чаго прычапіцца...

Нават калі вызвалілі Ірыну, апякунства не адмянілі. Адбылося гэта толькі ў ліпені 2011 года, пасля касацыі на прысуд.

### Сцэнар Уладзіміра Халіпа

Бацьку Ірыны Халіп ведаюць не толькі як аднаго з самых выбітных кінадакументалістаў сучаснасці. Уладзімір Трафімавіч яшчэ і ГРАМАДЗЯНІН. Менавіта з вялікай літары.

«Месца майго нараджэння вёска Двор Пліна Ушачскага раёна Віцебскай вобласці. Дата — 7 кастрычніка 1939 года. Калі ехаць з радзімы Васіля Быкава на радзіму Рыгора Барадуліна, мая якраз на паўдарозе. Раней яна адносілася да Полацкай вобласці, таму мы заўсёды лічылі сябе не «віцебскімі», а «полацкімі». У нас нават гаворка крыху адрозніваецца ад іхняй.

Мой бацька Трафім Іванавіч быў ваенным лётчыкам, а яго бацька Іван Адамавіч некалі быў царскім афіцэрам, за што «чэкісты» ледзь не рэпрэсавалі. Відаць, выратавала толькі тое, што ён сышоў у адстаўку значна раней за Кастрычніцкі пераварот…

Бацька вучыўся ў Горацкай сельгасакадэміі, але, калі адчуў пагрозу з боку карных органаў (яны трымалі «на ўліку» ўсіх), сышоў на чацвёртым курсе ў папулярныя тады «лётчыкі».

Скончыў адпаведную Качанскую вучэльню і стаў лётчыкам, але перад самай вайной зноў НКУС пачало цікавіцца яго асабістай справай. На ўсякі выпадак з арміі звольнілі і накіравалі аграномам у пасёлак Свір Гарадзенскай вобласці.

У дзіцячай свядомасці засталося некалькі эпізодаў таго жыцця. Вялікае возера, на беразе якога мы жывем у лазні, якую знялі ў якасці кватэры. Нашу гаспадыню потым «раскулачылі» і выслалі ў Сібір.

Калі пачалася вайна, раптам «узгадалі», што бацька лётчык, і яго забралі ў дзеючую армію. Пачаў ваяваць адразу, то бок 22 чэрвеня 1941 года. Прайшоў праз усю вайну да самай перамогі. Тройчы збівалі, быў вельмі цяжка паранены — паўгады лячыўся ў вайсковым шпіталі ў Казані.

Пасля перамогі над Германіяй, калі здавалася, што «ўсё скончана», іх полк перавялі на Далёкі Усход ваяваць з Японіяй.

У 1946 годзе зноў узгадалі, што ў бацькі «не вельмі добрае паходжанне». Напэўна, у гэтых дэбілаў з трыма класамі адукацыі ён «праходзіў» як «сын белагвардзейскага афіцэра». І нікому з іх не хапіла розуму, каб зразумець, што дзед звольніўся з войска за 15 год да з'яўлення «Белай гвардыі»…

З ваеннага бацьку зноў зрабілі аграномам.

Увесь час яго пераследавалі. Прыходзілася часта мяняць месца жыхарства. Памёр у Валгаградскай вобласці.

Дзед па лініі маці таксама быў заможным, меў свой хутар. За некалькі хвілін да арышту ў яго «разарвалася сэрца», і прыехаўшыя «энкавэдэшнікі» доўга ваганіся: весці нябожчыка ў пастарунак альбо не…

Так атрымалася, што я скончыў школу ў Кутаісі, дзе ў чарговы раз схаваліся бацькі. Два гады правучыўся ў дзявятай кутаіскай сярэдняй школе. Там былі цудоўныя настаўнікі, усё было не так.

Што б хто ні казаў, нават пры саветах Грузію так не «патрашылі», як Беларусь. За царскім часам у нашым будынку была гімназія, і з прыходам бальшавікоў нічога па сутнасці не змянілася. Ніводнага з былых настаўнікаў не звольнілі, не рэпрэсавалі.

У Грузіі ўсе часы было 11 гадоў навучання, а я не хацеў «сядзець на шыі» ў бацькоў, таму пасля дзявятага класа паступіў у Батумскае мараходнае вучылішча. Па парадзе разумных людзей пайшоў не на штурманскае, а на судамеханічнае аддзяленне, каб мець у тым ліку і «берагавую» прафесію.

Калі пачалася практыка, штурманы пайшлі на караблі, а мы — у слясарныя майстэрні. Там і зразумеў, што жалеза «не маё». Папрасіўся перавесці, але начальнік вучылішча адмовіў. Прыйшлося «сціснуць зубы» і дацярпець да выпуску. Адразу пасля яго паехаў паступаць у Адэскую вышэйшую «мараходку». Зрок ужо пачаў псавацца, і я не прайшоў медкамісію.

Прыехаў да бабулі ў Двор Пліна, а адтуль накіраваўся паступаць у БДУ «на журналістыку». Былі яшчэ хрушчоўскія часы, таму на многія спецыяльнасці можна было ісці толькі з працоўным стажам у два гады. Зарабіў яго ў родным калгасе і зноў паехаў паступаць. На гэты раз ніякіх праблем не было.

На старэйшых курсах у нас было паўгады практыкі. Першапачаткова хацеў паехаць на Паўднёвы флот у «На страже Заполярья». Не атрымалася, аднак час быў крыху ўпушчаны. Большасць газет ужо набралі стажораў, і на мяне згадзілася толькі «Чырвоная змена».

Кінулі «на перавыхоўванне» (быў вельмі падобны на стылягу) у сельскагаспадарчы аддзел. Адна супрацоўніца была ў дэкрэтным адпачынку, начальнік з язвай у шпіталі. Словам, «на гаспадарцы» застаўся толькі стажор.

У тыя часы ў краіне панавала кукурузнае шаленства. Кожны дзень у газеце павінна была быць на гэтую тэму паласа, а раз на тыдзень — разварот. Хто разумее, скажа, што гэта вельмі цяжка. Часам ад тэлефоннай трубкі распухала вуха. Нічога, справіўся, нават у камандзіроўкі ездзіў.

Праз месяц мяне ўзялі ў штат выдання, і далей я вучобу сумяшчаў з працай. І вельмі хутка (на жаль) стаў лідарам па пропуску заняткаў. Затое ніякага размеркавання ў мяне не было. І ўжо праз год пасля заканчэння БДУ стаў загадчыкам аддзела інфармацыі.

Нягледзячы на тое, што падчас вучобы ў нас была ваенная кафедра (Рыгора Барадуліна з-за яе ледзь не выключылі), мяне ваенкамат пасля таго, як зладіў, спачатку накіраваў служыць салдатам у сумна вядомыя Печы. І толькі потым прысвоілі лейтэнанта і накіравалі «даслужваць» камандзірам узвода ва Уручча.

Пасля вяртання ў Мінск адразу паступіў у аспірантуру Інстытута мастацтвазнаўства. У 1975 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю, і мяне запрасілі ў газету «Савецкая культура» асабістым карэспандэнтам па Беларусі.

Потым Машэраву падалося (яму зрабілі адпаведны данос), што па беларускай тэматыцы там ідзе амаль адна крытыка. Падчас нашай размовы высветлілася, што ўсё не так. Машэраў (з улікам таго, што гэта мая Радзіма) папрасіў напісаць сцэнар пра знакаміты партызанскі прарыў нямецкага акружэння (1944 год) і прапанаваў перайсці інструктарам у аддзел культуры ЦК КПБ. Сказана гэта было з такой шчырасцю, што адмовіць Машэраву я тады не змог.

Праз пэўны час сцэнар фільма «Полымя» быў напісаны, але пра яго, напэўна, забыліся. Як і пра мяне. Усе спробы вырвацца з партыйнай пасткі былі няўдалымі, але звольніцца адтуль у рэшце рэшт атрымалася. Адбылося гэта таемна і вельмі непрыгожа.

«Пакаралі» за тое, што даў дазвол на паказ аўтарскай версіі (не пакрэмсанай цэнзарамі) фільма Сяргея Параджанава «Колер гранату». Даведаўся пра звальненне толькі праз два тыдні пасля падзеі, калі прыйшоў атрымліваць свой заробак... Тады ж упершыню пачуў і пра новае месца працы — Дзяржкіно БССР. Адтуль даволі хутка перайшоў на студыю «Беларусьфільм», дзе працаваў галоўным рэдактарам сцэнарнай майстэрні.

Набліжалася 30-годдзе Перамогі, і тут узгадалі пра фільм «Полымя». Зняў яго вядомы (на жаль, ужо памерлы) беларускі рэжысёр Віталь Чацьверыкоў.

У 1987 годзе адбыўся пяты з'езд Саюза кінематаграфістаў СССР. Пад уплывам перабудовы яны ўжо дабіліся творчага самакіравання. І таго, што адгэтуль іх структуры не будуць падпарадкоўвацца партыйным структурам. На чале ўсіх творчых студый будуць стаяць не чыноўнікі ў выглядзе дырэктара, а мастацкі кіраўнік.



Так я стаў кіраваць студыяй дакументальных фільмаў «Летапіс». Працавалі добра, атрымалі шмат міжнародных прызоў, паспелі ажыццявіць шэраг цікавых праектаў.

Упершыню будучага кіраўніка дзяржавы я ўбачыў падчас нейкіх здымкаў у Вярхоўным Савеце 12-га склікання. Ён падаўся мне чалавекам далёкім ад нармальных стандартаў. Хутчэй наадварот.

Пасля таго як ён стаў прэзідэнтам, амаль адразу нам параілі змяніць назву праграмы «Адраджэнне», якая была прысвечана магутным постацям беларускай гісторыі і сучаснасці (накшталт Усяслава Чарадзея і Васіля Быкава). Тлумачылася гэта тым, што з такой назвай праграму не змогуць паказваць па тэлебачанні... Нічога змяняць не сталі.

Потым мне параілі зрабіць фільм пра Лукашэнку. Маўляў, «наверсе» не вельмі добра ставяцца да студыі...

Нічога рабіць і тут не сталі.

Некалькі разоў яны спрабавалі на чымсьці «злавіць» «Летапіс». Нават нечаканую фінансавую «праверку» рабілі. Не атрымалася.

У рэшце банальным загадам ліквідавалі саму студыю, і я адразу падаў заяву аб звальненні.

Было гэта ў 1996 годзе».

### Усмешка Ірыны Халіп

Калі Ірыну вялі па калідоры следчага ізалятара КДБ, яна гучна смяялася. І не толькі для таго, каб усе ведалі, што зламаць не атрымаецца. Галоўнай прычынай была гіпатэтычная магчымасць таго, што смех пачуе муж Андрэй Саннікаў, і для яго гэта будзе своеасаблівай падтрымкай.

«Я мінчанка. Практычна ўсё жыццё пражыла вакол Парка Горкага, так што ў нейкім сэнсе гэта мая «малая Радзіма».

Як «нормальный советский ребёнок», першы раз у першы клас пайшла ў сярэднюю школу №10, што месцілася ў Бранявым завулку, бо на той час жыла побач у бабулі Гітэль (маці маці — *заўвага аўтара*).

Дарэчы, яе дом аркай спалучаўся са школай КДБ, якая маскіравалася пад ваенную вучэльню. Памятаю, як нейкія афіцэры з эмблемамі сувязістаў пыталіся, як знайсці вучэльню сувязі, а бабуля адказала: тут нічога такога няма, а тое, што вы шукаеце, — за кутом...

Акрамя суседства з будучымі «байцамі нябачнага фронту», яе дом быў адметным яшчэ і тым, што там тады працавала крама «Дары прыроды». Службовы ўваход у яе знаходзіўся ў нашым двары, і перад ім заўсёды стаяла старэнькая «Победа» дырэктара па прозвішчу Бокун. Яго сын Валодзя Бокун потым стаў рэжысёрам і рабіў добрыя тэлефільмы. Мая бабуля сябравала з усімі прадаўцамі крамы «Дары прыроды», і час ад часу нам нешта ад гэтага сяброўства «перападала»...

Вельмі добра запомніла гэты двор таму, што там стаяла доўгая-доўгая лаўка, на якой вечарамі збіраліся амаль усе жыхары дома. А кожны год у Дзень Перамогі ўсе выносілі ў двор сталы, рабілі агульны стол і разам святкавалі. Цяпер нават уявіць такое цяжка.

Не так даўно туды зайшла. Бабулі, якія сядзелі на лаўцы, узгадалі і мяне, і Гуту Якаўлеўну Бяльзацкую, і маю маму. Аказалася, яны па наш дзень святкуюць усім дваром свята Перамогі... Напэўна, ва ўсім Мінску гэта адзіны дом, дзе жыве такая прыгожая традыцыя... На жаль...

У першым класе ў мяне выявілі скаліёз. І ужо праз два гады накіравалі ў спецыялізаваны інтэрнат. Гэта была такая «школа выжывання», пасля якой не страшная нават «армейская служба» альбо турма КДБ.

Калі апынулася ў інтэрнаце, мне не было і дзевяці гадоў. То бок, малое дзіця трапіла ў сітуацыю, калі трэба выжываць, бо ўсё распісана «ад званка да званка» і існуе поўная адсутнасць любой асабістай прасторы.

Пра пабытовыя праблемы нават і гаварыць не хочацца. Напрыклад, спаць прыходзілася на цвёрдай дошцы ў спецыяльнай гіпсавай форме, якая не дазваляла нават паварушыцца. І такая «бадзяга» на пяць гадоў.

Плюс дзеці, якіх «вырвалі» з сем'яў і якія ў большасці сваёй не разумеюць, што гэта было зроблена «во благо». Сапраўдная воўчая зграя. Кожны змагаецца за асабістае «месца пад сонцам», кожны хоча быць важаком. У зграі абавязкова некага цкуюць, некаму робяць «цёмныя», аб'яўляюць байкот. Бязлітасны дзіцячы калектыў. Калі звычайныя дзеці прыходзяць са школы, іх бацькі альбо бабуля з дзядулям будуць шкадаваць і мілаваць, то тут цэлы тыдзень думаеш пра тое, каб выжыць і паставіць сябе так, каб ніхто не змог нават падумаць, што мацнейшы за цябе.



Нягледзячы на тое, што ў інтэрнаце былі сябры і сяброўкі, усё роўна тое асяроддзе было вельмі бязлітасным. Асабліва калі дадаць яшчэ і тое, што нас пастаянна пераконвалі ў сваёй непаўнавартаснасці і дэфектнасці... Мне яшчэ пашанцавала... Памятаю, адна дзяўчынка прыйшла ў трэцім класе адначасова за мной (была ў лепшай форме па стану здароўя), а к канцу сёмага класа яна стала амаль гарбатай... І ніхто не мог нічога зрабіць...

Інтэрнат даў такую «прыстасаванасць» да любых умоў, магчымасць адаптавацца дзе заўгодна і ўжывацца з кім заўгодна. Нават з супрацоўнікамі КДБ, якія, як вядома, жылі ў маім доме да суда.

Хаця больш, канешне, дапамог Данька. Не хацелася, каб ён быў сведкам нашай «вайны»...

У звычайную школу (№54) вярнулася з пачаткам восьмага класа. Вельмі хвалявалася. Раптам нехта падумае, што інтэрнат быў нейкім неўралагічным... Скончыла яе з залатым медалём і пайшла на журфак БДУ. Бацькі хацелі, каб я была фізікам, але выбрала іншае і ні адной секунды аб гэтым потым не шкадавала.

Гэта тое самае, калі прыходзіш у краму, нешта на сябе прымераеш і разумееш, што рэч — ТВАЯ.

У бацькоў, канешне, быў шок, але яны ў мяне звыклыя да ўсяго...

Паступіла ў 1984 годзе, а з 1985 пачалася перабудова з яе вальнадумствам. Можна сказаць — пашанцавала яшчэ раз.

Пасля журфаку мяне (як і бацьку) накіравалі ў «Чырвоную змену», што адразу выклікала размовы пра нейкі «блат». Такія ярлыкі ўзнікалі неаднойчы, і з часам на іх я нават перастала звяртаць увагу.

Потым быў часопіс «Парус» і нават «Советская Белоруссия» (дакладней, дадатак з назвай «Панядзелак»). Было гэта якраз перад прыходам новай улады. Рэдагаваў яе тады Ігар Асінскі, і мы мелі цвёрды намер ператварыцца ў акцыянернае таварыства. Але газета стала прэзідэнцкай.

Неўзабаве з'явіліся «белыя плямы» замест даклада Антончыка. На месца Асінскага прызначылі Якубовіча, і я адразу адтуль звольнілася.

Добра, што ў гэты момант (1995 год) Пеця Марцаў адкрыў газету «Имя», і я адразу стала ў ёй працаваць. А калі яе не стала, пачала працаваць у «Белорусской деловой газете» і пісаць для прыдуманай

Светай Калінкінай «Для служебного пользования». Потым (амаль выпадкова) у 2003 годзе трапіла ў «Новую газету».

З Андрэем Саннікавым мы пазнаёміліся падчас прэзентацыі «Хартыі-97». Пачаўся раман, а з 2002 года (ужо 10 гадоў!!!) пачалі жыць разам.

Ніякага вяселля не было, а распісаліся мы для таго, каб па дакументах Андрэю не прыйшлося б усынаўляць свайго сына... Дурацкая бюракратычная сістэма... Распісаліся 8 траўня 2007 года. Памятаю, каб у мяне засталося адчуванне вясельнага картэжу, Андрэй прычапіў на капот свайго старэнькага зялёнага «Опеля» гумовую качачку, якіх звычайна мы бачым у дзіцячых ваннах, і сказаў: «Гэта будзе вясельны лімузін».

15 траўня 2007 года (у законным шлюбе) нарадзіўся Данька.

Часта пытаюцца: навошта мне тое, што адбылося потым? Адкажу без пафасу: каб жыць з чыстым сумленнем і ведаць, што я нікому не здрадзіла і не раблю нічога дрэннага. Як пісаў Салжаніцын, каб не жыць у хлусні».

**P.S.** Пасля шматгадзіннай размовы з гэтымі людзьмі цяжка пазбавіцца жадання сказаць нейкія лозунгі. Дадам толькі — заўсёды прыемна сустракаць тых, хто здольны ахвяраваць сабой дзеля іншых!!!

# «ЗЯМЛЯ» САННІКАВА



**Падрыхтавана да друку 07.12.12**

*Даведка: Андрэй Саннікаў нарадзіўся ў Мінску 8 сакавіка 1954 года. Скончыў у 1971 годзе 42-ю мінскую школу, у 1977 годзе — Мінскі дзяржаўны інстытут замежных моў, у 1989 — дыпламатычную акадэмію Міністэрства замежных спраў СССР у Маскве.*

*Працаваў у Таварыстве дружбы з замежнымі краінамі, у сакратарыяце ААН у Нью-Ёрку, быў дарадцам прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь у Швейцарыі. У 1995-1996 гг. — намеснік міністра замежных спраў Беларусі. Пакінуў гэтую пасаду ў лістападзе 1996 года ў знак пратэсту супраць правядзення антыканстытуцыйнага рэферэндуму.*

*У лістападзе 1997 года стаў стваральнікам і міжнародным каардынатарам грамадзянскай ініцыятывы «Хартия'97». У 2008 годзе ініцыяваў грамадзянскую кампанію «Еўрапейская Беларусь». За палітычную дзейнасць А.Саннікава неаднойчы арыштоўвалі, праследавалі і збівалі.*

*Кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь на выбарах-2010. Падчас разгону мірнай акцыі на плошчы Незалежнасці быў моцна збіты спецназам і разам з жонкай Ірынай Халіп жорстка затрыманы на шляху ў шпіталь. Утрымліваўся ў СІЗА КДБ. Абвінавачаны па чч. 1 і 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя і ўдзел у масавых беспарадках).*

*14 траўня 2011 года асуджаны на 5 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.*

*Вызвалены 14 красавіка 2012 года згодна з указам прэзідэнта аб памілаванні.*

*У кастрычніку атрымаў палітычны прытулак у Вялікабрытаніі.*

Можна толькі ўявіць, колькі разоў мае калегі выкарыстоўвалі штамп, які стаў назвай нарыса... Я таксама вырашыў звярнуцца менавіта да яго па той прычыне, што бачу пэўную сінанімічную сувязь паміж словамі «зямля» і «жыццё». І тлумачыцца яна вельмі проста: якую ЗЯМЛЮ выбіраюць людзі, такое ў іх і ЖЫЦЦЁ...

### Размова рэальная

З Андрэем Саннікавым мы сустрэліся напярэдадні дня абвяшчэння прэзідэнцкіх выбараў. Праз некалькі дзён інтэрв'ю было надрукавана ў «Народнай волі». Тое, што адбылося потым, добра вядома, таму паўтарацца няма сэнсу, а вось яшчэ раз нагадаць частку той размовы цалкам лагічна.

***— Наколькі я памятаю, паўтары гады ты таксама працаваў у гэтай уладзе. Атрымліваецца, што падтрымліваў Лукашэнку?***

— Ніколі.

***— А за каго галасаваў у 1994 годзе?***

— За Пазьняка. У той час я працаваў у Швейцарыі. Праз пэўны час пасля таго, як выбралі Лукашэнку, мяне паклікаў прызначаны тады міністрам Уладзімір Сянько. Да яго я і ішоў працаваць. Падчас нашай першай размовы, калі прагучала такая прапанова, я пагадзіўся не адразу. Сустракаліся яшчэ і пазней. Я сказаў, што зацікаўлены ў тым, каб стварыць прафесійнае МЗС. Тут нашы інтарэсы супалі. Менавіта ў тым, каб працягвалася праца, накіраваная на захаванне дзяржаўнасці і незалежнасці Беларусі.

***— А як ты ўвогуле стаў дыпламатам?***

— Нарадзіўся я ў Мінску. З залатым медалём скончыў знакамітую школу №42, якая дала Беларусі шмат вядомы людзей. Упэўнены, што многія з іх адгукнуцца на лічбу «42». Калісьці яе скончыў і мой бацька. Там працавала мая маці. Пасля паступіў у інстытут замежных моў.

Мэтанакіраванай мары стаць дыпламатам не было. Яшчэ падчас вучобы і пасля яе я працаваў перакладчыкам у Пакістане і Егіпце. Потым, можна сказаць, у гэтым напрамку быў зроблены першы крок. Я паступіў на курсы перакладчыкаў ААН (за савецкім часам у Маскве такія былі). Пасля заканчэння трапіў у сістэму саюзнага МЗС і з 1981 па 1987 год працаваў у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, дакладней, у службе рускіх пісьмовых перакладаў. Акрамя беларускай і рускай моў ведаю ангельскую, французскую і польскую.



Пасля даволі нечакана прапанавалі пайсці вучыцца ў дыпламатычную акадэмію. Пагадзіўся таксама не адразу. Іспыты там былі даволі сур'ёзныя. Два гады вучобы. Гэта можна лічыць другой адукацыяй, таму што вельмі адукаваныя і салідныя былі выкладчыкі — амбасадары, палітыкі, вучоныя. Пасля гэтага было шмат прапаноў. У тым ліку і пайсці працаваць у савецкае МЗС, але ж я заўсёды хацеў вярнуцца ў Беларусь. Мне вельмі пашанцавала, бо ў Маскве вучыўся ў 1987-1989 гады. Гэта кульмінацыя перабудовы. Прыехаў у Беларусь тады, калі ўжо было можна працаваць не на частку Савецкага Саюза, а на незалежнасць нашай краіны. Тыя часы ўспамінаюцца з асаблівай асалодай.

Менавіта тады я адчуў сябе не абстрактным савецкім чалавекам, а беларусам.

Мне вельмі складана патлумачыць, чаму гэта адбылося. Я не размаўляў па-беларуску, але заўсёды адчуваў сябе толькі беларусам. Усюды, дзе быў. Зразумела, што тут такое пытанне не паўставала, але потым пачалі з'яўляцца сябры ў Расіі і Украіне. Дарэчы, з украінцамі мне заўсёды было прасцей, бо яны не саромеліся, як і я, сваёй нацыянальнасці. Мяне заўсёды здзіўляе, калі ў анкетах на іншаземныя візы пра былое грамадзянства нехта піша «СССР». Я там заўсёды пісаў пра Беларусь, бо добра ведаю, што ў мяне быў пашпарт, дзе было напісана «пашпарт», а не «паспорт». Іншая справа, што гэта была адзнака ў савецкім пашпарце, але яна БЫЛА.

Быць беларусам мне хацелася заўсёды, хаця прапаноўвалі пераехаць у Маскву. Шмат знаёмых так і зрабілі. Што там хаваць, такіх людзей нямала і сёння. У тым ліку і журналістаў. Лічыцца, што там можна лепш сябе рэалізаваць.

У мяне такога жадання не было ніколі. Заўсёды пачуццё радзімы перамагала.

***— Наколькі на яго паўплываў твой дзед?***

— Хаця ў нашай сям'і і размаўлялі па-руску, але беларускую мову я чуў пастаянна. Напрыклад, добра памятаю, як дзед працаваў некалькі разоў з Макаёнкам і іншымі як рэжысёр, акцёр, а потым і выкладчык тэатральна-мастацкага інстытута. Зразумела, што неаднойчы я хадзіў у тэатр на спектаклі і таксама чуў там беларускую мову.

Бацька мой быў тэатральным крытыкам і таксама добра пісаў і размаўляў па-беларуску. А з другога боку маці да нядаўняга часу вы-

кладала рускую мову замежным студэнтам. Пагадзіся, спалучэнне вельмі цікавае.

На жаль, у школе беларускую мову я не вывучаў, але яна заўсёды прысутнічала ў маім жыцці.

***— Падчас працы ў Нью-Ёрку ты ўзначальваў Клуб рускай кнігі і арганізаваў там сустрэчы з некаторымі вядомымі «савецкімі беларусамі»?***

— Так, мы сустракаліся з Рыгорам Барадуліным, іншымі пісьменнікамі. Яшчэ арганізоўваў паказы фільмаў Турава, Пташука, Дабралюбава.

Напэўна, многія чытачы бачылі мемарыяльную дошку на адным з дамоў галоўнага праспекта. Усталявана яна ў гонар Канстанціна Мікалаевіча Саннікава. Менавіта ў гэтым доме жыў славуты беларускі рэжысёр, народны артыст БССР, адзін з заснавальнікаў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Дзед героя гэтага артыкула.

### Размова віртуальная

Даводзілася чуць, што некаторыя ўспрынялі ад'езд Андрэя Саннікава ў Вялікабрытанію з пэўным зларадствам. Маўляў, у камфортных умовах значна прасцей змагацца з «крывавым рэжымам». Не буду дыскутаваць на гэты конт.

На жаль, за апошнія 18 гадоў людзей прывучылі глядзець на рэчы вельмі цынічна. І яшчэ адно назіранне: іншым клеяць ярлыкі звычайна тыя, хто сам умее «змагацца» толькі на ўласнай кухні...

***— Што ты ўбачыў (з боку палітыкі) на волі?***

— Усё, што адбываецца ў палітыцы, было бачна і з турмы. За кратамі абвастраюцца «аналітычныя» здольнасці. Інфармацыі не хапае. Газеты проста не даходзяць. Лісты перахопліваюць. Іншых зняволеных караюць нават за спробы зносін. Таму прыходзіцца па абрыўках інфармацыі, па выпадковых размовах, у тым ліку з турэмшчыкамі, рабіць высновы пра палітычную сітуацыю. Абвастраецца яшчэ і нейкі асаблівы «зэкаўскі» нюх, у тым ліку і на палітыку. Таму было зразумела, што, пасля таго як расійскае кіраўніцтва ў чарговы раз бездапаможна падпарадкавалася Лукашэнку ў жніўні 2011 года і зноў вылучыла велізарныя сродкі на захаванне рэжыму, сітуацыя ў Беларусі будзе і далей ускладняцца. Страчаны чарговы шанец. Зразумела было, што рэжым настолькі перапалоханы падзеямі, якія адбыліся падчас «прэзідэнцкіх» выбараў, што будзе знішчаць сваіх праціўнікаў і кантраляваць усё апазіцыйнае асяроддзе.



***— Не было адчування дарэмных пакутаў?***

— Не, але было прыкра з-за таго, што пазбавілі волі ў той момант, калі шмат чаго можна было дасягнуць, у тым ліку і перамовамі, і нават у выніку канфрантацыі, але без гвалту.

***— Што першае зрабіў на волі?***

— Стаў на шлях вяртання да нармальнага жыцця. Старанна вымыўся, каб не дакранацца да сына турэмнымі пахамі і адзеннем, пераапрануўся ў хатняе і стаў чакаць, калі ён прачнецца.

***— Як складалася «жыццё пасля кратаў»?***

— Галоўнае на волі — гэта вяртанне да родных і блізкіх. Занадта доўга мы знаходзіліся ў расстанні. Не так проста было пачаць нармальна размаўляць. Я пастаянна «размаўляў» з імі, калі знаходзіўся за кратамі. І гэтыя размовы ў думках стварылі ілюзію, што мы шмат пра што пагаварылі ў рэальным жыцці.

Усе сябры засталіся сябрамі, і з'явілася вялікая колькасць новых сяброў, з якімі не быў знаёмы да турмы. Усе, хто дапамагаў маёй сям'і падтрымліваў яе і мяне, сталі сябрамі. На жаль, не з усімі паспеў сустрэцца і падзякаваць іх. Частка сяброў вымушана апынулася за мяжой. Калі выйшаў з-за кратаў, яшчэ не ведаў, што такі ж лёс чакае і мяне. Паспрабаваў узяць спакойны тон пры ацэнцы сітуацыі і магчымых шляхоў выхаду з тупіка, але гэта выклікала вельмі злосную і агрэсіўную рэакцыю рэжыму. Здаровы сэнс знік з узаемаадносінаў дыктатуры і апазіцыі. Стала зразумела, што асабіста мне не дадуць не толькі нешта рабіць, але і нават спакойна жыць. А пачуццё адказнасці перад людзьмі, якія паверылі нашай камандзе, пасля выхаду з-за кратаў толькі ўзмацнілася. Гэта ўсё і паслужыла прычынай ад'езду, упэўнены, што часовага.

***— У чым сутнасць жыцця за мяжой?***

— Я не ведаю, у чым сэнс жыцця за мяжой. Пытанне не да мяне. Я пакуль знаходжуся ў вымушаным ад'ездзе і працягваю займацца беларускімі праблемамі, а не замежнымі.

***— З моманту «прэзідэнцкіх» арыштаў прайшоў пэўны час. Думкі на гэты конт?***

— Арышты кандыдатаў у прэзідэнты 19-20 снежня для мяне сведчанне жывёльнага страху рэжыму перад непазбежнымі пераменамі. Так думаў падчас арышту, так думаю і цяпер.

***— Што трэба было (з пункту гледжання сённяшняга дня) тады зрабіць не так?***

— Шмат што можна было б рабіць па-іншаму, але былі жорсткія ўмовы: абмежаваны час, абмежаваныя (вельмі) рэсурсы і гіганцкія задачы. Думаю, што выціснулі з сітуацыі максімум, у тым ліку ахвяруючы сабой.

***— Навошта працягваць змаганне? Не баішся?***

— Я ў жыцці пазбягаю пафасу. Гэта прынцыпова. Проста працягваю рабіць тое, што рабіў, сыходзячы са сваіх перакананняў, прынцыпаў і разумення сітуацыі.

*Як вядома, гісторыя не ведае ўмоўнага ладу, таму пра тое, што магло б быць, калі б 19 снежня 2010 года перамог Андрэй Саннікаў, гадаць не будзем. Адназначна толькі, што адыходзіць у «палітычны цень» ён не збіраецца. А гэта значыць, што мы яшчэ не адзін раз успомнім пра «Зямлю Саннікава»...*

**P.S.** Летам 2013 года А. Саннікаў пераехаў у Варшаву.



# ЭДУАРД АКУЛІН



Падрыхтавана да друку 15.12.2012

*Напэўна, сярод сучасных паэтаў Эдуард Акулін самы часты госць ў беларускай глыбінцы. І гэта не камплімент. Гэта канстатацыя факта, які пры неабходнасці пацвердзіць Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». Але справа не толькі ў такой інтэнсіўнасці папулярызацыі (дастойнай быць прыкладам) беларускай мовы.*

*Заўсёды ўражвала незвычайная «лёгкасць на пад'ём». Часам нават не верылася, што яму — 50 гадоў.*

З Днём народзінаў мне пашчасціла. Нарадзіўся я акурат у адзін дзень, ці дакладней, у адну ноч з Госпадам—Богам, 7 студзеня 1963 года. Праўда, не ў стайні, а ў роднай хаце, якая на той час прытуліла яшчэ адну божую істоту — маленькае цялятка. Бо ў шчодры калядны вечар ацялілася карміліца, як мая бабуля Таццяна Канстанцінаўна Акуліна заўсёды з любоўю называла нашу карову Лыску. А здарылася гэта знамянальная ў маім жыцці падзея ў вёсцы Вялікія Нямкі, што прымасцілася на правым, крутаярым беразе Бесядзі на старажытнай Веткаўскай зямлі. Адразу ж агаваруся, што ніякага дачынення да веткаўскіх старавераў я не маю. Хрышчаны быў праваслаўным святаром, які жыў на нашай Старасельскай вуліцы і спраўляў усе хрысціянскія абрады ў сваёй хаце, бо Нямкоўскую Пакроўскую царкву, якая была збудаваная яшчэ ў 1876 годзе спалілі падчас кастрычніцкай смуты ў 1917 годзе. Спалілі мясцовыя камуністы, адзін з якіх праз 60 гадоў пасля свайго варварскага ўчынку выпадкова, ці не зусім, згарэў сам... Колючы вепручка, ён захацеў даліць вадою чыгун з бульбай , які стаяў у печы, а ў вядры аказаўся бензін, падрыхтаваны для смалення... Вось і не вер пасля гэтага ў Божы промысел...

* * *

Памятаю сябе з тых часоў, калі любіў, яшчэ нават не ўмеўшы хадзіць, падпаўзці да дзеда Цімоха (мужа бабулінай сястры) і пагушкацца на ягонай назе. Запомніўся яшчэ адзін «яркі» эпізод з маленства. Дакладней, наадварот. Бо электрычнасць у Вялікія Нямкі яшчэ не правялі. Хату ж па вечарах асвятляла звычайная газніца. Амаль такая ж, як у Багдановічаўскім вешы. Памятаеце? «Ноч. Газніца гарыць-чырванее. І гарбата, астыўшы, стаіць...»

Што да праўды, дык гарбаты ў сапраўдным сэнсе мы тады й не ведалі. Замест яе мы пілі або кампот з «крышанямі»(сушанымі яблыкамі), або кіпень, запараны маладымі вішнёвымі галінкамі... А крыху пазней, ужо на другім годзе майго жыцця, калі ўзімку, перавязаны, як французскі жаўнер падчас адступлення з Масквы, у шарсцяную бабуліну хусту, я падышоў на небяспечную адлегласць да каровы Лыскі, а тая, відаць, зблытаўшы мяне з сабачанём, убрыкнула задняй нагой так, што я ажыццявіў першы ў сваім жыцці міжпадворкавы пералёт. Дзякуй Богу, што зімы ў маім маленстве былі па-мележаўску — завейна-снежныя, і таму маё прызямленне аказалася даволі мяккім...

З «эратычных» згадак маленства запомнілася хаджэнне ў лазню, як у нас казалі, з «бабамі», гэта значыць, у жаночы заход. Праўда, акрамя страшэнна гарачай вады, у якой мяне заўсёды мыла, пасадзіўшы ў таз, сваімі парэпанымі (або, як Сыс Толя казаў, «фрэскавымі») ад працы далонямі мама, і ўедліва-горкага гаспадарчага мыла, якое штораз трапляла ў вочы, я нічога больш не запомніў... А з двух гадоў мяне залічылі ў дарослыя, і я стаў наведваць лазню разам з мужчынамі. Дарэчы, мыццё ў лазні для нас нямкоўцаў — своеасаблівы рытуал, штосуботняе свята душы. Менавіта душы, а не цела. Бо, як казаў наш сусед, заядлы лазеншчык, дзед Маркун: «Ото ж, душа. Яна і чарку прыгубіць любіць. Яна і шкварку прыгалубіць... А прыйдзе субота — ёй у лазню ахвота!..»

* * *

Маё маленства, самая шчаслівая і бесклапотная пара ў жыцці кожнага чалавека, было азмрочана дзвюма сумнымі падзеямі. Спачатку, калі мне было ўсяго шэсць гадоў, развяліся мае бацькі Лявон і Марыя. Я не памыліўся, напраўду Лявон, або, як яго звалі аднавяскоўцы — Грыцаў Лёнька (Грыцавы — наша вулічная мянушка, якая захавалася ад прапрадзеда Грыца). Аляксандравічам я стаў, дзякуючы памылцы сельсавецкага работніка, які ў бацькоўскім пасведчанні аб нараджэнні замест Леанід напісаў Аляксандр. Амаль што Багушэвіцкая гісторыя з Аляндаркам атрымалася... А праз паўтары гады (у 1971 годзе) пры трагічных абставінах загінуў бацька — у дарожна-транспартным здарэнні. Яму было ўсяго трыццаць тры гады. Як потым я напісаў у адным са сваіх нідзе не публікаваных вершаў: «А ў трыццаць тры — паміраюць Хрысты, мой бацька памёр у стольки»...

Божа мілы, якім прыгожым і таленавітым быў мой тата! Яшчэ ў вайну, у пяцігадовым узросце ён навучыўся граць на гармоніку, ды так віртуозна, што да яго, дванаццацігадовага падшыванца, на гранне вяселля станавіліся ў чаргу ўсе навакольныя вёскі. Пасля ён закончыў Веткаўскую музычную вучэльню па класе баяна і працаваў у саўгасе загадчыкам клуба і арганізатарам культурна-масавага жыцця вёскі. А як ён любіў маму! Ды яшчэ больш ён любіў музыку... Нідзе і ніколі я не бачыў, каб так, як мой тата, яшчэ нехта іграў... Ён сядаў на канапу, заплюшчваў вочы і, паклаўшы галаву на плячо баяна, пачынаў іграць. Мог іграць так гадзіну, дзве, тры запар, быццам хацеў пачуць не проста музыку, а самую яе душу, схаваную ў грудзях баяна...

* * *

«Мая Муза — даярка на ферме» — вершаваны радок Міколы Купрэева, нібыта напісаны пра маю маму. Яна магла запраста стаць Музай нашага паэта-пілігрыма, бязногага палескага бусла... Бо, папершае, была вельмі прыгожая і не проста вельмі, а страшна прыгожая. Яна жыла зводдаль ад вёскі, на зарэчным хутары з пасекай, і, калі вечарам ішла, прапахлая мёдам, са свайго пчалінага рая на «пятачок» у Нямковічы (старажытны назоў Вялікіх Нямкоў), хлопцы між сабой перашэптваліся: «Глянь, глянь, Царыца ідзе...» Вось так, ні больш, ні менш — Царыца... Але адукацыі ў Яе Вялікасці было толькі два класы... Я пытаўся ў маці пасля: «Чаму толькі два?» (Бацька закончыў сямігодку). На што, яна заўсёды адказвала: «Бабуля твая зусім чытаць не ўмела. А з мяне і двух класаў хапіла, бо не было калі вучыцца. Трэба было працаваць»... Вось чаму, як і гераіня верша Міколы Купрэева, мама ўсё жыццё прапрацавала даяркай на ферме. Што да праўды, працавала добра. Нават Ордэн Працоўнага

Чырвонага Сцяга за сваю працу ад савецкай улады займела. Толькі не займела сямейнага шчасця ды доўгага жыццёвага веку. У пяцьдзясят гадоў мамы не стала... І, як запозненае пакаянне, напішацца верш «Авэ, Марыя», прысвечаны памяці мамы:

Час прыйшоў за грахі вініцца...
Памяць паліць гады на тло.
Ды часцей стала мама сніцца —
не сама, а яе Святло.

Мне на гэта Святло маліцца —
покуль будзе мой шлях відзён...
— Мама, імя тваё свяціцца —
хай ад сёння — да скону дзён.

Гэта ж ты мяне нарадзіла.
Што змагла — то ў жыцці дала...
Ты і ёсць для мяне Радзіма.
Не прывыкну казаць — была.

Шкада, што гэты верш мама не прачытала пры жыцці. Бо з дня разрыву паміж бацькамі ў маёй дзіцячай душы пасялілася крыўда на маці. Я лічыў, што гэта яна вінаватая ў заўчаснай смерці бацькі... І калі маці, прыехаўшы з Гомеля, дзе жыла пасля разводу з бацькам, захацела забраць мяне да сябе, я катэгарычна (у свае восем гадоў) адмовіўся. Застаўся на выхаванні ў бабулі Таццяны. Бабуля ж выхоўвала мяне досыць строга. Часам магла паўшчуваць не толькі словам, а і матузамі ад хвартуха, а здаралася і лазінавым дубцом. За што я цяпер ёй бязмежна ўдзячны. Бо неаднойчы мог, як у нас у Нямках кажуць, страціцца — ці то падчас вясновага крыгаходу, калі перабягаў Бесядзь па плывучым крохкім лёдзе, ці, заклаўшыся на пяць рублёў з аднакласнікам, залез на ўроку працы на трыццацімятровы комін школьнай качагаркі...

* * *

А яшчэ за тое, што яна мяне навучыла шанаваць працу і людзей. Каб пракарміць Лыску, ужо з 12 гадоў разам з бабуляй я хадзіў улетку «касіць на працэнты». Гэта значыць — у найміты да саўгаса. Бо, каб атрымаць тых жа дзесяць сотак атавы на перазіміны для Лыскі, нам з бабуляй трэба было скасіць, высушыць і завезці на саўгасную ферму цэлы гектар сенакосу. Хто выкошваў за дзень хоць бы сорак сотак, той мяне зразумее, што гэта была за праца... Касіў я «сяміручкай», пакідаючы за сабой мятровы пракос. Стараўся — колькі мог, бо самай вялікай пахвалой для мяне тады былі словы дарослых касцоў: «Малайчына, хлапец! Добра косіць. Пад самы корань...»

А яшчэ былі бульбяныя соткі (узары, прапалі, палі атрутай ад каларадскіх жукоў, пасля скапай, прывязі з поля дадому, закапай у капец), а потым узарві ў пуні гной (пагрузі на тачку, вывезі ў гарод, раструсі...), напілуй і накалі дроў і г.д . І так дзень за днём, год за годам да самай...

Смерць бабулі была пакутнай. Аплакаўшы мужа, які загінуў на фронце ў 1944, а потым двух дарослых дзяцей (дачку і сына), падарваўшы здароўе ў галодныя пасляваенныя гады, яна не здолела перажыць Чарнобыль. У верасні 1986 года (у сямідзесяцігадовым узросце) бабуля перанесла інсульт, які прыкаваў яе да ложка ажно на цэлых пяць гадоў...

* * *

Сваё паэтычнае прызнанне, хай сабе і ў межах роднай вёскі, я атрымаў у дванаццаць гадоў, калі газета «Зорька» надрукавала мой верш «Радзіма», напісаны па-руску. Пад вершам змясцілі хатні адрас аўтара, і цягам месяца я атрымаў больш за трыста лістоў з усіх куткоў былога Савецкага Саюза, у тым ліку, з Чэхіі, Балгарыі і ГДР. Тады ж у мяне з'явілася і першая пашанотная мянушка — Паэт. Настаўнік роднай мовы і літаратуры Пятро Паўлавіч Раманаў, даведаўшыся пра гэта, аднойчы паклікаў мяне да сябе ў кабінет і прапанаваў для чытання некалькі кніг беларускіх аўтараў: Максіма Танка, Пімена Панчанкі і Максіма Багдановіча. Чамусьці вершы Максімакніжніка мяне ўразілі больш за ўсіх. А даведаўшыся, які жыццёвы шлях прайшоў паэт, у свае чатырнаццаць гадоў я пакляўся больш ніколі не пісаць на чужой мове... І ўжо ў 1979 годзе ў часопісе «Бярозка» надрукаваў свой першы верш на беларускай мове «Бесядзь». Я нават стаў пераможцам літаратурнага конкурсу «Я табе, Беларусь, шчыра песню пяю!», і ў якасці ўзнагароды ад рэдакцыі часопіса атрымаў некалькі кніг з аўтарскімі аўтографамі. І па сёння ў хатняй бібліятэцы я захоўваю адну з іх — паэтычны зборнік Юрася Свіркі

«Паўшар'е блакіту» з лаканічным подпісам: «Дарагі Эдзя, шчыра жадаю поспехаў у творчасці...»

* * *

Атрымаўшы благаславенне Юрася Мікалаевіча Свіркі, я для сябе іншай дарогі ў жыцці, акрамя як у паэзію, ужо не бачыў. Нягледзячы на тое, што бабуля, як магла, схіляла мяне да такой запатрабаванай на вёсцы прафесіі, як трактарыст, я цвёрда вырашыў паступаць у Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт. Але гэта было пасля заканчэння дзясятага класа... А ўвесь дзясяты клас я пражыў на аблоках... першага кахання, надкусіўшы грахоўны яблык першага пацалунку і перажыўшы трагедыю першай у жыцці здрады... Але сёння аб гэтым не шкадую, бо, насамрэч, калі б не было ў маім жыцці гэтай шэкспіраўскай фабулы, то не нарадзілася б пазней адна з самых любімых мною песень — «Жоўтая вяргіня». Жоўтая вяргіня расцвіла ў маёй душы з болю аб страчаным каханні...

* * *

Разрыў з каханай адбыўся проста на выпускным балі. Таму тым жа ранкам, нават не паспаўшы, я першым рэйсам аўтобуса накіраваўся ў Гомель, каб здаць дакументы для паступлення на гісторыка-філалагічны факультэт. Аддзяленне выбраў, не вагаючыся, беларуска-рускае. І «аканфузіўся» адразу ж на першым іспыце. Справа ў тым, што, каб апраўдаць высокае званне паэта, якое за мной замацавалася з дванаццаці гадоў, сачыненне па беларускай літаратуры я вырашыў напісаць у вершах... Гэта была ваенна-патрыятычная паэма «Сэрца маці». Але за свае «высока-патрыятычныя» намеры я атрымаў ледзь не самы нізкі ацэначны бал — тройку. Дзякуй Богу, хапіла розуму рускае сачыненне напісаць на чацвёрку, а гісторыю СССР і беларускую мову здаць на пяцёркі. Так збылася мара... абітурыента — я стаў студэнтам.

* * *

Студэнцкія гады — гэта жыццё ў жыцці. І яго нельга пераказаць у адным абзацы. Таму заштрыхую толькі самыя важныя эпізоды.

Яшчэ на падрыхтоўчых курсах я пазнаёміўся з Алесем Бяляцкім, ці, як мы яго любоўна тады называлі, — Белым. Алесь стаў самым блізкім маім сябрам. Сябрам — на ўсё астатняе жыццё... Пазней, у першы ж дзень заняткаў да нас першакурснікаў проста пасярод пары ў аўдыторыю прасунуў галаву Анатоль Сыс і, не звяртаючы ўвагі на лектара, гучна запытаўся: «Паэты ёсць?» — «Ёсць!» — не стрымаўся самы тэмпераментны і шабутны сярод нас, Анатолеў зямляк і цёзка, Сяржук Сыс. «Праў-д-а-а?» — у расцяжку з іранічнай інтанацыяй выгукнуў Анатоль. На што ўся аўдыторыя, пераважна дзявочая, узарвалася нястрымным маладым смехам. А Толя, як сапраўдны артыст, вытрымаўшы паўзу, сказаў: «Ну, тады прыходзьце сёння на пасяджэнне «Крынічкі»... Так Анатоль Сыс увайшоў у маё жыццё, каб застацца там назаўсёды... Ён стаў нашым літаратурным кумірам, а да мяне, даведаўшыся аб тым, што я бязбацькавіч, наогул ставіўся, як да сына. Неаднойчы плаціў за мой абед у студэнцкай сталоўцы, заводзіў да старшакурсніц на бліны... І вельмі часта так і называў — «сынок». Мы бралі з Анатоля прыклад ва ўсім: у паэзіі, у паводзінах, у манеры апранацца і таньчыць і нават у манеры чытаць вершы... Але Анатоль Сыс — гэта тэма цэлага рамана, бо ён — не проста Сыс, ён — Ісыс (як ён сам сябе называў) беларускай паэзіі (прабач, Госпадзі, яго грэшную душу)...

* * *

А я... А я толькі вучыўся быць паэтам. Хаця нешта і ў мяне атрымоўвалася. Памятаю, як на адным з пасяджэнняў «Крынічкі», якую вёў Віктар Ярац, я прачытаў верш з радком «Сонца ў хмары язём нырае...»Адразу пасля пасяджэння Анатоль папрасіў падарыць яму гэты радок: «Я з яго верш добры напішу, а ў цябе ён проста прападзе». Я пашкадаваў радка. А цяпер шкадую, што пашкадаваў. Бо Анатоль умеў, адштурхнуўшыся ад чыйгосьці радка, напісаць сапраўдны паэтычны шэдэўр. А ў мяне гэты радок сапраўды прапаў...

Памятаю таксама, як напісаў сваю першую песню зімой 1980 года. Яна так і называлася «Памятаю, як ты...». Дарэчы, гэтую песню прылюдна раскрытыкаваў, пачуўшы ў адной з перадач Гомельскага тэлебачання, Сяргей Дубавец. І я, з душой чыстай, як вада ў святых нямкоўскіх крыніцах, даў сабе зарок больш ніколі яе не выконваць... Але з таго часу прайшло 33 гады, і, дзякуй Богу, які мяне прасвятліў, я скінуў з сябе зарок і свой новы кампакт-дыск пад назовам «Не магу жыць без крыл» пачаў з гэтай песні. Бо менавіта яна калісьці якраз і падарыла мне гэтыя крылы... Божа! Якімі мала-

дымі, якімі апантанымі і няўрымслівымі мы былі. Як акрылена жылі і тварылі для Беларусі. Ці гэта быў першы на Беларусі рок-гурт «Баскі»( заснаваны ў 1981 годзе), ці гэта былі археалагічныя раскопкі ў Мірскім замку, дзе мы працавалі разам з Алесем Бяляцкім, ці вандроўкі ў Нясвіж, Наваградак, Ішкалдзь, Вішнева ў пошуках, як нам тады здавалася, страчанай гістарычнай спадчыны, а насамрэч, у пошуках саміх сябе...

З 1982 года, пасля наведвання магілы Максіма Багдановіча, мы адзін аднаму ўрачыста пакляліся нідзе і ніколі не размаўляць па-расейску. Менавіта тады і напісаліся вершаваныя радкі, якія сталі маім жыццёвым і творчым крэда: «Помні гэтыя словы: Радзіма, Народ, Мова!»

* * *

І я ніколі пра іх не забываўся. І тады, калі настаўнічаў у Дуброўскай васьмігодцы, і за мной стала замацавалася новая мянушка «нацыяналіст». А гэта, кажучы словамі крымінальнага кодэкса, цягнула на адпаведны артыкул. Артыкула я не атрымаў, а вось пільную апеку галоўнага кэдэбіста Рэчыцкага раёна займеў, як і пазнейшую ганаровую прапанову, бо «не кожнаму такі давер» аб «творчым» супрацоўніцтве. Я падзякаваў за давер, але катэгарычна адмовіўся, спаслаўшыся на недахоп таленту ў такога рода «творчасці»...

А потым была вучоба ў аспірантуры НАН Беларусі. Уваход у аб'яднанне «Тутэйшыя». Пераезд у 1990 годзе ў Мінск. Праца ў «Беларускай хатцы» цягам 11 гадоў. Прыём у 1992 годзе ў сябры СБП з рэкамендацый Анатоля Грачанікава і Раісы Баравіковай. Праца ў часопісах «Першацвет» і «Полымя». Зыход у «дзеяслоўную» невядомасць. Пасада намесніка Старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў. Пасада — без аклада, пасада — без прынадаў. Бо ні кніг па-за выдавецкай чаргой, ні Дзяржаўных прэмій па кіраўнічым ліміце, ні замежных камандзіровак, як было ў ранейшыя часы, — нічога, акрамя згубленага для ўласнай творчасці часу, мне і маім сябрам—калегам не свяціла... Хаця свяціла... нечаканае знаёмства з супрацоўнікамі АБЭПа, дзякуючы даносу аднаго з «пісьменнікаў-праўдалюбцаў»...

У 1991 годзе, называючы свайго другога сына імем Верас, я і падумаць не мог, што праз васямнаццаць гадоў у мяне з'явіцца трэцяе дзіця — часопіс «Верасень», які вярнуў у маю душу веру ў людзей і непахісную веру ў «залацісты ясны дзень» для роднай Беларусі.

# СЯРГЕЙ АНТОНЧЫК



Падрыхтавана да друку 30.08.2013

*Калі ішла работа над гэтым нарысам, мяне вельмі здзівілі два моманты. Першы — філасофскі падыход да жыцця простага рабочага. Другі — менавіта гэты, непадобны на казачнага волата чалавек, некалі прымусіў гістэрычна плакаць Аляксандра Лукашэнку, які сёння ўладай асацыюецца з нечым моцным і непахісным. Калі я не памыляюся, нічога падобнага ў найноўшай гісторыі не было ні раней, ні потым.*

*І яшчэ. Сяргей Антончык недарэмна лічыць сваё жыццё шчаслівым, бо адна галоўная падзея ў ім ужо адбылася — абвяшчэнне дзяржаўнай незалежнасці. І ён меў да гэтага самае, што ні ёсць, непасрэднае дачыненне.*

## Ген датычнасці

Гэта не жарт, але Сяргей Антончык сапраўды нарадзіўся ў Дзень жартаў — 1 красавіка 1956 года. Адбылося ўсё ў «грыбной сталіцы» нашай краіны. Так што народная прымаўка «ў Беларусі тры сталіцы — Мінск, Бабруйск і Плешчаніцы (з націскам на апошні склад)» вельмі блізкая да рэальнасці.

Акрамя першай сярэдняй школы ў гэтым паселішчы гарадскога тыпу ёсць яшчэ адна такая ж і школа-інтэрнат, аднак СШ№1 традыцыйна была абранай па тэрытарыяльнай блізасці да дому. Дакладней, у такіх малых паселішчах звычайна ніхто места навучання дзяцей не абірае: ідуць туды, куды скажуць. Тым больш у тыя гады.

Сям'я Антончыкаў (пасляваенныя часы — заўвага аўтара), калі сказаць вельмі мякка, не была заможнай. Як і ў сучаснасці, школь-

ныя настаўнікі імкнуліся тады «наблізіць» да сябе дзяцей, чые бацькі жылі лепш за астатніх, то бок нашчадкаў мясцовага начальства.

А тут — бацька, былы зэк, сталяр-чырванадрэўшчык (родам з пасёлка Шацк, што пад Рудзенскам) Антон Дзмітрыевіч і маці Надзея Рыгораўна (родам з вёскі Гаравец, якая знаходзіцца недалёка ад Плешчаніц), што працавала ў мясцовай бальніцы. Апошнія 15-20 гадоў яна была санітаркай, а да гэтага «ўсім», то бок касцяляншай, загадчыкам гаспадаркі і нават на аперацыях хірургічнай сястрой. Пасля вайны так было шмат дзе. Словам, ніякай «круцізны».

У сям'і Антончыкаў было чацвёра дзяцей. Акрамя героя нарыса ў 1951 годзе нарадзіўся яго брат Аляксандр, у 1954 годзе — сястра Любоў, у 1960 — брат Зміцер.

Вучыўся Сяргей добра. Больш за тое, яму, як выдатніку, да восьмага класа давалі ганаровыя граматы. А потым пачаліся канфлікты з настаўнікамі: пераходны ўзрост, які звычайна суправаджаецца абвостраным пачуццём справядлівасці.

Цяпер на гэта ніхто не звярнуў бы ўвагі, а тады за «маральным аблічам будаўніка камунізму» сачылі вельмі пільна. Як звычайна, школьнікі хадзілі «пад танцы», якія зараз называюцца дыскатэкамі, а настаўнікі там іх «лавілі».

Дачка адной з калег маці (таксама з небагатай сям'і) «папалася», і настаўніца (прозвішча Сяргей Антончык далікатна не назваў — заўвага аўтара) пачала публічна яе «паліваць брудам» і зрабіла амаль ні прастытуткай. Словам, пакрыўдзіла вельмі моцна. Абураны, Сяргей знайшоў і прачытаў творы вядомага педагога Сухамлінскага, а потым працытаваў іх падчас аднаго з заняткаў.

Які тады падняўся вэрхал, можна толькі ўявіць, бо «савецкім настаўнікам» падобнае было цалкам незнаёмым. Маці Сяргея нават у школу выклікалі. Таму цалкам зразумела, што скончыў яе Сяргей ужо «больш-менш».

Вучыцца далей хацелася адразу, але матэрыяльнае становішча і асабістае сумленне гэтага дазволіць не маглі. Сяргей спачатку хацеў «зарабіць грошы» і толькі потым «некуды паступаць».

Маці дапамагла ўладкавацца ў леспрамгас. Як раней было модна казаць, свае першыя «працоўныя ўніверсітэты» хлопец праходзіў менавіта там.

Гэта была сапраўдная «школа жыцця», бо калектыў брыгады лесарубаў амаль цалкам складаўся з тых, хто некалі «сядзеў». На той час там плацілі вельмі добрыя грошы. Калі мама Антончыка атрымлівала заробак у 90 рублёў, то там плацілі 240. Але і працавалі ад цямна да цямна.Умовы былі вельмі цяжкімі.



Калі Сяргей прыйшоў туды першы раз, яны падумалі, што хлопца «працаўладкавала» міліцыя, і адносіліся як да «малалетняга хулігана», бо фізічна Антончык быў даволі моцным хлопцам. З часам высветлілася, што ён нармальны выхаваны чалавек, і гэта «напарнікаў» вельмі моцна здзівіла. Асабліва тое, што Сяргей не курыць, не п'е і не лаецца матам. Нягледзячы на тое, што ў гэтых людзей было шмат недахопаў, у іх не было ніякага фальшу. Больш за тое, тады Сяргей Антончык упершыню зразумеў: людзі, якія прайшлі праз гора, разумеюць, што такое дабро і зло.

Сярод іх былі розныя асобы. Калі хацелі працаваць — працавалі, калі не хацелі — кідалі. І ніякі дырэктар не мог да нечага прымусіць. У гэтых людзей быў нейкі своеасаблівы ГОНАР, СТРЫЖАНЬ.

Успамінаецца адзін вельмі красамоўны ў гэтым сэнсе момант. Сяргей заўсёды дапамагаў сям'і, бо яго бацька быў інвалідам. А калі таму з-за закупоркі сасудаў адрэзалі загніўшую нагу, хлопцу прыйшлося «ўзяць на сябе ўсё» (напрыклад, загатоўку дроў).

Аднойчы Сяргей не змог прыйсці на працу, а «напарнікі» падрыхтаваныя ім дровы прадалі за гарэлку. Калі юнак гэта ўбачыў, на яго вочах навярнуліся слёзы. «Напарнікі» заўважылі, але прамаўчалі.

На другі дзень вальшчык прывёз цэлы воз адборнай бярозы. Такую на дровы нават нельга было пускаць. «Напарнікі» так і сказалі: «Гэта табе, малады. Ніколі не страчвай самавалодання».

### Успамін першы

— Мой бацька 17 год прасядзеў у турме. Калі я быў дэпутатам, я папрасіў тагачаснага старшыню КДБ Генадзя Лавіцкага паказаць мне яго «справу». Бацька «сядзеў» у Ніжнім Тагіле, і Лавіцкі зрабіў адпаведны запыт. Неўзабаве адтуль прыйшлі ўсе паперы. Мне нават падаравалі фатаграфію бацькі часоў зняволення. Лавіцкі расказваў, што падчас сталінскіх рэпрэсій былі «чыста палітычныя» і былі простыя рабочыя: існавала праблема ў рабочай сіле.

Гэты момант пазней стаў падставаю для розных інсінуацый. Напрыклад, газета «Мы и время», якой кіраваў памерлы Віктар Чыкін, абліла мяне брудам. Маўляў, бацька быў ніякім не палітычным, а звычайным крымінальнікам. Я падаў за гэта на іх у суд і выйграў.

У рэальнасці адбылася «тыповая» для тых часоў гісторыя. Аднойчы бацька зайшоў у краму, каб набыць там дзягу. Іх не было. І тады ён пажартаваў: «Што гэта за ўлада такая, што нават дзягаў няма!!?» Сказаў і забыўся.

Праз некалькі дзён пагрукалі ў дзверы і арыштавалі. «За падрыхтоўку ўзброенай акцыі» прысудзілі да пяці гадоў зняволення, што выклікае шчыры смех, бо за меншыя злачынствы тады без вагання «ставілі да сценкі». Як пісаў адзін паэт,»ты виноват лишь тем, что хочется мне кушать». А потым кожныя пяць гадоў «дабаўлялі». Усё гэта ёсць у «справе».

Напрыклад, у 1943 годзе дабавілі за тое, што на лесасецы, дзе бацька тады працаваў, «усхваляў нямецкую зброю», бо немцы дайшлі да Масквы. Лавіцкі на гэты конт мне сказаў: «Здзіўляюся, што яго тады не расстралялі ўвогуле». Гэта, сапраўды, было б лагічней, а тлумачыцца ўсе банальным жаданнем мець бясплатную рабочую сілу і «работай» «стукачэй», якія пісалі свае даносы амаль «ад балды».

Рэабілітавалі яго за трыццаць гадоў да таго часу, як я стаў дэпутатам. Падкрэсліваю гэты момант спецыяльна для тых, хто «шукае» зразумелыя толькі яму прычыны...

Бацьку далі ў Плешчаніцах дастаткова вялікі дом, дзе да ліквідавання Плешчаніцкага раёна жылі мясцовыя начальнікі.

А да гэтага мы жылі ў іншым — невялікі пакойчык з агульнай кухняй (яго маці атрымала ад бальніцы). Звычайная камуналка. У цэнтры —»буржуйка», у баку — бацькавы вярстак. Пасляваенны час... У адным доме — тры сям'і...

Бацька вярнуўся з турмы ў 1950 годзе інвалідам. У яго былі паралізаванымі рука і нага. Пазнаёміўся з маёй маці. Пажаніліся. А праз год нарадзіўся Саша.

Бацька амаль не ездзіў на сваю «малую радзіму»: не было да каго. Справа ў тым, што, калі яго арыштавалі, усе сваякі ад патэнцыйнага пераследу з'ехалі на Украіну. Там як раз быў галадамор і шмат зямлі лічылася «нічыйнай».

У адрозненне ад маці, бацька быў даволі жорсткім чалавекам. І, калі я распытваў пра турму, пра рэпрэсіі, ніколі нічога не расказваў. Тыя, хто многа расказвае, як некаторыя франтавікі, пра свае «подзвігі», выклікае пэўны недавер. Хто ўсё бачыў сваімі вачыма, мала пра гэта гаворыць.



Выключэнне складалі толькі рэдкія моманты, калі бацька выпіваў «чарку». Ён заўсёды плакаў і пачынаў нешта ўспамінаць.

Тады я яшчэ не чытаў ні Салжаніцына, ні Варлама Шаламава, але ўжо шмат ведаў. Бацька, напрыклад, успамінаў пра тое, што, калі чалавек паміраў, яго не аддавалі адразу. Труп хавалі некалькі дзён, бо «пайку» бралі і на яго. Голад там быў страшэнны. Асабліва падчас вайны. Зэкі паміралі тысячамі. Ніхто на гэта не звяртаў ніякай увагі. Бірка на нагу — і ў траншэю. Закопвалі толькі вясной, калі зямля пачынала таяць. Жахліва.

Адзін раз да іх прыязджаў сам Берыя (праводзіў «інспекцыю»), але ніякіх «палёгкаў» гэта не прынесла. Наадварот, пасля яго ад'езду цэлым баракам пачалі даваць нейкія шэрыя таблеткі. Усе паміралі як мухі. Мабыць, у дзяржавы не хапала ежы, і яна пазбаўлялася ад «лішніх ратоў». Мой бацька два тыдні ляжаў без прытомнасці, але выжыў.

### Самастойнае жыццё

У леспрамгасе Сяргей Антончык працаваў «да арміі». Прызвалі яго ў ракетныя войскі стратэгічнага назначэння. Пасля вучэбкі ў украінскім Катоўску ён камандаваў аддзяленнем, запраўляў палівам шахтныя ракеты. Дастаткова цяжкая і вельмі небяспечная справа.

Гэта цяжка ўявіць, але ў дзяцінстве Сяргей Антончык вельмі хацеў быць ваенным і паступіць у сувораўскае вучылішча. Дырэктар школы падрыхтаваў і паслаў у Мінск адпаведныя дакументы на Антончыка і яшчэ аднаго вучня з прозвішчам Андрэеў (ён вучыўся крыху горш). Андрэева ўзялі, Антончыка — не.

Прычыну Сяргею не сказалі, але зараз яе няцяжка «вылічыць». Дырэктар быў былым франтавіком. З бацькам яны ўзялі пляшку гарэлкі і аб чымсьці ціха размаўлялі... Сын былога «ворага народа» савецкім афіцэрам не мог стаць па вызначэнні...

Пасля звальнення ў запас Сяргей зноў крыху папрацаваў у леспрамгасе. У гэты ж час пазнаёміўся з вельмі прыгожай дзяўчынай Тамарай, якая пасля заканчэння харэаграфічнага тэхнікума два гады «адрабляла» ў Плешчаніцах у Доме культуры.

Дарэчы, знаёмства ў іх адбылося вельмі цікавае. Як і многія ў той час, Сяргей, мякка кажучы, не быў прыхільнікам савецкай папсы. Перавагу аддаваў «Uriah Heep», «Pink Floyd», «Deep Purple». Цікава, што апошні гурт іх і пазнаёміў.

Тамара іграла на фартэп'яна мелодыю адной вядомай песні, а Сяргей праходзіў міма. Пачуў і спытаў: «Вы слухаеце такую музыку?» І назваў назву кампазіцыі. Як потым расказвала Тамара, для мінчанкі пачуць такое ў глухой правінцыі ад апранутага па-сялянску хлопца было вельмі дзіўным.

Праз год (1976) яны пажаніліся. Мужу тады быў 21 год, жонцы — 19. Разам ужо 37.

Сяргей пераехаў у родны для жонкі Мінск. Працаўладкаваўся на завод імя Леніна, які ў 1992 годзе стаў Белварам. Для тых, хто не памятае, нагадаем, што Белвар расшыфроўваецца як Беларускае вытворчае аб'яднанне радыётэхнікі.

У 1978 годзе ў Антончыкаў нарадзіўся сын Сяргей, а праз год двойня — Саша і Юля..

Натуральна, што пра якую-небудзь вучобу Сяргей Антончык больш нават і не думаў. Днём ён працаваў на заводзе, вечарам — грузчыкам у магазіне. А аднойчы нават маляром.

## Успамін другі

— Чаму ў жыцці зроблены менавіта такі выбар? Гэтае пытанне я задаю сабе вельмі часта. Відаць, так было наканавана лёсам. Мабыць, у некаторых з нас ёсць нешта такое, што не дае быць канфармістамі. Так і са мной.

Калі пакрыўдзілі Надзю, пра якую ўзгадвалася раней, увесь клас прамаўчаў. А я знайшоў дома кніжачку па псіхалогіі выхавання, падабраў падобную супярэчнасць і пры ўсім класе ў вочы выказаў усё, што думаю, настаўніцы, якая ў нас да таго ж была класным кіраўніком. Пасля гэтага некалькі гадоў мы былі «на нажах». Больш за тое, адным канфліктам усё не абмежавалася. Публічна спрачаўся з ёй амаль пастаянна. Пры гэтым, у мяне не было ні заможных бацькоў, ні падтрымкі «сильных мира сего». Наадварот, тая ж маці не раз плакала: бацьку за язык пасадзілі, пасадзяць і сына...

«Зайшло» так далёка, што я нават не пайшоў на выпускны вечар.

Я неканфліктны чалавек, але не магу мірыцца з любой праявай няпраўды. Калі на тым жа заводзе своечасова не выплачвалі заробкі, мы з хлопцамі ішлі да дырэктара. Я працаваў самым звычайным рабочым — гальванікам. Выконваў за змену некалькі нормаў. Пра перадавіка Антончыка час ад часу нават пісала мясцовая газета.



Дарэчы, працоўны калектыў нашага цэха мяне вылучыў у дэпутаты гарсавета. На агульным сходзе (800 чалавек!) тады «пракацілі» цэлага сакратара парткама... Для падобнага ў вачах людзей трэба мець даволі моцны аўтарытэт...

Усё жыццё ў мяне была нейкая прышчэпка ад уладнай ілжы і прага заўсёды дакопвацца да праўды.

Калі ў 1989 годзе ў нас на заводзе сказалі, што на Маскоўскіх могілках у годзе мінулым збіраліся нейкія фашысты, а ўсе «рабацягі» павінны прыйсці да Опернага тэатра на альтэрнатыўны мітынг, у мяне адразу з'явіўся сумнеў. На могілках я не быў, аднак тое, што ўбачыў каля Опернага, давала адказы на ўсе пытанні: звычайнае «партыйнае» мерапрыемства.

Праз тры дні я павінен быў везці дзяцей у санаторную школу і ўбачыў каля «Валгаграда» пікетоўцаў, якія пратэставалі супраць партыйнай наменклатуры. З плакатам стаяў Сяргей Міхноў — актывіст новага руху. Гэта былі аднадумцы, людзі вельмі блізкія мне па духу.

Якраз у той момант праходзілі выбары ў Вярхоўны Савет СССР. Супрацьстаялі Станіслаў Шушкевіч і першы сакратар Мінскага гаркома кампартыі Уладзімір Галко. Зразумела, супраць апошняга і быў пратэст.

Я спыніўся, зразумеў, што менавіта такіх людзей і шукаў. І ўжо на наступны дзень уступіў у суполку БНФ. Дакладней, у тое, што тады стваралася, бо на ўстаноўчы з'езд у Вільню мяне запрасілі ўжо ў якасці дэлегата. Там выпала выступіць, стаць сябрам Сойму.

Так пачалася мая палітычная дзейнасць. Гэта было надзвычай натуральна. Я не разважаў пра сваіх трох дзяцей і пра тое, што трэба больш займацца сям'ёй. Я нават не думаў на гэты конт. Проста адчуў, што тут — маё. Гэта было своеасаблівым падзелам усяго рэчаіснага на дабро і зло. З аднаго боку — святло, пошукі справядлівасці і праўды, з другога — цемра партыйнага цынізму, двудушнасці, нахабства, ілжы.

## Палітычна-рабочы ўздым

Маскоўская (Кайданоўская) суполка была самай буйной у БНФ, а самыя буйныя па колькасці ўдзельнікаў мітынгі праходзілі менавіта на Паўднёвым Захадзе. Зразумела, што гэта выклікала адпаведную рэакцыю ўладаў і за кожным крокам Сяргея Антончыка вельмі пільна сачылі адпаведныя службы.

Памятаю, як адна знаёмая расказвала, што яны дазнаюцца пра розныя дэфіцыты, якія вязуць на продаж на Паўднёвы Захад, дзякуючы ... Сяргею Антончыку. Справа ў тым, што людзі, якія яго «слухалі», таксама любілі смачна паесці і «за адно» «слухалі» размовы мясакамбіната з мясцовымі магазінамі. Увесь тэлефонны вузел ведаў, куды павязуць мяса альбо каўбасу.

На выбарах у народныя дэпутаты СССР БНФ падтрымаў усіх, хто трымаўся дэмакратычных поглядаў. У прыватнасці, Станіслава Шушкевіча. Не хачу сказаць, што гэтая падтрымка была галоўнай, але прынцыпова лічу, што перамог ён тады дзякуючы ў тым ліку і ёй.

А ў 1990 годзе Сяргей Антончык прыняў удзел у выбарчай кампаніі і непасрэдна. Гэта былі выбары ў Вярхоўны Савет БССР 12-га склікання. Балатаваўся ў Ясенінскай выбарчай акрузе і, нягледзячы на вельмі жорсткі супраціў партыйнай наменклатуры і наяўнасць 10 канкурэнтаў, перамог ужо ў першым туры.

У гэты ж момант Сяргея Антончыка на заводзе вылучылі кандыдатам на выбарах у гарсавет. Абралі, і ён стаў адным з тых нямногіх (палова дзясятка — заўвага аўтара), хто адначасова быў дэпутатам двух выбарчых органаў.

У 1990 годзе ў жыцці Антончыка адбыўся газетны дэбют. «Аргументы и факты» надрукавалі вялікае інтэрв'ю з назвай, якая цалкам гаворыць пра змест, «И снова о привилегиях...»

Цалкам лагічна і тое, што Сяргей Антончык працаваў у Вярхоўным Савеце 12-га склікання ў камісіі па прывілеям і працы, якую тады ўзначальваў Іван Герасюк.

Паралельна з палітычным уздымам у беларускім грамадстве яшчэ адбываўся і ўздым незалежнага рабочага руху. Напрыканцы 80 гадоў мінулага стагоддзя на прадпрыемствах пачаліся забастоўкі і стварэнне новай арганізацыі з назвай «Рабочы саюз».

Рабочыя камітэты пачалі сваю дзейнасць паўсюды, дзе працавалі аднадумцы Сяргея Антончыка. Напэўна, гэтаму значна дапамагла перабудова, калі па загаду Гарбачова на прадпрыемствах пачалі ствараць «саветы працоўных калектываў».

Сяргея Антончыка абралі старшынёй «Рабочага саюзу» Мінска.

### Галоўны ўспамін

— Па вялікаму рахунку, у якой камісіі ты працуеш, было ўсё роўна, бо галоўнае — фракцыя БНФ. З яе вельмі жорсткай дысцыплінай. Менавіта там мы распрацоўвалі ўсе законы, у тым ліку і «Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце».



Асобна хачу адзначыць ролю Зянона Пазьняка. Буду паўтараць да самай смерці, што ўвесь наш палітычны рост адбываўся ў першую чаргу дзякуючы яму. Ён даваў нам пастаянныя ўрокі сапраўднай палітычнай і парламенцкай дзейнасці, і я вельмі хацеў бы, каб для гісторыі засталася толькі праўда пра той час.

Спачатку дэпутацкую фракцыю БНФ складалі 16 чалавек, потым 17, а потым стала 27. У гэтую маленькую групу ў нейкім сэнсе ўваходзіла будучыня Беларусі, якую нам дэлегавалі выбаршчыкі.

... Першай раніцай путчу мяне пабудзіў тэлефонны званок Валянціна Голубева, які жыве недалёка. Ён і расказаў пра дзяржаўны пераварот. Я адразу звязаўся з Генам Быкавым і Жорам Мухіным. Праз некалькі гадзін мы сабраліся ў страйкаме, які месціўся на вуліцы Караля. Падышлі хлопцы з БНФ.

Напісалі тэксты ўлётак і пачалі множыць на ратапрынтах, прэзентаваных польскай «Салідарнасцю». Першую партыю я асабіста раздаваў людзям каля сталічнага ГУМа.

Два дні путчу наш страйкам нагадваў разбураны мурашнік: прыходзілі дзясяткі людзей, работа не спынялася ні на адну хвіліну. Кожны ведаў, што ў выпадку перамогі путчыстаў апынецца ў турме. Альбо ўвогуле будзе забіты. Беларускія нацыяналісты ў гісторыі нашай краіны «Курапаты» перажывалі не адзін раз...

Пасля падзення ДКЧС перад пазачарговай сесіяй ВС з Сяргеем Навумчыкам мы за два дні пабылі шмат у якіх месцах. Напрыклад, у ЦК КПБ (БНФ сабраў каля іх будынка амаль 15 тысяч чалавек). І, як матрос Жалезняк, зайшлі на нараду камуністаў. Добра памятаю тую «нямую сцэну»: цішыня і толькі працуе машынка, якая знішчала нейкія дакументы. Напэўна, заявы, дзе яны падтрымалі путч.

Пасля абвяшчэння незалежнасці каля парламента сабраўся вялікі натоўп людзей, якія абдымаліся і цалаваліся. Хочаце верце гэтаму, хочаце не, але ў той момант я адчуў нейкі вельмі самотны настрой. Такое ўражанне, што хутка павінна была пачацца вайна... Тады чамусьці была думка, што гэта яшчэ не канчатковая перамога...

Зараз вельмі часта ўспамінаю тыя пачуцці, хаця тады і не задумваўся пра нейкі рэванш. Хутчэй адносіў тое, што перажываў, на рахунак агульнай стомленасці, бо ў тыя дні спаў па дзве-тры гадзіны за суткі.

Памятаю таксама, як будучая жонка Зянона Пазьняка Галя Вашчанка прывезла да мяне чырвоную тканіну і мы пашылі бел-чырвона-белы сцяг. Хацелі павесіць яго над будынкам парламента, але Шушкевіч ужо «паварушыўся» і ўсё зрабіў. Наш павесілі над іншым будынкам.

Некаторыя называюць пачуццё, якое наступіла пасля зробленай работы, маральным апусташэннем. Радасць была раней. У зале парламента. Калі Пазьняк пасля галасавання выйшаў на трыбуну і зрабіў вельмі цудоўную прамову пра гістарычную важнасць таго, што зроблена. Гэты момант быў вельмі бліскучым, а радасць, якая тады адчувалася, не параўнальная ні з чым у нашым жыцці.

Падобнае я адчуваў толькі падчас знакамітага красавіцкага мітынгу рабочых, калі стала зразумела, што ў беларускім грамадстве наступіў час кардынальных перамен і скончыцца ўсё абвяшчэннем поўнай незалежнасці. Такое бывае адзін раз у 30-40 гадоў. Напэўна, да наступнага падобнага моманту я ўжо не дажыву.

Дарэчы, рабочыя страйкі тады вельмі моцна аслабілі партыйную наменклатуру. Яна была вымушана стаць больш «лагоднай», што паўплывала на многія тагачасныя рашэнні. У тым ліку і наконт незалежнасці.

Як толькі падобнае скончыцца, палітык павінен усё зразумець і адыйсці ўбок. Не трэба «вярстаць» сітуацыю «пад сябе», а арганічна прыстасоўвацца да таго, што адбываецца вакол. Задача палітыка не навязваць руху свае ідэі, а агучваць тое, што сыходзіць з самога руху.

На жаль, у сучаснай рэчаіснасці ўсё адбываецца наадварот.

Галоўная супярэчнасць паміж рухам і яго лідарам у розным стаўленні да асабістага «я». Калі просты чалавек уступае ў рух, ён добраахвотна адмаўляецца ад свайго «я», а лідар так не робіць. Ён імкнецца «прасунуць»сваё «я», выкарыстоўваць іншых.

Асабліва бачная гэта супярэчлівасць, калі нехта надоўга «засядзеўся» ў лідарах.

Знакаміты філосаф і сацыёлаг Эрых Фром вельмі добра напісаў пра гэта ў кнізе «Уцёкі ад свабоды».

На жаль, пакуль не адбылося дэталёвага даследавання таго, што адбывалася ў нашай краіне апошнія 20-30 гадоў. Не прэтэндую на «истину в последней инстанции», але, на мой погляд, рух БНФ дасягнуў сваёй галоўнай мэты, то бок абвяшчэння поўнай незалежнасці, але гэта не было канчатковай перамогай. Рэальную ўладу мы не атрымалі, і таму ўсе «разважанні» на гэты конт — недакладнасць. БНФ заўсёды знаходзіўся ў апазіцыі.



Нагадаю, у 1992 годзе мы хацелі правесці рэферэндум па датэрміноваму роспуску Вярхоўнага Савета БССР і сабралі больш за чатырыста тысяч подпісаў. Для чаго была такая патрэба? Для таго, каб з'явілася магчымасць правесці рэальныя рэформы, бо пры ўладзе знаходзілася ўсё тая ж партыйная наменклатура, чаго не разумелі людзі, якія галасавалі за БНФ. Ім казалася, раз мы выканалі галоўнае абяцанне, то павінны хутка рэалізаваць і ўсе астатнія.

Калісьці адзін са стваральнікаў польскай «Салідарнасці» вядомы публіцыст Адам Міхнік бліскуча пісаў, што сітуацыя змены гістарычнай і палітычнай фармацыі не можа быць доўгай па часу. Калі хутка не будуць зроблены нейкія пераўтварэнні, то да ўлады вернецца адхіленая наменклатура. А далейшая стагнацыя сітуацыі прывядзе да таго, што ад рэфарматараў адыдзе асноўная частка падтрымаўшага іх грамадства, якое ўбачыць, што дэмакратычныя перамены нічога добрага ім пакуль не далі.

У Беларусі так і адбылося. Рэферэндум нам правесці не далі, і ўсё вельмі хутка вярнулася, як кажуць, «на круги своя». Асабліва пасля прыходу да ўлады «новых», якія вельмі добра выкарысталі складанасці таго часу.

БНФ ніколі не ініцыяваў стварэнне партый. Так, на нашай «базе» пачала, як і ў другіх краінах (Прыбалтыка, Чэхія, Славакія і г.д.), ствараецца партыйная сістэма, але эканамічная сітуацыя не змянілася. Дакладней, пэўныя змены яшчэ не паспелі адбыцца. Сацыяльныя групы, якія б сталі падмуркам палітычных партый, не сфармаваліся.

Сітуацыя ў нашай краіне кардынальна адрознівалася ад той, што была ў суседзяў. Працэс грунтоўных эканамічных зменаў замарудзіўся, а палітычныя змены пачаліся даволі хутка.

Менавіта па гэтай прычыне вельмі хутка адбылося і фактычнае разбурэнне палітычнага поля: партыі з'явіліся, а сацыяльнай замовы на іх з'яўленне ў грамадстве не было.

Сродак памяняўся месцамі з мэтай. Ёй стаў не прыход да ўлады, а стварэнне «пад сябе» нейкай партыйнай структуры. Адразу ўзніклі кансервацыя партыйных груп (на чале якіх адны і тыя ж людзі знаходзяцца шмат гадоў), партыйная бюракратыя (якая стварае ата-

чэнне «правадыра») і поўная адсутнасць сваіх сродкаў на ўтрыманне партыйных структур.

Далей адбылася маргіналізацыя. Да таго ж, улада «насыціла» шэрагі апанентаў сваімі «стукачамі», і мы атрымалі тое, што зараз маем на Беларусі.

Менавіта па гэтай прычыне «мастадонты» апазіцыйнай палітыкі крыху адышлі ўбок. Не тая зараз сітуацыя, як гэта было раней.

На жаль, гісторыя Беларусі настолькі цяжкая, што проста не можа быць павольнай. Каб мяне папрасілі яе схематычна намаляваць, то падзею 25 жніўня 1991 года я б абазначыў вешкай з бел-чырвонабелым сцягам. Іх трэба размясціць па ўсёй нашай гістарычнай схеме. Тое, што адбылося ў 1991 годзе — гэта «вешка» ў працяг падзей 25 сакавіка 1918 года, калі была ўтворана БНР. Як казаў Ніл Гілевіч, гэта толькі шлях да Беларусі. У 1991 годзе мы зрабілі чарговы крок, і наперадзе будзе яшчэ адзін, калі наша незалежнасць стане сапраўднай, а суседняя імперыя банальна разваліцца.

У той сітуацыі дабіцца большага было немагчыма. Фракцыя БНФ зрабіла ўсё, што было ў нашых сілах. Сур'ёзнае змаганне за Беларусь толькі пачынаецца. У гісторыі няма закончаных працэсаў.

## Метамарфозы лёсу

6 ліпеня 1994 года «Народная газета» перад другім турам прэзідэнцкіх выбараў надрукавала артыкул Сяргей Антончыка «Лукашэнка-Кебіч: хто каго. Камуністычнае шоу на Беларусі працягваецца». Калі яго зноў прачытаць зараз, стане відавочным, што аўтар тады быў абсалютна правы.

Напісаць нешта новае пра яго знакаміты антыкарупцыйны даклад і «белыя плямы» вельмі цяжка. Нагадаю толькі, што Сяргею Антончыку гэта «каштавала» сур'ёзнага судовага пераследу і буйнога штрафу.

Акцэнтую ўвагу і на яшчэ адным моманце, які чамусьці сёння рэдка хто ўзгадвае. Пад «ціскам» фракцыі БНФ Антончыка ўключылі ў тую ж антыкарупцыйную камісію, якую ўзначальваў Лукашэнка. Больш за тое, ён не толькі лічыў даклад Лукашэнкі даволі павярхоўным, але і выступіў на парламенцкай сесіі пасля яго са сваім, альтэрнатыўным дакладам.

Для самога ж Сяргея Антончыка гэтыя сесіі працягваліся да 1995 года: пачаў працаваць новы склад Вярхоўнага Савета. Потым, калі ўсе апазіцыйныя сілы казалі, што «ў гэтай краіне» немагчыма нічога рабіць, ён распрацаваў тэхналогію, якая называлася «Рабочай дапамогай». Сутнасць яе ў знаходжанні не фондавых грошай і закупку прадуктаў харчавання (цукар, гарбата, масла, крупы і г.д). З іх рабілі «пасылкі» і ў кожным горадзе ўтвараліся групы, якія раздавалі ўсё людзям. Абсалютна бясплатна і абсалютна без нейкага палітычнага падтэксту.



Напэўна, менавіта па гэтай прычыне ініцыятыву і не падтрымалі апазіцыйныя палітыкі. За тое яе небяспеку вельмі добра адчула ўлада. На аднадумцаў Сяргея Антончыка і на яго самога пачаўся неверагодны ціск. Арышты, суды, «суткі»... Даходзіла нават да спробаў «знікнуць» і адкрытых пагроз забойствам. Пагражалі атручваннем жонцы, а дачцэ падкінулі цыдулку: «За твайго бацьку, зарэжам тваё дзіця».

На думку Антончыка, «для работы» з найбольш «небяспечнымі» ствараюцца адпаведныя «групы», якія «прэсуюць» чалавека так, каб той альбо спыніў актыўнасць, альбо з'ехаў з краіны.

Апошняе не атрымалася, аднак «гадзіць» з часам менш не сталі. Калі Сяргей Антончык паспрабаваў знайсці работу, яму ўсюды адмаўлялі. Нават на вельмі шкодных для здароўя вытворчасцях.

Два гады ён «нелегальна» працаваў грузчыкам (разгружаў скрыні з півам) у адной фірме, потым два гады будаваў дамы, а калі «ўсё сціхла», па аб'яве знайшоў работу кіроўцам, які адначасова выконвае функцыі грузчыка.

У гэтай якасці Сяргей Антончык працуе на працягу апошніх пяці гадоў, бо на пенсію ў мільён дзвесце тысяч беларускіх рублёў (5 месяцаў вырашалася сума) пражыць у наш час амаль немагчыма. Нармальна пражыць.

# АНДРЭЙ БАНДАРЭНКА




**Падрыхтавана да друку 05.04.13**

*Калі пасля вызвалення Андрэй Бандарэнка заявіў, што працягне займацца палітыкай, якая і стала прычынай пераследу, я здзівіўся. Але здзівіўся непараўнальна больш, калі ён праз суд здолеў адваяваць маральную кампенсацыю за несправядлівы прысуд.*

*А потым зразумеў, што, па вялікім рахунку, здзіўляцца тут няма чаму, бо так і павінна быць: перамогі дасягае толькі той, хто змагаецца.*

## Першыя перамогі

Нарадзіўся Андрэй 14 красавіка 1973 года ў Ваўкавыску. Маці Тамара Сцяпанаўна родам з Чырвонай Слабады Салігорскага раёна. Бацька Валерый Рыгоравіч з вёскі Паўлавічы Кіраўскага раёна. Абодва з галіны фізічнай культуры. Бацька закончыў сталічны Інстытут фізкультуры, а маці — Гродзенскі тэхнікум гэтага ж профілю.

Праз год пасля нараджэння Андрэя сям'я пераехала ў Бабруйск (да яго бабулі з дзядулем) і пражыла там пяць гадоў. Потым быў Кіраўск, дзе будучы праваабаронца і закончыў СШ №1. У 1990 годзе ён паступіў у Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт. Спецыялізацыя — французская і нямецкая мовы. Некалькі гадоў пасля заканчэння інстытута працаваў перакладчыкам у Міністэрстве спорту і турызму, а потым перайшоў карэспандэнтам у газету «Спартыўная панарама».

Напэўна, журналістыка магла б стаць справай жыцця, але сярод першых артыкулаў былі два, якія вельмі моцна не спадабаліся профільнаму міністэрству — «Па вушы ў турызме» і «НОКаўт». Кіраўніцтва газеты, каб вывесці журналіста-пачаткоўца з-пад удару высокага начальства, прапанавала яму перайсці на пасаду камерцыйнага дырэктара «Спартыўнай панарамы».

І ўжо адсюль ён «пайшоў у бізнес». Спачатку працаваў у чужой камерцыйнай фірме. Потым адкрыў сваю. «Белвысотбуд» займаўся пастаўкамі адпаведнага будаўнічага абсталявання, а створаная паралельна «Белвысотбудгруп» яшчэ і непасрэдна вытворчасцю і будаўніцтвам.

У 2008 годзе Андрэй Бандарэнка вырашыў балатавацца на парламенцкіх выбарах. Паколькі гэта, мякка кажучы, не спадабалася ўладам, у яго пачаліся праблемы, якія ў будучым зробяць з Андрэя вядомага абаронцу правоў асуджаных.

## Абмежаваная радасць

Андрэя Бандарэнку арыштавалі 22 мая 2009 года і абвінавацілі па ч. 4 арт. 204 (крадзеж з выкарыстоўваннем службовых паўнамоцтваў). За што і прысудзілі да сямі гадоў пазбаўлення волі з накіраваннем у калонію ўзмоцненага рэжыму.

У лістападзе гэтага ж года прысуд быў адменены касацыйным Мінскім гарадскім судом, і справу накіравалі на новы разгляд.

Першамайскі суд сталіцы «крадзеж» памяняў на «махлярства», артыкул КК №204 — на артыкул №209 і з дзіўнай фармулёўкай — «в неустановленное время в неустановленном месте получил неустановленную сумму денег от неустановленного лица» — ад свайго першага прысуду адняў год.

Нармальная рэакцыя нармальнага чалавека на такую казуістыку — «Не можа быць». У сучаснай Беларусі — можа. І ведае гэта не толькі Андрэй Бандарэнка. У снежні 2010 года на гэты неверагодны прысуд мусіў зрэагаваць Вярхоўны суд: вынес пратэст і накіраваў справу на новы разгляд. Нарэшце, 22 сакавіка 2011 года Мінскі гарадскі суд цалкам апраўдаў Андрэя і адпусціў яго на волю. Праз год і дзесяць месяцаў пасля арышту.

Генеральная пракуратура яшчэ спрабавала абскардзіць гэта рашэнне, бо прызнаваць, што за кратамі ў нас знаходзяцца нявінныя людзі, праваахоўныя органы, мякка кажучы, не прывучаныя, але Вярхоўны суд адмовіў. Што таксама нечакана для нашых часоў...

Напэўна, такому развіццю падзей трэба толькі радавацца, але не дае спакою думка: а як быць з тымі, каму не пашанцавала так, як герою гэтага нарыса?

### Нараджэнне «Платформы»

Менавіта для адказу на пытанне, як быць з тымі, каму не пашанцавала, «Платформа» і нарадзілася. Андрэй пасля вызвалення скіраваў усю сваю энергію на стварэнне грамадскай арганізацыі, якой далі назву Інфармацыйна-асветніцкая ўстанова (ІАУ) «Платформа».

Канцэпцыя такой арганізацыі выкрышталізоўвалася ў яго ў папраўчай калоніі №2 Бабруйска. Той самай, дзе сёння адбывае пакаранне вядомы праваабаронца Алесь Бяляцкі.

Калі ўлічыць, што нават айчыннае правасуддзе нарэшце прызнала справу Андрэя Бандарэнкі незаконнай, цалкам лагічна спытацца: хто за ўсё будзе адказваць? І цалкам лагічны адказ — беларуская дзяржава. Гэта настолькі відавочна, што апошняй нават давялося пагадзіцца на пэўную кампенсацыю. У жніўні мінулага года было прынята адпаведнае судовае рашэнне.

Міністэрства фінансаў РБ «маёмасныя страты» ацаніла ў 60 мільёнаў беларускіх рублёў (у столькі абышліся паслугі адвакатаў) і выплаціла гэтую частку амаль без праблем. А вось наконт кампенсацыі маральных страт праблемы пачаліся адразу ж.

Першапачаткова маральную шкоду ацанілі (суд Кастрычніцкага раёна Мінска) у 120 мільёнаў беларускіх рублёў, але пасля ўмяшання Вярхоўнага суда яе зменшылі да 100 мільёнаў. З моманту прыняцця такога судовага рашэння ўжо прайшло пяць месяцаў, але беларускае Міністэрства фінансаў не спяшаецца выплачваць грошы. І асабіста я не здзіўлюся, калі Андрэй Бандарэнка не ўбачыць іх увогуле.

Аднак вернемся да «Платформы».

Не раз даводзілася чуць пра тое, што беларуская ўлада сама штурхае людзей у апазіцыю. Так адбылося і з Андрэем Бандарэнкам. Мажліва, каб не асабісты досвед і каб адразу пасля вызвалення яго не папярэдзілі, што любыя спробы займацца бізнесам скончацца новай турмой, і настойліва не параілі б бегчы з роднай краіны, сёння б мы не ведалі праваабаронцу, які так заўзята змагаецца з беларускай пенітэнцыярнай сістэмай.

Яе сутнасць ён спазнаў на ўласным досведзе. Калі сутыкаешся з нечым падобным, то цяжка пазбегнуць адчування мэтанакіраванага імкнення ўлады маральна (і фізічна) прынізіць сваіх апанентаў. І палітычных, і ўсіх астатніх. Апошніх, дарэчы, значна больш.

Для абароны менавіта правоў «простых» (нікому не вядомых) асуджаных і стваралася «Платформа». І няма нічога дзіўнага, што зараз усе спробы афіцыйна зарэгістраваць арганізацыю не мелі поспеху. Па розных надуманых прычынах Бандарэнку адмаўлялі. Даходзіла нават да відавочнага абсурду.

Калі адкрытым тэкстам сказалі, што шансаў на афіцыйную рэгістрацыю няма, Андрэй (дзеля смеху) падаў на рэгістрацыю структуры, назва якой цалкам адпавядала яго пашпартным дадзеным. Улады гэты гумар не прасяклі і адказалі, што арганізацыя з такой назвай ужо ёсць.

І ўсё ж з дапамогай сяброў (з іншых галін дзейнасці) зарэгістраваць арганізацыю Андрэю ўдалося. Так у чэрвені 2011 года з'явілася ІАУ «Платформа». Самая маладая праваабарончай структура, але далёка не самая бяскрыўдная, бо яе кіраўнік, як кажуць, ведае праблемы знутры.



### Барацьба за «Платформу»

Калі казаць вельмі паліткарэктна, уладам не прыйшлася даспадобы дзейнасць новай установы літаральна з самых першых яе крокаў. Што і нядзіўна, бо прававое бязмежжа, да катаванняў уключна, якое творыцца ў міліцэйскіх пастарунках, калоніях і турмах, да гэтага практычна не трапляла ў фокус грамадскай увагі. У сферу публічнасці яго вывела «Платформа».

А «першымі ластаўкамі» сталі здзекі ў Глыбоцкай калоніі (ІК—13) і ІК—5 горада Івацэвічы (не блытаць з «Воўчымі норамі»).

Можна назваць яшчэ шмат канкрэтных прыкладаў паспяховай дзейнасці, але, на мой погляд, паказальнай у гэтым сэнсе можна лічыць і рэакцыю афіцыйных структур. Гаворачы моладзевым слэнгам, «Платформу» пачалі літаральна «гнабіць». Яе супрацоўнікаў неаднаразова затрымлівалі міліцыянты, на аднаго нават распачалі крымінальную справу, а намесніка кіраўніка юрыста Алёну Красоўскую-Каспяровіч брутальна скралі, і трое сутак ніхто не ведаў, дзе яна знаходзіцца. Праз гэтыя страшныя трое сутак вывезлі і выкінулі з машыны ў чыстым полі. Самога ж Андрэя Бандарэнку на некалькі месяцаў зрабілі «невыязным», паставілі на прафілактычны ўлік у КДБ. У яго неаднаразова забіралі камп'ютары.

Пра тое, колькі разоў над ім вісела сякера арышту і крымінальнага пераследу, сказаць нешта новае вельмі цяжка, бо гэта неаднойчы станавілася галоўнымі навінамі ўсіх СМІ. Дадам толькі тое, што ў момант, калі я працаваў над гэтым артыкулам, лідскія міліцы-

янты, чые здзекі з людзей зрабіла вядомымі грамадскасці менавіта «Платформа», настойліва шукалі яе кіраўніка і пагражалі ў чарговы раз яго засудзіць.

Што ж тычыцца самой ІАУ «Платформа», то беларускае Міністэрства юстыцыі закрыла яе па прычыне, якая ў шмат каго выклікае сумную ўсмешку. Афіцыйнай зачэпкай стала тое, што структура не знаходзіцца па месцы афіцыйнай рэгістрацыі, то бок у офісе Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Чыноўнікаў не пераканала нават тое, што частка сяброў «Платформы» (уключна з Бандарэнкам) з'яўляюцца членамі АГП.

Па зразумелых (у тым ліку і для праваабаронцаў) прычынах усе спробы юрыдычна абскардзіць гэтае рашэнне былі безвыніковымі. Таму ў гэты ж час была зарэгістравана новая структура. Так у кастрычніку 2012 года паўстала прыватная культурна-асветніцкая ўстанова «Платформа Innovashion».

## «Платформа Innovashion»

З гэтай назвай праваабаронцы зараз і працуюць. Прычым даволі эфектыўна, аб чым красамоўна сведчыць «лідская гісторыя», бо людзі ведаюць: каб не «Платформа Innovashion», катаванні так бы і засталіся нікому не вядомымі.

І ўвогуле, з'яўленне структуры, якой можна верыць у выкананні «пракурорскіх функцый» (да іх сёння ёсць шмат пытанняў), стала для айчыннага грамадства без перабольшвання ледзь не адзіным арыенцірам у пошуках праўды. Яе аўтарытэт рос так імкліва, што часам здавалася, быццам бы нехта наўмысна перашкаджае дзяржаве рэальна дапамагаць людзям…

Менш чым за два гады дзейнасці колькасць супрацоўнікаў па ўсёй краіне дасягнула дзвюх соцень, што для незалежнай структуры зусім нямала. Значная частка — прафесійныя юрысты. За гэты час удалося дабіцца, каб людзей перасталі збіваць непасрэдна ў калоніях.

Дзякуючы іх непасрэднай падтрымцы, амаль дзесяць чалавек вызваліся з месцаў зняволення, шмат каго ўдалося абараніць ад добра вядомага «міліцэйскага бязмежжа».

На дадзены момант у рабоце каля сарака судовых прыгавораў і яшчэ столькі ж скаргаў на дзеянні міліцыянтаў. Плюс новы накірунак працы — скаргі па розных гаспадарчых пытаннях.



Але ўсё гэта, як кажуць, звычайная статыстыка, за якой часам цяжка разгледзець канкрэтныя чалавечыя лёсы. А яны ўсе не менш цікавыя, чым лёс самога Андрэя Бандарэнкі. Без сумневу, гэты таленавіты чалавек мог адбыцца і дасягнуць высокіх вынікаў у любой сферы дзейнасці (журналіст, менеджар, бізнесмен), але паўсюль ён нарываўся на супрацьдзеянне сістэмы. Пачуццё ўласнай чалавечай годнасці не дазваляла яму ісці на беспрынцыповае прыстасаванства, а абвостранае пачуццё справядлівасці штурхала на барацьбу ў абарону сваіх і чужых правоў.

# ЛЯВОН БАРШЧЭЎСКІ



**Падрыхтавана да друку 09.09.2013**

*Прызнаюся, што з самага пачатку размовы з Лявонам Баршчэўскім быў літаральна шакаваны, бо ніколі не сустракаў, каб палітык прызнаваў свае памылкі. Больш за тое, сам пачынаў пра іх расказваць. Звычайна бывае з дакладнасцю наадварот.*

*На мой погляд, менавіта ў гэтым і палягае адна з прычын таго, што мы ўжо 19 гадоў безвынікова змагаемся з «крывавым рэжымам»...*

## Дзіцяча-юнацкі позірк

«Мне пашанцавала нарадзіцца побач з полацкім Сафійскім саборам. Усяго нейкія чатырыста метраў. Штодня, ідучы ў школу, праходзіў міма велічнага будынка, які на той момант быў, мякка кажучы, не ў прывабным стане. Частку будынка займаў архіў, частка ўвогуле была нікому не патрэбнай. Пад дахам помніка нашай цудоўнай спадчыны і гістарычнай гордасці лёталі галубы...

Усе мае продкі былі без вышэйшай адукацыі. Я і старэйшы брат Вадзім (1950 года нараджэння) былі ў гэтым сэнсе першымі ў родзе. Ёсць у мяне і яшчэ адзін старэйшы брат Мікалай, які нарадзіўся ў 1953 годзе. Каля сарака гадоў ён працуе на Наваполацкай ЦЭЦ, нават пасля выхаду на пенсію. Дарэчы, шмат гадоў да таго, а потым і разам з ім там адпрацаваў і мой бацька Пётр Мікалаевіч.

Бацька з сялянскай сям'і, з Дрысеншчыны, непадалёк ад Полацка. Напэўна, ён меў нейкія творчыя здольнасці, бо, калі заснавальнік Купалаўскага тэатра Фларыян Ждановіч ездзіў па вёсках і шукаў таленты, то выбар прыпаў і на яго, але дзед Мікалай нікуды сына не пусціў. Маўляў, трэба займацца гаспадаркай.



У часе Першай сусветнай вайны дзед Мікалай трапіў у нямецкі палон і тры гады працаваў у баўэра ва Усходняй Прусіі. Навучыўся там гаспадарыць, і, калі пачаўся НЭП і палітыка бальшавіцкай «лібералізацыі», ён сваім потам змог перайсці з батракоў у «серадняцкае» саслоўе.

Аднак з пачаткам у 1929 годзе «вялікага пералому» яму хапіла своеасаблівай жыццёвай мудрасці не выяваць з бальшавіцкай сістэмай, а добраахвотна аддаць усё дабро ў камуну, якая потым стала калгасам. Маўляў, «хай там, што хочуць з гэтым, тое і робяць». Такім чынам, яны засталіся фактычна без нічога, але затое пазбеглі рэпрэсій.

Акрамя гэтага, калі падрос мой бацька (1914 г.н.), яны з дзедам Мікалаем самыя змрочныя часы калектывізацыі і раскулачвання «пераседзелі» ва Уладзівастоку, дзе працавалі партовымі грузчыкамі.

Праз пэўны час вярнуліся дамоў. Потым бацька закончыў Полацкі аўтатрактарны тэхнікум і атрымаў прэстыжную тады прафесію механізатара. Тры гады служыў «тэрміновую», звольніўся, але ў запасе быў толькі адну ноч. Неўзабаве, дакладней 17 верасня 1939 года, пачаўся «вызваленчы паход» Чырвонай Арміі. У Заходнюю Беларусь бацька не трапіў, але служыў памочнікам ваеннага камісара ў Заслаўі, у тым ліку выконваў абавязкі цэнзара ўсіх мясцовых друкаваных выданняў, перажыў там, паводле ўласнага прызнання. «больш страху, чым пазней на вайне». Потым былі курсы «Выстрал», вайна, акружэнне, праверкі асобага аддзела, камандаванне ўзводам на Сінявінскіх балотах пад Ленінградам, зняцце блакады, штурм Кёнігсберга і перавод у Маньчжурыю.

Адтуль ён у званні маёра і звольніўся ў запас. Гэтым разам канчаткова. Першая жонка да таго часу з ім развіталася, і бацька зноў ажаніўся.

Маю маці звалі Аляксандра Дзяменцьеўна Сосніна. Паводле пашпарту, была рускай: яе продкі з кубанскіх казакоў. Напэўна, адсюль і такі баявы характар. Шэрых колераў у яе ацэнках ніколі не было — толькі белы і чорны.

Пасля вайны бацьку прапаноўвалі стаць намеснікам начальніка Віцебскай абласной міліцыі, але маці не пусціла, бо баялася: у лясах яшчэ было шмат «узброеных фармаванняў». Уся яго далейшая кар'ера пайшла па лініі сельскай гаспадаркі. Цікава, што Мікалай

Дземянцей, якому мне потым давялося пэўным чынам супрацьстаяць як палітыку, некалі быў сярод бацькавых падначаленых.

Вышэйшай адукацыі, паўтаруся, у яго не было, таму адзнакай вяршыні кар'ернага росту стаў запіс у працоўнай кніжцы пра начальніка полацкага «Аўтатрактарзбыту» (папярэднік райсельгастэхнікі), а пасля рэарганізацыі пачатку 60-х гадоў бацька ўвогуле адтуль звольніўся і перайшоў працаваць на ЦЭЦ у Наваполацк начальнікам аддзелу збыту.

Яшчэ ў дзяцінстве я пачаў крыху зарабляць. Падчас хрушчоўскіх «рэформаў» усе суседзі па некалькі разоў ставілі мяне ў чэргі па хлеб, цукар і г.д., бо там прадукты выдавалі «на чалавека». Узамен людзі давалі мне альбо частку купленага харчу, альбо нейкія цукеркі.

Акрамя гэтага, запомнілася, што я ў дзяцінстве выдаваў газету. Мы жылі ў прыватным сектары (полацкі раён Запалоцця), таму мая газета называлася «Запалоцкі веснік». Я вешаў яе на слупе адзінага аўтобуснага прыпынку ў адзіным рукапісным варыянце. Збіраў туды ўсе мясцовыя плёткі. Людзі (практычна ўвесь наш раён) чыталі і вельмі актыўна абмяркоўвалі. Бывала, нават прыходзілі да бацькоў сварыцца.

Калі ў мяне з'явіўся фотаапарат «Змена — 8М», стаў рабіць для газеты здымкі. Гэта доўжылася некалькі гадоў. Напэўна, была нейкая ўнутраная патрэба нешта пісаць, нешта некаму даводзіць.

Можна лічыць гэта першым маім журналісцкім досведам...

### Прафесійны арыенцір

... У школе я ўсе гады быў выдатнікам. Па гэты момант не ведаю, з якой прычыны ў віцебскім абласным аддзеле адукацыі ўзніклі пытанні да маёй выпускной пісьмовай работы па алгебры, але мой залаты медаль «замылілі» і паступаць у ВНУ мне прыйшлося «на агульных падставах».

Брат Вадзім раіў абраць Маскоўскі інстытут міжнародных зносін, але для паступлення тады былі неабходнымі вельмі сур'ёзныя партыйна-камсамольскія рэкамендацыі, а іх сабраць я банальна не паспяваў. Быў яшчэ факультэт скандынаўскіх моў Ленінградскага ўніверсітэта, але на яго набіралі толькі раз на два гады. Мне з гэтым не пашанцавала.

Мне падыходзіла пара ісці ў войска, і таму я вырашыў не рызыкаваць. Выбар выпаў на Мінскі інстытут замежных моў. Усе ўступныя экзамены здаў на пяцёркі і стаў студэнтам факультэта, які рыхтуе настаўнікаў нямецкай і англійскай моў.

Дарэчы, на той час я мог выбраць любую другую галіну, бо, напрыклад, быў пераможцам гарадской алімпіяды па хіміі, заняў другое месца на алімпіядзе па астраноміі і г.д., а «моўны» выбар быў абгрунтаваны перш за ўсё тым, што маці і брат Вадзім прывучылі мяне да чытання. Чытаў шмат, асабліва па-нямецку, у тым ліку, напрыклад, і «Майстра і Маргарыту» Булгакава, бо здабыць рускамоўны варыянт гэтай кнігі ў той час было немагчыма.

Першы свой пераклад я зрабіў у сёмым класе. Прычым адразу на беларускую мову, хоць маці выхоўвала мяне дома па-руску.

У школе больш-менш свабодна я мог чытаць на трох мовах — нямецкай, англійскай і польскай. Цяпер іх больш за дваццаць пяць. Але я не кажу, што гавару на ўсіх гэтых мовах, бо, каб добра гаварыць на мовах, патрэбна пастаянная жывая практыка.

Калі я пачаў вучыцца на філолага, то вырашыў стаць сапраўдным прафесіяналам, а гэта якраз і азначае найперш веданне шмат якіх моў і ўменне працаваць з тэкстамі. Мяне заўсёды забаўляла, што часам у нас «трапляліся» філолагі, якія па-сапраўднаму не ведалі ніводнай мовы, а станавіліся потым ледзь не акадэмікамі... На жаль, у беларускай гісторыі былі і такія...

Рос я ў досыць ліберальным асяроддзі. «Замежныя галасы» мы слухалі штодзённа. Наша «ВЭФ-Спідала» «лавіла» іх вельмі добра. Былі толькі праблемы з радыё «Свабода», а вось «Голас Амерыкі» і «Нямецкую хвалю» слухалі амаль без перашкод. Той жа «Архіпелаг ГУЛАГ» Салжаніцына я ўпершыню праслухаў менавіта на «Голасе Амерыкі».

Бацька, хоць сам быў партыйным, вельмі крытычна ставіўся да кіраўніцтва, з якога «сыплецца пясок», і раіў мне ніколі ў КПСС не ўступаць. І я гэты запавет (бацька памёр у 1983 годзе, на шэсць гадоў пазней за маці) я выканаў.

А вось у камсамоле я быў, нават узначальваў там цэлы школьны камітэт камсамола (некалькі соцень членаў).

У тыя часы я шчыра лічыў, што з дапамагай маладых і энергічных камсамольцаў у краіне можна нешта змяніць. А потым, дзякуй Богу, ва ўсім разабраўся.

У жыцці я шмат зрабіў памылак, але ад некаторых лёс мяне выратаваў. Напрыклад, я не пайшоў працаваць у Міністэрства замежных спраў, куды Пётр Краўчанка прыманьваў вельмі прывабнымі

кар'ернымі перспектывамі. Не стаў бы дыпламатам, а педагагічныя навыкі страціў бы.

Не пайшоў я таксама служыць афіцэрам-палітработнікам у Савецкую Армію, хоць сярод маіх аднакурснікаў гэта лічылася шчасцем, якое вызваляла ад «адпрацоўкі» ў якой-небудзь вёсцы. Усе ішлі служыць з вялікім задавальненнем, бо служыць трэба было ва Усходняй Германіі. За шмат гадоў я быў, відаць, адзіным выпускніком, які адмовіўся ад такой прапановы.

Паколькі ў «размеркавальным» спісе Мінскага інстытута замежных моў я, як абсалютны выдатнік, ішоў першым, то мог нешта выбіраць. Размеркавалі мяне ў Бабруйск, у нейкае ПТВ, аднак там (як высветлілася потым) вакантных месцаў не было, таму мяне там з радасцю адпусцілі ў родную полацкую сярэднюю школу № 10, дзе я пачаў працаваць настаўнікам.

У канцы першага года працы я прачытаў абвестку пра тое, што Наваполацкі політэхнічны інстытут (ад Полацка да Новаполацка каля 10 км — заўвага аўтара) аб'яўляе конкурс на вакансію выкладчыка нямецкай і англійскай моў, і вырашыў падаць туды дакументы. Але ж заставаліся яшчэ два «неадпрацаваныя» гады. На «адмацаванне» быў патрэбны дазвол Міністэрства адукацыі. Хутка мне ўдалося яго атрымаць, і я пасля вайсковых збораў даведаўся, што ў гэтым конкурсе перамог.

З канца жніўня 1981 года я пачаў працаваць на інстытуцкай кафедры замежных моў. Як самага маладога, мяне ўвесь час са студэнтамі пасылалі «на бульбу» і даручылі выкладаць у тым ліку і на вячэрнім факультэце.

Менавіта гэта добра дапамагло мне пазней на выбарах у Вярхоўны Савет БССР, бо ўсе студэнты там — сталыя, салідныя, уплывовыя людзі, якія свае школы закончылі даўно, а да нас прыйшлі па «корачку» аб вышэйшай адукацыі.

Безумоўна, каб мае студэнты здавалі залікі, мы займаліся і нямецкай мовай, але нямала размаўлялі, як кажуць, «за жыццё», абмяркоўвалі тое, што адбываецца ў краіне.

У 1984 годзе я паступіў у аспірантуру. Праз тры гады вярнуўся ў Наваполацк, дзе мне далі пасаду старшага выкладчыка. Абараніўся я ў 1989 годзе. Падчас абароны кандыдацкай па лінгвістыцы тэксту, дарэчы, не было ніводнага «чорнага шара», г.зн., усе сябры вучонай рады прагаласавалі «за».



## Палітычны вектар

Другая палова васьмідзясятых гадоў была шмат для каго моцным інфармацыйным шокам. Прыкладам, калі ў «ЛіМе» з'явіўся артыкул Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты — дарога смерці», я студэнтам усіх дзесяці груп, дзе вёў англійскую і нямецкую мовы, яго ўголас прачытаў, часткова ахвяраваўшы дзеля гэтага заняткамі.

На «Дзяды» 1988 года хацеў ехаць абавязкова, але мне на гэты суботні дзень (можа, выпадкова...) паставілі дадатковыя заняткі са студэнтамі.

На той момант Наваполацк быў самым забруджаным горадам Беларусі. І вінаваты ў гэтым быў не толькі ўсім вядомы «Нафтан». Самым сур'ёзным забруджвальнікам навакольнага асяроддзя быў завод бялкова-вітамінных канцэнтратаў. Невыпадкова, што ў нас і нарадзіўся моцны экалагічны рух. Аснову яго складалі «тэхнары», якім не хапала нейкага інтэлектуальнага пачатку, каб, напрыклад, складаць лісты ў розныя інстанцыі, рэзалюцыі, звароты. Яго ролю і выконвала літаб'яднанне «Крыніца», дзе мы былі разам з Уладзем Арловым, Сержуком Сакаловым-Воюшам, Вінцэсем Мудровым...

Хачу, каб гісторыкі ведалі, што самы першы масавы мітынг пратэсту на беларускай зямлі адбыўся не ў Мінску, а ў Наваполацку. У 1987 годзе там на Плошчы будаўнікоў сабралася ці не 10 тысяч народу. З Віцебска прыехаў першы сакратар абкама партыі Уладзімір Грыгор'еў, якога адразу так «абсвісталі», што ён быў вымушаны з ганьбай уцякаць.

Праз некалькі дзён адбылося пасяджэнне бюро ЦК КПБ. Горад перавялі ў вышэйшую катэгорыю забеспячэння прадуктамі харчавання, увялі адпаведныя ільготы, а ўсе фільтры ачысткі водаправоднай вады, што паступалі ў Беларусь, вырашылі накіроўваць толькі сюды. Можна толькі здагадвацца, як моцна гэта падняло сярод людзей наш аўтарытэт.

Калі пазней ствараўся Беларускі Народны Фронт, «зялёныя» да нас далучыліся практычна ўсе. У 1989 годзе пачаў працаваць Дэмакратычны форум. На выбарах народных дэпутатаў СССР мы яшчэ не выстаўлялі свайго кандыдата, але Мікалай Дземянцей у Наваполацку іх прайграў (перамогу ва ўсёй акрузе яму забяспечылі суседнія раёны).

Затое на выбарах 1990 года ў Вярхоўны Савет БССР мы перамаглі, як кажуць, у «адну брамку» (тры з трох); пасля мясцовых выба-

раў восем чалавек трапілі ў абласны савет, а ў гарсавеце мы змаглі стварыць даволі буйную фракцыю (амаль палова месцаў).

Шчыра кажучы, я не збіраўся «ісці ў дэпутаты». У нашай выбарчай акрузе павінен быў балатавацца вядомы паэт і бард Сяржук Сакалоў-Воюш, але перад другім турам «сходу грамадзян», якія вызначалі кандыдатаў, гэтыя самыя грамадзяне «разбрыліся» і неабходны кворум знік. З трохсот неабходных засталіся толькі 292 чалавекі. Сяржук перамагаў, але сам сход прызналі несапраўдным.

Давялося на дэпутацкі мандат прэтэндаваць мне. Пагадзіўся. Перш за ўсё, каб не даць дарогу яраснаму беларусафобу і расійскаму шавіністу дацэнту марксісцка-ленінскай філасофіі Емяльянаву, якога вылучыла партбюро нашага інстытута.

Гэта быў самы пачатак студзеня 1990 года. В

ядома ж, партыйныя структуры, мякка кажучы, мне не спрыялі, але далёка не ўсе прытрымліваліся афіцыйных поглядаў. Асобна ў гэтым сэнсе хачу адзначыць Генадзя Мікалаевіча Бураўкіна. Партыйцы вызначылі яго «ў піку» мне, на маю акругу. Знакаміты паэт добра разумеў: заўчасная адмова будзе азначаць тое, што адразу знойдуць больш падатлівага чалавека, і «цягнуў» з адказам. Адмовіўся толькі ў апошні момант, перайшоўшы на вольную акругу ў Полацк. І мяне выбралі народным дэпутатам ад Наваполацка, хоць канкурэнцыю мне складалі пяць сапернікаў на чале з першым сакратаром гаркама партыі Уладзімірам Панталёвым.

Калі я прыехаў на ўстаноўчую сесію Вярхоўнага Савета, у Мінску ўжо пачаў працаваць «Дэмакратычны клуб». Менавіта там я першы раз пасля першага з'езда БНФ у Вільні блізка ўбачыў Зянона Пазьняка. А калі я першы раз уваходзіў у будынак Вярхоўнага Савета, нават адчуваў нейкі страх...

### Эмацыйныя памылкі

Я чалавек вельмі эмацыйны. Усё моцна перажываю. Часта па драбязе, якая ў маіх вачах перарастае з праблем у звышпраблемы. Праўда, пасля іх вырашэння часта бачыш, што ўсё было не так і трагічна...

Бывала, прапановы шчырых людзей дапамогі і сяброўства я не прымаў, а наадварот, верыў тым, хто потым «падстаўляў» альбо з самага пачатку меў нячыстыя намеры.



Гэта непрыемна адмоўная рыса, якая, дарэчы, так і не дала магчымасць мне здзейсніцца як палітыку. Гавару гэта цалкам адказна. На мяне ўплывалі людзі, якім не трэба было даваць на сябе ўплываць.

Да таго ж, я зашмат верыў у сілу інтэлектуальнага чынніка. Маўляў, праз адукацыю народ выхоўваецца і нам удасца змяніць яго ментальнасць.

Апошнія 20 гадоў паказалі, што гэта не так проста. Менталітэт складаецца стагоддзямі, і за кароткія тэрміны яго змяніць немагчыма...

Калі прааналізаваць апошнія дзесяцігоддзі майго жыцця, то там хутчэй быў ланцуг памылак, а не поспехаў.

Вось, напрыклад, адна з тых, што датычыла маёй дэпутацкай дзейнасці. Пасля правалу путчу і прыпынення Гарбачовым дзейнасці кампартыі, была наступная сітуацыя.

У сярэдзіне пазачарговай сесіі мы стаялі ў калідоры Дома ўрада. Падышоў спадар Кебіч і кажа: «Буду падаваць у адстаўку». Дэпутат-касманаўт Уладзімір Кавалёнак стаў яго адгаворваць. Маўляў: «На каго Вы нас пакідаеце? Вы адзіны, хто ў такі цяжкі час можа ўзначальваць урад».

Упэўнены, калі б я тады «падключыў» усіх астатніх, Кебіча можна было адправіць у адстаўку. А я ж заняўся чыста кулуарнай работай. Пабег да Генадзя Карпенкі пытацца, ці згодны ён узначаліць урад, калі «пад шумок» мы прапануем яго кандыдатуру. Генадзь быў згодны, але, калі я вярнуўся назад, Кавалёнак, які тады ўваходзіў у Дэмклуб, ужо ўгаварыў Кебіча нікуды не сыходзіць.

Хто ведае, можа, гісторыя нашай краіны 25 жніўня 1991 года магла пайсці зусім іншым шляхам. Бо Генадзь Карпенка, магчыма, здолеў бы знайсці агульную мову і з наменклатурай, і з Зянонам Пазьняком (апошняга ён вельмі глыбока паважаў).

Яшчэ адна вялікая памылка звязана з тым, што я пагадзіўся ўзначаліць БНФ пасля ад'езду Пазьняка ў эміграцыю. Не здолеў яму запярэчыць, бо сам Зянон у патаемным месцы пакінуў канверт, дзе напісаў, што бачыць сваім «пераемнікам» толькі мяне.

Але ж у мяне не было і няма патрэбнай харызмы кіраўніка. Паводле натуры я чалавек вельмі адказны і «фронт работ» выконваю заўсёды. Аднак, калі мяне не слухаюцца, усё за іншых спрабую рабіць сам. А, як вядома, усё зрабіць самому немагчыма фізічна. Ты

будзеш кепскім лідарам, калі не прымусіш працаваць іншых. На жаль, са мной так і адбывалася...

Мабыць, гэта і не прадухіліла раскол БНФ у 1999 годзе. Можа, калі б на чале стаяў нехта іншы, яго б удалося пазбегнуць...

Дадаць хацелася б і пра яшчэ адну памылку — ужо не толькі маю, але і маіх аднадумцаў. Часам мы падманваліся таму, што менавіта і хацелі падманвацца. А дзейнічаць трэба было больш прынцыпова, рашуча, жорстка. Асабліва адносна партыйнай наменклатуры. На словах яны часам былі «за нас», а ў рэальнасці ўсё рабілі супраць.

Такіх прыкладаў было шмат. Нагадаю толькі адзінз іх. У 1994 годзе з Зянонам Пазьняком мы прыехалі ў адзін з раёнаў. Заходзім у кабінет старшыні выканкама. На стале — партрэт Пазьняка і яго кніга «Зянон Пазняк: сапраўднае аблічча». Мясцовы начальнік тады папрасіў аўтограф, а, калі нас у 1995 годзе ў парламенцкім будынку брутальна збілі, ці не ён жа назаўтра з нянавісцю крычаў: «Так вам і трэба!» (самога яго, дарэчы, Лукашэнка на пасадзе ўсё адно не пакінуў).

Так што не магу пагадзіцца з пэўнымі пасажамі мемуараў таго ж паважанага Пятра Краўчанкі. З наменклатурай мы працавалі (застаючыся, вядома, на сваёй ідэйнай платформе), і ніхто нікога не палохаў. Наша віна ў тым, што мы кепска разбіраліся ў людзях і не праяўлялі належнай пільнасці. Асабліва наконт магчымай здрады.

У 2007 годзе, калі я зноў узначаліў БНФ, гэта аказалася яшчэ адной маёй фатальнай памылкай. Як вядома, немагчыма «двойчы ўвайсці ў адну і тую ж ваду», а я паспрабаваў гэта зрабіць. Перш за ўсё для таго, каб не даць выбрацца Алесю Міхалевічу. Безумоўна, чалавек ён здольны, але занадта амбіцыйны. І не выпрабаваны жыццём. Калі ты ўвесь час займаўся толькі «трэцім сектарам», немагчыма быць аўтарытэтам у вачах людзей, якія працавалі на заводах, альбо выкладалі ва ўніверсітэтах ці займаліся навукай у Акадэміі навук. Менавіта такія АСОБЫ і складалі ў той час аснову БНФ. Цяпер жа, гледзячы на склад цяперашняга кіраўніцтва Партыі БНФ, хочацца плакаць: там фактычна няма ніводнага сябра аргкамітэта БНФ 1988 года, ніводнага дэпутата 12-га склікання, ніводнага сябра першых соймаў Фронту, ніводнага чалавека, які б быў аўтарытэтам на месцы асноўнай працы (ды і гэтай «асноўнай працы», акрамя як у Рыгора Кастусёва, ні ў кога не было).



У 2007 годзе я такі крызіс прадчуваў і, як той камікадзэ, «кінуўся на амбразуру». Зноў-такі на эмоцыях, а іх у такіх рэчах быць не павінна.

Так ці інакш, майго аўтарытэту не хапіла, каб навесці там парадак. А столькі шчырых і здольных фронтаўцаў звязвалі са мной надзеі, якіх я не спраўдзіў...

Наогул, цвяроза ацэньваючы пройдзены жыццёвы шлях, мушу прызнаць: памылак у сваім жыцці я зрабіў больш, чым нечага станоўчага.

### Адчуванне несапраўднасці

Дзень пачатку маскоўскага путчу19 жніўня 1991 года. З усіх нашых дэпутатаў бліжэй за ўсіх да будынка Вярхоўнага Савета жыў я, таму, як толькі даведаўся пра путч у Маскве, прыйшоў туды самы першы. Каля восьмай раніцы.

У мяне ўжо як бы быў досвед у справе надзвычайнага становішча. 9 снежня 1981 года я вёў у сваім інстытуце заняткі па нямецкай мове. Раптам пастукалі ў дзверы. Пасыльны з ваенкамата ўручыў мне павестку і квіток на цягнік да Мінска. Мяне нечакана выклікалі ў штаб Беларускай ваеннай акругі.

Там узгадалі маё анкетнае веданне польскай мовы і пачалі рыхтаваць неабходныя мабілізацыйныя дакументы. Вайсковыя начальнікі сказалі, што сітуацыя ў Польшчы «вельмі складаная», што ім патрэбная аналітычная інфармацыя пра тое, што там адбываецца.

Мяне і яшчэ некалькіх чалавек зрабілі як бы «аналітыкамі». Мы аператыўна рабілі агляды польскіх СМІ, у тым ліку і апазіцыйных, накшталт «Тыгодніка Салідарнасць», слухалі незалежнае радыё, глядзелі відэафільмы і рыхтавалі даведкі, якія потым аналізаваліся «наверсе».

Дзякуючы гэтаму, я, па-першае, набраўся пэўных сімпатый да таго, што рабіла польская «Салідарнасць», а па-другое, добра ўяўляў сабе, як уводзіцца ваеннае становішча: танкі на вуліцах у Польшчы з'явіліся ў першыя хвіліны ваеннага становішча. І вось у дзень пачатку маскоўскага путчу я адразу ж падбег да вакна і ўбачыў, што ніякіх танкаў няма. Ні на вуліцы, ні ў нашым двары.

Ніякага ўзмацнення аховы не было і ў Вярхоўным Савеце, дзе я ў такі ранні час сустрэў толькі памочніка Шушкевіча Івана Сцяпуру.

Праз некалькі хвілін прыехаў дэпутат Лявон Дзейка, а да дзевяці раніцы сабралася яшчэ чалавек дзесяць з нашай фракцыі.

Цікавы выпадак быў з дэпутатам-дэмакратам Яўгенам Глушкевічам з Оршы. Як толькі ён даведаўся пра путч, дык адразу купіў квіток і першым цягнікам паехаў у Санкт-Пецярбург. Некалі ён працаваў разам з Генадзем Янаевым у Камітэце маладзёжных арганізацый, быў з ім у вельмі кепскіх стасунках. У Піцеры Глушкевіч адразу скіраваўся ў прыёмную да мэра Сабчака і потым адтуль дасылаў нам інфармацыю пра ўсе тамтэйшыя падзеі.

Такую ж інфармацыю праз факс атрымліваў наш калега Пётра Садоўскі (старшыня парламенцкай камісіі па міжнародных справах) з Белага дома ў Маскве.

Дарэчы, першую нашу рэзалюцыю (дакладней яе праект) адносна путчу напісаў я. Потым яе крыху падрэдагавалі і аддалі Ігару Герменчуку, якому ўдалося на другі дзень пераваротy паўпадпольна выпусціць чарговы нумар газеты «Свабода!»

А ў першы дзень, як толькі ў сваім кабінеце з'явіўся Мікалай Дземянцей, мы адразу ж сфармавалі фронтаўскую дэлегацыю і пайшлі да яго. І вось у гэты момант мне, мабыць, нехта дапамог «звыш». Якраз светлай памяці Ігар Гермянчук выказаў, памятаю, сумненне адносна таго, браць з сабою дыктафон альбо не. Я настаяў — бяры. Дземянцей быў так упэўнены ў перамозе путчу, што нават не стаў прасіць прыбраць дыктафон са стала.

Пазней, калі путч «ляснуўся» і ён імкнуўся выкруціцца, гэты запіс вельмі моцна прыдаўся. Мы яго пачалі трансляваць на плошчу перад парламентам у жывым эфіры. Дземянцей быў вымушаны сысці ў адстаўку.

Дарэчы, менавіта ў першы дзень путчу я скарыстаўся прапановай Уладзіміра Коласа і працаўладкаваўся ў Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр, пры якім акурат стваралася некалькі аддзелаў, у тым ліку і знакаміты ліцэй. Гэтаму ліцэю я не здраджваў ніколі...

Хачу звярнуць увагу і на яшчэ адзін момант. Ужо вечарам 19 жніўня 1991 года на арганізаваны намі мітынг (улёткі зрабілі на парламенцкім ксераксе і самі іх паклеілі на слупах каля Вярхоўнага Савета) у вайсковай форме прыйшоў Мікола Статкевіч і абвясціў, што путч падтрымліваюць не ўсе савецкія вайскоўцы. На той момант гэта быў УЧЫНАК.



Тым не менш, адчуванне нейкай несапраўднасці тады было не толькі ў мяне. Той жа Пазьняк сказаў такую фразу: больш за тры дні гэта не працягнецца. Можна шмат што, дарэчы, казаць пра асобу лідара БНФ (я яго далёка не ідэалізую), але я, да прыкладу, перакананы, што, калі б Зянон быў у складзе Вярхоўнага Савета 13-га склікання, прэзідэнцкая авантура з рэферэндумам аб змене Канстытуцыі проста так не прайшла б! У кожным выпадку, у такі важны для краіны момант ён (як некаторыя) не хадзіў бы гуляць у футбол...

Нешта зрабіць у справе мабілізацыі дэпутатаў тады імкнуўся таксама светлай памяці Георгій Таразевіч, але яго палітычнай «вагі» (а сам ён дэпутатам таксама не быў) было замала.

Улада ведала, што рабіла, калі наўпроставым умяшаннем спецслужбаў перашкодзіла Зянону Пазьняку абрацца дэпутатам у Смаргоні...

## Галоўны выбар

Вернемся да дзён путчу і пасля яго. Ад самага пачатку апазіцыя БНФ пачала дамагацца склікання пазачарговай сесіі Вярхоўнага Савета. Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што ў другой палове дня 20 жніўня ў парламент прыехаў Аляксандр Лукашэнка. Пад нашымі заявамі з асуджэннем ДКНС (рус. ГКЧП) ён не падпісаўся, але пад патрабаваннем тэрмінова склікаць нечарговую сесію ўсё ж такі свой аўтограф пакінуў. Яго подпіс можна знайсці недзе ў другім ці трэцім дзясятку.

Дзве ночы перад сесіяй мы амаль не спалі: рыхтавалі дакументы, як кажуць, «на ўсе выпадкі жыцця». Пра незалежнасць, сімволіку, армію, міліцыю, КДБ і г.д.

Скажу шчыра, веры ў тое, што ўдасца дамагчыся незалежнасці, было працэнтаў 50. У магчымасць спыніць дзейнасць КПБ не верыў практычна ніхто.

Першы дзень быў «жалезабетонны». Дземянцей трымаўся за сваё крэсла. Маўляў, «усё вы не так зразумелі». Амаль да вечара сітуацыя была фактычна нязрушнай. Пытанне пра змену кіраўніка, які падтрымаў путчыстаў, што называецца, «падвісла».

Вечарам пайшлі чуткі пра тое, што Гарбачоў прыпыняе дзейнасць кампартыі. Афіцыйных паведамленняў яшчэ не было, але інфармацыя пачала ўжо «гуляць у кулуарах». Наменклатура адчула

жывёльны страх і зразумела, што трэба неяк бараніцца. Дземянцея яны банальна «здалі». Наступнай раніцай ён падаў у адстаўку.

Усе з палёгкай уздыхнулі, і мы адразу пачалі «прапіхваць» пытанне пра незалежнасць. Аднак «ішло» яно вельмі марудна. Быў аб'яўлены перапынак. Што адбылося, не ведаю, аднак пасля таго, як ён скончыўся, адзін з самых артадаксальных камуністаў з Гомельшчыны дэпутат Міхаіл Мачуленка раптам прапанаваў «падтрымаць усе прапановы Пазьняка». Мякка кажучы, гэта быў шок. Сітуацыя пахіснулася.

Пасля чарговага перапынку прыблізна гэтаксама наконт прапаноў апазіцыі выказаўся прэм'ер Кебіч і вынес на разгляд сесіі распрацаваны Саўмінам праект пастановы аб абвяшчэнні эканамічнай і палітычнай самастойнасці Беларусі і перападпарадкаванні ўсіх саюзных устаноў на тэрыторыі Беларусі яе ўраду.

Спрэчкі былі змястоўнымі, але адносна нядоўгімі і, у рэшце рэшт, у 20 гадзін 08 хвілін былі абвешчаныя вынікі найважнейшага галасавання: БЕЛАРУСЬ СТАЛА НЕЗАЛЕЖНАЙ. Назаўтра з такім загалоўкам выйшла і газета «Звязда».

Увечары ж 25 жніўня пад сценамі парламента нас вітаў шматтысячны мітынг. У тым ліку і мой сябар, вядомы пісьменнік Уладзімір Арлоў, які ў гэты дзень святкаваў свой дзень народзінаў. Памятаю, яму нехта падарыў кавалак граніту, што быў адколаты ад будынка ЦК КПБ. Наколькі я ведаю, той прэзент Арлоў захоўвае па сёння.

За некалькі гадзін да гэтага, не пытаўшыся дазволу ў Пазьняка, я папрасіў сакратарыят Вярхоўнага Савета раздрукаваць падрыхтаваны намі закон пра дзяржаўную сімволіку. Сталі яго распаўсюджваць, але віцебскі партфункцыянер-гаспадарнік Уладзімір Кулакоў папрасіў «не штурхаць» гэта пытанне. Маўляў, потым да яго абавязкова вернуцца, а ў гэты момант усе ўжо «вельмі стаміліся».

На наступнай сесіі так і адбылося. Але ўжо з вялікай цяжкасцю. Як бы мовіць, наменклатура ўжо «ачомалася»...

«Жарты гісторыі», але для ўвядзення гістарычнай сімволікі спатрэбіўся голас Віктара Шэймана. Справа ў тым, што праціўнікі ідэі (у большасці ветэраны) паставілі пад сумнеў яго голас, а для падобных змен патрэбная была «канстытуцыйная большасць», якая на той момант складала 230 галасоў. 230-ым і быў Віктар Шэйман, які публічна пацвердзіў, што галасаваў менавіта «за».



Дарэчы, тады ж быў прыняты і Закон пра грамадзянства. Дзве траціны тэксту былі ўзятыя з праекту фракцыі БНФ, а пісаў яго ў асноўным я. Ганаруся гэтым па сённяшні дзень, хоць сёння яго некаторыя палажэнні (асабліва ў частцы набыцця грамадзянства спартсменамі) і не выконваюцца...

Памятаю добра, што нават Вячаслаў Кебіч на пасяджэнні парламента 25 жніўня сказаў: «Мы ўжо год жывём без Савецкага Саюза і нічога ад яго не маем. Пражывём і надалей...» Гэта ўжо потым ён напіша ў сваіх мемуарах, што нехта яго «няправільна зразумеў»...

Пра першую міжнародную рэакцыю на зробленае тады стала чуваць ужо 3 верасня, калі Польскі сейм зрабіў палітычную заяву ў падтрымку незалежнасці Беларусі. Але гэта яшчэ не было дыпламатычным прызнаннем. Першай жа краінай, якая прызнала незалежнасць Беларусі афіцыйна, была Турцыя. Адбылося гэта пасля Віскулёўскіх пагадненняў. На жаль, гісторыкі сёння ўсё крыху «падзабылі».

Некаторыя рускія шавіністы жадаюць бачыць у распадзе СССР «амерыканскі» альбо наогул «заходні» след. Няпраўда! Усё было з дакладнасцю да наадварот. Амерыканцы тады вельмі баяліся «распаўзання» ядзернай зброі. Калі не памыляюся, ЗША прызналі беларускую незалежнасць толькі пятымі.

У дачыненні да сённяшняга дня хачу сказаць наступнае. Натуральна, тое, што сёння адбываецца з нашай маёмасцю, вельмі непрыемна, але гэта не назаўсёды. Галоўнае, што некалі ўсё можна будзе вярнуць назад, і юрыдычны падмурак для гэтага закладзены 25 жніўня 1991 года.

Падобных прэцэдэнтаў у гісторыі даволі шмат. Тыя ж Фінляндыя, Манголія, Польшча, краіны Балтыі...

Упэўнены, некалі ўсё вернецца «на кругі свае».

### Замест пасляслоўя

Па зразумелых прычынах у артыкул аўтар змог «упісаць» далёка не ўсё, што прагучала падчас нашай трохгадзіннай размовы, але на гэтым моманце хачу зрабіць акцэнт спецыяльна. На мой погляд, менавіта ў ім адна з галоўных прычын таго, чаму апазіцыя ўвесь час прайграе ўладзе.

Лявон Баршчэўскі сказаў вельмі слушна і трапна: «Палітычная праца ў нашых умовах павінна быць толькі прафесійнай. Каманда

аматараў гуляць у футбол у прынцыпе можа перамагчы каманду прафесіяналаў: тады, калі прафесіяналы пачнуць падаць, атрымліваць траўмы, «мяч перастане ісці ў вароты», а ў аматараў усё будзе атрымлівацца... Падобнае бывае, але здараецца раз у два стагоддзі.

1991 і наступныя гады толькі пацвердзілі гэтую ісціну. Прафесіяналы мабілізаваліся, і супрацьстаяць ім маглі толькі прафесіяналы. Перамагаць «нахрапам» альбо «на ўра» далей не атрымалася... Трэба, аднак, разумець: прафесіяналаў у палітыцы можа ствараць толькі народ, і яны могуць з'явіцца толькі ў цесным кантакце з гэтым самым народам. Не ў эміграцыі і не на семінарскіх «мазгавых штурмах».

# ВІНЦУК ВЯЧОРКА



**Падрыхтавана да друку 25.10.2013**

*Мабыць, калі шукаць нейкі мэйнстрым жыцьця Вінцука Вячоркі, то можна сказаць, што ён увесь час нешта пачынае. І самае галоўнае — працягвае шукаць зноў, калі знойдзенае было аднойчы страчана.*

*А яшчэ яго можна назваць адным з самых інтэлігентных палітыкаў Беларусі, якога вельмі цяжка ўявіць у няволі. Асабліва, калі ўлічыць, што першы раз ён быў яшчэ трыццаць гадоў таму, а цяпер Вінцуку толькі 52.*

## Пачатак жыцьця[1]

«Я нарадзіўся ў Берасьці 7 ліпеня 1961 году. Між іншым, гэта дзень народзінаў Янкі Купалы. І Купальле (паводле юліянскага календара).

Бацька, Рыгор Мікалаевіч, быў эканамістам, маці, Аляўціна Сямёнаўна, працавала пэдагогам, рэдактарам. На жаль, бацькі ўжо няма. Маці актыўна і з задавальненьнем удзельнічае ў беларускім грамадзка-культурным жыцьці .

Да 1974 году мы жылі ў Берасьці, я хадзіў у сярэднюю школу нумар адзін, якая потым стала гімназіяй з матэматычным профілем. Патэнцыял бацькі як навукоўца і практыка (спэцыялізаваўся на асноўных прадукцыйных фондах і крэдытнай справе) быў ацэнены «наверсе», і яго запрасілі дараднікам Пятра Машэрава ў эканамічных пытаньнях.

Хачу падкрэсьліць, што бацька трапіў у цэкоўскую структуру дзякуючы не партыйнаму кар'ерызму, а асабістым грунтоўным ведам і

1 Тэкст гутаркі на жаданьне суразмоўцы запісаны клясычным правапісам (тарашкевіцай).

досьведу. Тая ўлада не змагла б доўга кіраваць без выкарыстаньня сапраўдных прафэсіяналаў.

Родам мой бацька са знакамітых Мерлінскіх хутароў, якія знаходзіліся на ўскрайку цяперашняга Столінскага раёну. Гэта Заходняя Беларусь. Сёньня Хутароў ужо няма, бо ў 1961 годзе ў тых мясьцінах зрабілі палігон для авіяцыі Варшаўскага дагавору. Там бязьмежныя балоты, ад якіх (з часоў сталыпінскай рэформы) людзі адваёўвалі жыцьцёвую прастору. На такім хутары пасярод унікальнай прыроды ў сялянскай сям'і вырас бацька. Але палітую людзкім потам зямлю потым «калектывізавалі» бальшавікі.

Нягледзячы на блізкасьць да камуністычнага істэблішмэнту (што мне часта ўзгадвалі), бацька ўсё жыцьцё мысьліў не зусім партыйнымі катэгорыямі, добра разумеў, што такое прыватная ўласнасьць і свая беларуская зямля. Гэта асабліва адчувалася падчас супольных выездаў у вёску, бліжэй да ягонай малой радзімы. Напэўна (і гадоў трыццаць таму гэта здавалася б парадаксальным), адзін зь імпульсаў іншадумства я атрымаў дзякуючы яму. Нашмат пазьней Рыгор Вячорка, які ўжо меў досьвед макраэканамічнага рэгуляваньня эканомікі новапаўсталай незалежнай краіны, перамоваў з МВФ ды іншымі міжнароднымі структурамі, спрычыніўся да ўкладаньня эканамічнага разьдзелу Праграмы БНФ.

Маці па адукацыі філёляг, выкладчыца беларускай і расейскай моваў, у Берасьці выкладала расейскую, а пазьней у Менску працавала літаратурным рэдактарам. Несумненна, мне перадаліся ад яе філялягічныя схільнасьці. Дома было мноства кніг, і прыахвоціўся я да чытаньня вельмі рана. Недзе з трох ці трох з паловай гадоў, чаму ёсьць дакумэнтальнае пацьверджаньне. На фатаконкурсе абласной газэты «Заря» прыз атрымаў здымак, дзе падчас выезду на возера дарослыя займаюцца сваімі клопатамі, а я на кукішках чытаю газэту, пасьцеленую пад перакус.

Малодшая сястра Алена (адрозна ад мяне) прафэсійна пайшла ў бацьку, яна эканаміст, прафэсар. Так што я, хоць і філёляг, маю кантакты з колам кваліфікаваных эканамістаў.

Я даволі рана вызначыўся з прыярытэтамі і меркаванай прафэсіяй. Гэта — мовазнаўства. Цікавілі розныя мовы, услухоўваўся ў адрозьненьні падберасьцейскіх і давыд-гарадоцкіх дыялектаў.

У Берасьці я вучыўся да 13 гадоў. Школу закончыў ужо ў Менску. Амаль на выдатна. У атэстаце меў адну чацьвёрку — па расейскай мове, за што і не атрымаў мэдаль. Але не шкадую. У старэйшых клясах штолета працаваў рабочым у друкарні Дому друку, за свае грошы купіў радыё «ВЭФ-202» і магнітафон-»прыстаўку».



Паступіў на філфак БДУ, на аддзяленьне «беларускай і рускай мовы і літаратуры», бо чыста беларускай спэцыялізацыі там тады не было. Выбар зроблены невыпадкова: ужо з 12-13 гадоў я адчуваў у сабе імпульс нацыянальнай сьвядомасьці, адметнасьці, разуменьня, што Беларусь — ня ёсьць Расея.

Інтэрнэту тады не было. Я рана пачаў слухаць «замежныя галасы». Спачатку праз цікавасьць да рок-музыкі, а потым і дзеля альтэрнатыўнай палітычнай інфармацыі. У Берасьці гэта было толькі польскае радыё, а ў Менску — безупынна глушаныя Бі-Бі-Сі, «Голас Амэрыкі». І ўрэшце — Радыё Свабода. Добра памятаю, як праз «глушылкі», рыхтуючы ў ноч зь пятніцы на суботу (каля першай гадзіны) ненавіснае тэхнічнае чарчэньне, я раптам пачуў на 75-м дыяпазоне некалькі беларускіх словаў і зразумеў — вось яна, беларуская служба Радыё Свабода.

Бацька паціху даваў мне чытаць «белы ТАСС» — аналітычныя бюлетэні для службовага карыстаньня пра становішча ў розных краінах, у прыватнасьці, у Польшчы, Чэхіі. Я нямала ведаў пра рэальны стан рэчаў.

І яшчэ. Я карыстаўся чытацкім білетам крыху старэйшага за мяне Сяргея Дубаўца і хадзіў у «Ленінскую» бібліятэку, куды школьнікаў наагул не пускалі. У беларускім аддзеле чытаў кнігі накшталт «Нацыянал-дэмакраты за працай» — пасквілі 30-х гадоў, шукаючы ў іх праўдзівую інфармацыю пра тагачасныя падзеі. Чытаў кніжкі Алеся Божкі, Леаніда Прокшы — штатных камуністычных пасквілянтаў 70-х гг. і ў іхных «фэльетонах» пра нацыянальную эміграцыю знаходзіў цікавыя мне факты. Дарэчы, з адной з тых кніг я і даведаўся, што была БНР, што яна мела герб Пагоню і бел-чырвона-белы сьцяг...

Так што на філфак я прыйшоў сьвядомым чалавекам. На той час размаўляў па-беларуску, перайшоў на родную мову яшчэ ў апошніх школьных клясах. І дзёньнік вёў па-беларуску, за што там пісалі «веди дневник, как положено». У вялікіх гарадах тады не было беларускіх школаў.

### Пачатак дзейнасьці

Недзе на другім курсе маёй вучобы сфармавалася група аднадумцаў: я, Сяргей Дубавец, Сяржук Сокалаў-Воюш, які тады быў проста

Сокалаў (Воюш — дзявочае прозьвішча маці). Ён вучыўся ва ўнівэрсытэце на курс пазьней, бо зь першага разу не паступіў як прынцыповы некамсамолец. А я вось камсамольцам быў... Толькі значок меў не чырвоны, як ўсе, а перарабіў яго на чырвона-зялёны. Наіўна хацеў такім чынам прадэманстраваць прыналежнасьць да Беларусі. А камсамольцамі былі тады 99% моладзі... Куратарка курсу спрабавала зрабіць мяне «камсоргам», але я катэгарычна адмовіўся.

Разам з Дубаўцом і Сокалавым у 1979-1981 г. мы выпускалі самвыдавецкі бюлетэнь «Люстра дзён», незалежніцкі і антысавецкі. Былі чатыры машынапісныя выпускі. Наклад — 20-25 копіяў, зробленых на машынцы «Белпалку» — часткі ўнутраных войскаў на вул. Чыгуначнай, дзе служыў тады Сяргей Дубавец. Спэцслужбы шукалі, дзе яны друкуюцца, але нікому не магло прыйсьці ў галаву, што ўсё робіцца ў іх «пад самым носам». «Залёт» быў толькі адзін — на наваполацкім заводзе «Палімір», куды праз швагра Сержука Сокалава закідвалі асобнікі выданьня. Дапытвалі Сержука, ціснулі на ягонага бацьку-настаўніка, слабому здароўю якога гэбэшнікі нанесьлі сур'ёзны ўдар. У іх былі падазрэньні, але не было доказаў. «Вылічыць» крыніцы яны не змаглі.

На той момант з дапамогай Ігара Герменчука (ён акурат працаваў на паліграфкамбінаце, адкуль, рызыкуючы свабодай, выносіў наборныя шрыфты) мы зрабілі падпольную друкарню, былі гатовыя выпускаць новае выданьне, тытул якога «Вястун» ужо быў адліты ў мэтале. Партатыўная друкарня нейкі час нават захоўвалася ў мяне дома. Тым ня менш пра канспірацыю мы дбалі. Але ратавала ня толькі гэта. Мабыць, нехта дбаў пра імідж «самай спакойнай рэспублікі СССР», і справы не раскручвалі. Да таго ж наша друкарская дзейнасьць была прытарможаная з прызывам Герменчука ў войска.

Разумеючы, што заставацца вузкім колам «пасьвячоных» бессэнсоўна, мы актывізавалі легальную беларускую дзейнасьць, каб пашырыць кола прыхільнікаў. Напрыклад, адраджэньнем беларускіх народных сьвятаў на гарадзкіх вуліцах. Вырашылі адзначыць у Менску Каляды. Нічога «падрыўнога» ўлада інкрымінаваць нам не магла — гэта ж фальклёр. Маўляў, народная ўлада ня можа паводле вызначэньня перашкаджаць адраджэньню народнай спадчыны...

Сказана — зроблена. Дзякуючы майму (яшчэ ранейшаму) знаёмству з мастакамі Аляксеем Марачкіным і Міколам Купавам удалося значна пашырыць кола нашых аднадумцаў — выйсьці на студэнтаў



тагачаснага Тэатральна-мастацкага інстытуту. Так сярод удзельнікаў сьвяточных імпрэзаў зьявіліся Сяржук Цімохаў (на жаль, ужо сышоў у лепшы сьвет), Ігар Марачкін, Гэнік Лойка, Генадзь Мацур, Андрэй Радзівонаў, Янка Медзьвядзёў і г.д. Плюс філфакаўцы — Ірына Крук (цяпер Марачкіна), Сяргей Запрудзкі, Алена Амельчыц (цяпер Анісім), матэматыкі (праз Арыну Поўзік, якая стала маёй жонкай), фізыкі, шмат хто яшчэ.

І, вядома, Ларыса Сімаковіч, з якой я выпадкова сустрэўся на лекцыі ў мастацкім музэі. Яна задавала пытаньні па-беларуску, а гэта было своеасаблівым індыкатарам — свая. Пры знаёмстве высьветлілася, што яна кампазытарка і хормайстар. А гэта азначала, што нас навучыць сьпяваць сапраўдны прафэсіянал.

Так нарадзілася «Майстроўня». Першыя Каляды мы адсьняткавалі ў 1980 годзе. Сьпявалі для людзей на вуліцы. Зайшлі да Уладзімера Караткевіча, які жыў у вядомым доме на рагу Маркса і Энгельса, а на выхадзе нас «павязала» міліцыя. Тады яшчэ міліцыянты ня ведалі, што з намі рабіць: нейкая калядная зорка, нейкая каза, гавораць па-беларуску...

Словам, нас адпусьцілі, бо ў Караткевіча быў знаёмы палкоўнік з гарадзкога міліцэйскага начальства, і мы пайшлі, па дарозе сьпяваючы, калядаваць у дом на Сурганава, дзе і дагэтуль жыве шмат мастакоў.

Гэта быў баявы хрост «Майстроўні».

З дазволу намесьніка дэкана, якому вельмі рупіла мастацкая самадзейнасьць, два гады мы зьбіраліся на філфаку БДУ, а затым трапілі ў Палац прафсаюзаў.

Ладзілі публічныя выступы проста на вуліцах Менску, уражваючы людзей нязмушанаю беларускамоўнасьцю. Стварылі нефармальны ўнівэрсытэт беларушчыны. Кола нашых прыхільнікаў расло.

«Майстроўня» скончылася, калі мы зладзілі публічную акцыю пратэсту супраць разбурэньня гістарычнага будынку Менскага гарадзкога тэатру (гатэлю Поляка), у якім прагучала першая беларуская опэра і на месцы якога зараз стаіць навадзел — гатэль «Эўропа». 13 чэрвеня 1984 году 13 маладых людзей упершыню ў найноўшай гісторыі Беларусі выйшлі на акцыю пратэсту супраць зьнішчэньня нацыянальнай памяці ды адчулі на сабе ціск дзяржавы.

«Майстроўня» перацякла ў «Талаку». У «Талацэ» вялікую ролю адыгрывалі рамантычны і ахвярны Сяржук Вітушка ды энэргічны і сьме-

лы Віктар Івашкевіч — абодвух ужо няма сярод нас. Адным з прызнаных лідэраў быў Алесь Суша. «Талака» — гэта супольная праца на рэстаўрацыі архітэктурных помнікаў і археалягічных раскопках, масавы мітынг у абарону Верхняга гораду Менску, маршы пратэсту ў абарону Дзьвіны ад будаўніцтва ГЭС і палескай прыроды, самаадукацыя, урэшце — стварэньне агульнанацыянальнай Канфэдэрацыі беларускіх суполак. У 1985 годзе нас было толькі чалавек пяцьдзясят. А празь некалькі гадоў ужо многія сотні й тысячы па ўсёй краіне.

### Пачатак Фронту

Усё рабілася за свой кошт. Са студэнцкіх стыпэндыяў скідваліся на фотарэактывы, паперу, стужкі, стварылі фонд экстранай дапамогі. Ён дазваляў аплочваць штрафы, як у 1985 годзе за сьвяткаваньне Купальля ў коласаўскай Смольні (і за гэта ж з музэю Якуба Коласа быў выгнаны Сяржук Сокалаў).

Мае фотапавелічальнік і «чырвоная лямпа» працавалі безь перапынку, як і ў іншых сяброў. Гэта цяпер у інтэрнэце можна знайсьці што заўгодна (трэцюю ўстаўную грамату БНР , напрыклад), але найперш нехта быў павінен знайсьці або выцягнуць такія дакумэнты і тэксты са «спэцхранаў», сфатаграфаваць, размножыць на фотапаперы.

Былі наладжаныя сувязі зь віленскімі носьбітамі ідэй БНР (Зоська Верас, Лявон Луцкевіч). Зь Вільні вазіліся сотні мэтраў фатастужкі са сфатаграфаванымі пэрыёдыкай 20-х гадоў мінулага стагодзьдзя і кнігамі зь бібліятэк і архіваў (як прыватны архіў Зоські Верас).

Адзінай вонкавай дапамогай былі 50 рублёў, якія нам як НЗ перадалі ўкраінскія сябры-незалежнікі.

Па ўсёй краіне пасьля 1986 году ствараліся незалежныя культурніцкія і асьветніцкія структуры, накшталт гомельскай «Талакі» ці гарадзенскай «Паходні». Да таго ж пасьля ВНУ талакоўцы разьяжджаліся па Беларусі. Канфэдэрацыя беларускіх суполак — першая несавецкая агульнанацыянальная структура ў пасьляваеннай БССР — аб'яднала каля 60 суполак. Пазьней яна стала адным з арганізацыйных падмуркаў стварэньня БНФ.

Пасьля ўнівэрсытэту (1983) я займаўся навукай, паступіў у асьпірантуру. Мяне не адразу хацелі туды пускаць, мелі разьмеркаваць у Полацак, што, зрэшты, было б і някепска, хоць ужо меў сям'ю і дзіця. Бываў у гэтым горадзе па 10 разоў у год. А які там асяродак — той самы Сокалаў, Арлоў, Мудроў, Храмцоў...



У асьпірантуры я з задавальненьнем займаўся гісторыяй беларускай літаратурнай мовы ў Заходняй Беларусі міжваеннай пары. Але плёнам маёй навуковай дзейнасьці стала найперш сучаснае ўпарадкаваньне клясычнай правапіснай традыцыі Браніслава Тарашкевіча, для якой я прапанаваў назву «тарашкевіца». Звод «Беларускі клясычны правапіс» мы з калегамі Зьмітром Саўкам, Зьмітром Саньком і Юрасём Бушляковым рыхтавалі шмат гадоў, кансультаваліся з мноствам мовазнаўцаў і практыкаў ды выдалі ў 2005 годзе.

Па заканчэньні асьпірантуры выкладаў у Пэдагагічным унівэрсытэце. Час быў гарачы, надыходзілі перамены, таму вучобу і выкладніцкія высілкі я спалучаў з грамадзка-палітычнай дзейнасьцю. У гэты час мы зь Пётрам Садоўскім уклалі першыя беларускамоўныя праграмы для дзіцячых садкоў і беларускамоўную чытанку для дашкольнікаў. Раней такога не было ніколі, кніга вытрымала ўжо два выданьні, рыхтуецца трэцяе.

У 1990 годзе Кастусь Тарасаў, які тады быў адказным сакратаром, і Ўладзімер Крукоўскі, мастацкі рэдактар, запрасілі мяне працаваць у часопіс «Спадчына», ператорэаны з часопісу «Помнікі гісторыі і культуры». Рэдактарам тады быў Іван Чыгрынаў. Наступала новая эпоха, якую мы як маглі набліжалі. З калегамі (Кастусь Тарасаў, Вячаслаў Ракіцкі, Уладзімер Ляхоўскі ды інш.) мы здолелі ператварыць часопіс у інструмэнт той самай нацыянальнай асьветы, якая рабілася раней праз фотаперадрукі пад «чырвоным сьвятлом». Часопіс «Спадчына» выходзіў 10-тысячным накладам, надрукаваў сотні гістарычных, літаратурных, філязофскіх тэкстаў беларускай клясычнай несавецкай традыцыі.

Пачалася эпоха інтэрнэту, і цяпер тая «Спадчына» аблічбоўваецца, каб заіснаваць для маладых, якія ведаюць словы «сайт», «рэсурс» і «фэйсбук» лепш за слова «бібліятэка».

У тым жа годзе я адразу адгукнуўся на прапанову Ўладзімера Коласа запачаткаваць незалежную беларускую адукацыю. Перш гэта былі нядзельныя курсы, якія хутка ператварыліся ў Беларускі гуманітарны ліцэй. Так што ганаруся, што быў сярод ягоных заснавальнікаў. Працаваў там шмат гадоў, да моманту, як узначаліў БНФ; уклаў ліцэйскі курс «Гісторыя і культура беларускай мовы».

Яшчэ ў Берасьці аднаклясьнікі далі мне мянушку «Палітык», таму што я чытаў газэты, ведаў усе навіны. Напэўна, і гэта паўплывала на жыцьцёвыя арыентыры.

Да самага стварэньня БНФ існавала падпольная «Група Незалежнасьць», якая стаяла на антыкамуністычных і незалежніцкіх прынцыпах. З 1986 г. мы даволі шчыльна супрацоўнічалі зь літоўцамі і добра разумелі, што беларусам таксама трэба рухацца наперад.

У верасьні 1988 году нас з Алесем Сушам выклікалі на вайсковыя зборы ў Мар'інай Горцы. Напэўна, каб выключыць з актыўнага палітычнага жыцьця. Атрымалася наадварот. Мы яшчэ ўвесну разам зь Віктарам Івашкевічам і Алесем Бяляцкім прыйшлі да высновы, што ў Беларусі трэба стварыць нешта накшталт літоўскага «Саюдзісу». Акурат дарэчы, як мы лічылі, надараўся ўстаноўчы сход таварыства памяці ахвяраў камуністычных рэпрэсіяў «Мартыралёг».

З Сушам мы зьбеглі з войска туды ў чым былі — у лейтэнанцкай форме, што адразу стала прадметам шэпту ў залі — «Армія з намі!». На паседжаньні высьветлілася, што такі самы плян меў Зянон Пазьняк. У сваім выступе я прапанаваў стварыць нешта большае, чым асьветніцкія структуры, а Пазьняк паставіў на галасаваньне падрыхтаваную раней і падтрыманую Васілём Быкавым прапанову аб утварэньні аргкамітэту руху БНФ «Адраджэньне». Прысутныя камуністычныя чыноўнікі спрабавалі сарваць галасаваньне, але Васіль Быкаў, Міхась Дубянецкі ды наша дружына на чале з Алесем Бяляцкім рашуча іх спынілі.

Так пачаўся новы эпахальны пэрыяд. І да 2009 году яму была ахвяраваная большая частка майго жыцьця. Прайшоў я праз усе ўзьлёты і заняпады БНФ. Я ня трапіў у Вярхоўны Савет на выбарах 1990 году. Апярэдзіў суперніка-генэрала ў паўтара разу, але атрымаў 49%, улада адыгралася на трох намэнклятурных выбарчых участках сталічнай вуліцы Валадарскага, дзе мы ня выставілі назіраньня. Таму я быў, як кажуць, звычайным «палявым камандзірам». Фракцыя БНФ актыўна працавала ў парлямэнце, а мы (Івашкевіч, Бяляцкі, Суша, я ды іншыя) працавалі арганізацыйна, трымалі сувязі з грамадзтвам, выконвалі будзённую працу.

Пра гэта можна распавядаць суткамі. Адзначу толькі, што напачатку я абапіраўся на «майстроўскія» і «талакоўскія» кантакты, а потым кола знаёмстваў моцна пашырылася. Сёньня ў кожным раённым, абласным цэнтры ёсьць людзі, да якіх пры патрэбе магу зьвярнуцца.

Многія памятаюць магутныя рабочыя страйкі тых год, рабочыя мітынгі, якія прымалі фронтаўскія рэзалюцыі, абвешчаньне незалежнасьці, зьмену дзяржаўнай сымболікі (што асабіста мне важна яшчэ і таму, што на паседжаньні «Талакі» я ўпершыню прачытаў публічную лекцыю пра бел-чырвона-белы сьцяг, за што пазьней атрымаў прачуханца ад камуністычных прапагандыстаў і цэлую кампанію выцьця ў іхнай прэсе).



Пра зьмену сьцягу над Домам ураду ў мяне ўспамін неадназначны. Зроблена ўсё было паціху. Мы думалі, што будзе ўрачыстасьць, чырвона-зялёны сьцяг здымуць і аднясуць у музэй, а мы засьпяваем гімн падчас узьняцьця нашага нацыянальнага сьцягу. Нічога падобнага. Уначы адзін сьцяг банальна памянялі на другі. Як сказаў тады Віктар Івашкевіч, «адбылася рэвалюцыя заўхозаў...»

Далей наступілі фронтаўскія будні. Былі спачатку посьпехі — незалежная Беларусь набывала нашымі намаганьнямі шанец адбыцца як свабодная дзяржава. Потым — памылкі і паразы ў цяжкой барацьбе.

У 1999 годзе стала відавочна, што Зянон Пазьняк з-за мяжы ня можа паўнавартасна рэагаваць на зьмены ў краіне, ствараць неабходныя для барацьбы з рэжымам кааліцыі. БНФ хутка губляў уплыў на грамадзтва. Сябры ўрэшце ўгаварылі мяне пайсьці на старшынства ў БНФ, да якога я ня рваўся.

Калі нехта называе гэта «цёплым месцам» і лічыць нейкай «кар'ерай», ён моцна памыляецца. Кіраваць палітычнай партыяй, калі яна ў сапраўднай, а не імітаванай апазыцыі да рэжыму, — значыць ісьці на поўнае самаабмежаваньне. Гэта штодзённыя стрэсы і рызыка. У сям'і бываеш рэдка, вольнага часу не бывае паводле вызначэньня, плюс непазьбежныя арышты. І на звычайную працу нікуды не ўладкавацца пасьля такога старшынства.

Калі ў 2007 годзе на пасаду старшыні БНФ пайшоў мой аднадумец Лявон Баршчэўскі, я шчыра парадаваўся, аднак, як высьветлілася потым, зарана. У 2009 годзе да стырна партыі БНФ, на маю думку, прыйшлі людзі, якія не падзяляюць традыцыйных фронтаўскіх каштоўнасьцяў. Я не лічу, што зь існым рэжымам можна пра нешта дамовіцца, я перакананы, што Лукашэнка ёсьць не гарант беларускай незалежнасьці, а пагроза ёй. У гэтым маё прынцыповае разыходжаньне зь цяперашнім кіраўнцтвам БНФ. Свабоду і незалежнасьць разьдзяляць нельга.

Падобна мяркуюць усе, хто ствараў БНФ. Упэўнены, што так думае і Алесь Бяляцкі. Дарэчы, у 1982 годзе нас пазнаёміў мастак Мікола Купава. Два месяцы мы працавалі разам на раскопках у Мірскім замку. Прайшлі разам гады супольнай рызыкоўнай пад-

польнай працы (самвыдавецтва ды іншае) у савецкі час. Алесь быў арганізатарам першых Дзядоў памяці ахвяраў камуністычных рэпрэсіяў у 1987 годзе і масавых Дзядоў у 1988 г., за што пацярпеў. Гэтаму чалавеку я веру як сабе і не дарую тым, хто цяпер сьмее яго, увязьненага, абражаць.

### Пачатак будучыні

Падчас вучобы ва ўнівэрсытэце я ажаніўся з сваёй аднаклясьніцай Арынай, яна зь сям'і прафэсара Тэхналягічнага інстытуту Паладзія Поўзіка. Нарадзіліся трое дзяцей — Радаслава, Францішак і Ружана. Узроставая адлегласьць паміж імі вялікая. Усе яны займаліся ў дзіцячых садках і вучыліся ў школе пры розных рэжымах толькі па-беларуску, так што досьвед змаганьня з чыноўнікамі ад адукацыі за правы беларусаў у мяне добры.

Радаслава — юрыст. Яна нарадзіла сына Даніка. Так што я — у статусе шчасьлівага дзеда.

Франак журналіст, спэцыяліст у новых мэдыях, прысутнічае ў інфармацыйнай прасторы. А Ружана яшчэ вучыцца ў 23-й беларускамоўнай гімназіі.

Арына матэматык, але большую частку жыцьця працавала зь дзецьмі й падлеткамі ў гістарычна-культурных клюбах, потым арганізоўвала канцэрты беларускай гістарычнай музыкі, выпускала дыскі. На жаль, летась раптоўна і заўчасна Арыны ня стала.

Аднак вернемся да грамадзка-палітычных рэчаў. Калі ўспомніць савецкія часы, то ў 1981 годзе амаль ніхто ня мог уявіць, што Савецкі Саюз калі-небудзь разваліцца.

А мы ў гэта верылі. Як і ў тое, што ў сучаснай улады вельмі падобныя пэрспэктывы. Беларускую ідэю немагчыма зьнішчыць. Гэта спрабавалі зрабіць і царскія ўлады, і камуністы з фашыстамі. Пад пагрозай яна і сёньня, аднак цяперашні пачварны экспэрымэнт выкараненьня беларушчыны ганебна скончыцца.

Тое, што рабіла і робіць маё пакаленьне, не сыходзіць марна. Ёсьць незалежная Беларусь. Ёсьць мноства нацыянальна сьвядомых людзей усіх узростаў (а некалі мы ўсе адзін аднаго ведалі). Усё адродзіцца зноў. Як толькі — дык адразу.

# Уладзіслаў Завальнюк



Падрыхтавана да друку 23.09.2013

*Папярэдняя дамова пра сустрэчу для гэтага нарыса была яшчэ мінулым летам, а «ўключыць фарсаж» мяне «прымусілі» дзве вельмі цікавыя абставіны. Двойчы з самай раніцы па розных прычынах (сярод іх не было спазнення) я не змог паехаць на патрэбнай электрычцы, двойчы заходзіў у Чырвоны касцёл, двойчы (у сем гадзін раніцы) сустракаў там ксяндза-пробашча Уладзіслава Завальнюка. Мабыць, НЕХТА вельмі хацеў, каб нарыс быў у гэтай кнізе...*

### Мара пра неба

Напэўна, калі не ведаць гісторыю радавога сяла Уладзіслава Завальнюка, можна крыху заблытацца. У адных крыніцах пішацца Мурафа, у другіх — Жданава. Справа ў тым, што размова ідзе пра адзін і той жа населены пункт, у геаграфічныя каардынаты якога крыху ўмяшалася камуністычная ідэалогія. Гістарычная назва была заменена савецкай. І наадварот.

Так што лагічна лічыць, што будучы ксёндз нарадзіўся ў сяле Жданава Вінніцкай вобласці існуючай тады Украінскай ССР, бо адбылося гэта, як кажуць, яшчэ за савецкім часам, то бок 8 ліпеня 1949 года.

Паходзіць Уладзіслаў Завальнюк з сялянскай каталіцкай сям'і. Мякка кажучы, яго бацькі, Мацвей і Ганна (дзявочае прозвішча Рошак), не былі прыхільнікамі новай улады. І не маглі імі быць па вызначэнні: шчыра веруючыя людзі не ў стане прыняць атэізм дзяржаўнага ўзроўню.

У дзяцінстве Уладзя, які ў будучым стане Уладзіславам Мацвеевічам (ні разу не чуў падобнага звароту — *заўвага аўтара*), марыў стаць лётчыкам і нават пасля школьных васьмі класаў паехаў па-

ступаць у ваеннае вучылішча, але маці спыніла словамі: «Спачатку скончы школу, а потым паступай куды хочаш».

Ён паслухаўся і потым ніколі аб гэтым не шкадаваў, хаця дзіцячая мара здзейснілася толькі фігуральна. Нябёсы сталі нечым большым, чым маршруты чалавечых самалётаў...

Пра Гану Іванаўну Завальнюк ёсць сэнс сказаць асобна. І не толькі таму, што яна пражыла амаль 100 гадоў (99), палову з якіх была фактычнай вегетарыянкай. І не толькі таму, што ў 2001 годзе сын прысвяціў ёй кнігу «Не адзіным хлебам». Гэтая Жанчына ўласным досведам паказала: па доўгай дарозе жыцця трэба ісці годна. Каб не было сорамна за тое, што за спіной. Нават калі ты не знаходзішся ў эпіцэнтры агульнай увагі.

### Духоўнае нараджэнне

Кажуць, каб нехта стаў святаром, гэта трэба вымаліць. Маліцца павінна і яго атачэнне (не толькі блізкае), і сам чалавек (каб перамагчы нейкія маральныя хістанні). Напэўна, у Уладзіслава Завальнюка так і адбылося.

Быў у рэлігійным выбары і яшчэ адзін складнік. Гутарка пра шчырую юнацкую павагу да святароў так званай «старой даты», то бок тых, хто змог атрымаць адукацыю за межамі СССР. І не толькі рэлігійную. Рым, Парыж, Сарбона і да т.п. Ад аднаго пераліку гарадоў, дзе месцяцца прэстыжныя ўніверсітэты, можна захапіцца.

А яшчэ тое, што кожны з іх прайшоў праз 8-15-20 гадоў сталінскіх лагераў. Усіх «этапіравалі» ў Польшчу, дзе сваіх святароў і так хапала, таму кожны імкнуўся «зачапіцца» дзе-небудзь на Захадзе Савецкага Саюза.

У 1965 годзе Уладзіслаў Завальнюк скончыў у роднай вёсцы сярэднюю школу і адразу ж паехаў паступаць у Рыжскую духоўную семінарыю. Чаму менавіта туды?

Адказаць могуць многія, хто пажыў у савецкія часы: не было выбару. На ўвесь Савецкі Саюз дзейнічалі толькі дзве ўстановы падобнага тыпу: у Каўнасе і Рызе.

У Каўнасе рыхтавалі святароў выключна для літоўскіх парафій. У Рыжскай духоўнай семінарыі была больш разнастайная «геаграфія». Там рыхтавалі ксяндзоў нават для Арменіі. Аднак у Рызе была адна «складанасць», якая сур'ёзна перашкаджала паступленню: абітурыенты павінны ведаць латышскую мову. Абавязкова.



Мабыць, каб размова ішла пра нейкія «свецкія» ўстановы, для большасці гэта стала б перашкодай, якую нельга перамагчы, і я «здымаю капялюш» перад непахіснасцю ўкраінскага юнака. Для таго, каб авалодаць латышскай мовай, ён пайшоў працаваць на звычайную будоўлю. Прычым, вучыцца новым спецыяльнасцям Уладзіславу прыходзілася прама там. На будоўлі Завальнюк стаў і мантажнікам, і электрыкам, і муляром 4-га разраду.

Праз няпоўны год ён размаўляў на латышскай мове амаль так, як яе этнічныя носьбіты, аднак паступіць атрымалася толькі ў 1969 годзе, бо раней гэта не дазвалялі зрабіць улады.

26 траўня 1974 года кардыналам Юліанам Вайводсам Уладзіслаў Завальнюк быў асвечаны ў святары. Адбылося яго другое нараджэнне. Духоўнае.

### Выпрабаванні веры

Яшчэ падчас вучобы Уладзіслаў Завальнюк перапісваўся з місіянерамі з Паўднёвай Амерыкі, Афрыкі і Азіі, планаваў і сам стаць місіянерам, аднак Нябёсам было патрэбна зрабіць інакш. Душпастырскую дзейнасць ён распачаў на пасадзе пробашча ў грэка-каталіцкай капліцы на армянскіх могілках у Кішынёве.

Дарэчы, раней у Малдове працаваў ксёндз з прозвішчам Хаданёнак, які быў родам з-пад беларускіх Міёр. Менавіта яго месца і заняў святар, які потым будзе адным з тых, хто паспрыяе фактычнаму адраджэнню (без перабольшванняў) каталіцызму ў самой Беларусі. Сапраўды, шляхі Госпада «неисповедимы» ...

Па сутнасці ў нейкім сэнсе гэта было таксама місіянерства, бо савецкая ўлада ўвесь час складала вернікам перашкоды не менш, чым тыя, якія адчувалі місіянеры ў амаль варожым для хрысціян асяроддзі...

Хто ведае гісторыю СССР, пацвердзіць, што той перыяд быў вельмі неспрыяльным для рэлігіі, якую камуністы заўсёды лічылі «опіумам для народа». Мікіта Хрушчоў запомніўся не толькі сваім кукурузным валюнтарызмам, але і тым, што распачаў сапраўдную вайну з верай.

Па ўсёй краіне знішчаліся альбо закрываліся і «перапрафіляваліся» пераважна пад склады храмы, ліквідаваліся парафіі, ішоў жорсткі пераслед тых, хто бачыў у «Кодэксе будаўніка камунізму» боскія запаведзі.

Замена Хрушчова на Брэжнева ніякім чынам не паўплывала на адносіны паміж дзяржавай і царквой, а толькі «замарозіла» момант.

Знаходзячыся ў Малдове, Уладзіслаў Завальнюк абслугоўваў каля 70 парафій, то бок праводзіў там набажэнствы. 11 з іх былі нямецкімі.

Акцэнт на дадзены момант зроблены наўмысна, бо Уладзіслаў Завальнюк прынцыпова лічыць (як і іншыя каталіцкія святары), што большасць набажэнстваў трэба праводзіць менавіта на той мове, якая з'яўляецца роднай для жыхароў канкрэтнай парафіі. Сам ён пры неабходнасці можа выкарыстаць больш за дзясятак з іх.

## Насуперак плыні

Калі не ведаць, што размова ідзе пра святара, звонку можа паказацца: вострасюжэтны дэтэктыў. Расказ пра жыццё Уладзіслава Завальнюка сапраўды нагадвае нейкую крымінальную Санта-Барбару. З той толькі розніцай, што там прыгоды прыдумлялі сцэнарысты з Галівуда, а ў нас — з КДБ.

Праз чатыры гады душпастарскай дзейнасці ў Малдове вернікі сяла Слабадзея-Рашкаў пад яго кіраўніцтвам пабудавалі храм. Зразумела, мясцовыя савецкія ўлады былі раз'юшаны. 25 лістапада 1977 года храм парушылі, некаторых вернікаў падверглі судоваму праследу, а самога айца Уладзіслава арыштавалі і выслалі з краіны.

Прыйшлося вярнуцца ў Латвію і выконваць святарскія абавязкі ў горадзе Валміера. Пазбаўлены магчымасці адпраўляць набажэнствы вясной 1979 года Уладзіслаў Завальнюк выехаў у Казахстан.

Спачатку ён служыў у Цалінаградзе, Какчатаве, Краснаармейску і Паўладары, але потым прыйшлося пераехаць у Краснаярск, дзе тры месяцы быў вымушаны нелегальна займацца душпастырскай дзейнасцю.

У 1980 годзе выпала зноў вярнуцца ў Латвію, дакладней, стаць вікарыем у мястэчку Варакляны ў Латгаліі.

Нагадаю, што Латгалія лічыцца спрадвечнай латышскай зямлёй, знаходзіцца на ўсходзе сучаснай Латвіі і займае амаль чвэрць яе сучаснай тэрыторыі. У свой час гэта нават была частка Віцебскай губерніі.

Чарговы пераезд не мог абараніць ад праследу з боку адміністрацыйных савецкіх уладаў, якія значна абмежавалі святара ў выкананні сваіх абавязкаў. Уладзіслаў Завальнюк меў права толькі спавядаць і адпраўляць Святую імшу.



Але і гэтага камусьці паказалася мала. Напрыканцы 1980 года яго прымусова змясцілі ў псіхіятрычную бальніцу Даўгаўпілса. Праз пэўны час адзін з дактароў вызваліў яго адтуль, але хутка сам апынуўся без працы.

Са студзеня 1981 года Уладзіслаў Завальнюк — на пасадзе пробашча ў розных парафіях Ліепайскага дэканата, а ў 1984 годзе яго пераводзяць у Беларусь.

## Не хлебам адзіным

Дакладней, на Віцебшчыну. Парафіі ў Глыбокім, Мосары і г.д. Уяўляю, колькі людзей назву гэтай вёскі зараз звязалі з прозвішчам добра вядомага ксяндза Йозаса Булькі, аднак далёка не ўсе ведаюць, што яго запрасіў у Беларусь менавіта герой гэтага нарыса.

У біяграфіі Уладзіслава Завальнюка можна знайсці яшчэ шмат чаго цікавага, але для гэтага патрэбны яшчэ не адзін нарыс, таму я акцэнтую вашу ўвагу толькі на трох момантах.

Першы датычыцца адраджэння хрысціянскіх святынь і вяртання іх вернікам. Ксёндз Уладзіслаў Завальнюк мае самыя непасрэдныя адносіны да таго, што Дом кіно зноў стаў касцёлам Святых Сымона і Алены, спартзал — Кафедральным касцёлам, а знакамітая арганная зала «ператварылася» ў касцёл Святога Роха.

У тым ліку і яго намаганнямі былі адноўлены і адкрыты каталіцкія парафіі ў Карэлічах, Чэрвені, Смалявічах, Раўбічах і інш.

Другі адносіцца да мовы набажэнстваў. У многім дзякуючы Уладзіславу Завальнюку, Святыя імшы загучалі па-беларуску, а з рэлігійнай радыёперадачы «Голас душы» пра гэта даведалася ўся Беларусь. Больш за тое, Уладзіслаў Завальнюк асабіста прымаў удзел у перакладзе на беларускую мову многіх богаслужбовых кніг.

Трэці «момант» лагічна выцякае з другога. Гутарка пра тое, што на ўсіх каталіцкіх набажэнствах з яго вуснаў нязменна гучаць добрыя пажаданні праваслаўным вернікам. Нічога падобнага раней не было, бо ўлада наўмысна культывавала стэрэатып: каталік — паляк, праваслаўны — рускі або сапраўдны беларус.

Агульнавядома, што гэта не так, аднак адным з першых святароў, хто паспрабаваў штучную насцярожанасць замяніць шчырай добразычлівасцю, быў менавіта Уладзіслаў Завальнюк. І, як лічыць

сам, не мог інакш, бо траціна ўсіх беларускіх сем'яў у рэлігійным плане ўяўляе сабой «змешаны» варыянт. «Вылічыць», чаго там больш, немагчыма па вызначэнні. Да і не трэба гэта.

Да сказанага вышэй ёсць сэнс дадаць, што сёння ксёндз-пробашч касцёла Святых Сымона і Алены дэкан Паўночна-Заходняга дэканату Уладзіслаў Завальнюк мае ступені доктара тэалогіі, кандыдата гістарычных навук і з'яўляецца аўтарам больш за 50 кніг, а дамінуюць (на мой погляд) у яго характары дзве якасці — ветлівасць і дабрата.

# ЛЕАНІД ЗЛОТНІКАЎ



**Падрыхтавана да друку 26.04 2011**

*На своеасаблівыя «лініі» свае жыццё ўмоўна падзяліў сам Леанід Злотнікаў. Спачатку мне гэта падалося крыху экзатычным, а потым зразумеў, што інакш вядомы эканаміст проста не мог па вызначэнню. Эканоміка патрабуе ад чалавека абсалютнай дакладнасці, таму і сваю біяграфію ён як бы «раскладае па паліцах»...*

## Дзіцяча-школьная лінія

Нарадзіўся я напрыканцы вайны, дакладней 14 снежня 1939 года ў Гомелі. Маці Любоў Усцінаўна прыехала туды маладой дзяўчынай і працавала поварам у сталовай. Бацька Канстанцін Данілавіч вучыўся ў лесатэхнічным інстытуце. Пад Гамсельмашам была такая вёска — Ціценкі. Палову яе састаўлялі Злотнікавы. Зараз гэта горад, таму майго бацьку,у нейкім сэнсе, можна лічыць «гарадскім».

Па размеркаванню яго накіравалі ў маленькі гарадок Балехаў Львоўскай вобласці, дзе знаходзіўся дрэва-пераапрацоўчы камбінат. 1940 год. Мясцовыя бабулі «падбілі» маю маці на хрост. Праваслаўнай царквы там не было, і мяне ахрысцілі ў касцёле. Так я стаў каталіком.

Калі пачалася вайна, сям'я тэрмінова вярнулася ў Гомель. У бацькі была адтэрміноўка ад службы, але ён туды папрасіўся дабравольцам. Загінуў у 1943 годзе недзе на Курскай Дузе, дакладней — «прапаў без звестак». Нават магілы (каб ускласці кветкі) няма.

У дзявоцтве прозвішча маці — Драбышыўская. Яна, можна сказаць, з сялянскай сям'і, хаця па крыві продкі былі шляхцічамі. Тая вёска складалася з хутароў. Зараз яна называецца Васільева. Гэта паміж Лоевам і Рэчыцай. Левы бераг Дняпра, да

рэчкі чатыры кіламетры. Лес, балоты, як кажуць, на тыя землі не трапляла нага чалавека. Дарэчы, мае першыя дзіцячыя ўспаміны звязаны менавіта з тымі мясцінамі. Хаця да Гомеля было ўсяго 35 кіламетраў, людзей там жыло даволі мала. Подступы да беларускага Палесся.

Там я навучыўся плаваць. Так добра, што пазней, калі пасля вайсковай службы працаваў на Гомсельмашы, нават заняў трэцяе места ў Гомелі. А потым на абласной спартакіядзе першае месца па плаванню брасам на 200 метраў. Абсалютна без трэніровак. «Лягушачы» стыль натуральны з самага дзяцінства.

У сям'і маці было шасцёра (як і ў бацькі) дзяцей. Яна адзіная дзяўчынка. Так што я меў па яе лініі пяць дзядзькаў. Самы малодшы з іх старэйшы за мяне толькі на пяць гадоў. Паколькі бацькі не стала вельмі рана, выхоўваўся я менавіта там. Хаця і з яго сям'ёй у нас вельмі добрыя адносіны.

Маці больш не выйшла замуж: доўгія гады чакала вяртання з вайны свайго мужа.

Як ўзнікла вёска Васільева? Падчас Сталыпінскай рэформы яе бацька купіў там 70 «дзесяцінаў» зямлі. Я нават бачыў тую «купчую», але потым бабуля яе схавала, бо баялася, каб не даведаліся ўлады — сталінскія часы.

Нейкім цудам дзеда не раскулачылі, бо пад часам калектывізацыі там не было вёскі. Адны хутары. Потым іх «аб'ядналі», але розніца нейкай самаідэнтыфікацыі паміж людзьмі засталася. «Хутаране» лічылі сябе «шляхтай». Помню, у дзяцінстве мне казалі: «Не выцірай нос рукавом, будзеш як сяляне з суседняй вёскі».

Дарэчы, мясцовыя могілкі «пачаў» мой дзед Усцін, і там жа пахаваны прадзед Сцяпан Кірэевіч, а яго жонку звалі Марыя Лявонц'еўна Багдановіч. Яна паходзіла з таго самага раёна (зараз Буда-Кашалёўскі), дзе быў маёнтак і сям'і паэта Максіма Багдановіча. Магчыма, мы з ім таксама далёкая радня.

У вёсцы Васільева зараз ніхто (зімой там ўсяго некалькі чалавек) не жыве, людзі наведваюць яе толькі на Радаўніцу ды прыязжаюць на летні адпачынак.

Перад тым, як паступіць у лесатэхнічны інстытут мой бацька працаваў на Гомсельмашы. Там зараз перад уваходам гарыць Вечны агонь, у памяць пра загінуўшых супрацоўніках, а на граніце выбіта прозвішча бацькі. Заўсёды схіляю галаву.



Пачынаў вучыцца (1946 год) у вёсцы Васільева. У тых мясцінах падчас вайны ішлі моцныя баі, таму зброі і розных выбуховых рэчаў хапала. Накідаеш у касцёр патронаў. Схаваешся за дрэва, а яны — бух-бух-бух.

Памятаю, аднойчы ў суседняй вёсцы было вяселле. Побач з домам, які стаяў каля лесу і дзе яно праходзіла, нашы хлопцы (для жартоўнага салюту) узарвалі супрацьтанкавую міну. На стале ўсё пападала...

А яшчэ быў такі выпадак. У ім браў удзел і мой дзядзька. Яны навучыліся страляць з кулямёта. Прыцягнулі яго ў школу і вырашылі напалохаць настаўніцу, якую вельмі не любілі. Паставілі кулямёт на парту і, калі яна зайшла, далі чаргу над галавой... Настаўніца была бялей за тую тынкоўку, што пасыпалася на галаву...

Сёння нават не смешна.

Некалькі разоў амаль не загінуў. Абодва — падчас вайны.

Хата была вялікая, таму немцы размясцілі там свой штаб. А нас выгналі жыць у лазню, якая месцілася на ўскрайку лесу. 1943. Аднойчы немцы тэрмінова ўсіх сабралі. Нешта гамоняць па-свойму — газы, газы... Маўляў, нехта з хатніх па загаду партызанаў распаўсюдзіў у доме ядавітыя газы. Усіх адразу паставілі «да сценкі». Чуць не расстралялі. Гэта былі не эсэсаўцы, а звычайныя салдаты, таму яны часта частавалі мяне рознымі рэчамі. Тады было нешта з сухім перцам. Яго я і кінуў на вуглі «камянка». Адсюль — пах.

Дзякуй Богу, бабуля патлумачыла гэта «на пальцах» і выратавала нам жыццё.

Другі раз звязаны з тым, што мяне з маці пыталіся «адправіць» у Германію, але наш абоз пачала бамбіць савецкая авіяцыя. Уцяклі ў лес і жылі там да вызвалення. Елі ўсё, што знаходзілі.

Памятаю, як аднойчы падчас прыцемкаў варылі нейкі грыбны суп, а немцы ехалі па лясной дарозе. Убачылі касцёр і пачалі страляць. Кулі «свісталі» на галавой, а агонь залілі тым супам. Па гэты дзень стаіць перад вачамі, як «шыпела» наша ежа...

## Студэнцкая лінія

Школу скончыў амаль «круглым троечнікам». Да і тое, мабыць, толькі таму, што хутка і правільна рашаў усялякія матэматычныя задачкі. Дарэчы, былі нават моманты, калі мяне адтуль выганялі-прымалі. Яно і зразумела — вулічны лёс, падлеткавыя бойкі.

Адзіная пяцёрка у маім атэстаце — геаграфія. Асабліва эканамічная. Любіў разбірацца, чаму адны краіны жывуць лепш за астатніх, як там арганізавана вытворчасць, эканамічныя адносіны і г.д. Мне было гэта цікава ўжо з дзяцінства.

Пасля школы (дзесяць класаў) адразу пайшоў у лесатэхнічны тэхнікум, дзе вучоба пайшла «ўвысь». Практыку праходзіў у леспрамгасе ў Столінскім раёне. Палессе... Упершыню там сутыкнуўся з тым, што ў нас яшчэ захаваліся выспы патрыярхальнага жыцця.

Калі закончыў тэхнікум, вырашыў не ісці па гэтаму шляху, а працягнуць адукацыю ў іншай галіне. Ад размеркавання нейкім чынам «адмазаўся» і пайшоў працаваць рознарабочым у Гомельскія транспартна-рамонтныя майстэрні.

Радыётэхнічная справа мне падабалася больш «лясных спраў», і я падаў дакументы у вайсковае вучылішча з такой спецыялізацыяй, якое тады стаяла пад нашым горадам. Іх прынялі, але на час, калі было трэба здаваць іспыты, яго перавялі ў Краснаярск. Паехаў туды. Паступіў.

Праз пэўны час зразумеў, што чалавек я па натуры свабодалюбівы і не хачу быць афіцэрам, таму напісаў рапарт з просьбай аб адлічэнні. Цэлы месяц яго не разглядалі, а прымушалі хадзіць на заняткі. Сядзеў і дэманстратыўна нічога не канспектаваў, не адказваў на пытанні настаўнікаў. У рэшце рэшт мяне адлічылі. І адразу накіравалі служыць «тэрміновую». Паўгады вучобы не залічылі, таму прыйшлося «аддаць краіне» яшчэ тры гады, бо тады на сушы служылі менавіта столькі.

Наш аэрадром месціўся каля Канску, гэта паміж Іркуцкам і Краснаярскам, быў апаратарам радыёлакацыйнай станцыі авіяпалку знішчальнай авіяцыі.

Зампаліт да нас прыйшоў «па залёту» з танкавых частак. Памагаў яму весці палітзаняткі, бо той вельмі слаба арыентаваўся ў элементарных тэрмінах. Пазней ён прапанаваў уступіць у КПСС. Я адказаў, што падзяляю іх ідэі, але быць асабіста з ім ў адной партыі не хачу...

На «губе» (гаўптвахта — заўвага аўтара) прыйшлося адсядзець амаль месяц.

Мастацкую літаратуру туды браць не давалі, а грамадска-палітычную — калі ласка. Прыйшлося чытаць нейкі «дыялектычны матэрыялізм» альбо «палітэканомію». І рабіў гэта з задавальненнем.



Пасля вайсковай службы зноў вярнуўся ў Гомель. Уладкаваўся на Гомсельмаш. Спачатку вучнем слесара, а потым атрымаў кваліфікацыю. Працаваў у інструментальным цэху, а затым (каб больш зарабляць) пайшоў слесарам у цэх шэрага чыгуна. Грохат, гарачыня.

Як я ўжо казаў, там хутка трапіў у спартовую каманду па плаванню, і жыццё бачна змянілася — зборы, талоны на ежу ў абкамаўскай сталовай. Сапраўдны прыліў жыццёвай энергіі.

Вырашыў паступаць у Маскоўскі дзяржаўны ўніверсітэт «(МДУ). Выбраў эканамічны факультэт, дакладней палітэканомію. Мабыць, начытаўся на «губе».

На «абітуры» лёс пасяліў мяне ў адзін блок з матэматыкам. Васіль Васільевіч Жыхаў паступаў у аспірантуру. Ён і расказаў, што на «маім» факультэце ўжо другі год працуе аддзяленне эканамічнай кібернетыкі. Профільным прадметам там была матэматыка, а я, калі рыхтаваўся да паступлення, яе абсалютна не рыхтаваў. Гэта сур'ёзна «напружвала».

Ён правёў некалькі тэстаў, каб высветліць мае матэматычныя здольнасці. Застаўся давольным і параіў да першага экзамену зразумець толькі сутнасць тэарэм, каб выкарыстаць іх для рашэння задач. Так я зрабіў, і за дзень да заканчэння адпаведных тэрмінаў з « палітэканоміі» аднёс свае дакументы на «эканамічную кібернетыку».

Праз чатыры дні я здаў пісьмовую матэматыку. На пяць балаў. Вось што азначае — «свежая галава». Тое ж самае было і з вуснай матэматыкай. Экзамен у мяне прымаў вядомы алгебраіст Юрый Мікалаевіч Цюрын, які напісаў па гэтай тэме шмат кніжак. Ён быў моцна ўражаны тым, што я даказаў правільна нейкую тэарэму не так, як гэта было ў падручніку. Прыдумаў доказ сам.

І, нягледзячы на конкурс у 18 чалавек на адно месца, паступіў.

Ліberalам па духу я стаў прыблізна на пятым курсе, таму што за паўгады да гэтага нашу кафедру па гаспадарчай дамове прыцягнулі да практычнай работы па стварэнню аўтаматызаванай сістэмы планавых разлікаў Дзяржплана СССР, і мне прыходзілася кожны дзень праводзіць там па 4-5 гадзін. Дакладней у аддзеле будаўніцтва. На яго прыкладзе я павінен быў зрабіць адпаведны алгарытм.

Шмат не буду аб гэтым распавядаць, але праз пэўны час я зразумеў, што самая вялікая анархія нараджаецца менавіта там. Так,

дзякуючы кібернетыцы, на практыцы ўбачыў, што ў сацыялізма няма перспектыў і ён абавязкова завядзе людзей ў тупік.

На жаль, у беларускай эканоміцы сёння адбываецца амаль тое ж самае.

### Эканамічная лінія

Пры размеркаванні (дыплом эканаміста-матэматыка) у мяне было два варыянты. Першы — пайсці працаваць у якую-небудзь «паштовую скрыню» Падольска, дзе жыў мой дзядзька, стрыечныя брат з сястрой і дзе было вельмі шмат ваенных заводаў. Але не прыйшлася даспадобы сама атмасфера горада. Нейкая несур'езна-пацанская падмаскоўная качагарка. Сталыя мужчыны паводзяць сябе вельмі прымітыўна — па пад'ездах п'юць «чарніла», б'юць адзін аднаму морды і г.д. Ніякага духоўнага жыцця.

Таму без ваганняў я абраў Мінск. Беларусу заўсёды бліжэй яго радзіма. Размеркаваўся ў навукова-даследчы інстытут эканоміка-матэматычных метадаў планавання пры Дзяржплане БССР. Словам, тое, што для маёй спецыяльнасці і патрэбна. Яны накіравалі заяўку ў МДУ. Я прыехаў сюды працаваць, і адразу, як кажуць, «вызначыўся».

Ехаў з работы ў аўтобусе, а недзе наперадзе сядзеў намеснік дырэктара Леў Паўлавіч Мятліцкі, які да гэтага быў сакратаром гаркаму партыі. 1968 год. Чэхаславацкія падзеі. На той час я ўжо слухаў рознае замежнае радыё і таму некаму «тлумачыў» неафіцыйную кропку гледжання. Назаўтра мяне вызывалі ў кабінет Мятліцкага...

Неўзабаве адбыўся яшчэ адзін вельмі паказальны выпадак. Да нас прыехаў вучоны з Югаславіі, яму зладзілі сустрэчу, але на яе чамусьці не прыйшоў перакладчык. Да іх на той час у нас ставіліся «скрозь зубы», бо канфлікт з Ціта так і не скончыўся.

Мятліцкі пачаў шукаць дапамогу сярод нас. Усе нашы вучоныя — «насы ў стол». Я няблага ведаў англельскую мову і «цягнуў» руку, але ён мяне наўмысна «не бачыў». Мабыць, не хацеў, каб у югаслаўскага «рэвізіяніста» быў яшчэ і «дысідэнцкі» перакладчык. Убачыў мяне сам югаслаў, і Мятліцкаму ўжо нічога не заставалася іншага, як папрасіць перакладаць.

Праз некаторы час з-за кватэры я перайшоў у другое ведамства. Дакладней, загадчыкам сектара ў Навукова-даследчы інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі , але хутка стала зразумела, што, каб хранаметрыраваць, колькі часу ідзе на дойку кароў, спецыяліст майго ўзроўню не патрэбны. Гэта здольны зрабіць любы студэнт.



Перайшоў старшым навуковым супрацоўнікам у інстытут будаўніцтва і архітэктуры, дзе стаў займацца адпаведнай эканомікай. Потым прызначылі там загадчыкам лабараторыі, аддзелу, абараніў дысертацыю кандыдата эканамічных навук. Дарэчы, у аспірантуры я вучыўся зноў у Маскве і стаў там экспертам Дзяржбуду СССР.

Прапрацаваў там гадоў 14, а затым перайшоў старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута эканомікі Акадэміі навук БССР, дзе працаваў больш чым дзесяць год. Да самага распаду СССР.

Потым вучоныя сталі зарабляць «капейкі», і я «пайшоў па руках». Першым было акцыянернае таварыства «Суражскія дамы», дзе стаў адным з галоўных акцыянераў і дырэктарам па фінансах. Па сутнасці гэта «правайдарская» фірма. У тым сэнсе, што мы хацелі паўтарыць усё тое, што рабіў у Маскве Лужкоў: будаваць за бізнес-грошы нейкія сучасныя забудовы, а тых, хто жыве на тым месцы ў старых дамах, адсяляць у новыя. Мы ж былі павінны ўсё гэта арганізаваць.

Пачатак быў вельмі паспяховы, бо будаваць замест сталінскіх баракаў сучасныя бізнес-цэнтры хацелі многія. На адзін мы нават знайшлі грошы з аўстрыйскай крэдытнай лініі (47 мільёнаў даляраў) і чэшскага падрадчыка. Хацелі замест двух баракаў, што амаль насупраць Музкамедыі, пабудаваць шматпаверховы вельмі прыгожы сучасны комплекс. У той час я пазнаёміўся са Станіславам Багданкевічам. Ён даў сваю згоду на размяшчэнне Нацыянальнага банка ў 24-павярховай вежы, якая ўваходзіла ў гэты комплекс...

На жаль, з прыходам новай улады ўсё «накрылася медным тазам». Нас адразу пачалі «давіць».

Тыя баракі стаяць па гэты дзень...

### Грамадска-палітычная лінія

Хоць мы не рабілі нічога крымінальнага і прынцыпова працавалі чэсна, апынуцца ў турме (каб не «вякалі») не хацелася нікому. Па сутнасці «новыя» сталі паводзіць сябе, як звычайныя рэйдэры. Да таго перад вачамі быў сумны прыклад фірмы «Пушэ»... Словам, наша таварыства прышлося ліквідаваць.

Дарэчы, пра тое, што будзе адбывацца ў беларускай эканоміцы і чаму гэта скончыцца вельмі блага, я напісаў у сваёй кнізе «Пятля папулізму» адразу пасля выбрання Лукашэнкі прэзідэнтам. На жаль, тыя прагнозы альбо ўжо збыліся, альбо збываюцца сёння.

Потым лёс звёў мяне з Васілём Шлындзікавым, які першым у Беларусі (яшчэ ў часы Савецкага Саюза) акцыяніраваў сваё прадпрыемства. Ён мяне знайшоў па публікацыях і запрасіў у свой кабінет. З разумным чалавекам мы знайшлі агульную мову вельмі хутка і вырашылі ў межах «Амкадору» стварыць прыватнае кансалтынгавае прадпрыемства, якое б спрыяла развіццю ўсяго канцэрна. Я стаў яго дырэктарам, а потым фактычна «падбіў» Васіля Міхайлавіча на «вялікую палітыку». Аргумент быў толькі адзін: хто, калі не мы, будзе нешта рабіць ў гэтай краіне?

У выніку нашых размоў і пачалася ідэя стварыць Грамадзянскую партыю, у якую ўвайшлі даволі значныя асобы розных галінаў жыцця. У большай частцы — інтэлігенцыя і дырэктарат. Многія з іх потым вырашылі сысці, бо такі выбар паставіла перад імі ўлада — альбо працуй, альбо ідзі ў «апазіцыянеры».

«Адмарозкамі» іншадумцаў тады яшчэ не называлі.

Было зразумела, што гэта элітная партыя і шансаў заняць высокае месца на бліжэйшых парламенцкіх выбарах у яе даволі няшмат. Таму і ўзнікла ідэя аб'яднаць яе з дэмакратамі Аляксандра Дабравольскага, чыё электаральнае поле было больш шырокім. Добрая ідэя, але ў мяне ўжо тады ўзнікла апаска, што такая партыя не будзе ліберальнай і звязана гэта з канкрэтнай асобай. Таму пачаў крыху стрымліваць аб'яднанне, хаця і быў адным з ініцыятараў.

У рэшце рэшт 1 красавіка 1995 года ўзнікла Аб'яднаная грамадзянская партыя. І тут, думаю, я зрабіў памылку. Трэба было заставацца адным з намеснікаў, што было абгаворана са Шлындзікавым, а я вырашыў абмежавацца толькі сяброўствам у вышэйшым кіруючым органе — палітсавеце. Курыраваў там пытанні эканомікі, але працягвалася гэта нядоўга.

На мой погляд, новая партыя маргіналізавалася і не стала сапраўды ліберальнай. У 2002 годзе прынцыпова з яе выйшаў. Па гэты дзень ніхто не можа мне растлумачыць, чым яна адрозніваецца ад іншых? Напрыклад, ад БНФ?

Пасля таго як Васіль Шлындзікаў прайшоў у парламент, я быў галоўным спецыялістам камісіі па эканамічнай палітыцы і рэформам. Пасля разгону парламента стварылі з ім Асацыяцыю садзейнічання развіццю сярэдняга бізнесу, якая займалася перш за ўсё асветніцкай дзейнасцю. Пасля працаваў саветнікам па эканоміцы Міжнароднай фінансавай карпарацыі, якая ўваходзіць у групу Сусветнага банка. Потым выкладаў у розных навучальных установах.



У мінулым годзе мяне запрасіў у сваю каманду Андрэй Саннікаў, для якога я стварыў эканамічную праграму.

# ВОЛЬГА ІПАТАВА



Падрыхтавана да друку 25.05 2011

*Не палічыце банальнасцю, але я заўсёды, калі чую чарговы выступ В. Іпатавай, разумею (выбачайце несур'ёзны каламбур), што цалкам не разумею, чаму жанчын называюць «слабым полам». Так, ростам Вольга Міхайлаўна не нагадвае казачных волатаў, але калі браць памеры душы, то тут яе без перабольшванняў можна паставіць побач з самымі моцнымі з іх. Таму эпітэт «слабы» прапаную памяняць на «лепшы», бо пад такімі «сюжэтамі» лёсу здольны «не схіліцца» далёка не кожны з нас.*

## Дзіцячыя сюжэты

У маім нараджэнні магічна спляліся тры рэчы — месца, час і абставіны. Навагодняя ноч 1945 года ў Міры. Былыя партызаны з сем'ямі сабраліся ў нашай хаце, але гаспадыні Марыі няма — яна ў шпіталі, раджае. Шпіталь непадалёку і ад хаты, і ад Мірскага замку. У 00.15 медсястра прыбягае са шпіталю, каб сказаць бацьку, што ў яго нарадзілася дачка. Можа, ён чакаў сына, але радуюцца ўсе, і ўсе п'юць за новы год, за будучыню, пасля чаго ідуць пад вокны шпіталю, каб павітаць маму. Бацька Міхаіл ідзе з гітарай (у яго быў прыгожы, артыстычны голас), і ўсе падхопліваюць ягоную серэнаду ў гонар жонкі і дачкі...

Муза Гісторыі, безумоўна, была там, як і іншыя феі — добрыя і не вельмі. Над Мірскім замкам, з якога зусім нядаўна, меней за год, з'ехаў апошні ўладальнік, кружыліся сняжынкі, цені мінулага слізгалі ў велічэзныя ваканіцы. Я недзе чытала, што ў нованароджаных энергетычны канал да году як бы адчынены іншым вымярэнням,



так што, калі верыць гэтай гіпотэзе, я магла бачыць тое, што адбывалася тут у стагоддзях — бо інакш адкуль у мяне такая любоў да мінулага і жаданне ведаць пра сваю гісторыю?

Замак увайшоў у мае першыя дзіцячыя ўспаміны. Выломваю з лужыны ля самага ўвахода лядок і смакчу яго, як цукерку, а ружовыя ў вечаровым святле сцены нібы атуляюць мяне, захіляюць ад усяго нядобрага.

Нядобрае ўсё ж прыйшло. Бацька, загадчык Мірскага райфінаддзела, у 1949 годзе атрымаў прызначэнне на тую ж пасаду, але ў Навагрудак. Святкавалі ўжо ў Навагрудку, дзе атрымалі палову шыкоўнага жылога дома з ваннай. Быў там Башарымаў — ён ехаў у Мір на бацькава месца, бо атрымаў паніжэнне за развод з жонкай Нінай, якая заставалася ў Навагрудку з двумя дзяўчынкамі — Светай і Валяй. Хто мог ведаць, што мяса, якое ўсе дружна елі, не прайшло ветэрынарны агляд? Першай захварэла цяжарная мама. Дактары змаглі паставіць ёй дыягназ толькі ў Мінску, але было позна. 15 снежня мы хавалі яе на могілках у дзвюх хвілінах ад нашага новага жытла і з пахавання пайшлі разам з Башарымавымі ў бальніцу, адкуль я рэгулярна збягала на маміну магілу.

Хаця мне там, у шпіталі, споўнілася пяць гадоў, я нічога з гэтага не памятаю — як адрэзала. Псіхолаг аднойчы сказаў мне, што без гэтага я магла б проста не перажыць усяго, што адбылося.

Праз кароткі час з'явілася мачыха (выхавацелька дзіцячага садка, куды я хадзіла), і я стала ў сям'і лішняй. Неўзабаве мяне «выкінулі» ў Віцебскую вобласць у глухую вёсачку Забелле да бабулі Вольгі.

... Кожны раз, калі ўзгадваю яе, адчуваю бязмерную любоў і шкадаванне. Няграматная сялянка, яна дала мне Бога ў душы, беларускую мову ў сэрцы, старадаўняе, яшчэ ад язычаскіх часоў, адчуванне Вады і Зямлі, народных звычаяў і традыцый.

Памятаю — будзіць мяне, вядзе да стала — памінаць Продкаў на Дзяды. Стаіць куцця, гарыць свечка (электрычнасці яшчэ не было), і яна расказвае мне пра дзеда Якава, што згарэў ад тыфу з двума дачушкамі (маімі цёткамі) за адзін тыдзень у 1933 годзе. Адчыняе дзверы, запрашае за стол усіх: прадзеда Іллю, маю маму, нашых дзядоў і прадзедаў. Мне і страшна, і цікаўна — дзе ж яны?

(Сёння я раблю тое ж і веру — душы нашых продкаў прылятаюць да нашага жытла і дакранаюцца да куцці, якую мы пакідаем ім на стале...)

Альбо стаім на лужку, чуем першы гром. «Ілля на калясніцы неба трасе», — кажа бабуля і прымушае мяне кульнуцца тры разы на тым лужку. І смешна, і гэтак прыемна дыхаць пахам першай маладой травы... Гэта адтуль, з бабуліных павучанняў пра Матухну-Зямлю складаліся радкі першай паэтычнай кніжкі:

*А зямля так даверліва, проста*
*У сваім харастве паўстае,*
*Што здымаю з ног «шпількі» вострыя:*
*Незнарок не ўкалоць бы яе...*

Потым, праз чатыры гады беднага, але запоўненага любоўю бабулі і дзіцячых радасцей жыцця, зноў вяртанне ў Навагрудак — трэба няньчыць сястрычку, якая нарадзілася. Але — не склалася ў мяне з мачыхай. Не склалася ў яе разуменне і з уласнымі дзецьмі, што ж казаць пра мяне. Не вытрымаўшы, я збегла з гэтай сям'і. Тулялася па лесе, раздумваючы — ці кінуцца ў недалёкую рэчку, ці паехаць да Ніны Башарымавай, якая заўсёды шкадавала мяне і цішком падкармлівала ў галодныя дні.

Жыццё перамагло, Ніна прытуліла мяне на тыя месяцы, якія спатрэбіліся для афармлення дакументаў у Гродзенскі дзіцячы дом. Я катэгарычна адмовілася вяртацца да мачыхі. Бацька то пагражаў мне, то прасіў: «Ты што, хочаш, каб у мяне забралі партыйны білет?» Але сябры адстаялі яго, ён застаўся са сваім партыйным білетам і на сваёй пасадзе.

...Калі ў 1982 годзе ў Магілёве разам з сям'ёй мачыхі мы хавалі яго, я зразумела, як моцна я хацела, каб ён мяне любіў і абараняў. Зразумела, чаму часта не складваліся адносіны з мужчынамі: у маёй душы на многія гады перапляліся прага любові, вялікая крыўда і вялікі недавер.

Але зараз я гляджу на яго іначай. Акружэнец, які падчас вайны аказаўся ў Заходняй Беларусі, ён змушаны быў выжываць. І вось жа (зноў магія ці, як гавораць, збег абставінаў!), прыбіўся ён не куды-небудзь, а да сям'і Янкі Брыля, які на той час быў польскім салдатам у нямецкім палоне. Ёсць у мяне тэлевізійны запіс, дзе народны пісьменнік Янка Брыль расказвае, што, вярнуўшыся з палону ў родную хату, ён убачыў там прыгожага маладога чалавека, які на беларускай мове чытаў «Як гартавалася сталь». Убачыўшы Брыля, устаў, працягнуў руку і вельмі па-хатняму сказаў: «Вот и Ваня вернулся».



Млела там, на Карэліччыне, па ім не адна дзяўчына. Яшчэ ў 2002 годзе, калі я ездзіла на дачу да Янкі Брыля, спыніла мяне жанчына з вёскі, якая абцалавала мяне як родную, прыгаворваючы: «Мішанькіна дачушка, мая ж ты дарагая!» Мне казалі, што яна замуж не выйшла — так яго кахала. Мы спяшаліся, і я паабяцала сабе, што заеду да яе і распытаю, як і што... Не паспела...

Янка Брыль быў бацькавым сябрам да смерці. Разам пайшлі ў партызаны, разам прайшлі вайну. Бацька навучыўся беларускай мове, але так да канца і не мог зразумець, чаму яму, ветэрану, адвялі ў «БелСЭ» адзін радок, а мне, нейкай там паэтцы, цэлы артыкул, хаця і маленькі...

### Гарадскія сюжэты

Дзіцячы дом у Гродна — гэта вялізны пласт уражанняў. Узгадаю першы, з 1956 года: дзетдомаўскія дзеці на той час, калі я прыехала, былі ў вёсцы.

Я ехала туды на «палутарцы» з жанчынай, якая нядаўна вярнулася з сібірскіх лагераў і цяпер наведвала дачку Міраславу, з якой мы пасля сталі сяброўкамі на ўсё жыццё. Пані Фэля не была «палітычнай», на яе напісалі данос суседзі, якія занялі яе дамок над Нёманам і жылі там ўсе восем гадоў, пакуль яна сядзела. Як яна выжывала ў тых лагерах, я даведалася тады ж, у тыя першыя месяцы свайго дзетдомаўскага жыцця, і гэта зрабіла на мяне такое вялізнае ўражанне, што я проста не магла не стаць антыкамуністкай, зразумела, значна пазней. «Круты маршрут» Я. Гінзбурга, творы Салжаніцына і Шаламава толькі пашырылі ў маіх вачах маштабы беззаконня і здзекаў з уласнага народа.

Недзе ў шостым класе я пачала складаць вершыкі. Хваліла мяне наша настаўніца рускай мовы, бо школа, зразумела, была руская, як і ўсе школы ў абласных гарадах. Але жыло, не змаўкала ў душы бабуліна беларускае, прыгожае і такое роднае для мяне слова. Таму побач з рускімі вершамі сталі спачатку рэдка, а пасля ўсё часцей з'яўляцца і беларускія.

І ўсё ж першы мой прыз я атрымала на конкурсе газеты «Зорька». Там праходзіў конкурс на лепшы верш пра прыроду, і Янка Брыль, якому я паслала свае вершыкі, перадаў іх у рэдакцыю. Колькі было гаманы сярод нашых дзетдомаўцаў, калі мне ўрачыста ўручалі той прыз — фотаапарат «Змена»!

Пасля сёмага класа дзетдомаўцаў звычайна адпраўлялі ў прафтэхвучылішчы — краіне патрэбная была «рабсіла». Большасць дзяўчат з нашага класа паехалі ў Брэсцкае швейнае вучылішча. Павінны былі паехаць і мы з Мірай, але супраць гэтага рашуча паўстала пані Фэля.

— Я бясплатна працавала на гэтую краіну сем гадоў, так што мая дачка мусіць скончыць дзесяць класаў за дзяржаўны кошт!

Яна хадзіла па інстанцыях і дабілася свайго, стварыўшы прэцэдэнт. Але паколькі дазволілі застацца адной дзяўчынцы, нашыя настаўнікі напісалі ліст з просьбай дазволіць далейшую адукацыю і мне.

Так мы з маёй сяброўкай сталі хадзіць у гродзенскую школу № 7.

Гродна — горад, якому я прысвяціла нямала вершаў. Тыя гады ўзгадваюцца мне як чароўныя. Мы ўжо не хадзілі, як вайскоўцы, шэрагамі — у сталовую і назад, пад пільным наглядам выхавацельніц. Мы былі вольныя — і часам пасля школы ішлі на вуліцу Замкавую, да старажытных замкаў — Старога і Новага, гулялі па вуліцы Ажэшкі і марылі пра ўніверсітэт у Мінску.

Хачу ўзгадаць чалавека, якога я ніколі не бачыла, але які падарыў нам мноства цудоўных гадзін.

На рагу вуліц Ажэшкі і Савецкай быў некалі маленькі кінатэатр, здаецца, «Спартак». Ягоны дырэктар, «дзядзька Сцёпа», сам былы дзетдомавец, распарадзіўся, каб дзеці-сіроты глядзелі фільмы бясплатна. Адна ўмова — садзіцца на свабодныя месцы пасля таго, як згасне святло. Мы з сяброўкай хадзілі туды на кожны новы фільм.

Лаліта Торэс, Міліца Кэр'юс, «Сястра яго дварэцкага», «Сорак першы» — якімі ж шчаслівымі мы вярталіся на свой Тэлеграфны завулак і да паўночы, забраўшыся ў ложак адна да адной, дзяліліся пад коўдрай уражаннямі, замаўкаючы, калі дзяжурная выхавацелька набліжалася да дзвярэй!

... Мае вершы сталі друкавацца ў рэспубліканскім друку, і аднойчы дырэктарка перадала мне тэлефонную просьбу старшыні гродзенскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Аляксея Карпюка — зайсці да яго.

З таго часу ў маё жыццё ўвайшлі Данута Бічэль і Васіль Быкаў, Ларыса Геніюш і Анатоль Іверс, Міхась Васілёк і, у першую чаргу, сам Аляксей Карпюк.

Я бязмерна люблю іх усіх — кожны з іх даў мне нешта сваё, адметнае, нечаму навучыў, штосьці адкрыў. Данута рэдагавала маю



першую кніжку (хаця на вокладцы пазначаны другі рэдактар) і дапісала канцоўку да аднаго верша:

*І сосны глядзяць, стаўшы на цыпкі,*
*Як плешчуцца ў хвалях чырвоныя рыбкі.*
( «Вечар на Нарачы»)

Праца з ёю была сапраўднымі ўрокамі майстэрства. Сорамна прызнацца, але мая першая кніжка, мабыць, ніколі не выйшла б, каб не Аляксей Карпюк. Гэта ён засадзіў мяне за машынку — друкаваць з нейкіх лісточкаў накрэмзаныя радкі, якія пасля можна было правіць. Я не збіралася быць паэткай — мяне вабіла акцёрства. Шчасце, што ён высмяяў гэтую ружовую мару ўсіх маладых дурніц.

У шаснаццаць гадоў я паступіла ва ўніверсітэт і стала, разам з Рыгорам Семашкевічам, самай маладой студэнткай. Але жыць на адну стыпендыю было цяжка, і я на трэцім курсе перайшла на завочнае, а жыць пераехала да цёткі ў Віцебск, бо вярнуцца ў Гродна мне не было куды.

Але нястомны Карпюк «дастаў» мяне і там. Знайшоў мне ў Гродна працу, дапамог прапісацца. Я працавала і завочна заканчвала ўніверсітэт. Пісала дыпломную пра Міхася Васілька, навуковым кіраўніком у мяне быў Сцяпан Александровіч. Тады ж пачала часта ездзіць у Вільню, займацца архівамі заходнебеларускіх выданняў, што дапамагло мне пазней зрабіць шэраг тэлевізійных перадач, якія карысталіся вялікім поспехам, таму што прапагандавалі яны імёны, абсалютна невядомыя для шырокага чытача — паслоў Грамады, паэтаў, што пісалі з-за кратаў, выдаўцоў забароненых кніг...

Як я шкадую, што нічога з гэтага не захавалася! Відэастужак на студыі было няшмат, і сённяшнюю ўнікальную літаратурную перадачу заўтра сціралі падчас запісу якой-небудзь пасяўной. Я запісвала Зоську Верас (у мяне захоўваюцца яе лісты), Антона Луцкевіча, Паўла Крынчыка, прафесара-арабіста Антановіча, сяброў Грамады і ТБМ.

Помню, у вёсцы Труханавічы запісала трох былых актывістаў, якія сядзелі за сваю беларускасць пры паляках, пры немцах, пры Саветах. Старыя людзі прыслалі мне калектыўны ліст падзякі, дзе пісалі, што яны пасля тэлеперадачы ўпершыню адчулі сябе людзьмі і што сельсаветаўскае начальства пачало з імі вітацца...

Забаўны выпадак быў, калі ехала з Мінска з дыпломам, начапіўшы на сукенку ромбік аб вышэйшай адукацыі. Нейкі стары пры-

чапіўся да мяне: маўляў, сапліўка такая, сцягнула ў некага ромбік і красуецца. Як я ні даказвала, што маю вышэйшую адукацыю, ён так і не паверыў ды доўга яшчэ сарамаціў мяне голасна, на ўвесь вагон. Я заўсёды выглядала маладзейшай за свае гады, і гэта было прычынай розных забаўных рэчаў. Напрыклад, канадыйскі пісьменнік Кастусь Акула, які скрупулёзна прачытаў мае гістарычныя раманы, аднойчы шчыра сказаў мне: «Ніяк не магу скласці разам твае раманы і цябе! Ну ніяк ты на іх не цягнеш!».

### «Няправільныя» сюжэты

... Дык вось, той час у Гродна быў даволі шчаслівы. Першыя ганарары, першая кватэра, замужжа, нараджэнне дзіцяці. Ды ў жніўні 1968, калі савецкае войска ўвайшло ў Чэхаславакію, у горадзе імгненна зніклі запалкі, соль, крупы. Не было з чаго зварыць кашы майму васьмімесячнаму Руслану. І я каторы раз адчула, што значыць жыць без родзічаў, без аніякай падтрымкі. Да таго ж, пачалі псавацца адносіны з дырэкцыяй студыі тэлебачання, дзе я працавала. Не тыя былі мае героі, уключаючы ансамбль «Лявоны». Пасля іх выступлення «нагарэла» і дырэктару, і рэжысёру Альгісу Дзяргінчысу і, вядома, мне. І за што? За доўгія валасы, за «несавецкі выгляд.» Анекдот у тым, што гэта былі будучыя «Песняры», якія зрабіліся візітнай карткай Беларусі — але пазней, праз колькі там гадоў...

Апроч таго, на мне вісеў і больш цяжкі «грэх»: на рэспубліканскім семінары творчай моладзі ў 1969 годзе, калі стала вядома, што пяцёра «семінарыстаў», у тым ліку і я, атрымаюць граматы ЦК ЛКСМБ, мы вырашылі ад гэтых узнагарод адмовіцца. Якраз тады з універсітэта выгналі «нацыяналістаў» А. Разанава і В. Яраца, пачалася хваля ганенняў на людзей, якія спрабавалі гаварыць аб цяжкім становішчы з беларускай мовай.

Мабыць, такі ўжо быў мой лёс — першай атрымліваць тую злашчасную грамату выклікалі якраз мяне. Было там шмат журналістаў, а таксама і сакратар ЦК ЛКСМБ Анціпаў. А ўрачыста абвясціла, што адмаўляюся ад гэтай узнагароды ў знак пратэсту супраць русіфікацыі і ганенняў на інтэлігенцыю.

Цяжка апісаць, што там узнялося! Памятаю, як парторг Саюза пісьменнікаў А. Кулакоўскі крычаў, што мяне пагоняць па шпалах назад у Гродна, а другі заўзяты камуніст абвяшчаў, што калі і была такая паэтка Вольга Іпатава, то яе з гэтай хвіліны ўжо няма. Калі



галас скончыўся і ад мяне запатрабавалі зараз жа раскаяцца, я адказала, што не яны далі мне нейкія здольнасці і не ім іх адбіраць, гэта можа зрабіць адзін Бог. Галас узняўся нанова, але я ўжо не слухала...

Усё гэта зрабіла такое ўражанне на чатырох астатніх, што яны пакорліва ўзялі свае граматы-ўзнагароды, якія, пэўна, палілі ім рукі.

Што праўда — усе яны ці то сталі, ці засталіся — беларускімі патрыётамі, добрымі творцамі, а таксама, нягледзячы на ўсё, і маімі сябрамі.

Забягаючы наперад, скажу, што амаль такі ж самы момант быў у мяне 1 лютага 2001 году, калі на Рэспубліканскай нарадзе работнікаў культуры мне, в.а. старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, далі слова. Я адбівалася ад гэтага «гонару» як магла, бо ведала, што ад мяне, як і ад іншых кіраўнікоў творчых саюзаў, чакаюць ліслівых просьбаў і падтрымкі дзеючай уладзе. Але — ці то колішні міністр культуры спадзяваўся, што я, хаця і сцяўшы зубы, буду ісці ў агульнай шарэнзе «плакальшчыкаў», ці то больш высокім асобам хацелася пісьменніцкіх «кніксэнаў», маё прозвішча паставілі ў ліку выступоўцаў, хаця і перадапошнім.

Не скажу, што маё выступленне было рэвалюцыйным. У пяці хвілінах усяго не скажаш. Але там былі «экспрапрыяцыя нашага пісьменніцкага дома», гаротнае становішча нацыянальнай мовы і нават Машэраў, які хоць колькі ды лічыўся з пісьменнікамі.

Кіраўнік дзяржавы ажно сорак хвілін «дэзавуяваў» маё выступленне. Увесь гэты час я сядзела тварам да залы і адчувала позіркі больш за чатырохсот чалавек, скіраваныя на мяне. Ведаючы, што А.Л. не саромеецца ў словах і выразах, я была гатова пры першым жа абразлівым слове ўстаць і з высока паднятай галавой выйсці з гэтае залы. У думках я праклала маршрут: вось тут спушчуся са сцэны і пайду пасярэдзіне — спакойна, роўна, не азіраючыся... Але тое не спатрэбілася. У яго, А.Л., сапраўды нейкі звярыны «нюх» на такія рэчы. Затое я назірала сапраўдны сеанс Воланда — спачатку не надта прыязная да яго зала, якая ўзарвалася апладысментамі на маё выступленне, паступова «закалыхвалася», успыхвала смешачкамі...

Вяртаючыся да семінара творчай моладзі, узгадваю, як пасля семінара Анціпаў і яго камсамольская каманда паспешліва з'ехалі, не застаўшыся на традыцыйную вячэру з шампанскім. З пісь

меннікаў з намі засталіся толькі кіраўнікі семінару І. Шамякін і Я. Брыль. Яны былі трохі разгубленыя. Мяне абкружылі «семінарысты» і амаль сілай павялі на тую вячэру, гаворачы, што гэта прынцыпова, што я павінна там быць.

Пры нейкім пахавальным маўчанні я села, апусціўшы вочы ў талерку. Ніна Шклярава першаю ўзняла келіх з шампанскім і прамовіла: «Давайце вып'ем за Вольгу».

Пауза. Цішыня. Уздымаецца Янка Брыль і кажа: «Тут за некага быў тост. Дык давайце выпь'ем за гэты тост!»

І тут усе загаманілі, павесялелі, і ўсё пайшло сваім шляхам. Толькі Іван Пятровіч з жалем сказаў мне: «Ты сабе зачыніла дарогу ў літаратуру. Ды, можа, мы нешта выправім».

Пасля былі дзве ці тры ідэалагічныя камісіі з Мінска ў Гродна: як гэта яны, пісьменнікі, выгадавалі такога «монстра?» А. Карпюк расказваў, што пра гэты выпадак ён даведаўся ў Мінску, на прыёме ў загадчыка ідэалагічнага аддзела Паўлава. Той «чысціў» А. Карпюка за творы В. Быкава, а пасля дадаў: «А тут яшчэ вашая Іпатава...» — «А што Іпатава? — узгарэўся Аляксей Нічыпаравіч. — Здольная паэтка, цалкам пад маім уплывам...»

Што яму на гэта крычаў раз'ятраны ідэолаг, ён перадаў толькі В. Быкаву — як мужчына мужчыне...

Адным словам, у 1973 годзе (увесь гэты час шлях у рэспубліканскі друк быў для мяне зачынены) я пераехала ў Мінск. А. Кулакоўскі ўшчуваў: «Панаехала вас з правінцыі, ды яшчэ і дысідэнтаў».

Але і Максім Танк, і Іван Шамякін зрабілі ўсё, каб дапамагчы мне і з жыллём, і з працай. Праўда, Леанід Прокша, галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва», толькі праз гады сказаў мне: «Дарагое маё дзіця, каб ты ведала, як мне за цябе дасталася!» — і паказаў рукой уверх, што азначала больш высокае, чым у СБП, начальства, мабыць ЦК.

... Усё гэта дапамагло мне пазней выстойваць у куды больш суровыя часы, калі ўлада гвалтоўна адабрала ў пісьменнікаў Дом літаратараў і паліклініку і спрабавала ўсяляк задушыць наш творчы Саюз.

Мінск надаў мне «другое дыханне». 1970-я гады — аспірантура Літаратурнага інстытута ў Маскве, кніжкі, якія я пісала як апантаная, творчасць, якая прымушала забывацца на ўсё... Было і яшчэ адно ганенне, калі «гісторык № 1» Л. Абэцэдарскі надрукаваў у «Советской Белоруссии» разгромны артыкул на маю аповесць «Прадыслава» пра Ефрасінню Полацкую, а абласныя і мноства раённых газет падхапілі гэтае цкаванне. Але яно прайшло для мяне амаль непрыкметна, бо мноства лістоў ад розных людзей дапамагло мне асэнсаваць, наколькі ўсё, што тычылася нашай гісторыі, важна для грамадства. Таму з дваццаці сямі маіх кніг самыя дарагія дзве — «Прадыслава» і «За морам Хвалынскім».



### Нечаканыя сюжэты

... Пра падзеі апошняга дзесяцігоддзя трэба пісаць асобна. Калі ў 1998 годзе я прыйшла ў Саюз пісьменнікаў працаваць намесніцай старшыні Саюза пісьменнікаў Уладзіміра Някляева, я і падумаць не магла, якімі драматычнымі стануць для мяне наступныя чатыры гады.

Нечаканыя ўцёкі кіраўніка Саюза ў Польшчу, пра якія я даведалася з радыё «Свабода», штодзённая барацьба за выжыванне творчай арганізацыі, нечарговы з'езд, на якім мяне выбралі старшынёй саюза, ліст В. Быкава з падтрымкай маёй кандыдатуры, аспрэчванне гэтага ліста і паўторная падтрымка Васіля Уладзіміравіча, перададзеная праз А. Мальдзіса... Непрыняцце дэмакратычнага курсу Саюза ўсімі маімі трыма намеснікамі і гвалтоўнае адабранне ў нас усіх выданняў, заснавальнікамі якіх мы былі... Таямнічае выкраданне з сейфа дакументаў ХШ з'езда і бездапаможнасць міліцыі.... Эканамічная блакада СБП і подлая хлусня стукачоў... І зараз усё ў ва мне пачынае вібрыраваць, калі ўзгадваю тыя дні. Праўда, былі і нечаканыя «радасці».

Моцна нас тады даставаў Ціцянкоў і ягонае ведамства, якое патрабавала ў нас аплаты(!) за нашы пакоі ў нашым жа ўласным Доме Літаратара. Для мяне гэты гарылападобны прыслужнік быў асабліва ненавісны. Уся Беларусь бачыла, з якой асалодай ён ірваў наш старажытны сімвал — бел-чырвона-белы сцяг — пасля незаконнага рэферэндуму 1995 года.

Неяк у снежні пасля чарговай атакі я села, абсалютна спустошаная, за стол і ў адчаі прагаварыла: «Каб жа цябе чэрці ад нас вынеслі!» Мабыць, бываюць нейкія прарочыя хвіліны, бо не паспела я прыйсці дадому, як пачула па радыё, што Ціцянкова знялі... Ягоны наступца атакаваў нас ужо не так па-сабачы раз'юшана... Але — атакавалі, душылі, сціскаючы нас ў самым надзённым — кан-

тактах з чытачамі, магчымасці выказацца. Думалі, што, стварыўшы чаргінцоўскі саюз і паабяцаўшы грошы і выданні, яны перацягнуць найбольш таленавітых, а за імі пойдуць астатнія. Пралічыліся — ніводзін з народных пісьменнікаў, нават І. Шамякін, які заўсёды падтрымліваў уладу, у «той саюз» не пайшоў.

Магу толькі сказаць — праз усе нягоды, праз правакацыі, нянавісць і расчараванні ў людзях, якіх дзесяцігоддзі лічыла сваімі сябрамі — я, як некалькігадовы кіраўнік Саюза пісьменнікаў, зрабіла ўсё, што магла (і чаго не магла), каб мы, пісьменнікі, як творчая арганізацыя, не сталі на калені перад подлай і хлуслівай уладай і захавалі сваю духоўную незалежнасць і магчымасць сказаць тую праўду, без якой чалавечая душа ператвараецца ў ліпкае, дрыготкае месіва.

Не магу ўявіць сябе ў наскора скляпаным чаргінцоўскім саюзе, які вымушаны ўхваляць рэпрэсіі супраць самых сумленных людзей краіны, спяваць «асану» там, дзе трэба сказаць рашучае «Не!».

Так што — няхай без кніг, без ганарараў, без друкавання ў дзяржаўнай прэсе, у «чорным спіску», з выкіданнем тваіх кніг са школьных праграм...

Затое — у ладзе са сваім сумленнем, з душой — боскай іскрай, дадзенай табе, як компас у жыццёвым моры. З надзеяй, што твае кнігі, нягледзячы ні на што, яшчэ паслужаць Беларусі.

Ганенні і нягоды праходзяць, яны не вечныя. І зараз я чакаю перамен і, як магу, спрыяю таму, каб яны наступілі. Два гады назад зрабіла тое, пра што марыла доўгія гады — праехаць па Беларусі і напісаць пра людзей-герояў, людзей нязломнага лёсу, змагароў, магілы якіх яшчэ захаваліся ў нашай краіне. Так з'явілася кніга «Свабода да апошняга дыхання». Гэта — і маё жыццёвае крэда.

# Андрэй Клімаў



Падрыхтавана да друку 12.04.13

*Калі наконт таго, хто з беларускіх бізнесменаў самы багаты, яшчэ можна паспрачацца, то сярод самых пакутлівых Андрэй Клімаў хутчэй за ўсё не будзе ведаць ніякай канкурэнцыі... Як і сярод тых, хто больш за ўсё страціў...*

*У сярэдзіне 90-х гадоў мінулага стагоддзя ён уваходзіў у пяцёрку самых вядомых бізнесменаў Беларусі. Усё «ператварылася» ў шмат гадоў зняволення. Навошта?*

*Спадзяюся, на гэтае пытанне і адкажа мой нарыс.*

## Дваранскія карані

Сваім днём народзінаў Андрэй Клімаў крыху незадаволены. Перш за ўсё стагоддзем. 17 верасня 1965 года не самы выдатны ў нашай гісторыі дзень. Андрэю трэба было нарадзіцца (як ён сам лічыць) у гады сярэднявечча. Пажадана ў Вялікім княстве Літоўскім, каб за імкненне да шчасця сваёй краіны існуючыя ўлады не кідалі за краты...

Першыя тры класы ён вучыўся добра, а потым у жыцці хлопчыка пачаў дамінаваць спорт. І не толькі таму, што маці ўладкавала яго яшчэ і ў спартовую школу, дзе двойчы ў дзень былі трэніроўкі па плаванні. Пасля трэніровак былі яшчэ гульні ў футбол альбо хакей. Словам, часу на вучобу (як гэта бывае часта ў такіх выпадках) амаль не заставалася.

Ды і тое, што адбывалася з самімі школамі, вельмі цяжка назваць тыповым. Спачатку тры гады ён вучыўся ў сярэдняй школе № 28, потым адзін клас у 35-й сярэдняй школе, а ў усе астатнія — у СШ №61.

Маці будучага палітыка Ала Пятроўна Клімава паходзіць з вядомага ўкраінскага дваранскага роду Піваваравых. Некалі гэта былі вельмі заможныя людзі, але ген багацця перадаўся ёй у крыху іншым выглядзе. Гутарка пра багацце душы.

Магчыма, некаторыя тут стануць абвінавачваць аўтара ў залішнім пафасе, але я пайшоў на яго асэнсавана і свядома, бо звычайнымі словамі надзвычай цяжка выказаць шчырую павагу да гэтага Чалавека. Як і да ўсіх маці, чые дзеці асабістымі здароўем і свабодай паказваюць нежаданне быць «тварью дрожащей».

Як успамінаў сам Андрэй, маці ніколі не шкадавала грошай на тры рэчы: фрукты, адпачынак і кнігі.

Апошняе асабліва важна, бо менавіта «запойнае» чытанне кніг стала падмуркам асобы Андрэя Клімава, фармавання яго характару.

У савецкія часы, хто памятае, было шмат розных дэфіцытаў, сярод якіх кнігі займалі адно з самых пачэсных месцаў. Для таго каб набыць кожную, трэба было здаць 20 кілаграмаў макулатуры і атрымаць адпаведны талончык. Андрэй Клімаў сабраў каля 200 кніг... Палічыце колькасць талонаў...

## Юнацкая наіўнасць

У 1983 годзе ён (хаця і не быў выдатнікам) даволі паспяхова скончыў школу. І стала пытанне: што далей? У апошніх школьных класах паралельна з асноўнымі заняткамі Андрэй закончыў курсы англійскай мовы пры сталічным Доме афіцэраў, якія былі тады ВЕЛЬМІ прэстыжнымі.

Мабыць, гэта і дало падставу выбраць знакаміты Маскоўскі дзяржаўны інстытут міжнародных адносін.

Уяўляю, колькі людзей ад гэтай назвы не ўстрымаліся ад розных эпітэтаў. Не стану дадаваць свой, а абмяжуюся маладзёвым слэнгам — крута. І крыху наіўна, бо, каб «адсекчы» ад эліты «простых смертных», для паступлення туды трэба было накіраванне ад камітэта камсамола. Там Андрэя Клімава бачылі першы раз і, як і трэба было чакаць, «паслалі»...

Так Клімаў амаль упершыню ў жыцці сутыкнуўся з савецкімі рэаліямі і на два месяцы сышоў у становішча, якое медыкі называюць дэпрэсіяй. Нікога не хацелася бачыць, а служыць хацелася толькі ў Афганістане. Каб там геройскі загінуць.



Маці адчула гэты настрой і расказала пра Львоўскае пажарна-тэхнічнае вучылішча.

З чырвоным дыпломам Андрэй Клімаў скочыў яго ў 1986 годзе. А значна раней гэтае ж вучылішча скончыў другі добра вядомы персанаж беларускай палітыкі — спікер Вярхоўнага Савета 12-га склікання Мечыслаў Іванавіч Грыб.

## Дарослая праблема

Накіравалі Андрэя Клімава ў Мінск, дзе ён год працаваў у якасці начальніка каравула пажарнай часткі № 5. Не будзем яшчэ раз узгадваць анекдоты пра пажарнікаў. Адзначым толькі — шмат што з першага ж дня службы пачало ў маладога лейтэнанта выклікаць абурэнне. Асабліва калі падначаленыя (у тым ліку і вадзіцелі) прыходзілі на работу «пад мухай».

Андрэй Клімаў пачаў усіх «строіць», і вельмі хутка начальнік пажарнай часткі ў якасці пакарання парушальнікаў дысцыпліны ўвёў: «Пойдзеш у каравул да Клімава»...

Львоўскае пажарна-тэхнічнае вучылішча не дае вышэйшай адукацыі, таму праз год работы Андрэй Клімаў прыйшоў у аддзел кадраў УУС Мінгарвыканкама і папрасіў накіраваць яго паступаць на ... гістарычны факультэт БДУ.

Выбар для «пажарніка», мякка кажучы, неардынарны, таму можна толькі ўявіць, якія твары ў той час былі ў кадравікоў і якімі словамі яны параілі пайсці ў Вышэйшую пажарную школу. Клімаў «упёрся». Кампрамісам стаў юрыдычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Было гэта ў 1987 годзе, а скончыць універсітэт змог толькі ў 2010 годзе — пасля трох турэмных «адсідак». Хаця сам Андрэй гаворыць пра чатыры. Справа ў тым, што ў 2006 годзе яго арыштавалі прама на «хіміі» ў Баршчоўцы і за «лаянку» на тыдзень «закрылі» ў рэчыцкую турму.

Па ўсяму зразумеламу «супадзенню» прыйшлося гэта на дзень прэзідэнцкіх выбараў...

## Небяспечны выбар

Не буду «грузіць» чытачоў пералічэннем усіх прыступкаў кароткай (і вельмі паспяховай) службовай кар'еры Андрэя Клімава. Адзначу толькі, што наўрад ці яны выклікалі шчырае маральнае задаваль-

ненне. Хутчэй наадварот. Таму нягледзячы на тое, што ўжо праз тры гады ён працаваў на прэстыжнай пасадзе ў Галоўным упраўленні пажарнай аховы МУС БССР. Звольніўся адтуль як толькі пабываў за межамі Савецкага Саюза.

І хаця гэта была толькі сацыялістычная Польшча, нават тых ураджанняў хапіла, каб адчуць, якой на самой справе можа быць свабода.

Звольніўся са службы Андрэй Клімаў 21 жніўня 1991 года, а ўжо праз тры месяцы (26.11.1991) пачало працаваць Малое прадпрыемства Андрэя Клімава, якое займалася гандлем нерухомасцю, будаўніцтвам, фінансамі, машынабудаваннем і кансалтынгавымі паслугамі.

У 1994 годзе на яго базе былі створаны ААТ «Андрэй Клімаў і К», «Мінскі прыватны банк Андрэя Клімава» і газета «Андрэя Клімава».

На гэты конт прыходзілася чуць шмат рознага. У тым ліку і медыцынскія тэрміны... Я ж не бачу ў гэтым нешта экстраардынарнае. Кіраўнік пэўнай справы павінен адказваць за яе якасць сваім прозвішчам. А то ў нас часта бывае немагчымым знайсці нейкія «канцы»...

Да таго ж яшчэ ў часы сярэднявечча гэта лічылася «добрым тонам». Думаю, шмат хто з чытачоў бачыў на рэштках старажытных замкаў так званыя «пальчаткі». Гэта цэгла з адбіткамі далоняў майстроў, якія іх зрабілі. Своеасаблівы знак якасці.

Так і з прозвішчам.

У 1995 годзе пачаўся палітычны складнік жыцця Андрэя Клімава. Ведаю, што шмат хто да дэпутацкіх мандатаў вядомых бізнесменаў ставіцца, мякка кажучы, скептычна. І часта мае на тое рацыю, але тут выпадак асобны.

Андрэй Клімаў не толькі перамог у чэснай барацьбе на выбарах у Вярхоўны Савет 13-га склікання, але і потым неаднойчы сваімі дзеяннямі вельмі красамоўна паказваў, што кіруецца асабістым сумленнем і рэальнымі інтарэсамі выбаршчыкаў.

І гэта не проста словы з якой-небудзь чарговай улёткі. Гэта стала «падмуркам» для трох крымінальных спраў ...

### Песімістычны аптымізм

У 1996 годзе Андрэй Клімаў (на той момант сябар пастаяннай камісіі па эканамічным палітыцы і рэформах — заўвага аўтара) быў



сярод тых, хто падпісаў імпічмент Лукашэнку. Як лічаць многія, гэта і стала сапраўднай прычынай першай крымінальнай справы. Хаця афіцыйная фармулёўка прыгавора была іншай.

Андрэя Клімава арыштавалі 11 лютага 1998 года, а 17 сакавіка 2000 года пакаралі на шэсць гадоў зняволення. За тое, што ён ... украў у сябе самога буйную суму грошай і здзейсніў такім чынам «крадзеж у асоба буйных памерах». Спачатку называлася «неліцэнзійная дзейнасць», але потым ад яе адмовіліся.

Для тых, хто заўважыў нейкія алагізмы, адзначым, што юрыспрудэнцыя ў Беларусі сёння ВЕЛЬМІ спецыфічная...

Умоўна-датэрміновае вызваленне прыйшлося на 2002 год. На свабоду Клімаў выйшаў 25 сакавіка 2002 года, а праз тры гады (25 сакавіка 2005 года) на мінскай Кастрычніцкай плошчы правёў тое, што назваў Рэвалюцыяй. І, як след, зноў апынуўся за кратамі.

«Далі» паўтары гады «хіміі». Першапачаткова Андрэй адбываў пакаранне ў недалёкіх ад Мінска Крупках, што стала прычынай даволі частых візітаў сяброў-апазіцыянераў. І Клімава перавялі ў вёску Баршчоўка Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці.

Менавіта там і адбыўся «прэвентыўны наезд», пра які ўзгадвалася вышэй.

На прэзідэнцкіх выбарах 2006 года Клімаў галасаваў у рэчыцкай турме...

У снежні 2006 года тэрмін «хімічнага» пакарання скончыўся, але на волі давялося пабыць зусім нядоўга. Праз тры месяцы Андрэя Клімава зноў арыштавалі. На гэты раз за «абразу Прэзідэнта», якую нехта ўбачыў у кнізе «Прагулка з вампірам», і заклік на «неканстытуцыйныя змены існуючага ладу». Увогуле ж Андрэем на дадзены момант напісана ўжо дзевяць кніг.

Арыштавалі яго 3 красавіка 2007 года, а 1 жніўня Цэнтральны суд Мінска асудзіў былога дэпутата да двух гадоў зняволення ў калоніі строгага рэжыму, а саму кнігу загадалі знішчыць.

Клімаў стаў першым беларускім апазіцыянерам, якога пакаралі зняволеннем ва ўмовах строгага рэжыму.

Паўгады Андрэй правеў на Валадарцы, дзе з сардэчным прыступам трапіў у турэмную бальніцу. Потым яго перавялі ў мазырскую калонію строгага рэжыму №20. Палітычная сітуацыя ў гэты момант крыху змянілася, і Андрэя Клімава прэзідэнцкім указам памілавалі.

Напэўна, нехта б пасля такіх выпрабаванняў лёсу крыху спыніў бы асабістую актыўнасць, але гэта не пра героя нарыса. У 2010 годзе ён уступіў у рух «За свабоду» і вельмі абураецца, калі гавораць пра «сыход у цень».

На сітуацыю ў краіне глядзіць са своеасаблівым песімістычным аптымізмам. То бок, верыць, што змены хутка наступяць, але хвалюецца наконт нашай да іх непадрыхтаванасці.

І яшчэ адзін ВАЖНЫ момант. У 1997 годзе Андрэй Клімаў уступіў у Аб'яднаную грамадзянскую партыю і не выйшаў з яе па гэты дзень. Акцэнтую на гэтым моманце ўвагу перш за ўсё тых, хто лічыць адваротнае...

У 2012 годзе Андрэй Клімаў стварыў і ўзначаліў інвестыцыйную кампанію «Дестком», якая дзейнічае ад англійскага фонду «Mainerinvestment». Кампанія займаецца падрыхтоўкай інвестыцыйных пляцовак для будаўніцтва прамысловых прадпрыемстваў, гасцініц, гандлёвых цэнтраў, стварэннем банкаў.

Напэўна, пералік пасад і заняткаў Андрэя Клімава з часам можна працягваць, але я дакладна ведаю, што там не будзе адной. Андрэй Клімаў ПРЫНЦЫПОВА не хоча быць прэзідэнтам нашай краіны. Нюанс для нашага апазіцыйнага асяроддзя даволі рэдкі, што сведчыць аб тым, што, на шчасце, яшчэ ёсць людзі, якія больш думаюць пра іншых, чым пра сябе...

# АНАТОЛЬ ЛЯБЕДЗЬКА



Падрыхтавана да друку 09.09.2013

*Гэтага палітыка не крытыкаваў хіба толькі лянівы. Мабыць, так трэба было зрабіць і мне. Тым больш, што ёсць за што і ёсць пра што, бо гэтага чалавека я добра ведаю амаль дваццаць гадоў. Аднак крытыкаваць я не буду прынцыпова, бо лічу больш лагічным паспрабаваць зразумець матывацыю яго дзеянняў.*

## Без памылак №1

Днямі адбудзецца прэзентацыя кнігі Анатоля Лябедзькі «108 дзён і начэй у засценках КДБ», з чым мы шчыра і віншуем аўтара. Сам жа ён павіншаваў свет сваёй прысутнасцю 27 чэрвеня 1961 года, а адбылося гэта ў вёсцы Трылес Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці.

Некалі мне пашанцавала шмат разоў пабываць на «малой радзіме» Анатоля. Першае, што ўразіла, — незвычайная шчырасць, з якой бацькі палітыка ставіліся да гасцей. І да жыцця ўвогуле.

Маці Марыю Іванаўну, як гэта часам сустракаецца ў беларускіх вёсках, у штодзённым жыцці звалі Янінай. А пра свайго бацьку Уладзіміра Міхайлавіча Анатоль заўсёды казаў: «Працуе кулаком». На жаль, 26 кастрычніка мінулага года ён пайшоў з жыцця, але шчырая павага і светлая памяць пра гэтага цудоўнага чалавека засталіся не толькі ў маім сэрцы. Ён быў Гаспадаром. Менавіта з вялікай літары.

Уражвала не толькі тое, што гэты чалавек не можа без работы ні адной хвіліны, але і разуменне цяжкасці гэтай работы. Акрамя дазволеных Савецкай уладай «сотак», ён заўсёды меў некалькі «падпольных» дзялянак. Ехаў на сваім трактары ў лес, выкарчоўваў там

«участак», сеяў жыта. І шчыра радаваўся, што потым старшыня калгаса змог знайсці і «заараць назад» толькі палову з іх.

Дарэчы, калі б у тыя часы праводзілі «Дажынкі», Анатоль разам з бацькам маглі і «жыгуль» атрымаць, бо на старой «Ніве» аднойчы за лета намалацілі больш за тысячу тон зерня.

## Без памылак №2

Пасля заканчэння школы ў 1978 годзе ў Анатоля была першая няўдалая спроба паступлення ў інстытут. Пасля гэтага працаўладкаваўся механізатарам у родны калгас імя А. Суворава. Праз год паступіў на падрыхтоўчае аддзяленне Мінскага педагагічнага інстытута імя Горкага, а ў 1980-м — на факультэт гісторыі і французскай мовы гэтага ж інстытута, які закончыў у 1985 годзе. Для даведкі: 8 верасня 1993 года гэты інстытут атрымаў статус універсітэта, а ў 1995 годзе быў перайменаваны ў Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка.

Падчас вучобы Анатоль і пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Святланай, якая вучылася ў суседняй групе. Вяселле адбылося 22 верасня 1984 года. Праз год яго прызвалі ў армію: у інстытуце не было ваеннай кафедры. Служыў у войсках супраць паветранай абароны пад Падольскам. Там і даведаўся, што 9 снежня 1985 года ў яго нарадзіўся сын Арцём.

Цікава, што Лябедзька хацеў вучыцца і ў аспірантуры, але адно вакантнае месца аддалі дачцэ намесніка міністра, і Анатоль паехаў у Ашмяны, дзе на той момант жыла яго цешча.

Менавіта з Ашмянамі звязаны пераход Анатоля Лябедзькі з настаўнікаў у палітыкі. Ішоў 1990 год. Некалькі маладых паплечнікаў прапанавалі намесніку дырэктара мясцовай школы-інтэрната па выхаваўчай працы пайсці ў дэпутаты.

Нягледзячы на моцнае супраціўленне (10 чалавек на месца) мясцовай партыйна-савецкай наменклатуры, яны перамаглі тады, як кажуць, у адны вароты. За маладога настаўніка прагаласавала 76 адсоткаў выбаршчыкаў. Тады галасы яшчэ лічылі не ярмошыны з лазавікамі...

Работа намеснікам старшыні Камісіі па справах сям'і і моладзі Вярхоўнага Савета РБ 12-га склікання стала прычынай пераезда ў Мінск, аднак многія ашмянцы па гэты дзень лічаць Анатоля Лябедзьку сваім.



У 1992 годзе была створана Беларуская асацыяцыя маладых палітыкаў, і ініцыятар гэтай падзеі Анатоль Лябядзька яе ўзначаліў. У 1999 структуры не стала. Не прайшла чарговую перарэгістрацыю.

Пасля заўчаснай смерці вядомага журналіста Анатоля Майсені Лябедзька ў 1997 годзе быў абраны старшынёй Беларускай еўраатлантычнай асацыяцыі. Але і гэта грамадская структура на сёння не існуе. Што і трэба было чакаць: іншы час і іншыя хаўруснікі ў Беларусі.

Хутка стала відавочна, што настаўніцкай адукацыі для «вялікай палітыкі» недастаткова, і ў 1993 годзе Анатоль Лябедзька скончыў яшчэ і юрыдычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

У 1995 годзе ён зноў балатаваўся па Ашмянскай выбарчай акрузе. Зноў перамог ужо ў першым туры. У гэты ж момант перайшоў у апазіцыю да Аляксандра Лукашэнкі і ўступіў у толькі створаную Аб'яднаную грамадзянскую партыю. Спачатку быў там намеснікам старшыні, а 15 красавіка 2000 года, пасля сыходу ў адстаўку прафесара Станілава Багданкевіча, яе ўзначаліў.

## Памылка №1

Імя гэтай памылкі шырока вядомае. І тычыцца яна не толькі Анатоля Лябедзькі. Гэта памылка выбару пазіцыі падчас першых прэзідэнцкіх выбараў 1994 года.

Але ўсё было там не так адназначна, як кажуць сёння. І пачаць роздум, што адбылося тады, на мой погляд, трэба з разумення розніцы паміж часам росквіту перабудовы і часам нашым. Нельга глядзець на Лябедзьку тых часоў сучасным вокам і перабольшваць яго магчымасці. Як і нельга Анатолю Уладзіміравічу не прызнаваць асабістых памылак.

Упэўнены, зрабі ён гэта яшчэ шмат гадоў таму, сёння мы б не чулі пра «маладых ваўкоў», якія хацелі кіраваць краінай за нечай спіной...

На жаль, гэтага не адбылося, і зараз мы ўжо фактычна не памятаем, што ў 1994 годзе дэмакраты (як і сёння) не змаглі аб'яднацца і вылучыць кандыдатару «адзінага» праціўніка тагачаснага кіраўніка беларускага ўрада Вячаслава Кебіча.

Было тры каманды — Зянон Пазьняк, Станіслаў Шушкевіч і Генадзь Карпенка. Усе тры сабралі па сто тысяч подпісаў, патрэбных для рэгістрацыі. Але ў Карпенкі на адным з мінскіх участкаў ска-

савалі пэўную колькасць подпісаў, як быццам бы несапраўдных, каб было менш за сто тысяч. Акрамя таго, Генадзь Дзмітрыевіч за сваё вылучэнне сабраў яшчэ і подпісы дэпутатаў беларускага парламента (патрабавалася як мінімум 70). Але частка з іх потым адклікала свае подпісы. Анатоль Лябедзька быў сярод тых, хто падпісаўся за вылучэнне, аднак не было сярод тых, хто свае аўтографы скасаваў.

Тое, што дэмакраты тады не змаглі аб'яднацца, спрасціла дасягненне мэты чалавеку, якога лічаць галоўнай памылкай Анатоля Лябедзькі, бо многія тады дзейнічалі па прынцыпу «абы хто, толькі не Кебіч».

Паказальна, што перашкодзілі Карпенку ўдзельнічаць у выбарчай гонцы не тыя, хто быў бліжэй да былога дырэктара саўгаса, а прыхільнікі першага спікера парламента незалежнай Беларусі.

Так што абвінавачваць у тым, што здарылася, выключна кагосьці з «маладых ваўкоў», на мой погляд, не зусім правільна. Яны дзейнічалі згодна чаканням большасці з нас. Таму і адказваць перад гісторыяй лагічна гэтай самай большасці.

## Памылка №2

Калі наконт першай памылкі яшчэ неяк можна зразумець і прыняць аргументы Анатоля Лябедзькі, то другая не вытрымлівае нават такой лагоднасці. Я пра стаўку на Яраслава Раманчука.

Хаця ёсць аргументы і тут. Галоўны — дэмакраты зноў не здолелі дамовіцца, хаця працэдура абрання «адзінага» была ўзгоднена яшчэ за год да выбараў, а калі так, дык «чаму б АГП не паўдзельнічаць у парадзе кандыдатаў? Раманчук сярод іх — адзіны эканаміст».

Анатоль Лябедзька да таго, як праходзіла тая выбарчая кампанія (у сэнсе рэкламы партыі), і сёння не мае сур'ёзных прэтэнзій. Прэтэнзіі да таго, што адбывалася потым.

Працытую меркаванне самога героя нарыса: «Тое, што адбылося, у стане жорсткай канфрантацыі з маімі прынцыпамі і перакананнямі. Безумоўна, я не магу гэта неяк падтрымаць, магу толькі асудзіць. Але таптацца па ўсіх, хто праявіў там пэўную слабасць, не буду, і сказаў пра гэта адразу пасля выхаду з амерыканкі, бо ўсё добра ведаю сам. У мяне было 108 сутак, каб убачыць тое, з чым там сутыкаюцца людзі».



## Памылковыя міфы

Міф першы: Лябедзька хацеў быць міністрам замежных спраў, а яму давалі толькі пасаду міністра адукацыі. Гэта па афіцыйнай версіі. Вачамі самога ж Анатоля, нічога падобнага не можа быць па вызначэнні, бо ён тады падтрымліваў іншую кандыдатуру — Уладзіміра Сянько. Акрамя таго, ён у хуткім часе атрымаў абсалютна незалежную ад выканаўчай улады пасаду — намесніка старшыні парламенцкай камісіі па міжнародных справах.

Міф другі звязаны з працай у якасці «парламенцкага прадстаўніка прэзідэнта». Сапраўды, калі паглядзець стэнаграмы ўсіх пасяджэнняў Вярхоўнага Савета 13-га склікання, то ў іх няма ніводнага радка пра «агучванне прэзідэнцкай пазіцыі». Больш за тое, на парламенцкіх выбарах 1995 года выканаўчая ўлада не толькі не дапамагала Анатолю Лябедзьку, але і відавочна перашкаджала — падкінула яму са сваіх шэрагаў двух канкурэнтаў.

І, калі б ён у той час, як кажуць, дэзавуіраваў словы пра свой статус, сёння не было б ніякіх сумневаў на гэты конт. На жаль, нічога падобнага не адбылося. Па якой прычыне, можна толькі гадаць...

Міф трэці звязаны з пераходам у апазіцыю з той прычыны, што «Лябедзька не атрымаў жаданых дзяржаўных пасад». Сапраўды, пэўныя прапановы яму рабіліся не аднойчы. Найбольш спакуслівай была прапанова ўзначаліць Прэзідэнцкі савет, але па розных прычынах яна не была рэалізавана. Потым былі прапановы ўзначаліць мытны камітэт, стаць адным з віцэ-прэм'ераў альбо міністрам па справах моладзі, аднак без завяршэння.

Пасля белых плямаў у СМІ ў снежні 1994 года і сумна вядомага збіцця дэпутатаў фракцыі БНФ у памяшканні Вярхоўнага Савета наступнай вясной, стала відавочна, што ў беларускім грамадстве адбываецца вельмі сур'ёзны раскол. Анатоль Лябедзька быў сярод тых, хто прапанаваў знайсці нейкі кампраміс. Лукашэнка нават даў згоду на правядзенне шырокага круглага стала, аднак ужо раніцай наступнага дня ад свайго рашэння адмовіўся. Было гэта летам 1995 года, і менавіта з гэтага моманту трэба адлічваць развод паміж палітыкамі.

## Каб не было памылак

Як вядома, у сакавіку 2005 года адзіным стаў Аляксандр Мілінкевіч, які на Кангрэсе дэмакратычных сіл перамог Анатоля Лябедзьку

з розніцай у восем галасоў. У кастрычніку таго ж года Палітсавет дэмакратычных сіл зацвердзіў Анатоля Лябедзьку на пасадзе старшыні Нацыянальнага камітэта, які назвалі ценявым урадам.

Узгадаў я гэты момант невыпадкова, бо ён даволі красамоўна сведчыць, што пры жаданні могуць дамовіцца нават беларускія апазіцыянеры. Другая справа — адбываецца гэта далёка не заўсёды.

А шкада. Я, напрыклад, паўгадзіны слухаў пра адрозненні паміж праймерыз і «народным рэферэндумам» і так не зразумеў, у чым іх прынцыповая розніца. Рызыкну дапусціць, што выбаршчыкам гэта будзе яшчэ цяжэй патлумачыць.

# ВАЛЕРЫ МАЗЫНСКІ




**Падрыхтавана да друку 3.10. 2011**

*Памятаю, як мае калегі бурна абмяркоўвалі тое, што знакаміты рэжысёр Валеры Мазынскі паставіў у прыёмніку-размеркавальніку, які месціцца на вуліцы імя геройскага лётчыка Барыса Акрэсціна, горкаўскую п'есу «На дне». Маўляў, не пабаяўся. Многія тады захапляліся ўчынкам грамадска-сацыяльным, і амаль ніхто не звяртаў увагу на яго Творчую частку.*

*На мой погляд, дарэмна, бо менавіта з іх і складаецца спектакль з назвай — ЧАЛАВЕЧАЕ ЖЫЦЦЁ.*

## Пралог

Мне «пашчасціла» 20 лютага 1947 года нарадзіцца на Барысаўшчыне. Двукоссе тут таму, што гэта, відаць, самы біты-перабіты край з усёй Беларусі. Там заўсёды нехта з некім ваяваў. Здратаваны шлях з Еўропы ў Азію, на якім мала засталося з таго, што вызначала людзей, як нейкую самастойную супольнасьць. Вакол адны ваенныя гарадкі. Такое адчуванне, што я нарадзіўся сярод салдатаў.

Вёска Вялікае Стахава стаіць на беразе ракі Бярэзіна (так яе ў нас называлі, з націскам на «э»), гэта кіламетраў восем на поўнач ад Барысава ў бок Бягомля, што па правым беразе. Побач — танкадром. За ім — той самы палігон, з-за якога былі выселеныя-пераселеныя, адным словам, расцярушаныя, некалькі цудоўных вёсак, і які зарастае сёння маладым лесам.

Дарэчы, у шасцідзясятыя гады мінулага стагоддзя там здымалі кіно «Пераклічка» і выканаўца адной з роляў, малады Мікіта Міхалкоў уехаў на танку ў рэшткі Бягомльскай праваслаўнай царквы. Мясцовы бацюшка па гэты дзень чакае матэрыяльнай

кампенсацыі ўсяго, што ён тады пабурыў. І мае рацыю, бо Міхалкоў зараз не толькі багаты і магутны чалавек, але і актыўна «піярыць» асабістыя рэлігійныя сімпатыі. Як кажуць, сам Бог загадвае гэта зрабіць...

І яшчэ адзін арыенцір. Мая родная вёска знаходзіцца ў чатырох кіламетрах ад знакамітай Студзёнкі, дзе Напалеон у 1812 годзе фарсіраваў Беразіну.

Зразумела, усе ўспаміны маіх бацькоў былі звязаны менавіта з вайной.

Час ад часу маці Паліна Ігнатаўна расказвала пра тое, што адбывалася падчас акупацыі. Бацька — Яўген Сямёнавіч Мазынскі — зусім не любіў гаварыць пра вайну, хоць у свае васемнаццаць трапіў на фінскую. На жаль, іх ужо няма.

У мяне тры браты і чатыры сястры. Дзякуй Богу, усе жывыя. Вышэйшую адукацыю з усіх атрымаў толькі я. Некалі на юбілей маці сабралася ўся радня: усе з дзецьмі і ўнукамі — каля 35 чалавек. Гэта толькі бліжэйшая радня.

Дарэчы, бацька і маці не ведалі дакладнага дня свайго нараджэння. Вечныя акупацыйныя ўлады вытручвалі ў людзей той гонар і тую годнасць да саміх сябе.

Як толькі сыходзіў снег, у лесе, які рос проста за нашай вёскай, з'яўляліся ваенныя. Пачыналіся так званыя вайсковыя летнікі. Да самай позняй восені гэта быў па сутнасці цэнтр нашага жыцця.

Вёска ж была вялікай — каля трохсот двароў. На танцах адбываліся пастаянныя бойкі з салдатамі, бо «ахвочых» да нашых дзевак хапала і сярод мясцовых.

Жыццё ж праходзіла сярод вайскоўцаў. Там было цікавей, чым дома ці ў школе.

Па суботах, як я ўжо казаў, паказвалі кіно. На дрэвы сярод лесу вешалі белую прасціну. З аднаго боку глядзелі салдаты, з другога — мы. Атрымлівалася кіно наадварот. У іх, скажам, персанажы ішлі налева, а ў нас направа.

Жылі цяжка. Беднасць была страшэнная. Проста катастрафічная. Восем дзяцей. Бацькі «за галачкі» працавалі ў калгасе, які называўся «Іскра камунізму». Дарэчы, праз рэчку ў Малым Стахаве —»Маяк камунізму». Абодва «ляснуліся» шмат гадоў таму. А наша вёска стала «неперспектыўнай»... У большасці цяпер там лецішчы барысаўчан... і нават мінчукоў.



Адразу за маёй хатай месціліся могілкі. Чаму месціліся?... Там якраз цяпер уся тая вёска, якая і засталася ў маёй памяці.

Чаго мы толькі там не рабілі! Раскладалі вогнішчы, кідалі ў агонь патроны, якіх было поўна пасля вайны.

На могілках раслі велічэзныя ліпы. Іх доўгія галіны нагадвалі ліяны. А ў нас якраз паказвалі «Тарзана». Старэйшыя хлопцы, ухапіўшыся за тое голле, скакалі з адной на другую, а малыя (мы) толькі зайздросцілі.

У суседа, які жыў побач з намі, былі вельмі смачныя яблыкі. Старэйшыя хлопцы з боку могілак прарылі туды доўгі падкоп — метраў пятнаццаць. Бо плот жа быў шчыльны ды высокі. Гаспадар не мог нас злавіць. Выкрылася ўсё выпадкова. Бацька аднаго з маіх сяброў ганяўся за намі і праваліўся ў гэты лаз.

Колькі ні намагаюся ўспомніць у дзяцінстве дрэннае надвор'е, не магу. Толькі сонца. У любую пору года.

Памятаю, як, пачынаючы з першага класа школы, пачаў насіць «камандзірыхам» малако. Так называлі жонак афіцэраў. Самі мы яго не пілі — прадавалі да апошняй кроплі, бо толькі так можна было атрымаць «жывыя»грошы. Для калгаснікаў іх фактычна не існавала.

Матуля расказвала, як першыя дні вайны гэтыя афіцэрскія жонкі збеглі з гэтых Лядзішчаў хутчэй маланкі. Нават свае кватэры не закрылі...

І яшчэ адзін успамін пранясу праз усё жыццё — навабранцы. Я стаў да іх хадзіць прыблізна з васьмі гадоў. Тады веснавых прызываў не было. Толькі — восень.

Іх «пprыганялі» з усяго Савецкага Саюза, і мы хадзілі за «шмоткамі», якія зараз называюцца «сэканд хэндам».

Калі калону навабранцаў «пагонюць» з вакзалу, мы даведваліся ад знаёмыхі дзядзькаў, якія працавалі ў качагарках і чакалі яе на падыходзе да ваеннага гарадка. З заплечнікамі, пашытымі мацяркамі і ваеннымі рэчмяшкамі.

Афіцэры пра «набегі» вяскоўцаў таксама ведалі, таму імкнуліся прыводзіць папаўненне ў самы нязручны для нас час — познім вечарам, раніцай, альбо ўвогуле ноччу.

Сутнасць жа «набегаў» складалася з таго, што мы пасля лазні, куды гналі папярэдне навабранцаў (дамаўляліся звычайна з капцёршчыкамі, старшынамі і г.д.), забіралі іхняе старое адзенне, бо іх пераапраналі ўжо ў ваенную форму.

Бывала, яны аддавалі яе самі яшчэ на самым падыходзе да вайсковай часткі, бо ведалі, што ад ўсяго «цывільнага» там пазбавяць усё роўна і яго проста пасякуць на вялікай калодзе, а што і спаляць. Сюрэалістычная карціна адбывалася: ідзе калона абаўрванцаў і з яе адлятаюць то ўправа, то ўлева куфайкі, кашулі, дзяжкі...

Аднойчы мне папаўся адзін бацінак, а сябру — другі з той жа пары. Да самага дому вырашалі, каму аддаць «свой». І выкінуць шкада, і рэч цалкам не да патрэбы, калі мець толькі адзін.

Для сям'і гэта была вялікая дапамога. Маці ўсё перамые, перашые, «пераліцуе», як у нас гаварылі, і можна насіць.

Самай вялікай узнагародай у школе былі новыя картовыя штаны ці кашуля. За добрую вучобу я іх атрымліваў некалі разоў.

Няхай мне даруюць усе мае настаўнікі, але, на жаль, нічога добрага пра сваю школу я сказаць не магу, акрамя толькі як пра аднаго настаўніка — Уладзіміра Кірылавіча Карповіча. Ён выкладаў батаніку і...спевы. Да гэтага часу люблю і ўмею завіхацца ў садзе, прышчапіць любое дрэва. Менавіта ад яго і шчырая любоў да зямлі і ...да песні.

Канешне, як вясковы хлопец, я добра ведаў, што гэта такое — вясковая праца, але яна заўсёды асацыявалася з вельмі цяжкай працай. І не толькі маёй асабістай. «Далася» ў знакі «гэтая праца» і бацькам. Маці аднойчы ледзь не загінула. Калі бабы на полі церабілі калгасны лён, яе зацягнула ў механічную церабілку. Працягнула на транспарцёры ... і выкінула на другім баку. Усё павырывала, паламала. Выратавала яе толькі моцнае, на той час, сэрца.

## Авансцэна

Кіно ў маім дзяцінстве (нармальнае, а не з другога боку экрана) можна было паглядзець толькі ў хаце-чытальні ці калі-некалі ў школе. У невялікі пакой (квадратаў на дваццаць) набівалася амаль ўся вёска. Месцаў усім не хапала, і час ад часу кінапраектар выстаўлялі ў вакно, і тады фільм глядзелі на вуліцы, папярэдне прадаўшы максімальна мажлівую колькасьць квіточкаў. Экран вешалі на бліжэйшым слупу.

Гэта была ўлюблёнасць да вар'яцтва. За што я пастаянна і «атрымліваў» ад бацькі, і... ад настаўнікаў, бо кіно «перашкаджала» вучобе. Лупілі нас бязбожна.



У 14 гадоў, мне здаецца, я ведаў усіх артыстаў таго часу, якія толькі з'яўляліся на стахаўскім экране. Самым любімым фільмам быў «Родная кроў», з Яўгенам Мацвеявым і Віяй Артмане. Мацвеяву я нават напісаў ліст. Адрасу, канешне, не ведаў, таму напісаў так: « Масква. Масфільм. Яўгену Мацвеяву».

Пазней, на адным з маскоўскіх (СССРаўскіх) тэатральных з'ездаў, Лёша Дудараў, седзячы ў прэзідыуме, расказаў гэтую гісторыю Віі Артмане. У перапынку яна знайшла мяне, прыціснула да сябе і нават заплакала.

Пасля «сямігодкі» паехаў пастулаць у аўтатрактарны тэхнікум, які знаходзіўся каля Трактарнага завода. Чаму такі выбар? З чыста прагматычных падыходаў. Кіно — недасягальна-абстрактная мара, а тут — канкрэтная прафесія. Кіно было нават не марай. Гэта нешта Боскае.

Аднак па «рускай мове» атрымаў «двойку» і прыйшлося вяртацца дамоў. У гэты ж час наша школа стала «васьмігодкай». Стаў там вучыцца, а праз год паспрабаваў паступіць зноў. На гэты раз абраў архітэктурна-будаўнічы тэхнікум.

Хаця профіль тут быў іншы, але з яго выйшла шмат творчых людзей. Напрыклад, Валодзя Скараход кіраваў там эстрадным аркестрам, а потым нават быў намеснікам міністра культуры. Во як!.

Нягледзячы на тое, што ўсе «тэхнічныя дысцыпліны» былі, мякка кажучы, «не мае», праз чатыры гады атрымаў дыплом.

Дарэчы, пра захапленне маё там ведалі (адкуль?) і часцяком, па-сяброўску «разводзілі». Звычайна было так. Нехта падыходзіў і казаў: «Маз (мянушка падчас вучобы — заўвага аўтара), там-та і там здымаюць кіно». Гэтага было дастаткова, каб я тут жа збег з заняткаў. Розыгрыш выкрываўся ў згаданым месцы.

На чацвёртым курсе тэхнікума паспрабаваў паступіць у тэатральна-мастацкі інстытут. Дзіцячая мара стаць акцёрам, раз-пораз працінала маю душу і скіроўвала ўсю маю волю ў адзіным напрамку.

Зразумела, атэстата аб сярэдняй адукацыі ў мяне яшчэ не было, але прыёмная камісія паверыла ў «прынясу потым» і дазволіла прайсці некалькі тураў. Пакуль не выкрыўся падман.

Усе, хто хадзіў па тамтэйшых калідорах (нават прыбіральшчыцы), былі для мяне «небожителями». Глядзеў на іх з нейкім піетэтам, незвычайным захапленнем. Адзін раз ледзь не страціў прытомнасць.

Натуральна «паплыў», і толькі халодная калона дапамагла маёй скроні ўтрымацца на нагах.

Пазней самастойна асвоіў усю кінематаграфічную апаратуру, бо быў згодны нават на аператарства.

А на трэцім курсе вучобы ў тэхнікуме пайшоў у тэатр-студыю пры Палацы прафсаюзаў, дзе тады кіраваў нехта Кузьма Кулакоў. Магу сказаць і сёння, што там быў даволі высокі прафесійны ўзровень. Да гэтага часу бывае сустрэну і Гену Сінякова, і Колю Аўдзея, Славіка... забываць стаў прозьвішчы. А з Мішам Лур'е, які на сёння атабарыўся ў Ізраілі, правучыўся побач яшчэ і ў інстытуце.

Іграў некалькі роляў, але ставіўся да гэтага вельмі крытычна. Глядзеў у люстэрка і думаў: «Ну, які з мяне артыст? Іншыя значна прыгажэй і больш таленавітыя». Відаць, з гэтым ...беларускім самаедствам мне накавана прайсці да канца жыцця.

Потым была вайсковая служба. «Забралі» мяне адразу пасля Новага года — 4 студзеня 1966 года. Служыў у авіяцыі. Спачатку ў Ніжнім Удзенску, што недалёка каля Байкала. Пяць сутак цягнікм ад Масквы.

Чатыры месяцы вучыўся ў «ШМАСе», дакладней у «Школе малодшых авіяспецыялістаў». А потым у «цяплушках» прывезлі ў Ніжні Валачок, дзе вучоба працягвалася яшчэ сем месяцаў. Атрымаў кваліфікацыю радыёмайстра, хаця гэта было абсалютна «не маім». Размеркавалі ў Хабараўск, дзе на аэрадроме «цягнуў лямку» яшчэ тры гады.

Менавіта ў гэты час была «пэратурбацыя» з тэрмінамі вайсковай службы. Пераходзілі на «два гады», а ўрэшце некаторым прышлося служыць нават чатыры, а іншыя і па 8-9 месяцаў — вечны расейскі бардак.

## П'еса

Пасля звальнення ў запас вярнуўся дамоў, але ў роднай вёсцы прабыў толькі некалькі дзён. Зноў прыехаў у Мінск. На «Беларусьфільме» была вакансія ў цэху дэкарытаўна-мастацкай службы. Мяне туды ўзялі і «паклалі» аклад у 160 рублёў.

Пакуль не было адпаведнай пасады (дыплом тэхнікума ўсё ж такі) на адзін месяц накіравалі на піларааму. Кіраваў там нейкі дзядок, якому я купляў бутэльку «чарнілаў», а сам збягаў глядзець, як здымаюць кіно. Гэта для мяне, паўтаруся, было самым галоўным.



Аднойчы выпадкова пачуў пра тое, што ў тэатральна-мастацкім інстытуце (зараз акадэмія — заўвага аўтара) хутчэй за ўсё будзе недабор. Ізноў мая душа сцялася ў аняменні. Гэта паказалася шансам, хоць адпаведных гуманітарных ведаў у мяне, на жаль, не было. Яны абмежаваліся васьмю класамі школьнай адукацыі — у тэхнікуме дамінавалі «дакладныя дысцыпліны». Быў упэўнены, што не паступлю, але...

Вырашыў ізноў паспрабаваць. Падаў дакументы на акцёрскі факультэт. Аднак за некалькі дзён да ded line, прыйшоў забіраць іх назад. Сумленне «заела» — нічога не ведаеш і некуды лезеш. Падумаў, пройдзе год, падвучуся, начытаюся таго-сяго і буду паступаць па-новай, а цяпер — поўнае нахабства.

Гэтыя аргументы я і прывёў сакратарцы прыёмнай камісіі. А яна...Эма Міхайлаўна параіла ў такім выпадку...»перайсці на рэжысуру», дзе будзе вельмі малы набор. Але ж пераканала не гэта, а — «Вы ж будзеце начальнікам. Пажадаеце, возьмеце для сябе любую ролю».

Жалезная логіка...

Перапісаў заяву і паведаміў аб паступленні на рабоце. Там ахнулі, бо хацелі зрабіць начальнікам аднаго з цэхаў.

Не буду пераказваць усе абставіны той «абітуры». Скажу коратка — паступіў. І адразу ж паехаў у Вялікае Стахава. Трэба было параіцца з роднымі і, перш за ўсё, з бацькамі — студэнцкая стыпендыя амаль у дзесяць разоў менш тых грошай, што атрымліваў на «Беларусьфільме».

Шчыра кажучы, я спадзяваўся, што на сямейнай радзе мне параяць не ісці «на артыста», аднак выйшла наадварот. Гэткія ў мяне сёстры!

Амаль увесь першы курс вагаўся наконт правільнасці зробленага выбару: даваўся ў знакі недахоп ведаў. Нават хацеў сысці з інстытута, але адмовіўся ад гэтай ідэі пасля аднаго выпаду.

Наш курс рэжысёраў вёў вядомы Уладзімір Андрэевіч Маланкін. Чарговым заданнем было знайсці самае сваё любімае апавяданне. Для маіх сяброў ніякіх цяжкасцей тут не было, а для мяне — сапраўдная праблема... Што не прачытаю, усё не падабаецца. Душа не адгукаецца, маўчыць. І тут не падманеш, шпаргалку не выцягнеш.

Аднойчы, у поўным адчаі, зайшоў у бібліятэку, якая тады была там, дзе зараз «Акадэмкніга». Не гледзячы, выцягнуў нейкую кні-

жачку. Было гэта ў 11 раніцы, а ў 8 гадзін вечара мне кажуць: мы зачыняемся. Я сядзеў у кутку каля батарэі і плакаў. Галава гудзела, мяне трэсла. Гэта была невялічкая кніжачка «Там вдали» Васілія Шукшына.

Калі кажуць «Сезам, адчыніся!», то гэта быў менавіта такі момант. Я адчуў сябе ... рэжысёрам. Тут, каля паліц з кнігамі, раптам зразумеў, што патрэбна маёй душы. Гэтая кніжка павінна быць толькі маёй і схаваў яе далей ад людскога вока. На наступны дзень я яе банальна скраў. У каго цяпер прасіць прабачэння за той грэх?

Шукшын стаў своеасаблівым каталізатарам.

Адразу захацелася рэпеціраваць. Ролі ў нашых пастаноўках выконвалі студэнты акцёрскага факультэта. Я іх літаральна змучыў.

Будучыя рэжысёры ледзь не біліся за тое, што не маглі падзяліць адпаведны час.

К канцу трэцяга курса ў мяне было ўжо тры спектаклі. Першы называўся, здаецца, «Характары». Я спалучыў тры апавяданні Шукшына і чэхаўскі «Стэп». Фантастыка!!!

Я першым у свеце паставіў на тэатральнай сцэне Васіля Быкава. «Круглянскі мост» (пастаноўка ў Раеўскага была пазней), потым п'есу Леанарда Франка «Прычына» — сапраўдны «сюр». Цікава і загадкава.

На чацвёртым курсе на дыпломную практыку паехаў у Віцебск у абласны драматычны тэатр імя Якуба Коласа. Адзін з лепшых у краіне.

Тагачасны (светлай памяці) дырэктар ,Геральд Баляслававіч Асвяцінскі, сустрэў ветліва і прыязна. Ён з асаблівай любоўю ставіўся да ўсяго беларускага (хоць і таіў гэта глыбока ў сабе), на чым мы потым вельмі цесна сышліся. У 1974 годзе Віцебск святкаваў сваё тысячагоддзе, і ён загадаў (менавіта!) мне да гэтай даты паставіць « Званы Віцебска», адну з п'есаў Караткевіча, які тады толькі-толькі набіраў папулярнасць. Гэта быў пачатак майго ўсведамлення як беларуса, як ліцвіна... чалавека, які жыў пакуль толькі нейкай падсвядомасцю.

Так мы пазнаёміліся з Уладзімірам Сямёнавічам Караткевічам.

Натуральна, што і размеркаваўся я таксама туды, і прапрацаваў у коласаўскім тэатры яшчэ 16 гадоў. З іх, дарэчы, 13 — галоўным рэжысёрам.



Колькі за гэтыя часы было зроблена п'есаў, падлічыць складана. За творам Караткевіча пайшоў яго ж «Кастусь Каліноўскі», потым «Сымон-музыка» Коласа, п'есы Дударава, Цендракова, Вампілава і г.д. Для мяне было вельмі важна зрабіць нацыянальны тэатр не па назве, а па сутнасці.

Дарослы савецкі тэатр заўсёды рабіў, як бы «ў нагрузку», спектаклі для дзяцей. Узнікла ідэя набраць трупу лялечнікаў. Потым з Асвяцінскім мы вырашылі стварыць самастойны лялечны тэатр. Спачатку «пры», а потым адпусцілі ў «вольнае плаванне». І рэжысёра сабе адшукалі, Віктара Клімчука, які матляўся па Украіне, а «дома» месца не знайшоў. І назву тэатру прыдумаў я — «Лялька». Спадзяюся, нават пры гэтай уладзе яе не «переименуют» у «куклу».

Да нашага часу ён адзіны ў краіне беларускамоўны лялечны тэатр.

### Антракт

Пачыналася перабудова, якая для многіх азначала пачатак нацыянальнага адраджэння. У Віцебску адбываліся першыя дэманстрацыі. Памятую, як з белых і чырвоных мыльніц я клеіў з малымі сынамі бел-чырвона-белыя значкі і мы ганарліва хадзілі з імі па горадзе.

У 1990 годзе «сышоў» з коласаўскага тэатра і перабраўся ў сталіцу. Па прапанове міністэрства культуры паставіў у Купалаўскім тэатры адну з п'есаў Кандрата Крапівы. Пратрымаўся на пасадзе рэжысёра толькі год.

Хацелася зрабіць нешта сваё. Звярнуўся з ідэяй да міністра культуры, балазе свой, зямляк. Яўген Вайтовіч пайшоў насустрач. Так пры Купалаўскім тэатры была афіцыйна створана «Лабараторыя беларускай драматургіі». Паставілі тры спектаклі, а потым адбылося і фармальнае аддзяленне. З 1991 года — тэатр «Вольная сцэна». Назва зноў жа не афіцыйная, а народная, так бы мовіць, але вось прыжылася і, спадзяюся, застанецца ў гісторыі.

На пасадзе дырэктара працаваў восем гадоў. Шэсць гадоў пры «новай уладзе».

Не скажу, што наш тэатр ператварыўся ў гняздо апазіцыі, але там была пэўная... беларускамоўная атмасфера. Ды і думалася там пра сваё... нацыянальнае. Да нас нават «на пасядзелкі», пасля сваіх спектакляў, прыходзілі артысты-купалаўцы, з «маладзёжкі», іншых

тэатраў. А аднойчы пад вокны прыйшла цэлая дэманстрацыя, якую не пусцілі Плошчу Незалежнасці, і перад тэатрам адбыўся сапраўдны апазіцыйны мітынг.

Зразумела, «новай уладзе» гэта спадабацца не магло па вызначэнню. Тагачасны міністр культуры Сасноўскі мне аднойчы сказаў: «Нам не нужна здесь еще одна Таганка...»

Вельмі салідны камплімент.

Апошняй кропляй была пастаноўка п'есы Бертольда Брэхта «Кар'ера Артура Уі». Зроблена гэта было спецыяльна да чарговага З'езду беларусаў Свету. «Зверху» настойліва прасілі яго «зняць», аднак я «ўпёрся».

У тэатры сумяшчаў дзве пасады — дырэктара і мастацкага кіраўніка. З першай мяне (чаго і трэба было чакаць) звольнілі амаль адразу ж. А другую заняў чалавек, якога нават не хачу ўзгадваць, бо так ужо сталася, што ён для мяне больш не існуе. Скажу толькі, што глыбіня чалавечай подласці іншы раз, сапраўды, не мае межаў...

Звальненне адбылося ў 2000 годзе. Пасля гэтага я яшчэ шэсць гадоў выкладаў ва Універсітэце культуры, але «дабраліся» да мяне і там. Звольнілі за два гады да пенсіі. Як беспрацоўны я стаў на ўлік на біржы працы, дзе работу «па спецыяльнасці» спачатку абяцалі знайсці вельмі хутка, але праз некалькі тыдняў яны ўжо «хавалі вочы», бо я атрымаў пажыццёвы «воўчы» білет.

Год безвыніковых пошукаў дазволіў датэрмінавана аформіць мяне на так званую «сацыяльную пенсію». Грошы такія мізэрныя, што і называць сорамна. Пражыць на іх было немагчыма, ды і трэба было за нешта ўхапіцца, каб...не звар'яцець, таму я ўладкаваўся да аднаго турэцкага бізнесмена. Адначасова працаваў і дворнікам, і ахоўнікам.

Нехта са знаёмых узгадаў, што за звання Лаўрэата Дзяржаўнай прэміі і Заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі можна атрымаць дабаўку да пенсіі. Я паехаў у адпаведную кантору, якая знаходзілася на сталічнай вуліцы імя расейскага паэта Маякоўскага. Не буду пераказваць увесь маразм, які там убачыў. Нагадаю толькі два пункты з іх анкеты, якую я мусіў там скласці: «Якія вы маеце спагнанні па партыйнай лініі?» і «Ці маеце вы сваякоў за мяжой?»

І гэта на пачатку XXI стагоддзя... Я нават спытаўся: чыталі гэтую анкету тамтэйшыя чыноўнікі альбо не?..



Пасля прэзідэнцкіх выбараў 2006 года ўпершыню ў сваім жыцці трапіў за краты. З сябрам Валодзем Кішкурнам мы вярнуліся да мяне дамоў, нарэзалі сала, хлеба, налілі ў тэрмас гарбаты і ізноў пайшлі на Кастрычніцкую плошчу, дзе ўжо стаяў намётавы гарадок. Каля будынку кансерваторыі спынілі амапаўцы (тры бугаі) і, даведаўшыся, што ў нашых торбах, сказалі: «Даже не пытайтесь сопротивляться!»

... У камеры на Акрэсціна нас было 14 чалавек. Самыя «старыя» — журналіст Мікалай Мікалаевіч Тоўсцік, палітык Анатоль Лябедзька і я. Астатнія — моладзь. Усе — годныя, прыгожыя, адукаваныя, смелыя, разумныя людзі. Сапраўднае брацтва.

І ўвогуле. У маім жыцці гэтыя дні былі аднымі з самых шчаслівых, бо я зразумеў, што ў нас ёсць шанец на пэўныя перамены і яны абавязкова адбудуцца.

Па маёй просьбе сын Васіль прынёс 16 раздрукоўвак горкаўскай п'есы «На дне» — па колькасці роляў. Цалкам лагічны выбар, бо нічога іншага да тых абставін не падыходзіць. Уяўляю, у якой разгубленасці было тамтэйшае акрэсцінскае кіраўніцтва...

Дарэчы, у мяне вельмі надзейны «тыл».

З жонкай Людмілай мы пазнаёміліся ў мой першы адпачынак, пасля набыцця мной статусу галоўнага рэжысёра, калі яна працавала медсястрой у санаторыі «Беларусь», што ў Місхоры. Цудоўны чалавек. І два нашых сыны — Васіль і Яўген — таксама цудоўныя хлопцы.

Вядома, што восем роляў у горкаўскай «На дне» — жаночыя, таму ад іх выканання ўсе вязні адмовіліся адразу, бо ў турэмных варунках тут ёсць пэўны падтэкст. Мне прыйшлося іх пераконваць, што яшчэ ў шэкспіраўскім тэатры ўсе жаночыя ролі гралі мужчыны.

Канешне, гэта рэч вельмі ўмоўная, але, калі ўзнікла легенда, што мы паставілі на Акрэсціна п'есу «На дне», я не стаў нікога пераконваць. Мае сукамернікі сапраўды так хацелі і вельмі шчыра да гэтага імкнуліся.

Час ляціць цяпер больш імкліва, чым раней. І, аглядаючыся назад, прыходзіш да думкі, што толькі вялікая, моцная мара, якая здольная захапіць усю тваю душу — абавязкова здзейсніцца! Толькі вось ... трэба ўпарта шукаць тыя дзверцы Сезама і не здавацца.



# АДАМ МАЛЬДЗІС

**Падрыхтавана да друку 10.08.13**

*У дзяцінстве Адам Мальдзіс, акрамя журналістыкі, захапляўся і астраноміяй, вагаўся, які жыццёвы шлях выбраць. Бацька параіў першае, хаця і не падазраваў. што на гэтым шляху яго сын некалі дасягне зорак ледзь не першай велічыні.*

## Пра іншых

**Да майго прыходу Адам Мальдзіс падрыхтаваўся даволі грунтоўна. Каб не губляць часу на расказванні, раздрукаваў некалькі тэкстаў пра свае біяграфічныя звесткі, а размову параіў пачаць з тых клопатаў, якімі жыве ў дадзены момант. Ведаючы, што ён адзін з аўтарытэтаў нашай прафесіі, я так і зрабіў. Аднак адразу сам Мальдзіс быў вымушаны адвабіцца на вырашэнне штодзённых спраў і патлумачыў:**

Нашай супрацоўніцы якраз трэба ўдакладніць некаторыя дэталі. Не можам прыстойна аформіць бланк Ганаровага пасведчання пра намінацыю на званне «Гаспадыня-беларусачка»...

А пачалося ўсё так. У наша Міністэрства культуры прыйшоў ліст ад адной жанчыны-рэжысёркі, якая выказала сваю нязгоду з тым, што на папулярных конкурсах прыгажосці журы глядзіць толькі на ножкі альбо грудкі. А трэба перш за ўсё зважаць на галоўку жанчыны — у сэнсе прысутнасці там розуму, кемлівасці. Рэжысёрка пыталася: «А ці не прыдумаеце Вы нешта падобнае ў піку розным «міскам»?»

Ліст па інстанцыях пераадрасавалі мне. Я ж узгадаў, што ў нашым музеі «Беларусы ў свеце» ёсць карціна мастака Пётры Міравовіча, які жыў да вайны ў латышскай Латгаліі, а потым пераехаў у Злучаныя Штаты Амерыкі. Называецца партрэт «Беларусачка». І мне падумалася, што гэта можа быць брэндам новага конкурсу, спаборніцтва добрых гаспадынек. А адпавядаць яны павінны наступным крытэрыям: а) разумная, б) беларуска, в) добрая гаспадыня, маці, г) актыўная ў грамадскім жыцці і д) прывабная. Галасаваць жа за яе будуць не на нейкім шоу, а на зборы таго калектыву, дзе жанчына ці дзяўчына працуе... Першыя выбары, дарэчы, ужо адбыліся. «Гаспадыні-беларусачкі» ўжо ёсць у Мінску, Вільнюсе, Іркуцку, Тальяці, Кішынёве і нават у Ліёне (Францыя), дзе цяпер жыве, таму што выйшла туды замуж, вядомая наша габеленшчыца Вольга Дзёмкіна.

Аднак пяройдзем да маіх асноўных спраў. Цяпер я працую ў аддзеле міжнароднай і соцыякультурнай дзейнасці Інстытута культуры Беларусі, які падпарадкоўваецца Міністэрству культуры. Таму мае клопаты носяць не толькі навуковы, але і інфармацыйна-арганізацыйны характар.

Пачнём з нашых суайчыннікаў за мяжой. Лічыцца, што цяпер беларуская дыяспара налічвае ад двух з паловай да трох з паловай мільёнаў асоб. Мая суседка па пакоі Ірына Лемцюгова якраз рыхтуе даведнік пра нашы суполкі за мяжой. Іх неверагодна шмат, і раскіданы яны па ўсім свеце.На жаль, ніхто пра іх не мае дакладнай інфармацыі. Мабыць, частковая статыстыка ёсць толькі ў нейкіх структурах улады (і то абмяжоўваецца пераважна памежнымі краінамі). Даступнага даведніка пра гэта няма. І таму чалавек, які, скажам, жыве ў Мінску ці Саратаве, не ведае, ці ёсць яго суайчыннікі ў Валгаградзе, куды ён якраз збіраецца паехаць па справах. А ў даведнік паглядзіць — і там знойдзе сціслую інфармацыю: адрасы, прозвішчы, кантактныя тэлефоны, а галоўнае, накірункі дзейнасці.

Дык вось, цяпер выконваю функцыю навуковага рэдактара названага даведніка... Пераканаўся, што толькі ў Федэрацыі грамадска-культурных аўтаномій «Беларусы ў Расіі» можна налічыць у самых розных гарадах 49 суполак. Асабліва плённа працуюць яны ў сібірскіх абласцях, і таму ёсць лагічнае тлумачэнне: у колішнія Томскую, Навасібірскую, Цюменскую, Іркуцкую губерніі беларусы масава перасяляліся падчас сталыпінскай аграрнай рэформы. Часам у людзей амаль не аказалася ніякіх камунікацый, бо суседнія вёскі аддзялялі сотні кіламетраў. Таму там захавалася чыстая беларуская мова, даўнія этнічныя абрады. І як прыехалі туды цэлымі вёскамі,

так і жывуць сёння імі ў тайзе. І мовы сваёй не забылі, і абрады продкаў памятаюць. І пішуць адтуль у газету «Голас Радзімы», да якой я таксама маю непасрэднае дачыненне.

Добра таксама працуе аўтаномія і ў Пецярбурзе. Называецца яна «Белыя росы».

Або ў той жа перадалімпійскі Сочы едзе адпачываць шмат беларусаў, і практычна ніхто з іх не ведае, што там ёсць нашы суродзічы, чыя суполка даволі актыўна дзейнічае.

Словам, даведнік такі вельмі патрэбны. Адсюль і мой клопат на гэты конт. На жаль, не ўсё тут ідзе так лёгка, як бы таго хацелася: да прыкладу, звесткі даводзіцца не толькі знаходзіць, але і абнаўляць...

Іншая, не менш актуальная і працаёмкая мая сённяшняя справа — стварэнне базы звестак (а потым сайта і партала) «Беларускае замежжа», дзе асноўным будзе раздзел пра нашы дыяспары (па краінах, гарадах) і іх найбольш выдатных прадстаўнікоў. І пра культурныя сувязі, дыялогі паміж імі, радзімай.

Далей. За межамі Беларусі сёння знаходзіцца шмат (лічыцца, што дзесьці да 90 працэнтаў) скарбаў нашай матэрыяльнай і духоўнай культуры. Беларусь мае юрыдычнае ці хаця б маральнае права многія з іх вярнуць. Найперш, гаворка ідзе пра страты ваенных часоў. Многае тады было вывезена насуперак волі беларусаў і знаходзіцца ў замежных музеях, бібліятэках, архівах. Усё гэта трэба выявіць, апісаць і, калі не ўдасца вярнуць, то хаця б сумесна выкарыстаць — у выставах, публікацыях. Лагічна таксама нешта абмяняць (асабліва з Расіяй, Украінай, Польшчай), але гэта ўжо залежыць ад добрай волі старых і новых уладальнікаў.

Вядома, на ніве рэстытуцыі — выяўлення, вяртання і сумеснага выкарыстання помнікаў нашай культуры — многае ўжо зроблена, апублікавана. Але ўсё трэба максімальна сістэматызаваць на сайце, а потым у трох каталогах (па музеях, бібліятэках, архівах), каб кожны зацікаўлены мог даведацца, што яшчэ захавалася і дзе знаходзіцца.

Акрамя гэтага ў нас рыхтуецца да друку энцыклапедычны даведнік «Сузор'е беларускага памежжа» з падзагалоўкам «Беларусы і ўраджэнцы Беларусі ў суседніх краінах». Думаю, наяўнасць слова «ўраджэнцы» тут зразумела, таму што сярод персаналіяў ёсць не толькі этнічныя беларусы, але і рускія, габрэі, татары, палякі, літоўцы і г.д. Хто толькі не нарадзіўся на нашай зямлі...



Галоўная мэта даведніка — паказаць, як наша донарская кроў памагала культурам іншых краін і народаў — ад Ціхага акіяна да Балтыкі...

Лагічным працягам гэтай кнігі павінна стаць наступая — «Беларусы і ўраджэнцы Беларусі ў далёкім замежжы». Але тут ужо будзе іншы «кантынгент», іншыя крытэрыі. Калі ў першай мы разглядаем таксама карэннае беларускае насельніцтва, якое жыве, напрыклад, на Беласточчыне, у Віленскім краі, на Смаленшчыне або ў Латгаліі, а большасць з «герояў» апынуліся ў суседніх краінах таму, што беларускія землі раней уваходзілі ў склад супольных дзяржаў (Рэч Паспалітая, Расійская імперыя, Савецкі Саюз), то ў другім даведніку гаворка пойдзе ўжо ў асноўным пра эміграцыю. А яна вельмі розная — і працоўная, і палітычная, і сямейная, і «арыстакратычная». Ды ў кожнай з груп — па некалькі зусім розных хваляў... За гэтую кнігу ўжо цяжэй узяцца, бо ў эміграцыі шмат асоб са складанай біяграфіяй. Маюцца на ўвазе тыя іх учынкі, якія рознымі коламі ацэньваліся і ацэньваюцца неадназначна. І, тым не меней, тут трэба, абапіраючыся на факты, імкнуцца да аб'ектыўнасці. Я маю на ўвазе Наталлю Арсенневу ці нават Радаслава Астроўскага. Гэта ж нелагічна: Гітлер у энцыклапедычных даведніках ёсць, а яго беларускіх памагатых у другой частцы даведніка не будзе... Выходзіць, беларусы — ідэальная нацыя, не менш «чыстая», чым арыйцы.

Для прыкладу таго, наколькі пакручаста складваліся лёсы людзей, якія засталіся на радзіме ў часы нацысцкай акупацыі, спынюся хаця б на двух жыццяпісах.

Першы — малодшага брата Якуба Коласа Міхася, якога больш ведаюць па псеўданіму Антось Галіна і які памёр у ЗША. Падчас вайны ён жыў на роднай Стаўбцоўшчыне. Там працавалі пачатковыя беларускія школы, для іх патрэбны былі настаўнікі. Потым Міхась стаў школьным інспектарам. Калі ў 1944 годзе набліжалася вызваленне, яму людзі гаварылі: «Бальшавікі не паглядзяць, што твой брат народны пісьменнік. Паедзеш «на белыя мядзведзі». Міхась доўга вагаўся, думаў: эміграваць ці не? І вось яму прысніўся сон: стаіць высокае дрэва, на вяршыні яго галава Сталіна, якая ківаецца ў залежнасці ад накірунку моцных вятроў то на ўсход, то на захад. Апошні ківок быў на захад. Міхась палічыў гэта прадвызначэннем і паехаў — спачатку ў Чэхаславакію, дзе працаваў дрывасекам, потым былі Германія і Злучаныя Штаты Амерыкі, дзе выкладаў у ня-

дзельнай школцы і перакладаў «святыя» тэксты. Нідзе не займаўся палітыкай. Але ў Беларусі мы, у Інстытуце літаратуры Акадэміі навук, пра яго анічагутка не ведалі. Даведаўся выпадкова ад родзіча. І ў 1990 годзе, калі я быў у ЗША на сесіі Генеральнай асамблеі ААН, хацеў яго наведаць, але мне сказалі, што гэта ўжо вельмі хворы чалавек...

Другі жыццяпіс — Барыс Кіт, які сёння ўсё яшчэ жыве ў Франкфурце-на-Майне. Сусветна вядомы вучоны, акадэмік астранаўтыкі. Але ж у час акупацыі ён ўзначальваў у Маладзечне прамыслова-гандлёвую школу (яна, дарэчы, ратавала моладзь ад вывазу моладзі ў Германію), а потым ствараў паліва для ракет амерыканскіх...

Некалькі гадоў таму я быў яго госцем, разам вырашалі розныя справы. Ездзілі ў маленькі гарадок Ляймен, дзе адзін беларус, малавядомы літаратар і выдавец Попка (Жук), стварыў у сваёй трохпакаёвай кватэры беларускі гісторыка-этнаграфічны музей і завяшчаў яго пасля смерці гораду. Мы прапаноўвалі бургамістру (прозвішча яго, помніцца, Эрбар) зрабіць там асяродак беларускай культуры — тым больш, што Ляймен сябраваў з Навагрудкам. Гэтым зацікавіліся ў беларускім пасольстве ў Боне, куды мы ездзілі таксама з акадэмікам. Ён сядзеў за рулём і, нягледзячы на легендарны (цяпер — 104 гады!) узрост, быў бадзёры і энергічны. Мяне хіліла на сон, а ён — хоць бы што. Вось гэта Беларус!!!

І такіх ці падобных суайчыннікаў, супляменнікаў у базе звестак, сабранай у нашым інстытуце, — сотні і сотні. Каля 1550 асоб увойдзе ў «Сузор'е беларускага памежжа», на якое ў мяне пайшло звыш дзесяці гадоў жыцця. Там ёсць і лаўрэат Нобелеўскай прэміі Жарэс Алфёраў, і вядомы авіяканструктар Павел Сухі, і легендарны дыпламат Андрэй Грамыка. Не маглі мы не ўспомніць таксама «хрыбет Чэрскага» (а яго адкрывальнік нарадзіўся ў Дрысе, сучасным Верхнядзвінску), ці Эдуарда Пякарскага, які памог якутам стварыць сваю пісьменнасць (з-над Бярэзіны), ці, па сутнасці, першага даследчыка возера Байкал Бенедыкта Дыбоўскага (з Міншчыны). Альбо нагадаю нашага Аляксандра Пальмбаха, які дапамагаў адраджэнню тувінцаў. Без іх і ім падобных сённяшняя культура і прырода Сібіры былі б іншымі, бяднейшымі. Словам, нам ёсць кім і чым ганарыцца. І гэтае пачуццё дапамагае нам вылечыцца ці не ад галоўнай беларускай хваробы — самапрыніжэння, комплексу



непаўнавартаснасці. Маўляў, у нас раней не было нічога вартага. Толькі «каўтун у галаве» ды лапці, хіба яшчэ казкі, фальклор. Іншая справа — усе суседзі, усе еўрапейцы.

Каб закончыць размову пра ўраджэнцаў зямлі беларускай, наш нацыянальны гонар, прывяду яшчэ адну гераічную, трохі дэтэктыўную і амаль забытую жыццёвую гісторыю — пра Зыгмунта Мінэйку, нацыянальнага героя Грэцыі. Родам ён з цяперашняга Ашмянскага раёна, а вёска, дакладней маёнтак, дзе ён нарадзіўся, ранейшыя Балванішкі, была перайначана ў Зялёны Бор, бо якія ж балваны маглі жыць там пры савецкай уладзе... І вось адзін з нашчадкаў вучонага, падарожніка і паўстанца 1863 года, які змог з Сібіры ўцячы праз Пецярбург у Францыю, а потым на Балканы, прэм'ер-міністр Элады Папандрэу, захацеў прыехаць на радзіму дзеда. Аднак Масква адмовіла высокаму госцю з матывацыяй, што вёскі пад назвай Балванішкі ў раёне і ў Беларусі няма. Можа, яна дзе ў Польшчы ці Літве... Дарэчы, той жа Мінэйка ў 1896 годзе праектаваў, будучы яшчэ і інжынерам, першы алімпійскі стадыён.

Адкуль я ўсё гэта ведаю? Ды з успамінаў Мінэйкі, якія нядаўна былі перакладзены на беларускую мову і цяпер чакаюць свайго выдання. Фінансаваць яго могуць грэкі, якіх нямала жыве і працуе ў Маладзечне.

У свой час я першым у Беларусі напісаў нарыс пра Мінэйку, амаль пра свайго земляка, бо яго Ашмяншчына мяжуе з маёй Астравеччынай. Дарэчы, гэты нарыс («Ашмянскі інсургент, сібірскі катаржнік, ганаровы грамадзянін Грэцыі») увайшоў у маю кніжку «Суайчыннікі». Карэктуру яе я якраз чытаю. Павінна кніга выйсці да канца года ў Выдавецкім доме «Звязда».

Магчыма, «Суайчыннікі» будуць маёй 21-й арыгінальнай кніжкай. Падлічыць усё, з улікам перавыданняў і перакладаў, даволі цяжка. З пэўным шкадаваннем хачу сказаць, што ў апошнія гады ў мяне амаль увесь час займае рэдагаванне чужых прац.

Таму ўжо гадоў з дваццаць безвынікова мару, каб пераехаць на родную Астравеччыну, «адвязацца» ад усяго іншага і пісаць толькі сваё. Распачатыя ляжаць чатыры кніжкі.

### Пра сябе

**Да сказанага можна дадаць, што, калі верыць прынесеным на нашу сустрэчу друкаваным біяграфіям і бібліяграфіям, акра-**

**мя двух дзясяткаў кніг, Адамам Мальдзісам надрукавана каля чатырохсот навуковых даследаванняў і публіцыстычных артыкулаў, напісана некалькі сцэнарыяў дакументальных фільмаў, а сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў ён з'яўляецца з 1967 года.**

Працяг распачатай гаворкі павінен быў пачацца з дня народзінаў прафесара Адама Мальдзіса — 7 жніўня 1932 года, аднак сам Адам Восіпавіч успомніў больш даўнія часы:

Мае продкі па бацьку мелі безумоўна літоўскія карані, магчыма, нават дваранскія. У апошні час мне згадваюць, часам жартоўна, а часам і сур'ёзна, што ў Вітаўта Вялікага блазнам служыў чэшскі дваранін па прозвішчу Мальджык ці Мальджрык, які меў свой герб. Гэта дакументальна засведчана.

У той час блазны былі нечым накшталт сённяшніх міністраў замежных спраў і пад выглядам жартаў мелі мажлівасць атрымаць альбо агучыць карысную для іх гаспадароў інфармацыю. Зразумела, яны інтэграваліся ў тое грамадства, у якім жылі, жаніліся на мясцовых жанчынах. І вось для літоўцаў было цяжка вымаўляць прозвішча, дзе такі збег зычных гукаў, і яны перарабілі яго ў Мальдзіс. А гэта, як вядома, сугучна са словам малда — значыць, малітва, модлы. Не выключана, што такім чынам нашчадкі хацелі адмаліць грахі свайго продка-блазна.

А цяпер крыху вестак для тых, хто ведае Вільню. У будынку, дзе некалі быў планетарый, цяпер дзейнічае рэстаран «Мальдзіс». Значыць, падумалася мне (калі я гадоў з дзесяць таму быў у Вільні), ім, відаць, валодае нашчадак таго княжацкага блазна, што меў грошы, каб у архівах устанавіць свой радавод. Да таго ж уладальнік рэстарана павінен быў бы быць маім земляком, бо людзі з такім прозвішчам жылі раней пераважна ў суседніх з маімі Расоламі вёсках.

І вось заходжу ў рэстаран пад сваім прозвішчам, паказваю адміністратару білет сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, пытаюся, ці магу пабачыць гаспадара. Аказалася, што той якраз паехаў кудысьці ў Казахстан. Тады я папрасіў прадаць мне... меню рэстарана. Гэта было абвешчана немагчымым, а вось сурвэтку з адпаведнай бліскучай вышыўкай прозвішча мне дазволілі набыць.

Прыязджаю з той сурвэткай дамоў і кажу нябожчыцы жонцы Марыі, якая была таксама з Астравеччыны, з суседняй вёскі Палушы: «Бачыш, у мяне нечакана з'явіліся ў камандзіроўцы лішнія грошы, дык я ўзяў і купіў цэлы рэстаран. Не везці ж вялікую суму дахаты: па дарозе маглі абрабаваць». Марыя добра ведала, што я сябрую з Караткевічам, які жыў праз дом насупраць, і мы часам «перамігваліся» настольнымі лямпамі, пакуль яшчэ не было ў нас тэлефонаў. Таму адрэагавала так: «Наслухаўся розных пісьменніцкіх міфаў, прызвычаіўся фантазіраваць...» Тады я дастаў сурвэтку. А яна, падхапіўшы жартаўлівы тон, дадала: «Трэба было лепш адкрываць рэстаран тут, у Мінску...» Я ж адказаў ёй, што ў Беларусі такога заможнага Мальдзіса маглі б і адправіць, куды не трэба...»



Аднак з мінулых часоў давайце вернемся ў сённяшнія. У бліжэйшую восень я збіраюся ў Каўнас на чарговы кангрэс даследчыкаў Беларусі (у Вільню заеду, на жаль, толькі на кароткі час), буду там выступаць з дакладам «Ці варта нам дзяліць культурную спадчыну Вялікага Княства Літоўскага?». Загадзя скажу вам, што не варта і немагчыма. Я катэгарычна не згодны з тымі, хто пачынае тут нешта дзяліць. Як? У нас жа была агульная дзяржава. Ніхто нікога не заваёўваў. Я звычайна жартую, што «вінаваты» тут ва ўсім жанчыны. Літоўскія князі, якія тады былі адважнымі, але малаадукаванымі паганцамі, жаніліся з беларускімі князёўнамі, ужо праваслаўнымі і пісьменнымі. Той жа Альгерд, які ваеннымі паходамі даходзіў аж да Чорнага мора... Протабеларусы з проталітоўцамі ішлі тады побач... Ды і пад Грунвальдам не было б перамогі без яднання.

Бывае, сябры нада мной жартуюць: як «ніхто нікога не заваёўваў», калі ў адным спеве захаваліся радкі: «Ой, наехала Літва, будзе ў нас бітва. Будзем Літву біці, вольку бараніці».Але я тут жа згадваю, што пра гэтую песню мне калісьці ў Вільні сказала вядомая фальклярыстка Ванда Місявічэне: «Літву трэба пісаць з малой літары, а вольку — з вялікай. Гэта вясельная песня: прыехала дружына з маладым літоўскага паходжання і з яе трэба «выбіць» выкуп за панну маладую... Так што гэтая песня яшчэ раз пацвярджае думку, што нам няма чаго дзяліць. Ніводны гістарычны факт этнічнай (не феадальнай!) бітвы крывічоў ці дрыгавічоў, з аднаго боку, і жамойтаў ці аўкштайцаў, з другога, і не зафіксаваны.

Аднак, вернемся да асветніцкай ролі жанчын. Гэта не толькі мае высновы. Да іх жа прыйшоў літоўскі паэт і даследчык Людас Гіра, кум Янкі Купалы. Калі протабеларускія жонкі, то бок князёўны, прыязджалі «на двор» да проталітоўскіх мужоў, з імі ехалі сёстры, сяб-

роўкі, прыслуга. Многія потым выходзілі замуж за літоўскіх ваяроў. Урэшце атрымлівалася тое, што зараз называецца інтэграцыяй. Матчына старабеларуская мова праз некалькі пакаленняў стала дзяржаўнай у ВКЛ.

Дарэчы, прыблізна тое ж здарылася і са мной. Мая маці Марыя Мацвееўна Вянгроўская была родам з суседняй чыста беларускай вёскі Задворнікі. І толькі для сямейнай зручнасці яна хацела, каб я вучыўся ў недалёкай Вільні — на доктара альбо на ксяндза. Не выпала, аднак услед за маці я адчуў сябе беларусам, пацягнуўся да Мінска.

А бацькавы (Іосіфа Людвікавіча — заўвага аўтара) карані, як я ўжо казаў, узыходзяць да атачэння Вітаўта Вялікага. Патомкі таго блазна, хутчэй, былі не шляхтай, а вольнымі сялянамі, мелі шмат сваёй зямлі. След аднаго з іх захаваўся ў архівах. Як вядома, недалёка ад Гервятаў існуе вялікая літоўская энклава. У 1762 годзе ў яе ўваходзіў, валодаючы валокай зямлі, вольны селянін Крыштаф Мальдзіс...

Увогуле ў маіх родных мясцінах, на Астравеччыне, вельмі многа тапанімічных назваў літоўскага (балцкага) паходжання. Пералік іх заняў бы некалькі старонак. Вядома, ёсць і славянскія выключэнні. Адным з іх з'яўляецца назва раённага цэнтра. Яна тлумачыцца тым, што тут злучаюцца, нібы ўтвараючы востраў, тры рэчкі — Лоша, Кавалька (Кавалёўка) і Кегна. Калісьці (з 1468 года) гэта было мястэчка з касцёлам, якое належала Гаштальдам і было звязана прамым «каралеўскім» трактам з Вільняй. Летам сюды мог для работы над Першым літоўскім статутам прыязджаць Скарына. Потым заняпала. А сёння зноў адрадзілася, стала летась горадам у сувязі з павелічэннем, выкліканым будаўніцтвам па суседству Астравецкай АЭС.

На Астраўцы спынюся падрабязней, таму што там прайшлі мае школьныя гады, былі зроблены першыя літаратурныя спробы.Я памятаю яго яшчэ даваеннай вёскай, нават не цэнтрам гміны або сельсавета. У мястэчку было ўсяго 26 драўляных хат, а значнасць яму надавалі два касцёлы і дзве мураванкі. Аднак у 1940 годзе яно нечакана стала райцэнтрам. У суседнія Ашмяны тады прыехаў адзін начальнік, якому было даручана ўтварыць у складзе былога польскага павета яшчэ два раёны. Са Смаргонню ўсё атрымалася проста, таму што гэта ўжо быў значны горад, вядомы абваранкамі і колішняй мядзведжай «акадэміяй».



Другім райцэнтрам меліся стаць добраўпарадкаваныя Варняны, цэнтр гміны. Але на чыноўніка, які паехаў туды на выведкі, на дарозе праз лес напалі не то бандыты, не то ваўкі. І ён, напалоханы, рашыў перанесці райцэнтр бліжэй да чыгуначнай станцыі Гудагай. Так былое мястэчка зрабіла сваю кар'еру. Пачалася яна з таго, што сюды сталі звозіць драўляныя дамы з навакольных маёнткаў.

Калі я ў 1946 годзе трапіў у шосты клас Астравецкай дзесяцігодкі (у ранейшай, Гудагайскай школе, гэты клас скарацілі), у райцэнтры да дзвюх мураванак, млына і дома Коўзана, дабавілася трэцяя — аднапавярховы клуб. Тады я стаў пасылаць першыя маленькія допісы ў «Піянер Беларусі» і «Зорьку».

І вось аднойчы зайшла ў наш клас дырэктарка школы і строгім голасам абвясціла, што мяне чамусьці тэрмінова чакае сам адказны рэдактар раённай «Сталінскай праўды» таварыш Беркутаў. І спытала, што я такое натварыў. Я пацiснуў плячыма і сышоў з урока.

Таварыш Беркутаў, былы партызан, а потым аўтар кнігі ўспамінаў (нядаўна я быў на яго пахаванні ў Мінску), аказаўся, як бы мы сёння сказалі, кантактным чалавекам. Спакойна спытаў, чаму я пішу ў мінскія піянерскія газеты і не хачу ў раённую. Я адказаў: не ведаю пра што пісаць, бо раёнка ж — газета для дарослых. І пачуў: «Вось табе заданне. Набліжаецца Новы год. Напішы верш!» Я паспрабаваў аднеквацца, што вершаў ніколі не пісаў, але ён быў настойлівы.

Словам, мая першая сур'ёзная публікацыя — верш «Добры дзень, 47-мы!». За ім пайшлі звычайныя допісы ў раённую газету, абласную. Мяне запрасілі ў маладзечанскае літаб'яднанне, якім кіраваў Мікола Ермаловіч. Там надрукаваў яшчэ адзін верш, але неўзабаве зразумеў, што гэта не маё, і з першага курса ўніверсітэта пішу толькі прозай.

А на першы ганарар «раёнкі», памятаецца, купіў дэтэктарны прыёмнік. Ні ў каго з вёскі такога не было. Бацька і швагер дапамаглі мне правесці антэну, і па начах мы слухалі розныя «галасы» — і тыя, што глушыліся, і тыя, што не.

Менавіта тады я зразумеў, што свет неадназначны і што ў ім многа цікавага, вартага вывучэння і апісання. Мабыць, гэта і вызначыла жыццёвы выбар — журналістыка, а потым літаратуразнаўчае і мастацкае слова перамаглі астраномію. Хаця на неба і яго адвображанні глядзець люблю. І нядаўна нечакана прыйшоў да высновы,

што на змену глабалізацыі, якая пачынае мяне палохаць сваім адмаўленнем індывідуальнага, нацыянальнага, прыйдзе ці ўжо прыходзіць Касмізм. А гэта ўжо сінтэз агульнага і адметнага.

**Пералічваць усе прыступкі ўзыходжання Адама Мальдзіса, доктара філалагічных навук, прафесара, лаўрэата, ордэнаносца, няма асаблівай патрэбы па той прычыне, што яны добра вядомыя, а калі каму патрэбна, то звесткі лёгка выяўляюцца з дапамогай інтэрнэтаўскіх пашукавікоў. Я ж зрабіў акцэнт на тым, што ён, знаходзячыся ў адпачынку, расказаў мне сам. Упэўнены, гэта спадабаецца больш, чым сухая рэляцыя.**

# МІХАІЛ МАРЫНІЧ



**Падрыхтавана да друку 04. 01.2012**

*Мабыць, гэта было амаль самае працяглае інтэрв'ю ў маім жыцці. Першы раз з Міхаілам Марынічам мы сустрэліся яшчэ восенню 2009 года. Запісалі першую частку. Ён некуды спяшаўся і абяцаў завітаць яшчэ раз. Працяг размовы адбыўся толькі ў 2011 годзе. Прычына — рэзкае пагаршэнне стану здароўя. На мой погляд, гэта і ёсць адна з галоўных рысаў характару Міхаіла Марыніча — выконваць свае абяцанні, даводзіць усе справы да канца. І рабіць усё вельмі якасна.*

## На фоне вайны

У жыцці здараюцца моманты, калі чалавек пачынае пераасэнсоўваць сваё жыццё, быццам бы гартаць старонкі напісанай ужо кнігі. Гэта дае сілы і энергію чалавеку ісці па жыцці далей. Кнігу жыцця хочацца чытаць не ў адзіноце, а з нашчадкамі, але часам гэта немагчыма. Так здарылася і са мной за кратамі. Я напісаў ліст малодшаму сыну Паўлу, дзе распавёў пра сямейны радавод.

Нашы карані з маляўнічай палескай глыбінкі. Земляное балота запомнілася мне з самага дзяцінства. Зімой яно, натуральна, замярзала, што было для ўсіх вельмі добра: у розных вёсак з'яўлялася магчымасць пабачыць сваіх суседзяў і родных. Напрыклад, з нашых Старых Галоўчыцаў да Сасноўкі і Слабады, размешчаных на рацэ Арэса, 10 кіламетраў напрамкі. У іншую пару года такі маршрут быў немагчымы, фактычна яго выратоўвалі выспы. Тады рабіліся спецыяльныя дарогі-грэблі, ад выспы да выспы пракладваліся бярвенні. У такім рашэнні атрымлівалася 25-30 кіламетраў.

На нашай выспе было 15 двароў. І называлі гэта месца — Сяльцо. А мы жылі на самым ускрайку. Ад асноўнага паселішча нас адзяляла толькі маленькае балота, усяго кіламетр працягласці. Да слова, балоты пачалі асушаць у 1960 годзе.

Дрыгва і балоты адыгрывалі істотную ролю для тутэйшых і ў часы вайны. Людзі абралі балоты для схованкі ад ворага, а немцам туды паспяхова перашкаджалі дабрацца партызаны.

Калі пачалася вайна, мне было толькі паўтары гады. Таму з эпізодаў вайны памятаю толькі два.

Аднойчы немцы праводзілі нейкую карную аперацыю. Мы хаваліся ў балоце. Над галавой свісцяць кулі — ціў-ціў-ціў. І дзіцячы плач...

А яшчэ памятаю як нашы маці гатавалі ў вялікіх катлах ежу, жылі мы тады ў лесе ў зямлянках, так званых куранях. А дзеці збіралі для іх дровы. Аднойчы мне не пашанцавала — абварыўся. Шрам застаўся па гэты дзень.

Усё астатняе, што адбывалася ў часы вайны, я ведаю са слоў маці Таццяны Мікалаеўны і бацькі Апанаса Сцяпанавіча. Уся наша семья панесла страты ад вайны. Маю бабулю, то бок маміну маці, забралі ў 1941 годзе немцы на працы. Яе лёс невядомы і па гэты дзень.

Бацьку забралі на фронт у пачатку вайны. Ён ваяваў у коннай арміі. Пад Масквой іх атрад акружылі і ўзялі ў палон. Разам з сябрамі бацька збег і накіраваўся да сваіх родных мясцінаў. Ішоў па начах, а калі было святло, хаваўся ў лесе. Дабіраўся каля двух месяцаў. Першапачаткова ў дом не заходзіў, бо ў любы момант туды маглі прыйсці немцы. У студзені 1942 года ён выйшаў на сувязь з партызанамі і ў іх шэрагу змагаўся за вызваленне Беларусі. Пасля вызвалення бацьку прызвалі ў Чырвоную Армію. Пад Варшавай у 1944 годзе яго цяжка параніла.

Далей былі выключна шпіталі. Вайна ўжо скончылася, а ён прыехаў дадому толькі восенню 1946 года. Дарэчы, гэтая вайна была другая па ліку, дзе бацька быў прызваны ў войска. Зусім маладым ён ваяваў яшчэ ў фінскую вайну. Вярнуўся адтуль моцна расчараваным. Як гаворыцца, адчуў на сабе, што савецкая прапаганда цалкам не адпавядае рэчаіснасці: зіма, мароз, у салдат няма цёплых кажухоў, няма ратунку ад хваробаў, добра экіпіяваных фінскіх снайпераў.



Я быў познім дзіцёнкам у сям'і, у мяне быў яшчэ старэйшы (на 13 гадоў) брат Аляксей. Час ад часу бацька браў яго ваяваць у партызанскі рух. У адным баю з фашыстамі Лёшу моцна паранілі. Ён застаўся без правай рукі. І пісаць вучыўся левай рукой.

Пасля вайны скончыў Калінкавіцкі ветэрынарны тэхнікум. Ажаніўся. Нарадзілася дачка Тамара, але доўга яму жыць не давялося. У 1968 годзе адбылося запаленне кульці, а потым і заражэнне крыві. Своечасова да ўрачоў ён не звярнуўся і, на жаль, памёр.

Наш Капаткевіцкі (зараз Петрыкаўскі) раён вызвалілі напрыканцы 1943 года.

### На фоне вучобы

Праз некалькі гадоў пасля заканчэння вайны, дакладней у 1948 годзе, я пайшоў у школу. Спачатку школа-чатырохгодка была ў нашай вёсцы. Потым прыйшлося хадзіць за паўтара кіламетры ў Новыя Галоўчыцы, дзе школа была ўжо сямігодкавай. А скончыў вучобу я ўжо ў Навасёлках. Калі зімой мы хадзілі туды напрамкі 5-6 км, то ў абход было 13 кіламетраў. Здымалі кватэры прама там і жылі па некалькі тыдняў запар. На жаль, многім гэта было «не па кішэні» і бацькі не маглі дапамагчы сваім дзецям. Да таго ж некаторыя не разумелі, навошта гэта патрэбна ўвогуле.

Першыя гады я вучыўся не вельмі добра. Хацелася пагуляць. «Дзеці прыроды» ўсё ж такі... Жылі людзі тады так: бацькі на рабоце, а ўся гаспадарка — на дзецях. Накорміш курэй, гусей, свіней і на вучобу ўжо не застаецца часу. Да таго ж, вакол вёскі — адны балоты. Пастаянна прыходзілі ваўкі і ганяліся за хатняй жывёлай, таму трэба было заўсёды быць хуткім, сачыць, перашкаджаць. Займацца гэтым любілі і мелі магчымасць дзеці.

Не выключэннем была і нашая сям'я. Дзецям прыходзілася літаральна забіраць ад хатняй гаспадаркі час на вучобу. Тым больш, што бацька мой быў інвалідам першай групы, што не дазваляла не працаваць фізічна — сялянскае жыццё. Яго абралі старшынёй калгаса, бо ў яго было сем класаў адукацыі. Для тых часоў — вельмі сур'ёзна.

Але ж мне было цікава вучыцца, нягледзечы на ўсе цяжкасці, я хадзіў і не прапускаў заняткі. Адзіны з нямногіх скончыў сярэднюю школу.

У школе больш за ўсё падабаліся гісторыя, геаграфія і фізіка. Спалучэнне даволі незвычайнае, але, думаю, прычынай тых сімпа-

тый былі настаўнікі. Сапраўдныя прафесіяналы сваёй справы. Мы слухалі іх раскрыўшы рот.

Пасля школы былі спробы паступаць у Чарнігаўскае вышэйшае ваеннае лётнае вучылішча. Але за некалькі месяцаў да гэтага цяжка захварэў на вочы і стаць абітурыентам не змог. Да і зрок ужо быў моцна пашкоджаны. Словам — адмовілі. Але я і рады быў, што размеркаванне ваенкамата не здзейсніліся, бо ў мяне ніколі не было жадання стаць ваенным. Тым больш, што бацька жадаў, каб я паступаў у БПІІЧТ. Гэта і ажыццявілася ў будучым. Але не з першага разу.

У 1958 годзе я спрабаваў паступіць у БІІІЧТ, аднак з-за медыцынскіх патрабаванняў не змог. На гэтым імкненне атрымаць адукацыю і жаданне вучыцца далей не знікла. Вяртацца ў вёску не хацелася. Была мэта, якая прымусіла мяне быць больш рашучым.

Вырашыў пайсці ў ФЗВ (зараз ПТВ), якое спецыялізавалася на будаўніцтве. Ну і там трэба было прайсці медкамісію. Абраў хітрасць. За мяне яе прайшоў адзін з сяброў. На шчасце, ніхто гэтага не заўважыў.

А праз некаторы час я дамогся раней запланаванага: пачаў вучыцца на вячэрнім факультэту БІІІЧТ, потым перавёўся на дзённае аддзяленне Беларускага політэхнічнага інстытута (зараз універсітэт — *заўвага аўтара*) чыгуначнага транспарту, дакладней на будаўнічы факультэт. Усе экзамены і залікі БІІЧТ там залічылі без асобых праблем. Так я дамогся сваёй мэты і стаў будаўніком.

Аналізуючы дадзены этап жыцця, я ўсведамляю, што ўсе гады вучобы для мяне праходзілі не дзякуючы абставінам і шансам, а насуперак складанасцям: хваробы, цяжкае жыццё сям'і пасля вайны, адсутнасць часу для адукацыі, аддлеглае змяшчэнне школы і інстытутаў і іншае. Але была мэта — вучыцца, і я яе дасягнуў.

Праца пачалася з практыкі ў так званай Мінская мантажнай канторы (СУ 379 Трэст «Цэнтртрансмантаж»). Там і застаўся. Працадаўцы далі мне пасля заканчэння інстытута ў агульнай кватэры асобны пакой. Сёння цяжка паверыць, але раней бывала і такое. Дарэчы, я там жыў не адзін. Запрасіў да сябе сяброў. Было весела. Асабліва нашым суседзям...

Гэтая праца была маім першым кар'ерным досведам у галіне будаўніцтва. Потым пасля атрымання дыплома я працаваў на розных будаўнічых чыгуначных аб'ектах у Гомелі, Жлобіне, Оршы, Мінску, Маскве.



## На фоне ка'еры

Даволі хутка мяне прызначылі начальнікам участка па будаўніцтву чыгуначных аб'ектаў, у тым ліку жылля для чыгуначнікаў. Першы сталічны дом, які быў пабудаваны пры маім непасрэдным удзеле, размешчаны на скрыжаванні вуліц Маскоўская і Талстога. Зараз там на першым паверсе працуе нейкі вялікі магазін.

Займаючы кіраўнічую пасаду, я заставаўся беспартыйным. У той час працаваць інжынерам і быць беспартыйным — было рэдкасцю. Я доўга не бачыў сэнсу ва ўступленні ў партыю, але потым акалічнасці прымусілі.

Атрымаў запрашэнне паехаць у камандзіроўку ў Афганістан. Тэрміны пачатку камандзіроўкі «ціснулі», таму камуністам стаў без кандыдацкага стажу.

У Афганістане я прабыў тры гады. Дагэтуль лічу гэтую паездку вызначальнай у сваёй кар'еры. Атрымаў культуралагічны досвед: мы вымушаны былі разам працаваць з людзьмі іншага менталітэту. Нягледзячы на ўсе адрозненні, адносіны тутэйшых да нас тады былі вельмі добрымі. Акрамя звычайных будынкаў будавалі дарогі. Гэта былі часы яшчэ да ўводу савецкіх войскаў.

Дарэчы, пасля той камандзіроўкі я разбагацеў і купіў сваю першую машыну — «Масквіч-412», экспартны варыянт. За замежную работу нам плацілі так званымі «сертыфікатамі». На іх аўтамабіль і купіў. Так я сеў за асабісты «руль».

Вярнуўся на радзіму, і адзін з тагачасных беларускіх міністраў Більдзюкевіч прапанаваў мне ўзначаліць буйное будаўнічае ўпраўленне СМУ №4 Трэста «Белстромремонт», якое спецыялізавалася на будаўніцтве аб'ектаў прамысловасці па вырабе будаўнічых матэрыялаў і шкла — Гомельскі шклозавод, Барысаўскі, «Нёман» і г.д.

Галіна вытворчасці пастаянна знаходзілася на рэканструкцыі. Без двукосся апошняга слова. Гэта быў першы досвед кіравання магутнай арганізацыяй, у якой працавалі тысячы людзей. Напрыклад, на рэканструкцыю Гомельскага шклозавода мы запрашалі дадаткова больш за 1000 спецыялістаў з Расіі.

Цікава, што выпадкова выйшла так, што сёння мы са спадаром Більдзюкевічам з'яўляемся суседзямі па дачы і ўлетку бачымся амаль кожны дзень. Вельмі ўдзячны гэтаму чалавеку. Стаўлюся да яго з вялікай павагай.

Сваю першую добраўпарадкаваную кватэру я атрымаў у доме, які быў пабудаваны пад маім кіраўніцтвам — дом па вуліцы Чкалава. Мы зрабілі цэлы квартал. І не толькі для чыгуначнікаў. Да нас далучыліся «авіятары» з 407-га завода. Словам, будавалі «для транспартнікаў».

Там пазнаёміўся з Уладзімірам Ярмошыным, які пасля Рыжскага авіяцыйнага вучылішча прыехаў на будаўніцтва 407-га авіярамонтнага завода. Уладзімір Ярмошын пазней таксама ўзначаліць Мінск. У значнай ступені дзякуючы мне, бо, як мэр сталіцы, пазваў яго на работу ў гарвыканкам менавіта я.

З Уладзімірам Ярмошынам мы былі сябрамі на працягу шмат год жыцця. Цанілі адносіны адзін з адным, але, на жаль, на гэтыя адносіны, як і на стасункі з іншымі людзьмі, паўплывала тое, што адбывалася ў маёй палітычнай кар'еры, — пераход у рэзкую апазіцыю да цяперашняй улады. Я не асуджаю людзей, з якімі такія стасункі скончыліся, таму што не ўсе ў жыцці гатовы прыняць перамены, асабліва калі для гэтага патрэбныя экстра-смеласць і мужнасць.

Пасля (і перад ім) Афганістана мяне не раз запрашалі працаваць у Маскву, дзе прапанавалі ўзначаліць вядучы чыгуначна-будаўнічы трэст. Я адмовіўся. Хацелася працаваць толькі ў Мінску. Тым больш, што мая кар'ера ў Беларусі развівалася вельмі імгненна.

Першы сакратар Мінскага гаркама КПСС Барташэвіч запрасіў мяне на работу ў гарадскую адміністрацыю. У гэты час узнік новы сталічны раён — Маскоўскі і мяне абралі (тады іх не прызначалі) спачатку першым намеснікам, а праз год старшынёй райвыканкама. Так у пачатку васьмідзясятых гадоў мінулага стагоддзя адбыўся яшчэ адзін паварот службовай кар'еры.

Цёпла ўзгадваю той час. Любімая, зразумелая праца. Шмат ідэй. Я багата кантактаваў з простымі людзьмі і вырашаў асабістыя пабытовыя праблемы жыхароў раёна. Дарэчы, шмат хто з людзей, якім я дапамагаў, дагэтуль удзячны і выказвае сваю падзяку адкрыта. На вуліцах, у крамах, у іншых публічных месцах мяне пазнаюць, падыходзяць, вітаюцца. Я іх асабіста не ведаю, але вельмі ўдзячны за тое, што не змянілі свайго стаўлення пасля таго, як я вырашыў пакінуць уладу.

У 1984 годзе стаў намеснікам старшыні Мінскага гарвыканкама (слова мэр тады не ўжывалі) і адразу атрымаў даручэнне заняцца будаўніцтвам мінскага метро. Першая «ветка» сталічнага метрапалітэну была пабудавана пры мне. А за «Усход» нават атрымаў прэмію Савета Міністраў СССР.



У 1989 годзе ўзначаліў Мінскі гарвыканкам. Лічу сваёй заслугай стварэнне моцнай каманды кіраўнікоў горада: Генадзь Сінкевіч, Пётр Нікіценка, Ігар Зелянкевіч, Александр Сасноўскі, Уладзімір Ярмошын і іншыя. У наступным гэтыя людзі сталі вядомымі ў краіне кіраўнікамі, членамі ўраду.

У часы развала Савецкага Саюза была цяжкая эканамічная сітуацыя, людзі масава выходзілі на вуліцу з пратэстамі. Узгадваю важны хвалюючы момант, калі дзясяткі тысяч галодных людзей выйшлі на плошчу. Ні прадстаўнікі ўраду, ні прадстаўнікі парламента не рашыліся выйсці тады перад натоўпам.

Вячаслаў Кебіч даверыў гэта мне. Моцна перажываў, таму што разумеў: людзям цяжка. Усе перажывалі лёсавызначальныя перамены, і трэба было даць упэўненасць у тым, што іх лёс зменіцца ў лепшы бок. Адзіным інструментам для гэтага было слова, а не, як зараз, дубінка па галаве і аўтазак. Мая задача была размаўляць з людзьмі і пераканаць іх. Сапраўдны досвед публічнай палітыкі моцна мне потым дапамог.

У парламент я прыйшоў як дэпутат, вылучаны ад будаўнікоў метро. Гэта быў парламент, у якім можна было размаўляць, і гэта мела сэнс. Адзіны і нядоўгі час сапраўднай працы. Тады было шмат цікавых палітыкаў, яркіх асобаў, якія сталі лідарамі ў шмат якіх сферах. Большасць з іх вядома і дагэтуль — Шушкевіч, Лябедзька, Баршчэўскі, Пазняк, Голубеў, Сасноў, Краўчанка.

Сярод дэпутатаў былі дыскусіі па самых розных пытаннях. Напрыклад, менавіта па ініцыятыве дэпутатаў ад БНФ было прыпынена будаўніцтва другой лініі мінскага метрапалітэна, бо праходзіла яна пад гістарычным цэнтрам Мінска.

У вярхоўным Савеце 12-га склікання я працаваў адразу ў двух (рэгламент дазваляе — заўвага аўтара) камісіях. Адна займалася бюджэтам краіны. Другая — будаўніцтвам. Прапаноўваў перайменаваць «Метрапалітэн імя У.І. Леніна» ў «Метрапалітэн імя П.М.Машэрава». На жаль, дэпутаты гэтага не падтрымалі.

Калі стваралі знакамітую «антыкарупцыйную» камісію, старшынёй прапанавалі стаць мне. Перамога тады была забяспечана, бо мяне падтрымлівала пераважная большасць дэпутацкага корпусу. Ад новай пасады адмовіўся, бо мне не даспадобы займацца след-

ствамі, сачэннем, хапаць некага «за руку». Я не бачыў сябе кантралёрам. Тады Шушкевіч пагадзіўся з прапановай наконт Лукашэнкі. Маўляў, «хай гэты гаварунчык рэальна папрацуе». Чым усё скончылася, мы добра ведаем...

Наступны этап майго жыцця быў звязаны з развіццём знешніх сувязей Беларусі — гэта праца міністрам знешнеэканамічных сувязей, амбасадарам, дыпламатам.

Новая плынь майго жыцця пачалася ў 1994 годзе. Стаў беларускім амбасадарам у Чэхіі, Славакіі і Венгрыі па сумяшчальніцтву. У апошнюю краіну даехаць з вярыцельнымі граматамі нават не паспеў, таму што быў адазваны на пасаду намесніка старшыні камітэта па знешнеэканамічных сувязях.

Гэта быў добры час, калі маладая незалежная Беларусь усталёўвала новыя адносіны з еўрапейскімі краінамі, развівала і пачынала цікавыя і перспектыўныя бізнес-праекты. Я быў першым і адзіным міністрам знешнеэканамічных сувязей Беларусі. Гэта міністэрства праіснавала толькі пяць гадоў (1994-1999) і было перададзена ў склад міністэрства замежных спраў.

Гэта быў перыяд багатых і плённых кантактаў з замежнымі інвестарамі. Частка атрымалася — сумесны праект з немцамі па крэдытнай лініі «Гермес» па рэканструкцыі нафтаперапарацоўчых заводаў, што дазволіла вырабляць бензін больш высокага гатунку, адкрыццё амерыканскага завода «Кока-Кола», скуранога завода ў Гатава з італьянскімі інвестыцыямі і інш. Але, на жаль, яшчэ больш праектаў не атрымалася: буйныя французскія кампаніі жадалі інвеставаць у льняную галіну і нафтапераапрацоўку. Не была рэалізавана ідэя карэйскіх бізнесменаў па будаўніцтву завода аўтамабіляў «ДЭА», чэшскіх уласнікаў па будаўнітцву аўтазавода «Шкода», быў зачынены завод «Форд» і інш. Я спрабаваў упэўніваць урад і Лукашэнку, што такія праекты патрэбныя Беларусі, але беспаспяхова. Ужо тады зараджалася дыктатура, і ўпэўніваць у перавагах прыватнай уласнасці і прыходу замежнага капітала было ўсё цяжэй. Ужо тады стала зразумела, што мая пазіцыя абаронцы інтарэсаў рынкавай эканомікі была ў супрацьстаянні з пазіцыяй Лукашэнкі. Краіна пагружалася ў дыктатуру, якая моцна ўплывала на развіццё эканомікі і эканамічны курс.

Мяркую, што прычынай таго, што Міністэрства знешнеэканамічнай дзейнасці было ліквідавана, стала менавіта мая актыўная пазіцыя па прыцягненню ў Беларусь лепшага міжнароднага досведу. На жаль, такое міністэрства апынулася непатрэбным, але ж маё дасягненне яшчэ ў тым, што за 5 гадоў яго працы я здолеў стварыць сапраўдную кузніцу кадраў. Большасць кіраўнікоў сярэдняга звяна, якія працавалі ў міністэрстве, сталі потым вельмі паспяховымі дыпламатамі, кіраўнікамі прыватнага бізнесу.



У пачатку 1999 года я стаў амбасадарам у Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі. У час маёй працы ў Латвіі я канчаткова паспеў як палітычны лідар, які бачыць для сваёй краіны зусім іншыя шляхі развіцця.

Думкі, якія ўзнікалі падчас доўгай працы з міжнароднымі праектамі, аформіліся ў канкрэтную праграму рашэнняў наконт далейшага развіцця Беларусі. Гэта быў важны і галоўны этап у маім жыцці. Вясной 2001 года ў Рызе я напісаў заяву аб тым, што не згодны з палітычным і эканамічным курсам дзеючага прэзідэнта і бяру адпачынак у сувязі з удзелам у прэзідэнцкіх выбарах.

### На фоне кратаў

Адразу пасля тых выбараў узначаліў грамадскае аб'яднанне «Дзелавая ініцыятыва». Асацыяцыя гэта адстойвала інтарэсы бізнесу, але папрацаваць нам доўга не далі. У красавіку 2004 года мяне арыштавалі. Дакладней, 26 красавіка 2004 года.

А пачалося ўсё значна раней. «Дзелавая ініцыятыва» пачала дзейнічаць у 2001 годзе, а ў 2003 Міністэрства юстыцыі Беларусі вырашыла, што я «незаконна» там кірую. Грамадскім арганізацыям стала немагчыма нармальна працаваць у Беларусі, асабліва, калі іх дзейнасць не супадала з афіцыйнай лініяй развіцця краіны. А слова «ініцыятыва» ў прынцыпе ў нашай краіне мае негатыўны сэнс.

У пачатку 2004 года «Дзелавая ініцыятыва» арэндавала офіс у Мінску. Я ў той час быў у працяглай камандзіроўцы ў ЗША, і ўлада даволі агідна выкарыстала гэты момант. Яны «надавілі» на гаспадыню, каб тая адмовіла ў арэндзе. Мае паплечнікі былі вымушаны тэрмінова адтуль з'ехаць, а ўсю аргтэхніку, у тым ліку і тую, якая была па дамоўленасці з амерыканскай амбасадай у Мінску, перавезці (пакуль не знойдзем новае памяшканне) у мой гараж. Менавіта гэты факт беларускі КДБ у будучым і выкарыстае, каб абвінаваціць мяне ў «крадзяжу» гэтай аргтэхнікі. Я разумеў, што ўсё гэта накіравана не супраць дзейнасці арганізацыі, а супраць мяне асабіста. Супраць мяне як лідара, як чалавека, які ўдзельнічаў у выбарах. Я

разумеў: спецслужбы проста шукаюць магчымасць, за што зачапіцца і спытаць з мяне.

Адначасова ўзмацніўся ціск па ўсіх напрамках. Штодзённа я бачыў за сабой сачэнне, у тым ліку і ў замежных камандзіроўках. Праслухоўваліся ўсе тэлефоны. У дзяржаўнай прэсе пачалася кампанія па дыскрэдытацыі дзейнасці «Дзелавой ініцыятывы». Арганізацыі не давалі адкрыць свае філіялы ў рэгіёнах. Пад рознымі прычынамі закрываліся нашы офісы. Толькі ў Мінску за два гады існавання было чатыры пераезда. З неафіцыйных крыніц даведаўся, што ёсць загад мяне «ізаляваць» і рыхтуецца арышт.

У сярэдзіне красавіка 2004 года адбылося таемнае пранікненне ў маю кватэру, адкуль прапалі 25 тысяч даляраў ЗША. Замкі былі пашкоджаны, але, нягледзячы на гэта, узбуджаць крымінальную справу міліцыянты не сталі.

Раніцай 24 красавіка 2004 года ў маёй машыне разбілі шкло і скралі адтуль радыёпрыёмнік і сонцаахоўныя акуляры. А вечарам таго дня машына, на якой ехаў я, быццам бы «за перабольшванне хуткасці» была спынена спецыяльным падраздзяленням ДАІ «Страла».

Потым яны зрабілі спробу даказаць, што я сеў за руль «выпіўшы», але і гэта не атрымалася.

У парушэнне канстытуцыйных нормаў захацелі дагледзець мае асабістыя рэчы. Як толькі я пачаў аспрэчваць гэтую спробу, паявіліся супрацоўнікі КДБ, якія брутальна (без якіх-небудзь санкцый) «із'ялі» «дыпламат» з асабістымі грашыма. Па гэты дзень 91 тысячу даляраў ніхто мне не вярнуў.

Каля васьмі гадзін вечара прывезлі ў следчы камітэт КДБ. Не дазволілі патэлефанаваць ні сваякам, ні адвакату, што, мякка кажучы, незаконна.

Допыт працягваўся амаль да чатырох гадзін раніцы. Яго здымалі «скрытай камерай», а потым урыўкі з адпаведнымі каментарамі паказваліся па Беларускім тэлебачанні. Затым мяне з КДБ адпусцілі з патрабаваннем прыйсці туды ў 15.00 наступнага дня, быццам бы для таго, каб вярнуць грошы.

Калі я туды прыйшоў, то пачуў, што частка маіх грошай (41 900 даляраў ЗША) быццам бы фальшывая. За гэта мяне і «зачынілі» ў СІЗА КДБ.

У гэты ж дзень адбыўся вобыск на лецішчы і ў гаражы, дзе яны і «знайшлі» амерыканскую аргтэхніку.



Праз тры дні была ўзбуджана крымінальная справа, дзе «фальшывай» валюты ўжо не было. На працягу 8 месяцаў мяне трымалі ў СІЗА КДБ і спрабавалі ўзбуджаць розныя крымінальныя справы. А толькі 30 снежня 2004, нягледзячы на адсутнасць адпаведных доказаў я быў асуджаны да пяці гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Гэта было адно з самых цяжкіх навагодніх святаў для мяне і маёй сям'і.

Спачатку быў накіраваны на Валадарку, а потым у сумна вядомую Аршанскую калонію. Больш за тыдзень мяне трымалі без лекаў на вельмі цяжкім этапе, а потым на каранціне ў Аршанскай калоніі. І як следства 6 сакавіка 2005 года ў мяне здарыўся інсульт. Спецыялісты-медыкі прыехалі з Мінска толькі праз тыдзень і мяне перавялі ў сталічную папраўчую калонію нумар адзін, якой больш па былому адрасу не існуе. У лістападзе «далі» другую групу інваліднасці.

12 сакавіка 2005 года ажаніўся на Таццяне Баранавай, і толькі праз год (14 красавіка 2006 года) адбылося ўмоўна-датэрміновае вызваленне...

Мы вымушаны былі пайсці на гэтую фармальнасць у такіх умовах, каб нам дазволілі спатканні. Менавіта ў час хваробы яны былі мне неабходныя. На жаль, шмат хто ў тыя часы не зразумеў гэты вымушаны крок, было шмат каментарыяў, непаразумення. Лукашэнка не праігнараваў гэты факт і ўзгадаў наша пабранне шлюбам падчас штогадовага звароту да народа і Парламента.

## На фоне свабоды

Пра тое, што здарылася са мной асабіста, шкадую толькі ў тым сэнсе, што гэта даволі яскрава сведчыць пра тое, якую краіну мы пабудавалі. Вельмі сумна... Я сышоў з вяршыні кар'ернай лесвіцы, але заставацца там і абараняць дзеючы рэжым не меў жадання ды і сэнсу ў гэтым не бачыў. Я зрабіў так, як дыктавала мне сэрца. Мне не сорамна за тое, што зрабіў, перад сваімі дзецьмі. Я шчаслівы бацька. У мяне тры сыны. Малодшаму Мішу ў лютым 2012 года будзе 5 гадоў.

Пасля вызвалення не спыніўся змагацца за свае правы і даслаў скаргу ў Камітэт па правах чалавека ААН. Гэтае змаганне было істотным не толькі для мяне і маёй сям'і. Я жадаў паказаць іншым, наколькі важна змагацца за свае правы. 4 гады спатрэбілася на доўгія перапіскі і на тое, каб атрымаць доўгачаканае рашэнне Камі-

тэта па правах чалавека ААН. У кастрычніку 2010 года Камітэт прызнаў мяне ахвярай палітычнай расправы. Гэта першы прэцэдэнт у гісторыі Беларусі, калі палітычны зняволены прызнаецца ахвярай Камітэтам па правах чалавека ААН і падцвярджаецца прымяненне ў дачыненні да мяне пытак.

Гэтая навіна была вельмі радаснай, але прыйшла ў вельмі цяжкія часы. Два гады назад у мяне здарыўся другі інсульт і лекары не давалі шансаў. Цяжка і сёння, не заўсёды цела слухаецца мяне, так як раней, але я знаходжуся ў пастаянным руху і развіцці. У гэтым годзе мы з сям'ёй ездзілі ў падарожжа па Еўропе на аўтамабілі. Паказалі Мішу больш за 15 краін.

Я ўдзячны аднаму псіхолагу, якая сказала мне пасля інсульту: «Не глядзіце ў мінулае — глядзіце толькі ў будучыню». У будучыню я гляджу з аптымізмам і чакаю пераменаў зараз ужо не толькі ў сваім жыцці, але, галоўнае, у жыцці сваёй краіны.

Я не шкадую, што згубіў за гэты перыяд некаторых людзей, якія былі мне сябрамі... Ці трэба аб гэтым шкадаваць? Лічу, што ў гэты перыяд набыў стасункі са многімі людзьмі, і каштоўнасць такіх адносінаў яшчэ больш значная, чым была раней. Сярод іх ёсць і маладыя людзі, дзякуючы якім адбудуцца перамены ў нашай краіне, яскравыя самабытныя асобы, якія ствараюць гісторыю Беларусі.

Як кажуць, no comment.

# АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ



**Падрыхтавана да друку 06.02.13**

*Адзін мой добры знаёмы, які апошнім часам ігнаруе ўсе апазіцыйныя мерапрыемствы, патлумачыў, чаму робіць выключэнні для Аляксандра Мілінкевіча: «Разумны, адукаваны інтэлігент. Акрамя беларускай ведае яшчэ чатыры мовы. Па ім у іншаземцаў складаецца ўражанне пра нашу краіну».*

## Ад дома да кону

Напэўна, стаць настаўнікам яму было накавана лёсам, бо гэтай прафесіі ў розны час аддавалі перавагу бацька, маці, бабуля, дзед, брат, першая і другая жонкі. Таму, калі пазней у Гарадзенскім універсітэце ён пачне выкладаць фізіку, гэта будзе цалкам лагічна і абгрунтавана.

Аднак вернемся, як кажуць, да крыніц. Жыццё Аляксандра Мілінкевіча пачалося 25 ліпеня 1947 года ў Гародні. Яго бацька, Уладзімір Іванавіч Баран, родам з вёскі Пілюкі, што 12 кіламетраў ад Гародні. Чвэрць века быў дырэктарам лепшай школы гэтага горада. Географ, заслужаны настаўнік БССР.

Маці звалі Марыя Аляксандраўна Мілінкевіч. Яе продкі — паўстанцы Кастуся Каліноўскага, што паходзілі з вёскі Зубрава, недалёка ад добра вядомых па «малой радзіме» Аляксандра Уладзіміравіча Берштаў.

Брат Уладзімір (на восем гадоў старэйшы за героя гэтага нарыса) да выхаду на пенсію выкладаў фізіку, і яго ў Гародні ведаюць не менш, чым былога кандыдата ў прэзідэнты. Дарэчы, у сярэдняй школе Уладзімір Уладзіміравіч вучыў і свайго малодшага брата. Менавіта ён паўплываў на яго «фізічны» выбар.

### Ад хлопчыка да фізіка

Пасля сканчэння ў 1965 годзе з залатым медалём сярэдняй школы Аляксандр Мілінкевіч паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Гарадзенскага педінстытута, які на той момант яшчэ не быў універсітэтам. Высокі ўзровень ведаў дазваляў абраць і прэстыжны БДУ, але перавага была аддадзена роднаму гораду.

Пасля сканчэння яго (таксама з адзнакаю) Аляксандр некалькі месяцаў працаваў у адной са школ Гародні, але прага да атрымання новых ведаў перамагла.

У 1969 годзе ён паступіў у аспірантуру Інстытута фізікі Акадэміі навук БССР. Займаўся тэорыяй лазераў. Там жа напісаў сваю першую навуковую працу. Пазней іх яшчэ будзе больш за шэсць дзясяткаў, але самая першая (пад уплывам навуковага кіраўніка Андрэя Міхайлавіча Самсона) была зроблена на беларускай мове асэнсавана і прынцыпова. Вобразна кажучы, так аддавалася даніна павагі той зямлі, якая яго нарадзіла.

Нагадваю, што зроблена гэта было амаль 44 гады таму... На жаль, я шчыра сумняваюся, што нешта падобнае пішацца зараз. Асабліва, калі ўлічыць фізічны накірунак дзейнасці... Мякка кажучы, кар'ернаму росту гэта не спрыяе...

І ўвогуле. Нягледзячы, на шматлікія спробы ўлады «кіраваць» навукай і значна абмежаваць сваім «практычным» падыходам колькасць навуковых рэгалій, асабліва я не чуў пра нейкія «прарывы» і «адкрыцці». Мабыць, адміністрацыйны рэсурс зусім не тое, што можа забяспечыць тут якасць...

Падыходы павінны быць зусім іншымі. Не магу сказаць, што ў тыя гады яны былі ідэальнымі. Не. Проста тады яны былі іншымі. Лаяльнасць да ўлады не з'яўлялася (як сёння) сінонімам кар'ернага росту.

Пасля трох гадоў навучання ў аспірантуры (1972 год) Аляксандр Мілінкевіч яшчэ тры з паловаю гады прапрацаваў у Інстытуце фізікі АН БССР малодшым навуковым супрацоўнікам і толькі пасля гэтага абараніўся. Дысертацыя называлася «Генерацыя звышмагутных лазерных імпульсаў», адным з навуковых апанентаў быў Анатолій Мікалаевіч Рубінаў, які потым зышоў ва ўладу.

Напэўна, іх погляды на многія рэчы кардынальна разыходзіліся яшчэ тады...

Пасля абароны дысертацыі Мілінкевіч вярнуўся ў альма-матар, дзе прапрацаваў амаль 25 гадоў.



Быў у яго жыцці і яшчэ адзін даволі цікавы паварот. Гаворка пра паездку ў Афрыку. З 1980 па 1984 год Аляксандр Мілінкевіч быў загадчыкам кафедры фізікі ў алжырскім Сітыфскім універсітэце.

### Ад фізіка да лірыка

Шчыра кажучы, як і МНОГІЯ, я першапачаткова не ведаў пра «фізічны складнік» біяграфіі Мілінкевіча. Як і МНОГІМ, мне падавалася, што па адукацыі ён гісторык. І рацыя для гэтага была. Справа ў тым, што яшчэ з дзяцінства сярод прыярытэтаў было і захапленне краязнаўствам, сапраўднай гісторыяй нашай краіны.

З часам цікавасць перарасла ў даволі моцнае хобі, а потым і ўвогуле стала галоўным у жыцці.

Асобна хацелася б сказаць пра тое, што яшчэ ў Інстытуце фізікі АН БССР перад вачамі Мілінкевіча быў красамоўны прыклад таго, як «фізік ператвараецца ў лірыка». Гаворка пра лекцыі прафесара Юрыя Віктаравіча Хадыкі.

Той таксама вывучаў рэчы, вельмі далёкія ад гуманітарнай тэматыкі, аднак на яго лекцыях гучалі зусім іншыя мелодыі. Выдатны фізік распавядаў пра старажытнабеларускую культуру і суправаджаў свой расказ каляровымі слайдамі. Уразіла, што той з групай энтузіястаў з Акадэміі навук у пошуках шэдэўраў нашай гісторыі, рэлігіі, культуры праехаў і прайшоў амаль усю Беларусь і сабраў унікальную музейную калекцыю.

Пасля вяртання з Алжыру, Аляксандру Мілінкевічу прапанавалі весці на гарадзенскім тэлебачанні аўтарскую перадачу «Па вулках старога горада». На экране ён прабыў 9 гадоў. Перадача была вельмі папулярнаю.

Звычайна рабілася гэта так. Перад камерай Мілінкевіч распавядаў нейкія невядомыя гісторыі пра гарадзенскі край і сам горад, паказваў гледачам старыя паштоўкі, гравюры, слайды.

У захапленні гісторыяй былі дзве падзеі, якія тычацца не толькі канкрэтнай асобы. Гаворка пра аднаўленне работы гадзінніка (з самым старажытным механізмам, які захаваўся ў Еўропе) на гарадзенскім Фарным касцёле і выяўленне пахавання апошняга нашага, польскага і літоўскага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў Воўчыне. Абедзве падзеі адбыліся дзякуючы менавіта Аляксандру Уладзіміравічу Мілінкевічу, а за апошнюю яго нават узнагародзілі ордэнам Рэчы Паспалітай.

## Ад лірыка да палітыка

Калі так можна сказаць, электаральны дэбют Аляксандра Мілінкевіча адбыўся ў 1989 годзе. Кіраўнік знакамітай «Паходні» Міхась Ткачоў балатаваўся ў Вярхоўны Савет СССР. Усе дэмакраты Гародні працавалі на яго, але прайгралі. Набралі каля 30% галасоў.

Наступнымі былі выбары ў Вярхоўны Савет БССР. На гэты раз Аляксандр Мілінкевіч (у той момант сябар «Дэмакратычнай платформы») прымаў у іх удзел асабіста. Насуперак рашэнню парткаму яго кандыдатуру вылучыў агульны сход студэнтаў і выкладчыкаў роднага ўніверсітэта.

У першым туры ён з вялікім адрывам перамог усіх (шасцярых) канкурэнтаў, у другім таксама быў першым і афіцыйна набраў 49,7%, але выбары не адбыліся. У выніку стаць дэпутатам у Мілінкевіча не атрымалася, аднак у палітыцы ён, як кажуць, засвяціўся.

Потым былі выбары мэра Гародні дэпутатамі гарсавета. З дапамогай мясцовых дэмакратаў тады перамог Сямён Домаш і адразу ж выканаў іх папярэднюю дамову — узяць сабе ў намеснікі па сацыяльных пытаннях прадстаўніка менавіта гэтага лагера. Ім і стаў Аляксандр Мілінкевіч.

У 1996 годзе ў знак пратэсту супраць антыканстытуцыйных рэферэндумаў ён сыйдзе з пасады віцэ-мэра і праз некаторы час створыць мясцовую арганізацыю «Ратуша».

А Сямён Домаш пазней узначаліць усю Гарадзенскую вобласць, а яшчэ пазней стане на прэзідэнцкіх выбарах 2001 года адным з апазіцыйных кандыдатаў. Аляксандр Мілінкевіч узначаліць яго перадвыбарчы штаб.

## Ад «стабільнасці» да перамен

Не буду яшчэ раз пераказваць, што адбылося тады і выказваць сваё меркаванне наконт таго, як лепш трэба было рабіць, бо «заднім розумам» мы ЎСЕ абіраем самыя найлепшыя варыянты... Адзначу толькі тое, што не адзін раз сам быў сведкай таго, як прыхільнікі Сямёна Домаша адмаўляліся «працаваць на Уладзіміра Ганчарыка». І рабілі гэта вельмі прынцыпова.

Акрамя гэтага адзначу яшчэ і тое, што Сямён Домаш быў перш за ўсё прадстаўніком РЭГІЯНАЛЬНЫХ структур, якія на той момант аб'ядналіся ў Беларускую асацыяцыю рэсурсных цэнтраў (БАРЦ аб'ядноўвала 72 арганізацыі — заўвага аўтара), і таму яму было даволі цяжка супрацьстаяць сталічным візаві, калі тыя кулуарным спосабам абіралі «адзінага».



Напэўна, сёння практычна немагчыма знайсці апантанага прыхільніка падобнай кулуарнасці, бо адразу пасля прэзідэнцкай кампаніі 2001 года стала абсалютна відавочнай яе памылковасць. Настолькі, што нават беларуская апазіцыя, якую дагэтуль ніхто не мог западозрыць у еднасці, была вымушана пайсці на збліжэнне.

Праўда, і на гэты раз «да канца» еднасць не атрымалася. У кастрычніку 2005 года Аляксандра Мілінкевіча на Кангрэсе дэмакратычных сіл абралі адзіным кандыдат ад апазіцыі, а ў снежні гэтага ж года стала вядома пра намер ісці «асобнай калонай» Аляксандра Казуліна.

Чым усё скончылася, добра вядома...

Як вядома, у перамогі шмат «бацькоў», а ў паразы — адзін. У 2006 годзе (як любіць казаць прыхільніца кухонных баршчоў Лідзія Ярмошына) мы сталі сведкамі чарговай «элегантнай перамогі», і усё тут, здаецца, было цалкам прадказальным. Але тым не менш, у апазіцыйным асяроддзі пытанне «Хто вінаваты?» зноў істотна стала дамінаваць над пытаннем «Што рабіць?»

Вінаватым, канешне ж, стаў Аляксандр Мілінкевіч, і можна толькі ўявіць, колькі крытычных стрэлаў тады паляцела ў яго адрас. Не стану называць самыя вострыя і яхідныя з іх, адзначу толькі, што шукаць вінаватых сярод іншых прасцей за ўсё. Значна цяжэй аб'ектыўна паглядзець на сябе любімага...

У сакавіку 2006 года пры значнай падтрымцы польскага Урада была створана стыпендыяльная праграма імя Кастуся Каліноўскага, якая адразу ж вызвала даволі гучны лямант у дэмакратычным асяроддзі і прэсе.

Кажучы праўду, нагоды былі немалыя, але я лічу гэта не самым галоўным. Галоўнае ў тым, што яна даволі паспяхова працуе ўжо шмат гадоў, і ў тых, хто ідзе супраць плыні, заўсёды ёсць шанец не быць выкінутым на беларускі гістарычны сметнік....

А хібы... Выбачайце за банальнасць — не памыляецца той, хто нічога не робіць...

Дарэчы, праз некалькі тыдняў пасля стварэння гэтай праграмы Аляксандр Мілінкевіч, як кажуць, на асабістай скуры адчуў сапраўдны кошт беларускага палітычнага іншадумства. Пасля традыцыйна-

га мітынгу 26 красавіка 2006 года ён быў арыштаваны і атрымаў традыцыйныя 15 сутак «акрэсціна».

... Рух «За свабоду» быў заснаваны яшчэ ў 2006 годзе і першых актывістаў у свае шэрагі пачаў запісваць ужо 25 сакавіка 2006 года, падчас святкавання Дня Волі. Афіцыйную ж рэгістрацыю яны атрымалі толькі з чацвёртай спробы — 17 снежня 2008 года.

Аляксандр Мілінкевіч узначальвае рух з моманту нараджэння, і асабіста я пакуль не бачу на гэтым месцы некага іншага... І не таму, што няма жадаючых... Іх нямала, толькі далёка не ўсе здольныя несці на плячах такі цяжкі груз...

У 2010 годзе Аляксандр Мілінкевіч зноў вырашыў пазмагацца за прэзідэнцкае крэсла і нават абвясціў 3 траўня пра гэта публічна, але ўжо ў верасні ад сваёй ідэі таксама публічна адмовіўся. Як і трэба было чакаць, такое рашэнне вызвала ў грамадстве даволі бурную рэакцыю. Адны яго падтрымалі, другія былі катэгарычна супраць.

Ды і не магло быць па-іншаму. Не могуць нашы людзі жыць без пошукаў некага патаемнага і «падвойнага» дна...

Мяне ж больш уразіла іншае. За 2006 год Еўрапарламент узнагародзіў Аляксандра Мілінкевіча прэміяй імя Сахарава, але той не трапіў у абдымкі «медных трубаў» і па гэтаму ўзору з дапамогай руху «За свабоду» заснаваў беларускую прэмію імя Васіля Быкава «За свабоду думкі».

Кожны год у дзень народзінаў знакамітага пісьменніка прэмія ўручаецца ў яго роднай вёсцы Бычкі Ушацкага раёна Віцебскай вобласці.

Прыемна, калі чалавек жыве не толькі лозунгамі, але і канкрэтнымі справамі...

**P.S.** Добра разумею, якую неадназначную рэакцыю выклікае гэты нарыс, і таму СПЕЦЫЯЛЬНА звяртаю ўвагу, што ён носіць не аналітычны, а біяграфічны характар. Менавіта такую мэту аўтар перад сабой і ставіў.

# РАІСА МІХАЙЛОЎСКАЯ



**Падрыхтавана да друку 25.02.13**

*З вялікай павагай стаўлюся да ўсіх без выключэння сучасных беларускіх праваабаронцаў, але ёсць сярод іх тыя, чые імёны і справы застаюцца па-за нашай увагай. Па той прычыне, што яны найперш сканцэнтраваны на справе і цалкам ігнаруюць піяр. Адна з іх — гераіня гэтага нарыса.*

## Еўрапейскі пачатак

Раіса Міхайлоўская нарадзілася ў Клайпедзе — горадзе, які зараз знаходзіцца на тэрыторыі ЕС. Менавіта ў Літве пазнаёміліся і пабраліся шлюбам яе бацькі, а 3 сакавіка 1960 года ў іх нарадзілася другая дачка Раіса (першая — Святлана — на тры гады старэйшая).

Пётр Машэраў, які на той час быў другім сакратаром ЦК КПБ, называў яе бацьку «вусаты танкіст». Пазнаёміліся яны падчас дастаткова драматычных падзей, абумоўленых масавым скарачэннем арміі, найперш танкавых частак, якое ініцыяваў на пачатку 1960-х гадоў Мікіта Хрушчоў. Пад гэта скарачэнне трапіў і бацька Раісы — танкіст, капітан Канстанцін Гумераў. Зачэпкай для яго скарачэння магла стаць і графа ў анкеце, дзе ён шчыра напісаў, што яго бацька (дзед Раісы) быў асуджаны як «вораг народа».

Пад хрушчоўскае скарачэнне арміі трапілі тысячы афіцэраў. Мінск, які заўсёды лічыўся вельмі прывабным для вайскоўцаў, гэта адчуў вельмі хутка. Міністэрства абароны перакінула вырашэнне праблем звольненых вайскоўцаў на «цывільных». З групай прадстаўнікоў пацярпелых вайскоўцаў, у якую ўваходзіў і Канстанцін Гумераў, сустрэўся Пётр Машэраў. У выніку ў Заводскім раёне Мінска вайскоўцам выдзелілі дом. Так бацькі Раісы апынуліся ў Беларусі.

## Беларускі працяг

Маці Раісы Міхайлоўскай Ірына Іванаўна Канаш родам з Калядзічаў, што пад Мінскам. Так што для яе кватэра ў беларускай сталіцы азначала фактычнае вяртанне на сваю радзіму. Родным горад стаў і для самой Раісы, у які яна трапіла трохмесячным немаўлём.

Заводскі раён — адзін з самых пралетарскіх у Мінску. Адпаведны быў і кантынгент вучняў сярэдняй школы №43, якую скончыла Раіса. Аднак, нягледзячы ні на што, школьныя гады Раіса лічыць сапраўды цудоўнымі.

Зімой яны працавалі на мінскім падшыпнікавым заводзе (шліфавалі палачкі для сцяжкоў), зараблялі грошы на экскурсійны аўтобус, а летам амаль цэлы месяц ездзілі па літаратурных мясцінах: Ясная Паляна, Спаскае-Лутавінава, Чэхава, Меліхава, Кішынёў, Адэса... Пагадзіцеся, не кожны элітны клас можа пахваліцца такімі вандроўкамі.

Усе аднакласнікі Раісы Міхайлоўскай сталі паважанымі людзьмі. Ёсць сярод іх банкіры, бізнесмены, інжынеры, настаўнікі, журналісты, юрысты.

Раіса заўсёды была лідарам. І адносна вучобы (выдатніца), і наконт грамадскай дзейнасці (камсорг класа). А галоўнае — афіцыйнае становішча цалкам адпавядала становішчу рэальнаму. Яе паважалі (і паважаюць зараз) і настаўнікі, і аднакласнікі. Пасля заканчэння школы на вечар сустрэчы выпускнікоў клас Раісы Міхайлоўскай доўгі час збіраўся амаль поўным складам. Ды і цяпер многія аднакласнікі засталіся шчырымі і надзейнымі сябрамі.

У школе Раіса вельмі любіла матэматыку, таму выбар «мехмата» (вытворчае аддзяленне) БДУ ў 1977 годзе выглядае цалкам лагічна. У 1982 годзе першае працоўнае месца — малодшы навуковы супрацоўнік навукова-даследчай лабараторыі вылічальных сістэм Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Займалася распрацоўкай праграмных комплексаў і нават атрымала за гэта срэбны медаль ВДНГ СССР.

Потым была «Заходняя будаўніча-прамысловая біржа», дзе Раіса Міхайлоўская ў якасці інжынера-праграміста пачала займацца праграмным забеспячэннем.

Зараз Раіса ў другім шлюбе, адсюль і прозвішча Міхайлоўская. А першы быў падчас вучобы ў БДУ. На чацвёртым курсе Раіса выйшла замуж за свайго аднакурсніка Ігара. На жаль, іх шлюб распаўся, але яны змаглі захаваць цёплыя адносіны да самай яго смерці. Ад гэтага шлюбу нарадзілася дачка Кацярына, якая некалькі гадоў таму нарадзіла прыгажуню Ульяну, а зусім нядаўна яшчэ і сына Цімура.



## Праваабарончы паварот

Можна прывесці шмат прыкладаў, калі людзі кардынальна змяняюць сваё жыццё. Так адбылося і з Раісай Міхайлоўскай. Прычым, двойчы. У 1993 годзе яна перайшла на працу ў выдавецтва СП «Мока-Далфінг». Спачатку займалася камп'ютарнай вёрсткай і дызайнам, а праз год стала кіраўніком выдавецкага аддзела.

У 1995 годзе яе запрасілі на пасаду начальніка выдавецка-паліграфічнага аддзела ў другую вядомую фірму — «Красіка-Прынт», якая належала бізнесмену Анатолю Красоўскаму. Таму самаму, які ў 1999 годзе трагічна знік разам з Віктарам Ганчаром.

1990-ыя гады не дарэмна называюць «ліхімі». Кватэрная афёра, ахвярай якой стала сястра Раісы, і пазнаёміла яе з праваабаронцам Алегам Волчакам. На той момант ён быў дэпутатам Мінскага гарсавета і як юрыст актыўна дапамагаў пацярпелым.

Хутка высветлілася, што па многіх падыходах да жыцця Алег і Раіса, як і шэраг іх калег, з'яўляюцца аднадумцамі. Так нарадзілася думка аб'яднацца ў праваабарончую структуру. Летам 1998 года прыхільнікі гэтай ідэі сабраліся на ўстаноўчы сход, а 10 верасня Міністэрства юстыцыі зарэгістравала грамадскую арганізацыю «Прававая дапамога насельніцтву».

Калі чыноўнікі ўручалі юрыстам ліцэнзію на аказанне юрыдычнай дапамогі, яны шчыра віншавалі і благаслаўлялі іх на высакародную дзейнасць. Напэўна, у той час ніхто нават уявіць не мог, што праз пяць гадоў практычна гэтыя ж самыя людзі будуць (з дапамогай суда) пазбаўляць непадкантрольную ўладзе структуру афіцыйнай рэгістрацыі.

Раіса Міхайлоўская працавала ў «Прававой дапамозе насельніцтву» выканаўчым дырэктарам, была заснавальнікам і галоўным рэдактарам газеты «Грамадзянін і закон». Пры яе актыўным удзеле было выдадзена шмат бюлетэняў, кніжак і брашур па прававой тэматыцы.

У гэты ж час была створана грамадская камісія па расследаванню знікнення былога кіраўніка МУС Беларусі Юрыя Захаранкі.

Такога кшталту дзейнасць патрабавала адпаведных ведаў, і цалкам лагічна, што Раіса пайшла вучыцца ў Мінскі інстытут кіравання на спецыяльнасць «Правазнаўства». Некалькі разоў потым выязджала за мяжу на адпаведныя курсы павышэння кваліфікацыі. Скончыла праваабарончыя курсы ў Варшаве, стажыравалася ў ЗША і праходзіла трэнінг у Канадзе.

Асобна трэба ўзгадаць стасункі гераіні гэтага нарыса з Ірынай Казулінай. Не буду пералічваць усе дзеянні Раісы па вызваленні Аляксандра Казуліна, але ўпэўнены, што яно адбылося дзякуючы ў тым ліку і таму, што за яго шчыра змагаліся такія людзі, як Раіса Міхайлоўская.

## На ўласны досвед

У 2008 годзе выйшла замуж і з'ехала да мужа ў Швецыю, як казалі, «самая паэтычная праваабаронца» нашага часу Вера Страмкоўская. Перад ад'ездам яна прапанавала Раісе Міхайлоўскай узначаліць Цэнтр па правах чалавека. Тая пагадзілася і кіравала ім да 2012 года.

Прынцыпова не буду ўлазіць у нейкія ўнутраныя разборкі і займаць канкрэтны бок. Адзначу толькі, што ўзяць структуру пад свой кантроль значна лягчэй, чым яе потым утрымаць.

У час прэзідэнцкіх выбараў 2010 года праваабаронца Раіса Міхайлоўская прыняла прапанову папрацаваць у юрыдычнай службе перадвыбарчага штаба Уладзіміра Някляева. Цалкам разумею гэты выбар лепшага паэта сучаснасці. Акрамя патрэбных юрыдычных ведаў у Міхайлоўскай быў і рэальны асабісты досвед.

Чатыры разы яна прымала ўдзел у выбарчых кампаніях іншых, а ў 2003 годзе паспрабавала стаць дэпутатам сама. Выпадак, калі за два дні да галасавання яе знялі за тое, што свой партрэт (ратуючы ад дажджу) яна загарнула ў цэлафан і гэтым перабольшыла фінансавыя сродкі, увайшоў ва ўсе маніторынгі таго часу.

Зноў не хачу некага пакрыўдзіць, але ў гэтым выпадку я з большага згодны з тымі, хто лічыць, што быць унутры кампаніі больш каштоўна, чым назіраць за кампаніяй выключна звонку. У дадзеным выпадку, нягледзячы на збіццё і арышт Уладзіміра Някляева, менавіта ўласны досвед дапамог Раісе скласці і падаць у Цэнтрвыбаркам ад імя арыштаваных кандыдатаў у прэзідэнты абгрунтаваную скаргу аб прызнанні выбараў несапраўднымі. І менавіта ўласны досвед быў карысным для Міхайлоўскай потым у арганізацыі дапамогі адвакатам і сваякам арыштаваных у снежні 2010.



## Самаробныя «святцы»

У кастрычніку 2012 года пачаў сваю дзейнасць зарэгістраваны ў Літве «Беларускі дакументацыйны цэнтр», які стварыла і ўзначаліла Раіса Міхайлоўская. Рэч, на мой погляд, вельмі карысная і патрэбная. І каб наглядна даказаць гэтую выснову, я нагадаю пра сваю кніжную паліцу.

Побач на ёй стаяць дзве энцыклапедыі. Адна выдадзена да 1995 года, другая — у нашы часы. У першай — інфармацыя дастаткова поўная і аб'ектыўная, у другой — жудасна цэнзураваная, з яе старонак наогул зніклі біяграмы былога кіраўніка ўрада Міхаіла Чыгіра, шматгадовага кіраўніка прафсаюзаў Уладзіміра Ганчарыка.

Знайсці пад заваламі прапагандысцкай хлусні аб'ектыўныя дакументальныя сведчанні нашай эпохі, нашай барацьбы нашчадкам будзе дастаткова складана. Для таго ж, каб яны засталіся ўвогуле, і ствараюцца падобныя цэнтры.

Гэта вельмі важна, калі ў судах адвакаты пераканаўча бароняць дэмакратычных дзеячаў, але матэрыялы для іх рыхтуюць юрысты, якія скрупулёзна збіраюць патрэбныя дакументы і фіксуюць факты. Раіса Міхайлоўская менавіта з такіх.

Калі ішла работа над гэтым нарысам, у мае рукі трапіў самаробны часопіс «Мая сям'я». Некалькі гадоў таму 40 экзэмпляраў, зробленых рукамі Раісы Міхайлоўскай, былі раздадзены амаль усім яе сваякам. Гэта даволі грунтоўная радаслоўная іх сям'і.

Раіса там піша: «У старыя добрыя часы нашых дзядоў і прадзедаў перадавалася з пакалення ў пакаленне Евангелле, на палях якога запісвалася кароткая сямейная хроніка. Хто нарадзіўся, калі ажаніўся, калі памёр...»

Шкада, але сёння гэтых самаробных «святцаў» амаль няма. Асабліва ў палітыцы. А дарэмна, бо так больш цяжка ісці ўперад без памылак...

# АЛЕСЬ МІХАЛЕВІЧ



**Падрыхтавана да друку 27.08.13**

*Такой колькасці калег-журналістаў, як 28 лютага 2011 года на першай пасля вызвалення з вязніцы КДБ прэс-канферэнцыі Алеся Міхалевіча, я не бачыў вельмі даўно. Напэўна, з тых часоў, калі апазіцыянеры не толькі маглі расказаць нешта цікавае, але яшчэ і на нешта паўплываць.*

*Прэс-канферэнцыя Алеся Міхалевіча на былой сядзібе БНФ не толькі прэзентавала сапраўдную інфармацыйную нагоду, але і канкрэтна дапамагла ўсім, хто ў той час знаходзіўся за кратамі. Са следчага ізалятара КДБ зніклі сумна вядомыя маскі-шоу.*

## Шчаслівае дзяцінства

Алесь Міхалевіч выйшаў з «праслойкі». Менавіта так у савецкія часы называлі інтэлігенцыю. Яго бацька Анатоль Аляксеевіч працаваў у Інстытуце будаўніцтва і архітэктуры, займаўся электраправоднасцю рэчываў, а маці Людміла Сцяпанаўна ў Інстытуце генетыкі і цыталогіі даследавала генныя мутацыі пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

15 траўня 1975 года ў іх нарадзіўся сын, якога назвалі Алесем. Адбылося гэта ў беларускай сталіцы. У Алеся ёсць яшчэ старэйшая на 5 гадоў сястра. Афіцыйнае імя — Алена, але ўсе завуць яе Лёляй. Па спецыяльнасці яна біёлаг.

Як і ўсе хлопчыкі, у раннім дзяцінстве Алесь Міхалевіч марыў стаць касманаўтам. Аднак бацькі патлумачылі, што пры дрэнным зроку гэта немагчыма, і таму пазней ён зразумеў, што хоча быць мовазнаўцам.

Вучыўся Алесь у мінскай 19-й матэматычнай школе, але ў апошнім класе перавёўся ў знакаміты Гуманітарны ліцэй. Там пазнаёміўся з выбітнымі выкладчыкамі: літаратуразнаўцам Пятром Васючэнкам, мовазнаўцам Вінцуком Вячоркам, грамадазнаўцам Анатолем Сідарэвічам, эканамістам Юрасём Чудзіным. Зразумела, у галаве ўсё перамяшалася. Таму пры паступленні ва ўніверсітэт Алесь выбіраў паміж эканомікай, паліталогіяй і правазнаўствам. На паліталогію ў БДУ набор адбываўся ўпершыню. Гэта і стала вырашальным.



У 1992 годзе Алесь Міхалевіч паступіў у галоўны ўніверсітэт краіны і адразу ж уступіў у Задзіночанне беларускіх студэнтаў. Часам некаторыя калегі падаюць, што ён быў заснавальнікам арганізацыі. Гэта няпраўда. Арганізацыя на той момант ужо не толькі існавала, нават была афіцыйна зарэгістраваная. Узначальваў яе студэнт-хімік Аляксей Глушко. А Алесь узначаліў суполку ЗБС у Беларускім дзяржаўным універсітэце.

Усю арганізацыю ён узначаліў крыху пазней — у 1995 годзе. І кіраваў ёй да 1999 года. Менавіта час яго старшынства не без падстаў называюць самым яркім у існаванні ЗБС. Няма сэнсу пералічваць усе мерапрыемствы, адзначу толькі іх адрозненне ад астатніх сваёй крэатыўнасцю. «Дзякуй прэзідэнту за хлеб і малако», напрыклад.

## Залежная навука

У 1997 годзе Алесь Міхалевіч паспяхова скончыў юрыдычны факультэт БДУ па спецыяльнасці «Паліталогія» і адразу ж стаў аспірантам Інстытута дзяржавы і права Нацыянальнай акадэміі навук. Нягледзячы на тое, што некалі ён праходзіў стажыроўкі ў Варшаўскім і Оксфардскім універсітэтах, што без сумневаў сведчыць пра высокі ўзровень адукаванасці, абараніць кандыдацкую дысертацыю ў роднай Беларусі яму не далі.

Справа ў тым, што на той момант Алесь ужо быў сябрам БНФ, а кіраўніцтва краіны вельмі добра памятала, што менавіта з навукова-культурніцкага асяроддзя і выйшла некалі самая моцная апазіцыйная арганізацыя.

Нягледзячы на тое, што дзяржаўная абструкцыя, мякка кажучы, не дапамагала Алесю Міхалевічу, пасля заканчэння вучобы ён стварыў і ўзначаліў арганізацыю, якая даволі паспяхова займалася моладзевымі абменамі і турызмам. Дзякуючы ёй, больш за 2000 маладзёнаў здолелі наведаць краіны Заходняй і Цэнтральнай Еўропы.

З 2000 года Міхалевіч працаваў на кіруючых пасадах у турыстычным СП «Аркадыя». Нават быў генеральным дырэктарам гэтай кампаніі. Пасля сямі праверак, учыненых уладамі з-за ўдзелу ў парламенцкіх выбарах 2004 года, пасаду прыйшлося пакінуць.

### Складаная палітыка

У 2005 годзе Міністэрства эканомікі РБ выдае Алесю Міхалевічу акрэдытацыю выступаць у якасці антыкрызіснага кіраўніка. У 2007—2008 гадах ён працаваў юрысконсультам Асацыяцыі інвалідаў вайны ў Афганістане, а потым два гады — юрыстам Беларускага незалежнага прафсаюза.

Паралельна з прафесійнай дзейнасцю займаўся і грамадска-палітычнай. З 2003 па 2007 год Алесь Міхалевіч быў дэпутатам Пухавіцкага раённага савета Мінскай вобласці і каардынатарам Асамблеі дэпутатаў мясцовых саветаў. Выдаваў незалежную газету «Рэгіён» у Мар'інай Горцы. Ініцыяваў шэраг крокаў па пашырэнні паўнамоцтваў органаў мясцовага самакіравання.

Здаецца, такі спіс дае нагоды адчуваць сябе вельмі добра ў апазіцыйным асяроддзі, аднак у рэальнасці ўсё выйшла інакш.

Я ўжо неаднаразова пісаў пра тое, што жыву з адчуваннем нейкай прапушчанай падзеі. Такое ўражанне, што ўлада ў краіне ўжо памянялася, прэзідэнт іншы, і апазіцыянерам, акрамя «грызні» паміж сабой, няма чаго рабіць.

Канешне, гэта толькі сумны жарт, але пастаянныя разборкі ў апазіцыйным асяроддзі моцна стамілі не толькі мяне. Не палічыце перабольшваннем, аднак сёння даволі цяжка назваць апазіцыйнага лідара, які не быў бы абвінавачаны ў супрацоўніцтве з КДБ і не адзначыўся зачысткай сваіх канкурэнтаў.

Але сумна не толькі ад гэтага. На жаль, асабістыя амбіцыі лідараў вельмі часта прыводзяць да пачкавання палітычных сіл. Напрыклад, толькі спецыялісты і людзі вельмі дасведчаныя могуць дакладна сказаць, колькі ў нашай краіне на дадзены момант існуе сацыял-дэмакратычных партый...

На жаль, такім жа шляхам пайшоў і БНФ.

З 2004 па 2008 год Алесь Міхалевіч быў намеснікам старшыні партыі БНФ, і сёння, напэўна, у гэтым статусе былі б нязначныя змены, калі б у 2008 годзе ён не балатаваўся на пасаду старшыні. Менавіта гэта, на мой погляд, і стала падставай выключэння з афіцыйнай фармулёўкай «за парушэнні партыйнай этыкі і дысцыпліны».



Наўмысна не стану займаць нейкі канкрэтны бок, бо гэта не справа журналіста. Адзначу толькі, што Алесь Міхалевіч далёка не адзіны апазіцыянер, які быў выключаны з шэрагаў аднадумцаў. Да таго ж, «выключэнне» апанентаў — зусім не тая каштоўнасць, за якую змагаюцца апаненты ўлады.

Не палічыце зларадствам, але я ўсё часцей і часцей пагаджаюся з тымі, хто лічыць: адзінае, што іх можна аб'ядаць, — турма.

### Няпросты выбар

Не хочацца рабіць падобную выснову, але ў снежні 2010 года так і адбылося. За кратамі ўсе сталі палітвязнямі і толькі потым прадстаўнікамі нейкіх палітычных плыняў.

27 студзеня 2010 года Алесь Міхалевіч публічна абвясціў пра пачатак сваёй кампаніі па вылучэнні на пасаду прэзідэнта Беларусі ў якасці незалежнага кандыдата. А роўна праз тры месяцы, 27 траўня, прадставіў тэзісы сваёй перадвыбарнай праграмы «Беларусь: стратэгія эвалюцыі».

24 жніўня 2010 года ён заснаваў і ўзначаліў грамадскі рух «За мадэрнізацыю».

27 верасня 2010 года Цэнтральная выбарчая камісія РБ зарэгістравала яго ініцыятыўную групу ў колькасці 1795 чалавек.

Пасля рэгістрацыі неабходных подпісаў Алесь Міхалевіч атрымаў статус кандыдата ў прэзідэнты, але гэта не выратавала яго ад пераследу пасля выбараў. Што і як адбывалася ў тыя дні, пісалі вельмі многія. У тым ліку і я, таму, як і ў папярэднім нарысе, прапаную сайт http://kamunikat.org/usie_knihi.html?pubid=20069

У кнізе «Супраць плыні» даволі падрабязна расказана ў тым ліку і пра тое, што адбылося 28 лютага 2011 года.

Адзначу толькі, што для таго, каб не пабаяцца і публічна расказаць пра катаванні палітвязняў у СІЗА КДБ, трэба мець МУЖНАСЦЬ. Пасля гэтай заявы Алеся Міхалевіча выклікалі на допыт у КДБ, але ён туды не прыйшоў, таемна пакінуўшы Беларусь. І быў абвешчаны ўладамі ў міжнародны вышук.

23 сакавіка 2011 года стала вядома, што Алесь Міхалевіч атрымаў палітычны прытулак у Чэхіі. Цяпер ён жыве ў адной з краін Еўропы.

## Вымушаная эміграцыя

Ніколі не зайздрошчу тым, хто па палітычных матывах з'ехаў з Беларусі, хаця сярод іх сустракаюцца людзі, якія да палітыкі не маюць ніякага дачынення. У адрозненне ад іх, Алесь Міхалевіч эміграваў зусім не таму, што гэтага хацеў, а таму, што быў вымушаны.

Пасля ад'езду з Беларусі ён у асноўным займаўся навуковымі справамі. Рыхтаваў доктарскую дысертацыю, якую абараніў 10 траўня 2013 года ў Польскай акадэміі навук. Чытаў лекцыі ў некалькіх універсітэтах.

Як і трэба было чакаць, у фокусе яго ўвагі заўсёды заставалася праблема катаванняў у беларускіх турмах. Сустракаўся з гэтай нагоды са спецыяльным дакладчыкам ААН па катаваннях Хуанам Мэндэсам. Беларуская тэма яго вельмі зацікавіла. Камунікацыі працягваюцца і цяпер.

Акрамя таго, выйшаў першы нумар часопіса «Брэйнсторм», які рэдагуе Алесь Міхалевіч. Часопіс прысвечаны будучай Беларусі, рэформам, якія неабходна зрабіць у нашай краіне.

Напэўна, у гэтым месцы, па законах жанру, трэба было б паставіць кропку, але хочацца падзяліцца з чытачамі яшчэ аднымі вельмі цікавымі абставінамі асабістага жыцця Алеся Міхалевіча.

Можна сказаць, што, дзякуючы грамадска-палітычнай дзейнасці, ён сустрэў і сваю «другую палову». У траўні 1996 года для дзелавой размовы Алесь Міхалевіч сустрэўся з Міланай Шушкевіч, дачкой паэта-песенніка Міхася Серафімавіча Шушкевіча, які не мае ніякага дачынення да самага вядомага носьбіта гэтага прозвішча.

Сустрэча была звязана са справамі Задзіночання беларускіх студэнтаў. І, як успамінае сама Мілана, «нічога тады паміж імі не было, чыста працоўныя адносіны». Таму весці нейкі адлік менавіта з гэтага часу не выпадае.

Пачуцці нарадзіліся крыху пазней, а 26 жніўня 1999 выліліся ў вяселле.

Мілана Міхалевіч нядаўна скончыла аспірантуру і выкладае (па размеркаванні) англійскую мову ў адным з ВНУ.

Герою гэтага нарыса яна падаравала двух прыгожых дачок, таму напрыканцы будзе лагічней паставіць не кропку, а шматкроп'е...

# АЛЕСЬ ПУШКІН



**Падрыхтавана да друку 02.06. 2011**

*Маё знаёмства з гэтым вельмі таленавітым і цікавым чалавекам адбылося ў 1994 годзе і адразу ўразіла. Упэўнены, многія ведаюць легенду пра тое, што падчас нейкай бітвы воін сваёй крывёй правёў па бялізне паласу і падняў над галавой тое, што пазней стане бел-чырвона-белым сцягам.*

*Пушкін зрабіў крыху інакш. У медычнай установе ён здаў 250 грамаў сваёй крыві, а потым на белым палотнішчы (два на метр) правёў ёй чырвоную паласу.*

*Больш крэацыйнага варыянта засведчыць для гісторыі свой маральны выбар і прыдумаць цяжка.*

## Малюнкі дзяцінства

На Божы свет паявіўся 6 жніўня 1965 года. А літаральна праз некалькі дзён, калі мяне збіраліся ў першы раз купаць, здарыўся вельмі цікавы і містычны выпадак. Да нас прыйшоў міліцыянер. Побач з мястэчкам здарылася нейкая аварыя, і ён высвятляў усе абставіны.

Я даволі часта думаю пра гэты Знак. Шмат хто лічыць: пры першым купанні трэба ўважліва сачыць за ўсім, што адбываецца, бо нешта можа сведчыць пра далейшы лёс немаўля.

Невыпадкова, беларусы лічаць, што купанне трэба праводзіць у прысутнасці дзеда і бабы. Класці залатую манетку ў ваначку. Альбо лажыць пад яе кніжку, каб дзіця расло разумным і цягнулася да ведаў. Гэта вельмі важная рэч.

Мабыць, той выпадак паказвае, што ўсё жыццё будзе супрацьстаянне дзяржаўнага чалавека і мяне.

Тата (Мікалай Іванавіч Пушкін) меў тады сорак адзін год. У мястэчку Бобр (Крупскі раён Мінскай вобласці) ён нарадзіўся ў 1924 годзе, а памер у 2007. Пражыў тут усё жыццё. Дарэчы, адсюль усе нашы продкі па яго лініі. Дзед Іван Дамэнтавіч Пушкін жыў з 1898 года па 1978, прадзед Дамэнта Канстанцінавіч Пушкін таксама нарадзіўся і памёр у Бабры. Тут са сваімі дзецьмі цяпер жыву і я. Так што як мінімум пяць пакаленняў Пушкіных паходзяць з мястэчка Бобр.

Вельмі каштоўна, што, нягледзячы на дзве сусветныя вайны, калектывізацыю, часы «чорных варанкоў», Курапатаў, паездак на цаліну і г.д., наш род аседла жыве на адным месцы на працягу пяці пакаленняў. Ганаруся гэтым і цаню. Мне прыемна, што я хаджу па зямлі, па якой хадзіў мой прадзед, збіраю грыбы ў тым лесе, дзе мой дзед вязаў мётлы, гляджу на рэчку, дзе тата некалі лавіў рыбу.

Тата працаваў электрыкам на Бобраўскім лесапільным заводзе, які вырабляў дэталі для піяніна «Беларусь». Гэта быў філіял вядомага барысаўскага завода, а дрэвы для распілоўкі туды прывозілі з Усходняй Сібіры — цудоўныя елачкі, якія вытрымалі вельмі моцныя маразы. Вагонамі — у Беларусь, каб тут працягваліся «прыродныя спевы».

Маці звалася Ганнай Іпалітаўнай Пушкінай (дзявочае прозвішча — Сільмановіч). Яна з вёскі Ухвала, што ў 30-ці кіламетрах ад Бабра ў бок Бялыніч. Калі я нарадзіўся, яна ўжо не працавала. Інвалід другой групы. Чаму? Адразу пасля вайны яна працавала ў падсочцы і збірала смалу. У вялікія снежныя пасляваенныя зімы хадзіла ў гумовых ботах. Яе бацькоў нават «да начальства» выклікалі за тое, што яна прыдумала і спявала ў школе частушку: «Слава Сталину грузину, что он выдумал резину»...

Гумовыя боты, якія маці надзявала на ногі, каб збіраць смалу, з якой потым на каніфольнай фабрыцы рабілі серпанціну, шкіпінар, каніфоль, і сталі прычынай поліартрыту. Мяне і сястру выхоўвала ўжо хворай.

Святлана на год старэйшая за мяне, таксама жыве ў Бабры. Я вельмі рады, што мы часта сустракаемся ў бацькоўскай хаце, дзе зараз месціцца мая майстэрня, вечарамі разам п'ем гарбату і пра нешта гаворым. Для нашага часу гэта даволі рэдкая з'ява. Часцей бывае так, што адзін у Уладзівастоку альбо Алма-Аце, а другі, скажам, у Брэсце.



У мяне быў яшчэ старэйшы брат Сяргей, які ў 37 гадоў, на жаль, памёр ад гарэлкі. А яшчэ быў Аляксандр Мікалаевіч Пушкін. Нарадзіўся ён у 1960 годзе і пражыў толькі адзін годзік. На нашых могілках ёсць магіла менавіта з такім надпісам. Праз чатыры гады яго імя далі мне. Цяпер трэба пражыць «за дваіх».

## Першыя фарбы

Прыкладна з шасці гадоў пачаў маляваць. І быў такім дзіцёнкам, які не вельмі цягнецца да кампаній. Усе дзеці хадзілі на рэчку альбо ў кіно, а я заставаўся дома і маляваў. Калі мне было 13, у нашым раённым цэнтры праходзіў нейкі конкурс, куды прыехаў мастак з Мінска. Дакладней, са школы-інтэрната па музыцы і выяўленчаму мастацтву імя Ахрэмчыка, якая зараз называецца Рэспубліканскім каледжам мастацтва. Звалі яго Пётр Пятровіч Шарыпа. Тады ён быў у нашым раёне ў камандзіроўцы. У райцэнтр сабралі таленавітых дзяцей з вясковых школ, і ён праводзіў тэсты. Мы рабілі кампазіцыі, нацюрморт, малявалі алоўкам, акварэллю, а з тыльнага боку пісалі свой хатні адрас і асабістыя дадзеныя. 1978 год.

У траўні мы атрымалі запрашэнне прыехаць у Мінск на Валгаградскую, 5 (зараз вуліца Макаёнка) і прайсці другі тур экзаменаў на паступленне. Заснаваў гэтую школу-інтэрнат знакаміты Рыгор Шырма, а мэта — сабраць туды з усёй краіны таленавітых дзяцей. Спачатку яна месцілася пры Оперным тэатры, а ў другой палове шасцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя пабудавалі асобны будынак. У ім яна размешчана і сёння. Жывапіснае месца, парк Чалюскінцаў, пяць карпусоў, якія пераходамі злучаюцца паміж сабой. Гэта побач з дзіцячай чыгункай і насупраць шпіталя КДБ.

Школа была закрытага тыпу, дзе нас выпускалі за яе межы толькі з дазволу выхавацельніцы. Прама як салдат у арміі.

Бацька мой паступіў мудра — магчымасць вучыцца ў сталіцы ён вітаў вельмі шчыра. Так пасля пяці класаў сярэдняй школы вёскі Бобр я стаў працягваць вучобу ў Мінску.

Да таго ж мой тата бачыў, што ў нашым раёне ёсць адзін мастак-афарміцель, які малюе леніных-марксаў, атрымлівае шмат грошай і можа купляць тыя ж цукеркі «Мішка на поўначы» амаль кілаграмамі альбо піць самы дарагі каньяк. Бацька марыў, каб такім жа багатым, заможным стаў і я. Ён так і казаў: «Навошта табе

ўсё жыццё цягаць дошкі на станок на нашым лесазаводзе? Вывучышся, будзеш пісаць нешта накшталт «Слава КПСС!» і зажывеш вельмі добра.

Мы паспяхова здалі тры экзамены, а ў жніўні прыйшоў ліст, дзе пісалася, што я залічаны ў гэтую вучэльню. Не скажу, быццам бы для маёй маці гэта было нечым асабліва радасным. У нашым мястэчку «школа-інтэрнат» вызывала пэўныя асацыяцыі з «неблагополучными семьями», і маці не вельмі хацелася аддаваць туды свайго сына. Аднак бацька на гэты конт быў непрыступны — вучыцца.

Пётр Пятровіч Шарыпа стаў маім першым настаўнікам. Дзякуй Богу, ён жывы і сёння і дагэтуль выкладае. Не так даўно мы бачыліся на пасяджэнні суполкі «Пагоня» і дамовіліся ў будучым кантактаваць рэгулярна.

Вучыўся я да 1983 года, і, калі была абарона маёй дыпломнай працы («Вясковыя ганчары» паявіліся пасля паездкі ў Івянец), менавіта ён быў маім кіраўніком і даў характарыстыку на паступленне ў тагачасны Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, які зараз стаў Акадэміяй мастацтваў Беларусі.

Адвучыўся там восем гадоў. Капітальная адукацыя. Мы малявалі там цэлымі днямі і начамі. У класе было 16 чалавек — шэсць хлопцаў і дзесяць дзяўчат. За межы школы-інтэрната выходзілі даволі рэдка. Думалі толькі пра мастацтва.

### Палітра жыцця

Мая вучоба цягнулася там сем гадоў. Чаму так доўга? Таму што ў іх уваходзяць два гады вайсковай службы. Пасля першага курса мяне прызвалі ў знакамітую 40-ю агульнавайсковую армію, якая ваявала ў Афганістане. Дакладней, у 181 верталётны полк, што месціўся ў Кундузе. Служыў з 1984 па 1986 год.

Адразу пасля звальнення ў запас аднавіўся на другі курс. Гэта ўжо быў час (сапраўдны росквіт) перабудовы. У 1990 годзе я зрабіў дыпломную работу «Гісторыя сваёй школы», якая там вісіць і сёння. Больш за 20 гадоў. Дарэчы, менавіта за яе мяне прынялі ў Саюз мастакоў СССР. Чырвоная скураная кніжачка захавалася дагэтуль.

Беларусь быццам бы ачнулася ад сну і пачала хутка адраджацца. Гэтая хваля свабоды літаральна захліснула мяне. Я ездзіў на выставы ў Рыгу, Вільню, Маскву, Санкт-Пецярбург. Першыя вальныя соймы маладзёжных суполак. Паяўленне «Талакі», «Майстроўні», святкаванне «Гукання вясны» ў парку Янкі Купалы. На базе чацвёртага курса я стварыў першую суполку БНФ.



На гэты ж час прыходзіцца і першая «адсідка». Арыштавалі мяне за ўлёткі, якія клеіў на фасадзе нашага інстытута перад «Дзядамі» 1988 года. 15 сутак. Колькі іх будзе потым, я нават і не лічыў. Затым было святкаванне 25 сакавіка 1989 года 71-ай гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі. Я стварыў Дэкларацыю сацарту. Асабіста напісаў 12 плакатаў, якія мы хацелі несці на плошчу Леніна, але дайсці далі толькі да Дома Друку. Там і пахапалі. Арыштавалі 130 чалавек. За гэта мне тады далі два гады ўмоўна і пяць гадоў «поражения в правах», але вучоба працягнулася.

Тата гэтага зразумець не мог. У іх час мяне б у лепшым выпадку адправілі ў Сібір «валіць лес», а тут такая дэмакратыя. Словам, на сваім лёсе я адчуў, што ў краіне нешта змянілася.

1990 год. Размеркавалі ў Віцебск і адразу ўзялі на улік у мясцовай міліцыі. Працаваў там у мастацкім камбінаце, рабіў персанальныя выставы. Напэўна, цяпер такой адноснай свабоды ў Беларусі ўжо няма. З вучэбнай установы выключылі б адразу...

Чаму абраў менавіта гэты горад? Таму што ў Віцебска цудоўная гісторыя. Там працавалі Малевіч і Шагал. Спачатку я там уладкаваўся на працу ў мастацкі камбінат і нават атрымаў інтэрнат. Потым знайшоў сабе майстэрню, купіў мальберт і пачаў рыхтаваць першую выставу, якая называлася «Сацарт. Дэкларатыўнае мастацтва». Напісаў адпаведны Маніфест і зрабіў перфоманс: сеў на асла і з голубам у руцэ 25 сакавіка (Дзень Волі) пад гукі духавога аркестра праехаўся па Віцебску. І адразу са словамі «Ён прынясе нам свабоду!» гэтага голуба адпусціў. Ніякіх «дазволаў» на такія мерапрыемствы з боку ўлады тады не існавала. І ўвогуле — час быў іншы.

Мне дазволілі адкрыць першую ў горадзе, і адну з першых у краіне, прыватную галерэю. 50 квадратных метраў. Недалёка ад музея Марка Шагала. Лабараторыя эксперымента «У Пушкіна» праіснавала да 1997 года, калі цэнзура вярнулася зноў.

Паралельна некаторы час працаваў мастаком у Віцебскім акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа. І чатыры з паловай гады ездзіў кожны тыдзень у Магілёў. Тры гадзіны язды на цягніку. Туды мяне запрасіў Фелікс Янушкевіч. Дакладней, Беларуская каталіцкая грамада, якую ён узначальваў. Гэта была пара адраджэння храмаў — каталіцкіх і праваслаўных.

Я рэстаўрыраваў і аднаўляў там катэдру Святога Станіслава, цяпер гэта Кафедральны касцёл Небаўзяцця Святой Дзевы Марыі. Велічызны.

Тыдзень працаваў у Магілёве, а на выходныя ехаў у Віцебск.Сіл хапала на ўсё.

Магілёў — прыгожы горад. І час тады быў вельмі цікавы. У горадзе рэстаўрыравалі каля двух з паловай тысяч квадратных метраў фрэсак, стварылі фестываль «Магутны Божа», правялі шмат выстаў. У тым ліку і маіх.

Дарэчы, менавіта там я пазнаёміўся з будучай жонкай Янінай Дэмух. Яна працавала настаўніцай у сваім Стаўбцоўскім раёне і прыехала ў наш касцёл на вакацыі. Жонка — каталічка, муж — праваслаўны. Вельмі ўласціва нашай Беларусі.

Бралі шлюб у 1997 годзе. Выхоўваем дваіх дзетак.

### Колеры будучыні

Мястэчка Бобр паходзіць з 1516 года. Гэта афіцыйнае ўзгадванне ў летапісе. Думаю, паявілася яно крыху раней. У Бабры «да камуністаў» было дзве сінагогі, касцёл і праваслаўная царква. У 1936 годзе яе разабралі і прадалі на дровы.

Зараз у нашым мястэчку жывуць 1100 жыхароў, з якіх 78% — пенсіянеры. 50 чалавек раней былі асуджаныя. У школе вучацца 160 хлапчукоў і дзяўчынак, а ў дзіцячы садок ходзяць усяго 30 дзяцей. І адзін — мастак. Прыемна.

Невыпадкова тата, калі там адрадзілі царкву, з гонарам сказаў: «Яе будзе распісваць мой сын». Так і павінна быць у жыцці. Прызначэнне чалавека ў тым і заключана, каб вяртаць «даўгі» зямлі, якая яго нарадзіла і выхавала.

На жаль, менавіта з гэтай царквой звязана найбольш сумная падзея апошніх 15 гадоў майго жыцця. Яна з'яднала мой з Янінай лёс. Там я хрысціў сваіх доўгачаканых дзетак (Міколку — чакалі шэсць гадоў). Адпяваў маму і тату… З таго, што я зрабіў у сваім жыцці, гэтая работа была самай важнай.

17 лютага 2011 года, з двух да чатырох гадзін раніцы яе не стала. Калі ў 8 гадзін я туды прыйшоў, убачыў адны галавешкі і тры званы, якія засталіся на званіцы. Усе абразы згарэлі, а фрэскі абсыпаліся. Мароз тады быў — мінус 25. Пажарныя палівалі са шлангаў, усё цякло па сценах і замярзала, а потым разбуралася і абсыпалася. Уявіце — на гарачыя сцены льецца ледзяная вада… Патрэскалася нават падлога, хаця і была зроблена з керамічнай пліткі.



Мабыць, такой была Божая воля. Нават калі пажару «дапамаглі» нейкія спецслужбы, без жадання Яго нічога б не адбылося. Як кажуць, факт застаецца фактам. Гэтую царкву адраджалі ўсёй вёскай. Прастаяла 15 гадоў.

Зараз усяго гэтага зноў няма. Трэба пачынаць з нуля. Быццам бы ўсім нам нехта кажа: «Калі вы любіце сваю краіну, мястэчка і верыце ў Бога, рабіце ўсё па новай». Атрымліваецца своеасаблівая «перазагрузка».

Так, былі памылкі. Так, царква распісвалася і ў 1996 годзе, калі я эмацыйна рэагаваў на падзеі. Канешне, было і лукаўства, калі ў «Судным дні» намаляваў пэўных людзей. Паказваў гэта журналістам, якія зубаскалілі і задавалі складаныя пытанні бацюшку. Той чырванеў і не ведаў, што адказаць.

Вакол кіпела шмат страсцей. Была рацыя. На фрэсцы па правай старане ад Хрыста стаялі праведнікі, па левай — грэшнікі. Анёл трубіў у трубу і пад ёй — людзі. Адзін, барадаты мітрапаліт, прыкрываўся крыжам, другі з зачосам і вусамі, бараніўся вялікімі кулакамі. За імі амапаўцы. Усё было вельмі пазнавальным. Дзякуючы таму, што дакументы былі ў парадку, а эскіз зацвердзілі, сем гадоў яе ніхто не чапаў. Пасля таго, як у 2005 годзе яе паказалі «Вести», літаральна на наступны дзень у Бобр прыехалі пратаірэй Мінскай епархіі Мікалай Кожыч і з ім два невядомых чалавека (не магу знайсці іх прозвішчы). Фрэску замалявалі валікамі.

Цікава, як я ўвогуле пачаў там працаваць. 1995 год. Пасля слоў таты я зрабіў і прынёс на пасяджэнне царкоўнага камітэта (зараз іх ужо няма) праект на трох планшэтах. «Дваццатка» (колькасць чальцоў) усё гэта ўважліва разгледзела, бабулі пасадзілі мяне ў машыну (тры селі побач) і павезлі на споведзь да благачыннага айца Івана Місіюка, які тады быў галоўным у нашай акрузе. Споведзь, як у першых хрысціян, была публічнай, і, калі я нешта спрабаваў замаўчаць пра сваіх дзяўчат, бабулі адразу задавалі адпаведныя пытанні. Толькі пасля гэтага Благачынны даў благаславенне і зацвердзіў яго пячаткай. Гэта потым выратавала і дазволіла фрэскам пасля існаваць да «цэнзарскіх валікаў».

…Зразумела, што пасля таго, як царква згарэла, людзі казалі — з-за Пушкіна, таму што там быў намаляваны Лукашэнка. Магчыма,

і так. Але менавіта яны вырашылі, што адраджаць фрэскі буду так-сама я.

Жартую, што пасля пажару ў мяне было тры шляхі.

Першы — спіцца, паламаць пэндзлі, выкінуць палітру, бо такая Божая воля і яму не даспадобы такое мастацтва.

Другі — з'ехаць у эміграцыю, бо ў Беларусі працаваць мне не даюць.

Трэці шлях — зноў брацца за работу па аднаўленні нашай царквы.

Яго і абраў.

# БАРЫС ПЯТРОВІЧ



**Падрыхтавана да друку 02. 02 2010**

*Калі выйшлі «Лёсы», я думаў, што ўсіх (50 чалавек) там «перапісаў». Акадэмік Радзім Гарэцкі з гэтым не пагадзіўся. Гэтага чалавека я і лічу тым, хто прэзентаваў мне ідэю стварэння «Лёсы. Працяг».*

*Менавіта дзякуючы яму, пазней я і звярнуўся да рэдактара часопіса «Дзеяслоў» Барыса Пятровіча (Сачанкі) з просьбай раказаць пра сваё жыццё.*

Дзіўна, але я памятаю, як нарадзіўся. Памятаю свае першыя хвіліны на гэтай зямлі.

Кажуць, што гэта немагчыма. Што памяць чалавечая пачынае працаваць з двух-трох гадоў, а таму першыя ўспаміны могуць быць толькі з таго часу, не раней. Але ж я памятаю... Перапытваў потым у мамы, як гэта было, і ўспаміны нашыя супадалі. Як і крыху пазнейшыя, пра якія яна і сама забыла. Скажам, пра тое, як мяне хрысцілі — мне было тады паўтары гады. І я памятаю завейную зіму, сані з параю коней, на якіх мы ехалі да бліжэйшай чыгуначнай станцыі, паравоз увесь схаваны ў белым-белым дыме... Часы былі хрушчоўскія, і бліжэйшая царква знаходзілася ў Васілевічах — гэта кіламетраў сорак ад нас. Памятаю бацьку свайго і бацьку хроснага... Дарэчы, бацька мой быў камуністам, чым вельмі ганарыўся, але пры гэтым пахрысціў не адзін дзясятак вясковых дзетак. І згадваю, як, калі я быў недзе ў дзявятым класе, у раённай газеце з'явілася нататка пад назвай «Камуністы хрысцяць дзяцей», галоўным героем якой быў мой бацька, а падпісаная яна была... васілевіцкім папом... Бацька моцна перажываў, баяўся, што выключаць з партыі, але ўсё абышлося вымовай.

Дык вось, нарадзіўся я сонечным ранкам 17 ліпеня 1959 года ў вёсцы Вялікі Бор Хойніцкага раёна. Так запісана ў метрыках. Бо насамрэч я нарадзіўся ў суседняй вёсцы Партызанская, дзе была бальніца. Бальніцу з Вялікага Бору перанеслі туды пасля вайны, бо нашу вёску на пачатку лета 1943 года немцы спалілі. Цалкам, не засталося ніводнага дома. Вёска была па-паляшуцку вялікая, доўгая, выцягнутая на выспе паміж двума балотамі кіламетраў на пяць. Немцы зайшлі з боку Хойнікаў і паспелі акружыць толькі палову вёскі. Жыхары другой паловы ўцяклі ў лес. Сталася так, што бацька мой жыў у акружанай частцы і яго разам з сям'ёй вывезлі ў Германію. А сям'я маці, пад аўтаматнымі чэргамі, па высокім ужо жыце ўцякла ў лес. І маці, і бацька часта ўспаміналі вайну. Бацька пра жыццё ў Германіі — згадваў добра: там ён упершыню ўбачыў белы хлеб і цукеркі. Баўэр, у якога жыла і працавала іх сям'я, трапіўся чалавечны, усяляк дапамагаў ім і не крыўдзіў. Пазней Віктар Корзун і Кася Камоцкая знялі пра гэта фільм, але ён «не пайшоў», бо пра немцаў (а ўсе яны... фашысты) нельга згадваць добра... Згадкі ж мамы пра жыццё ў лясным шалашы да вызвалення былі жудасныя. Голад, холад, кару грызлі, казала яна... Не лягчэй было і потым, калі на пачатку зімы вярнуліся ў вёску на папялішча. А яшчэ вызваліцелі адразу ж забралі ў войска яе бацьку, якога напрыканцы лета 1941 года маці (мая бабуля) выкупіла ў немцаў з палону ажно ў Бабруйску, куды хадзіла пяшком. І засталася маці маёй мамы з пяццю дзецьмі на папялішчы, на голым снезе... Нацярпеліся гора. Асабліва ўспаміны пра вайну абвастрыліся, калі немцы пачалі даваць кампенсацыю тым, хто працаваў у Германіі (а такіх у нас было, я казаў, палова вёскі). Мама з крыўдай гаварыла: «Мы гаравалі тут у голадзе і холадзе, і нам твае камуністы нічога не плоцяць, а вы там жылі ў цяпле і елі прысмакі, і вам цяпер яшчэ грошы даюць...». Зразумела, бацькі мае родам з гэтай вёскі, дзяды і прадзеды адсюль таксама, праўда, ведаю іх да пятага калена толькі па імёнах. Бацька большую частку жыцця адпрацаваў на дробных кіраўнічых пасадах: загадчык клуба, брыгадзір, апошняя пасада гучная — дырэктар цагельнага завода, але той заводзік калгасны меў хіба два-тры дзясяткі сезонных рабочых. Бацька любіў выпіць. Зап'е — звольняць, а потым прапануюць нешта іншае... Паміж пасадамі цясляры́ў. Іду цяпер па вёсцы і ведаю, што вось гэты дом ставіў мой бацька, і такіх ці не чвэрць ад усіх... Мама спачатку сядзела дома з намі дзецьмі (а ў мяне яшчэ дзве малодшыя сястры), а потым «зарабляла пенсію» на розных работах, найбольш якраз на той самай цагельні.

Варта колькі слоў сказаць пра маю вёску, цяпер чарнобыльскую, але, дзякуй Богу, зачэпленую краем і неадселеную. Заснавалі яе паводле няпэўных звестак напрыканцы шаснаццатага ці пачатку сямнаццатага казакі, якія сыйшлі сюды з Запарожскае сечы (думаю, некалі адсюль туды яны і пайшлі, таму і вярнуліся дамоў). Таму ў вёсцы было пяць-сем асноўных прозвішчаў, і ўсе з канчаткамі на ўкраінскі манер. Але мова была цалкам беларуская з некаторымі паляшуцкімі адметнасцямі. Прычым непадобная нават на блізкую — праз балота — мележаўскую. У іх оканне (бацько, матко) — у нас аканне (бацька)...

Пра маю дарэвалюцыйную вёску пісаў Чэслаў Пяткевіч: у ягонай кнізе «Рэчыцкае Палессе» ці не палова звестак запісана ў маёй вёсцы, дзе ён жыў. Цікавы народ вялікаборцы, творчы. Адзін толькі прыклад: з нашае вёскі выйшла некалькі беларускіх пісьменнікаў — Барыс Сачанка, Алесь Шлег, Змітро Бяспалы. Шмат журналістаў, навукоўцаў, выкладчыкаў ВНУ. Іншай такой вёскі ў Беларусі я не ведаю, ды і не кожны горад можа пахваліцца такімі землякамі. Барыс Сачанка — брат майго бацькі, Змітро Бяспалы — брат мамы. Шлег таксама недалёкая радня...

Паколькі так на мне сыйшлося, то нібыта сам лёс наканаваў быць пісьменнікам. Але ў дзяцінстве я, як большасць маіх аднагодкаў, на якіх прыпалі першыя палёты ў космас, марыў стаць касманаўтам. Адназначна. Потым пра гэтую мару давялося забыць, бо ў адзінаццаць гадоў я патрапіў у бальніцу і на доўгія тры гады быў выбіты нават з заняткаў у школе. У Хойніках мяне б і залячылі, калі б дзядзька Барыс не перавёз у Менск да земляка, прафесара Саўчанкі, тады міністра аховы здароўя, дзякуючы якому я патроху і выкараскаўся са сваёй хваробы, як казалі тады — пераросс...

Дзіўлюся цяпер: Барыс Іванавіч быў дужа заняты, працаваў тады ў «Полымі», потым сакратаром Саюза пісьменнікаў, але ледзь не кожны дзень прыязджаў да мяне ў бальніцу.

Усе ведаюць, якім ён быў кніжнікам і якая ў яго была бібліятэка. Я страшна любіў чытаць. А чым было тады заняцца ў бальніцы: тэлевізара не было, тым болей — інтэрнэта, хіба карты ды шахматы... Барыс Іванавіч за тыя тры гады перавёз мне на прачытанне значную частку сваёй бібліятэкі. Спачатку дзіцячую літаратуру —

пра ўсіх тых Васькоў Трубачовых ды Віцек Малеевых, Чынгачгукаў ды Ацэолаў, а потым і класіку рускую ды замежную... Я кажу цяпер, што курс маладога байца прайшоў тады. А таму калі паступіў на журфак БДУ, то некаторыя мае аднакурснікі здзіўляліся: вясковы хлопец, а такі начытаны. Болей за тое, да таго часу я адышоў ад класічнай літаратуры і захапіўся авангардам пачатку мінулага стагоддзя: акмеісты, футурысты, дадаісты... Яшчэ адзін штрых: у бальніцы я ляжаў у дарослым аддзяленні. Траплялі ў тое аддзяленне не самыя простыя людзі, больш начальства ды інтэлігенцыя. Часы былі такія, што яшчэ памяталася хрушчоўская адліга і частыя былі размовы пра сталінізм ды рэпрэсіі. Па руках гулялі кнігі пра гэта, якія я не прамінаў чытаць нават пры святле вулічнага ліхтара, бо ў адзінаццаць вечара святло выключалі. І тады я прывучыўся слухаць замежнае радыё — розных «клеветников»: «Голас Амерыкі», «Бі-бі-сі». Таму, калі вярнуўся дамоў, першай справай папрасіў бацькоў набыць мне радыёпрыёмнік.

Пачаў спрабаваць нешта пісаць яшчэ ў школе. Але доўга нікому не паказваў напісанае. Бо пісаў я не так, як усе, і, мякка кажучы, трошкі не пра тое. Ну не сацрэалізм то быў. Калі адважыўся нарэшце недзе на другім курсе журфака паказаць колькі апаведаў Барысу Іванавічу, ён прачытаў і сказаў: «Табе рана яшчэ так пісаць...» Я і зразумеў яго і не зразумеў. Адзін з тых апаведаў («Развітанне») друкаваўся потым у маёй першай кнізе. Пра бабульку, якая збірала міластыню. Ну хіба ж можна было тады (1980 год) пісаць пра савецкіх жабракоў? Да таго ж яна ў мяне была каханкай паліцая і адсядзела за гэта ў лагерах... Карацей, дэбют у літаратуры давялося адкласці на гады.

Школу я скончыў на тры гады пазней за сваіх аднагодкаў, але, паступіўшы на журфак, многіх хлопцаў-аднакурснікаў, якія адслужылі ў войску, нагнаў — Сяргея Дубаўца, Ігара Герменчука, Сяргея Астраўца... Увогуле, і тут мне пашанцавала: курс наш быў дужа багаты на таленты. Дружны і... надзвычай беларускі. Дакладней, беларускамоўна арыентаваны. Хлопцаў я ўжо назваў, а з дзяўчат Таню Сапач (цудоўная паэтка, якая нядаўна трагічна загінула) і Віялету Яфіменка нават на трэцім курсе (1982 год) прымусілі перавесціся на завочнае аддзяленне за вечарыну, прысвечаную Максіму Багдановічу, на якой яны прачыталі верш «Пагоня». Цяпер падаецца гэта дзіўным і немажлівым, але яно было.



Беларусам сябе адчуваў заўсёды. І пісаў па-беларуску. Але на журфаку бліжэй сыйшоўся з хлопцамі, якія пісалі па-руску. Цяпер яны ўсе расейскамоўныя пісьменнікі — Радзік Лапушын, Валодзя Сотнікаў, Валодзя Сяменчык — і жывуць за межамі Беларусі. Стаў і сам спрабаваць пісаць па-руску, прыдумаў сабе ідэю-фікс: ажыўляць рускую мову беларускімі слоўцамі гэтак, як Шукшын сваімі алтайскімі, каб глядзеліся яны ў чужой мове не варварызмамі, а арганічна, прыгожа... Не атрымалася. Не ўлазілі мае героі і мае апісанні іх думак, нашай прыроды ў рамкі рускай мовы, вытыркаліся, не былі жывымі і жыццёвымі — сапраўднымі, хоць ты крычы. І ў рэшце рэшт я вярнуўся да беларускай мовы. Але тое ўжо было ў Гомелі, дзе па размеркаванні мы сталі працаваць разам з Сяргеем Дубаўцом у абласной газеце.

Са студэнцтва найбольш памятныя тры будатрадаўскія леты. Першае на Пскоўшчыне, непадалёку ад пушкінскіх мясцінаў, другое і трэцяе ў Карэліі. Кожны будатрад неймаверна насычаны падзеямі, асабліва апошні, калі я быў камандзірам. Усё ж адказваць не толькі за сябе, але яшчэ і за тых хлопцаў і дзяўчат, якія табе паверылі, — выпрабаванне не з простых... Ну і, вядома, журналісцкая практыка на Сахаліне. Як празаік я пра сябе, грунтуючыся на фактах са сваёй біяграфіі, амаль не пісаў (з таго ж бальнічнага дзяцінства хіба адзін кароценькі апавед, а з будатрадаўскага — ні слова), бо некалі ўзяў сабе за прынцып «выдумваць праўду», зыходзячы з жыцця, а не браць яе голую і занатоўваць. Вось толькі хіба аповесць «Пуціна» найбольш аўтабіяграфічная: там я распавядаю пра сваю паездку ў камандзіроўку на Курылы, на востраў Шыкатан. А ўвогуле ўспамінаў ад той практыкі хапіла б не на адзін раман, асабліва пра нашае вяртанне дамоў на цягніку праз увесь СССР ад Уладзівастока да Менска... Але тыя часы адышлі ў гісторыю і, мне падаецца, сталі неактуальнымі — засталіся хіба як факты мінулага, пра якое альбо добра, альбо ніяк. Але добрага якраз было мала...

Дэбютаваў позна. У 29 гадоў. Першая кніжка выйшла ўвогуле ў 33. Журналісцкая праца не адпускала. Сельгасаддзел «Гомельскай праўды» выядаў мазгі. Апроч таго, і сам я не дужа спяшаўся з публікацыямі, хоць такія мажлівасці былі. І хто яго ведае, калі б Сяргей Дубавец, пераехаўшы з Гомеля ў Менск, не ўзяў мае апаведы і не надрукаваў адзін у «Крыніцы», а другі ў зборніку «Тутэйшых», то ці ўвогуле адважыўся б я іх друкаваць. Ну, а як той казаў, хто пачаў — той ужо не пачынаючы...

Пазней, скарыстаўшы «службовае становішча», надрукаваў у «ЛіМе» свае «Мроі» — як цяпер кажуць, мікрапрозу, мініяцюры, пісаныя на мяжы явы і сну, калі я стомлены прыходзіў з працы і адпускаў галаву на волю. Пісаў тое, што хацелася, і так, як хацелася... Далей былі нізкі аповедаў «Трызненні», «Непатрэбныя рэчы», «Фрэскі», «Піліпікі»... Тое, што раней успрымалася творчымі пошукамі, эксперыментатарствам, «авангардам» у параўнанні з тагачаснай беларускай літаратурай, сёння ўжо так не выглядае, бо маладзейшыя пайшлі далей.

Праца ў «Гомельскай праўдзе» — доўгіх шэсць гадоў. Пры ўсім пры тым — слаўныя былі часы. Пачалася перабудова. Пры газеце мы з Сяргеем Дубаўцом стварылі моладзевае аб'яднанне, якое потым перарасло ў гомельскую «Талаку», якая існуе і па сёння і на базе якой узраслі ці не ўсе дэмакратычныя суполкі ды партыі горада.

Дзіўна, але беларускамоўнай моладзі ў здавалася б самым русіфікаваным беларускім краі аказалася нямала. «Мы будзем змагацца за незалежную Беларусь нават са зброяй у руках», — наіўна гаварылі мы між сабою. І ніхто не думаў, што «волат на гліняных нагах» і сам разваліцца праз пяць гадоў... Так, калі б не перабудова, то сядзець бы нам усім далёка з тымі думкамі пра незалежнасць... Такім чынам, менавіта там, у Гомелі, адбылося і маё канчатковае далучэнне да незалежніцкага руху, бо, шчыра прызнаюся, у студэнцкія гады хоць і бываў на нейкіх імпрэзах «Майстроўні», ладжаных маімі аднакурснікамі, але ўдзел у іх не браў. Больш за тое, назіраў за гэтым трошкі так скептычна: песні спяваюць, святы ладзяць...

У 1990 годзе пераехаў у Менск. Спачатку на працу ў «Звязду», а праз чатыры месяцы перайшоў у «ЛіМ». Дыхалася тут лягчэй ды і сама праца была больш творчай. Прыдумаў сабе рубрыку «Кола дзён», якую рабіў фактычна адзін, хіба падчас адпачынку падмяняў тагачасны галоўны рэдактар Мікола Сымонавіч Гіль. Думаю вось, калі б сабраць тыя «колы» ды выдаць, быў бы сапраўдны летапіс тых гадоў, бо стараўся падбіраць самыя адметныя падзеі і коратка каментаваць іх. Памятаю, да прыкладу, што ледзь як не трагедыя была ўспрынятая мною вестка, што Беларусь стане прэзідэнцкай краінай. Я быў за парламенцкую — як ідэальную для тагачаснай Беларусі. Прынамсі, гэта не прывяло б да канцэнтрацыі ўсёй улады ў адных руках і да дыктатуры. Тое, чаго баяўся, здарылася, а таму з 1997 года далучыўся да праваабарончага руху, да «Вясны» Алеся Бяляцкага. Як журналіст, да апошняга часу рабіў «вясноўскі» бюлетэнь «Права на волю».



У 2002 годзе, у траўні, калі ў дзяржавы «дайшлі рукі» да пісьменніцкага друку, пачалася, як вобразна назваў Сяргей Іванавіч Законнікаў, «касценізацыя» літаратуры. Тады я вырашыў, што заставацца працаваць у падкантрольным, падцэнзурным «Полымі» (у 2000 годзе перайшоў сюды з «ЛіМа») не змагу. Сама сабой паўстала ідэя стварэння незалежнага літвыдання. Спачатку я думаў, што ўдасца гэта зрабіць разам з Законнікавым, але ў яго была свая каманда, у якой мне месца не знайшлося. І тады я падумаў — няхай будзе два выданні: адно для старэйшых пісьменнікаў, другое — для маладзейшых.

Так паўстаў «Дзеяслоў». Чаму такая назва? Слоўца надта ж добрае беларускае, шматзначнае, сімвалічнае: і слова тут, і дзея. Яшчэ ў дзевяностыя гады пры «ЛіМе» мы хацелі стварыць дадатак з такой назвай, а потым, калі Людміле Рублеўскай прапанавалі весці літаратурную перадачу на радыё і яна доўга не магла прыдумаць назву, я сказаў ёй, што маю адно магічнае слоўка, якое будзе адразу прынятае. Яна не паверыла, але сапраўды назву прынялі. І перадача «Дзеяслоў» выходзіла на беларускім радыё да «Дзеяслова» папяровага з год. А потым назва гэтая спатрэбілася і мне самому.

Калі пачыналі, і не думаў, што давядзецца дайсці аж да пяцідзясятага нумара. Думаў, зробім нумар другі і ва ўладзе апамятаюцца, што ўчынілі нешта не тое са сваім холдынгам. Не апамяталіся. Давялося брацца за справу ўсур'ёз. Пра тое, што значыць рабіць часопіс у сённяшніх умовах — асобная і доўгая размова. Але важна, што ўдалося захаваць абраны рытм і што двамесяцы рэгулярна, без збояў і пропускаў часопіс прыходзіць да сваіх чытачоў і аўтараў. Што будзе далей — не загадваю. Але пяцьдзясят нумароў — гэта пяцьдзясят тамоў анталогіі беларускай літаратуры і літаратурнага жыцця за прамінулыя восем гадоў. Бяру першы нумар, другі, чытаю і бачу, што сапраўдная літаратура, як і добрае віно, з гадамі робіцца толькі... смачнейшай.

Зноў жа, паралельна, з верасня 2002 года працую яшчэ і на грамадскіх пачатках намеснікам старшыні Саюза беларускіх пісьмен-

нікаў. Розных клопатаў вышэй галавы, а таму на працу на сябе, на ўласна творчасць часу амаль не застаецца, пішу мала... Апошняе, што надрукаваў летась, — аповесць «Плошча: гісторыя аднаго кахання», прысвечана яна ў значнай ступені падзеям вясны 2006 года...

Што яшчэ дадаць? Жанаты. Жонка Людміла родам з Гомеля. Сваім двум сынам кажу, каб па нявест ехалі ў Гомель, бо там жывуць самыя прыгожыя дзяўчаты ў Беларусі. Не — самыя прыгожыя ў свеце...

# ПАВЕЛ СЕВЯРЫНЕЦ



**Падрыхтавана да друку 03.06.13**

*Напэўна, калі б не палітыка, з яго б адбыўся выдатны геолаг. На час выпуску з геалагічнага аддзялення геафака БДУ Павел Севярынец сабраў калекцыю, дзе было больш за дзве тысячы камянёў Беларусі.*

## Час пазнаваць свет

Напэўна, творчы падыход і жаданне ўсюды нешта шукаць у Паўла Севярынца ад бацькоў. А яшчэ ад самаахвярнасці ў пошуках ісціны і непрыняцця любой хлусні.

Яго маці Таццяна Яўгенаўна Севярынец родам з Лунінца Брэсцкай вобласці. Амаль 36 гадоў працавала настаўніцай у розных школах. Да 2007 года, калі яе беспадстаўна звольнілі. Быццам бы за прагулы, але ўсе ведалі, што сапраўдная прычына ляжыць у палітычнай плоскасці. Прагулы арганізавала сама адміністрацыя школы, і вельмі цяжка паверыць, што без загаду з самага верху.

Канстанціна Паўлавіча Севярынца больш ведаюць як дзіцячага пісьменніка Кастуся Севярынца. Нарадзіўся ён у гомельскай вёсцы Унорцы, што ў 80-ці кіламетрах ад Чарнобыльскай станцыі. Лёсператварыў яго з дырэктара школы ў журналіста, а прыродны талент дазволіў даволі хутка вырасці з журналіста раёнкі і рэдактара заводскай шматтыражкі да ўласнага карэспандэнта БЕЛТА-ТАСС па Віцебскай вобласці.

Кастусь і Таццяна пазнаёміліся на філалагічным аддзяленні БДУ, дзе абодва вучыліся. Вяселле адбылося 18 красавіка 1975 года, а 30 снежня 1976 года ў Оршы нарадзіўся хлопчык, якога ў гонар дзеда назвалі Паўлам.

У Віцебск Кастуся Севярынца накіравалі ў 1985 годзе, таму ўсё жыццё яго сына Паўла звязана менавіта з гэтым горадам.

## Час збіраць камяні

Спачатку было захапленне, потым — хобі і выбар прафесіі. Гэта пра геалогію.

Яшчэ ў дзяцінстве з сябрам Алегам Баршчэўскім (пляменнік Лявона Баршчэўскага і муж Вольгі Карач) Павел Севярынец апрацоўваў і шліфаваў жоўтыя халцэдоны, якіх у Беларусі вельмі багата. Хлопчыкі рабілі з іх пярсцёнкі і розныя ўпрыгожванні. А ў пошуках каштоўнага горнага крышталя нават спрабавалі збудаваць плаціну на рэчцы Лучоса (прыток Заходняй Дзвіны).

Гэта я да таго, што стаць геолагам Паўлу Севярынцу было наканавана лёсам. Як і палітыкам.

Упэўнены, кожнаму з нас даводзілася чуць міф пра тое, што ў Беларусі няма ніякіх карысных выкапняў, краіна бедная. Мякка кажучы, гэта не так. Сярод 40 краін Еўропы Беларусь уваходзіць у дзясятку самых забяспечаных мінеральнымі рэсурсамі (калійныя і каменныя солі, будаўнічыя матэрыялы, торф, падземныя воды, крэйда і г.д.). Нават калі браць камяні, з якіх можна вырабляць упрыгожванні і сувеніры, Беларусі ёсць чым пахваліцца. Гаворка пра гранат, халцэдоны, розных відаў кварц, бурштын, кварцыты, крэмні.

У свой час у Паўла нават была мара стварыць цэлую галіну вытворчасці, нарабіць выключна беларускіх сувеніраў, якія былі б нашай адпаведнасцю ўральскаму малахіту альбо прыбалтыйскаму бурштыну.

Дарэчы, яго дыпломная работа называлася «Бурштын Беларусі». Абараніць яе дапамог Аляксандр Казулін, які на той час быў рэктарам БДУ. Справа ў тым, што работа была напісана на тарашкевіцы, і дэкан факультэта кінуў яе Севярынцу ў твар са словамі: «Такой мовы мы не ведаем». Аднак пасля сур'ёзнай размовы з рэктарам Казуліным працу (змятую і перакрэсленую) прынялі і паставілі за яе «выдатна».

## Час рабіць выбар

У той час бліжэйшы да Беларусі Горны інстытут быў у Ленінградзе, а ў пачатку незалежнасці на геаграфічным факультэце БДУ было адкрыта геалагічнае аддзяленне, на якое і паступіў Павел Севярынец. Цікава, што самым першым выпускам апекаваўся знакаміты акадэмік Радзім Гарэцкі. Менавіта таму 70 адсоткаў новага прадмета выкладалася на беларускай мове.



Для Паўла Севярынца гэта было асабліва значна, бо на той момант ён ужо цвёрда ведаў, што абавязкова прысвяціць сваё жыццё папулярызацыі і адраджэнню ўсяго беларускага.

Шчыра кажучы, не вельмі люблю ў сваіх нарысах пафас, але ў дадзеным выпадку ён цалкам адпавядае рэчаіснасці. Для розных газетных артыкулаў я некалькі разоў размаўляў з Паўлам. Адзін рэдактар нават выказаў пажаданне ўбачыць размову з ім на рускай мове. Не атрымалася, бо ўжо з першых хвілін стала ясна, што Севярынцу на самой справе вельмі цяжка размаўляць не па-беларуску.

Менш за ўсё хацелася б, каб у некага склалася ўражанне, што Павел Севярынец адмарожаны нацыяналіст, хаця, на мой погляд, у апошнім слове не павінна быць нейкага негатыву па вызначэнні. Літаральна некалькі месяцаў таму Кастусь Севярынец прэзентаваў рускамоўны варыянт кнігі свайго сына «Люблю Беларусь».

Дарэчы, пераклад кнігі «Люблю Беларусь» на рускую мову Канстанцін Паўлавіч Севярынец зрабіў асабіста, што цалкам абгрунтавана яго філалагічнай спецыялізацыяй — руская мова і літаратура (як і ў маці — Таццяна Яўгенаўна амаль 37 гадоў выкладала ў школе менавіта «великий и могучий», і менавіта сын стымуляваў і дапамагаў ёй стаць беларускамоўнай).

## Час абраў яго

Мне ўжо даводзілася пісаць, што геаграфічны факультэт БДУ у свой час быў ледзь не крыніцай палітычнага вальнадумства краіны. Геалагічнае аддзяленне не выключэнне, бо акрамя Паўла Севярынца там вучыўся яшчэ і Вячаслаў Сіўчык.

Вучобу Павел Севярынец скончыў у 2000 годзе і атрымаў прафесію інжынера-геолага па спецыяльнасці «Разведка карысных выкапняў», аднак менавіта ў гэты час палітычныя віры дасягнулі свайго апагею на прэзідэнцкіх выбарах.

Павел падтрымліваў Зянона Пазьняка, таму той факт, што ў кастрычніку 1995 года ён уступіў у БНФ «Адраджэнне», выглядае цалкам лагічным крокам.

У лютым 1997 года Севярынец узначаліў Мінскую моладзевую фракцыю БНФ, а ў верасні на Устаноўчым сойме быў абраны сустаршынёй «Маладога фронту». Дарэчы, адным з хросных бацькаў стварэння МФ па наш дзень называюць згаданага вышэй Вячаслава Сіўчыка, які на той час быў адным з лідараў БНФ.

Узгадаў я гэты факт наўмысна, бо чым далей падзея па часе, тым больш становіцца тых, хто ініцыяваў яе стварэнне... З народзінамі «Маладога фронту» можа адбыцца тое ж самае, што калісьці было з ленінскім бервяном на суботніку, якое неслі тысячы людзей...

І яшчэ адзін вельмі прынцыповы момант. У 1994—1999 гадах Павел Севярынец працаваў рэпарцёрам шэрагу дзяржаўных і камерцыйных выданняў, а з 1998 года пачаў друкавацца ў незалежнай прэсе як публіцыст. Там пачатак яго будучых кніг: «Ды-джэй Адраджэння» (1998 г.), «Пакаленне Маладога фронту» (2002 г.), «Нацыянальная ідэя» (2005 г.), «Лісты з лесу» (2007 г.), «Брату» (2007 г.). Павел Севярынец — лаўрэат літаратурнай прэміі Беларускага ПЭН-цэнтру імя А. Адамовіча.

### Пакутныя часы

За ўдзел і арганізацыю вулічных выступаў моладзі Паўла Севярынца за перыяд з 1997 па 2004 гады супрацоўнікі КДБ і міліцыі затрымлівалі больш за 40 разоў. Агулам Павел правёў пад арыштам амаль восем месяцаў і атрымаў 3,5 тысячы долараў (беларускімі рублямі — па курсу Нацбанка, зразумела) штрафаў.

Натуральна, што ўсё гэта мела і кар'ерны адбітак. З 1999 па 2004 год Севярынец быў лідарам «Маладога фронту».

Менавіта ў гэтыя часы ў старэйшай і некалі самай моцнай апазіцыйнай структуры пачалося тое, што называюць паляваннем на ведзьмаў. Павел Севярынец быў адным з першых, каго (па асабістаму жаданню) выключылі з шэрагаў руху БНФ «Адраджэнне». Каментаваць падобнае з пазіцый логікі вельмі цяжка, але не здзіўлюся, калі некалі высветліцца, што за разборкі ў БНФ нехта ў спецслужбах атрымаў «внеочередное воинское звание»...

Не раз даводзілася чуць, што рэлігійны складнік у дзейнасці «Маладога фронту» з часам пачаў дамінаваць не менш за палітычны. З гэтым цяжка не пагадзіцца, але асабіста я не бачу тут нічога экстраардынарнага. Магчыма, мы назіраем своеасаблівую кампенсацыю адсутнасці ў грамадстве рэлігійнага складніку на працягу дзесяцігоддзяў.



Можа, гэта прагучыць крыху надумана, але, на мой погляд, вера ў Бога ўскосна і стала прычынай... другой хіміі Паўла Севярынца.

Патлумачу. У 2005 годзе адбыўся ўстаноўчы з'езд Беларускай хрысціянскай дэмакратыі (БХД), дзе аднаго са стваральнікаў партыі Паўла Севярынца абралі сустаршынёй новай структуры. Пасля абвяшчэння ў 2010 годзе чарговых прэзідэнцкіх выбараў ён узначаліў выбарчы штаб другога стваральніка і сустаршыні БХД Віталя Рымашэўскага.

20 снежня 2010 года Паўла арыштавалі і змясцілі ў следчы ізалятар КДБ. 16 траўня 2011 года яго асудзілі да трох гадоў абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу — на так званую «хімію». Спачатку Паўла Севярынца абяцалі накіраваць у родную Віцебскую вобласць, аднак потым перайгралі (а можа, ведалі пра гэта з самага пачатку...) на спецкамендатуру №7 вёскі Куплін Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці. Там ён зараз у фермерскай гаспадарцы «Бардо» і працуе.

Напэўна, гэта прагучыць спрэчна, але асабіста я перакананы, што за кратамі Севярынца сёння трымаюць перш за ўсё таму, што не могуць нічога зрабіць з яго шчырай верай у Госпада.

А папярэдняя «хімія» (за арганізацыю акцый пратэсту супраць вынікаў рэферэндуму, які дазволіў Лукашэнку абірацца неабмежаваную колькасць разоў) праходзіла для яго на лесанарыхтоўках вёскі Малое Сітна Полацкага раёна Віцебскай вобласці. 31 траўня 2005 года Паўла Севярынца прысудзілі зноў-такі да трох гадоў, але потым скарацілі гэты тэрмін на год. За два месяцы да сканчэння тэрміну вызвалілі, што было пададзена афіцыйнай прапагандай як праява вышэйшай міласэрнасці і літасці.

Напэўна, магла б быць і яшчэ адна адсідка. 2 красавіка 1998 года падчас апазіцыйнай маніфестацыі ў Мінску і за «зрыў канцэрта, прысвечанага аб'яднанню Расіі і Беларусі», Павел Севярынец быў змешчаны на Валадарку. Праз 2 месяцы пад ціскам беларускай і міжнароднай грамадскасці яго вызвалілі і адправілі пад падпіску аб нявыездзе ў Віцебск. Крымінальная справа тады была закрытая ў лістападзе 1998 года. Без тлумачэнняў і прабачэнняў.

***

У чэрвені 2008 года разам з паэтам Рыгорам Барадуліным і пісьменнікам Уладзімірам Арловым Павел Севярынец стаў першым лаўрэатам прэміі «За свабоду думкі», якую штогод рух «За свабоду» ўручае на радзіме Васіля Быкава. Вядома, што розных узнагарод у яго яшчэ шмат, але спыняю ўвагу менавіта на гэтай. Чаму? Таму што яе назва больш за ўсё адпавядае сутнасці героя — змаганне за свабоду думкі.

P.S. Пакуль ішла работа над гэтай кнігай, Павел Севярынец выйшаў на свабоду. Дзякуй Богу! Шчыра віншую!

# МІКОЛА СТАТКЕВІЧ



Падрыхтавана да друку 07.06.13

*Напісаць нарыс пра Статкевіча трэба было даўно. Але перашкаджалі нашы з Міколам не вельмі ветлівыя ўзаемаадносіны. Падчас прэзентацыі кампаніі «Тыдзень палітвязня» мне стала зразумела, што асабістае заўсёды павінна саступаць месца аб'ектыўнаму.*

## Шлях да свету

Пачаць хочацца з кароткага ўспаміну, які прыгадаў сам Мікола Статкевіч у верасні 2006 года ў сваім эсэ, што напісаў у вёсцы Блонь Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці, дзе адбываў «хімію».

«**Было гэта на адным з палігонаў у казахскім стэпе, куды наша брыгада прыехала з Поўначы для баявых стрэльбаў па паветраных мішэнях. Камандны пункт брыгады, за тэхніку якога я адказваў, месціўся ў бункеры з вельмі складаным уваходам, падобным да лабірынта з перашкодамі. Аднойчы, калі мне трэба было тэрмінова трапіць на паверхню, мясцовы інструктар сказаў, што ёсць яшчэ адзін, вельмі просты выхад — цёмны калідор. Ён зачыніў за мной браніраваныя цяжкія дзверы, і я апынуўся ў поўнай цемры. Хацелася вярнуцца назад, у апаратыўную залу каманднага пункта, дзе ў вялікай прасторы зялёным ды сінім свяціліся шматлікія планшэты і экраны. Пайшоў наперад, выставіўшы рукі перад сабой. Амаль адразу наткнуўся на халодную сценку калідора. Узяў у другі бок. Вельмі хутка — зноў сцяна. Пакрысе, усё радзей натыкаючыся на сцены, я выбраў накірунак, які вывеў мяне да такіх жа браніраваных дзвярэй, за якімі было неба і заліты сонцам стэп**».

Сімвалічны ўспамін.

Нарадзіўся будучы вайсковец, навуковец і палітык 12 жніўня 1956 года ў вёсцы Лядна Слуцкага раёна. Яго бацькі былі настаўнікамі, таму разам з навукай жыць ён адразу пачаў асвойваць другую навуку — думаць. Сам жа род Статкевічаў паходзіць са старажытнай беларускай шляхты і мае герб «Касцеша», якім, акрамя іх, карысталіся больш чым 200 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у тым ліку і продкі польскага маршала Юзафа Пілсудскага.

На жаль, маці Міколы на гэтым свеце ўжо няма, а вось яго бацька Віктар Паўлавіч, нягледзячы на салідны ўзрост (86 гадоў) і шматлікія хваробы (рак, язва страўніка), па наш дзень жыве ў Баранавічах і для многіх з'яўляецца прыкладам мужнасці і высакародства.

Кожны год 9 мая яго віншуюць мясцовыя дэмакратычныя актывісты. Падчас вайны юнаком ён разам са сваім бацькам, дзедам Міколы Статкевіча, дапамагаў партызанам. Нават удзельнічалі, можна сказаць, у дыверсійных акцыях: падпілоўвалі слупы з тэлефоннымі правадамі, чым шкодзілі камунікацыям фашыстаў. Аднойчы нарваліся на нямецкага салдата, які стрэліў у Віктара, але яго паспеў засланіць сабой бацька.

У пачатку красавіка 2011 года некаторыя інтэрнэт-рэсурсы паведамілі пра тое, што Віктар Паўлавіч Статкевіч з Беларусі з'ехаў ва Украіну, дзе жыве старэйшы сын Аляксандр. Сапраўды, ездзіў, але ў госці, на вяселле ўнука Андрэя. Там пабачыўся і з другімі сваімі ўнучкамі — Кацяй ды Аняй — дочкамі Міколы, якія разам з сем'ямі прыехалі на вяселле з Германіі. Каця — доктар навук, разам з мужам працуе ў кампаніі «Аўдзі». Аня — хатняя гаспадыня, выхоўвае маленькага сына Лёню, а яе муж займаецца бізнесам.

## Вайсковы выбар

Сярод вайскоўцаў супрацьпаветраная абарона лічыцца не самай спрыяльнай для службовай кар'еры. Пра генеральскія лампасы там амаль не мараць, нават дайсці да падпалкоўніка, палкоўніка вельмі складана. Адзінае, што можа прывабіць, — практычная адсутнасць «асабовага складу», то бок салдатаў. Гэта інтэлектуальнае тэхнічнае войска. У СПА больш думаюць, чым бегаюць.

Магчыма, гэта і стала асноўнай прычынай вайсковага выбару Міколы Статкевіча. А яшчэ — на той час высокі прэстыж вайскоўцаў у грамадстве. Да таго ж, курсанцкія пагоны дазвалялі небагатай настаўніцкай сям'і не хваляваца за дабрабыт сына.



У 1973 годзе Мікола Статкевіч паступіў у Мінскае вышэйшае інжынернае зенітнае ракетнае вучылішча СПА, якое паспяхова скончыў у 1978 годзе. Па размеркаванні яго накіравалі ў Запаляр'е, дакладней, у Мурманскую вобласць.

Праслужыў ён толькі чатыры гады, але за гэты кароткі час паспеў шмат чаго. Напрыклад, быў прызнаны лепшым афіцэрам па сваёй спецыяльнасці ў аб'яднанні супрацьпаветранай абароны, якое абараняла ўсю Поўнач еўрапейскай часткі СССР. Там жа яму прысвоілі вышэйшую баявую класіфікацыю — «Майстар».

У 1982 годзе вярнуўся ў альма-матар, паступіў там у ад'юнктуру, праз некалькі гадоў абараніў кандыдацкую дысертацыю і стаў выкладаць.

## Палітычны арыенцір

Напэўна, шмат хто б на месцы Статкевіча спыніў бы любую актыўнасць. Маўляў, што яшчэ трэба ў жыцці? Прэстыжнае месца службы, высокая зарплата, перспектыва кар'еры... Тым больш, што ў яго асабіста ўсё складвалася як мага лепш. За час службы ў МВІЗРВ ён напісаў болей за 60 навуковых прац у галіне кіравання, эрганомікі і сацыяльнай псіхалогіі. Зрабіў некалькі вынаходніцтваў, быў накіраваны ў дактарантуру.

Напэўна, на гэты дзень ён мог быць доктарам навук, прафесарам. І генералам. Як некаторыя з тых, у каго на той час на пагонах было нават менш зорачак.

Напрыклад, былы маёр Шэйман. Дарэчы, дзякуючы менавіта яму, я трапіў у гісторыю нашай краіны. Было гэта 15 верасня 1992 года, калі чальцы нядаўна створанага па ініцыятыве Міколы Статкевіча Беларускага згуртавання вайскоўцаў і афіцэры запасу прымалі прысягу на вернасць Беларусі. Мой подпіс трапіў на адзін аркуш з подпісам Віктара Шэймана.

Дадам толькі, што гэта вядомае прозвішча не было ў тых спісах адзіным выключэннем. Калі ўзяць атачэнне дзеючага прэзідэнта, то ў гэтым асяродку можна ўбачыць імёны тых, хто тады быў «дэмакратам». Напрыклад, сучаснага міністра інфармацыі Алега Пралясkоўскага...

Якія розныя шляхі...

Тая шматтысячная грамадская акцыя прымусіла ўрад прывесці да прысягі незалежнай суверэннай Беларусі ўсіх афіцэраў сілавых

структур. І ніхто тады нават уявіць не мог, што праз колькі гадоў яны будуць прысягаць зноў: быць вернымі не толькі сваёй краіне, але і яе прэзідэнту...

Аднак звернемся да біяграфіі Міколы Статкевіча, якая размешчана на яго сайце. «Яшчэ да распаду Савецкага Саюза распрацаваў і надрукаваў канцэпцыю стварэння беларускага войска, якая была рэалізавана пасля атрымання нашай краінай незалежнасці. У пачатку 1991 года ў знак пратэсту супраць падаўлення танкамі дэманстрантаў у Вільнюсе выйшаў з КПСС. 20 жніўня 1991 года адзіны з вайскоўцаў у Беларусі публічна выступіў супраць путчу ў Маскве. Тады ж аб'явіў аб стварэнні Беларускага згуртавання вайскоўцаў (БЗВ), якое паставіла на мэце стварэнне беларускага войска, абарону незалежнасці і гісторыка-патрыятычнае выхаванне грамадства».

Адмыслова раю звярнуць увагу на даты. Тады яшчэ ніхто не ведаў, на чыім баку будзе перамога. Затое адназначна можна сцвярджаць іншае: вайсковец Мікола Статкевіч вельмі добра ведаў, што чакае асабіста яго і паплечнікаў у выпадку паразы.

І яшчэ адзін важны момант. У 1993 годзе Мікола Статкевіч выступіў супраць Дамовы аб калектыўнай бяспецы з ваюючымі краінамі (Арменія, Таджыкістан і інш.), па ўмовах якой Беларусь павінна была накіроўваць сваіх салдат на чужыя войны. За гэта яго звольнілі з вайсковай службы. За месяц да плануемай абароны доктарскай дысертацыі.

Пасля шырокай грамадскай кампаніі ў падтрымку Статкевіча беларускі парламент ратыфікаваў усё ж Дамову аб калектыўнай бяспецы, але з умовай не адпраўляць нашых салдат у «гарачыя кропкі».

## Партыйны калейдаскоп

Добра ведаю супрацьлеглыя меркаванні розных людзей пра тое, што адбывалася тады і адбываецца зараз у беларускім сацыял-дэмакратычным асяроддзі. Але мой нарыс біяграфічны. Таму пакідаю за дужкамі любыя каментары. Абмяжуюся толькі канстатацыяй фактаў і адной рэмаркай: беларускіх сацыял-дэмакратаў можна назваць рэкардсменамі па колькасці ўнутраных расколаў. І ў кожным з іх адным з падводных камянёў была праблема лідарства.



Мікола Статкевіч трапіў у гэты лагер амаль з самага пачатку яго існавання, калі ў сакавіку 1991 года па ініцыятыве Міхася Ткачова была створана Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада. Старшынёй тады абралі Міхася Ткачова, першым намеснікам — Алега Трусава. Праз год, пасля заўчаснай смерці Ткачова, Трусаў стаў на чале партыі і кіраваў ёй да лета 1995 года.

У 1995 годзе замест Алега Трусава старшынёй БСДГ абралі Міколу Статкевіча. У 1996 годзе прайшло аб'яднанне Сацыял-дэмакратычнай Грамады з Партыяй народнай згоды і была створана Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада). Мікола Статкевіч стаў старшынёй БСДП (Народная Грамада).

У 2005 годзе была яшчэ адна спроба аб'яднання і яшчэ адзін раскол. Утварылася БСДП (Грамада), лідарам якой абралі Аляксандра Казуліна. На дадзены момант БСДП (Грамаду) узначальвае Ірына Вештард. Прыхільнікі Міколы Статкевіча сфарміравалі аргкамітэт па стварэнні аднаўленай Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), абралі яго сваім старшынёй.

## Цярністы шлях

За час палітычнай дзейнасці Статкевіч больш 30 разоў меў адміністратыўныя арышты, якія заканчваліся «суткамі» альбо штрафамі, 3 разы супраць яго распачыналіся крымінальныя справы, двойчы пакаранні не былі ўмоўнымі.

У 2005 годзе разам з Паўлам Севярынцам ён быў асуджаны да 3 гадоў абмежавання свабоды за арганізацыю мірнай дэманстрацыі супраць фальсіфікацыі вынікаў рэферэндуму. Па выніках гэтага рэферэндуму прэзідэнт атрымаў права знаходзіцца ва ўладзе неабмежаваную колькасць тэрмінаў.

На «хіміі» Статкевіч год працаваў электрамеханікам на прадпрыемстве ў Баранавічах, потым слесарам у калгасе. У 2006 годзе міжнародная арганізацыя «Amnesty International» прызнала Мікалая Статкевіча вязнем сумлення. У ліпені 2007 года яго вызвалілі па амністыі.

У 2009 годзе кангрэсам «Еўрапейскай кааліцыі», лідарам якой Статкевіч з'яўляецца з 2003 года, ён быў вылучаны ў якасці кандыдата ў прэзідэнты на выбарах 2010 года. 19 снежня 2010 прымаў удзел у дэманстрацы на плошчах Кастрычніцкая і Незалежнасці. Пасля разгону акцыі быў затрыманы.

26 мая 2011 года ў Ленінскім судзе горада Мінска суддзя Людміла Грачова вынесла прысуд — 6 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму. На дадзены момант Мікола Статкевіч — адзіны былы кандыдат у прэзідэнты, які застаецца за кратамі.

Усе падрабязнасці яго арышту і вандровак па калоніях пералічваць не буду. Раю ў віртуальнай бібліятэцы паглядзець мае кнігі «Супраць плыні» і «Жыццё пасля кратаў». Адрас http://kamunikat.org/usie_knihi.html?pubid=20069. Пра ўсё вельмі дакладна там расказвае жонка Міколы Марына Адамовіч.

Галоўнае, што вызначае палітычны лёс Міколы Статкевіча, гэта тое, што пры любых абставінах ён трымаецца праўды. За гэта сёння і пакутуе. Але не падпісвае аніякіх пакаянных лістоў і прашэнняў аб памілаванні.

# ВАЛЕРЫЙ ФРАЛОЎ



**Падрыхтавана да друку 13.05.13**

*Калі дзесяць гадоў таму дэпутат Палаты прадстаўнікоў, адстаўны генерал Валерый Фралоў назваў сябе «маладым палітыкам», гэта ўспрынялі з гумарам. Рэальна яго палітычны дэбют адбыўся ў 1991 годзе, калі камандзір 107-й мотастралковай дывізіі і адначасова начальнік Вільнюскага гарнізона генерал Фралоў устрымаўся ад супрацоўніцтва з маскоўскімі эмісарамі ад ГКЧП.*

*Гэта было менавіта палітычнае рашэнне, важкае тым больш, што ў Літве генерал Фралоў замяніў генерала Усхопчыка. Выдачы апошняга літоўскія ўлады патрабуюць да сёння, генерала ж Фралова запрашаюць на рознага кшталту сустрэчы, на тэлебачанне. Палітычныя палігоны беларускага апазіцыйнага палітыка, намесніка старшыні БСДП (Грамада) Валерыя Фралова аказаліся не менш складанымі, чым палігоны танкавыя...*

## Першыя зоркі

Яго бацька Дзмітрый Міхайлавіч застаўся ў Мінску пасля вайны, а маці Надзея Міхайлаўна — родам з-пад Пухавічаў. 14 жніўня 1947 года ў іх нарадзіўся хлопчык, якога назвалі Валерыем.

Пасля сёмага класа Валерый паступіў у аўтамеханічны тэхнікум. Па заканчэнні працаваў зубарэзчыкам на МАЗе і, як многія юнакі, марыў стаць разведчыкам. У ваенкамаце высветлілася, што вучылішча падобнага профілю ёсць толькі ў Алма-Аце, і рыхтуе яно будучых ахоўнікаў лагераў.

Рамантычныя мроі імгненна развеяліся. І Валерый скіраваў свой выбар на Харкаўскае танкавае вучылішча, якое і скончыў у 1970 годзе. Ён, як выдатнік, мог абіраць любое месца службы, але

спыніўся на Беларусі. Гэта была ўсім вядомая Бароўка, што пад Лепелем. Быў камандзірам узвода, роты.

Праз паўтары гады ажаніўся. Шлюб аказаўся трывалым.

На жаль, у 2003 годзе хвароба звяла Наталлю Фралову з гэтага свету.

З другой жонкай Валерый Фралоў пазнаёміўся дзякуючы палітыцы. Дакладней, публікацыі пра сябе ў «Народнай волі». Патэлефанаваў аўтарцы — Наталлі Купрэевай, каб падзякаваць... Слова за слова, сустрэча, іскра сімпатыі, шлюб...

## Зоркі на пагонах

Ваенная кар'ера Валерыя Фралова, хаця і нядужа імклівая, як у некаторых генеральскіх сынкоў, была даволі паспяховай. Праз уласны розум, волю і працаздольнасць. У 1974 годзе Фралоў паступіў у Акадэмію бранятанкавых войскаў.

Па заканчэнні — служба на Далёкім Усходзе. 12 гадоў, з якіх шэсць камандаваў палком. Стандартны тэрмін на гэтую прыступку кар'еры быў разы ў два карацейшы. Але тут — асобы выпадак. У савецкія часы адносіны паміж камандзірамі і палітработнікамі часта бывалі не самымі лепшымі. У Валерыя ж Фралова з начальнікам палітаддзела дывізіі яны былі настолькі напружанымі, што аднойчы сарваліся ў звычайную бойку.

Гэта магло стаць фактычным канцом кар'еры. Выратавалі вучэнні. Намесніку камандуючага акругай настолькі спадабаліся дзеянні палка Фралова, што той ацаніў іх вышэйшай адзнакай, дадаўшы: «Нічога падобнага з часоў вайны не бачыў». Вынік — павышэнне.

Дарэчы, іх дывізіяй тады камандаваў палкоўнік Леанід Мальцаў, які потым стаў міністрам абароны, а зараз узначальвае Савет бяспекі краіны. Ён і даў Валерыю Фралову ў 1989 годзе накіраванне ў Ваенную акадэмію Генеральнага штаба.

Потым быў Вільнюс. Сярод падначаленых Фралова знаходзіўся ў тым ліку начальнік штаба і ракетных войскаў Вільнюскага гарнізона, будучы прэзідэнт непрызнанай Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыя Аслан Масхадаў. Сустракацца ж і разрульваць складаныя пытанні Валерыю Фралову прыходзілася як з камуністамі Ермалавічусам і Буракавічусам, так і з сацыял-дэмакратам Бразаўскасам, з лідарам «Саюдзіса» Ландсбергісам, з многімі іншымі палітыкамі Літвы.



## Ад пагонаў да палітыкі

Пры ўсім негатыўным стаўленні стваральнікаў незалежнай Літвы да былой савецкай арміі, да персоны генерала Фралова яны маюць пэўную павагу. Сведчыць гэта пра многае. Толькі ў мінулым годзе Фралоў тройчы бываў у літоўскай сталіцы. У тым ліку — па запрашэнні літоўскага тэлебачання, якое здымала перадачу пра падзеі дваццацігадовай даўніны.

У той напружанай, рызыкоўнай нечаканасцямі сітуацыі генерал Фралоў узяў на сябе адзіна правільную місію — міратворцы. Гэта было якраз рашэннем абачлівага палітыка, але з апорай на вайсковую сілу генерала. Менавіта ён вывез з Вільнюса членаў ЦК Кампартыі Літвы. І ён жа пераканаў перамясціцца за сцены гарнізона маскоўскі АМАП, а праз два тыдні, калі жарсці аціхлі, вывез атрад з Літвы. «Гэтыя байцы, — узгадвае генерал, — зброю б не склалі і проста так не здаліся б. А значыць — кроў, смерці, разрастанне канфлікту з Расіяй. Мірнага разводу з Расіяй, мірнага ўсталявання незалежнасці магло б і не адбыцца».

Дзеяннямі генерала Фралова, трэба меркаваць, засталася задаволеная і Масква: пасля вываду савецкіх войскаў з Літвы Фралову прапанавалі пасаду камандзіра дывізіі ў Таліне. Аднак ужо стварылася нацыянальная беларуская армія, і ад расійскай пасады Валерый Фралоў адмовіўся.

Спачатку першы беларускі міністр абароны Павел Казлоўскі накіраваў яго служыць у Бабруйск, а праз паўтары гады Фралова перавялі ў Гродна камандуючым армейскага корпуса, на замену Леаніду Мальцаву, прызначанаму на павышэнне.

Было гэта ў 1994 годзе, незадоўга да прэзідэнцкіх выбараў. Таму, калі на іх перамог Лукашэнка, многія вайскоўцы чакалі аргвысноў. Бо традыцыйна армія працуе на дзеючую ўладу, якую на той час увасабляў прэм'ер Вячаслаў Кебіч. А тут перамог як бы апазіцыянер.

На здзіўленне вайскоўцаў, у тым ліку самога Фралова, новы прэзідэнт кадравага перарусу арміі не распачаў. На пасадзе камандуючага танкавым корпусам генерал пратрымаўся яшчэ шэсць гадоў. Хаця асаблівай адданасці не дэманстраваў і па многіх пытаннях меў сваё меркаванне.

Яго адправілі ў адстаўку на пачатку 2000 года. Цікава, што гэта адбылося ў той момант, калі Валерый Фралоў абараняў дыплом

Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце РБ, і адразу ж пасля таго, як ён накіраваў прэзідэнту ліст з абгрунтаваннем неабходнасці рэформ у беларускім войску.

Праз некалькі месяцаў былі чарговыя парламенцкія выбары, і генерал запасу вырашыў пайсці ў палітыку.

## Танкавая палітыка

Як у нас робяцца элегантныя перамогі, добра вядома, але атрымаць дэпутацкі мандат Фралову дапамаглі некалькі фактараў. На той час механізм выбарчай сістэмы яшчэ не быў так бездакорна адшліфаваны. Валерый Фралоў яшчэ быў далёкі ад апазіцыі. Генеральскія пагоны ў вачах уладаў яшчэ ўспрымаліся як гарантыя лаяльнасці. Яны ж працавалі на яго аўтарытэт і ў вачах электарату, які генерал падмацаваў прыроднай дэмакратычнасцю і актыўнымі сустрэчамі з выбарцамі. Але пераадолець галоўны бар'ер яму наўрад ці ўдалося б без актыўнай падтрымкі яго сябра — гродзенскага губернатара Аляксандра Дубко.

Аднак палітыку-танкісту спатрэбілася няшмат часу, каб зразумець, што так званы «парламент» выконвае, паводле трапнага азначэння Валерыя Фралова, ролю падтанцоўкі для юрыдычных шлягераў прэзідэнцкай адміністрацыі. Як і тое, што адзін у полі не воін.

Так, вясной 2001 года была ўтворана дэпутацкая група «Рэспубліка», якая першапачаткова складалася з дванаццаці чалавек і ў якую, акрамя добра вядомых Уладзіміра Парфяновіча і Сяргея Скрабца, уваходзілі намеснікі кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі, генеральнага пракурора, старшыні КДБ па Брэсцкай вобласці, два старшыні райвыканкамаў, некалькі вельмі ўплывовых бізнесменаў і іншыя. У кожнага з іх была свая матывацыя, але, падаецца, агульнай асновай было адчуванне ўласнага гонару, нязгода на ролю падтанцоўкі.

Не хачу спрачацца з ярымі апалагетамі існуючай сёння стабільнасці, але, калі трое апальных «рэспубліканцаў» потым апынуліся за кратамі, а сам былы кіраўнік дэпутацкай групы быў двойчы збіты, быў аштрафаваны на суму, эквівалентную тром з паловай тысячам долараў ЗША, то і на іх месцы было б не шкодна задумацца, якой цаной гэта стабільнасць забяспечваецца. І якая расплата іх саміх чакае.



Нагадаю яшчэ пра галадоўку ў чэрвені 2004 года трох сяброў «Рэспублікі» (Фралоў, Скрабец і Парфяновіч) супраць намераў Лукашэнкі атрымаць трэці прэзідэнцкі тэрмін. Гэта была апошняя апазіцыйная акцыя беларускіх дэпутатаў.

Праз некалькі месяцаў яны страцілі свае дэпутацкія паўнамоцтвы, а ўсе пяць наступных спробаў Валерыя Фралова атрымаць дэпутацкі мандат (розная вартасці) былі паспяхова нейтралізаваныя. Наступаць на тыя ж самыя граблі ўлада больш не збіралася.

## У межах закону

Менавіта парламенцкія выбары 2004 года падштурхнулі Валерыя Фралова да ўступлення ў апазіцыйную партыю. Адбылося гэта, калі з дапамогай спецслужб Фралову нечакана не хапіла подпісаў для рэгістрацыі кандыдатам у дэпутаты. Ён звярнуўся па дапамогу ў Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю «Народная грамада», якой тады кіраваў Мікола Статкевіч. Паразмаўлялі. Падаў заяву. Так ідэйная блізасць матэрыялізавалася ў партыйную.

Сёння Валерый Фралоў сярод тых, хто падтрымлівае Ірыну Вештард. Больш за тое, ён абраны намеснікам старшыні сваёй партыі. Не буду блытаць чытачоў назвамі і займаць чыйсьці бок ва ўнутрыпартыйных расколах і спрэчках сацыял-дэмакратаў. Спашлюся толькі на словы самога Фралова: «Вождей много — индейцев мало».

Напэўна, у палітыцы заўсёды цяжка гаварыць тое, што думаеш. Некалькі разоў быў сведкам таго, як словы генерала не прыходзіліся даспадобы ні апазіцыйнай тусоўцы, ні ўладзе. З той толькі розніцай, што ўлада з асаблівай увагай ставіцца да былых вайскоўцаў. Мабыць, добра ведае, хто нясе рэальную пагрозу, а хто віртуальную.

Апошнім часам Валерый Фралоў двойчы арганізоўваў нефармальныя сустрэчы былых вайскоўцаў. Збіралася чалавек 50—60. І двойчы, прыкладна ў той жа колькасці байцоў, у суседнім будынку чакаў адпаведнай каманды атрад АМАПа.

Дарэмна, бо Валерый Фралоў у палітыцы прынцыпова прытрымліваецца не рэвалюцыйнага, а эвалюцыйнага алгарытму. Ён заўсёды прынцыпова дзейнічае ў межах існуючага заканадаўства. Нават, калі яно і не вельмі спрыяльнае для апазіцыйнага асяроддзя.

# АЛЕСЬ ШАТЭРНІК



Падрыхтавана да друку 09.02 2011

*Не магу назваць гэта рэкламным буклетам, бо «Сонцакрыж» выходзіць за рамкі агульнапрынятых стандартаў. Як і сам вядомы скульптар Алесь Шатэрнік. Чаму?*

*Адказ на гэтае пытанне на вокладцы «Сонцакрыжа».*

*«Жывапіс — гэта двухмерная прастора.*

*Скульптура — трохмерная.*

*Паэтычнае слова выходзіць па-за межы гэтых Прастораў і набліжаецца да чацвёртага вымярэння: Боскага Слова...*

*«На пачатку было Слова...»*

## Першыя колеры

Карані мае з Беларусі. Бацькі былі амаль што мінчукамі. Маці Надзея Адамаўна нарадзілася ў вёсцы Качына (Мінскае мора), а бацька Сяргей Міхайлавіч з вёскі Старына (каля Смілавіч). Цікава, што дзед і баба па ліні маці зваліся Адам і Ева. На жаль, яны сышлі вельмі рана, таму маці засталася сіратой яшчэ ў дзяцінстве. Але гэта стала не адзіным горам. Згарэла хата. Некаторыя шмат гадоў помніл, як яна хадзіла па папялішчу і шукала сваю ляльку.

Маю такое меркаванне, што менавіта той пажар узгадваў у сваіх нататках знакаміты паэт Максім Багдановіч, які ехаў праз тыя мясціны ў цягніку.

А бацька мой быў з даволі заможнай сям'і. Дзед Міхаіл Васільевіч Шатэрнік быў галоўным рэвізорам Лібава-Ровенскай чыгункі. Калі я крыху падрос, то даведаўся, што ў бацькі быў родны брат, якога ён да самай смерці ў 1975 годзе па невядомай прычыне ні воднага разу не ўзгадваў. Старэйшы на шэсць гадоў.

Сястра Рая (нас было чацвёра) аднойчы мне сказала, што ён быццам бы жыве ў Балгарыі. На жаль, у 1967 годзе яе не стала У савецкія часы, калі я яшчэ быў юнаком, шукаць сваяка за межамі краіны было не зусім бяспечна, але лёс даў мне магчымасць пераканацца ў тым, што гэта не фантазіі родных.

Адбылася сапраўды дзівосная гісторыя. У 2008 годзе на мяне па скайпу выйшаў Анастасій Шатэрнік. Аб ім я даведаўся яшчэ два гады таму, калі быў у Амерыцы. Як і тое, што ён жыве ў Сафіі і хутчэй за ўсё з'яўляецца сынам былога расейскага скаўта Аляксандра Міхайлавіча Шатэрніка. Так потым і высветлілася. Магчыма, у гонар бацькавага брата мяне і назвалі.

Мінчуком я сябе лічу ўжо ў трэцім пакаленні. Тут была (каля Камароўкі) хата майго дзеда па лініі бацькі, і ён нарадзіўся менавіта тут, а я — у Іванава. Чаму? Молат сталінскіх рэпрэсіяў 30-х гадоў мінулага стагоддзя добра вядомы. Натуральна, яны не маглі абмінуць і беларускую інтэлігенцыю, да якой адносілася наша сям'я. Напрыклад, родны брат майго дзеда Мікола Шатэрнік быў вядомым беларускі мовазнаўцам. Яго прозвішча ёсць нават на мемарыяльнай шыльдзе, якая прысвечана Інстытуту беларускай культуры. Дарэчы, ён вельмі загадкава памёр. На аперацыйным стале. Як Фрунзэ...

А майго дзеда спачатку па даносу пасадзілі, а потым выслалі ў Расію. Так яны трапілі на Волгу, а потым на будаўніцтва Балтыйска-Чарнаморскага каналу. Каб быць бліжэй да яго, мы пераехалі ў Падмаскоўе. Бацька вучыўся ў Іванава ў медыцынскім інстытуце. Там я 16 кастрычніка 1940 года і нарадзіўся. На вуліцы Пушкіна. Адсюль і другая версія паходжання майго імя — Аляксандр Сяргеевіч.

Можа, тады і хадзіць не ўмеў, але добра запомніў малюнак на нашым дыване. На цёплым льняным палатне алейнымі фарбамі вылажаны нейкія геаметрычныя фігуры. Я іх магу намаляваць і зараз.

А яшчэ запомнілася, як бацьку праводзілі на фронт. Жылі мы тады ў горадзе Южы. Да чыгуначнай станцыі было каля 20 кіламетраў пехам. Дзесяць прайшлі разам, развіталіся, далей ён пайшоў сам, а маці вярнулася назад. Зноў 10 км.

Пазней яна распавядала, што, калі яго стала нябачна, раптам наляцела бура. Маці страціла прытомнасць і пачула нейкі голас, які сказаў, што з вайны муж вернецца жывым. Так пазней і адбылося.

Маці ў мяне была вельмі баявая і актыўная. У 1944 годзе яна напісала ліст Калініну, дзе распавяла пра сваё жыццё (трое малых дзяцей), і бацьку, які вызначыўся пры вызваленні Кёнігсбергу, на некалькі дзён адпусцілі «на пабыўку» дамоў. Памятаю, што я прачнуўся тады ад водару паложаных побач з маім ложкам пернікаў. Ноч. Маці з бацькам сядзяць на лаўцы, трымаюцца за рукі і аб нечым ціха размаўляюць.

Я быў вельмі жаласлівы і, каб маці не плакала, хаваў пад падушку рубашку бацькі, які хутка вярнуўся ваяваць...

## Першы выбар

Бацька (старшы лейтэнант, камандзір медсанбату) скончыў вайну ў Празе і даслаў нам адтуль ліст, у якім загадаў ехаць у Дубна (Заходняя Украіна), куды пераводзілі яго частку. Так і зрабілі. Пасяліліся ў былым панскім доме. Па гэты дзень памятаю тую шыкоўную мэблю і прыгожы посуд.

А саму частку размясцілі ў замку, які некалі належаў князям Астрожскім. Я нават маляваў сюжэты з вакна бацькавага кабінета.

Пра бандэраўцаў раней казалі рознае, але маці з імі ладзіла і знаходзіла агульную мову. Гэта маё асабістае меркаванне, бо разумела, што ў савецкія часы аб гэтым ніхто не распавядаў. У будынку, дзе мы жылі, былі падвальныя памяшканні, у якіх яны і хаваліся. Нават дапамагалі маці калоць дровы. Чаму такое стаўленне? Таму што маці размаўляла на беларускай мове — сельскае выхаванне. А да астатніх «саветаў» стаўленне было адпаведным. Стралялі ва вокнах, памятаю, нават нейкага маёра забілі.

Менавіта тады, па сутнасці, і вырашыўся мой лёс. Пад самую раніцу альбо прывідзелася, альбо прыснілася, што Хрыстос дае мне выбар: у левай руцэ — гармонік, а ў правай — аўтамат. Я выбраў гармонік.

Хаця і вайскоўцам амаль не стаў. Бацька моцна хацеў, каб я вучыўся ў суворaўскім вучылішчы. Я нават здаваў там іспыты і ледзь не пачаў вучыцца, але прыйшла «разнарадка», якая загадала тых дзяцей, у каго ёсць бацькі, забраць і ўступіць месцы дзетдомаўцам. Так я не стаў курсантам. У адрозненне ад Пеці Садоўскага, бацьку якога забілі на вайне. Пашчасціла стаць мастаком.

Праз год мы з Дубны з'ехалі, бо бацька звольніўся з вайсковай службы і мы апынуліся на Палессі, да якога ад Валынскай вобласці даволі блізка. Бацька стаў загадчыкам малярнай станцыі, бо тады там лютавала менавіта гэтая хвароба. Экспедыцыі адбываліся пастаянна.

Дарэчы, эпідэміёлагам ён стаў невыпадкова. Такі накірунак медыцыны абраў таму, што яшчэ на Волзе памерла ад малярыі двухгадовая дачка Ірачка. Яна нарадзілася значна раней, чым я.

...Памятую, як мы лавілі і знішчалі вялікіх такіх камароў. Вельмі маляўнічыя і прыгожыя мясціны. Чыстая Прыпяць. Цёпла. Мы едзем у грузавіку і трапляем у нейкую глухую вёску. Дзеці там ніколі не бачылі цягніка і не ведалі пра іншыя рэчы, для іх дзівосам была нават наша машына. Я там упершыню ўбачыў драўляны ровар і вельмі быў уражаны тым, што дзеці не ўяўляюць яго металічным.

Акрамя барацьбы з камарамі мы былі павінны раздаваць людзям хінін. Жоўтыя такія таблеткі, надта горкія. Вяскоўцы, каб іх не браць, нават хаваліся.

Позней (ужо пачалі лятаць «белыя мухі») восенню мы адтуль з'ехалі і апынуліся ў Мінску. Жылі ў Ратамцы, у мамінай сястры цёткі Ганны. Праз два гады малярыю перамаглі і малярную станцыю ператварылі ў Мінскую гарадскую санітарна-эпідэміялагічную станцыю. Мой бацька стаў там загадчыкам эпідэміялагічнага аддзелу, і яму далі асабістае жытло. Драўляны дом на ўскрайку Аўтазаводскага раёна. Чырвонае ўрочышча. Цяпер там вуліцы Ангарская і Дняпроўская.

У 1949 годзе пайшоў у школу, адразу ў другі клас, бо чытаць і пісаць ужо ўмеў. Дарэчы, у мяне захаваўся фотаздымак тых гадоў. Я там амаль самы маленькі. Разам вучыліся хлопцы, якім ужо было 14-15 гадоў — вайна.

## Першыя формы

У продажы пачаў з'яўляцца белы хлеб. Памятаю, аднойчы мама дала мне пяць рублёў , каб я яго набыў. А я купіў ... (смяецца —заўвага аўтара) самакат. Маці прыказала яго вярнуць назад. Пакуль ехаў да вясковых хлопцаў, якія мне гэта прадалі, ён развальўся...

Жылі ўсе дружна, як адна сям'я. Мы, напрыклад, сябравалі з маёй першай настаўніцай Надзеяй Вікенцьеўнай Маславай. Са сваім мужам яна неаднойчы прыходзіла да нас у госці.

Асацыяцыйныя ўспаміны тых гадоў — вершы Твардоўскага, патэфон, лірычныя пасляваенныя песні, голас Леаніда Уцёсава.

У нас з'явіўся радыёпрыёмнік, на якім былі кароткія хвалі. Памятаю, бацька паднімаецца ў шэсць гадзін раніцы, каб збірацца на работу (трэба было значна ехаць), брыецца. І гучаць «злоўленая» раней Бі-Бі-Сі альбо «Голас Амерыкі». Глушыць іх пачалі пазней. Так што іншадумцам я стаў ужо тады.

Напрыканцы 1951 г. бацьку далі кватэру на вуліцы Гвардзейскай, што ў раёне Камсамольскага возера. У 37—й школе там было дзве змены — рускамоўная і беларускамоўная. У апошнюю я і пайшоў. Дарэчы, калісьці мы размаўлялі з маім сябрам, вядомым графікам Яўгенам Кулiком. Высветлілася, што тады былі суседзямі. Ён хадзіў у «рускую змену», а «беларускім нацыяналістам» стаў раней за мяне. Так што мова вывучэння не заўсёды хутчэй прыводзіць да нацыянальнай самасвядомасці.

На жаль, у 2002 годзе яго не стала.

Правучыўся я там некалькі гадоў. Вельмі выдатна, дарэчы. З пахвальнымі лістамі за кожны клас. Потым было паступленне ў Сувораўскае вучылішча, пра якое ўжо ўзгадваў. Дзякуй Богу, лёс зладзіўся так, што вайскоўцам я не стаў. Пасля (сямігодкі) пайшоў працаваць на шпалерную фабрыку і ўвесь час марыў аб мастацтве.

У 1951 годзе пачаў займацца ў мінскім Палацы піянераў. Там у мяне быў настаўнікам Сяргей Пятровіч Каткоў. Вельмі цудоўны педагог, праз якога «прайшло» шмат выбітных беларускіх мастакоў — Данцыг, Паплаўскі і г.д.

Пасля была вучоба ў Мінскай мастацкай вучэльні. Першапачаткова пісаў заяву на скульптурнае аддзяленне, але мяне чамусьці адправілі на жывапіснае. Правучыўся там некалькі тыдняў.

Майго стрыечнага брата завуць Васілій. Ён старэйшы за мяне на два гады. Вучыўся «на скульптурным», куды хутка перайшоў і я. На трэцім курсе ў нас выкладаў былы франтавік Ігар Глебаў, пляменнік вядомага мастака Аляксея Канстанцінавіча Глебава, які заўсёды казаў: «Харошую прафесію абралі, будзеце не толькі адзін хлеб есці. Але і хлеб з маслам».

Скульптура мне спадабалася адразу. Сапраўдная мужчынская справа. Студэнты не толькі малявалі, але і ведалі, як працаваць малатком ці рыдлёўкай. Я звярнуўся да іх з пытаннем: «Хлопцы, можа, хто жадае вучыцца на «жывапісным»?» Шчыра кажучы, на «скульптурным» (ва ўсе часы) жадалі вучыцца далёка не многія, таму шансы ў мяне былі даволі высокімі. Так і адбылося.



Летам 1962 года крыху папрацаваў мастаком-дэкаратарам у Рускім драматычным тэатры імя Горкага, які ў той час якраз збіраўся на гастролі. Справа ў тым, што тады студэнты браліся за любую работу, галоўнае — зарабіць грошы. І не для таго, каб іх потым «шумна пракуціць». Хацелася забяспечыць сябе і хоць нейкім чынам дапамагчы бацькам. Так я дакрануўся да таямніц сцэнаграфічнага мастацтва і быў моцна ўражаны. Там яшчэ захоўваліся традыцыі класічнага тэатра. Тым, хто вырас на выбрыках сучаснага мадэрнізму, у такое нават цяжка паверыць.

Тэатр захапляў не толькі сустрэчамі са знакамітымі артыстамі і вядомымі людзьмі, але і зачароўваў нейкай сваёй таямнічай казкай. Яна была вакол, адчувалася сярод вялізных, змацаваных на сетках маляваных халсцін-куліс. Менавіта там я і працаваў — рыхтаваў для спектакляў дэкарацыі.

Дарэчы, добра памятаю раманс з «Беспасажніцы» Астроўскага. Яго вельмі прыгожа спявала пайшоўшая з жыцця Аляксандра Клімава, а адным з двух студэнтаў, якія ёй акампанавалі на гітары, быў вядомы сёння спявак Віктар Скарабагатаў.

А праз год я працаваў мастаком у Акруговым Доме афіцэраў, рабіў там усялякую «афармілаўку». Аднойчы нават да мяне звярнуўся тагачасны адміністратар Моня Моніч і папрасіў напісаць афішу на канцэрт Шарля Азнавура. Тады я нават трапіў на галёрку. Цудоўны быў канцэрт. Асабліва ў параўнанні з савецкай эстрадай.

### Прасторы жыцця

З далейшай вучобай мне крыху не пашчасціла. Справа ў тым, што ў 1964 годзе ў тэатральна-мастацкім інстытуце закрылі аддзяленне скульптуры і станковага (музейнага, не вулічнага) жывапісу. Па сутнасці гэта альма-матар выяўленчага мастацтва — жывапіс, малюнак і скульптура. Помніцца, менавіта тады была разгорнута барацьба з так званымі «лішкамі ў архітэктуры», калі замест «сталінскага ампіру» паўсюды сталі будаваць пяціпавярховыя панэльныя дамы, якія адразу назвалі «хрушчоўкамі».

У той час будаваўся будынак Мінскай філармоніі. Пачыналі яго ў стылі Палаца прафсаюзаў, (у «класічным» стылі), а канчалі з модным тады аскетызмам, то бок пазбавілі прыгожай ляпніны.

Замест таго, што «скарацілі», з'явіўся манументальны жывапіс (цалкам непрымальны для мяне роспіс сцен), а таксама «кера-

ка» і «ўнутраная апрацоўка будынкаў». Апошнюю зараз называюць «дызайнам інтэр'ераў». Яе і абраў. Паралельна пачаў шукаць яшчэ і работу. Трапіў на Мінскую студыю тэлебачання, якая месцілася на Камуністычнай вуліцы. Тэлебачанне тады развівалася вельмі хутка, таму мне адразу прапанавалі стаць мастаком.

Вельмі цікавы там быў калектыў. Сапраўды — творчы. Па гэты дзень сябрую з Мішам Карпуком. Канешне, адначасова (вячэрняе аддзяленне) вучыцца і працаваць было крыху складана. Асабліва, калі ўлічыць тое, што мяне даволі часта раілі прысутнічаць на перадачах, якія ішлі ў эфір менавіта вечарам. У рэшце час ад часу ў мяне з'яўляліся «хвасты».

Гэта і стала зачэпкай да майго выключэння. Дарэчы, тады з інстытута акрамя мяне выключылі яшчэ трох чалавек — Ларчанку, Гаркунова і Пазьняка. На той час рэктарам інстытута быў Захараў (па некаторым дадзеным палкоўнік КДБ), але ён знаходзіўся ў адпачынку, і яго абавязкі выконваў выкладчык марксісцка-ленінскай эстэтыкі Старавойтаў. Ён і падпісаў той загад.

Праз шмат гадоў у яго трагічна загінула дачка Ірына Мятліцкая. Доўга не трымаю крыўду на людзей. Падчас пахавання падышоў да яго, пацалаваў і выказаў сваё шчырае спачуванне.

Ірына была вельмі таленавітая і напісала шмат чаго якаснага. Напрыклад, кніжку пра беларускага мастака Заборава, які зараз жыве ў Францыі.

Мятліцкая мяне і натхніла ўзяцца за пяро.

Не магу сказаць, што выключэнне з інстытута стала нейкай вялікай трагедыяй. Для чалавека, які жадае быць скульптарам і ўжо мае адпаведны дыплом (пяць гадоў мастацкай вучэльні), вучоба інтэр'еру не можа быць чымсьці асабліва жаданым…

Менавіта ў гэты час скульптурнае аддзяленне вярнулі назад у інстытут, аднак я, як некаторыя мае сябры, не пажадаў, маючы за плячыма тры курса вячэрняй вучобы, пачынаць яе з нуля.

Замест гэтага ўладкаваўся на Мінскі скульптурны камбінат. І, як кажуць, пайшло-паехала… Удзельнічаў ў розных выставах. Масква купіла маю скульптуру і запрасіла на стажыроўку.

Потым крыху папрацаваў у вядомых скульптараў: Заіра Азгура і Ігара Глебава. А ў 1975 годзе ўступіў у Саюз мастакоў СССР. Адна мая работа з'явілася на вокладцы саюзнага часопіса «Творчасць», а другая трапіла ў знакамітую Трэцьякоўскую галерэю.



Скульптур зрабіў шмат. Арыгінальных. Нават Леніна на аўтамабілі. «Свободные новости плюс» пажартавалі тады, што гэта быў першы «форд», які з'явіўся ў Савецкай Расіі.

У сярэдзіне 70-х гадоў заказы, якія датычыліся скульптурных кампазіцый, размяркоўвалі мэтанакіравана. Адным з самых значных аўтарытэтаў у нашай галіне быў лаўрэат Ленінскай прэміі Сяргей Іванавіч Селіханаў. Менавіта ён зрабіў у Хатыні самы знакаміты там помнік — Камінскага, які выносіць з вогнішча на руках свайго сына. Ён ставіўся да мяне з сімпатыяй, неаднаразова заходзіў у майстэрню. Мы нават сябравалі.

Калі з'явіўся заказ зрабіць скульптуры ў чатырох кропках Мінска, то ён адразу прапанаваў мяне і калегу па вучэльні Лёню Давідзенка. Гэты заказ «вісеў» доўга, бо яго не мог зацвердзіць мастацкі савет, таму што не знаходзіў нейкую агульную тэму.

На той час у беларускім саюзе мастакоў ужо з'явілася групоўка, якая цікавілася нацыянальнай тэматыкай. Памятаю, аднойчы я звярнуўся за саветам да нашага вядомага мастацтвазнаўцы і мастака Віктара Шматава. Ён кажа: «Бяры нацыянальную тэму. Пабачыш, што пойдзе як па маслу». Сапраўды, так і адбылося.

Я пачытаў кніжку Ніла Сымонавіча Гілевіча «Беларуская вусная народная творчасць», дзе расказваецца пра чатыры беларускіх нацыянальных свята. Захапіўся гэтай ідэяй сам і заахвоціў ёй астатніх. Нават намаляваў калегам эскізы, а сабе абраў «Гуканне вясны». Каля Палацу спорту гэты дэкаратыўны фантан стаіць з 1980 года.

Потым былі «Вітаўт», «Мікола Гусоўскі», «Рагнеда»,»Сямён Полацкі», «Максім Багдановіч», «Ефрасіння Полацкая», «Наталля Арсеннева», «Васіль Быкаў», розныя мемарыяльныя дошкі і яшчэ шмат чаго.

# АЛЕСЬ УСЕНЯ



Падрыхтавана да друку 11.03.2013

*Эсэ пра сваё жыццё Алесь Усеня назваў «Шарада для чытача». І гэта, напэўна, невыпадкова, бо яго лёс заўсёды быў напоўнены рознымі таямніцамі і загадкамі.*

На 50-гадовы юбілей старэйшая дачка падарыла мне даведку Нацыянальнага архіва Беларусі, у якой былі звесткі пра ўсю маю радню ажно з пачатку XVIII стагоддзя. Высветлілася, што мае продкі — звычайныя сяляне, спрадвек жылі ў адной і той жа вёсцы, што ў Старадарожскім раёне, і мае яна назву Пасека. Больш як пяць стагоддзяў таму мой прашчур, пасекшы дрэвы на мяжы балота і лесу, пабудаваў на дзялянцы жытло, ад таго, мусіць, і ўтварылася назва — з націскам на другім складзе («пасека»).

У кастрычніку 1958 года ў гэтай вёсцы выпала нарадзіцца і мне. Ва ўсім Старадарожскім раёне на той час не было ніводнае царквы, таму бацькі немаўлят, каб пахрысціць іх, «у складчыну» запрасілі святара ажно са Слуцка. Сам я, вядома, не памятаю, але вось што потым расказала маці. Поп нечакана выпусціў маё цельца з рук, і яно гучна плюхнулася ў чан з вадою. Збянтэжыўшыся, але не разгубіўшыся, святар патлумачыў:

— Добрая прыкмета. Усё жыццё хлопчык будзе пад апекай Бога.

Так яно ці не так, але паскардзіцца на свой лёс я не магу...

Для яго, майго лёсу, вызначальнае значэнне мела тое, што яшчэ ў чатыры гады я навучыўся чытаць. Старэйшыя браты ўжо хадзілі ў школу, я за імі ўслед завучваў літары, а складаць з іх словы налаўчыўся нават хутчэй, чым яны. Праўда, у першы клас разам з аднагодкамі мяне не прынялі, бо да поўных сямі гадоў не хапіла



двух месяцаў. І як ні ўпрошвалі бацькі дырэктара школы залічыць «вундэркінда», згоды ён не даў. Вёска тады была шматлюдная, таму ў перапоўненых класах для мяне не ставала месца.

Зрэшты, калі на наступны год я ўсё ж стаў першакласнікам, дык дадому прыносіў адны двойкі. Настаўніца прымушала чытаць па складах. Я ўпарціўся, бо мог чытаць бегла, за што і расплочваўся.

Усе дзіцячыя кнігі ў вясковай бібліятэцы на той час я ўжо прачытаў, таму перакінуўся і на «дарослую» літаратуру. «Глытаў» па дзве-тры кнігі за дзень, найбольш паэзію. Аднаго разу ўзнікла жаданне прачытаць усе кнігі, якія меліся ў бібліятэцы. Творы аўтараў, прозвішчы якіх пачыналіся з літары А, адужаў без праблем. А вось Б адбіла ў мяне ўвесь імпэт: патрапілася нейкая нудная манаграфія пра камяні. Я «грыз» яе без аніякай цікавасці і ў рэшце рэшт вырашыў паставіць на сваёй задуме крыж.

Яшчэ адным дзіцячым захапленнем быў спорт. Футбольны стадыён месціўся побач з нашай хатай, і я, мусіць, яшчэ як толькі навучыўся хадзіць, прападаў там з раніцы да вечара. Налаўчыўся гойсаць з мячом так, што ўжо ў пятым класе трапіў у калгасную футбольную каманду, а калі пачынаўся які-небудзь дзіцячы абласны турнір, з райцэнтра па мяне прысылалі машыну...

На раённай спартакіядзе школьнікаў мне ўдалося перамагчы ва ўсіх дысцыплінах (700-грамовую гранату «запуліў» ажно на 63 метры). Пасля спаборніцтваў да мяне падышоў старшыня раённага спартыўнага таварыства «Ураджай» Генадзь Беразоўскі і прапанаваў:

— А чаму б табе не пазаймацца ў нашай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школе? Можаш дабіцца поспехаў...

Мне, вядома, хацелася б пабегаць-паскакаць пад кіраўніцтвам кваліфікаванага трэнера, але ж трэба тры разы на тыдзень неяк дабірацца з вёскі да Старых Дарогаў. А білет на рэйсавы аўтобус у адзін бок каштуе ажно трыццаць капеек. За месяц набяжыць больш за «чырвонец»! Дзе ж бацькам узяць такія грошы, калі ў сям'і на ўліку кожная капейка...

Згадваю пра гэта вось чаму: калі б мне выпала нарадзіцца ў горадзе, дык, магчыма, жыццё маё склалася б зусім інакш, бо менавіта спорт, а не творчыя памкненні былі тады для мяне на першым месцы. Вунь і цяпер, пражыўшы больш як паўвеку, у снах часта гуляю ў футбол і ніяк не магу нагойсацца...

А вось для таго, каб пісаць «вершыкі», у трэнерах патрэбы не было. Неяк у пятым класе настаўнік беларускай літаратуры Іван Кандратавіч Жукавец абвесціў:

— Хто напіша верш, таму пастаўлю пяцёрку.

А я ўжо да гэтага спрабаваў нешта «крэмзаць», прыдумаў нават тры невялікія п'есы. Таму тут жа, на ўроку, «састругаў» некалькі прастакаватых слупкоў пра зіму і зачытаў іх настаўніку. Ён, як і абяцаў, паставіў пяцёрку. Гэта так падахвоціла, што я прыйшоў дадому, залег на печ і спісаў «вершыкамі» палову школьнага сшытка. Назаўтра за кожны «твор» Іван Кандратавіч ставіў мне вышэйшую адзнаку — ледзь хапіла клетачак у класным журнале. Жартам кажучы, магчыма, гэта падштурхнула мяне да творчасці. Я зразумеў, што з «пісаніны» можна мець нейкую карысць...

Вершаў пачаў пісаць так шмат, што яны з'яўляліся ледзь не ў кожным нумары часопіса «Бярозка» і газеты «Піянер Беларусі». Гэтая «творчая спадчына» прынесла мне плён пры паступленні на факультэт журналістыкі. На ўступных экзаменах я не дабраў аднаго бала, каб стаць студэнтам. І тады дэкан факультэта Рыгор Васільевіч Булацкі узяў пульхную папку з маімі дыпломамі-граматамі, апублікаванымі вершамі і пайшоў да рэктара ўніверсітэта. Пераканаў яго, што «такога таленавітага хлопца» трэба залічыць па-за конкурсам. Зараз я вельмі ўдзячны за гэта Рыгору Васільевічу (на жаль, ужо нябожчыку), бо немаведама, у якім накірунку пайшло б маё жыццё, калі б не ўдалося тады стаць студэнтам...

Калі б мне прапанавалі аддаць два любыя гады жыцця за год студэнцтва, я пагадзіўся б. Гэта быў найлепшы час! Студэнт — гэта ўжо дарослы, самастойны чалавек, які мае магчымасць жыць напоўніцу, і разам з тым яго не абцяжарваюць клопаты пра сям'ю, пра кавалак хлеба. Чаго яшчэ жадаць?

Прынамсі, найпершы для сябе час я сам жа і скараціў. Ужо на чацвёртым курсе, не пераводзячыся на завочнае аддзяленне, уладкаваўся на працу ў шматтыражную газету «Інтэграл». Да гэтага вымагала тое, што паспеў ажаніцца і трэба было зарабляць хоць якую капейку...

Акурат тады Рыгор Барадулін, які ўхваляў мае творчыя патугі, выказаў перасцярогу:

— Ты можаш зрабіць дзве памылкі, якія адмоўна паўплываюць на тваю творчасць: рана ажаніцца і з'ехаць са сталіцы.



Так яно і сталася. Неўзабаве нарадзілася дачка. Туляцца па здымных кватэрах не хацелася, ды і не было сродкаў. І на размеркаванні я папрасіў, каб мяне накіравалі на працу ў старадарожскую раёнку, хоць меў «выклік» з некалькіх сталічных газет. Прычына простая: рэдактар раёнкі паабяцаў адразу ж даць кватэру. І ў выніку словы Рыгора Барадуліна сталі прарочымі.

Праз тры гады мне надакучыла «варочаць гной» у раёнцы. Я зразумеў, што ніякіх перспектыў тут няма і ад безвыходнасці магу проста спіцца. Пачаў шукаць новае «прыстанішча». Рэдактар абласной газеты «Гомельская праўда» Уладзімір Лазько, пагутарыўшы са мною ўсяго пяць хвілін, прапанаваў:

— Забірай у Старых Дарогах свае манаткі ды перабірайся ў Гомель. Кватэру я табе неўзабаве дам.

Слова сваё Лазько стрымаў, праўда, пасаду я атрымаў не надта прэстыжную — зменны сакратар. Цэлымі днямі даводзілася маляваць макеты, вычытваць белтаўскія матэрыялы, а для ўласнай пісаніны меў толькі адзін «творчы» дзень. Аднак жа дужа хацелася перабрацца з сакратарыяту ў які-небудзь аддзел, таму я «рваў жылы», пісаў днямі і начамі, каб зарэкамендаваць сябе як мага лепей. І Лазько заўважыў мой імпэт. Спачатку ён прыдумаў для мяне новую пасаду — «спецыяльны карэспандэнт рэдактара», а затым і ўвогуле прызначыў в.а. загадчыка аддзела савецкай работы. Для гэтага яму давялося паспрыяць, каб мяне прынялі кандыдатам у партыю (інтэлігенту ўступіць у яе тады было цяжэй, чым у таварыства паляўнічых і рыбаловаў).

Зрэшты, у Гомелі я таксама затрымаўся ненадоўга. Праз два гады прыйшло запрашэнне са «Звязды». Лазько вельмі хацеў, каб я застаўся ў «Гомельскай праўдзе», нават абяцаў зрабіць сваім намеснікам, аднак сталіца вабіла мяне неадольна...

Прынамсі, «прыпынак» у «Звяздзе» таксама быў кароткім. На той час я ўжо стала ўзбіўся на сатыру, і галоўны рэдактар «Вожыка» Валянцін Болтач прапанаваў узначаліць аддзел фельетонаў. Доўга вагаўся, усё ж «Звязда» дала мне трохпакаёвую кватэру, і яе, шчыра кажучы, я, так бы мовіць, «не адпрацаваў». (Гэты «доўг» жыве ў маёй падсвядомасці да сённяшніх дзён. Раз-пораз мне бачыцца адзін і той жа сон: я працую ў «Звяздзе» і за цэлы месяц не падрыхтаваў ніводнай публікацыі...). Аднак жа магчымасць займацца любімай справай — пісаць фельетоны — пераважыла. Я перабраўся

ў «Вожык». Праўда, потым аб гэтым трохі пашкадаваў, бо Валянцін Болтач, таленавіты пісьменнік і рэдактар, імкнуўся перайначыць фельетоны (і не толькі мае) на свой капыл, прымушаў па некалькі разоў перапісваць, што, вядома ж, вялікай радасці мне не прыносіла...

І таму, калі ад Савецкай асацыяцыі дэтэктыўнага і палітычнага рамана, якую ўзначальваў знакамты Юліян Сямёнаў, паступіла прапанова стаць шэф-рэдактарам Мінскай штаб-кватэры, я адразу ж пагадзіўся. Больш за тое, падаў заяву на выхад з партыі (а быў жа толькі пачатак 1990 года. Нават Барыс Ельцын яшчэ не «кінуў на стол» свой партбілет). Ідэйным «ленінцам» я ніколі не быў, а праца ў асацыяцыі быць партыйным не вымагала.

Адзін (калі не лічыць жонкі, якая друкавала матэрыялы) выпусціў для САДПР шэсць нумароў газеты «Детектив», а затым вырашыў пайсці «на свой хлеб». Ніякай дапамогі ад асацыяцыі не было, яна толькі забірала ўсе немалыя прыбыткі.

Заснаваў уласную газету «Частный детектив». Тады яшчэ не было недзяржаўных выданняў, таму і папулярнасць газеты і прыбыткі здаваліся неймавернымі. Па «Частный детектив» выстройваліся чэргі. Адно толькі мінскае метро «з'ядала» па сто тысяч асобнікаў. А ўвогуле наклад дасягаў 800 тысяч. Газета распаўсюджвалася амаль ва ўсіх краінах былога Савецкага Саюза, прапановы тыражаваць яе паступалі з Польшчы, Ізраіля, Даніі, Германіі...

Прынамсі, гэтыя прапановы мяне не цікавілі — грошай і так не было куды дзяваць. Каб забраць дывідэнды з банка, даводзілася наймаць некалькі машын таксі... Аднак жа багатым чалавекам я не стаў. Восемдзесят адсоткаў прыбыткаў скралі хіжыя партнёры, дзесяць адсоткаў я раздаў на дабрачыннасць, і столькі ж засталося мне...

З часам «лафа» скончылася. Людзі «наеліся» крыміналу, ды і падобных газет з'явілася як грыбоў пасля дажджу.

Пакуль што я распавядаў пра сваё журналісцкае жыццё, аднак жа мімаходзь мне ўдавалася нешта тварыць, так бы мовіць, для душы. Напісаў і выдаў паўтары дзясяткі кніг (вершы, проза, публіцыстыка). Асабліва плённымі былі для мяне апошнія гады, калі зноўку вярнуўся да сатыры. Праўда, кнігарні па нейкай прычыне адмаўляюцца браць мае сатырычныя зборнікі для распаўсюду, ды і друкавацца даводзіцца пад псеўданімам.



Беларуская асацыяцыя журналістаў на сваім форуме ў інтэрнэце неяк прапанавала карыстальнікам здагадацца, каму належыць гэты псеўданім. Большасць сыходзілася на дзвюх асобах: Рыгор Барадулін і Ніл Гілевіч. І толькі хтосьці з «добразычліўцаў», які, відавочна, мяне ведае, напісаў на форуме: код для расшыфроўкі псеўданіма маецца ў прозвішчы сатырыка. Пасля гэтага абмеркаванне спынілася.

Шчыра кажучы, я не хацеў раскрываць свой псеўданім. Але калі ўжо так сталася, дык і ўсім чытачам прапаную няхітрую шараду.

Да літар майго прозвішча дадайце яшчэ дзве, затым «перамяшайце», расстаўце іх у належным парадку — і сакрэту для вас не будзе...



# ШЛЯХАМ НІЛА ГІЛЕВІЧА

*Завершыць кнігу я вырашыў менавіта нарысам, які быў падрыхтаваны да 80-годдзя Ніла Сымонавіча Гілевіча. І зрабіў свой выбар асэнсавана, бо яго жыццё без перабольшванняў можна назваць люстэркам нашай эпохі. Люстэркам, якому хочацца верыць. Люстэркам, пасля якога хочацца жыць.*

## Дзеці вайны

Вывучаючы біяграфіі знакамітых беларускіх творцаў, я заўважыў адну заканамернасць: большасць з іх — сялянскага паходжання. І гэта невыпадкова. Іх шчырая любоў да роднай краіны пачыналася з любові да роднай прыроды, замілавання сваёй малой радзімай.

Ніл Гілевіч у гэтым сэнсе — не выключэнне. Ён нарадзіўся 30 верасня 1931 года ў прыгожай беларускай вёсцы Слабада, што на Лагойшчыне, недалёка ад трагічна вядомай Хатыні. У сялянскай сям'і было восем дзяцей.

Яго бацька Сымон Пятровіч, як і многія ў тыя гады, фанатычна верыў у камуністычныя ідэалы. Спачатку стаў камсамольцам, а потым і сябрам бальшавіцкай партыі. Ва ўзросце ледзь за дваццаць быў абраны-прызначаны старшынёй сельскага савета.

Таму цалкам лагічна, што з самага пачатку нямецкай акупацыі Беларусі Сымон Пятровіч апынуўся ў партызанскім падполлі. Тры гады над сям'ёй, што заставалася ў вёсцы, лунала смяротная пагроза. Але Бог, у якога не верыў заўзяты атэіст-камуніст, мілаваў, а людзі не выдалі.

Цікава, што праз многія гады менавіта яго сын стане не толькі знакамітым паэтам і грамадскім дзеячам, але і самым актыўным



прыхільнікам адраджэння ўсіх старажытных народна-рэлігійных святаў, абрадаў, звычаяў. Праўду кажуць, што Боскія шляхі «неисповедимы».

## Творчы дэбют

Адбыўся ён у дзіцячым часопісе «Бярозка» ў 1946 годзе, дзе з'явіўся верш Ніла Гілевіча «Яблынька». Маладому паэту было тады ўсяго пятнаццаць гадоў, але ён ужо пастаянна працаваў калгасным паштальёнам.

Як адзначаў вядомы філосаф і літаратуразнаўца Уладзімір Конан, які, на жаль, ужо пайшоў ад нас, «традыцыйную беларушчыну будучага паэта ўвасабляла таленавітая, духоўна багатая сялянка — Кацярына Мікалаеўна». Мабыць, яе «гены» і сталі прычынай таго, што сын з дзяцінства пачаў цікавіцца лірыкай Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Паўлюка Труса, чытаць творы Аляксандра Пушкіна, Сяргея Ясеніна, Аляксандра Твардоўскага. Больш за тое, пачаў запісваць у роднай Слабадзе і навакольных вёсках народныя песні.

Пасля творчага дэбюту пачалі друкавацца іншыя вершы. У 1947 годзе Ніла запрасілі ў Мінск на першую нараду маладых літаратараў, дзе сярод іншых былі Мікола Аўрамчык, Андрэй Макаёнак, Іван Шамякін. Там жа пашанцавала паслухаць Якуба Коласа, Янку Маўра, Пятра Глебку, Петруся Броўку, Пімена Панчанку, Алеся Якімовіча.

Напісаў гэтыя прозвішчы — і аж дух захапіла. Магчыма, нешта падобнае тады адчуваў і таленавіты юнак Ніл Гілевіч. І не мог ведаць, што праз шмат гадоў ён, як і яны, таксама стане патрыярхам беларускай літаратуры.

А першы паэтычны зборнік «Песня ў дарогу» Ніла Гілевіча, у які ўвайшлі студэнцкія вершы, пабачыў свет у 1957 годзе і адразу стаў, як модна зараз казаць, топ-падзеяй.

## Метамарфозы лёсу

У 1947 годзе Ніл Гілевіч паступіў у мінскае педагагічнае вучылішча, якое скончыў у 1951 годзе. Апошні год вучобы спалучаў з працай настаўніка ў адной са сталічных школ. Але на гэтым не спыніўся і ў 1956 годзе скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, а пасля і аспірантуру пры ім. Праз чатыры гады (з 1960 па 1986) стаў супрацоўнікам кафедры беларускай літаратуры

ўніверсітэта. З 1958 да 1963 года працаваў літкансультантам газеты «Звязда», рэдактарам альманаха замежнай літаратуры «Далягляды». У 1954 годзе Гілевіча прынялі ў Саюз пісьменнікаў БССР.

У 1963 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю па гісторыі беларускай паэзіі XX стагоддзя. У 1978 годзе атрымаў вучонае званне прафесара. У 1980 годзе яму прысвоена ганаровае званне Заслужанага дзеяча навукі.

У 1980 годзе Ніла Сымонавіча абіраюць першым сакратаром праўлення СП БССР, якім ён прабыў да 1989 г. Дзесяць гадоў (1981—1991) ён таксама абіраўся і сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў усяго СССР.

У 1980 годзе Ніл Гілевіч стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы за кнігу паэзіі «У добрай згодзе» і перакладчыцкую дзейнасць, у 1986 годзе — лаўрэатам Міжнароднай прэміі імя Хрыста Боцева за рэвалюцыйную паэзію і публіцыстыку, а ў 2007 — лаўрэатам украінскай прэміі імя Івана Франка.

Ён узнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, Дружбы народаў, медалём Францыска Скарыны, балгарскім ордэнам Кірыла і Мяфодзія I ступені, ордэнам «Югаслаўскай зоркі» са стужкай. А самай апошняй па часе ўзнагародай Нілу Гілевічу стаўся ордэн князя Яраслава Мудрага III ступені, які па даручэнні прэзідэнта Украіны ўручыў яму тагачасны міністр замежных спраў Украіны Барыс Тарасюк.

Прашу дараваць мне гэты біяграфічна-храналагічны пералік, але зроблены ён невыпадкова. Шмат разоў даводзілася размаўляць з людзьмі, якія распавядалі пра сваё «асабістае савецкае дысідэнцтва». Маўляў, ужо тады яны супрацьстаялі сістэме. Як казаў Станіслаўскі — не веру.

Наадварот. Шмат прыкладаў таго, што ТАЯ паспяховасць стала апірышчам для паспяховасці ГЭТАЙ. Добра вядома: узаемаадносіны сапраўднай творчай асобы і ўлады ва ўсе часы былі вельмі складанымі. І Ніл Сымонавіч Гілевіч — яскравае таму пацверджанне. Не думаю, што камуністычнай ідэалогіі падабаўся яго «нацыяналістычны ўхіл»...

## Свежае паветра перабудовы

У 1985 годзе Ніла Гілевіча першы раз абралі ў Вярхоўны Савет БССР. У XI скліканні ён быў кіраўніком працоўнай групы па падрыхтоўцы праекта Закона аб мовах. Нагадаю, 26 студзеня 1990 года на 14-й сесіі Вярхоўнага Савета БССР XI склікання закон быў прыняты пераважнай большасцю галасоў. На жаль, рэферэндумам 14 мая 1995 года той закон быў адменены.



На выбарах 1990 года Ніла Гілевіча зноў абралі дэпутатам Вярхоўнага Савета, які абрэвіятуру «БССР» змяніў на «РБ». Ніл Сымонавіч стаў сябрам Прэзідыума ВС і старшынёй Камісіі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны.

Напэўна, у тыя гады яму здавалася, што абвешчаная ў 1991 годзе незалежнасць краіны — гэта назаўсёды. Але прайшло 20 гадоў — і амаль усё, за што некалі змагаліся Ніл Сымонавіч з паплечнікамі, ці знішчана, ці знаходзіцца пад пагрозай. Сумна...

Не буду ўспамінаць усе абставіны і акалічнасці падзей апошніх двух дзесяцігоддзяў, адзначу толькі, што яны, мякка кажучы, не падымалі жыццёвы тонус вядомага паэта. Як і многія з нас, ён бачыць падзел беларускага грамадства на «сваіх» і «чужых» і пераносіць гэта вельмі балюча.

Зараз прозвішча Ніла Сымонавіча амаль пад забаронай, таму што ён прынцыпова не пайшоў у новы Саюз пісьменнікаў Беларусі. Інакш не мог, таму што прытрымліваецца поглядаў, якія зараз называюць «пятай калонай».

Падчас прэзідэнцкай кампаніі 2006 года Ніл Гілевіч уваходзіў у выбарчы штаб Аляксандра Казуліна. І ў гэтым жа годзе выдавецтва «Мастацкая літаратура» адмовілася ад друку яго кнігі «Выбранае».

## Народны паэт

У 1989 годзе Ніл Гілевіч быў абраны старшынёй рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Магчыма, пасада не самая галоўная ў сучаснай Беларусі, але яна даволі красамоўна сведчыць пра аўтарытэт чалавека. Асабліва, калі ўлічыць, што менавіта Гілевіч быў першым старшынёй гэтага грамадскага аб'яднання і галоўным рэдактарам газеты ТБМ «Наша слова».

Калі ў пачатку дзевяностых з'явілася ананімная паэма «Сказ пра Лысую гару», многія адразу прыпісалі аўтарства гэтага твора Нілу Сымонавічу. І мелі на тое рацыю — высокая якасць, арыгінальны гумар, лёгкасць стылю.

І не памыліліся. 30 жніўня 2003 года газета «Народная воля» надрукавала знакамітую паэму не пад легендарным ужо псеўданімам

«Францішак Вядзьмак-Лысагорскі», а пад сапраўдным прозвішчам аўтара — Ніл Гілевіч. Больш за тое, публікацыі папярэднічаў грунтоўны артыкул Ніла Сымонавіча, у якім ён распавёў пра шлях твора. У тым жа годзе паэма выйшла асобнай кнігай.

Памятаю, што ў той момант мяне ўразіў не сам факт раскрыцця тайны аўтарства. Нагадаю, «Сказ...» пабудаваны на тым, што аўтар па-добраму іранізуе з некаторых сваіх сяброў і аднадумцаў. На мой погляд, менавіта гэтага сучаснай беларускай грамадзянскай супольнасці і не хапае. Не ўмеем мы крытычна, з гумарам, з самаіроніяй ставіцца да саміх сябе. Не палічыце банальнасцю, але казаць «непрыемную» праўду сваім паплечнікам значна цяжэй, чым змагацца з яўнымі апанентамі.

Баюся памыліцца, але дакладную лічбу твораў, якія належаць пяру Ніла Гілевіча, можа назваць толькі ён сам. І то з пэўнымі цяжкасцямі, бо выніковая лічба пастаянна ўзрастае. Паэт працуе. Нягледзячы на гады і здароўе. Ужо пабачылі свет больш за 40 кніг паэзіі, прозы, п'ес, сатыры, гумару і перакладаў.

Пра апошнія трэба сказаць асобна, бо памеры перакладчыцкай дзейнасці Ніла Сымонавіча ўражваюць. Гэта дзякуючы яму на беларускай мове загучалі вершы лепшых паэтаў Балгарыі, Славеніі, Сербіі, Харватыі, Босніі, Расіі, Украіны, Польшчы і г.д. Ды і яго творы таксама пераводзілі на дзясяткі замежных моў, сярод якіх ёсць нават хіндзі.

З адным такім перакладчыкам мне пашанцавала пазнаёміцца асабіста. Гутарка пра былога славацкага амбасадара Любаміра Рэгака, з якім я зрабіў некалькі інтэрв'ю. І ў кожным ён гаварыў, што ў дадзены момант займаецца перакладамі на славацкую мову вершаў Ніла Гілевіча. Нават калі пасля Беларусі працаваў у Брусэлі.

У 1991 годзе Нілу Сымонавічу Гілевічу было нададзена званне народнага паэта Беларусі. У гісторыі нашай краіны такіх людзей толькі восем. Акрамя Гілевіча — Янка Купала, Якуб Колас, Аркадзь Куляшоў, Пятрусь Броўка, Максім Танк, Пімен Панчанка, Рыгор Барадулін. Пагадзіцеся, вельмі пачэсная кампанія.

# ЗМЕСТ

**З кнігі «Лёсы» *(2010)***



**З кнігі «Арытмія, альбо Код супраціву» *(2012)***



**З кнігі «Жыццё пасля кратаў» *(2013)***

**НОВЫЯ НАРЫСЫ**

